У9/6

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ЭНТР ДАСЛЕДАВАННЯЎ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ, МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга IV








Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2013



ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
КАРЭЛІЦКІ РАЁН
СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН
ЛЯХАВІЦКІ РАЁН
КЛЕЦКІ РАЁН
НЯСВІЖ
Гарадзея
Новіны
Прасці
Астроўкі
Макашы
Малінаўка
Красногоркі
Стаўпішчы
Зарэчча
Маляўшчына
Ударны
Петухоўшчына
Кучынаўшчына
Куласа
Бузуны
Бучныя
Новагарадзейскі
Вялікая Лысіца
Забалацце
Новая Лысіца
Коцеўшчына
Барацінаўшчына
Ужанка
Новыя Навасёлкі
Амлынцы
Андрушы
Старыя Навасёлкі
Студзёнкі
Завітая
Ганусаўшчына
Сейлавічы
Затур'е
Цагельня
Галаўцы
Ліпа
Круты Бераг
Дзяржгатунккаўчастак
Пагулянка
Мікуцічы
Завушша
Квачы
Рудаўка
Фальваркоўцы
Заазер'е
Ракавічы
Юшавічы
Высокая Ліпа
Вялікая Ліпа
Клепачы
Хвоева
Баяры
Саска Ліпка
Караліна
Мысліва
Лесуны
Друцкаўшчына
Снаў
Панюшчы
Еськавічы
Слаўкава
Жанкавічы
Альбянка
Грыбаўшчына
Грускава
Пагарэльцы
Новы Снаў
Долкінды
Малева
в. Альба
Сычава
Салтанаўшчына
Фэрбаўшчына
Качановічы
Тарэйкі
Слабада
Грыцы
Аношкі
Альхоўка
Карцавічы
Вайнілавічы
Сынгалы
Каменка
Казлы
Асмолава
Плешавічы
Дубейкі
Нялепава
Малеевы
Гусакі
Надзея
Супрунавічы
Коханавічы
Хрыпкава
Міцькавічы
Лань
Чанавічы
Габруны
Лазавічы
Грыцкевічы
Хадатавічы
Вялікая Быхаўшчына
Малая Быхаўшчына
Пукелеўшчына
Кіркаўшчына
Лявонавічы
Мацілеўшчына
Цекалаўшчына
Касмовічы
Іванава
Дзямідавічы
Лякі
Смалічы
Уша
Тура
Выня
Лань
Снопка
53°20'
53°10'
26°30'
26°45'
Маштаб 1:260 000



# НЯСВІЖСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ Мінскай вобл. Пл. 863,3 км². Насельніцтва (2012) 40,3 тыс. чал.; гарадскога 47%. Мяжуе з Карэліцкім р-нам Гродзенскай вобл., Стаўбцоўскім, Капыльскім, Клецкім раёнамі Мінскай вобл., Ляхавіцкім і Баранавіцкім раёнамі Брэсцкай вобл. Жывуць беларусы (88%), рускія (5%), палякі (5%), украінцы (1,2%) і іншыя. Сярэдняя шчыльнасць 49 чал. на 1 км². Цэнтр — г. Нясвіж. У складзе раёна 115 населеных пунктаў (з іх 113 сельскіх), 1 горад раённага падпарадкавання (Нясвіж), 1 гар. пасёлак (Гарадзея), Гарадзейскі пасялковы і 7 сельскіх Саветаў: Гарадзейскі, Казлоўскі, Ланскі, Ліпскі, Нясвіжскі, Сейлавіцкі, Сноўскі. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка і аўтадарога Мінск—Брэст, міжнар. аўтамагістраль Брэст—мяжа Расіі, аўтадарогі на Баранавічы, Капыль, Клецк, Навагрудак, Слуцк, Стоўбцы.

Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 г. падзелены на 17 сельсаветаў: Астроўскі, Быхаўшчынскі, Гарадзейскі, Грыцкевіцкі, Казлоўскі, Квачоўскі, Карцэвіцкі, Качановіцкі, Ланскі, Ліпскі, Лысіцкі, Лявонавіцкі, Навасёлкаўскі, Пагарэльскі, Сейлавіцкі, Сноўскі, Юшавіцкі; мяст. Гарадзея атрымала статус гар. пасёлка. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Нясвіжы і раёне 10 тыс. (у горадзе больш за 6 тыс.) чал. Дзейнічалі Нясвіжскія падп. райкамы КП(б)Б (7.4.1943—7.7.1944) і ЛКСМБ (1.11.1943—5.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 300-я імя Варашылава, асобны партыз. атрад імя Жданава. Вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту ў ходзе Бел. аперацыі. З 18.1.1954 г. ў Мінскай вобл.

Паверхня раёна хвалістая, на Пд дробнаўзгорыстая. Раён размешчаны на Стаўбцоўскай раўніне (паўн. частка) і Капыльскай градзе (паўд. частка). Выцягнуты з З на У на 36 км, з Пн на Пд на 28 км. Абсалютная вышыня Капыль-

*Жніво на палях Нясвіжскага раёна.*











*Збожжавыя культуры на палях Нясвіжскага раёна.*

скай грады на тэр. раёна складае 230 м (на Пд ад Нясвіжа). Карысныя выкапні: торф, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі. Сярэдняя тэмпература студз. -6,4 °С, ліп. 17,8 °С. Ападкаў выпадае 630 мм у год. На тэр. раёна працякаюць рэкі Уша, Сноўка і Тур'я (басейн Нёмана), Лань з прытокам Цапра (басейн Прыпяці). Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя і інш. Лесам занята 11% тэр. раёна. Батанічныя помнікі прыроды рэсп. значэння: насаджэнні з удзелам экзотаў (хвоя крымская, горная і інш.) у Вінклераўскім лясніцтве, дуб пірамідальны ў в. Заазер'е, дуб «Якуб» у в. Казлы, 8 дубоў-волатаў і хвоя звычайная («Брат і сястра»), лесапарк «Альба».

Землі с.-г. карыстання складаюць 75,5% пл. зямель раёна. Стратэгічныя напрамкі развіцця эканомікі раёна: сельская гаспадарка, прам-сць і турызм. Раён спецыялізуецца на вытв-сці малака, мяса, збожжа, цукровых буракоў, лёну. Вытв-сць с.-г. прадукцыі ажыц-



*Буйная рагатая жывёла СВК «Гарадзея».*



*Племянны бык Нясвіжскага філіяла РУСП «Мінскае племпрадпрыемства».*





*Свінакомплекс ААТ «Лань—Нясвіж».*








*Прадукцыя ААТ «Гарадзейскі цукровы камбінат».*

цыўляюць 13 с.-г. арг-цый, у т.л. 2 СВК, 1 ЗАТ і 10 ААТ (буйнейшыя: СВК «Агракамбінат «Сноў», СВК «Гарадзея», ААТ «Новае жыццё», ЗАТ «1 Мая»). У раёне таксама дзейнічаюць Дзярж. с.-г. ўстанова «Нясвіжская сортавыпрабавальная станцыя» і РУП «Доследная навуковая станцыя па цукровых бураках».

Прам-сць раёна, якая развіваецца на аснове ўкаранення ў вытв. працэсы камп'ютарных і аўтаматызаваных сучасных тэхналогій, прадстаўлена 14 прадпрыемствамі харчовай, швейнай, мясц., тарфяной прам-сці. Сярод іх буйнейшыя: Гарадзейскі цукровы камбінат, Нясвіжскі з-д медпрэпаратаў, сумеснае прадпрыемства «Прамлэнд», ТАА «Корсак В.В.».

У раёне дзейнічаюць (2013) Нясвіжскі гіст.-краязнаўчы музей, Нац. гіст.-культ. музей-запаведнік «Нясвіж», каледж, гімназія, 20 сярэдніх школ, 4 школы мастацтваў, 19 дашкольных устаноў. Функцыянуюць 36 клубных устаноў, 40 б-к, 3 бальніцы на 360 ложкаў, 6 амбулаторый, 2 паліклінікі, 21 фельч.-акушэрскі пункт; дом-інтэрнат для састарэлых







*Аўтаматычная дойка кароў у СВК «Агракамбінат «Сноў».*







*Прадукцыя ААТ «Нясвіжскі завод медыцынскіх прэпаратаў».*

і інвалідаў (в. Асмолава). Выдаецца газ. «Нясвіжскія навіны». У раёне 27 рэліг. абшчын, у іх ліку 14 праваслаўных, 4 каталіцкія, 9 пратэстанцкіх.

Згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30.5.2005 г. Нясвіжскі р-н уключаны ў склад Мінскай турысцкай зоны. У Дзярж. спіс гіст.-культ. каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь увайшлі 39 помнікаў гісторыі, археалогіі і архітэктуры, якія захаваліся на тэр. Нясвіжчыны. Сярод іх Нясвіжскі касцёл Божага Цела — выдатны помнік архітэктуры барока (16 ст.), Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс, якія ўнесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, паркавы комплекс «Альба» (помнік прыроды рэсп. значэння), фрагменты комплексаў былых сядзіб у вёсках Вялікая Ліпа, Завушша, Сноў. У Нясвіжы праводзяцца Нац. фестывалі камернай музыкі «Музы Нясвіжа» і «Вечары Вялікага тэатра оперы і балета ў замку Радзівілаў». Згодна з Нац. праграмай развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь на 2008—15 гг. ў Нясвіжы працягваецца добраўпарадкаванне парку «Альба», развіццё турыстычнай інфраструктуры горада.

*Прадукцыя мебельнага прадпрыемства ТАА «Корсак В.В.» (г. Нясвіж).*





**НЯСВІЖ** — горад, цэнтр раёна, на р. Уша (прыток р. Нёман). За 112 км на ПдЗ ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск—Баранавічы. 14,1 тыс. жыхароў (2012).

Прынята лічыць, што Нясвіж як цэнтр удзельнага княства вядомы з 13 ст. Падставу для гэтага дала згадка ў летапісных крыніцах пра «Несвежьскага» кн. Юрыя (па некаторых звестках Фёдара), які загінуў у ліку шасці князёў у 1223 г. ў бітве з татарамі на р. Калка. Некаторыя даследчыкі 19 ст. лічылі, што княства знаходзілася ў залежнасці ад Кіеўскага, Валынскага, Мінскага княстваў, потым увайшло ў склад ВКЛ. Аднак сучасныя бел. гісторыкі лічаць, што Юрый быў князем іншага Нясвіжскага княства — з Уладзіміра-Суздальскай зямлі. Паводле меркаванняў М.Балінскага, Т.Ліпінскага і У.Сыракомлі, у 1388 г. мясц. кн. Грыгорый (Рыгор) і Ян Нясвіжскія (нашчадкі Карыбута-Дзмітрыя) прысягнулі на вернасць каралю Ягайлу і каралеве Ядвізе. Каля 1430 г. на чале княства ўзгадваецца Фёдар Карыбутавіч, унук Альгерда. Аднак польскія даследчыкі Ю.Вольф і А.Банецкі ўказвалі на існаванне роду кн. Нясвіцкіх (Несвічскіх), нашчадкаў кн. Турава-Пінскіх, з родавым цэнтрам Нясвіч (Несвіч), які знаходзіўся на р. Палянка ў Луцкім павеце на Валыні. Прадстаўнікі гэтага роду Рыгор і Іван



у адносінах да Карыбута знаходзіліся ў васальнай залежнасці. Бел. гісторыкі і археолагі дагэтуль не знайшлі адпаведнага пацвярджэння існавання Нясвіжа ў 13 ст. ні рэчавымі (археал.), ні пісьмовымі крыніцамі. Самыя раннія знаходкі на тэр. сучаснага горада датуюцца 16 ст. (археал. даследаванні ў Нясвіжы ў 1980—90-я г. праводзілі І.М.Чарняўскі, А.К.Краўцэвіч, В.Е.Собаль, І.У.Ганецкая; у 2002—06 гг. — А.А.Мяцельскі).

Найб. раннія дакладныя пісьмовыя звесткі пра Нясвіж адносяцца да 1446 г., калі вял. кн. літ. Казімір IV Ягелончык перадаў яго Мікалаю Яну Неміровічу. Да гэтага Нясвіж «трымаў» Сяляўка. 10.11.1492 г. ў Троках кн. Аляксандр выдаў прывілей на валоданне Нясвіжам Пятру Яну Мантыгірду і яго нашчадкам. Адпаведна «Хронікі Быхаўца» татары «..ваявалі каля Клецка і Нясвіжа» ў 1502 г. У дакументах канца 15 ст. Нясвіж згадваецца як «Двор Нясвіжскі» — умацаваны цэнтр невял. воласці. Складаўся з двух двароў: Нясвіж і «Дварэц». Тут знаходзіліся касцёл з плябаніяй (ёсць згадкі пра дароўчую Неміровіча касцёлу Нясвіжскаму), карчма, 3 пляцы. З 1507 г. знаходзіўся ў складзе Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Калі дачка ўладальніка маёмасці Ганна Мантыгірдаўна стала другой жонкай Станіслава Яна Кішкі, Нясвіж разам з пасадам перайшоў ва ўладанне роду Кішкаў, якія на свае сродкі пабудавалі тут касцёл Святога Духа. Па некаторых звестках, у Нясвіжы існавала таксама праваслаўная царква Раства Багародзіцы, якой у 1577 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл надаў землі. У 1513 г. Ганна Кішка (дачка Ганны Мантыгірдаўны) выйшла замуж за Яна Мікалая Радзівіла Барадатага. У валоданне Радзівілаў Нясвіж канчаткова перайшоў у 1523 г., калі адбыўся падзел бацькоўскай спадчыны паміж Ганнай і яе братам Пятром Кішкам. Першым князем «на Нясвіжы і Алыцы» пачаў называцца Мікалай Ян Радзівіл Чорны, які ў 1547 г. атрымаў ад




*Горад Нясвіж. Мемарыяльная дошка ў гонар краязнаўца К.Я.Шышыгінай.*

імператара Карла V тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі. Гэты княжацкі тытул М.Я.Радзівіла Чорнага ў 1549 г. быў прызнаны таксама і вял. князем ВКЛ. З гэтага часу ўладанні Радзівілаў афіцыйна называліся Нясвіжскім княствам, у склад якога акрамя Нясвіжа і навакольных земляў (Лань, Ліпа, Кукавічы і г.д.) да 1569 г. ўвайшло таксама Мірскае графства. У Нясвіжы гэтага перыяду існаваў драўляны замак (магчыма, пабудаваны яшчэ пры Кішках), дзе згодна каралеўскаму прывілею ад 1551 г. захоўваліся дзярж. дакументы, была засн. б-ка. У 1555 г., калі Мікалай Радзівіл Чорны прыняў кальвінізм, Нясвіж стаў сапраўдным цэнтрам Рэфармацыі на бел. землях. У горадзе дзейнічаў пратэстанцкі збор. У 1560-х г. нясвіжскі стараста Мацей Кавячынскі і кальвініцкі прапаведнік




*У цэнтры г. Нясвіж.*



*Помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы.*

Лаўрэнцій Крышкоўскі на сродкі М.Радзівіла заснавалі ў горадзе друкарню. Гэта была першая ў Беларусі друкарня, якая карысталася кірылічнымі шрыфтамі. Ідэйным кіраўніком друкарні ў першыя гады яе існавання стаў Сымон Будны. У 1562 г. на бел. мове выйшлі кнігі С.Буднага «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». За перыяд 1563—71 гг. у Нясвіжы было выдадзена 11 кніг на польскай і лацінскай мовах. У 1565 г. Мікалай Чорны памёр, а яго сын і новы ўладальнік Нясвіжа Мікалай Крыштоф Радзівіл (Сіротка) пад уплывам П.Скаргі перайшоў у каталіцызм. Друкарня была закрыта, а яе абсталяванне ў 1572 г. купіў Я.С.Кішка, які заснаваў Лоскую друкарню. У 1582 г. па ініцыятыве Сіроткі ў Нясвіж былі запрошаны езуіты, у т.л. В.Мрашкоўскі (пазней рэктар Нясвіжскай калегіі) і К.Астроўскі. У 1584 г. езуіты адкрылі ў горадзе пач. школу граматыкі. Намаганнямі Радзівілаў і асабліва Мікалая Крыштофа Сіроткі ў Нясвіжы пачалося значнае будаўніцтва. У 1586—99 гг. быў пабудаваны калегіум езуітаў [з карэкціроўкай праекта, зробленай італьянскім архітэктарам Джавані (Янам) Марыяй Бернардоні)], у 1587—93 гг. — касцёл Божага Цела (архітэктар Я.М.Бернардоні), у 1591—96 гг. — касцёл і кляштар бенедыкцінак, у 1598 г. засн. касцёл і кляштар бернардзінцаў. У пач. 17 ст. езуіцкі калегіум налічваў каля 300 вучняў. Пры Нясвіжскім езуіцкім калегіуме дзейнічалі бурса (з 1610 г.), канвікт для дзяцей збяднелай шляхты (інтэрнат; з 1620 г.), аптэка (з 1627 г.). У 1583 г. таксама была пачата будоўля новага цаглянага замка Радзівілаў пры ўдзеле Я.М.Бернардоні (скончана каля 1600 г.) на Пд ад старога драўлянага (на карце Т.Макоўскага 1600 г. ён пазначаны як «дом старасты»). Новы замак меў у плане форму чатырохвугольніка, быў абкружаны высокім земляным валам з бастыёнамі па вуглах (пазней, у 17 ст. на бастыёнах пабудавалі вежы) і ровам, запоўненым вадой. Вышыня вала дасягала 20 м, ён быў мураваны каменем, уверсе пераходзіў у мураваны бруствер з дадатковымі ўмацаваннямі (унутры вала таксама меліся 4 патаемныя ўваходы, былі ўладкаваны мураваныя стайні). Вал і роў складалі ўнутр. абарончае кальцо замка. Акрамя таго, вал і роў з вонкавага боку былі абкружаны шырокай дарогай з невысокім земляным насыпам (гласісам) і штучнымі вадаёмамі на р. Уша. З захаду падыход да замка ўмацоўваў трохвугольны шанец, да якога вялі 2 пад'язныя дарогі. На гал. восі пры ўваходзе ў палац знаходзілася мураваная брама з рассоўным мостам. Насупраць брамы размяшчаўся 3-павярховы

*Будынак Нясвіжскага райвыканкама.*





мураваны палац з васьміграннымі муранымі вежамі. Злева ад брамы знаходзіўся 2-павярховы гасп. корпус, справа — 3-павярховая казарма з высокай дазорнай вежай. Нясвіжскі замак у сваім першапачатковым выглядзе адлюстраваны на гравюры вядомага мастака, гравёра, картографа, друкара Тамаша Макоўскага, які ў 1600—11 гг. працаваў пры двары М.К.Радзівіла Сіроткі і ў 1613 г. зрабіў першую дакладную карту ВКЛ з тэкстам па гісторыі і геаграфіі Беларусі. У выніку намаганняў М.К.Радзівіла Сіроткі 23.4.1586 г. кароль Стафан Баторый у Гродне выдаў прывілей, згодна з якім Нясвіж атрымаў магдэбургскае права, герб і права на 2 новыя кірмашы па 2 тыдні кожны. Нясвіжскі герб уяўляў сабою шчыт, падзелены на 2 часткі: у правай, залатога колеру, палова чорнага арла; у левай 10 косых палос блакітнага, чырвонага і залатога колераў. Жыхары горада вызваляліся ад аплаты за грэблі і масты, ад павіннасцей, якія збіраліся ў ВКЛ, на 50 гадоў. Паводле прывілея Радзівіла Сіроткі ад 18.6.1583 г. ў горадзе ўводзілася пасада войта, які разам з мяшчанамі выбіраў бурмістра і дарадчыкаў, устанаўлівалася апеляцыя гар. кіравання да князя і яго нашчадкаў. Мяшчане Нясвіжа бясплатна атрымалі зямельныя надзелы ў вечнае карыстанне з правам распараджацца імі. У дадатак гораду аддаваліся ўсе бровары, саладоўні, вінакурні, лазні, крамы і г.д. для сумеснага карыстання; 100 валок зямлі з адзначанымі ўмовамі на падатках. Радзівілы захавалі



1



2



3

*Замак Радзівілаў у г. Нясвіж: 1) агульны выгляд; 2) замкавы двор; 3) інтэр'ер адной з залаў.*

*Нясвіжскі касцёл Божага Цела: 1) агульны выгляд; 2) інтэр'ер, 3) крыпта з саркафагамі князёў Радзівілаў.*


1


2


3

для сябе права збору гандл., падушнага і памернага мыта (збору), але толькі праз адзначаныя каралём 50 гадоў. Кіраўніцтва горада павінна было пабудаваць мураваную ратушу (пабудавана каля 1596 г.), 2 брамы — пры ўездзе ў Нясвіж з Міра і другую, меншую — для замыкання горада (на Слуцк). Вызваліўшы мяшчан ад талакі на жніве, М.Радзівіл абавязаў іх кожны год «з кожнага пляца аседлага насыпаць па пруту (4,87 м) землянога насыпу вала». Усе жыхары павінны былі працаваць на грамадскіх ваеннаабарончых работах. 16.8.1586 г. Нясвіж стаў гал. горадам Нясвіжскай ардынацыі (непадзельнай неадчужальнай родавай уласнасці Радзівілаў), утворанай згодна з сямейным пагадненнем 3 братоў: Мікалая Крыштофа (Сіроткі), Альбрэхта і Станіслава. Пагадненне было зацверджана ў 1586 г. Стафанам Баторыем, Сеймавай канстытуцыяй 1589 г. і Сеймам 1768 г. Акрамя Нясвіжскай стварапіся Алыцкая і Клецкая ардынацыі, якія адпаведна ў 1656 г. і 1690 г. перайшлі да Нясвіжскага ардыната. Нясвіжская ардынацыя мела свае войска і замкавы суд. У 1587 г. латыфундыя Радзівілаў падзялялася на 7 ключоў (Нясвіжскі, Мірскі, Свержанскі, Быхаўшчынскі, Чарнаўчыцкі, Салтанаўскі, Затур'янскі), налічвала каля 40 сёл. У пач. 17 ст. Нясвіжскае княства налічвала 5810 валок зямлі, каля 3600 дымоў (25 тыс. чал. насельніцтва). 27.9.1592 г. Нясвіжскім магістратам была прынята спец. «Ухвала места Нясвіжскага», дзе вызначаліся абавязкі грамадзян па абароне свайго горада. Адпаведна «Ухвале» толькі тыя, хто ўносіў у бюджэт магістрата штогод па 30 літ. грошаў з кожнага пляца, маглі быць вызвалены ад абавязкаў выконваць «валовую работу». На гэтыя грошы найма́ліся розныя спецыялісты (напрыклад, муляры, грабары), якія даглядалі гар. ўмацаванні. Гар. бедната мела права плаціць падатак у растэрміноўку. Домаўладальнікі Нясвіжа павін-

ны былі мець ручніцу, порах і кулі, з'яўляцца на пункт збору апалчэння па сігнале.

У 1584—1616 гг. адначасова з будаўніцтвам новага замка Нясвіж сфарміраваўся як горад-крэпасць, які меў рэгулярную сістэму планіроўкі і падзяляўся на 2 часткі: замак і горад. Замак стаяў на мысе, утвораным р. Уша і ўпадаючым ручаём са штучным возерам. Падчас асады горада мост паміж часткамі разбіраўся. На асн. уездах у горад былі пабудаваны брамы — Слуцкая (захавалася), Клецкая, Віленская, Мірская і Замкавая. Частка Нясвіжа, якую акружалі абарончыя ўмацаванні, называлася Старым местам, за ім размяшчаліся Новае места (на Пд, уздоўж дарогі на Слуцк; пабудавана да 1586 г.), Казімеж (на ПнЗ, уздоўж дарогі на Вільню; існавала ў 1626 г.), Міхалішкі (на ПдЗ, уздоўж дарогі на Клецк). Замкавыя ўмацаванні складалі адзінае цэлае з гар. фартыфікацыяй. Замак з горадам звязвала насыпная дамба, якая праходзіла праз штучныя азёры да гар. брамы. Падчас будаўніцтва абарончых збудаванняў былі ўзведзены 2 плаціны на р. Уша: верхняя (каля замка) і ніжняя (Слуцкая) на месцы стараж. пераправы. Плаціны маглі адкрываць і закрываць паступленне вады і дапаўнялі агульную абарончую сістэму горада і замка. У канцы 16 ст. на паўд. ускраіне Нясвіжа, на правым беразе р. Уша М.К.Радзівілам Сіроткам быў закладзены паркавы комплекс «Альба» як рэзідэнцыя ўладальнікаў горада для летняга адпачынку і палявання. У 1635 г. паводле граматы кн. Альбрэхта Радзівіла ў Нясвіжы меліся 3 праваслаўныя царквы: старая Прачысценская, Георгіеўская і Багародзічная. У грамаце згадвалася Папова гара, на якой знаходзіліся стараж. могілкі праваслаўных гараджан Нясвіжа і невял. прытулак для бедных вандроўнікаў. Этнограф П.Шпілеўскі, які наведаў Нясвіж у 1853 г., адзначыў, што гара з'яўлялася своеасаблівым успамінам



*Кляштар бернардзінцаў у Нясвіжы.*

пра стараж. праваслаўе горада. У 1582—83 гг. сярод жыхароў Нясвіжа было 50 рамеснікаў 14 прафесій, у 1597 г. — 51 рамеснік 15 прафесій, сярод якіх меліся кавалі, шаўцы, мяснікі, цесляры, ганчары і іншыя. У 1-й пал. 17 ст. ў горадзе працавалі рамеснікі 34 прафесій. У 17 ст. ў Нясвіжы існаваў гасціны двор, а гар. купцы гандлявалі з Прыбалтыкай і Польшчай. У сак. 1661 г. спецыяльным прывілеем тут быў створаны купецкі цэх. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. горад двойчы — у 1655 г. і 1660 г. — быў узяты штурмам, разрабаваны, а яго ўмацаванні значна пашкоджаны. У 1655 г. выстаяў толькі замак, які абараняў кн. Міхал Казімір. Аблога замка царскімі войскамі ў 1660 г. таксама была беспаспяховай. Пасля вайны горад паступова адбудоўваўся, аднаўляў свае абарончыя збудаванні. Сейм Рэчы Паспалітай у 1654 г. і 1661 г. пасля звароту Міхала Казіміра вызваліў спустошаны Нясвіж на 4 гады ад уплаты падаткаў і салдацкіх пастояў. У 1669 г. ка-



*Касцёл і кляштар бенедыкцінак у Нясвіжы.*

роль Міхал Вішнявецкі сваім прывілеем вызваліў мяшчан горада ад мыта і пошлін назаўсёды, а ад гал. пошліны на 15 гадоў. На наступны год Сеймавая канстытуцыя пацвердзіла гэты прывілей. Згодна з інвентаром 1673 г. Нясвіж складаўся са Старога горада і 2 прадмесцяў: Новы горад і Казімеж; налічваў 366 дамоў, каля 2400 жыхароў (сярод іх 62 гараджаніны-гандляры, у т.л. 35 крамнікаў), 3 рынкі (у Старым горадзе на рынку меліся 52 мураваныя крамы). У 1673 і 1676 гг. Сейм зноў прымаў пастановы аб ільготах нясвіжцам. Кароль польскі і вял. кн. літ. Ян III Сабескі (брат Кацярыны Радзівіл, жонкі Міхала Казіміра) у 1677 г. сваім універсалам вызваліў мяшчан Нясвіжа ад пошлін і мытных збораў на тэр. Рэчы Паспалітай і даў дазвол на 4-тыднёвы штогадовы кірмаш у горадзе (пачынаўся з 25 жн.). У 1681 г. Ян III зацвердзіў Статут купецкага цэха Нясвіжа, які быў складзены ўладальніцай горада Кацярынай Радзівіл. 26.3.1682 г. новы каралеўскі прывілей дазволіў правядзенне ў горадзе яшчэ аднаго 4-тыднёвага кірмашу. У 1673 г. ў свой цэх аб'яднаціся краўцы, з 1703 г. вядомы кушнерскі цэх. У 1712 г. ў Нясвіжы меліся 6 цэхаў, у 1758 г. – 8. У Паўн. вайну 1700–21 гг., у сак. 1706 г. шведскія войскі пад камандаваннем падпалкоўніка Траўтфэтэра штурмам узялі Нясвіж, а ў маі таго ж года пасля доўгай аблогі і штурму авалодалі замкам. Захопнікі разбурылі замак, а замкавыя бастыёны ўзарвалі. Шведы аднак не змаглі зламаць супраціўленне абаронцаў езуіцкага калегіума. Езуіты заплацілі выкуп у 21 000 злотых. Ваен. разбурэнні дапоўнілі эпідэміі 1708–10 гг., калі ў Нясвіжы памерла каля 1000 жыхароў. Да 1719 г. ў горадзе і наваколлі панавалі голад, ваенныя разбоі. У 1720-я г., пасля таго як ардынатам нясвіжскім і алыцкім стаў Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька (1719), пачалося паступовае адраджэнне горада. 26.7.1724 г. новы ўладальнік Нясвіжа сваёй пастановай пацвердзіў гараджанам даўнейшыя прывілеі сваіх папярэднікаў, дазволіў карыстацца гар. правамі ўсім тым, хто жадаў пасяліцца ў горадзе. Паступова нясвіжцы аднавілі ўмацаванні замка і горада. Мураваныя бастыёны былі заменены землянымі ўмацаваннямі. Пасля 1726 г. па праекце архітэктара К.Ждановіча быў адноўлены і перабудаваны палац. Паводле праекта таго ж архітэктара ў 1740 г. ўзведзена новая палацавая капліца. На працягу 18 ст. ў будаўніцтве палаца прымалі ўдзел архітэктары М.Педэці (1748–52), М.Фларыяновіч (1775–78), К.Спампані (1778–79),

Былы дом лясніцтва ў г. Нясвіж. Пач. 20 ст.





А.Лопцы (1783). У замку Радзівілаў знаходзіліся багатая б-ка, арсенал, карцінная галерэя. Прывілеем Міхала Казіміра Рыбанькі ад 1731 г. ў Нясвіжы ўводзіліся своеасаблівыя вайсковыя вучэнні гараджан («муштра») — штогадовыя спаборніцтвы стралкоў на прыз «караля курка». Яны праводзіліся ў пач. лета ва ўрачыстых абставінах за кляштарам бенедыкцінак. Князь умацаваў гарнізон замка, адкрыў кадэцкі корпус (1747), дзе рыхтавалі афіцэраў для прыватнага Радзівілаўскага войска. У Альбе знаходзіліся мараходнае і артыл. вучылішчы, была створана складаная сістэма каналаў і штучных азёр, якія жывіліся р. Уша. У 1740-х г. пачала працаваць персіярня — мануфактура па вырабе шаўковых паясоў (у 1760-х г. пераведзена ў Слуцк). Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька і яго жонка Францішка Уршуля (з Вішнявецкіх) садзейнічалі адкрыццю ў Нясвіжы тэатра (1740—91), якому ў 1753—62 гг. быў нададзены прафес. характар. У 1724—1809 гг. дзейнічала Нясвіжская капэла Радзівілаў, пры якой у 1751 г. была адкрыта муз. школа. У 1758—90 гг. пры тэатры існавала балетная школа, дзе з дзяцей прыгонных сялян рыхтавалі артыстаў балета. 27.8.1750 г. кароль Аўгуст III сваім прывілеем дазволіў адкрыць у горадзе друкарню, якую ў 1751 г. падаравалі калегіуму езуітаў. Друкарня працавала да 1790 г. і выдала 70 твораў на польскай і лацінскай мовах. Некалькі гадоў тут друкавалася «Нясвіжская газета». У пач. 1750-х — пач. 1780-х г. у Нясвіжы працавала суконная мануфактура, якая размяшчалася ў некалькіх будынках, дзе былі ўстаноўлены ткацкія станкі. У асобным памяшканні выраблялі капелюшы. Побач з суконнай знаходзілася палатняная мануфактура. У 18 ст. таксама дзейнічалі дывановая мануфактура (у Альбе, у 1752—62 гг., 30 рабочых; з 1762 г. пераведзена ў Карэлічы) і чыгуналіцейны з-д (у замку, у 1726—36 гг.; працаваў спачатку як плавільня або ліцейня). З-д выраблядў гарматы для арміі Радзівіла (50 рабочых). З 1755 г. працаваў бровар. У 1-й пал. 18 ст. ў горадзе налічвалася 69 рамесных прафесій; у 1758 г. працавала 85 замкавых рамеснікаў. Такім чынам, да сярэдзіны 18 ст. Нясвіж ператварыўся ў значны эканам. і культ. цэнтр ВКЛ. У 1764 г. горад занялі войскі Літ. канфедэрацыі, чарговы ўладальнік Кароль Станіслаў Радзівіл («Пане Каханку») выехаў за мяжу. У 1765 г. і ў 1768 г. Нясвіж заняты рас. войскамі і спустошаны; быў вернуты К.С.Радзівілу толькі пасля яго пераходу на бок Радамскай канфедэрацыі, першага падзелу Рэчы Паспалітай і аб'яўлення амністыі Барскім канфедэратам. У 1785 г. Нясвіж наведаў Станіслаў Аўгуст, які ехаў на сейм у Гродна. У 1792 г. горад і замак зноў заняты рас. войскамі. Як адзначалі тады рас. афіцэры, яго ўмацаванні знаходзіліся ў благім стане.

З 1793 г. ў выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Нясвіж перайшоў у склад Рас. імперыі, з'яўляўся цэнтрам Нясвіжскага павета Мінскай губ., з 23.12.1796 г. — заштатны горад Слуцкага павета той жа губерні. У 1811 г. замак налічваў 34 душы мужчынскага полу. У вайну 1812 г. 26 чэрв. каля Нясвіжа злучыліся ўсе часткі 2-й рас. Зах. арміі пад каманда-



*Ратуша і гандлёвыя рады ў г. Нясвіж.*

ваннем ген. П.І.Баграціёна. Генерал затрымаўся ў горадзе на 3 дні і 29 чэрв. рушыў на Цімкавічы. 1.7.1812 г. ў Нясвіж увайшлі французскія войскі пад камандаваннем караля Вестфальскага. Кн. Дамінік Радзівіл на чале сфарміраванага ім кавалерыйскага палка далучыўся да войск Напалеона. У ліст. 1812 г. Нясвіж занялі рас. войскі адмірала П.В.Чычагова, горад быў моцна разбураны, замак разрабаваны і з гэтага часу страціў значэнне абарончай крэпасці. Каштоўнасці, якія захоўваліся ў замку, былі канфіскаваны рас. уладамі (калекцыя медалёў і манет адпраўлена ў Харкаўскі ўн-т, прадметы культу — у Маскву, іншыя старадаўнія прадметы — у розныя зборы). 11.11. 1813 г. кн. Дамінік памёр у Францыі. Рас. імператар Аляксандр І сваім Указам ад 24.2.1814 г. перадаў Нясвіжскую ардынацыю прускаму падданаму кн. Антонію Радзівілу. Дачка Дамініка Стэфанія ў 1828 г. выйшла замуж за Льва Пятровіча Вітгенштэйна (Людвіг Леон, сын галоўнакамандуючага Зах. арміяй П.Х.Вітгенштэйна), якому разам з гэтым шлюбам перайшла значная частка Радзівілаўскіх маёнткаў. У Нясвіжы да 1844 г. дзейнічала Гал. кіраванне ўладаннямі кн. Вітгенштэйна, дзе служыў бел. і польскі паэт Уладзіслаў Сыракомля. Зімой 1814—15 гг. у горадзе жыў паэт-дзекабрыст К.Ф.Рылееў. Пасля разбурэнняў 1812 г. Нясвіж згубіў сваю былую веліч і значэнне, паступова ператварыўся ў звычайны правінцыяльны горад. У 1825 г. ён налічваў 3544 жыхары (у т.л. 2 купцы), 37 мураваных і 468 драўляных дамоў, 5 касцёлаў, 4 кляштары, з-д, 10 крам, 40 піцейных дамоў. У 1835 г. была закрыта Дамініканская школа (у 1833—35 гг. тут вучыўся У.Сыракомля). Вял. шкоду нанеслі Нясвіжу пажары 1836 г. і 1843 г. Так, па вул. Віленскай згарэлі 6 дамоў, па Студэнцкай — 11, Школьнай — 8, Падшкольнай — 5, на Міхалішскім прадмесці і каля лазні — 10 дамоў. Пасля пажару 1836 г., які знішчыў таксама Праабражэнскую царкву (на рагу вуліц Панскай і Дамініканскай, перароблена з уніяцкай у 1795 г.), на працягу 10 гадоў праваслаўныя набажэнствы адбываліся ў памяшканні закрытага малога мураванага касцёла Святога Ісідора. У 1861—62 гг. горад налічваў 8 казённых дамоў, 491 прыватны дом (з іх 41 мураваны), 55 крам, меліся царква ў будынку ратушы, 5 касцёлаў, 3 капліцы, 3 каталіцкія кляштары: бенедыкцінскі жаночы з вучылішчам пры ім (1590—1866 гг.; касцёл перададзены праваслаўнай царкве, у 1876 г. карпусы кляштара прыстасаваны пад казармы), бернардзінскі з суконнай ф-кай (мужчынскі, 1598—1864 гг.; касцёл перабудаваны ў Георгіеўскую царкву, а жылы корпус перададзены ваеннаму ведамству), дамініканскі з сярэднім вучылішчам, дзе вучыліся дзеці ўніяцкага духавенства (1675—1873 гг.). На У ад Нясвіжа (за 1,5—2,5 вярсты ад горада) знаходзіліся яшчэ 2 кляштары: езуіцкі Святога Міхаіла з каталіцкай семінарыяй (1589—1824) і бенедыкцінскі мужчынскі (1673—1864). У 1863 г. ў Нясвіжы 5597 жыхароў, у 1866 г. 5961 жыхар (у т.л. 646 праваслаўных, 1830 католікаў, 3212 іўдзеяў, сярод гараджан 178 рамесні-

*Дом рамесніка (1721) у г. Нясвіж.*





каў), у 1870 г. 6315 жыхароў. Пад уплывам каталіцкіх манастыроў і школ, якія пры іх працавалі, сярод 70% насельніцтва Нясвіжскага прыхода была пашырана польская пісьменнасць, рус. пісьменнасць складала 20%. У 1866 г. ў Нясвіжы меліся касцёл, 2 кляштары, капліца, 7 яўр. школ, сінагога, 696 жылых дамоў. З 1845 г. працавала прыходскае аднакласнае вучылішча (35 вучняў). У 1879 г. ў горадзе дзейнічалі прыходскі касцёл, надворная капліца на «Слуцкай браме», 6 сінагог. З 1875 г. ў будынку скасаванага кляштара дамініканцаў працавала Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, у якой вучыліся А.Я.Багдановіч, А.А.Сянкевіч, Я.Колас, К.Чорны (у 1915 г. эвакуіравана ў Вязьму, у 1917 г. вернута ў Нясвіж, у 1919 г. ператворана ў бел. навуч. установу, але ў тым жа годзе закрыта). У 1873 г. ў горадзе адкрыты бровар (у 1890 г. 2 рабочыя). У 1876 г. ў Нясвіжы 7597 жыхароў, 851 дом; у 1897 г. 8459 жыхароў, сярод якіх 451 дваранін, 30 святароў, 18 купцоў, 5976 мяшчан, 1932 сяляніна, 31 іншаземец. Па веравызнанні жыхары горада падзяляліся на праваслаўных — 2393 чал., стараабраднікаў — 45, католікаў — 1189, пратэстантаў — 98, мусульман — 45, іўдзеяў — 4687 чал. Агульная пісьменнасць сярод гараджан складала 45,5% (усяго па губерні ў 1897 г. — 17,8%). У 1897 г. ў горадзе меліся настаўніцкая семінарыя (у 1893 г. 145 вучняў), 2 нар. вучылішчы, прыватнае жаночае вучылішча, паштова-тэлегр. кантора, 173 крамы, прыходская царква, дамавая царква семінарыі, касцёл, сінагога, 12 яўр. малітоўных дамоў, 8 заезных дамоў, 17 корчмаў, 2 вінныя крамы, аптовы склад віна; працавалі 230 рамеснікаў, спіртаачышчальны з-д (1897—1900, паравая машына), друкарня (1897—1913); 6 студз. і 14 вер. (на Хрышчэнне і ў дзень Святой Тройцы) праводзіліся кірмашы, базары па нядзелях. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у Нясвіжы аднымі з першых забаставалі прыказчыкі (18.5.1905), якія патрабавалі 13-гадзіннага рабочага дня і паляпшэння свайго становішча. 19.10.1905 г. ў горадзе пачалася ўсеагульная забастоўка. Былі зачынены ўсе гандл. пункты і вучылішчы. У памяшканнях настаўніцкай семінарыі і паштова-тэлегр. канторы знаходзілася ваенная ахова (гэтыя ўстановы не спынялі працу). Некалькі дзён у Нясвіж не паступалі тэлегр. звесткі ў сувязі з тым, што былі знесены 4 тэлегр. слупы. У ліст. 1905 г. адбылася забастоўка ў Нясвіжскай паштова-тэлегр. канторы. У 1906 г. сяляне спалілі частку замка Радзівілаў. У 1909 г. горад налічваў 9375 жыхароў. У час Першай сусветнай вайны 1914—18 гг. Нясвіж з 1915 г. з'яўляўся прыфрантавым горадам, дзе размясціліся штаб 2-й арміі Зах. фронту; рэзервовыя часткі. У жн. 1915 г., згодна з хадайніцтвам чл. Дзярж. Савета графа Веляпольскага перад Вярх. Галоўнакамандуючым, па распараджэнні рас. ваеннай улады былі прыняты меры, каб не дапусціць знішчэння Нясвіжа і замка Радзівілаў. У 1917 г. ў горадзе размяшчаліся паштова-тэлегр. кантора, паліцэйскі прыстаў, гар. грамадскае кіраванне, натарыус, сіроцкі суд, мужчынская і жаночая гімназіі Міністэрства нар. асветы, настаўніцкая се-

*Слуцкая брама ў г. Нясвіж.*



мінарыя, вышэйшае мужчынскае пач. вучылішча, аддз. Рас. т-ва Чырвонага Крыжа, пажарнае т-ва, хрысціянскія т-вы дапамогі бедным і ўзаемнай дапамогі рамеснікаў «Попечение», т-ва дапамогі бедным яўрэям. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў сак. таго ж года ў Нясвіжы створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У канцы крас. адбыўся з'езд салдацкіх к-таў 2-й арміі Зах. фронту. 27—29.9(10—12.10).1917 г. ў горадзе праходзіла 1-я канферэнцыя РСДРП(б) 2-й арміі Зах. фронту. Праз месяц, 29.10(11.11), адбыліся перавыбары Выканкама Савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў і выбранне Ваенна-Рэв. к-та (ВРК). Дзейнасць ВРК пачалася пасля таго, як з Нясвіжа была выведзена Уральская казацкая дывізія. У Нясвіж увайшлі салдаты 32-га Сібірскага стралк. палка (пры іх удзеле каля горада былі разгромлены некаторыя маёнткі). ВРК прызначыў сваіх камісараў у паштова-тэлегр. кантору і ваенны тэлеграф. 1—3(14—16).11.1917 г. па ініцыятыве рэв. к-та 50-га корпуса ў замку Радзівілаў адбыўся 2-і надзвычайны з'езд 2-й арміі Зах. фронту (211 чал.), на якім быў створаны ВРК арміі. 10.11.1917 г. ў горадзе была ўстаноўлена ўлада Савета салдацкіх, рабочых і сял. дэпутатаў; старшыня ВРК абраны кіраўніком Выканкама Савета, а нясвіжская Гар. дума прызнала сав. ўладу. У горадзе пачалася арг-цыя атрада Чырвонай Гвардыі (100 чал.). У снеж. 1917 г. ў Нясвіжы былі арганізаваны агітацыйныя парт. курсы (у замку Радзівілаў з 15 па 19.1.1918 г.). 7.1.1918 г. адбыўся агульны мітынг салдат гарнізона і жыхароў Нясвіжа, на якім было прынята прывітанне 3-му Усерас. з'езду Саветаў. Да лютага 1918 г. Савет рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў арганізаваў у горадзе школьны, фінансава-гасп., харчовы, юрыд., зямельны і іншыя аддзелы. Былі створаны аддзел па справах бежанцаў, рэв. трыбунал, выдзелены камісары ў гар. апеку і г.д. Гар. ўправа была распушчана. 7(20).2.1918 г. горад заняла герм. пяхота, якая далей рухалася на Слуцк, Бабруйск. У снеж. 1918 г. Нясвіж вызвалілі часці Чырвонай Арміі, аднавілася дзейнасць ВРК і парт. арг-цыі камуністаў. 14—15.4.1919 г. ў Нясвіжы адбылося паўстанне супраць сав. улады, якое ўзначаліла тайная антысав. ваенная арг-цыя на чале з выкладчыкам гімназіі С.Валністым (існавала з 1918 г.; чл. арг-цыі, у асн. гімназічная моладзь і засцянковая шляхта, збіралі грошы і куплялі зброю). 16.4.1919 г. сав. ўлада ў горадзе была адноўлена, паўстанне падаўлена. З 6.8.1919 г. да ліп. 1920 г. Нясвіж быў акупіраваны польскімі войскамі. З 29.7.1920 г. горад — цэнтр Нясвіж-






*Плябанія касцёла Божага Цела і размешчаная на ёй мемарыяльная дошка ў гонар Сымона Буднага ў г. Нясвіж.*



скага павета Мінскай губ., з 31.7.1920 г. ў складзе БССР. Да 25.9.1920 г. ў павеце адкрыта 29 школ, з іх 3 польскія, 2 яўр.; 2 прытулкі на 65 дзяцей. У кастр. 1920 г. горад зноў занялі польскія войскі. З 1921 г. Нясвіж знаходзіўся ў складзе Польшчы, горад, цэнтр павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 7033 жыхары. У 1924—25 гг. каля горада дзейнічалі партыз. атрады, якія нападалі на маёнткі мясц. памешчыкаў і асаднікаў. 27.10.1926 г. Нясвіж наведаў фактычны дыктатар Польшчы маршал Юзаф Пілсудскі, які прысутнічаў на жалобным набажэнстве ў касцёле Божага Цела на ўшанаванне памяці свайго загінуўшага ў 1920 г. ад'ютанта Станіслава Радзівіла. У 1929 г. ў горадзе на сустрэчы з моладдзю ў будынку гімназіі імя У.Сыракомлі (былы кляштар дамініканцаў) выступіў прэзідэнт Польшчы І.Масціцкі. У 1931 г. ў Нясвіжы 7586 жыхароў (па іншых звестках, 7357 чал. без вайскоўцаў), 1072 дамы, польскія навуч. установы: настаўніцкая семінарыя, гімназія, 2 школы (7 класаў), школа ў кляштары бенедыкцінак, электрастанцыя (прыватная), б-ка (8 тыс. тамоў), пажарная, млын, гмінная ўправа, пав. ўлады, гар. сад, пошта, 2 касцёлы, царква, праводзіліся штотыднёвыя таргі. У горадзе размяшчаўся 27-ы полк уланаў імя Стафана Баторыя. У 1936 г. пачалося будаўніцтва шашы Баранавічы—Нясвіж, рэгулярныя аўтобусныя рэйсы звязвалі Нясвіж з Клецкам (3 разы на дзень), Гарадзеяй. Замкам да 1935 г. валодаў кн. Альбрэхт Радзівіл, потым яго брат Леан. Дзейнасць падп. арг-цый Камуніст. партыі Зах. Беларусі (КПЗБ) і Камуніст. саюза моладзі Зах. Беларусі (КСМЗБ) на тэр. горада і павета стрымлівалася актыўнымі дзеяннямі польскай паліцыі і вайск. прыгранічнымі фарміраваннямі, размешчанымі вакол Нясвіжа. Каб не дапусціць правядзення ў Нясвіжы Першамайскіх дэманстрацый, напярэдадні 1.5.1925 г. ў горадзе былі арыштаваны 50 чл. КПЗБ і 150 беспарт. У снеж. 1925 г. на тэр. сучаснага Нясвіжскага р-на дзейнічалі 250 чл. КПЗБ, якія ў асн. вялі прапагандысцкую работу. У 1928 г. колькасць чл. КПЗБ у раёне склала 80 чал., аднак у Нясвіжы не было асобнай парт. ячэйкі, а парт. выданні для горада друкаваліся ў Навагрудку. У 1928 г. польская паліцыя арыштавала ў Нясвіжы 64 кг парт. выданняў. У 1929 г. ў Нясвіжскім павеце дзейнічалі 2 ячэйкі КСМЗБ (8 чал.).

У пач. Другой сусветнай вайны 17.9.1939 г. Нясвіж заняты часцямі Чырвонай Арміі. З 2.11.1939 г. Нясвіж зноў у складзе БССР, з 4.12.1939 г. цэнтр павета Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. цэнтр раёна той жа вобласці. У 1940 г. 6767 жыхароў; разам з в. Агароднікі, былымі маёнткам і асадай Альба, фальваркам Заазер'е, тэр. пад Альбай і Выдаўкамі, якія ўваходзілі ў склад гарсавета — 7300 жыхароў. Горад налічваў 1094 дамы, 40 вуліц, 9 завулкаў, 7 прыгарадных калоній; працавалі электрастанцыя (магутнасць 175 кВт), хлебапякарня, 2 сярэднія, 5 пач. школ (у 1939 г.; у 1940 г. 4 школы), бальніца (у 1940 г. 110 ложкаў), ветэрынарны пункт, пошта і тэлеграф, аптэка (прыватная, у 1940 г. адкрыта дзярж. аптэка), 3 аптэкарскія магазіны (прыватныя), б-ка, курсы па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарос-



*Альтанка на востраве кахання ў Новым (Марысіным) парку ў г. Нясвіж.*

лых, друкарня (працавала на бел. мове), магазіны, раённы філіял сельгасбанка (адкрыты 5.2.1940 г.), нар. суд, дзіцячая кансультацыя. У 1940 г. арганізаваны калгас імя Будзённага (20 гаспадарак). У кастр.—ліст. 1940 г. пачаў працаваць лесапільны з-д. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. Нясвіж акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У горадзе і раёне за перыяд акупацыі гітлераўцы загубілі 10 тыс. чал., у т.л. ў Нясвіжы больш за 6 тыс. чал. Толькі ў кастр. 1942 г. ў замкавай частцы парку акупанты расстралялі 1500 гараджан. Яны пахаваны на могілках па вул. Кутузава (у 1965 г. на магіле і на месцы загубы ўстаноўлены помнік і мемарыяльны знак). У горадзе і раёне дзейнічалі Нясвіжскія падп. райкамы КП(б)Б (7.4.1943—4.7.1944) і ЛКСМБ (1.11.1943—5.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 300-я імя Варашылава, асобны партыз. атрад імя Жданава. У 1943 г. ў Нясвіжы дзейнічала падп. антыфаш. група. Вызвалены пасля трохднеўных баёў 4.7.1944 г. сумеснымі дзеяннямі воінаў 193-й стралк. дывізіі 65-й арміі, партызан 27-й брыгады імя Чапаева і асобнага атрада імя Жданава. У гонар вызвалення горада ад ворагаў у 1967 г. на вул. Савецкай устаноўлены помнік. У парку, на тэр. замка, пахаваны 135 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. ці памерлі ад ран у шпіталі ў 1944—45 гг. (помнік на магіле ўстаноўлены ў 1958 г.). За гады акупацыі фашысты разрабавалі ў раёне 18 калгасаў, МТС, саўгас; знішчылі і вывезлі ў Германію больш за 2 тыс. галоў коней, 5 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы. Пасля вайны горад аднавіў сваю гаспадарку і прадпрыемствы. З 1945 г. ў замку працаваў санаторый «Нясвіж» (закрыты ў 2001 г.). У 1950 г. арганізаваны калгас імя Кутузава (аб'ядноўваў 23 гаспадаркі). З 8.1.1954 г. Нясвіж у складзе Мінскай вобл. У 1959 г. ў горадзе налічвалася 6,7 тыс. жыхароў, у 1998 г. — 15,1 тыс.

Нясвіж да нашага часу захаваў гіст. арх.-планіровачную структуру. Рака і вадаём падзяляюць горад на паўн.-зах. (гіст.) і паўд.-ўсх. (асн. жылы масіў з грамадскім цэнтрам) часткі, звязаныя паміж сабой земляной дамбай і мостам. Асн. кампазіцыйныя восі горада — вуліцы Ленінская (гал.), Савецкая, 1 Мая, Шымко, К.Лібкнехта, Садовая. Пасля 1945 г. Нясвіж развіваўся паводле схемы планіроўкі, складзенай у 1955 г. Баранавіцкімі праектнымі майстэрнямі, і генплана 1965 г., распрацаванага ін-там «Белдзяржпраект». Адм.-грамадскі і культ. цэнтр горада сфарміраваўся на Цэнтр. плошчы (б. Рыначная). Цэнтр забудаваны 3—5-павярховымі дамамі. Гандл. цэнтр склаўся па вул. Савецкай. У раёне вуліц 1 Мая, Садовай, Ленінскай створаны мікрараён з 4—5-павярховымі жылымі дамамі. Сфарміраваліся паўн.-зах. і паўд.-ўсх. вытв. зоны. Зона адпачынку (паркі, вадаёмы, лесапарк) знаходзіцца ў паўд.-зах. частцы горада.

Сучасны Нясвіж — прам. горад і буйны культ. цэнтр Мінскай вобл., перспектыўны цэнтр турызму міжнароднага значэння. У горадзе працуюць хлебазавод — філіял РУП «Барысаўхлебпрам» (створаны ў 1939 г. на базе прыватнай пякарні Крашэўскага як хлебакамбінат), ААТ «Альба» (рыбхоз Альба), УП «Нясвіжская швейная фабрыка» (створана ў 1981 г. на базе райпрамкамбіната), Нясвіжскі цэх Клецкага філіяла ААТ «Слуцкі масларобчы камбінат» (прадпрыемства створана ў 1939 г. на базе каап. прадпрыемства «Студзельня Млячарска», з 1987 г. гармалзавод, з 1999 г. ААТ «Нясвіжскі гарадскі малочны завод»), ААТ «Нясвіжскі завод медпрэпаратаў» (засн. ў 1901 г. ва ўрочышчы Альба як спіртзавод, з 1961 г. з-д кармавога біяміцыну), з-д па разліву піва і безалкагольных напіткаў — філіял ААТ «Крыніца» (пабудаваны ў 1988—95 г.), РУП «Нясвіжская жыллёва-камунальная гаспадарка» (ство-



рана ў 1944 г. як аддзел райкамунгаса), ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс», прадпрыемства па будаўніцтве і эксплуатацыі меліяратыўных і воднагасп. сістэм (ПМС), аўтабаза раённай спажывецкай арг-цыі, 2 аўтазаправачныя станцыі, філіял «Аўтапарк №8» ААТ «Мінаблаўтатранс», аўташкола, філіялы ААТ «Аграпрамбанк» і «ААБ Беларусбанк», райплемстанцыя, сортавыпрабавальная станцыя, раённая станцыя аховы раслін, дзярж. семянная інспекцыя, пажарная ахова, Нясвіжскае ўпраўленне магістральных газаправодаў (арганізавана ў 1978 г.; уваходзіць у ААТ «Трансгаз - Беларусь»), іншыя ўстановы. Тут размешчаны раённы Цэнтр культуры і адпачынку (сярод яго калектываў вылучаюцца засл. аматарскі калектыў «Тэатр імя Уршулі Радзівіл» і нар. ансамблі «Млечны шлях» і «Нясвіж»), 3 б-кі, кінатэатр, Нясвіжскі гіст.-краязнаўчы музей (працуе з 1995 г.) і музей-кватэра М.К.Сеўрука, Нац. гіст.-культ. музей-запаведнік «Нясвіж» (працуе з 1993 г.), 6 дзіцячых садоў, 4 школы (у т.л. бел. гімназія), дзіцячая школа мастацтваў, школа-інтэрнат, дзярж. каледж імя Я.Коласа, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр «Замкавы», гасцініца, бальніца, паліклініка, аптэка, раённы тэрытарыяльны цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, раённая ветэрынарная станцыя, ветлячэбніца, рэдакцыя газ. «Нясвіжскія навіны», раённае аддз. «Белсаюздруку», друкарня імя С.Буднага, харчовыя і прамтаварныя магазіны (у т.л. камерцыйныя), сетка рэстаранаў і кафэ, кулінарыя, рынак, іншыя ўстановы. Дзейнічае Георгіеўская царква (20—21 ст.). Захаваліся выдатныя помнікі архітэктуры 16—19 ст.: палацава-паркавы ансамбль 16—18 ст., касцёл Божага Цела з пахавальнай крыптай Радзівілаў (фарны; 16 ст., дзейнічае), плябанія (цяпер у будынку знаходзіцца раённая друкарня), замкавая вежа (16 ст.), ансамбль гар. ратушы з гандл. радамі (16—17 ст.), комплекс кляштара бенедыкцінак (16 ст.), кляштар бернардзінцаў, жылы дом рамесніка (так званы Дом на рынку, пач. 18 ст.), Слуцкая брама (17—18 ст.) і іншыя. Замак, касцёл і іншыя помнікі радзівілаўскай спадчыны 16—18 ст. унесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Помнікамі прыроды края з'яўляюцца гар. парк (паркавы комплекс пры Нясвіжскім палацава-замкавым ансамблі) і паркавы комплекс «Альба». Помнікі гісторыі: магіла ахвяр фашызму, брацкая магіла сав. воінаў і партызан, мемарыяльны знак на месцы расстрэлу ахвяр фашызму, помнік Вызвалення. Помнікі: будаўнікам дарогі, С.Буднаму (1982). З 1996 г. ў горадзе штогод праводзяцца фестывалі камернай музыкі «Музы Нясвіжа», з 2010 г. — «Вечары Вялікага тэатра оперы і балета ў замку Радзівілаў». У 1997 г. ў Нясвіжы прайшло свята «Дзень беларускага пісьменства», у 1998 г. — рэсп. фестываль-кірмаш «Дажынкі». Сярод 25 ганаровых грамадзян Нясвіжа — бел. паэт П.К.Пранузa, нар. артыст Беларусі, засл. дзеяч мастацтваў Беларусі М.Я.Фінберг. Горад — радзіма бел. вучонага ў галіне гідрадынамікі, цепла- і масаабмену, чл.-кар. НАН Беларусі С.С.Забродскага (1911—80), польскага дзярж. і ваеннага дзеяча, у 1970—80 гг. Старшыні Савета Міністраў Польшчы П.Ярашэвіча (1909—92).

**АЛЬБА** (да 1999 г. — пасёлак біязавода) — пасёлак у Нясвіжскім с/с. За 1 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 148 гаспадарак, 322 жыхары (2012).

Створаны ў 1961 г. як пасёлак з-да кармавога біяміцыну. На месцы пасёлка раней знаходзіліся маёнтак і в. Альба (у 1978 г. вёска ўключана ў межы г. Нясвіж). Паводле пісьмовых крыніц вядома, што ў 1587 г. М.К.Радзівіл Сіротка атрымаў 4 валокі зямлі ў тым месцы, «дзе цяпер Альба стаіць». У канцы 16 ст. на паўд. ускраіне Нясвіжа, на

правым беразе р. Уша, па загаду Сіроткі быў закладзены паркавы комплекс «Альба» па тыпу італьянскіх загарадных віл і паркаў (часткова захаваліся толькі паркавыя насаджэнні). Гэта была рэзідэнцыя ўладальнікаў горада для летняга адпачынку і палявання. У выніку праведзеных складаных земляных і меліярацыйных работ р. Уша была перакрыта плацінамі, створана сістэма азёр, быў пасаджаны вял. парк (пазней называўся Стары парк). Уздоўж берага ракі пралажылі Вялікі канал, які даваў ваду штучным сажалкам. Узаемна перпендыкулярныя гал. алея парку (даўжыня больш за 2 км) і Вялікі канал складалі асн. планіровачныя восі палацава-паркавага комплексу. У пач. 17 ст. ў парку былі пабудаваны палацы Эрмітаж і Kaнсаляцыя, персіярня. У паўн.-зах. частцы паркавага комплексу размяшчаліся «звярынец» (пл. каля 90 га) і фазанавае поле (пл. каля 65 га.). У цэнтры гэтай часткі комплексу знаходзіўся круглы вадаём з востравам і паляўнічым павільёнам, да якога сыходзіліся 8 каналаў. Пазней у 18 ст. пабудаваны мураваны 2-павярховы палац «Альтанка». На беразе Вялікага канала ўзведзены драўляны Троіцкі касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г.



*Парк у в. Альба.*

Альба — «двор» са звярынцам, 79 жыхароў, уладанне Дамініка Радзівіла. Пры «двары» меліся драўляны дом аканома, бровар. У 1897 г. Альба — маёнтак, 73 жыхары, вадзяны млын; урочышча, 7 двароў, 31 жыхар; урочышча Альбянскі парк, 1 двор, 3 жыхары. У 1908 г. маёнтак налічваў 49 жыхароў, урочышча Альба — 6 двароў, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. Альба акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Нясвіжскім павеце Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не. З 31.12.1940 г. ў межах г. Нясвіж. У 1940 г. на месцы сучаснага прадпрыемства і пасёлка існаваў спіртзавод «Альба» былога аднайменнага маёнтка Радзівілаў (працаваў з 1901 г. ва ўрочышчы Альба), меўся вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. пасёлак спіртзавода ў Мінскай вобл., з 31.1.1954 г. ў скла-



*Былы спіртзавод у в. Альба.*



дзе Нясвіжскага с/с. У 1961 г. на базе спіртзавода створаны з-д кармавога біяміцыну. У 1975 г. пабудаваны новы корпус прадпрыемства для даследаванняў у галіне мікрабіялогіі і прам. вытв-сці. У 1983 г. прадпрыемства асвоіла выпуск рызатарфіну і сіласнай закваскі, у 1985 г. — вытв-сць лекавага прэпарату «Баліз-2». У 1991—92 гг. з-д перайшоў на выпуск салявых раствораў для ін'екцый, атрымаў назву «Завод медыцынскіх прэпаратаў», з 2000 г. РУП, з 2011 г. ААТ «Нясвіжскі завод медыцынскіх прэпаратаў». У 1998 г. ў пасёлку налічваліся 152 гаспадаркі, 341 жыхар, у 2001 г. 151 гаспадарка, 367 жыхароў. У 2013 г. працавалі Нясвіжскі з-д медпрэпаратаў, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**АЛЬБЯНКА** (да 30.7.1964 г. — Пахабаўшчына) — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 3 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 115 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля р. Уша (прыток р. Нёман). 40 гаспадарак, 79 жыхароў (2012).

У 1793 г. Пахабаўшчына, вёска фальварка Фярберкава, уладанне Радзівілаў, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ., 28 дымоў, 164 жыхары, драўляная карчма. У 1800 г. ў вёсцы 28 двароў, 174 жыхары, карчма. У 1814 г. вёска, 108 душ; разам з фальваркам знаходзілася ў арэндзе ў Б. Навіцкага. У 1876 г. засценак Пахабаўшчына, 168 дзес. зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1886 г. вёска і фальварак у складзе Ланскай вол. У вёсцы 20 двароў, у аднайменным фальварку жыла дробная шляхта з адміністрацыі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў на чыншавам праве (8,5 валокі зямлі). У 1897 г. вёска, 67 двароў, 355 жыхароў. У 1909 г. 79 двароў, 391 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і ў кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 82 двары, 423 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Карцэвіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 99 двароў, 489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. створаны калгас «Шлях да камунізму» (27 гаспадарак). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма», з 30.12.1996 г. — калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма» (цэнтр — в. Саска Ліпка), з 16.7.2003 г. — СВП «Карцэвічы». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 531 жыхар, у 1970 г. 350 жыхароў. У 1998 г. 69 гаспадарак, 112 жыхароў, у 2001 г. 62 гаспадаркі, 100 жыхароў. З 2004 г. вёска знаходзіцца на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр — в. Рудаўка). З 1.7.2013 г. ў Нясвіжскім с/с.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 8 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў (2012).

У 1742 г. Альхоўка — фальварак Клецкай плябаніі, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска (6 двароў, 26 жыхароў) і двор (мелася карчма), уладанне Радзівілаў. У 1858 г. вёска аднайменнага маёнтка, 35 душ мужчынскага полу. У 1870 г. на месцы сучаснай існавалі 2 вёскі: Альхоўка 1 (24 душы мужчынскага полу) і Альхоўка 2 (22 душы мужчынскага полу), у Ланскай вол. Побач з імі знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі, уладанні Жукоўскага і Булгака. У 1885 г. в. Альхоўка, 9 асад і 2 аднайменныя фальваркі, уладанні кн. Вітгенштэйна (7 валок зямлі) і Філіповіча. У 1897 г. ў вёсцы 27 двароў,





170 жыхароў, хлебазапасны магазін, у фальварках па 8 жыхароў. У 1909 г. 38 двароў, 248 жыхароў; у маёнтках 14 жыхароў (уладанне Паржэцкага) і 10 жыхароў (уладанне Цвіро ці Цвірко). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета. У 1921 г. вёска, 39 двароў, 204 жыхары і 2 фальваркі: Альхоўка 1 (3 двары, 24 жыхары) і Альхоўка 2 (1 двор, 13 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Карцэвіцкім с/с. У 1940 г. вёска — 46 двароў, 268 жыхароў; фальваркі — 9 жыхароў і 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма» (з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. — СВК «Карцэвічы»). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 360 жыхароў, у 1970 г. 241 жыхар. У 1998 г. 40 гаспадарак, 67 жыхароў, у 2001 г. 39 гаспадарак, 62 жыхары. З 2004 г. вёска знаходзіцца на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр — в. Рудаўка). З 1.7.2013 г. ў Нясвіжскім с/с.

**АМЛЫНЦЫ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 7 км на Пн ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 54 гаспадаркі, 88 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. як вёска Нясвіжскага княства ВКЛ. У 1598 г. ўладальнік вёскі М.К.Радзівіл Сіротка аддаў яе Нясвіжскаму кляштару бернардзінцаў на забеспячэнне (да 1831 г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. вёска, у Гавязнянскай вол., 98 мужчынскіх душ. У 1897 г. 61 двор, 353 жыхары, дзейнічаў ветраны млын. У 1909 г. 30 двароў, 419 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета, 72 двары, 407 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 463 жыхары, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. 80 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная Зара». З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Запаветы Леніна». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 23.1.1989 г. ў складзе саўгаса «Нясвіжскі», з 31.12.1996 г. — калект. с.-г. прадпрыемства — аграфірмы «Нясвіжская». З 30.12.2004 г. знаходзіцца на тэр. ЗАТ «Росіч» (цэнтр — в. Новыя Навасёлкі). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. ў вёсцы 461 жыхар, у 1970 г. 381 жыхар. У 1998 г. 79 гаспадарак, 93 жыхары, сельскі клуб, пач. школа, магазін, свінаферма. У 2001 г. 79 гаспадарак, 163 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с. Вёска — радзіма дзярж. дзеяча Беларусі, акадэміка НАН Беларусі А.М.Платуна (13.11.1896—1938).

**АНДРУШЫ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 9 км на ПнУ ад Нясвіжа, 103 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 97 гаспадарак, 235 жыхары (2012).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1748 г. засценак Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 27 двароў, 156 жыхароў, карчма. У 1809 г. вёска фальварка Куносы, знаходзілася



ў складзе ў В.Даманскага. У 1850 г. 230 жыхароў; у 1870 г. ў складзе Гавязнянскай вол., 107 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 71 двор, 423 жыхары, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1909 г. 433 двары, 459 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 87 двароў, 469 жыхароў (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10 1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 104 двары, 612 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 7 вяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. 82 вясковыя гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Куйбышава; працавала школа. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса імя Андрэева. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 13.12.1961 г. калгас атрымаў назву «Світанне», 16.7.2003 г. рэарганізаваны ў СВК, 10.2.2011 г. — у ААТ «Сейлавічы» (цэнтр — аграгарадок Сейлавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 533 жыхары, у 1970 г. 468 жыхароў. У 1998 г. 127 гаспадарак, 284 жыхары, у 2001 г. 117 гаспадарак, 238 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб, б-ка, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

**АНОШКІ**, Аношкавічы, Аножкі, вёска (з 2006 г. аграгарадок) у Казлоўскім с/с. За 14 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 311 гаспадарак, 856 жыхароў (2012).

У 1552 г. с. Аношкавічы Малеўскага двара Клецкага княства ў складзе ВКЛ, уладанне каралевы Боны. З 1558 г. ўласнасць Радзівілаў. У 1605 г. сяло маёнтка Малева, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Налічвала 17 валок зямлі, 20 гаспадарак (3 гаспадары знаходзіліся на конскай службе ў князя, за што мелі 4 валокі зямлі). Значная колькасць вяскоўцаў мела асадныя валокі (11,75 валокі). У 1740 г. засценак Аножкі, у 1799 г. фальварак, уладанне Кавалеўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска Сноўскай вол., 101 душа мужчынскага полу. Каля вёскі знаходзіўся фальварак, якім у 1877 г. валодаў І.Кахміжна. У 1885 г. ў вёсцы 19 асад. У 1897 г. 45 двароў, 278 жыхароў, у 1909 г. 49 двароў, 287 жыхароў. У 1912—16 гг. працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. вёска, 57 двароў, 357 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 97 двароў, 481 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе ў 1941—45 гг. загінулі 87 жыхароў вёсак, якія знаходзіліся на тэр. калгаса «Новае жыццё» (з іх 14 жыхароў в. Аношкі). З 1951 г. цэнтр узбуйненага калгаса «Новае жыццё». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1976 г. да калгаса «Новае жыццё» далучаны калгас «Дружба» (новая гаспадарка аб'ядноўвала 9 населеных пунктаў Казлоўскага с/с). З 2.12.1996 г. — цэнтр ААТ «Новае жыццё». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 489 чал., у 1970 г. 457 чал. У 1998 г. вёска, 328 гаспадарак, 973 жыхары. У 2001 г. 322 гаспадаркі, 968 жыхароў. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа—дзіцячы сад, дзіцячая школа мастацтваў

(у 1986—96 гг. муз. школа), урачэбная амбулаторыя, 7 магазінаў, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», аддз. сувязі, каўбасны цэх, зернясховішча, жывёлагадоўчая ферма. Пры дзіцячай школе мастацтваў дзейнічаюць духавы аркестр, ансамблі: танцавальны «Сонейка» і гарманістаў «Аношкаўскія музыкі» (у 2001 г. прысвоена званне «ўзорны»), пры Доме культуры — Аношкаўскі нар. ансамбль «Лянок» (створаны ў 1979 г.). Каля вясковага клуба помнік (1972) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Царква Святой Праведніцы Ганны (2002). Помнік археалогіі — гарадзішча жал. веку.

**АСМОЛАВА**, Асмаловічы — вёска ў Ланскім с/с. За 4 км на Пд ад Нясвіжа, 116 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 82 гаспадаркі, 375 жыхароў, у т.л. 225 у Доме-інтэрнаце (2012).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1552 г. с. Асмаловічы Клецкага княства, уласнасць каралевы Боны. Землі сяла знаходзіліся каля мяжы Клецкага і Нясвіжскага паветаў. Тут жылі браты Хвалевічы, што раней былі на конскай службе, Васілевіч, Гусаковіч і іншыя. У сяле пражывалі таксама татарскія сем'і Казловічы, Грыдзевічы і інш. Татарскай зямлі тут лічылася 6 валок 15 маргоў. У 1583 г. фальварак Асмаловічы на р. Лань у Навагрудскім ваяв. ВКЛ набылі Радзівілы (ад Міхаіла Шчурухі). У 1626 г. с. Асмолава, 14 валок зямлі татар Клецкіх. У 1677 г. в. Асмолава знаходзілася ў складзе фальварка Быхаўшчызна, 14 дымоў, 7 цяглых валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ., з 1861 г. ў Ланскай вол. У 1800 г. існавалі 2 вёскі — Вял. Асмолава (16 двароў, 120 жыхароў) і Малое Асмолава (8 двароў, 38 жыхароў), двор Малое Асмолава (3 драўляныя дамы), уладанні Радзівілаў. У 1857 г. Асмолава — вёска маёнтка Быхаўшчызна, 16 сем'яў, 133 жыхары. У 1869—86 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў разгляданні справы аб выкупе і размежаванні зямельных участкаў сялян маёнтка Быхаўшчызна кн. Вітгенштэйна. У 1876 г. ў раёне сучаснай вёскі знаходзіліся 3 аднайменныя маёнткі (40, 48 і 70 дзес. зямлі), уладанні дваран татарскага паходжання Карыцкага, Александровіча, Юшынскага. У 1888 г. каля вёскі меліся 5 прыватных фальваркаў і 2 участкі (ад 10 да 62 дзес. зямлі). Сярод іх уладальнікаў было 6 татарскіх сем'яў. У 1885 г. на месцы сучаснай вёскі акрамя прыватных уладанняў існавалі вёскі Асмалоўка Татарская (у 1880 г. 5 двароў, 55 жыхароў) і Рускае Асмолава, фальварак Татарскае Асмолава. У 1897 г. Рускае Асмолава налічвала 40 двароў, 233 жыхары; Асмолава Татарскае — 6 двароў, 31 жыхара. Працаваў ветраны млын. Побач знаходзілася ваколіца Асмолава Татарскае, 9 двароў, 59 жыхароў, мячэць (існавала і ў 1916 г.). У 1909 г. в. Асмолава, 53 двары, 333 жыхары, і ваколіца, 61 жыхар, 14 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. вёска, 68 двароў, 364 жыхары, і ваколіца, 15 двароў, 92 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. вёска, 432 жыхары, і асада, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах. У 1947 г. ў вёсцы працавала школа. У 1949 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненай гаспадаркі «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Лань). З 8.1.1954 г. ў Мінскай



вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася 588 жыхароў, у 1970 г. 547 жыхароў. З ліст. 1982 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (пазней перайменаваны ў калгас «Лань»), з 30.12.1996 г. — сельская калект. гаспадарка «Лань», з 2003 г. — на тэр. СВК «Лань—Нясвіж» (цэнтр — вёска, з 2007 г. — аграгарадок Лань). У 1998 г. вёска, 117 гаспадарак, 167 жыхароў, у 2001 г. 118 гаспадарак, 160 жыхароў. У 2012 г. Дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, магазін, жывёлагадоўчая ферма, піларама.

**АСТРОЎКІ** — вёска (з 2013 г. аграгародк) у Гарадзейскім с/с. За 20 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 100 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтамагістралі Брэст—мяжа Расіі. 187 гаспадарак, 515 жыхароў (2012).



*Царква Святога Георгія ў в. Астроўкі.*

У 1861 г. сяло ў Навагрудскім павеце Мінскай губ., 30 двароў, 269 жыхароў, малацільня, Георгіеўская царква. У 1870 г. сяло Гарадзейскай вол., 166 душ мужчынскага полу. У 1885 г. 11 двор, 330 жыхароў, царква, капліца. Побач знаходзіліся 2 фальваркі з той жа назвай: уладанне Грыневічаў (10 валок 5 маргоў зямлі) і Булгака (376 дзес. зямлі). У 1888 г. побач з сялом меліся 3 прыватныя ўладанні: І.С.Булгака (маёнтак Астроўкі), Я.П.Буцько (участак, 8 дзес. зямлі) і І.Ф.Гардзеевіча (участак, 12 дзес. зямлі). У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся сяло, 74 двары, 456 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны; 2 маёнткі: 2 двары, 21 жыхар, ветраны млын, і 9 двароў, 22 жыхары; фальварак Пратасевіча, 4 двары, 7 жыхароў. Побач з будынкамі сяла знаходзіліся сядзібы псаломшчыка (2 жыхары) і святара (6 жыхароў) Астроўскай царквы. У 1889 г. ў сяле адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 46 хлопчыкаў і 17 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 79 двароў, 482 жыхары, у маёнтку памешчыка Булгака — 35 жыхароў, у маёнтку памешчыка Грыневіча — 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета. У 1921 г. вёска, 94 двары, 491 жыхар і 3 фальваркі (Астроўкі 1, 2, 3) — адпаведна 18, 4 і 18 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета. У 1940 г. вёска, 111 двароў, 575 жыхароў, магазін, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. У былым маёнтку пражывала 48 чал. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах. У сак. 1949 г. ў вёсцы ўтвораны калгас імя Кірава. З 1952 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя Малянкова, з 1957 г. імя Дзяржынскага. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 30.12.1996 г. калгас рэарганізаваны ў калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, 26.6.2003 г. — у СВК, з 15.2.2011 г. — ААТ «Нясвіжскія Астроўкі». У 1959 г. ў вёсцы 385 жыхароў, у 1970 г. 333 жыхары. У 1998 г. 186 гаспадарак, 468 жыхароў, у 2001 г. 179 гаспадарак, 463 жыхары. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, магазін, сталовая, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, урачэбная амбулаторыя, піларама, гараж, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, зернясушылка, скла-

ды, жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Гарадзейскім с/с. На паўд. ускраіне вёскі пахаваны партызаны В.К.Камаеў і С.Ф.Гарэцкі, якія загінулі ў 1944 г. ў баі супраць гітлераўцаў у Вял. Айч. вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. На Пд ад вёскі знаходзіцца помнік архітэктуры — драўляная царква Георгія Перамаганосца (1841, дзейнічае).

**БАРАЦЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 12 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 10 двароў, 23 жыхары (2012).

У 1870 г. в. Барацькаўшчызна Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 6 мужчынскіх душ. У 1897 г. засценак Барацькаўшчына пры лініі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, 7 двароў, 31 жыхар. Меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска, 8 двароў, 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Навагрудскага павета Навагрудскага ваяв., 11 двароў, 46 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Гарадзейскім с/с. У 1940 г. 11 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1 вясковец загінуў на фронце. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Гарадзейскі». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У1991 г. саўгас рэарганізаваны ў племкалгас «Гарадзейскі», 30.12.1996 г. — у калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», 16.7.2003 г. — у СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок. Новагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 95 жыхароў, у 1970 г. 52 жыхары. У 2001 г. 13 гаспадарак, 36 жыхароў.

**БАЯРЫ** — вёска ў Ліпскім с/с. За 14 км на З ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 39 гаспадарак, 101 жыхар (2012).

Вядома з 16 ст. як шляхецкае уладанне ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1560 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл набыў маёнтак Баяры (Няхневіцкія) разам з навакольнымі Ліпаўскімі землямі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол., 46 мужчынскіх душ. У 1889 г. адкрыта школа граматы для хлопчыкаў, якую ў 1890/91 навучальным годзе наведвалі 5 вучняў. У 1897 г. ў вёсцы 37 двароў, 196 жыхароў, у 1909 г. 32 двары, 250 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 42 двары, 242 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпскім с/с. У 1940 г. 81 двор, 311 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1949 г. утвораны калгас «Маяк камунізму». З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «17 Верасня». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 30.12.1996 г. калгас рэарганізаваны ў калект. с.-г. прадпрыемства, з 16.7.2003 г. — СВК, з 2.3.2011 г. — ААТ «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 342 жыхары, у 1970 г. 264 жыхары. У 1998 г. 61 гаспадарка, 128 жыхароў, у 2001 г. 57 гаспадарак, 130 жыхароў. Радзіма бел. пісьменніка, дзярж. і грамадскага дзеяча А.І.Бутэвіча (н. 15.6.1948).

**БУЗУНЫ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 14 км на ПнУ ад Нясвіжа, 98 км

ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Вядома з 16 ст. У 1595 г. сяло маёнтка Затур'я Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая уласнасць, 5 дымоў, 7 валок зямлі. У 1614 г. 9 дымоў, у 1692 г. 12 дымоў. У 1793 г. вёска фальварка Дыямпаль, 13 дымоў, 57 жыхароў, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1811 г. ў вёсцы 11 гаспадарак, 44 душы мужчынскага полу. У 1870 г. вёска ў Гаўязнянскай вол., 47 душ мужчынскага полу. Побач з вёскай знаходзілася карчма. У 1897 г. 29 двароў, 164 жыхары; у 1909 г. 167 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гаўязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 42 двары, 194 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 49 двароў, 293 жыхары, арганізаваны калгас імя Сталіна, якому ў ліп. 1940 г. перадалі пабудовы асаднікаў Каміньча і Кунаса. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. аднаўлены даваенны калгас. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Слава». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Юшавіцкім с/с. З 30.12.1996 г. — у калект. с.-г. долевай гаспадарцы «Слава», з 16.7.2003 г. — СВК, з 30.12.2010 — ААТ «Юшавічы»; (цэнтр — аграгарадок Юшавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 195 жыхароў, у 1970 г. 146 жыхароў. У 1998 г. вёска, 32 гаспадаркі, 59 жыхароў, у 2001 г. 30 гаспадарак, 55 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**БУЧНЫЯ**, Бучна — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 14,5 км на ПнУ ад Нясвіжа, 98 км ад Мінска, 28,5 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

У 1800 г. засценак Бучна Слуцкага павета Мінскай губ., уладанне Радзівілаў, 13 двароў, 61 жыхар, млын на р. Тур'я. У 1840 г. тут пражывала 14 сем'яў. У 1852 г. 14 дымоў, 5 валок 17 моргоў зямлі (у 1876 г. 221 дзес. зямлі). У 1897 г. засценак Бучное Целядавіцкай вол., 18 двароў, 90 жыхароў. У 1909 г. 133 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., засценак, 15 двароў, 79 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 23 двары, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Адзін вясковец загінуў на фронце. У 1949 г. далучаны да калгаса імя Сталіна (цэнтр — в. Бузуны). З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Слава». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Юшавіцкім с/с. 30.12.1996 г. калгас «Слава» рэарганізаваны ў калект. с.-г. долевую гаспадарку з той жа назвай. З 16.7.2003 г. — СВК, з 30.12.2010 г. — ААТ «Юшавічы» (цэнтр — аграгарадок Юшавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 91 жыхар, у 1970 г. 52 жыхары. У 2001 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**ВАЙНІЛАВІЧЫ** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 3 км на Пд ад Нясвіжа, 115 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Клецк. 82 гаспадаркі, 192 жыхары (2012).



*А.І.Бутэвіч.*





Вядома ў ВКЛ з канца 15 ст. У 1492 г. вёска Нясвіжскіх уладанняў Мікалая Неміровіча. У 1526 г. Ганна Радзівіл (з Кішкаў, жонка Яна І Барадатага) купіла Вайнілавічы ў Сачкевічаў, далучыўшы вёску да ўладанняў сям'і; у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. 24 двары, 135 жыхароў. У 1814 г. вёска фальварка Зарэчча, 60 душ. У 1866 г. каля вёскі пабудавана карчма. У 1870 г. вёска ў Ланскай вол., 95 душ мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 343 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 77 двароў, 399 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 76 двароў, 431 жыхар (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. вёска, 97 двароў, 529 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1948 г. адкрыта хата-чытальня. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Берыі (34 гаспадаркі), з 1951 г. імя Кутузава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. ў межах тэр. эксперыментальнай базы «Ганусава» (з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава»). З 17.5.2012 г. знаходзяцца на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 94 жыхары, у 1970 г. 415 жыхароў. У 1998 г. 112 гаспадарак, 195 жыхароў, у 2001 г. 92 гаспадаркі, 171 жыхар. У 2012 г. — сельскі клуб, б-ка, магазін, жывёлагадоўчая ферма, зернясховішча.

**ВЫСОКАЯ ЛІПА** — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Ліпскага с/с. За 15 км на З ад Нясвіжа, 127 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Сноўка (прыток р.Уша). 317 гаспадарак, 786 жыхароў (2012).

У 16 ст. ў наваколлі сучаснай вёскі існавалі дробныя шляхецкія маёнткі пад назвай Ліпа, якія былі набыты Радзівіламі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1883 г. в. Высокая Ліпа Сноўскай вол., 42 асады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 82 двары, 473 жыхары, карчма. У 1909 г. 89 двароў, 637 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 109 двароў, 629 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпскім с/с. У 1940 г. 175 двароў, 717 жыхароў, пач. школа, пад памяшканне якой быў перададзены дом асадніка. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе ў гады вайны загінулі 168 землякоў з населеных пунктаў Ліпскага с/с (у т.л. 29 воінаў-землякоў з в. Высокая Ліпа; у 1970 г. на ўшанаванне іх памяці ў скверы пастаўлены помнік). У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Новая Зара»; з 1951 г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «17 Верасня». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1960 г. цэнтр калгаса «17 Верасня» (уваходзілі 9 населеных пунктаў). З 23.12.1965 г. цэнтр Ліпскага с/с. З 30.12.1996 г. цэнтр калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК, з 2.3.2011 г. ААТ «17 Верасня». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 745 жыхароў, у 1970 г. 756 жы-



хароў. У 1998 г. вёска, 338 гаспадарак, [illegible] жыхароў, у 2001 г. 337 гаспадарак, [illegible] жыхароў. З 2008 г. аграгарадок, дзе знаходзяцца будынкі выканкама сельсавета і адміністрацыі гаспадаркі. У 2012 г. жывёлагадоўчая ферма, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», сталовая, 4 магазіны, пакой участковага інспектара міліцыі, аддз. сувязі. Сярод гасп. пабудоў піларама, зерняхсховішча.

**ВЯЛІКАЯ БЫХАЎШЧЫНА** — вёска ў Ланскім с/с. За 8 км на Пд ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы, на р. Лань (прыток р. Прыпяць). 183 гаспадаркі, 183 жыхары (2012).

За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на могілках, пераважна на ўсх. ускраіне, знаходзіцца курганны могільнік (12 насыпаў). Паселішча вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1538 г. маёнтак Быхаўшчызна каля р. Лань, у Навагрудскім ваяв., уладанне Быхаўца, былога слугі Алехны Жабчыца, які ўзяў Быхаўца «за сына» і даў яму гэты маёнтак. У 1677 г. фальварак і вёска (21 дым, 9 цяглых валок зямлі), уладанне Радзівілаў. У склад фальварка ў 1678 г. таксама ўваходзілі вёскі Асмолава і Міцкевічы. У 1678 г., 1708 г., 1713 г., 1766 г. фальварак часова далучаўся да «дзяржаў» А.Морскага, М.Няміна, Францкевічаў, Д.Маймоніча. У 1747 г. належаў Міхалу Казіміру Радзівілу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак, уладанне Радзівілаў, 34 двары, 212 жыхароў, карчма, панскі дом. У 1811 г. фальварак, 219 душ; уваходзілі 3 вёскі, у т.л. і Быхаўшчызна. У 1857 г. ў вёсцы 42 гаспадаркі, 313 жыхароў; уладанне кн. П.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска (151 душа мужчынскага полу) і маёнтак, у Ланскай вол. Слуцкага павета. У 1876 г. у маёнтку 591 дзес. зямлі, працаваў ветраны млын. З 1869 г. да 1886 г. судовым парадкам разглядалася справа аб выкупе і размежаванні зямельных участкаў сялян маёнтка Быхаўшчызна. У 1888 г. маёнтак, 597 дзес. зямлі, належаў княгіні М.Л.Гагенлоэ. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, 29 дзес. зямлі, уладанне Адама і Людвіга Ваньковічаў. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Быхаўшчызна 84 двары, 477 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, у маёнтку 5 двароў, 32 жыхары. У 1909 г. адпаведна 109 двароў, 616 жыхароў і 2 двары, 22 жыхары. У 1916 г. в. Вялікая Быхаўшчызна, дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 98 дамоў, 553 жыхары, і фальварак, 5 двароў, 33 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Быхаўшчынскага с/с. У 1940 г. вёска, 129 двароў, 607 жыхароў, ветраны млын, няпоўная сярэдняя школа, торфараспрацоўкі Нясвіжскага райпрамкамбіната. У былым маёнтку 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрвеня 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 31 вясковец загінуў ці прапаў без вестак на франтах. У 1940—41 гг. і з 1946 г. ў вёсцы працавала хата-чытальня, у 1948 г. яна была рэарганізавана ў сельскі клуб. У 1949 г. арганізаваны калгас імя XIX партз'езда ВКП(б) Беларусі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ланскім с/с. У 1960—82 гг. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса імя Леніна (з ліст. 1982 г. аб'яднаны з калгасам «Ленінскі шлях»). З 1996 г. на тэр. калект. с.-г. гаспадаркі «Лань» (з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж»; цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 612 жыхароў, у 1970 г. 466 жыхароў.





У 1998 г. 124 гаспадаркі, 255 жыхароў, у 2001 г. 117 гаспадарак, 248 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма, зернясховішча.

**ВЯЛІКАЯ ЛІПА**, Л і п а, Л і п а в а, Л і п а  М у р а в а н а я — вёска ў Ліпскім с/с. За 12 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 114 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 120 гаспадарак, 229 жыхароў (2012).

У 16 ст. ў ВКЛ на тэр. сучасных вёсак Вялікая і Высокая Ліпа, Саска Ліпка знаходзіліся дробныя ўладанні шляхціцаў Пацэвічаў, Сачкевічаў, Мікіцічаў, Стэцкевічаў і іншых, якія паступова былі набыты Радзівіламі. У 1528 г. кароль польскі і вял. кн. літ. Сігізмунд І пацвердзіў пакупку Ганнай Радзівіл (з роду Кішкаў) двара на Ліпе, поля і лесу «аж да плоту Малеўскага». У 1558 г. маёнтак і двор Ліпа на р. Уша былі аддадзены ў заставу, а потым падараваны Мікалаю Радзівілу Мікалаем Станіславам Глябовічам. Мікалай Крыштоф Радзівіл купіў ці абмяняў з даплатай на маёмасць у іншых месцах: 7 валок зямлі з падданымі «на Ліпе» ў Пятра Ліпніцкага ў 1560 г.; землі Падаржэўскага (ці Падарэўскага) і яго жонкі, што знаходзіліся «паміж грунтамі Ліпаўскімі Радзівіла» ў 1569 г.; маёнтак Ліпа пана Галаўні (1579). Такім чынам, у 1560—79 гг. Радзівілы авалодвалі гэтай тэр. і атрымалі на яе каралеўскае дазваленне. У 1739 г. Ліпава — сяло Нясвіжскага княства Навагрудскага павета Навагрудскага ваяв., уладанне Радзівілаў. У 1773 г. ў Ліпе мелася Пакроўская царква (мураваная, на могілках), царк.-прыходская школа. У 1776 г. в. Ліпа разам з засценкамі налічвала 26 дымоў. Паводле інвентару 1787 г. Ліпа — фальварак (знаходзіліся жылы дом, бровар, студня, гасп. пабудовы, агароды) і вёска, 7 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1811 г. Ліпа — вёска фальварка Ліпка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, знаходзілася ў арэндзе ў ген. Мараўскага. З 1858 г. маёнтак Ліпа, 1400 дзес. зямлі, вінакурня (засн. ў 1830 г., у 1890 г. 12 рабочых, паравая машына), 2 карчмы, 2 вадзяныя і ветраны млыны, знаходзіўся ва ўладанні В.М.Абуховіча. У 1870 г. в. Вялікая Ліпа Сноўскай вол., 194 душы мужчынскага полу і маёнтак Ліпа, уладанне Абуховіча (у 1888 г. 1911 дзес. зямлі). У 1888 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы для хлопчыкаў, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 25 чал. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі размяшчаліся: в. Вялікая Ліпа, 84 двары, 541 жыхар, хлебазапасны магазін, карчма; 2 аднайменныя млыны, 11 і 8 жыхароў; сядзіба прычта з назвай Ліпа, 3 двары, 15 жыхароў, Пакроўская царква і царк.-прыходскае вучылішча. Побач з вёскай і царквой, каля дарогі на Нясвіж, знаходзіўся маёнтак Ліпа, уладанне Абуховіча, 1 двор (26 пабудоў), 52 жыхары, вінакурня, сыраварня, карчма, дом са шкіпінарным з-дам. На зямлі памешчыка таксама размяшчаўся вадзяны млын з сядзібай, 6 жыхароў. У 1905 г. сяляне вёскі сталі звозіць ва ўласныя сядзібы дровы з памешчыцкага лесу маёнтка Завушша (уладанне Ф.Гарцінга). 25 ліст. паліцэйскія наведалі вёску ў пошуках дроў, але сяляне, узброеныя каламі, прагналі іх. У 1909 г. ў вёсцы 109 двароў, 698 жыхароў, у маёнтку 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. в. Вялікая Ліпа, 120 двароў, 643 жыхары і фальварак Ліпа, 11 двароў, 114 жыхароў. У вёсцы дзейнічаў касцёл. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіж-





*Пакроўская царква ў в. Вялікая Ліпа.*

[illegible], з 12.10.1940 г. ў Ліпскім с/с. З 12.10.1940 г. да 23.12.1965 г. — цэнтр Ліпскага с/с. У 1940 г. вёска, 220 двароў, 813 жыхары, вадзяны млын, хата-чытальня, няпоўная сярэдняя школа. [illegible] 1940 г. пад вясковы фельч.-акушэрскі пункт быў перададзены будынак былой прыходскай школы, а школе перадалі будынак былога маёнтка. У [illegible] крас. 1940 г. райвыканкам зацвердзіў стварэнне ў вёсцы с.-г. арцелі «17 Верасня» на базе былога маёнтка Абу[illegible]. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 42 воіны-землякі загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1944 г., адразу пасля вызвалення вёскі ад гітлераўцаў, калгас аднавіў сваю дзейнасць. У 1944 г. ён аб'ядноўваў 38 вясковых гаспадарак, [illegible] (401,45 га зямлі). У 1948 г. калгас налічваў 134 калгаснікі, тут былі пабудаваны двор для жывёлы, 2 пуні, свінарнік; сумесна з калгасам «Чырвоны Агароднік» будавалася гідраэлектрастанцыя. У калгасе меліся 3 жаткі, [illegible], 2 аўтамашыны. У 1945 г. на тэр. вёскі дзейнічаў дзіцячы дом (52 дзіцяці). У 1947 г. ў вёсцы зноў адкрылася хата-чытальня. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. Да 1960 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «17 Верасня» (уключаў 9 населеных пунктаў), з 30.12.1996 г. — на [illegible] калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК, з 2.3.2011 г. ААТ «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 833 жыхары, у 1970 г. 602 жыхары. У 1998 г. 172 гаспадаркі, 375 жыхароў, у 2001 г. 156 гаспадарак, 409 жыхароў. У 2012 г. — б-ка, магазін, стайня, жывёлагадоўчыя ферма і комплекс, кормапрадпрыемства «Уша» (дзейнічае з 1982 г.), гараж, майстэрні, трактарны парк, зернясховішча. Помнікі архітэктуры: сядзіба (канец 19 — пач. 20 ст.) і Пакроўская царква (канец 18 ст., дзейнічае).

**ВЯЛІКАЯ ЛЫСІЦА**, Л ы с і ц а — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 161 двор, 514 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1558 г. маёнтак Лысіца Навагрудскага ваяв., які быў падараваны разам са Студзёнкамі Мікалаем Глябовічам Якубу Красуцкаму. У 1579 г. фальварак і вёска Лысіцы, прыватнае ўладанне. У 1688 г., 1691 г. фальварак разам з вёскамі Лысіцы, Вялікае Сяло, Забалацце і Капцеўшчына знаходзіўся ва ўладанні Лыскевічаў. У 1729 г. фальварак у складзе Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1805 г. фальварак Лысіца знаходзіўся ў арэндзе ў Развадоўскага. З 1857 г. маёнтак Лысіца, уладанне П.Л.Вітгенштэйна, 1260 дзес. зямлі; меліся карчма, вінакурня. У 1861 г. с. Лысіца, 105 двароў, 729 жыхароў, вадзяны млын, царква. У 1862 г. в. Вялікая Лысіца маёнтка Лысіцы налічвала 40 гаспадарак, 156 сялян. У 1886 г. сяло ў Гарадзейскай вол., 42 двары, 308 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 478 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, царква. У 1907 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1909 г. в. Лысіца, 105 двароў, 551 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн.


*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Вялікая Лысіца.*

1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 112 двароў, 602 жыхары, касцёл. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Лысіцкага с/с. У 1940 г. 134 двары, 647 жыхароў, працавалі маслазавод, вадзяны млын, няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9 воінаў-землякоў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1947 г. працавала вясковая хата-чытальня, у 1949 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 12.8.1970 г. ў Гарадзейскім с/с. З 30.12.1996 г. на тэр. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», з 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок Новагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 516 жыхароў, у 1970 г. 371 жыхар. У 1998 г. 163 гаспадаркі, 483 жыхары, у 2001 г. 168 гаспадарак, 497 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, машынны двор, гараж. У 2012 г. — Лысіцкі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, сельскі клуб, б-ка, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Помнік архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква (1915, дзейнічае). У цэнтры вёскі, у скверы пахаваны 5 партызан і 5 мірных жыхароў, якія былі забіты гітлераўцамі 23.2.1943 г. (у 1965 г. на магіле ўстаноўлены абеліск). Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне эканам. кібернетыкі і інфарматыкі, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі 1972 Я.І.Вялецькі (н. 23.4.1938).

**ГАБРУНЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 9 км на ПдУ ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2012).

У 1811 г. вёска фальварка Чанавічы, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска Ланскай вол., 35 двароў, 222 жыхары. Меліся кузня, ветраны млын, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 42 двары, 254 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 42 двары, 263 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лявонавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 100 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «1 Мая». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. зноў у Лявонавіцкім сельсаветах. З 23.12.1996 г. на тэр. калект. долевага прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле пе-



рапісу 1959 г. ў вёсцы 227, у 1970 г. 153 жыхары. У 1998 г. 35 гаспадарак, 56 жыхароў, у 2001 г. 28 гаспадарак, 57 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с, працуюць ТАА «Імпост» і малочна-таварная ферма, кар'ер па здабычы пяску «Габруны».

**ГАЛАЎЦЫ** – вёска ў Гарадзейскім с/с. За 25 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 118 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы–Мінск. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

У 1897 г. фальварак Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 1 двор (6 будынкаў), 18 жыхароў. У 1909 г. маёнтак, 60 жыхароў. У 1914 г. маёнтак, 557 дзес. зямлі, уладанне Абуховіча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 10 двароў, 72 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Адзін вясковец прапаў без вестак на фронце. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Лысіцкім с/с. З 1959 г. вёска ў складзе саўгаса «Гарадзейскі». З 12.8.1970 г. ў Сноўскім, з 26.9.1983 г. ў Гарадзейскім сельсаветах. З 1991 г. на тэр. племкалгаса «Гарадзейскі», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», з 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея» (цэнтр – аграгарадок Новагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 201 жыхар, у 1970 г. 143 жыхары. У 1998 г. 18 гаспадарак, 34 жыхары, у 2001 г. 18 гаспадарак, 32 жыхары.

**ГАНУСАЎШЧЫНА** – вёска ў Нясвіжскім с/с. За 5 км на Пн ад Нясвіжа, 117 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы–Мінск. 39 гаспадарак, 93 жыхары (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1505 г. пан Ежы Ілліініч атрымаў пацвярджэнне на «добра» Ганусаўшчызну. У 1764 г. Ганусаўшчына – фальварак Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1784 г. фальварак Ганусаўшчына і в. Гануса, 12 гаспадарак, 4 валокі 54 маргі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. Ганусаўшчызна – фальварак (меліся драўляны жылы дом, вінакурня) і вёска, 6 жыхароў, уладанне Дамініка Радзівіла. З 1829 г. фальварак знаходзіўся ва ўладанні Л.П.Вітгенштэйна, мужа Стэфаніі Радзівіл. У 1852 г. ён уключаў 3 вёскі, 14 засценкаў, у т.л. па вёсках 111 дымоў, 681 жыхар. У Ганусаўшчыне знаходзіліся панскі дом, дом эканамічны, бровар (пабудаваны ў 1802 г.), стайня, конны млын, кузня, пральня (пабудавана ў 1835 г.), вінакурня (з 1848 г.), птушнік і іншыя гасп. пабудовы. На тэр. фальварка дзейнічалі 3 карчмы, сельскі магазін. У 1876 г. маёнтак у Гавязнянскай вол., уладанне Радзівілаў, 473 дзес. зямлі, піваварня. У 1897 г. – 69 жыхароў. Паводле інвентару 1907 г. ў маёнтку А.Радзівіла меліся жылы дом, дом для батракоў, ветраны млын, піваварня, шэраг іншых гаспадарчых будынкаў, 2 пладовыя сады, парнік, сажалка. У 1909 г. 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 57 жыхароў. У студз. 1928 г. тут была створана паляводчая доследная станцыя, дзе праводзілася работа па выпрабаванні новых сартоў і вывучэнні асобных прыёмаў агратэхнікі збожжавых культур, канюшыны, люцэрны, кармавых буракоў на мінераль-

ных глебах, паляпшэнні прыродных і стварэнні сеяных сенажацей на тарфяна-балотных глебах для Нясвіжскага, Навагрудскага, Баранавіцкага, Слонімскага і Стаўбцоўскага павестаў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. былы фальварак налічваў 139 жыхароў. На яго базе была створана Ганусаўская с.-г. доследная станцыя (агульная пл. 615,81 га), куды ўваходзілі ўчасткі «Ганусаўшчына» (290,2 га), Заазер'е, Каралін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Станцыя аднавіла сваю дзейнасць з 1944 г. З 8.1.1954 г. Ганусаўшчына ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. У 1960 г. на базе калгасаў імя Маякоўскага, Кутузава, Жданава і эксперыментальнай базы пры Ганусаўскай доследнай станцыі створана эксперыментальная база «Ганусава». У 1959 г. в. Ганусаўшчына, 145 жыхароў; у 1970 г. 185 жыхароў. З 1996 г. ў межах тэр. эксперыментальнай базы «Ганусава» (з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава»; цэнтр — аграгарадок Заазер'е). З 17.5.2012 г. на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». У 1998 г. 50 гаспадарак, 107 жыхароў, у 2001 г. 47 гаспадарак, 110 жыхароў. У 2012 г. ў вёсцы знаходзіцца збожжасховішча.



*Пасажырскі вакзал чыгуначнай станцыі Гарадзея.*

**ГАРАДЗЕЯ**, Гарадзей (у пач. 20 ст. Замір'е) — гарадскі пасёлак, цэнтр Гарадзейскага с/с. За 14 км на ПнЗ ад Нясвіжа, чыг. станцыя на лініі Мінск—Баранавічы, на аўтадарозе Нясвіж—Навагрудак, на р. Гарадзейка (прыток р. Уша). 4120 жыхароў (2013).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім павеце ВКЛ. У 1530 г. згадваецца ў сувязі са скаргай Васіля і Льва Чыжоў разам з Бейнаровічамі і Пратасовічамі на пана С.Ілюніча, якія чынілі разбой на тэр. іх маёнткаў Гарадзея і Астроўкі. У 1551 г. Гарадзея — уладанне пана П.А.Ганусовіча, які ў 1555 г. прадаў 3-ю частку свайго маёнтка Б.В.Пратасовічу, а дзве астатнія аддаў яму ў заставу. У 1571 г. Б.В.Пратасовіч купіў увесь маёнтак, а ў 1589 г. (паводле іншых крыніц у 1575 г.) Я.Б.Пратасовіч прадаў яго М.К.Радзівілу. У 1628—29 гг. Гарадзея — сяло аднайменнага фальварка, уладанне Альбрэхта Радзівіла; 17 валок зямлі, 50 гаспадарак. У 1726 г. Міхал Казімір Радзівіл аддаў фальварак Гарадзей (Гарадзея; налічваў звыш 34 двароў) у заклад ротмістру Яну Яблонскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі; у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў, з 1861 г. цэнтр воласці. У 1809 г. Гарадзея — маёнтак (5 чал. служылай шляхты, 4 душы дваровых сялян) і вёска (38 дымоў, 208 жыхароў; у складзе гэтага маёнтка), уладанне Радзівілаў. У 1810 г. фальварак і в. Гарадзея знаходзіліся ў арэндзе ў Багдановіча. У гэтым жа годзе ў фальварку пабудавана капліца. У 1852 г. Гарадзея — уладанне палкоўніка Брахоцкага (маёнтак і вёска). У.Сыракомля наведаў Гарадзею і назваў яе «сапраўдным аазісам» у сваёй кн. «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах». Згодна з інвентаром 1863 г. ў фальварку Гарадзея меліся жылы дом, дом аканома (пабудаваны ў



1795 г.), саладоўня, склеп, птушнік, памяшканні для жывёлы, стайня, кузня, млын. Тут вырошчвалі садавіну і гародніну, выраблялі каўбасы. У склад фальварка ўваходзілі 3 вёскі, у т.л. Вялікая і Малая Гарадзея. Вялікая Гарадзея налічвала 14 гаспадарак, з 1791 г. каля вёскі існавала карчма. У Малой Гарадзеі меліся 2 гаспадаркі і карчма (з 1795 г.). У 1871 г. за паўвярсты ад фальварка была пабудавана аднайменная станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, якая хутка стала пунктам гандлю збожжам і іншымі с.-г. прадуктамі. Нават Варшава мела ў Гарадзеі сваіх гандл. агентаў. Акрамя чыгункі каля Гарадзеі праходзіў паштовы шлях Слуцк—Нясвіж -Мір—Навагрудак. Да чыг. станцыі прылягалі землі памешчыка Марцынкевіча, які з выгадай выкарыстоўваў месцазнаходжанне свайго маёнтка і арганізаваў абслугоўванне пасажыраў (у 1844 г. маёнтак Гарадзея, уладанне С.В.Марцынкевіча, уключаў вёскі Зарэчча і Гарадзея, 30 двароў, 193 жыхары). У 1876—88 гг. у межах сучаснага гар. пасёлка размяшчаліся маёнткі: Дольная Гарадзея, спадчыннае ўладанне А.В.Болтуць (з 1875 г.), працавалі валыны і конныя млыны; Гарадзея, спадчына Э.А.Брахоцкай (з 1858 г.), 3 карчмы, ветраны і вадзяны млыны; Гарадзея, спадчына А.С.Марцынкевіча (з 1864 г.) і фальварак Гарадзея, уладанне Неслухоўскіх, вадзяны млын, гасцініца для пасажыраў станцыі. Вёска Гарадзей (іншая назва—Гурна-Гарадзей) у 1886 г. налічвала 48 двароў, 352 жыхары; тут знаходзіліся валасное праўленне, крама, карчма. З 1869 г. ў вёсцы працавала нар. вучылішча, у якім у 1892/93 навуч. годзе было 75 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У 1888 г. адкрылася школа граматы, дзе ў 1890/91 навуч. годзе налічвалася 12 хлопчыкаў. У 1897 г. Гарадзея — паселішча (пасад) каля чыг. станцыі, 92 двары, 719 жыхароў, малітоўны дом, сельская аптэка, 17 дробных крам, 2 склады цукру, 2 піўныя склады, 5 піцейных дамоў. Побач размяшчаліся: с. Горна-Гарадзея, 122 двары, 730 жыхароў, 2 царквы (адна з іх царква Раства Багародзіцы, пабудавана ў 1897 г.), валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, піцейны дом, і в. Дольна-Гарадзея, 30 двароў, 194 жыхары, хлебазапасны магазін; 2 млынарскія сядзібы — 5 і 2 жыхары. На чыг. ст. Гарадзея 4 жылыя і 11 іншых пабудоў, 23 жыхары. У гэты час налічваліся 4 аднайменныя і сумежныя з паселішчам Гарадзея маёнткі: уладанні Марцынкевіча (32 жыхары), Святаполк-Мірскага (61 жыхар), Неслухоўскага (56 жыхароў), Болтуця (12 жыхароў). 18.10.1905 г. ў Гарадзеі адбылася забастоўка і дэманстрацыя рабочых (да 150 чал.). 10.6.1906 г. ў маёнтку Гарадзея баставалі с.-г. рабочыя. У 1909 г. існавалі: пасад Гарадзея, 121 двор, 385 жыхароў; с. Горна-Гарадзея, 115 двароў, 744 жыхары; в. Дольна-Гарадзея, 31 двор, 231 жыхар і 4 маёнткі Гарадзея (уладанні Вольскай, 14 жыхароў; Жаліхоўскай, 15 жыхароў; кн. Святаполк-Мірскага, 22 жыхары; Халавецкай, 23 жыхары). У Першую сусветную вайну з 1915 г. чыг. станцыя і пасад знаходзіліся ў прыфрантавой паласе, называліся Замір'е (ад імя маёнтка кн. Вітгенштэйна, які знаходзіўся на Пн ад Гарадзеі ўздоўж шляху на Мір). У адным



*Касцёл Святога Юзафа ў г.п. Гарадзея.*

*Праабражэнская царква ў г.п. Гарадзея.*



з атрадаў рас. арміі, што размяшчаліся ў Гарадзеі (Замір'і), служыў рус. пісьменнік К.Паўстоўскі. Ён даволі змрочна апісвае населены пункт: «Нізкія абшарпаныя хаты, роўная голая зямля і ніводнага дрэва вакол». Пісьменнік таксама апісваў, як да прыезду на Заходні фронт імператара Мікалая II з лесу прывезлі шмат елак і замаскіравалі імі самыя «дрэнныя халупы». У маі—чэрв. 1917 г. ў Замір'і адбыліся мітынгі і маніфестацыі працоўных і салдат, якія патрабавалі роспуску Дзярж. Думы і ўлады Саветам. Дзейнічалі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і арг-цыя РСДРП(б), якая ў вер. 1917 г. налічвала 135 чл. Арг-цыі спачуваў увесь ваенны гарнізон. Сав. ўлада была ўстаноўлена ў ліст. 1917 г., выбраны валасны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З лютага да снеж. 1918 г. Гарадзея акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, дзейнічала бальшавіцкае падполле (у маі на станцыі была арганізавана група камуністаў з 6 чал.). Да ліст. 1918 г. выбраны Замір'еўскі падраённы к-т РКП. Акрамя агітацыі чл. арг-цыі перашкаджалі немцам вывозіць у Германію нарабаваную маёмасць і прадукты. Летам і восенню 1918 г. ў раёне Гарадзеі дзейнічалі партыз. атрады. У канцы 1918 г. станцыя і паселішчы вакол яе былі заняты Чырвонай Арміяй, са жн. 1919 г. да 6.8.1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў складзе БССР. З 1921 г. Гарадзея ўваходзіла ў склад Польшчы як мястэчка і з'яўлялася цэнтрам Гарадзейскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. тут налічвалася 147 двароў, 1120 жыхароў, меліся гмінная ўправа, аддз. сувязі, касцёл, 2 сінагогі, чыг. станцыя; адбываліся штотыднёвыя таргі. Побач знаходзіліся: в. Гарадзея Горная, 146 дамоў, 820 жыхароў; аднайменныя фальварак, 43 жыхары, леснічоўка, 4 жыхары і сядзіба млынара, 10 жыхароў; в. Гарадзея Дольная, 60 двароў, 309 жыхароў і аднайменны фальварак, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Гарадзейскага с/с, адначасова цэнтр Гарадзейскага пас. Савета, У 1940 г. 208 двароў, 1719 жыхароў, 10 дробных прадпрыемстваў, 4 млыны, 4 гандл. кропкі, 2 няпоўныя сярэднія школы, хата-чытальня, б-ка, клуб, бальніца, радзільны дом, паліклініка, аддз. сувязі; штотыднёвы базар. У в. Горная Гарадзея 1156 жыхароў, у былым маёнтку з той жа назвай 51 жыхар, у в. Дольная Гарадзея 391 жыхар, у былым маёнтку Дольная Гарадзея 25 жыхароў. У 1940 г. ў Гарадзеі створаны калгас «1 Мая», якому былі перададзены жылыя і гасп. пабудовы былога фальварка Магдулка, сад былога маёнтка Халавецкіх. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. Гарадзея акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 47 жыхароў пасёлка загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1945 г. з ліку 250 спаленых дамоў на тэр. Гарадзейскага с/с было адноўлена 49. У 1947 г. ў Гарадзеі працавала школа сельскай моладзі, хата-чытальня. У 1949—50 гг. на сядзібе (былы маёнтак Сабалеўскага) дапаможнай гаспадаркі Галоўпрамбуда каля ст. Гарадзея была створана Гарадзейская МТС, якой перадалі 2 жылыя дамы, 2 свірны, 2 гаражы для с.-г. машын, камяніцу для майстэрні. МТС абслугоўвала 6 сельсаветаў, 34 населеныя пункты, 26 калга-



саў; усяго 15 975 га зямлі. У 1947 г. ў склад пасялковага Савета ўваходзілі г.п. Гарадзея, вёскі Дольная і Горная Гарадзея, якія пазней аб'ядналіся ў адзін населены пункт. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1998 г. 4,9 тыс. жыхароў, у 2002 г. 4,4 тыс. жыхароў. У 2012 г. — ААТ «Гарадзейскі цукровы камбінат», Нясвіжскі філіял ААТ «Валожынскі льнозавод», ЗАТ «Нясвіж-лён» канцэрна «Беллегпрам», філіял ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (да 2003 г. Нясвіжскае раённае аб'яднанне «Сельгасхімія»), ААТ «ПМК-217», лясніцтва, чыг. станцыя, 2 дамы культуры, 2 б-кі, дапаможная школа-інтэрнат для дзяцей-сірот, 2 сярэднія школы, дзіцячая школа мастацтваў (да 2000 г. муз. школа; з 1980 г. тут працуе Гарадзейскі ўзорны духавы аркестр), кінатэатр, 2 дзіцячыя яслі-сады, аўтакалона, 2 філіялы ААТ «ААБ Беларусбанк», магазіны, аддз. сувязі і ўнутраных спраў, прадпрыемства па забеспячэнні нафтапрадуктамі, хлебапрыёмнае прадпрыемства, 2 рэстараны, аптэка, бальніца, гасцініца, іншыя ўстановы і прадпрыемствы. У цэнтры пасёлка помнік на брацкай магіле 150 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ці памерлі ад ран у 1941—45 гг. (устаноўлены ў 1977 г.). У 2005 г. на ўскраіне пасёлка ўстаноўлены помнік ахвярам фашызму. Помнік архітэктуры — Праабражэнская царква (19 ст.); касцёл Святога Юзафа (адноўлены ў канцы 20 ст.), малітоўны дом хрысціян веры евангельскай (канец 20 ст.).

**ГЕЛАВІЧЫ** (не існуе) — да 23.1. 1998 г. вёска ў Сноўскім с/с. Знаходзілася за 30 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 125 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск.

У 1795 г. фальварак Навагрудскага павета ў Слонімскай, з 1797 г. ў Літ., з 1801 г. ў Гродзенскай, з 1842 г. ў Мінскай губернях; прыватнае ўладанне. У 1870 г. вёска Сноўскай вол., 17 душ мужчынскага полу, і аднайменны маёнтак, уладанне Ю.І.Дзердзяеўскага (у 1876 г. 104 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 67 жыхароў; у маёнтку 12 двароў, 21 жыхар. У 1909 г. вёска, 90 жыхароў; маёнтак, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. фальварак — 10 жыхароў, 2 двары; вёска — 95 жыхароў, 16 двароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагарэльцаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 23 двары, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Адзін вясковец загінуў на фронце. Пасля вайны ў вёсцы арганізаваны калгас «Сталінскі шлях». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. Да 1960 г. Гелавічы ў складзе калгаса імя Чарняхоўскага (цэнтр — в. Пагарэльцы), потым у складзе калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. — у калект. прадпрыемстве «Агракамбінат «Сноў» з 2.12.2002 г. ў СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — в. Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 141 жыхар, у 1970 г. 69 жыхароў.

**ГРУСКОВА** — вёска ў Сноўскім с/с. За 21 км на З ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Баранавічы. 195 гаспадарак, 312 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 119 душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска, 47 двароў, 351 жыхар і млын, 4 жыхары. Побач з вёскай пры гандл. шляху знаходзілася аднайменная сядзіба (3 жыхары). У 1906 г. ў вёсцы быў арганізаваны Сноўскі валасны к-т Мінскай акруговай сял. арг-цыі пры РСДРП. Чл. арг-цыі — сяляне в. Грускова В.П.Хоміч, І.К.Іваноўскі, О.А.Жывень,

Ю.А.Нячай, П.І.Касюль і селянін мяст. Рубяжэвічы М.І.Гайдук. Пасля ад'езду Гайдука арг-цыяй кіраваў В.П.Хоміч. У яго хаце зімой 1906–07 гг. неаднаразова праходзілі сял. сходкі. Пазней праводзіліся патравы памешчыцкіх сенакосаў і збожжа. У вер. 1907 г. паліцыя знайшла ў вёсцы пячатку і праект Статута арг-цыі, арыштавала 13 вяскоўцаў. У 1909 г. ў вёсцы 445 жыхароў, 58 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 80 двароў, 521 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. вёска, 134 двары, 754 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1947 г. ў Грускове працавала школа, у 1949 г. арганізаваны калгас «Сцяг Саветаў». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з 2.12.2002 г. сектара СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр – аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 514 жыхароў, у 1970 г. 461 жыхар. У 1998 г. 126 гаспадарак, 247 жыхароў, у 2001 г. 122 гаспадаркі, 229 жыхароў. У 2012 г. – ваенізаваная пажарная ахова, камбікормавае прадпрыемства, жывёлагадоўчы комплекс «Новы Сноў», будаўнічы ўчастак, збожжасховішча, аўтазаправачная станцыя, магазін.

**ГРЫБАЎШЧЫНА** – вёска ў Ланскім с/с. За 9 км на У ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы–Мінск. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1569 г. фальварак, уладанне Радзівілаў у Навагрудскім ваяв. Пазней разам з іншымі землямі Радзівілы перадалі фальварак ва ўладанне нясвіжскім езуітам. У 1703 г. Грыбаўшчына ў ліку іншых уладанняў ордэна (разам з сёламі Ужанка і Рудаўка) атрымала ахоўную грамату ад нападаў шляхты. У 1775 г. кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей пану Маляўскаму на права валодання фальваркам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. Грыбаўшчына – маёнтак (меліся драўляны панскі дом, вінакурня) і вёска, 21 двор, 157 жыхароў, карчма; шляхецкае ўладанне. У 1870 г. вёска ў Пацейкаўскай вол., 78 душ мужчынскага полу і маёнтак, уладанне Нарушэвіча (140 дзес. зямлі ў 1876 г.). У 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 265 жыхароў, меліся кузня, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска, 201 жыхар, і маёнтак, 17 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 37 двароў, 185 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 229 жыхароў, у былым маёнтку – 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1950-я г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Кірава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. ў Лявонавіцкім сельсаветах. З 23.12.1996 г. на тэр. калект. долевага прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. – ЗАТ «1 Мая» (цэнтр – в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 189 жыхароў, у 1970 г. 143 жыхары. У 1998 г. 33 гаспадаркі, 60 жыха-



роў, у 2001 г. 29 гаспадарак, 48 жыхароў. У 2012 г. — малочна-таварная ферма.

**ГРЫЦКЕВІЧЫ**, Грыцькавічы — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Сноўскім с/с. За 18 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 130 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 239 гаспадарак, 579 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 86 душ мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 48 двароў, 417 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 59 двароў, 477 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. у БССР, з 29.7.1920 г. у Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 91 двор, 486 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Грыцкевіцкага с/с (да пач. 1960-х г. называўся таксама Нялепаўскі). У 1940 г. ў вёсцы 612 жыхароў, 128 двароў, меліся 2 ветраныя млыны, гандлёвая крама, няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. У 1947 г. ў вёсцы працавала хата-чытальня, у 1949 г. арганізаваны калгас «Беларусь». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Беларусь», які ў 1996 г. рэарганізаваны ў калект. долевае прадпрыемства «Беларусь», з 2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Грыцкевічы». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 627 жыхароў, у 1970 г. 549 жыхароў. У 1998 г. 257 двароў, 607 жыхароў, у 2001 г. 242 двары, 574 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Сноўскім с/с. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, сталовая, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», жывёлагадоўчы комплекс, механізаваны двор, піларама, збожжасховішча. Помнік архітэктуры — царква Мікалая Цудатворца (1861). Помнік 62 воінам-землякам з вёсак тэр. б. Грыцкевіцкага с/с.

**ГРЫЦЫ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 19 гаспадарак, 46 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 61 душа мужчынскага полу. У 1897 г. 24 двары, 155 жыхароў. У 1909 г. вёска, 32 двары, 209 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 41 двор, 239 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Грыцкевіцкім (Нялепаўскім) с/с. У 1940 г. ў вёсцы 227 жыхароў, 65 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя Крупскай. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Беларусь», які ў 1996 г. рэарганізаваны ў калект. долевае прадпрыемства «Беларусь», з 2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Грыцкевічы» (цэнтр — аграгарадок Грыцкевічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 214 жыхароў, у 1970 г. 137 жыхароў. У 1998 г. вёска, 31 гаспадарка, 69 жыхароў, у 2001 г. 30 гаспадарак, 70 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сноўскім с/с. На мясц. могілках помнік на магіле 2 воінаў Чырв. Арміі, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (абеліск устаноўлены ў 1964 г.).

**ГУСАКІ**, Казённыя Гусакі — вёска ў Казлоўскім с/с. За 12 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 50 гаспадарак, 87 жыхароў (2012).

У 1742 г. сяло (32 дамы) фальварка Альхоўка Клецкай плябаніі, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 21 двор, 132 жыхары, карчма, уласнасць Клецкай каталіцкай плябаніі. У 1909 г. вёска былых дзярж. сялян у Клецкай вол., 58 двароў, 362 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Клецкай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 65 дамоў, 364 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. в. Казённыя Гусакі, 107 двароў, 457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Шверніка. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1953 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Шверніка (у 1961 г. атрымаў назву «Дружба»), з 20.12.1976 г. ў калгасе «Новае жыццё», з 2.12.1996 г. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 350 жыхароў, у 1970 г. 591 жыхар. У 1998 г. 89 гаспадарак, 152 жыхары, у 2001 г. 78 гаспадарак, 142 жыхары.

**ДЗЯМІДАВІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 13 км на Пд ад Нясвіжа, 125 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Вядома з канца 15 ст. як маёнтак Навагрудскага павета ВКЛ, які вял. кн. літ. Аляксандр надаў Ю.І.Іллінічу. У 1552 г. сяло Клецкага княства, уласнасць каралевы Боны. Жыхары сяла мелі 9 валок і 2 маргі зямлі, з іх на цяглай службе лічылася 7 валок зямлі. З 1558 г. ўладанне Радзівілаў. У 1628 г. вёска Клецкага княства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак (меўся драўляны панскі дом) і вёска, 4 двары, 46 жыхароў, уласнасць Антонія Радзівіла. У 1809 г. ў вёсцы 6 гаспадарак. У 1845 г. Дзямідавічы — маёнтак і вёска, уладанне кн. Льва Радзівіла, уваходзілі у склад Клецкай ардынацыі. Згодна інвентару ў вёсцы было 6 двароў, 42 жыхары. У карыстанні сялян знаходзілася 125 дзес. сядзібнай, ворнай і сенакоснай зямлі. У 1861 г. ў вёсцы 5 двароў, 24 жыхары, 95 дзес. зямлі (4 гаспадаркі мелі ў карыстанні па 20 дзес. зямлі). Адпаведна Устаўной грамаце 1862 г. выкупная сума за сядзібную маёмасць сялян склала 200 сярэбраных рублёў. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 10 двароў, 72 жыхары, у складзе Ланскай вол. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак кн. Радзівіла. У 1909 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся аднайм.: вёска, 14 двароў, 99 жыхароў; маёнтак, 32 жыхары; ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета, вёска, 17 двароў, 98 жыхароў, і фальварак, 4 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. вёска, 26 двароў, 112 жыхароў; асада, 5 жыхароў; былы маёнтак, 2 двары, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.



акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоны партызан». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1960 г. вёска ўваходзіла ў калгас імя Леніна. З 1996 г. на тэр. сельскай калект. гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 131 жыхар, у 1970 г. 105 жыхароў. У 1998 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў, у 2001 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў.

**ДЗЯРЖГАТУНКАЎЧАСТАК** — пасёлак у Нясвіжскім с/с. За 5 км на Пн ад Нясвіжа, 117 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 36 гаспадарак, 104 жыхары (2012).

Створаны ў 1957 г. на тэр. Нясвіжскага с/с як пасёлак Нясвіжскай занальнай дзярж. сортавыпрабавальнай станцыі (да 1990 г. называлася сортаўчастак). Паводле перапісу 1959 г. ў пасёлку 203 жыхары, у 1970 г. 49 жыхароў. У 1998 г. 24 гаспадаркі, 63 жыхары, у 2001 г. 26 гаспадарак, 69 жыхароў.

**ДОЛКІНДЫ**, Долгінты — вёска ў Казлоўскім с/с. За 12 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Баранавічы. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2012).

У 1885 г. в. Долгінты ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 40 двароў, 232 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 38 двароў, 293 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. у БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 52 двары, 319 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 103 двары, 414 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1947 г. працавала школа. У 1950 г. створаны калгас імя Суворава. З 1951 г. вёска ў калгасе «Новае жыццё» (у 1976 г. аб'яднаны з калгасам «Дружба»). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 2.12.1996 г. на тэр. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 365 жыхароў, у 1970 г. 269 жыхароў. У 1998 г. 55 гаспадарак, 81 жыхар, у 2001 г. 51 гаспадарка, 79 жыхароў.



*Капліца на могілках у в. Друцкаўшчызна.*

**ДРУЦКАЎШЧЫЗНА**, Друцкаўшчына — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Сноўскім с/с. За 28 км на З ад Нясвіжа, 111 км ад Мінска, 3 км ад чыг. прыпынку Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 190 гаспадарак, 471 жыхар (2012).

У 1876 г. маёнтак Друцкаўшчызна (у 1870 г. 98 душ мужчынскага полу) і вёска, спадчыннае ўладанне А.І.Слізня (у 1870 г. 535 дзес. зямлі); у Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 246 жыхароў, хлебазапасны магазін; у маёнтку 1 двор (9 будынкаў), 32 жыхары, праваслаўная капліца. За 2 вярсты ад маёнтка знаходзілася чыг. ст. Пагарэльцы, каля якой праходзіў гандлёвы шлях Сноў—Стваловічы. У 1909 г. вёска, 36 двароў, 334 жыхары, маёнтак, 30 жыхароў (у 1914 г. 242 дзес. зямлі, уладанне І.А.Слізня).




*Царква Казанскай іконы Маці Божай у в. Друцкаўшчызна.*



У 1912—16 гг. у вёсцы працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Снoўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 48 двароў, 303 жыхары і фальварак, 3 двары, 28 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагарэльцаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 110 двароў, 357 жыхароў; у жн. 1940 г. на месцы былога маёнтка створаны калгас імя Жданава, якому былі перададзены ўсе жылыя і гасп. будынкі маёнтка, а таксама жывёла (4 кані, 10 галоў буйной рагатай жывёлы, 20 галоў маладняка, 9 авечак і г.д.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Хрушчова. З 8.1.1954 г. вёска ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. З сак. 1959 г. вёска — цэнтр саўгаса «Друцкаўшчызна» (на 1.1.1998 г. ўключаў 1 населены пункт), які ў 2000 г. рэарганізаваны ў РУП «Насенняводчы саўгас «Друцкаўшчызна». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 313 жыхароў, у саўгасе — 147 жыхароў. У 1970 г. ў вёсцы 513 жыхароў. У 1998 г. 184 гаспадаркі, 435 жыхароў, у 2001 г. 177 гаспадарак, 448 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. паштовай сувязі, магазін, збожжасховішча, бульбасховішча, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, гараж, 2 жывёлагадоўчыя фермы. Капліца сярэдзіны 19 ст. на могілках. Царква Казанскай іконы Маці Божай (2005).

**ДУБЕЙКІ** (да 12.11.1966 г. — Вялікія Дубейкі і Малыя Дубейкі) — вёска ў Ланскім с/с. За 9 км на ПдУ ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 33 гаспадаркі, 55 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. як в. Дубейкі ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1587 г. Ганна Радзівіл (з Кішкаў) купіла вёску. У 1722 г. засценак Дубейкі Вялікія Нясвіжскага княства (уласнасць Радзівілаў) быў перададзены Жалязоўскаму, Давыдоўскаму, Цвіркам і іншым на права ваеннай службы. У 1746 г. вёска, 27 дымоў, у складзе маёнтка Качановічы, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1798 г. фальварак (меліся жылы дом, гасп. пабудовы) і вёска (4 дымы). У пісьмовых крыніцах 19 ст. сустракаюцца звесткі пра фальваркі і вёскі Дубейкі, Вялікія і Малыя Дубейкі. У 1800 г. Вялікія Дубейкі — фальварак (драўляны панскі дом, гасп. пабудовы) і вёска, 7 жыхароў, шляхецкае ўладанне. У 1811 г. фальварак Дубейкі Малыя Нясвіжскай ардынацыі, знаходзіўся ў арэндзе. У 1818 г. тут размяшчаліся панскі дом, свіран, гумно, бровар, студня, агароды;



у в. Дубейкі Малыя, якая ўваходзіла ў склад фальварка, 5 дымоў, 42 жыхары. У 1834 г. в. Дубейкі аднайменнага фальварка налічвала 6 двароў, 30 жыхароў. У 1843 г. ў в. Малыя Дубейкі 6 дымоў, 48 жыхароў. У 1861 г. ў фальварку Вялікія Дубейкі 39 двароў. У 1870 г. Дубейкі — вёска, 70 душ мужчынскага полу, і маёнтак, уладанне Радзівілаў, у Пацейкаўскай вол. У 1876 г. Радзівілам у раёне сучаснай вёскі належалі маёнтак (137 дзес. зямлі) і засценак Дубейкі (433 дзес. зямлі), маёнтак Дубейкі Вялікія, 394 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. Дубейкі — вёска, 16 двароў, 81 жыхар. У 1909 г. ў Пацейкаўскай вол. месціся в. Дубейкі Малыя, 13 двароў, 93 жыхары; засценак Дубейкі, 56 двароў, 267 жыхароў і фальварак Дубейкі, 1 двор, 9 жыхароў. У 1916 г. ў вёсцы працавала аднакласнае нар. вучылішча. У Першую сусветную вайну Дубейкі, як і ўся Нясвіжчына, з 1915 г. знаходзіліся ў прыфрантавой паласе. У снеж. 1917 г. тут адбыўся мітынг сялян і салдат 6-га палка Уральскай дывізіі. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. в. Дубейкі Малыя, 15 двароў, 86 жыхароў, засценак Дубейкі Вялікія, 65 двароў, 336 жыхароў і фальварак Дубейкі Малыя, 2 двары, 14 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім раёне, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. вёскі: Вялікія Дубейкі, 65 двароў, 337 жыхароў, Малыя Дубейкі, 85 жыхароў, былы фальварак Малыя Дубейкі, 9 двароў, 28 жыхароў. Працавала няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёскі акупіраваны ням-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. цэнтр Дубейкаўскага с/с, з 27.7.1971 г. ў Лявонавіцкім с/с. 12.11.1966 г. вёскі Вялікія і Малыя Дубейкі аб'яднаны ў адзін населены пункт — в. Дубейкі. З сак. 1980 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (раней уваходзіла ў калгас імя Кірава), які 23.12.1996 г. рэарганізаваны ў калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікія Дубейкі 262 жыхары, у в. Малыя Дубейкі 98 жыхароў; у 1970 г. 250 жыхароў. У 1998 г. 53 гаспадаркі, 95 жыхароў, у 2001 г. 52 гаспадаркі, 93 жыхары. У 2012 г. — жывёлагадоўчы комплекс і малочна-таварная ферма. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с.

**ЕСЬКАВІЧЫ** — вёска ў Ліпскім с/с. За 10 км на З ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 106 гаспадарак, 178 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1552 г. сяло Клецкага княства ВКЛ, уладанне каралевы Боны, 13 валок зямлі, 11 двароў. У 1605 г. сяло, 33 валокі зямлі, 36 двароў, у складзе маёнтка Малева, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім павеце. У 1767 г. вёска, 47 дымоў; у 1777 г. 48 дымоў; у 1784 г. 37 дымоў, 233 жыхары. У 1792 г. вёска таго ж маёнтка, 47 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1850 г. ў вёсцы (уваходзіла ў склад маёнтка Малева) пражывала 36 сем'яў, у 1881 г. побач з вёскай знаходзілася карчма. Паводле перапісу 1897 г. Еськавічы ў Ланскай вол., 83 двары, 498 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 105 двароў, 624 жыхары; у 1916 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З

1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 110 двароў, 614 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 194 двары, 825 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ноч з 4 на 5 жн. 1942 г. ў лесе, за 0,5 км на Пд ад вёскі, гітлераўскія карнікі расстралялі каля 80 жыхароў Нясвіжскага р-на (у 1962 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск). 28 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Маладая гвардыя», які ў 1950 г. налічваў 40 гаспадарак. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «17 Верасня». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 30.12.1996 г. калгас рэарганізаваны ў калект. с.-г. прадпрыемства, з 16.7.2003 г. СВК, з 2.3.2011 г. ААТ «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 716 жыхароў, у 1970 г. 659 жыхароў. У 1998 г. 161 гаспадарка, 313 жыхароў, у 2001 г. 157 гаспадарак, 299 жыхароў. У 2012 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін.

**ЖАНКАВІЧЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с. За 11 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Баранавічы. 52 гаспадаркі, 99 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 31 душа мужчынскага полу. У 1897 г. 29 двароў, 163 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 33 двары, 215 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета, вёска, 34 двары, 187 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 65 двароў, 304 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1950 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна» (24 гаспадаркі), які пазней увайшоў у калгас «Новае жыццё» (у 1976 г. далучыўся калгас «Дружба»). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 2.12.1996 г. гаспадарка зарэгістравана як ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — в. Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 358 жыхароў, у 1970 г. 273 жыхары. У 1998 г. 75 гаспадарак, 153 жыхары, у 2001 г. 72 гаспадаркі, 136 жыхароў. У 2012 г. — магазін, жывёлагадоўчая ферма.

**ЗААЗЕР'Е** — вёска (з 2005 г. аграгарадок) у Нясвіжскім с/с. За 1 км на ПнУ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Стоўбцы. 492 гаспадаркі, 1277 жыхароў (2013).

У 1876 г. на месцы вёскі знаходзіўся маёнтак, 64 дзес. зямлі, уладанне Радзівілаў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1892 г. фальварак, у якім згодна з інвентаром меліся дамы аканома і садоўніка (пабудаваны ў 1890 г.), пуня, памяшканне для збожжа, 2 свірны, стайня, хлеў, птушнік, ляднік, некалькі складоў і нават памяшканне для лебедзяў (пабудавана ў 1893 г.). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Нясвіжскім павеце, фальварак, 5 двароў, 123 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. 31.12.1940 г. ўключаны ў мяжу г. Нясвіж. У 1940 г. ў былым фальварку 115 жыхароў, меліся аранжарэя, вял. фрук-



…ны сад, цяплічная гаспадарка (вырошчвалі вінаград, персікі, абрыкосы, сартавую агародніну, у т.л. баклажаны). У 1940 г. на базе залежаў торфу (40 га) былога маёнтка Заазер'е арганізаваны аднайменны торфазавод; у складзе Ганусаўскай с.-г. доследнай станцыі быў створаны ўчастак «Заазер'е» (пл. 91,49 га). Асн. галіной вытв-сці ўчастка з'яўляліся вырошчванне цяплічна-парніковых раслін, агародніцтва і кветкаводства. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 воіны землякі загінулі на франтах. З ліп. 1944 г. ў Сейлавіцкім с/с, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. вёска ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», якой у 1983 г. дадаткова перададзены 63,8 га зямель саўгаса «Гарадзейскі» (створаны на базе калгасаў імя Маякоўскага, імя Кутузава, імя Жданава і эксперыментальнай базы пры Ганусаўскай доследнай станцыі). 28.3.2001 г. гаспадарка перарэгістравана як РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» з цэнтрам у в. Заазер'е (17.5.2012 г. далучана да ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс»). На тэр. сучаснага аграгарадка таксама знаходзяцца землі РУП «Доследная навуковая станцыя па цукровых бураках» (створана пры рэарганізацыі Ганусаўскай с.-г. доследнай станцыі, да 1959 г. доследна-селекцыйная станцыя па цукровых бураках, з 1986 г. — Бел. занальная доследная станцыя па цукровых бураках рэсп. НВА «Буракі» Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 137 жыхароў, у 1970 г. 392 жыхары. У 1998 г. 415 гаспадарак, 1081 жыхар, у 2001 г. 413 гаспадарак, 1050 жыхароў. У 2012 г. — клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, збожжасховішча, піларама, цяпліца, майстэрні, вагавая база. Помнік архітэктуры — сядзібны драўляны дом 19 ст. (захаваўся часткова).

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 106 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 25 гаспадарак, 55 жыхароў (2012).

У 1686 г. вёска фальварка Лысіцы Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уладанне Лыскевічаў. У 1729 г. ў Нясвіжскім княстве, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў, з 1861 г. ў Гарадзейскай вол. У 1862 г. вёска маёнтка Лысіцы, уладанне П.Л.Вітгенштэйна, 19 гаспадарак, 72 селяніны, якія мелі ў сваім карыстанні 188 дзес. 1095 сажняў зямлі. У 1889 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 28 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 36 двароў, 205 жыхароў. Сял. пабудовы размяшчаліся сумежна з памешчыцкім маёнткам і сядзібай псаломшчыка Лысіцкай царквы (4 жыхары). У 1909 г. вёска, 42 двары, 261 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 56 двароў, 299 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лысіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 75 двароў, 334 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 12.8.1970 г. ў Гарадзейскім с/с. З 1959 г. вёска ў складзе саўгаса «Гарадзейскі», які ў 1991 г. рэарганізаваны ў племкалгас «Гарадзейскі», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», З 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок

Навагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 252 жыхары, у 1970 г. 219 жыхароў. У 1998 г. 38 гаспадарак, 80 жыхароў, у 2001 г. 45 гаспадарак, 81 жыхар. Вёска — радзіма бел. правазнаўца, дзярж. дзеяча Беларусі А.М.Абрамовіча (н. 10.4.1944).

**ЗАВІТАЯ** (да 12.11.1966 г. — Завітая 1 і Завітая 2) — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 8 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 104 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Наваградак. 115 гаспадарак, 289 жыхароў (2012).

У 1894 г. асада Завітая ў Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся аднайменныя: 3 лясныя вартоўні (13 жыхароў) і 2 жылыя памяшканні ва ўрочышчы Завітая (12 жыхароў). У 1909 г. ўрочышча, 63 двары, 201 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёскі Завітая 1 (53 двары, 290 жыхароў) і Завітая 2 (26 двароў, 130 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Квачэўскім с/с. У 1940 г. 2 вёскі: Завітая 1 (76 двароў, 395 жыхароў) і Завітая 2 (64 двары, 241 жыхар); у абедзвюх працавалі пач. школы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. ў в. Завітая 1 створаны калгас імя Я.Купалы, у вер. 1950 г. ў в. Завітая 2 — калгас «Сталінскі шлях» (55 гаспадарак). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ліпскім, з 31.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім, з 9.8.1960 г. ў Гарадзейскім сельсаветах. 12.11.1966 г. 2 вёскі былі аб'яднаны ў адзін населены пункт. З 21.4.1959 г. ў складзе саўгаса «Гарадзейскі», з 6.1.1964 г. ў саўгасе «Буракаводчы», з 15.4.1994 г. эксперыментальная база «Буракаводчая», з 1.3.2001 г. РУП, з 2012 дзярж. прадпрыемства «Эксперыментальная база «Буракаводчая» (цэнтр — пас. Ударны). Паводле перапісу 1959 г. вёскі Завітая 1 і Завітая 2, адпаведна 398 і 289 жыхароў, у 1970 г. ў в. Завітая 563 жыхары. У 1998 г. 136 гаспадарак, 315 жыхароў, у 2001 г. 133 гаспадаркі, 316 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма, газазаправачная станцыя, база адпачынку «Завітая» (5 км ад Нясвіжа).

**ЗАВУШША** — вёска ў Ліпскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 102 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 14 гаспадарак, 21 жыхар (2012).

У 1676 г. фальварак (уваходзілі вёскі Завушша, Квачы, Круты Бераг) у Навагрудскім павеце ВКЛ, уладанне Радзівілаў. У 1741 г. ў в. Завушша 9 дымоў. У 1769 г. фальварак разам з вёскамі адышоў да Ігнація Мараўскага, небагатага шляхціца, што вызначыўся мужнасцю ў бітве пад Слонімам у 1764 г. (паміж групоўкамі Станіслава Аўгуста Панятоўскага пры дапамозе рас. войск і гетмана Я.К.Браніцкага) і яго жонкі Тэафіліі, любімай сястры Караля Радзівіла («Пане Каханку»), якая разам з братам удзельнічала ў гэтай бітве і закахалася ў адважнага героя (пра гэту гісторыю згадаў у сваёй кнізе «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У.Сыракомля). У вер. 1785 г. кароль Станіслаў Аўгуст, які гасціў у Нясвіжы, наведаў у фальварку легендарную «рыцарскую дзяўчыну». Існуе паданне, што пазней, у 1818 г., княгіню Тэафілю Мараўскую з роду Радзівілаў наведаў імператар Аляксандр І. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г.



ін., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1811 г. фальварак знаходзіўся ў пажыццёвай арэндзе ген. Мараўскага. З 1857 г. Завушша — спадчыннае ўладанне Пятра Львовіча Вітгенштэйна (сын Л.П.Вітгенштэйна і Стэфаніі Радзівіл, дачкі кн. Дамініка), а пасля яго смерці ў 1887 г. — уладанне яго сястры Марыі Гагенлоэ (па мужу кн. Х.К.В.Гагенлоэ). У 1857 г. у маёнтку 4597 дзес. зямлі, працавалі млын, сукнавальня. У 1862 г. была складзена Устаўная грамата маёнтка (5 дваровых людзей, 3 вёскі). У 1876 г. ў склад маёнтка ўваходзілі фальваркі Завушша, Ліпка і Копінец (Авульс Копінец), таксама пустошныя землі па вёсках Круты Бераг, Квачы, (Саская) Ліпка, вадзяны млын на р. Уша, карчма і заезны дом на дарозе на Нясвіж, карчма і заезны дом Тарасінка пры паштовым шляху з Нясвіжа на Свержань, 3 шынкі (вёскі Круты Бераг, Квачы, Ліпка Саская), мураваная капліца са званіцай (1736), англійскі парк, пладовы сад, аранжарэя. Непасрэдна ў фальварку Завушша 908 дзес. зямлі, знаходзіліся жылы дом (1779), 3 флігелі (1870—73), дом аканома (1801), дом для парабкаў (1859), вадзяны млын (1857) з домам млынара, палюш (1870), вяндлярня, птушнік, стайні, кузня (1869) і шмат іншых гасп. пабудоў (1790—1870). У 1890 г. маёнтак разам з фальваркам купіў К.Гартынг (з 1877 г. ён трымаў маёнтак у арэндзе). Паводле перапісу 1897 г. маёнтак, 30 двароў, 77 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, капліца, і аднайменны фальварак, 4 двары, 7 жыхароў (уладанне памешчыка Булгака). У 1909 г. ў маёнтку Гартынга 2 двары, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 16 двароў, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Квачэўскім с/с. У 1940 г. 14 двароў, 111 жыхароў. У крас. 1940 г. на базе былога маёнтка Завушша ўтвораны калгас «Чырвоны бераг», да якога адышлі вадзяны млын, жывёла і пабудовы былых маёнткаў Завушша і Быхаўшчына, с.-г. інвентар з маёнтка Саска Ліпка. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 воіны-землякі загінулі на франтах. У 1944 г., адразу пасля вызвалення ад гітлераўцаў, быў адноўлены даваенны калгас (394,41 га зямлі, 32 гаспадаркі, 92 калгаснікі). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ліпскім с/с. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Някрасава, з 1959 г. ў калгасе «17 Верасня», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа), з 2.3.2011 г. ААТ «17 верасня». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 190 жыхароў, у 1970 г. 139 жыхароў. У 1998 г. 30 гаспадарак, 54 жыхары, у 2001 г. 26 гаспадарак, 44 жыхары. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма. Недалёка ад вёскі, на беразе р. Уша, каля шашы, што вядзе да Нясвіжа, захаваліся свіран і лямус, мураваная капліца і млын, часткова парк былой сядзібы 19 ст.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 104 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. Прымыкае да в. Маляўшчына. 31 гаспадарка, 61 жыхар (2012).

У 1888 г. маёнтак у Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 350 дзес. зямлі, млын, уладанне А.С.Марцынкевіча і ўчастак Зарэчча-Маляўшчына, 4 дзес. зямлі, уладанне селяніна М.К.Фёдарава. У в. Зарэчча ў 1909 г. 57 дамоў, 359 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г.





і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 76 двароў, 389 жыхароў, і аднайменны фальварак, 6 двароў, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Гарадзейскім с/с. У 1940 г. ў в. Зарэчча, суседніх вёсцы і асадзе Маляўшчына 176 двароў, 820 жыхароў, меліся пач. школа, арганізаваны калгас імя Варашылава, якому перадалі пабудовы з Маляўшчыны, Зарэчча і фальварка Аколава. У Вял. Айч. вайну в. Зарэчча з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У студз. 1950 г. ў вёсцы ўтвораны новы калгас імя Варашылава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 6.1.1964 г. вёска ўвайшла ў склад саўгаса «Буракаводчы», з 15.4.1994 г. эксперыментальная база «Буракаводчая», з 1.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Буракаводчая» (цэнтр — аграгарадок Ударны). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 461 жыхар, у 1970 г. 246 жыхароў. У 1998 г. 51 гаспадарка, 93 жыхары, у 2001 г. 48 гаспадарак, 90 жыхароў.

**ЗАТУР'Я** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 7 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 119 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля р. Тур'я (прыток р. Нёман). 198 гаспадарак, 485 жыхароў (2012).

У 1586—87 гг. фальварак, які Мікалай Крыштоф Радзівіл купіў у Івана Іванавіча Солтана, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1595 г. фальварак і сяло, 41 валока зямлі, 44 дымы, млын. У 1614 г. ў сяле 75 дымоў, у 1650 г. 100 дымоў, у 1692 г. 65 дымоў. У 1748 г. Міхал Казімір Радзівіл выдаў прывілей шляхце на засценак Затур'я. У 1764 г. вёска ў Нясвіжскім княстве, уладанне Радзівілаў. У 1793 г. вёска фальварка Дыампаль (Дыямпаль), 50 дымоў, 237 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 69 двароў, 340 жыхароў, карчма, млын. У 1812 г. разам з фальваркам Дыямпаль в. Затур'я ў арэндзе ў Стрыневіча (145 душ мужчынскага полу). У 1876 г. Затур'я — засценак, 429 дзес. зямлі (у 1845 г. 28 двароў, 170 жыхароў), уладанне А.В.Радзівіла, і вёска, 160 душ мужчынскага полу (1870), у Гавязнянскай вол. У 1884 г. ў вёсцы адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 18 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 107 двароў, 507 жыхароў, ветраны млын, кузня, майстэрня, хлебазапасны магазін. Побач знаходзіўся аднайменны засценак. У 1909 г. ў вёсцы 61 двор, 508 жыхароў, у засценку 70 двароў, 533 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 143 двары, 719 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Юшавіцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 165 двароў, 825 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 9 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас «Слава» (155 гаспадарак). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. да 1986 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса «Слава» (у 1978 г. аб'яднаны з калгасам «Зара»). З 1996 г. на тэр. калект. с.-г. долевай гаспадаркі «Слава», з 2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Юшавічы» (цэнтр — аграгарадок Юшавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 788 жыхароў, у 1970 г. 815 жыхароў. У 1998 г. 222



гаспадаркі, 572 жыхары, у 2001 г. 221 гаспадарка, 542 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 2012 г. — Дом культуры, вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа—дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, жывёлагадоўчая ферма, рамонтныя майстэрні, гараж, сушыльны комплекс, 2 магазіны. Праваслаўная капліца на могілках (канец 20 ст.).

**ІВАНАВА** — вёска ў Ланскім с/с. За 12 км на Пд ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2012).

У 1628 г. вёска, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак (меўся драўляны панскі дом) і вёска, 14 двароў, 59 жыхароў, уладанні Радзівілаў. У 1845 г. вёска радзівілаўскага маёнтка Космавічы, 44 жыхары; у 1850 г. 4 гаспадаркі, 34 жыхары. У 1862 г. згодна з Устаўной граматай маёнтка Космавічы ў вёсцы 4 гаспадаркі, 16 сялян, 80 дзес. зямлі ў іх карыстанні. У 1876 г. побач з вёскай знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі: 40 і 10 дзес. зямлі, уладанні дваран татарскага паходжання А.І.Карыцкага і А.Я.Александровіча (1886). У 1881 г. вёска, 15 асад і 2 фальваркі, у Ланскай вол. У 1888 г. каля вёскі месціліся 7 фальваркаў Іванава. Сярод іх уладальнікаў 5 былі татарскага паходжання: Абрагімовічы (70 дзес. зямлі), Сафарэвіч (70 дзес. зямлі), Смольская (20 дзес. зямлі), Сабанеўскія (40 дзес. зямлі), Халімбек (43 дзес. зямлі). Сяляне Лукашэвічы мелі 86 дзес. зямлі, а мешчанін Шыманоўскі 7. У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 268 жыхароў, у 1909 г. 45 двароў, 303 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 70 двароў, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1948 г. арганізаваны калгас «Перамога», які на пач. 1949 г. налічваў 57 гаспадарак, 403 га зямлі, млын, 9 малатараняў, 3 культыватары, 45 плугоў, стайню (42 коні). Калгас абслугоўваўся Нясвіжскай МТС. У 1950-я г. калгас «Перамога» ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Чырвоны партызан». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 10.2.1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (у ліст. 1982 г. аб'яднаны з калгасам «Ленінскі шлях»). З 1996 г. на тэр. сельскай калект. гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 262 жыхары, у 1970 г. 181 жыхар. У 1998 г. 42 двары, 69 жыхароў, у 2001 г. 39 двароў, 62 жыхары.

**КАЗЛЫ** — вёска, цэнтр Казлоўскага с/с. За 14 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 130 гаспадарак, 282 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 90 душ мужчынскага полу. У 1882 г. ў вёсцы (іншая назва — Высокія Малаеды) 13 асад. У 1897 г. 41 двор, 250 жыхароў, у 1909 г. 40 двароў, 301 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскай губ., вёска, 56 двароў, 312 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай





вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета. У 1940 г. 85 двароў, 422 жыхары, у 1941 г. працавала хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў баях з гітлераўцамі і ў партыз. барацьбе загінулі 60 землякоў з населеных пунктаў тэр. і сельсавета. У крас. 1949 г. ў вёсцы адкрыты ветзаапункт, які абслугоўваў Нялепаўскі, Казлоўскі і Быхаўшчынскі сельсаветы. У жн. 1950 г. створаны калгас «Уперад да камунізму». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1953 г. вёска ў складзе калгаса імя Шверніка (у 1961 г. перайменаваны ў калгас «Дружба»). З 20.12.1976 г. ў калгасе «Новае жыццё» (аб'яднаны з калгасам «Дружба»), з 2.12.1996 г. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. вёска, цэнтр сельсавета, 420 жыхароў, у 1970 г. 429 жыхароў. У 1998 г. 158 гаспадарак, 339 жыхароў, у 2001 г. 141 гаспадарка, 319 жыхароў. У 2012 г. — клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, гараж, майстэрні, трактарны двор, піларама, малочна-таварная і свінатаварная фермы. Стэла на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял.Айч. вайну.

**КАМЕНКА** — вёска ў Казлоўскім с/с. За 17 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 129 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Сноўка (прыток р. Уша). 33 гаспадаркі, 44 жыхары (2012).

У 1870 г. Каменка — вёска, 127 душ мужчынскага полу, і маёнтак, уладанне С.І.Грыневіч, у Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. У 1881 г. ў вёсцы 31 асада. У 1888 г. побач з вёскай знаходзіліся 6 прыватных уладанняў: 5 маёнткаў Каменка — С.І.Арлоўскай (138 дзес. зямлі), селяніна М.С.Рутkоўскага ($9^2/_3$ дзес. зямлі), К.І.Стржалка ($70^2/_3$ дзес. зямлі), С.І.Грыневіч (138 дзес. зямлі, карчма, ветраны млын, з 1893 г. вінакурня), В.С.Давыдоўскай (50 дзес. зямлі, спадчына з 1897 г.). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 334 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска, 56 двароў, 400 жыхароў; фальварак Каменка-Яленшчына, 18 двароў; маёнтак Каменка Стасевіча, 12 жыхароў; маёнтак Каменка Наруцэўская, 50 жыхароў; 3 фальваркі Каменка: Давыдоўскага (20 жыхароў), Медушэўскага (12 жыхароў), Чэчат (18 жыхароў). У 1912—16 гг. у вёсцы працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскай губ., вёска, 92 двары, 528 жыхароў, і фальваркі: Каменка 1 (7 двароў, 71 жыхар), Каменка 2 (5 двароў, 31 жыхар), Каменка 3 (3 двары, 29 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Грыцкевіцкім (Нялепаўскім) с/с. У 1940 г. вёска, 188 двароў, 676 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 36 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У ліст. 1949 г. на базе будынкаў былой сядзібы «Каменка» арганізавана Каменская МТС. У сак. 1950 г. ў вёсцы ўтвораны калгас імя Булганіна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Казлоўскім с/с. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Новае жыццё» (4 вёскі; 20.12.1976 г. далучаны калгас «Дружба»), з 2.12.1996 г. рэарганізаваны ў ААТ «Новае жыццё» (цэнтр аграгарадок — Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 712 жыхароў, у 1970 г. вёска, 584 жыхары, і пасёлак, 30 жыхароў. У 1998 г. вёска, 74 гаспадаркі, 140 жыхароў, у 2001 г. 70 гаспадарак, 120 жыхароў. Вёска — радзіма бел. паэта, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі 1984 У.А.Марука (н. 19.9.1938).



**КАРАЛІНА**, Каралін — вёска у Нясвіжскім с/с. За 1,5 км на ПнУ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 15,5 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Асіповічы, на р. Уша (прыток р. Нёман). 101 гаспадарка, 253 жыхары (2012).

У 1787 г. фальварак, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. Тут знаходзіліся бровар, жылы дом, студня, валоўнік, гумно, стайня і іншыя гасп. пабудовы, агароды. У 1793 г. ў склад фальварка ўваходзіла в. Слаўкава, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1818 г. ў фальварку 134 душы сялян (1814), жылы дом, 4 гумны, пякарня, склеп, бровар, хлеў, 2 студні, карчма (у в. Слаўкава), сельскі магазін. У 1830 г. згодна з інвентаром у фальварку меліся таксама конны млын і сушнік. У 1839 г. фальварак налічваў 18 дымоў; у 1849 г. 44 дымы, 143 жыхары. У 1876 г. маёнтак, 361 дзес. зямлі, карчма, уладанне Радзівілаў. У 1897 г. 1 двор, 27 жыхароў, у Гавязнянскай вол. У 1899 г. ў Караліне (уладанне Радзівілаў) меліся жылы дом (у 1903 г. пабудаваны новы), гасп. склад, хлеў, гумно, 2 свірны, стайня, пладовы сад, усяго 90 дзес. 1042 сажні зямлі. У 1907—13 гг. у маёнтку працавала вінакурня, 8 рабочых (1908). У 1909 г. маёнтак, 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. у Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. фальварак, 74 жыхары. У кастр. 1940 г. у былым маёнтку Каралін быў арганізаваны торфазавод і пачаты торфараспрацоўкі (торфазалежы маёнтка складалі 200 га). 7.10.1940 г. ў складзе Ганусаўскай с.-г. доследнай станцыі арганізаваны ўчастак «Каралін» (пл. 231,12 га). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1948 г. торфазаводу «Караліна», які аднавіў сваю дзейнасць пасля Вял. Айч. вайны, перададзены 22 га торфамасіву ўрочышча Друцкаўшчына. З 8.1.1954 г. в. Караліна ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. вёска на тэр. эксперыментальнай базы «Ганусава» (з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава»; цэнтр — в. Заазер'е). 12.11.1966 г. в. Караліна і пас. аднайменнага торфазавода аб'яднаны ў адзін населены пункт. З 17.5.2012 г. на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 167 жыхароў, у 1970 г. 206 жыхароў. У 1998 г. 116 гаспадарак, 265 жыхароў, у 2001 г. 111 гаспадарак, 289 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма, філіял па здабычы торфу і вытв-сці торфапрадукцыі «Нясвіжскі» ААТ «Старобінскі торфабрыкетны завод».

**КАРЦЭВІЧЫ**, Карцова — вёска (з 2013 г. аграгарадок) у Нясвіжскім с/с. За 6 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 118 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 120 гаспадарак, 305 жыхароў (2012).

У 1605 г. сяло маёнтка Малева, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, 30 валок зямлі, 41 гаспадарка. У 1744 г. вёска, уладанне езуітаў, якія перадалі кіраванне паселішчам шляхціцу Калепінскаму (вызначыўся асаблівай жорсткасцю ў адносінах да сялян). У 1767 г. ў вёсцы 24 дымы, у 1777 г. 22 дымы, у 1784 г. 20 дымоў, 107 жыхароў, у 1792 г. мелася карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. 15 двароў, 119 жыхароў, уладанне І.Радзівіла. У

1850 г. вёска маёнтка Малева, 18 сем'яў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Ланскай вол., 52 двары, 313 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 63 двары, 396 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 70 двароў, 372 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. ў вёсцы 98 двароў, 454 жыхары, працавалі 2 прыватныя маторныя млыны, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя Мічурына. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. СВК «Карцэвічы»; цэнтр — в. Саска Ліпка, з ліп. 2004 г. ў межах тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 507 жыхароў, у 1970 г. 447 жыхароў. У 1998 г. 129 гаспадарак, 278 жыхароў, у 2001 г. 128 гаспадарак, 260 жыхароў. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, жывёлагадоўчая ферма, збожжасховішча. З 1.7.2013 г. ў Нясвіжскім с/с.

**КАСМОВІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 11 км на Пд ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 54 гаспадаркі, 86 жыхароў (2012).

У 1552 г. Касмовічы — сяло каля дарогі Клецк—Нясвіж, у Клецкім княстве ВКЛ, уласнасць каралевы Боны. Сярод жыхароў акрамя сялян былі замкавы ключнік і татары, якія лічыліся на службе ў Клецкім замку. Усяго татарскіх зямель у Касмовічах было звыш 4 валок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак (меўся драўляны панскі дом) і вёска, 9 двароў, 49 жыхароў, у Клецкай ардынацыі (да 1874 г.) Радзівілаў. У 1845 г. маёнтак (90 жыхароў, 12 двароў) і в. Касмовічы (61 жыхар). У 1850 г. ў вёсцы 68 жыхароў. У 1862 г. згодна з Устаўной граматай у вёсцы 8 гаспадарак, 37 сялян і 160 дзес. зямлі ў іх карыстанні. З 1874 г. маёнтак, 585 дзес. зямлі, уваходзіў у Нясвіжскую ардынацыю Радзівілаў, здаваўся у арэнду; у вёсцы ў 1882 г. 8 асад. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя маёнтак (4 двары, 35 жыхароў), вёска (19 двароў, 145 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 5 жыхароў), у Ланскай вол. У 1909 г. ў маёнтку 46 жыхароў, у вёсцы 30 двароў, 201 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 6 двароў, 34 жыхары, і вёска, 34 двары, 183 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. вёска, 46 двароў, 239 жыхароў, фальварак і асада, 16 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах. У чэрв. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «1 Мая». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ланскім с/с. З 10.12.1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (у 1982 г. аб'яднаны з калгасам «Ленінскі шлях»). З 1996 г. на тэр. калект. с.-г. гаспадаркі «Лань» (з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж»; цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 340 жыхароў, у 1970 г. 320 жыха-



роў. У 1998 г. 87 гаспадарак, 174 жыхары, у 2001 г. 83 гаспадаркі, 131 жыхар. У 2012 г. — бібліятэка-клуб.

**КАЧАНОВІЧЫ**, Качанаўшчызна (да 1966 г. — Качановічы 1 і Качановічы 2) — вёска ў Ланскім с/с. За 4 км на ПдУ ад Нясвіжа, 116 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 82 гаспадаркі, 137 жыхароў (2012).

У 1492 г. вёска Нясвіжскага маёнтка, уладанне Неміровіча ў Віленскім, з 1507 г. ў Навагрудскім ваяводствах ВКЛ. У 1526 г. Ганна Радзівіл (з Кішкаў, дачка Яна I Барадатага) купіла землі ў Качановічах у братоў Мікіцічаў-Сачковічаў. У 1717 г. маёнтак Радзівілаў. У 1764 г. засценак Качанаўшчызна, у Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1791 г. в. Качановічы (адносілася да фальварка Фербекава) 2 дымы, у 1795 г. 17 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 10 двароў, 60 жыхароў, драўляная ўніяцкая царква Пятра і Паўла, і засценак, 45 двароў, 264 жыхары. У 1811 г. вёска, 10 гаспадарак, 40 душ мужчынскага полу, уладанне Радзівілаў. У 1814 г. ў межах фальварка Зарочча, у арэндзе ў Б.Навіцкага. У 1844 г. 2 вёскі: Качановічы, 6 гаспадарак, 31 жыхар, і Качанаўшчызна, 80 жыхароў, 5 дваровых сялян. У 1858 г. в. Качанаўшчызна, 34 жыхары, і маёнтак Качановічы, 48 двароў, 330 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У 1861 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі 2 засценкі: Качановічы 1, 22 гаспадаркі (507 дзес. зямлі у 1876 г.) і Качановічы 2, 33 гаспадаркі ([illegible]99 дзес. зямлі ў 1876 г.), уладанні Радзівілаў. У 1881 г. 2 аднайменныя вёскі 10 і 26 асад, у Ланскай вол. У 1909 г. в. Качановічы, 64 двары, 262 жыхары, у 1916 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; асада, 8 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Качановіцкага с/с. У 1940 г. вёска, 90 двароў, 481 жыхар, і былы засценак, 60 двароў, 208 жыхароў; у вёсцы працавала пач. школа, 2 прыватныя ветраныя млыны, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 21 вясковец загінуў у баях з ворагамі ці прапаў без вестак на франтах. Да 1959 г. вёскі ўваходзілі ў склад калгаса імя Пушкіна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 9.8.1960 г. ў Ланскім сельсаветах. 12.11.1966 г. 2 вёскі аб'яднаны ў адзін населены пункт. З 1959 г. ў калгасе «Ленінскі шлях» (у 1982 г. зліўся з калгасам імя Леніна). З 1992 г. на тэр. калект. с.-г. гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсках Качановічы 1 і Качановічы 2 адпаведна 273 і 172 жыхары, у 1970 г. ў аб'яднанай вёсцы 460 чал. У 1998 г. 100 гаспадарак, 192 жыхары, у 2001 г. 103 гаспадаркі, 184 жыхары. У 2012 г. — клуб-бібліятэка, магазін, жывёлагадоўчая ферма, збожжасховішча, стайня. На вясковых могілках пахаваны 5 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баі з гітлераўцамі пры вызваленні раёна. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск. За 0,2 км на У ад вёскі, ва урочышчы Гарадзішча, захаваўся помнік археалогіі — гарадзішча (мясц. назва Замкавішча) перыяду культуры штрыхаванай керамікі (1—4 ст. н.э.) і эпохі Кіеўскай Русі.

**КВАЧЫ** — вёска ў Ліпскім с/с. За 7 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 87 гаспадарак, 169 жыхароў (2012).





У 1676 г. вёска фальварка Завушша, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1741 г. ў вёсцы 16 дымоў, 31 валока зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1811 г. разам з фальваркам Завушша вёска ў арэндзе ў ген. Мараўскага, пазней (з 1829 г.) ва ўладанні Вітгенштэйнаў. У 1862 г. згодна з Устаўной граматай у вёсцы 33 гаспадаркі, 115 сялян (у іх карыстанні знаходзіліся 425 дзес. 1647 сажняў зямлі), а таксама 12 парабкаў маёнтка Завушша (4 гаспадаркі). У 1869 г. ў вёсцы пабудаваны драўляны шынок, у 1875 г. побач з вёскай мелася карчма. У 1870 г. вёска ў Гарадзейскай вол., 122 душы мужчынскага полу. У 1890 г. адкрыта рухомая школа граматы для хлопчыкаў, у якой вучыліся 12 дзяцей. У 1897 г. 73 двары, 424 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 77 двароў, 442 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 93 двары, 504 жыхары, і аднайменная асада, 1 двор, 9 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета. У 1940 г. 105 двароў, 528 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня (1941). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 36 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1948 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», які ў 1951 г. ўвайшоў у калгас імя Някрасава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ліпскім с/с. Са снеж. 1959 г. вёска ў складзе калгаса «17 Верасня», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «17 верасня», з 16.7.2003 г. СВК, з 2.3.2011 ААТ «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). Паводле перапісу 1959 г. 521 жыхар, у 1970 г. 518 жыхароў. У 1998 г. 139 гаспадарак, 260 жыхароў, у 2001 г. 132 гаспадаркі, 278 жыхароў. У 2012 г. — сельскі клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, малочна-таварная ферма «Круты Бераг».

**КІРКАЎШЧЫНА**, Кіркораўшчына — вёска ў Ланскім с/с. За 10 км на ПдУ ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы, на аўтадарозе Нясвіж—Клецк. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2012).

У 1800 г. двор (драўляны панскі дом, карчма) і вёска, 10 двароў, 61 жыхар, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1882 г. вёска Кіркораўшчына ў Ланскай вол., 8 асад. Паводле перапісу 1897 г. вёска Кіркаўшчына, 38 двароў, 199 жыхароў. У 1909 г. 47 двароў, 258 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 250 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. вёска, 54 двары, 244 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на франтах. У вер. 1949 г. ў Кіркаўшчыне ўтвораны калгас «Прагрэс». З чэрв. 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Ленінскі шлях». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З ліст. 1982 г. ў калгасе імя Леніна. З 1992 г. на тэр. калект. с.-г. гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 262 жыхары, у 1970 г. 218 жы-



хароў. У 1998 г. 48 гаспадарак, 87 жыхароў, у 2001 г. 45 гаспадарак , 64 жыхары.

**КЛЕПАЧЫ**, Клепацкоўшчына — вёска ў Сноўскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2012).

У 1608 г. с. Клепацкоўшчызна маёнтка Сноў, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. в. Клепачы Сноўскай вол., 50 душ мужчынскага полу. У 1882 г. 12 асад. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 147 жыхароў, млын (1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. 24 двары, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 33 двары, 171 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. вёска, 62 двары, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». З 1951 г. вёска уваходзілася ў складзе калгаса «17 Верасня». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 11.7.1954 г. ў Ліпскім с/с. З 30.12.1996 г. на тэр. калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). З снеж. 2005 г. вёска зноў ў Сноўскім с/с, на тэр. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 243 жыхары, у 1970 г. 187 жыхароў. У 1998 г. 38 гаспадарак, 58 жыхароў, у 2001 г. 32 гаспадаркі, 52 жыхары.

**КОПЦЕЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 94 гаспадаркі, 191 жыхар (2012).

У 1686 г. вёска фальварка Лысіцы Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уладанне Лыскевічаў. У 1729 г. вёска і засценак Копцеўшчызна таго ж фальварка, уладанне Радзівілаў, у Нясвіжскім княстве. У тым жа годзе князь Караль Станіслаў Радзівіл даў прывілей на 5 валок зямлі засценка, на чынш і права ваеннай службы Трусевічам, Іванковічу, Марковічу, Глінскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў, з 1861 г. ў Гарадзейскай вол. У 1862 г. вёска маёнтка Лысіцы (уладанне П.Л.Вітгенштэйна), 41 двор, 108 сялян (у сял. карыстанні 415 дзес. 2210 сажняў зямлі). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 71 двор, 494 жыхары, піцейная ўстанова. У 1909 г. 526 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 106 двароў, 554 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лысіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 146 двароў, 666 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас «1 Мая» (70 гаспадарак). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 12.8.1970 г. ў Гарадзейскім с/с. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Гарадзейскі»,

з 1991 г. племкалгас «Гарадзейскі», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», з 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок Новагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 758 жыхароў, у 1970 г. 511 жыхароў. У 1998 г. 121 гаспадарка, 239 жыхароў, у 2001 г. 119 гаспадарак, 227 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма.

**КОХАНАВІЧЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с. За 18 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 130 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Сноў на лініі Баранавічы—Мінск. 33 гаспадаркі, 51 жыхар (2012).

У 1605 г. сяло маёнтка Малева Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў; 14 валок зямлі (у т.л. 6 валок на чыншу), 19 асад. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 48 жыхароў. У 1870 г. ў Сноўскай вол., 72 душы мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 25 двароў, 144 жыхары. У 1909 г. 28 двароў, 193 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 36 двароў, 217 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 54 двары, 237 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 231 жыхар, у 1970 г. 226 жыхароў. З 20.12.1976 г. вёска ў складзе калгаса «Новае жыццё» (да 1976 г. ў калгасе «Дружба»), з 2.12.1996 г. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). У 1998 г. 50 гаспадарак, 86 жыхароў, у 2001 г. 46 гаспадарак, 78 жыхароў.

**КРАСНАГОРКІ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Мінск—Брэст. 27 гаспадарак, 43 жыхары (2012).

У 1876 г. маёнтак у Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 387 дзес. зямлі (з 1859 г. ўладанне К.А.Браноўскага), меліся вадзяны млын, карчма. У 1882 г. маёнтак і вёска, 20 асад. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска, 44 двары, 231 жыхар, хлебазапасны магазін, капліца; сядзіба каля вёскі, 7 жыхароў; маёнтак, 7 двароў, 23 жыхары і сядзіба памешчыка Браноўскага, 18 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 49 двароў, 275 жыхароў, у маёнтку 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 55 двароў, 303 жыхары, фальварак, 4 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска, 74 двары, 311 жыхароў, і былы маёнтак, 8 двароў, 59 жыхароў. На базе б. маёнтка створаны калгас імя Сталіна (50 га зямлі). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на франтах. У крас. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны новы калгас імя Сталіна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. Са жн. 1957 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса імя Дзяржынскага, з



30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з [illegible].2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — в. Астроўкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 356 жыхароў, у 1970 г. [illegible] жыхар. У 1998 г. 54 гаспадаркі, 87 жыхароў, у 2001 г. 52 гаспадаркі, 84 жыхары. У 2012 г. працаваў магазін. З [illegible].2013 г. ў Гарадзейскім с/с.

**КРУТЫ БЕРАГ** — вёска ў Ліпскім с/с. За 11 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 93 гаспадаркі, 147 жыхароў (2012).

Вядома з 15 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1492 г. вял. кн. літ. Аляксандр надаў Пятру Янавічу Мантыгірдавічу, ваяводзе троцкаму і маршалку земскаму, прывілей на маёмасць Круты Бераг [illegible] на Нясвіж, Чучавічы і іншыя [illegible]). Гэты прывілей быў пацверджаны ў 1522 г. каралём польскім і вял. кн. літ. Жыгімонтам І Старым. У 1676 г. Круты Бераг — вёска фальварка Завушша, уладанне Радзівілаў. У 1741 г. 10 дымоў, 34,5 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерні. У 1811 г. вёска фальварка Завушша Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, пасля 1829 г. уладанне Вітгенштэйнаў. У 1862 г. адпаведна Устаўной грамаце ў вёсцы 50 сял. гаспадарак і 210 сялян, якія мелі ў сваім карыстанні 627 дзес. [illegible] сажняў зямлі. Таксама ў вёсцы размяшчаліся 8 гаспадарак парабкаў маёнтка (31 чал.). У 1876 г. ў вёсцы дзейнічалі ветраны млын (пабудаваны ў 1845 г.), драўляны шынок. У 1888 г. адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 32 хлопчыкі. Паводле перапісу 1897 г. Круты Бераг — вёска, 118 двароў, 682 жыхары, хлебазапасны магазін, у Гарадзейскай вол. У 1909 г. 128 двароў, 791 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 133 двары, 742 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Квачэўскім с/с. У 1940 г. вёска, 137 двароў, 823 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана гітлераўцамі. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Някрасава. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса той жа назвы (уваходзілі 3 вёскі). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ліпскім с/с. Са снеж. 1959 г. ў калгасе «17 Верасня», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК, з 2.3.2011 г. ААТ «17 Верасня» (цэнтр — аграгарадок Высокая Ліпа). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 512 жыхароў, у 1970 г. 563 жыхары. У 1998 г. 128 гаспадарак, 210 жыхароў, у 2001 г. 109 гаспадарак, 200 жыхароў.

**КУНАСА** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 14 км на ПнУ ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 56 гаспадарак, 112 жыхароў (2012).

У 1516 г. маёнтак у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, на які кароль польскі і вял. кн. літ. Жыгімонт І Стары падцвердзіў правы Мікалаю Пацу. У 1555 г. ва ўладанні Пацаў, у 1557 г. — у заставе Мікалая Крыштофа Радзівіла. У 1589 г. Ян Дамінікавіч Пац прадаў маёнтак Радзівілам. У 1617 г. сяло, уласнасць Радзівілаў, у 1730 г. фальварак, дзе былі драўляная карчма, аднапрастольная Дабравешчанская царква (дакладная дата будаўніцтва храма невядома, але ў царк. архіве знаходзіліся метрычныя кнігі з 1666 г.). У 1762 г. ў склад фальварка ўваходзі-

лі 3 вёскі, карчма каля в. Андрушы, 29 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак (двор; меліся драўляны жылы дом, вінакурня) і сяло, 15 двароў, 142 жыхары, драўляная ўніяцкая царква (прыходская; адрамантавана на сродкі Радзівілаў у 1815 г., 13.10.1877 г. згарэла; на сродкі сялян пры храме працавала царк.-прыходская школа), 2 вадзяныя млыны; уладанні Дамініка Радзівіла. У 1809 г. фальварак (уваходзілі вёскі Кунаса, Андрушы і засценак Палосна) у арэндзе В.Даманскага, усяго 137 душ сялян. У 1850—51 гг. у фальварку 93 жыхары, у 1858 г. 310 жыхароў (у вёсцы 102 жыхары). У 1876 г. маёнтак (288 дзес. зямлі), засценак (179 дзес. зямлі), уладанні Радзівілаў, і вёска (48 душ мужчынскага полу), у Гавязнянскай вол. У 1885 г. сяло, 20 двароў, 146 жыхароў, рухомая школа граматы (з 1884 г., у 1890/91 навуч. годзе тут вучыліся 16 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі). У 1897 г. сяло, 39 двароў, 210 жыхароў, царква. Побач знаходзіўся аднайменны засценак. У 1909 г. сяло, 23 двары, 187 жыхароў, вёска, 12 двароў, 155 жыхароў, і маёнтак, 12 жыхароў. У 1916 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 53 двары, 271 жыхар, і фальварак, 12 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 76 двароў, 386 жыхароў, ветраны млын (перададзены калгасу імя Сталіна, в. Бузуны). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1947 г. арганізаваны калгас імя Андрэева. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Андрэева (уключаў 5 вёсак), які 13.12.1961 г. атрымаў назву «Світанне», з 16.7.2003 г. СВК, з 10.2.2011 ААТ «Сейлавічы» (цэнтр — аграгарадок Сейлавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 275 жыхароў, у 1970 г. 302 жыхары. У 1998 г. 67 гаспадарак, 142 жыхары, у 2001 г. 63 гаспадаркі, 146 жыхароў. У 2012 г. працаваў магазін. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю — драўляная Дабравешчанская царква (1887 г., дзейнічае).

*Дабравешчанская царква ў в. Кунаса.*



**КУЧЫНАЎШЧЫНА,** Кучыншчызна, Кучынаўшчызна — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 10 км на Пн ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 1 двор, 3 жыхары (2012).

У 1722 г. засценак Кучыншчызна ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў, 3 валокі зямлі. Княгіня Ганна дала прывілей на засценак Казіміру і Івану Невяроўскім і Францу Рымашэўскаму на земскім ленным праве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у



складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1807 г. фальварак Кучынаўшчызна Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, у арэндзе ў Невяроўскага. У 1852 г. вёска фальварка Ганусаўшчына, 7 дымоў, жыхароў. У 1870 г. вёска ў Гавязнянскай вол., 25 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 12 двароў, 76 жыхароў, ветраны млын, кузня, у 1909 г. 7 двароў, 83 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 14 двароў, 84 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 21 двор, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Запаветы Леніна», з 23.1.1989 г. саўгас «Нясвіжскі», з 31.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства-аграфірма «Нясвіжская», з 30.12.2004 г. ЗАТ «Росіч» (цэнтр — в. Новыя Навасёлкі). У 1959 г. 73 жыхары, у 1970 г. 48 жыхароў. У 1998 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**ЛАЗАВІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 12 км на ПдУ ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Цімкавічы. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2012).

У 1885 г. вёска ў Пацейкаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 223 жыхары, працавала кузня. Побач з вёскай знаходзілася аднайменная казённая ферма, 7 жыхароў. У 1909 г. вёска, 28 двароў, 185 жыхароў, і фальварак, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 31 двор, 170 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лявонавіцкім с/с. У 1940 г. вёска і былая асада Лазавічы, 208 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. ўтвораны калгас імя Матросава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. зноў у Лявонавіцкім сельсаветах. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая», з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства, з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 139 жыхароў, у 1970 г. 144 жыхары. У 1998 г. 35 двароў, 62 жыхары, у 2001 г. 29 двароў, 61 жыхар. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с.

**ЛАНЬ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Ланскага с/с. За 8 км на Пд ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Лань (прыток р. Прыпяць). 305 гаспадарак, 832 жыхары (2012).

Вядома з 16 ст. У 1519 г. маёнтак у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, які Астафій Бабродзіч падараваў Фёдару Ваткову. У 1596 г. Андрэй Фёдаравіч Ваткоў прадаў маёнтак князю Радзівілу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 41 двор, 257 жыхароў, драўляная Георгіеўская царква; уладанне Дамініка Радзівіла. У 1830 г. вёска фальварка Чанавічы, 35 дымоў,






Пакроўская царква ў в. Лань.

256 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У 1842—44 гг. у Лані на сродкі князя Радзівіла і памешчыка Грыневіча пабудавана драўляная аднапрастольная Пакроўская царква. У 1863 г. за кошт казны храм перабудавалі (драўляны на мураваным фундаменце; прыход складаўся з 8 вёсак, 1877 прыхаджан). Царкве належала пабудаваная ў 1863 г. на царк. могілках малая драўляная царква Георгія Перамоганосца. Пры Пакроўскай царкве з 1863 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1861 г. сяло, 34 двары, 338 жыхароў, царква, капліца. У 1885 г. цэнтр Ланскай вол., 36 двароў, 374 жыхары, 2 ветраныя млыны. Некаторыя сяляне акрамя сельскай гаспадаркі займаліся сапожным і цяслярным рамёствамі. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 85 двароў, 496 жыхароў, меліся вал. праўленне, нар. вучылішча (у 1892/93 навуч. годзе вучыліся 70 хлопчыкаў, у 1905/06 навуч. годзе — 126 хлопчыкаў, 6 дзяўчынак), хлебазапасны магазін, піцейны дом. Каля сяла знаходзілася аднайменнае ўрочышча, 5 жыхароў. У 1909 г. 100 двароў, 575 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 96 гаспадарак, 559 жыхароў, гмінная ўправа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Ланскага с/с. У 1940 г. вёска, 107 двароў, 719 жыхароў, 3 ветраныя млыны, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 землякоў з вёсак Ланскага с/с (у т.л. 17 жыхароў Лані). У 1946 г. ў вёсцы працавала хата-чытальня, сярэдняя школа, школа сельскай моладзі. У 1948 г. адкрыты сельскі Дом культуры (у 1949 г. пачала працаваць б-ка), у вер. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. цэнтр узбуйненага калгаса «Ленінскі шлях», з ліст. 1982 г. цэнтр калгаса імя Леніна (пасля аб'яднання з суседнім калгасам імя Леніна гаспадарка атрымала новую назву), з 1996 г. калект. с.-г. гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 588 жыхароў, у 1970 г. 584 жыхары. У 1998 г. 294 гаспадаркі, 766 жыхароў, у 2001 г. 287 гаспадарак, 825 жыхароў. У 2007 г. вёска рэарганізавана ў аграгарадок. У 2012 г. — Дом культуры (пры якім дзейнічае Ланскі мужчынскі нар. хор, створаны ў 1934 г.), б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, аптэка, 4 магазіны, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, жывёлагадоўчая ферма, свінакомплекс, майстэрні па рамонцу с.-г. тэхнікі, гараж, кацельная, каўбасны цэх, сталовая. Стэла (1973) у цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі у Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках пахаваны 3 воіны Чырв. Арміі, якія загінулі ў ліп. 1944 г. ў баі пры вызваленні г. Клецк (у 1977 г. на магіле пастаўлена стэла). Помнік драўлянага дойлідства — Пакроўская царква (1844 г., дзейнічае).



**ЛЕСУНЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 10 км на У ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 1800 г. маёнтак (двор; меліся драўляны панскі дом, вінакурня) і вёска, 4 двары, 26 жыхароў, карчма, шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1856 г. маёнтак, уласнасць Ф.В.Петрашкевіча (140 дзес. зямлі). Паводле перапісу 1897 г. ў Пацейкаўскай вол., вёска, 17 двароў, 69 жыхароў; маёнтак, 16 жыхароў. У 1909 г. вёска, 10 двароў, 73 жыхары; маёнтак, 1 двор, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 11 двароў, 57 жыхароў. У аднайменным маёнтку 3 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 11 двароў, 61 жыхар; былы маёнтак, 5 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. ў Лявонавіцкім сельсаветах. З 18.3.1980 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (раней уваходзіла ў калгас імя Кірава), з 23.12.1996 г. калектыўнага долевага прадпрыемства «1 Мая», з 12.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 94 жыхары, у 1970 г. 108 жыхароў. У 1998 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары, у 2001 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с.

**ЛЯВОНАВІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 11 км на ПдУ ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля р. Цапра (прыток р. Лань). 156 гаспадарак, 380 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з канца 15 ст. як сяло Клецкага княства, якое было нададзена каралём польскім і вял. кн. літ. Казімірам IV нейкаму Петрыцу з братам. У 1720 г. шляхціц Ян Магільніцкі аддаў с. Лявонавічы Навагрудскага ваяв. ў арэнду манахам езуітам за 2000 бітых талераў і 1680 злотых з зямлёй, сялянамі і іх маёмасцю. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 20 двароў, 132 жыхары, шляхецкае ўладанне. У 1870 г. вёска ў Пацейкаўскай вол., 92 душы мужчынскага полу. У 1883 г. 27 асад. У 1890 г. адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890/91 навучальным годзе вучыліся 8 хлопчыкаў. У 1897 г. 60 двароў, 398 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 64 двары, 475 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 86 двароў, 452 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Лявонавіцкага с/с. У 1940 г. 89 двароў, 469 жыхароў, хата-чытальня, няпоўная сярэдняя школа, маторны млын, 3 ветраныя млыны, крама; арганізаваны калгас імя Чырвонай Арміі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады вайны на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 49 землякоў з населеных пунктаў тэр. сельсавета (у т.л. 9 жыхароў Лявонавіч). У 1946 г. ў вёсцы працавалі няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня (у 1948 г. перайменавана ў сельскі клуб). У вер.





1949 г. вяскоўцы арганізавалі калгас імя Суворава. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (6 вёсак), з 1952 г. цэнтр калгаса (18.3.1980 г. далучаны калгас імя Кірава). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім с/с, з 29.7.1971 г. зноў цэнтр сельсавета. 23.12.1996 г. калгас рэарганізаваны ў калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», 3.2.2004 г. — у ЗАТ «1 Мая». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 491 жыхар, у 1970 г. 499 жыхароў. У 1998 г. 176 гаспадарак, 421 жыхар, у 2001 г. 167 двароў, 431 жыхар. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с. У 2012 г. — Дом Культуры, б-ка, вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад — сярэдняя школа, 2 магазіны, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», урачэбная амбулаторыя, жывёлагадоўчая і свінатаварная фермы, гараж. Пры Доме культуры дзейнічае Лявонавіцкі нар. хор (створаны ў 1926 г.), каля вытокаў якога былі мясц. паэт і кампазітар С.М.Новік-Пяюн (27.8.1906—26.8.1994; нарадзіўся і пахаваны ў в. Лявонавічы), самадзейны кампазітар II.Косач. У цэнтры вёскі стэла (1976) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках пахаваны партызаны Ф.А.Бабенкаў і Р.І.Горскіх, якія загінулі ў баі з гітлераўцамі 21.4.1944 г. (у 1965 г. на магіле ўстаноўлены помнік).



*Вадзяны млын у в. Макашы.*

**ЛЯХІ** — вёска ў Ланскім с/с. За 11 км на ПдУ ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 25 гаспадарак, 34 жыхары (2012).

У 1800 г. вёска Слуцкага павета Мінскай губ., 19 двароў, 113 жыхароў, шляхецкае ўладанне. У 1870 г. вёска ў Ланскай вол., 113 душ мужчынскага полу. У 1890 г. адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 3 хлопчыкі. У 1897 г. вёска, 46 двароў, 275 жыхароў. У 1909 г. 54 двары, 324 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 71 двор, 343 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лявонавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 87 двароў, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Маладая Гвардыя» (46 гаспадарак). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. зноў у Лявонавіцкім сельсаветах. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (18.3.1980 г. далучаны калгас імя Кірава), з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 345 жыхароў, у 1970 г. 225 жыхароў. У 1998 г. 39 гаспадарак, 65 жыхароў, у 2001 г. 37 гаспадарак, 55 жыхароў. З 1.7.2013 г ў Ланскім с/с.

**МАКАШЫ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея



на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Уша (прыток р. Нёман). 36 гаспадарак, 78 жыхароў (2012).

У 1608 г. с. Макач'е фальварка Лысіца Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкае ўладанне, 43 сям'і (разам з с. Янчыны). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1862 г. в. Макашы маентка Ішкальдзь, уладанне Вітгенштэйна, 31 гаспадарка, 121 жыхар (у карыстанні сялян мелася 327 дзес. 2352 сажні зямлі). У 1870 г. вёска Гарадзейскай вол., 121 душа мужчынскага полу. У 1886 г. тут адкрыта змешаная школа граматы, у якой у 1890/91 навучальным годзе вучыліся 9 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 64 двары, 380 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца на могілках. У 1909 г. 104 двары, 486 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 81 двор, 438 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска, 91 двор, 455 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Матросава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1952 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Маленкова, які ў 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Дзяржынскага, з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — аграгарадок Астроўкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 337 жыхароў, у 1970 г. 272 жыхары. У 1998 г. 61 гаспадарка, 118 жыхароў, у 2001 г. 57 гаспадарак, 97 жыхароў. У 2012 г. — магазін, малочна-таварная ферма «Макашы», зона адпачынку «Стары млын». Вёска — радзіма бел. паэта У.А.Жылкі (27.5.1900 —1.3.1933).

**МАЛАЕДЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с. За 16 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 128 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 28 гаспадарак, 44 жыхары (2012).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 38 двароў, 214 жыхароў. У 1909 г. 46 двароў, 295 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 42 двары, 267 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Казлоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 129 двароў, 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1950 г. арганізаваны калгас «Палітаддзелец». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1953 г. вёска ў складзе калгаса імя Шверніка (20.12.1961 г. перайменаваны ў калгас «Дружба»), з 20.12.1976 г. ў калгасе «Новае жыццё», з 2.12.1996 г. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 364 жыхары, у 1970 г. 239 жыхароў. У 1998 г. 54 гаспадаркі, 100 жыхароў, у 2001 г. 48 гаспадарак, 98 жыхароў. У 2012 г. працавала свінаферма.

**МАЛАЯ БЫХАЎШЧЫНА** — вёска ў Ланскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 127 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 33 гаспадаркі, 28 жыхароў (2012).





У 1870 г. вёска Малая Быхаўшчызна ў Ланскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 71 душа мужчынскага полу. У 1888 г. каля вёскі знаходзіліся 4 аднайменныя фальваркі: 14 дзес. зямлі, уладанне П.А.Вяржбіцкай; 18 дзес. зямлі, уладанне К.І.Дарожынскага; 28 дзес. зямлі, уладанне К.М. і І.М. Клішэўскіх; 14 дзес. зямлі, уладанне Е.М.Галаўні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 248 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 49 двароў, 303 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 53 двары, 291 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. вёска, 57 двароў, 329 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У жн. 1950 г. створаны калгас імя Гастэлы. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Новы шлях» (уключаў 3 вёскі). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ланскім с/с. З 10.2.1960 г. ў калгасе імя Леніна (у 1982 г. аб'яднаны з калгасам «Ленінскі шлях»), з 1996 г. калект. с.-г. гаспадарка «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 290 жыхароў, у 1970 г. 230 жыхароў. У 1998 г. 59 гаспадарак,102 жыхары, у 2001 г. 55 гаспадарак, 89 жыхароў.

**МАЛЕВА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 8 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Баранавічы, каля р. Уша (прыток р. Нёман). 141 гаспадарка, 304 жыхары (2012).

Вядома з 16 ст. У 1552 г. «двор» і сяло, цэнтр Малеўскай вол., у Клецкім княстве ВКЛ, уладанне каралевы Боны. Двор Малеўскі налічваў 12 валок ворыва, 20 сялян (у іх карыстанні знаходзілася па 9 маргоў зямлі). Сяло Малева — на цяглай службе звыш 12 валок 15 маргоў зямлі, на чыншу — звыш 1 валокі 16 маргоў зямлі. «Татарскай» зямлі ў заставе ў Войны Пахабовіча мелася 1 валока 16 маргоў. У с. Малева дзейнічала Мікольская царква (яе святар меў 1 валоку 2 маргі зямлі). У 1605 г. «дваром» Малеўскім і воласцю, якія ўваходзілі ў межы Навагрудскага ваяв., валодаў Ян Альбрэхт Радзівіл. Малеўская вол. ўключала 7 населеных пунктаў, у т.л. с. Малева, фальварак «двара» Малеўскага (маёнтак). Сярод пабудоў «двара» згодна з інвентаром 1605 г. вядомы ўязная брама, новы жылы дом (побач са старым), лазня, бровар, гумно, памяшканні для авечак, на тэр. «двара» знаходзіліся дворныя агароды, 2 сады. У сяле 25 гаспадарак, 16 валок зямлі. У 1742—59 гг. вёска ў заставе ў Нясвіжскай езуіцкай калегіі. Адпаведна інструкцыі рэктара Нясвіжскага калегіума Марціна Бжастоўскага кожны селянін павінен быў малоць збожжа толькі на млынах калегіума і аддаваць яму кожны дзесяты мяшок мукі. Млынар не меў права пачынаць працу без ведама езуітаў. За памол збожжа на чужых млынах селянін плаціў штраф у 10 коп грошай. 18-гадовае панаванне езуітаў у вёсцы і бясконцыя паборы дрэнна адбіліся на вясковых гаспадарках. Прыгонныя сяляне Малева павінны былі выплаціць грашовы чынш у памеры 33 971 злоты. Нават пасля вяртання вёскі былому ўладальніку, які выкупіў маёнтак, вяскоўцы засталіся ў даўгу перад ордэнам на 7575 злотых. У 1767 г. ў вёсцы 30 дымоў, у маёнтку жылы дом, падвал, свіран, агароды. У 1777 г. вёска, 44 дымы; у



1781 г. 33 дымы, 225 жыхароў. У 1792 г. 14 дамоў, карчма, шынок. У 1785 г., калі кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст накіроўваўся ў Нясвіж, у Малеве знаходзіліся першыя атрады сустракаўшых яго воінаў і менавіта адсюль пачаўся трыумфальны ўезд караля ў сталіцу Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. Малева – фальварак і сяло (35 двароў, 171 жыхар, драўляная ўніяцкая царква Раства Багародзіцы, млын), уладанне Радзівіла. У 1845 г. на сродкі князя Льва Радзівіла пабудавана драўляная Мікалаеўская царква. У 1861 г. сяло, 28 двароў, 261 жыхар, царква. У 1870 г. сяло ў Ланскай вол., 104 душы мужчынскага полу, і маёнтак, уладанне Радзівілаў. У 1884 г. ў сяле адкрыта змешаная аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 19 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1885 г. сяло, 26 двароў, 260 жыхароў, у 1897 г. 67 двароў, 407 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У 1909 г. сяло, 74 двары, 478 жыхароў, і маёнтак, 57 жыхароў. У чэрв. 1906 г. адбылося выступленне малеўскіх сялян, якія патрабавалі павелічэння падзённай аплаты ў памешчыка маёнтка доктара Малькевіча. Кіраўнікамі выступлення былі сяляне Сцяпан Міленька і Андрэй Гаціла, Міленька быў арыштаваны. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 106 двароў, 576 жыхароў, праваслаўная царква; асада, 4 жыхары, і фальварак, 5 двароў, 106 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Карцэвіцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 131 двор, 667 жыхароў, у б. маёнтку 6 двароў, 129 жыхароў, няпоўная сярэдняя школа. У 1940 г. на базе б. маёнтка Малева арганізаваны калгас імя Молатава, якому перададзены ўсе будынкі маёнтка (акрамя дома памешчыка, дзе размясцілася школа), маслазавод. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. Пасля вызвалення ад гітлераўцаў у вёсцы аднавілі даваенны калгас (у 1945 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, 115 калгаснікаў, якія апрацоўвалі 339,93 га зямлі). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. СВК «Карцэвічы» (цэнтр — в. Саска Ліпка), з ліп. 2004 г. ў межах тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр — в. Рудаўка Нясвіжскага с/с). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 800 жыхароў, у 1970 г. 697 жыхароў. У 1998 г. 182 гаспадаркі, у 2001 г. 174 двары, 406 жыхароў. У 2012 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 1.7.2013 г. ў Нясвіжскім с/с.

**МАЛІНАЎКА** (да 9.11.1960 г. — Ябланаўшчына) — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 21 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 96 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтамагістралі Брэст — мяжа Расіі. 34 двары, 62 жыхары (2012).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Ябланаўшчына, 33 двары, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін, і маёнтак, 7 будынкаў, 22 жыхары, у Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 43 двары, 235 жыхароў, у маёнтку 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у складзе Гарадзейскай гмі-

ны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 44 двары, 230 жыхароў, фальварак не заселены. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска і хутар разам налічвалі 65 двароў, 298 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24 воіны-землякі загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. створаны калгас імя Леніна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1952 г. вёска ў складзе калгаса імя Маленкова, які ў жн. 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Дзяржынскага, з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — аграгарадок Астроўкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 413 жыхароў, у 1970 г. 302 жыхары. У 1998 г. 46 гаспадарак, 100 жыхароў, у 2001 г. 43 гаспадаркі, 98 жыхароў. У 2012 г. — дзіцячы сад, жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Гарадзейскім с/с.

**МАЛЯЎШЧЫНА**, Маляўшчызна — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Навагрудак. 30 гаспадарак, 76 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска Маляўшчызна ў Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 47 душ мужчынскага полу. Побач з паселішчам знаходзіўся аднайменны фальварак, 20 дзес. зямлі (1888), уладанне І.Р.Даменікоўскага. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска, 24 двары, 150 жыхароў, хлебазапасны магазін; 5 фальваркаў (А.Марцынкевіча, 2 двары, 8 жыхароў; Бараноўскага, 4 двары, 5 жыхароў; Рашанікоўскага, 5 двароў, 6 жыхароў; князя Мірскага, 7 двароў, 24 жыхары; Марцынкевіча, 2 двары, 3 жыхары), сядзіба князя Святаполк-Мірскага, (7 жыхароў) і 2 старожкі (5 і 8 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 137 жыхароў, у 2 фальварках 18 і 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 9 двароў, 40 жыхароў; вёска, 37 двароў, 191 жыхар, і асада, 3 двары, 17 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10 1940 г. ў Гарадзейскім с/с. У 1940 г. вёска Зарэчча, вёска і асада Маляўшчына налічвалі разам 176 двароў, 820 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 воінаў-землякоў загінулі на франтах. З 21.4.1959 г. вёска ў складзе саўгаса «Гарадзейскі». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 6.1.1964 г. частка зямлі аддз. «Маляўшчына» саўгаса «Гарадзейскі» агульнай пл. 3765 га ўвайшла ў саўгас «Буракаводчы», які 15.4.1994 г. перайменаваны ў эксперыментальную базу «Буракаводчая», з 1.3.2001 г. РУП, з 2012 г. дзярж. прадпрыемства «Эксперыментальная база «Буракаводчая» (цэнтр — аграгарадок Ударны). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 454 жыхары, у 1970 г. 317 жыхароў. У 1998 г. 56 гаспадарак, 130 жыхароў, у 2001 г. 55 гаспадарак, 114 жыхароў. У 2012 г. — бібліятэка-клуб, магазін, ферма.

**МАЦЫЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Сноўскім с/с. За 22 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 134 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 29 гаспадарак, 78 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 92 душы мужчынскага полу. Паводле перапі-



ну 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 204 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 30 двароў, 311 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 46 двароў, 241 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Грыцкевіцкім (Нялепаўскім) с/с. У 1940 г. вёска, 84 двары, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 воіны-землякі загінулі на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя К.Маркса. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь», з 31.12.1996 г. калект. сельскагаспадарчага прадпрыемства «Беларусь», з 9.6.2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Грыцкевічы» (цэнтр — аграгарадок Грыцкевічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 306 жыхароў, у 1970 г. 214 жыхароў. У 1998 г. 46 двароў, 92 жыхары, у 2001 г. 46 двароў, 100 жыхароў. У 2012 г. — маёнтак. З 1.7.2013 г. ў Сноўскім с/с. За 1 км на ПнУ ад вёскі, каля могілак і дарогі ў в. Грыцкевічы знаходзіцца помнік археалогіі — курганны могільнік (62 насыпы).

**МІКУЛІЧЫ** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 3 км на Пн ад Нясвіжа, 115 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 8 двароў, 16 жыхароў (2012).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Гаязнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 6 двароў, 39 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 15 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Маякоўскага. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. Са снеж. 1960 г. вёска ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — аграгарадок Заазер'е), з 17.5.2012 г. на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 93 жыхары, у 1970 г. 71 жыхар. У 1998 г. 9 двароў, 19 гаспадарак, у 2001 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. На могілках абеліск (1977) на магіле сав. воіна, які загінуў у 1941 г.

**МІЦЬКАВІЧЫ**, Міцкевічы (да 12.11.1966 г. — Вял. і Малыя Міцькавічы) — вёска ў Ланскім с/с. За 12 км на ПдЗ ад ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 91 гаспадарка, 160 жыхароў (2012).

Пад 1578 г. вядомы «грунта Міцькаўскія» ў складзе маёнтка Быхаўшчызна, прыватнае ўладанне, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1678 г. в. Міцкевічы фальварка Быхаўшчызна, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 27 двароў, 163 жыхары, карчма, і «двор» (драўляны панскі дом), шляхецкае ўладанне. У 1870 г. вёска Ланскай вол., 37 душ мужчынскага полу, і аднайменны маёнтак, уладанне Булгака. У 1876 г. маёнтак, 283 дзес. зямлі, уладанне П.Л.Вітгенштэйна па дароўчаму запісу. У 1888 г. маёнтак, 120 дзес. зямлі, уласнасць Р.Х.Булгака. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: вёс-




ка, 21 двор, 148 жыхароў; урочышча, 1 двор, 4 жыхары, і маёнтак, 3 двары, 15 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 26 двароў, 142 жыхары, у маёнтку 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска Малыя Міцкевічы, 29 двароў, 179 жыхароў, і 2 фальваркі Міцкевічы: 5 двароў, 20 жыхароў і 4 двары, 22 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся вёскі: Вял. Міцькавічы, 48 двароў, 289 жыхароў, і Міцькавічы, 32 двары, 211 жыхароў, б. маёнтак Міцькавічы, 4 двары, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 31 вясковец загінуў ці прапаў без вестак на франтах. У 1947 г. вёскі Вял. і Малыя Міцькавічы ў Быхаўшчынскім с/с, працавала школа. У 1949 г. ў Малых Міцькавічах арганізаваны калгас «Новы шлях», у Вял. Міцькавічах — калгас «Савецкі селянін». У 1951 г. гаспадаркі аб'ядналіся ў адзін калгас «Новы шлях». Да іх таксама далучыўся калгас імя Гастэлы (в. Малая Быхаўшчына). З 19.11.1952 г. ў Карцэвіцкім с/с, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Ланскім с/с. З 10.2.1960 г. вёскі ўваходзілі ў калгас імя Леніна; 12.11.1966 г. Вял. і Малыя Міцькавічы аб'ядналіся ў адзін населены пункт. З 30.12.1996 г. вёска ў складзе калект. сельскай гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсках Вял. і Малыя Міцькавічы адпаведна 300 і 234 жыхары. У 1970 г. в. Міцькавічы, 559 жыхароў. У 1998 г. 132 гаспадаркі, 257 жыхароў, у 2001 г. 134 гаспадаркі, 256 жыхароў. У 2012 г. — сельскі Дом культуры, б-ка, Дом рамёстваў (пры ім створаны невял. музей «Куток старынкі»), магазін, жывёлагадоўчая ферма, зернесховішча, стайня. На паўд. ускраіне вёскі, на могілках захаваўся помнік археалогіі — курганны могільнік (9 насыпаў).

**МЫСЛІВА** — былая вёска ў Ланскім с/с. За 9 км на ПнУ ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск.

У 1764 г. засценак Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 6 двароў, 31 жыхар, уладанне Дамініка Радзівіла. У 1876 г. ў засценку 102 дзес. зямлі. У 1897 г. 14 двароў, 53 жыхары, у Пацейкаўскай вол. У 1909 г. засценак, 15 двароў, 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Нясвіжскім павеце Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. засценак, 17 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. ў Лявонавіцкім сельсаветах. З 18.3.1980 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (раней уваходзіла ў калгас імя Кірава), з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 32 жыхары, у 1970 г. 27 жыхароў. У 1998 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў, у 2001 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. З 2010 г.



у вёсцы няма пастаяннага насельніцтва, было. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с.

**НАДЗЕЯ** — былая (да 2012 г.) вёска Карцэвіцкага с/с, з 1.7.2013 г. на тэр. Нясвіжскага с/с. Знаходзілася за 8,5 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 22,5 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск.

У 1885 г. фальварак Ланскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 1 двор, 13 жыхароў; у 1909 г. 4 двары, 40 жыхароў, уладанне Ю.Жалнаркевіча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., акаліца, 6 двароў, 37 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. фальварак, 6 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 воіны-землякі загінулі на франтах. У 1950 г. арганізаваны калгас «Савецкі селянін». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ланскім, з 11.7.1954 г. ў Карцэвіцкім сельсаветах. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. СВК «Карцэвічы» (цэнтр — в. Саска Ліпка). З чэрв. 2004 г. вёска ўваходзіла ў межы тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр — в. Рудаўка). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 91 жыхар, у 1970 г. 45 жыхароў. У 2001 г. вёска, 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у 2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**НОВАГАРАДЗЕЙСКІ** — пасёлак (з 2009 г. аграгарадок) у Гарадзейскім с/с. За 15 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 102 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 288 гаспадарак, 781 жыхар (2012).

Засн. 21.1.1969 г. ў выніку перайменавання пасёлка цэнтр. сядзібы саўгаса «Гарадзейскі» (створаны 21.4.1959 г.). У 1991 г. саўгас рэарганізаваны ў племкалгас «Гарадзейскі», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», з 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея». З 2009 г. аграгарадок. Паводле перапісу 1970 г. ў пасёлку 458 жыхароў. У 1998 г. 256 гаспадарак, 739 жыхароў, у 2001 г. 260 гаспадарак, 731 жыхар. У 2012 г. — клуб, б-ка, магазін, сталовая, жывёлагадоўчая ферма, гаражы.

**НОВАЯ ЛЫСІЦА** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 106 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 38 гаспадарак, 71 жыхар (2012).

Паводле перапісу 1897 г. пасёлак у Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 21 двор, 146 жыхароў. У 1909 г. вёска, 30 двароў, 198 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 34 двары, 212 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лысіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 63 двары, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 12.8.1970 г. ў Гарадзейскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 449 жыхароў, у 1970 г. 320 жыхароў. У 1998 г. 62 гаспадаркі, 111 жыхароў, у 2001 г. 63 гаспадаркі, 115 жыхароў. Вёска знаходзіцца на тэр. СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок Новагарадзейскі).

**НОВІНЫ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на

лініі Баранавічы—Мінск. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Астроўскім с/с Нясвіжскага р-на, 264 жыхары, у 1970 г. 127 жыхароў. У 1998 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары, у 2001 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары; на тэр. калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — аграгарадок Астроўкі).



*М.У.Мяснікові*ч.

**НОВЫ СНОЎ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 23 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 31 гаспадарка, 69 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 55 душ мужчынскага полу, царква (пабудавана ў 1836 г. на могілках на сродкі Рдултоўскіх). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 185 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, 1 двор, 3 будынкі (аканом І.Лушык). У 1909 г. ў вёсцы 29 двароў, 256 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 37 двароў, 215 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. вёска, 55 двароў, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 воінаў-землякоў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. арганізаваны калгас «Барэц». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненнага калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат Сноў», з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 203 жыхары, у 1970 г. 130 жыхароў. У 1998 г. 37 гаспадарак, 60 жыхароў, у 2001 г. 40 гаспадарак, 62 жыхары. Вёска — радзіма бел. дзярж. дзеяча, чл.-кар. НАН Беларусі М.У.Мясніковіча (н. 6.5.1950 г.).

**НОВЫЯ НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 9 км на Пн ад Нясвіжа, 116 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 49 гаспадарак, 142 жыхары (2012).

У 1852 г. вёска Навасёлкі 2 казённага маёнтка Гавязна-Навасёлкі Слуцкага павета Мінскай губ., 8 двароў. У 1870 г. вёска Гавязнянскай вол., 30 душ мужчынскага полу, аднапрастольная драўляная царква (пабудавана за кошт памешчыка Лышкевіча; дакладная дата пабудовы невядома, але ў царк. архіве захоўваліся метрычныя кнігі з 1797 г.; у царк. прыход уваходзілі 3 вёскі), дзейнічала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. вёска Новыя Навасёлкі, 18 двароў, 103 жыхары, меліся ветраны млын, царква. У 1909 г. 9 двароў, 132 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 20 двароў, 113 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 30 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 землякоў. У 1947 г. ў вёсцы працавала хата-чытальня. У 1949 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Запаветы Леніна», з 1972 г. цэнтр калгаса. 23.1.1989 г. на землях



калгаса створаны саўгас «Нясвіжскі», з 23.12.1991 г. калгас-аграфірма «Нясвіжская», з 31.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства-аграфірма «Нясвіжская», з 30.12.2004 г. ЗАТ «Росіч». Вёска — цэнтр гаспадаркі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 144 жыхары, у 1970 г. 117 жыхароў. У 1998 г. 63 гаспадаркі, 166 жыхароў, у 2001 г. 62 гаспадаркі, 171 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 2012 г. — фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма, машынны парк, збожжасховішча, бульбасховішча, сховішчы сена, агароднін, [illegible]катаў, піларама. Абеліск (1968) у гонар землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках захаваліся руіны касцёла.

**НЯЛЕПАВА** — вёска ў Сноўскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 131 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 64 гаспадаркі, 160 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 99 душ мужчынскага полу. У 1888 г. вёска, 20 асад (на 1885 г.) і аднайменны фальварак, $58^2/_5$ дзес. зямлі, уладальнік граф А.С.Чапскі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 39 двароў, 251 жыхар, карчма (8 жыхароў); у сядзібе 2 двары, 12 жыхароў. У 1909 г. вёска, 43 двары, 299 жыхароў, і фальварак 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 48 двароў, 276 жыхароў, і фальварак, 9 жыхароў. З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Грыцкевіцкім (Нялепаўскім) с/с. У 1940 г. вёска, 64 двары, 301 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 воінаў-землякоў загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Кірава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь», з 31.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «Беларусь», з 26.6.2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Грыцкевічы» (цэнтр — аграгарадок Грыцкевічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 350 жыхароў, у 1970 г. 200 жыхароў. У 1998 г. 71 гаспадарка, 181 жыхар, у 2001 г. 70 гаспадарак, 173 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Сноўскім с/с. У 2012 г. — магазін, жывёлагадоўчая ферма. У вёсцы, каля будынка б. школы знаходзіцца помнік археалогіі — курганны могільнік (захаваліся 4 насыпы).

**ПАГАРЭЛЬЦЫ** — вёска і чыг. ст. на лініі Мінск—Баранавічы, у Сноўскім с/с. За 27 км на З ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска. 101 гаспадарка, 183 жыхары (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 8 душ мужчынскага полу. У 1880 г. 23 двары, 220 жыхароў, паштовая станцыя, карчма. У 1886 г. вёска, 25 асад і чыг. станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска, 63 двары, 356 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба пры чыг. станцыі, 2 двары, 25 жыхароў, крама, піцейны дом; чыг. станцыя, 6 двароў, 47 жыхароў. У 1905—16 гг. у вёсцы працавала нар. вучылішча, у якім у 1905/06 навуч. годзе вучыліся 48 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 66 двароў, 386 жыхароў, на станцыі 6 двароў, 39 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 80 двароў, 479 жыхароў, і пасёлак пры





чыг. станцыі, 13 двароў, 69 жыхароў. У 1931 г. ў вёсцы 548 жыхароў, пошта. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. вёска, 167 двароў, 605 жыхароў, чыг. станцыя, нафтавы млын райпрамкамбіната, сушылка для агародніны Белгандальпладагародніны, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 воіны-землякі загінулі на франтах. З 8.11.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. Да 1960 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя Чарняхоўскага (7 вёсак), потым у складзе калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 681 жыхар, у 1970 г. 589 жыхароў. У 1998 г. 144 гаспадаркі, 238 жыхароў, у 2001 г. 126 гаспадарак, 226 жыхароў. У 2012 г. — бібліятэка-клуб, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ПАГУЛЯНКА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 3 км на Пн ад Нясвіжа, 115 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Стоўбцы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2012).

У 1888 г. ўрочышча ў Гавязнянскай вол. Слуцкага павета Минскай губ., 5 дзес. зямлі, уладальнік Мордух Мешэлеў Гавязнянскі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гавязнянскай вол. існавалі 5 сядзіб з назвай Пагулянка (у т.л. сядзіба каля цагельні, 19 жыхароў; сядзібы Кантаровіча, Сасноўскага). У 1909 г. 2 урочышчы: Пагулянка Голеўская, 8 жыхароў, і Пагулянка, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, былая асада ў межах г. Нясвіжа, з 31.12.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. У 1940 г. — 8 жыхароў. З 1960 г. ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — в. Заазер'е), 17.5.2012 г. далучана да ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 36 жыхароў, у 1970 г. 25 жыхароў. У 2001 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзіцца (2012) ЗАТ «Райсельэнерга».

**ПАНЮЦІЧЫ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 20 км на З ад Нясвіжа, 132 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 45 гаспадарак, 71 жыхар (2012).

У 1602 г. сяло маёнтка Сноў у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1687 г. фальварак таго ж маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол., 65 душ мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 223 жыхары, карчма. Каля вёскі знаходзіўся аднайменны фальварак (пры шляху Сноў— Стваловічы), 1 двор (4 будынкі), 4 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 41 двор, 284 жыхары; у фальварку 3 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 48

двароў, 302 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. у вёсцы 104 двары, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 17 воінаў-землякоў загінулі на франтах. У 1948 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», адкрыта хата-чытальня (пераведзена з в. Вайнілавічы). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 11.7.1954 г. ў Ліпскім с/с. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «17 Верасня», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «17 Верасня», з 16.7.2003 г. СВК «17 Верасня» (цэнтр — в. Высокая Ліпа), са снеж. 2005 г. ў межах СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). Са снеж. 2005 г. ў Сноўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 471 жыхары, у 1970 г. 325 жыхароў. У 1998 г. 74 гаспадаркі, 132 жыхары, у 2001 г. 64 гаспадаркі, 119 жыхароў. У 2012 г. — магазін.

**ПЕТУХОЎШЧЫНА** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 11 км на Пн ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Стоўбцы. 42 гаспадаркі, 82 жыхары (2012).

У 1800 г. вёска Слуцкага павета Мінскай губ., уласнасць Нясвіжскага кляштара бенедыкцінак, 22 двары, 146 жыхароў, карчма. У 1852 г. вёска ў складзе казённага маёнтка Гавязна-Навасёлкі, 30 двароў, карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гавязнянскай вол., 42 двары, 289 жыхароў, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 29 двароў, 337 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 69 двароў, 358 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 90 двароў, 520 жыхароў, ветраны млын, няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрвеня 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 21.1.1989 г. вёска ў складзе саўгаса «Нясвіжскі» (раней уваходзіла ў калгас «Запаветы Леніна»), з 31.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства-аграфірма «Нясвіжская», з 30.12.2004 г. ЗАТ «Расіч» (цэнтр — в. Новыя Навасёлкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 384 жыхары, у 1970 г. 338 жыхароў. У 1998 г. 7 гаспадарак, 155 жыхароў, у 2001 г. 66 гаспадарак, 135 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**ПЛЯШЭВІЧЫ**, П л я ш ч э в і ч ы — вёска ў Ланскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Нясвіжа, 127 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля р. Выня (прыток р. Лоша). 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У 1800 г. фальварак Пляшчэвічы (панскі драўляны дом, вінакурня) і вёска (6 жыхароў), у Слуцкім павеце Мінскай губ., уладанне Дамініка Радзівіла. У 1811 г. фальварак (у складзе в. Габруны) у арэндзе ў Кучынскага. У 1843 г. ў фальварку 12 дымоў, у 1848 г. 31 гаспадарка; у 1861 г. 32 гаспадаркі. У 1878 г. фальварак, 544 дзес. зямлі, уладанне Радзівілаў, у Пацейкаўскай вол. У 1897 г. 44 двары, 222 жыхары; у 1909 г. 42 двары, 213 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; засценак, 44 двары, 257 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Барана-

віцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. засценак, 49 двароў, 334 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 1 вясковец загінуў на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. ў Лявонавіцкім сельсаветах. З 18.3.1980 г. вёска ў складзе калгаса «1 Мая» (раней уваходзіла ў калгас імя Кірава), з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 171 жыхар, у 1970 г. 129 жыхароў. У 1998 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў, у 2001 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**ПРАСМЫКАЎШЧЫНА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 2 км на ПнУ ад Нясвіжа, 114 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 1800 г. засценак Слуцкага павета Мінскай губ., уладанне Радзівілаў, 1 двор, 6 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гавязнянскай вол., 4 невял. пасёлкі Прасмыкаўшчына, у якіх 17, 8, 10 і 8 жыхароў. У 1909 г. маёнтак, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 31.12.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 21 двор, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 31.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — в. Заазер'е), 17.5.2012 г. далучана да ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 55 жыхароў, у 1970 г. 43 жыхары. У 2001 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў.

**ПРАСЦІ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 117 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 54 гаспадаркі, 93 жыхары (2012).

У 1860 г. маёнтак Навагрудскага павета Мінскай губерні, 1208 дзес. зямлі, вадзяны млын, 3 карчмы, уладанне М.М.Пратасевіча. У 1870 г. маёнтак Пратасевіча і вёска, 107 душ мужчынскага полу, у Гарадзейскай вол. У 1887 г. ў маёнтку знаходзіліся каталіцкая капліца, млыны, вінны откуп (64 валокі зямлі). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 53 двары, 282 жыхары, 2 хлебазапасныя магазіны; у маёнтку 18 двароў, 45 жыхароў, капліца. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба, 4 двары, 18 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. вёска, 57 двароў, 368 жыхароў, і маёнтак, 3 двары, 38 жыхароў (у 1914 г. 1231 дзес. зямлі). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; фальварак, 4 двары, 40 жыхароў, і вёска, 69 двароў, 387 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска, 106 двароў, 405 жыхароў, вадзяны млын, і б. маёнтак, 4 двары, 52 жыхары. У б. маёнтку арганізаваны калгас імя Калініна (у калгас уступілі парабкі маёнтка і 11 сем'яў перасяленцаў). У ліп. 1940 г. калгасу перададзены будынкі былых маёнткаў Прасці і Астроўкі (акрамя памешчыцкіх дамоў), а таксама жылыя дамы былых асаднікаў Янушке-



палі Калошы з в. Астроўкі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. аб'яднаны даваенны калгас імя Калініна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1952 г. вёска ў складзе калгаса імя Маленкова, які ў жн. 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Дзяржынскага, з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 485 жыхароў, у 1970 г. 422 жыхары. У 1998 г. 87 гаспадарак, 176 жыхароў, у 2001 г. 88 гаспадарак, 178 жыхароў. У 2012 г. — малочна-таварная ферма і 2 фермы па вырошчванні маладняку, сярэдняя школа, крама на даму.

**ПУКЕЛЕЎШЧЫНА**, Пуклеўшчына, Пуклеўшчызна — вёска ў Ланскім с/с. За 10 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы, каля аўтадарогі Нясвіж—Клецк. 36 гаспадарак, 68 жыхароў (2012).

У 1758 г. фальварак Пуклеўшчызна ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1858 г. фальварак Сцятынскіх, 7 душ мужчынскага полу. У 1887 г. вёска ў Ланскай вол., каля шляху з Нясвіжа ў Клецк (6 асад), і 5 аднайменных фальваркаў (4 з іх належалі прадстаўнікам роду Сцятынскіх, пяты фальварак, 40 дзес. зямлі, знаходзіўся ва ўладанні К. Тупальскай). У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі 2 фальваркі (разам 6 двароў, 63 жыхары) і ўрочышча (9 жыхароў). У 1909 г. засценак, 9 двароў, 10 жыхароў, і фальварак, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; засценак, 13 двароў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. ў засценку 19 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Жданава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1950-я г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «Чырвоны партызан», з 10.2.1960 г. ў калгасе імя Леніна (у 1982 г. аб'яднаны з калгасам «Ленінскі шлях»), з 30.12.1996 г. ў складзе калект. сельскай гаспадаркі «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж» (цэнтр — аграгарадок Лань). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 131 жыхар, у 1970 г. 168 жыхароў. У 1998 г. 48 гаспадарак, 86 жыхароў, у 2001 г. 43 гаспадаркі, 76 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма.

**РАКАВІЧЫ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 12 км на ПнУ ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 33 гаспадаркі, 62 жыхары (2012).

У 1749 г. засценак у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. засценак і вёска, 37 двароў, 221 жыхар, уладанне Дамініка Радзівіла. У 1811 г. ў засценку 9 душ мужчынскага полу. У 1876 г. засценак (239 дзес. зямлі), аднайменная вёска, карчма. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гавязнянскай вол., 51 двор, 285 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын. Побач з вёскай знаходзіліся будынкі засценка. У 1909 г. вёска, 34 двары, 263 жыхары, і засценак, 17 двароў, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г.





акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 77 двароў, 394 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Юшавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 79 двароў, 417 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. побач з вясковымі могілкамі, каля дарогі на Нясвіж гітлераўскія карнікі расстралялі 35 мірных грамадзян. 8 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. створаны калгас «Герой Працы». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У вер. 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Сталіна (са снеж. 1961 г. калгас «Зара»), з 30.1.1978 г. ў калгасе «Слава», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. долевая гаспадарка «Слава», з 2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Юшавічы» (цэнтр — аграгарадок Юшавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 384 жыхары, у 1970 г. 288 жыхароў. У 1998 г. 56 гаспадарак, 117 жыхароў, у 2001 г. 54 гаспадаркі, 111 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с. Абеліск (1956) на магіле 35 мірных грамадзян, расстраляных гітлераўцамі.



*Магазін у былым сядзібным доме ў в. Рудаўка.*

**РУДАЎКА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 0,5 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 112 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 490 гаспадарак, 1149 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1584 г. кн. Мікалай Радзівіл Сіротка згодна з фундушавай граматай перадаў вёску Рудаўку (32 валокі зямлі) ва ўладанне ордэна езуітаў. У 1703 г. гетман ВКЛ Міхаіл Сервацый Карыбут-Вішнявецкі надаў Рудаўцы, якая па-ранейшаму належала езуітам, ахоўную грамату ад нападаў шляхты. У 1762 г. каля вёскі пачыналася ўрачыстая цырымонія ўступлення Караля Радзівіла («Пане Каханку») ва ўладанне Нясвіжскай ардынацыяй. Князя сустрэлі войскі ардынацыі і прадстаўнікі шляхты. У 1775 г. Рудаўка належала Радзівілам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска, 107 душ мужчынскага полу, і маёнтак (уладанне Корбута); у Гарадзейскай вол. У 1876 г. маёнтак Рудаўка і Ужанка (спадчыннае ўладанне Корбутаў), 1068 дзес. зямлі; меліся карчма, вадзяны млын, каталіцкая капліца. У 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 323 жыхары, хлебазапасны магазін; у маёнтку 9 двароў, 25 жыхароў. У 1909 г. вёска, 58 двароў, 360 жыхароў, і маёнтак, 2 двары, 15 жыхароў. У 1916 г. ў вёсцы працавала аднакласнае нар. вучылішча, маёнтак знаходзіўся ва ўладанні Б.Ф.Беліновіч (494 дзес. зямлі). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжская павета Навагрудскага ваяв., вёска, 77 двароў, 374 жыхары, і фальва-



рак, 6 двароў, 35 жыхароў. З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Квачэўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 93 двары, 426 жыхароў; у б. маёнтку 2 двары, 32 жыхары. У крас. 1940 г. на тэр. б. маёнтка Рудаўка была створана Нясвіжская МТС, да якой адышлі 20 га зямлі, сад і ўсе гасп. пабудовы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сяр. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. Пасля вызвалення ад гітлераўцаў адноўлена Нясвіжская МТС (у 1947 г. 4 трактарныя брыгады, 12 трактароў, пабудавана электрастанцыя). У 1947 г. ў вёсцы працавала школа, у 1950 г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. У 1961 г. на базе МТС арганізавана аб'яднанне райсельгастэхнікі. Былі пабудаваны майстэрня для рамонту с.-г. тэхнікі, такарны цэх, кузня і інш. 12.11.1966 г. пасёлак аддз. «Сельгастэхніка» аб'яднаўся з вёскай Рудаўка ў адзін населены пункт. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 379 жыхароў, у пасёлку МТС 65 жыхароў. У 1970 г. пасёлак Рудаўка, 769 жыхароў. У 1986 г. аддз. «Сельгастэхніка» (цэнтр — в. Рудаўка) рэарганізавана ў Райаграпрамтэхніку, у 1995 г. — у ААТ «Нясвіжскае раённае прадпрыемства па вытворча-тэхнічным абслугоўванні», з 1.1.2003 г. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (у чэрв. 2003 г. да прадпрыемства далучаны ААТ «Нясвіжская сельгасхімія», у 2004 г. — ААТ «Нясвіжскі райаграснаб» і СВК «Карповічы»). У 1998 г. 417 двароў, 1192 жыхары, у 2001 г. 430 гаспадарак, 1090 жыхароў. У 2012 г. падраздзяленні ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс», дзіцячы сад, клуб, філіял ААТ «Прыорбанк», фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны.

**САЛТАНАЎШЧЫНА** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Ланскім с/с. За 10 км на ПдУ ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 140 гаспадарак, 416 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1587 г. Іван Іванавіч Солтан прадаў Мікалаю Радзівілу (Сіротцы) свой маёнтак Салтанава Гаць разам з фальваркам Затур'я (знаходзіліся ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. сяло (19 двароў, 113 жыхароў, млын, уніяцкая драўляная царква, карчма) і фальварак (драўляны панскі дом, вінакурня), уладанне Дамініка Радзівіла. У 1826 г. маёнтак і сяло, дзе была пабудавана Троіцкая царква. Фальварак Салтанаўшчына (ці Салтанаўшчызна) Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў у 1846 г. налічваў 49 дымоў, у 1858 г. 47 двароў, 347 жыхароў (у 1876 г. 287 дзес. зямлі, у 1878 г. 311 дзес. зямлі). Згодна з інвентаром 1888 г. ў маёнтку знаходзіліся жылы дом, флігель, дом для парабкаў, малацільня, стайня і экіпажная, памяшканні для жывёлы і птушкі, гумны і іншыя гасп. пабудовы, а таксама сад і агароды. У сяле ў 1884 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 15 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Пацейкаўскай вол., 50 двароў,



*Троіцкая царква ў в. Салтанаўшчына.*





329 жыхароў, кузня, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, крама, піцейны магазін. У аднайменным маёнтку 27 жыхароў. Побач з сялом знаходзілася сядзіба прычту Салтанаўшчынскай царквы, 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. сяло, 48 двароў, 292 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 54 двары, 311 жыхароў, фальварак, 3 двары, 44 жыхары, і леснічоўка, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 61 двор, 344 жыхары, асада, 29 двароў, 116 жыхароў, фальварак, 5 жыхароў. У 1940—41 гг. у вёсцы працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 37 землякоў з вёсак калгаса імя Кірава (у т.л. 15 жыхароў Салтанаўшчыны). У 1946 г. ў вёсцы скончана будаўніцтва школы. У 1947 г. працавала хата-чытальня. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. ў Лявонавіцкім сельсаветах. Да 1980 г. вёска з'яўлялася цэнтрам узбуйненага калгаса імя Кірава, з 18.3.1980 г. ў складзе калгаса «1 Мая», з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 353 жыхары, у 1970 г. 308 жыхароў. У 1998 г. 134 гаспадаркі, 367 жыхароў, у 2001 г. 133 гаспадаркі, 377 жыхароў. У 2012 г. — клуб, б-ка, вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—агульнаадукацыйная школа, фельч.-акушэрскі пункт, лазнева-пральны камбінат, магазін, аддз. сувязі, жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с. Помнік (1969) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, каля будынка школы. На могілках знаходзіцца Троіцкая царква (1826 г., адрамантавана ў 1989 г.; помнік архітэктуры, у якім спалучаюцца рысы архітэктуры барока і класіцызму; дзейнічае).

**САСКА ЛІПКА**, Саская Ліпка, Сачковічы Ліпа, Шацкая Ліпка — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 6 км на З ад Нясвіжа, 118 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 225 гаспадарак, 555 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. як двор і землі шляхціцаў Сачкевічаў-Ліпніцкіх у Ліпе, частку якіх набыла Ганна Радзівіл (з роду Кішкаў) пасля смерці свайго мужа Яна І Барадатага Радзівіла. У 1528 г. пакупку зацвердзіў кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Жыгімонт І. У 1560—62 гг. Мікалай Крыштоф Радзівіл купіў маёмасць братоў Сачкевічаў і зямяніна Яўхіма Ліпніцкага — Насачкевіч-Ліпу (Сачкевічаўскую Ліпу) і Сачкаўшчызну. З 1562 г. маёнтак Сачковічы-Ліпа ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1876 г. вёска Шацкая Ліпка ўваходзіла ў межы маёнтка Завушша, уладанне Вітгенштэйна, 13 сял. сядзіб, карчма фальварка Ліпка (каля вёскі). У 1883 г. вёска ў Гарадзейскай вол., 56 асад. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 144 двары, 796 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 143 двары, 831 жыхар, у фальварку Ліпка каля вёскі 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.,



вёска, 175 двароў, 883 жыхары, і фальварак, 8 двароў, 29 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Квачэўскім с/с. У 1940 г. вёска, 208 двароў, 975 жыхароў, і былы маёнтак, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 76 землякоў з населеных пунктаў калгаса «Радзіма» (у т.л. 23 жыхары з в. Саска Ліпка). У вер. 1948 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Радзіма». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ліпскім, з 31.7.1954 г. ў Карцэвіцкім сельсаветах. З 1954 г. да 2004 г. цэнтр узбуйненага калгаса «Радзіма» (з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. СВК «Карцэвічы»). У ліп. 2004 г. вёска разам з іншымі населенымі пунктамі Карцэвіцкага с/с і СВК «Карцэвічы» ўвайшла ў склад ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр — в. Рудаўка). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 791 жыхара, у 1970 г. 624 жыхары. У 1998 г. 262 гаспадаркі, 685 жыхароў, у 2001 г. 254 гаспадаркі, 698 жыхароў. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, гандл. цэнтр, 2 магазіны, аддз. сувязі, механізаваны двор, жывёлагадоўчая і свінагадоўчыя фермы, Дом жывёлавода. З 1.7.2013 г. ў Нясвіжскім с/с. Каля Дома культуры помнік (1971) землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СЕЙЛАВІЧЫ** — вёска (з 2009 г. аграгарадок), цэнтр Сейлавіцкага с/с. За 10 км на ПнУ ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 374 гаспадаркі, 677 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка надаў Нясвіжскай плябаніі 8 валок зямлі, што знаходзіліся паміж «валок Сейлаўскіх». У 1722 г. засценак Нясвіжскай ардынацыі, які Ганна Радзівіл аддала шляхце на леннае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. вёска (53 дымы, 285 жыхароў, карчма) і засценак ў складзе фальварка Ганусаўшчызна, уладанне Радзівілаў. У 1800 г. ў вёсцы 81 двор, 400 жыхароў, у 1811 г. 62 гаспадаркі, 167 душ мужчынскага полу. У 1845 г. ў засценку Сейлавічы 69 двароў, 332 жыхары. У 1852 г. вёска, 51 дым, 287 жыхароў, і засценак, 62 дымы, 28,5 валок зямлі. У 1876 г. ў засценку 1110 дзес. зямлі (уладанне Радзівілаў). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 89 двароў, 511 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, і засценак, 96 двароў, 513 жыхароў, праваслаўная прыходская царква; у Гавязнянскай вол. У 1909 г. ў вёсцы 568 жыхароў, у засценку 635 жыхароў (100 двароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 109 двароў, 592 жыхары, і аднайменны засценак, 107 двароў, 576 жыхароў. З ліст.



*Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Сейлавічы.*

1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Сейлавіцкага с/с. У 1940 г. ў вёсцы 159 двароў, 820 жыхароў, 1 маторны і 4 ветраныя млыны, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, бальніца, у засценку 109 двароў, 507 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 32 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1948 г. ў засценку створаны калгас імя Дзяржынскага, у вер. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Перамога». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса імя Андрэева (уваходзілі 5 вёсак), з 13.12.1961 г. калгас «Світанне», з 16.7.2003 г. СВК, з 10.2.2011 ААТ «Сейлавічы». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 903 жыхары, у засценку 444 жыхары. У 1970 г. вёска, 1112 жыхароў, у 1998 г. 317 гаспадарак, 739 жыхароў, у 2001 г. 297 гаспадарак, 698 жыхароў. У 2012 г. — клуб, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, 2 магазіны, сталовая, аддз. сувязі, 2 жывёлагадоўчыя фермы. Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў стылі нар. драўлянага дойлідства (19 ст., дзейнічае).

**СЛАБАДА**, Слабодка — вёска ў Сноўскім с/с. За 30 км на З ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Ведзьма (прыток р. Шчара). 107 гаспадарак, 266 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 61 душа мужчынскага полу. У 1888 г. ў вёсцы 14 асад. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 188 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 221 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 38 двароў, 236 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагарэльцаўскім с/с. У 1940 г. 54 двары, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. Да 1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Чарняхоўскага, потым — у калгасе імя Калініна, які 14.3.1994 г. рэарганізаваны ў калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр —аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 234 жыхары, у 1970 г. 170 жыхароў. У 1998 г. 110 гаспадарак, 281 жыхар, у 2001 г. 116 гаспадарак, 308 жыхароў. У 2012 г. — бібліятэка-клуб, магазін, спарт. зал.

**СЛАЎКАВА** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 5 км на У ад Нясвіжа, 117 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Асіповічы. 169 гаспадарак, 348 жыхароў (2012).

У 1711 г. маёнтак, уладанне Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1748 г. засценак Нясвіжскай ардынацыі, на які кн. Міхал Казімір Радзівіл выдаў прывілей шляхце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. вёска фальварка Каралін, уладанне Радзівілаў, 51 дым, 258 жыхароў. У 1800 г. вёска, 74 двары, 341 жыхар, ветраны млын. У 1811 г. 48 гаспадарак, 134 душы мужчынскага полу, у 1834 г. 65 двароў, у 1849 г. 44 дымы, 143 жыхары. У 1876 г. засценак Слаўкава Нясвіжскай ардынацыі (1081 дзес. зямлі; у 1878 г. 803 дзес. зямлі.), і аднайменная вёска, якая ў 1888 г. налічвала 16 асад. З 1890 г. ў вёсцы працавала рухомая



школа граматы (у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 11 хлопчыкаў). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 47 двароў, 403 жыхары, 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, і засценак, 67 двароў, 377 жыхароў, кузня; у Гавязнянскай вол. У 1909 г. ў вёсцы 45 двароў, 342 жыхары; у засценку, 85 двароў, 425 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 180 двароў, 938 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 218 двароў, 1059 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1948 г. арганізаваны калгас імя Жданава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. вёска ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — аграгарадок Заазер'е), 17.5.2012 г. далучана да ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 844 жыхары, у 1970 г. 745 жыхароў. У 1998 г. 223 гаспадаркі, 452 жыхары, у 2001 г. 205 гаспадарак, 432 жыхары. У 2012 г. — клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, жывёлагадоўчы комплекс. За 0,7 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Іванава Гара, у ельніку знаходзіцца помнік археалогіі — каменныя магілы (захавалася каля 20 магіл з каменнымі абкладкамі і вертыкальна пастаўленымі камянямі).

**СМАЛІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Нясвіжа, 130 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 51 гаспадарка, 89 жыхароў (2012).

У 1740 г. маёнтак Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1795 г. 2 засценкі: Смалічы Вял., 5 двароў, 22 жыхары (у 1800 г. 7 жыхароў), і Смалічы Малыя, 6 двароў, 18 жыхароў (у 1800 г. 8 жыхароў). У 1870 г. вёска, 49 душ мужчынскага полу, і аднайменны маёнтак, 176 дзес. зямлі (1876), уладанне А.М.Кліменкі; у Пацейкаўскай вол. У 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 169 жыхароў; у маёнтку — 22 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 39 двароў, 235 жыхароў; у маёнтку 31 жыхар. У 1916 г. ў вёсцы працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 47 двароў, 246 жыхароў, і фальварак, 3 двары, 24 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лявонавіцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 45 двароў, 298 жыхароў; у б. маёнтку (5 двароў, 39 жыхароў) створаны калгас «1 Мая», якому перададзены ўсе будынкі і гаспадарка маёнтка, акрамя малочнага з-да. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1949 г. адноўлены даваенны калгас. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. зноў у Лявонавіцкім сельсаветах. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «1 Мая» (у 1951—52 гг. цэнтр калгаса), з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1-е Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г.

ў вёсцы 388 жыхароў, у 1970 г. 308 жыхароў. У 1998 г. 79 гаспадарак, 165 жыхароў, у 2001 г. 77 гаспадарак, 166 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала бібліятэка-клуб. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с. Вёска – радзіма бел. і польскага пісьменніка, філосафа і гісторыка А.Х.Незабытоўскага (2.10.1819–21.3.1849).

**СНОЎ** – вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Сноўскага с/с. За 19 км на З ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы–Мінск, на р. Сноўка (прыток р. Уша). 1136 гаспадарак, 2626 жыхароў (2012).

Вядомы з 16 ст. як маёнтак у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1529 г. Некрашэвіч Фурсавіч прадаў яго Яну, Паўлу, Малхеру і Аўгусціну Жыгімонтавічам, якія з гэтага часу пачалі называцца панамі Сноўскімі. З 1564 г. мястэчка Навагрудскага павета. У 1602 г. мястэчка разам з вёскамі і фальваркамі Наўдзешава, Хвоева, Панюцічы, Клепачы (Клепацкаўшчызна), Друцкаўшчына (Друцкаўшчызна) уваходзіла ў склад маёнтка Сноў, уладанне Сноўскіх. У пач. 17 ст. маёнтак набыў пісар земскі навагрудскі Я.М.Пратасовіч. Пазней, да сярэдзіны 19 ст. Сновам валодалі прадстаўнікі роду Рдултоўскіх (паводле іншых звестак у канцы 18 – сяр. 19 ст. маёнтак належаў Абуховічам). З 1699 г. ў Снове існаваў рымска-каталіцкі храм. У 1760 г. на сродкі Я.Х.Рдултоўскага з цэглы пабудаваны новы касцёл Яна Хрысціцеля (у 1866 г. пераўтвораны ў праваслаўную прыходскую Спаса-Праабражэнскую царкву, з 1921 г. зноў касцёл). У 1717 г. яўрэі Снова і Ішкальдзі аб'ядналіся ў адзін кагал. У часы Барскай канфедэрацыі 1768–72 гг. Сноў значна пацярпеў ад дзеянняў варагуючых бакоў. 15.9.1785 г. на шляху да Нясвіжа на начлег у мястэчку спыняўся кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1793 г. ў маёнтак Сноў уваходзілі мястэчка Сноў, вёскі Клепачы, Хвоева, фальваркі Горны Сноў, Цішкоўцы, Нялепава, Панюцічы, Грускоў. У вайну 1812 г. 9 ліст. пад Сновам адбыўся бой паміж атрадам капітана Ракасоўскага (польская дывізія ген. Я.Г.Дамброўскага з Вял. арміі Напалеона) і рас. казакамі. У 1825–27 гг. на раўнінным беразе р. Сноўка Казімір Рдултоўскі па праекце архітэктара Б.Тычэцкага пабудаваў двухпавярховы палац (з цэглы, па некаторых звестках налічваў 100 пакояў, захаваўся да нашага часу). У 1836 г.

*Палац Рдултоўскіх у в. Сноў.*



*Царква Святых Казьмы і Дзям'яна ў в. Сноў.*









*Знешні выгляд і інтэр'ер касцёла Святога Яна Хрысціцеля ў в. Сноў.*

ў фальварку Горны Сноў (у 1990-я г. яго тэр. ўвайшла ў межы в. Сноў) намаганнямі Казіміра Рдултоўскага на могілках на месцы згарэлай драўлянай капліцы Пятра і Паўла (узведзена ў 1769 г.) пабудавана мураваная царква (у 1893 г. перабудавана Гарцінгамі, цяпер царква Казьмы і Дзям'яна). У 1854 г. маёнтак Сноў разам з фальваркамі Дольны і Горны Сноў купіў барон Густаў Гарцінг. Набытыя ім уладанні ўключалі вінакурню (засн. ў 1836 г. ў Дольным Снове), бровар, вадзяны млын, 3 карчмы, 2672 дзес. зямлі. У сярэдзіне 19 ст. ў фальварку Горны Сноў Гарцінгі пабудавалі новы сядзібны комплекс, які ўключаў мураваны сядзібны дом, парк, гасп. пабудовы (у канцы 19 — пач. 20 ст. сядзіба перабудоўвалася, захавалася). У 1861 г. Сноў — мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага павета, 45 двароў, 378 жыхароў, царква, сінагога, цагельня. У 1865 г. тут адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1892/93 навуч. годзе вучыліся 57 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі, у 1905/06 навуч. годзе — 61 хлопчык, 12 дзяўчынак. У канцы 19 ст. ў мястэчку знаходзіліся валаснос праўленне, праваслаўная царква, 2 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, 3 крамы. У 1897 г. ў фальварку Горны Сноў 19 двароў, 91 жыхар, працавала вінакурня (засн. ў 1891 г., у 1895 г. 5 рабочых, паравая машына), дзейнічала царква. Фальварак Дольны Сноў (да 1939 г. таксама называўся Сінілава) у 1897 г. налічваў 16 двароў, 70 жыхароў, меліся вінакурня і сыраварня. У 1909 г. ў мястэчку Сноў 115 двароў, 465 жыхароў; у фальварках Дольны і Горны Сноў адпаведна 75 і 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Сноўскай гміны Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., 101 двор, 631 жыхар, гмінная ўправа, касцёл, царква, пошта. У 1921 г. ў фальварку Горны Сноў 7 двароў, 81 жыхар, у фальварку Дольны Сноў 8 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з

12.10.1940 г. вёска, цэнтр Сноўскага с/с. У 1940 г. 167 двароў, 1065 жыхароў, крухмальна-мельнічны камбінат (уключаў крухмальны з-д, млын і электрастанцыю, выпускаў да 2800 тон крухмала ў год), маслазавод, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, бальніца, штотыднёва адбываліся базары (у нядзелю). На тэр. б. маёнтка Горны Сноў у 1940 г. арганізаваны аднайменны саўгас (на снеж. 1939 г. б. маёнтак налічваў 449 га зямлі, у т.л. ворыва 277,87 га, сенажаці 50,17 га, пашы 22,70 га, лесу 81,14 га, пад садам 3,31 га, агародамі 0,56 га; акрамя таго меліся 100 галоў жывёлы, электрастанцыя, крухмальны з-д, паравы млын, механізаваная хлебапякарня, маслазавод і сыраварня; меліся залежы торфу). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 13 воінаў-землякоў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. За гады вайны на тэр. Сноўскага с/с былі знішчаны 78 дамоў. Пасля вайны быў адноўлены саўгас «Горны Сноў» (у 1946 г. 7 брыгад, з іх 3 жывёлагадоўчыя). У 1947 г. ў Снове адкрыта калбасная ф-ка, у 1948 г. — сельскі Дом культуры і б-ка. У 1949 г. створана Сноўская МТС (размяшчалася ў паўн. частцы мястэчка), арганізаваны калгас «Прамень Камунізма», які ў 1951 г. ўвайшоў у калгас імя Калініна. Цэнтр узбуйненага калгаса быў перанесены з вёскі Хвоева ў Сноў. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. У 1958 г. да калгаса імя Калініна далучана частка саўгаса «Горны Сноў» з населенымі пунктамі Горны і Дольны Сноў (42 двары), у 1960 г. — калгас імя Чарняхоўскага (цэнтр — в. Пагарэльцы). 19.1.1979 г. калгас імя Калініна ўзбуйнены часткай Нясвіжскай племяннай рэпрадукцыйнай гаспадаркі з населеным пунктам Церасполь (42 двары). У 1986 г. калгас імя Калініна аб'ядноўваў 14 населеных пунктаў (цэнтр — в. Сноў). 14.3.1994 г. гаспадарка была рэарганізавана ў калект. прадпрыемства-агракамбінат «Сноў», 2.12.2002 г. — у СВК «Агракамбінат «Сноў». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1988 жыхароў, у 1970 г. 2285 жыхароў. У 1998 г. 1154 гаспадаркі, 2672 жыхары, у 2001 г. 1104 гаспадаркі, 2567 жыхароў. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа і школа мастацтваў, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, шпіталь органаў пагранічнай службы (размешчаны ў палацы Рдултоўскіх), гасцініца, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», цырульня, крухмальны завод, мясакамбінат, малочны цэх, камбінат быт. абслугоўвання, газаразмеркавальная станцыя, 10 магазінаў, басейн, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр і інш. Дзейніча-

*Магілы салдат расійскай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну, каля в. Сноў (надпісы зроблены ў 1920-я гады ў час знаходжання вёскі ў складзе Польшчы).*







юць царква Казьмы і Дзям'яна (1836, помнік архітэктуры класіцызму) і касцёл Яна Хрысціцеля (1760, помнік архітэктуры барока). Пры Сноўскім Доме культуры працуюць нар. ансамбль песні і танца «Вяночак» (створаны ў 1982 г.), мужчынскі нар. ансамбль песні «Акцэнт» (створаны ў 1999 г.). За 2 км на Пн ад вёскі пахаваны каля 500 салдат і афіцэраў 2-й рас. арміі Зах. фронту, што загінулі ў баях супраць герм. войск ці атручаны газамі ў перыяд ваенных дзеянняў у раёне Нясвіжа, Снова, Міра ў Першую сусветную вайну. На брацкіх могілках таксама пахаваны чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1918—19 гг. у барацьбе супраць герм. і польскіх войск. У 1923 г. на магілах устаноўлены мемарыяльныя пліты. На Цэнтр. плошчы Снова на брацкіх могілках у 15 магілах пахаваны 110 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў ці памерлі ад ран (у 1960 г. на могілках пастаўлены помнік). На будынку б. бровара на тэр. сучаснага мясакамбіната мемарыяльная дошка ў гонар Я.Купалы, які працаваў тут у 1905 г. Сноў — радзіма бел. спевака, засл. артыста Беларусі А.С.Падгайскага (27.8.1946—5.7.1982).

**СТАРЫЯ НАВАСЁЛКІ** — вёска (з 2006 г. аграгарадок) у Сейлавіцкім с/с. За 8 км на Пн ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Стоўбцы. 141 гаспадарка, 371 жыхар (2012).

Вядома з 16 ст. як вёска Навасёлкі ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1598 г. кн. Мікалай Крыштоф Радзівіл (Сіротка) аддаў Навасёлкі (разам з в. Амлынцы) кляштару Нясвіжскіх бернардзінцаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. двор і вёска Навасёлкі, уласнасць Нясвіжскай каталіцкай плябаніі. У двары меліся драўляны дом, вінакурня. Побач знаходзіліся цагельня, млын. У вёсцы 19 двароў, 141 жыхар, карчма каля шляху з Нясвіжа праз Гавязну, Свержань на Стоўбцы. У 1831 г. вёска канфіскавана на карысць казны. У 1852 г. вёска Навасёлкі 1 казённага маёнтка Гавязна-Навасёлкі, дзярж. уладанне (23 двары, карчма). У 1870 г. в. Старыя Навасёлкі Гавязнянскай вол., 109 душ мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 337 жыхароў, 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 30 двароў, 404 жыхары. Фальварак Навасёлкі, які знаходзіўся побач з вёскай, налічваў 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 73 двары, 403 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Навасёлкаўскага с/с. У 1940 г. 78 двароў, 381 жыхар, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1950 г. вёска ў складзе калгаса «Запаветы Леніна». З 8.1.1954 г. ў



*Сядзібны дом Гарцінгаў у в. Сноў (былы Горны Сноў).*





Мінскай вобл. У 1969—72 гг. — цэнтр калгаса. З 21.1.1989 г. ў складзе саўгаса «Нясвіжскі», з 31.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства-аграфірма «Нясвіжская», з 30.12.2004 г. ЗАТ «Росіч» (цэнтр — в. Новыя Навасёлкі). Паводле перапісу 1959 г. 303 жыхары, у 1970 г. 283 жыхары. У 1998 г. 146 гаспадарак, 393 жыхары, у 2001 г. 145 гаспадарак, 382 жыхары. У 2012 г. — сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, інтэрнат ЗАТ «Росіч», сталовая, грыбніца (памяшканне па вырошчванні грыбоў), лазня, жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**СТАЎПІШЧЫ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2012).

У 1889 г. вёска (10 асад) і фальварак Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 39 двароў, 239 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 219 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 48 двароў, 219 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска, 35 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У жн. 1950 г. 60 гаспадарак вёсак Стаўпішчы і Янчыцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная Звязда». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1952 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Маленкова, які ў жн. 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Дзяржынскага, 30.12.1996 г. рэарганізаваны ў калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — аграгарадок Астроўкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 241 жыхар, у 1970 г. 178 жыхароў. У 1998 г. 34 двары, 50 жыхароў, у 2001 г. 27 двароў, 42 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Гарадзейскім с/с.

**СТРЫХОРАЎШЧЫНА** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 11 км на Пн ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2012).

У 1840 г. засценак Стрыхораўшчызна Слуцкага павета Мінскай губ., 9 дымоў, 4 валокі 5 маргоў зямлі, заселены засцянковай шляхтай. У 1845 г. засценак, 9 двароў, 47 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У 1852 г. засценак фальварка Ганусаўшчына. У 1888 г. маёнтак Гавязнянскай вол., 88 дзес. зямлі, уладанне М.Л.Гагенлоэ. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 26 жыхароў. У 1909 г. 3 двары, 29 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., калонія, 6 двароў, 48 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 11 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 23.1.1989 г. ў складзе саўгаса «Нясвіжскі» (у 1950—88 гг. калгас «Запаветы Леніна»), з 23.12.1991 г. — калгаса-аграфірмы «Нясвіжская», з 31.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства-аграфірма «Нясвіжская», з 30.12.2004 г. ЗАТ «Росіч» (цэнтр — в. Новыя Навасёлкі). Паводле



перапісу 1959 г. ў вёсцы 93 жыхары, у 1970 г. 36 жыхароў. У 1998 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у 2001 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў. У 2012 г. — цяпліца, мясны і рыбны цэхі, мукамольнае прадпрыемства. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**СТУДЗЁНКІ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 15,5 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 105 км ад Мінска, 1,5 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 175 двароў, 364 жыхары (2007 г.).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1558 г. Мікалай Глябовіч у прысутнасці Мікалая Радзівіла падараваў маёнтак Лысіца і Студзёнкі Якаву Красуцкаму (ці Я.Красоўскаму). У 1650 г. Радзівілы купілі ад пана Быкоўскага маёнтак Ліпу Студзёную. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1805 г. фальварак Студзёнкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, у арэндзе ў Яна Развадойкі. У 1857 г. маёнтак, уладанне кн. Вітгенштэйна, 8 двароў, 24 жыхары, і аднайменная вёска, 35 гаспадарак, 244 жыхары. У 1862 г. ў вёсцы 31 гаспадарка, 129 душ мужчынскага полу (з іх 15 дваровых сялян); у іх карыстанні 307 дзес. 1155 сажняў зямлі. У вёсцы акрамя меліся 2 батрацкія гаспадаркі, 6 жыхароў. У 1889 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся 2 аднайменныя вёскі: 26 і 7 асад, і фальварак, 39 валок зямлі, млын, вінакурня, уладанне Гагенлоэ. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 62 двары, 438 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак, 11 двароў, 22 жыхары, крухмальны з-д, і сядзіба (уладанне памешчыка Шэпелера), 4 двары, 13 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 72 двары, 456 жыхароў, у маёнтку 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 85 двароў, 468 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Гарадзейскім с/с. У 1940 г. вёска, 133 двары, 502 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. ў вёсцы працавала школа. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Леніна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 19.3.1959 г. вёска ў складзе саўгаса «Гарадзейскі», з 1991 г. племкалгас «Гарадзейскі», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Гарадзея», з 16.7.2003 г. СВК «Гарадзея» (цэнтр — аграгарадок Новагарадзейскі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 818 жыхароў, у 1970 г. 797 жыхароў. У 1998 г. 169 гаспадарак, 367 жыхароў, у 2001 г. 154 гаспадаркі, 356 жыхароў. У 2012 г. — клуб, б-ка, магазін, жывёлагадоўчы комплекс. Абеліск (1959) на вясковых могілках, дзе пахаваны 12 сав. ваеннапалонных, расстраляных у 1941 г. гітлераўскімі карнікамі.

**СУПРУНАВІЧЫ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 132 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 80 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 31 двор, 259 жыхароў; у 1909 г. 44 двары, 310 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 53 двары, 284 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Грыцкевіцкім (Нялепаўскім) с/с. У 1940 г. вёска, 83 двары, 419 жыхароў. У Вял. Айч. вайну




з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. 20 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Світанне». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Беларусь», з 1996 г. калект. долевае прадпрыемства «Беларусь», з 2003 г. СВК, з 2010 г. ААТ «Грыцкевічы» (цэнтр — аграгарадок Грыцкевічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 322 жыхары, у 1970 г. 116 жыхароў. У 1998 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма.

**СЫНГАЛЫ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 23 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 126 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 1889 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ., 10 асад. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 79 жыхароў, млын (2 жыхары) і фальварак Сынгалы (Ігнацічы), 1 двор, 6 жыхароў, уладанне А.Берсеневіча. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 161 жыхар; у фальварку 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 16 двароў, 85 жыхароў; фальварак, 5 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагарэльцаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 31 двор, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. З 1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Калініна (да 1960 г. ў калгасе імя Чарняхоўскага), з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр - аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 101 жыхар, у 1970 г. 65 жыхароў. У 1998 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у 2001 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў.

**СЫЧЫ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 31 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 125 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2012).

У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскага ваяв., 61 душа мужчынскага полу. У 1890/91 навуч. годзе працавала рухомая школа граматы, у якой вучыліся 8 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 27 двароў, 159 жыхароў. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба, 2 двары, 12 жыхароў, і лясная старожка Сычоўскі Гай, 6 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 26 двароў, 239 жыхароў; у 1916 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 39 двароў, 224 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагарэльцаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 83 двары, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1947 г. ў вёсцы працавала школа. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Чарняхоўскага. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 9.8.1960 г. ў Сноўскім с/с. З 1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства, з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — арага-



радок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. у вёсцы 330 жыхароў, у 1970 г. 188 жыхароў. У 1998 г. 38 гаспадарак, 69 жыхароў, у 2001 г. 38 гаспадарак, 89 жыхароў.

**СЫЧЭВА** – вёска ў Нясвіжскім с/с. За 5 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 117 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы–Мінск. 21 гаспадарка, 46 жыхароў (2012).

У 1800 г. двор, фальварак і вёска (5 двароў, 27 жыхароў), шляхецкае ўладанне, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 10 душ мужчынскага полу, і маёнтак, уладанне Мікульскага, у Ланскай вол. У 1888 г. 2 фальваркі Сычэва, уладанні К.Н.Курачыцкага (45 дзес. зямлі) і М.І.Мікульскага (45 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы 7 двароў, 39 жыхароў. Побач з вёскай знаходзілася ваколіца Сычэва, 7 двароў, 47 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 11 двароў, 70 жыхароў. З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Карцэвіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 18 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1950 г. арганізаваны калгас «Рэкорд». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса «Радзіма», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. прадпрыемства «Радзіма», з 16.7.2003 г. СВК «Карцэвічы» (цэнтр – в. Cаска Ліпка), з ліп. 2004 г. ў межах тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс» (цэнтр – в. Рудаўка). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 102 жыхары, у 1970 г. 165 жыхароў. У 1998 г. 44 гаспадаркі, 85 жыхароў, у 2001 г. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма. З 1.7.2013 г. ў Сноўскім с/с.

**ТАРЭЙКІ** – вёска ў Сноўскім с/с. За 21 км на З ад Нясвіжа, 124 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы–Мінск, на р. Сноўка (прыток р. Уша). 43 гаспадаркі, 76 жыхароў (2012).

У 1860 г. вёска і фальварак Навагрудскага павета Мінскай губ. З 22.3.1860 г. фальварак ва ўладанні Р.С.Кабылінскага; 216 дзес. зямлі. У 1891 г. вёска ў Сноўскай вол., 11 асад; у 1897 г. 22 двары, 152 жыхары, хлебазапасны магазін; у фальварку 1 двор (5 будынкаў), 13 жыхароў. У 1909 г. вёска, 28 двароў, 196 жыхароў, і фальварак, 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 35 двароў, 208 жыхароў, і фальварак, 2 двары, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. вёска, 76 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Волат». З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Калініна, з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр – в. Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 305 жыхароў, у 1970 г. 243 жыхары. У 1998 г. 53 гаспадаркі, 89 жыхароў, у 2001 г. 52 гаспадаркі, 91 жыхар. Вёска – радзіма бел. мастака, засл. дзеяча культуры Беларусі Я.І.Ждана (н. 15.12.1937).

**УДАРНЫ** – пасёлак (з 2008 г. аграгарадок) у Гарадзейскім с/с. За 14 км

на ПнЗ ад Нясвіжа, 104 км ад Мінска, 0,5 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 302 гаспадаркі, 878 жыхароў (2012).

Існуе з 1964 г., калі пачалося будаўніцтва пасёлка цэнтр. сядзібы саўгаса «Буракаводчы» Гарадзейскага с/с. 21.1.1969 г. пасёлак атрымаў сучасную назву. 15.4.1994 г. саўгас перайменаваны ў Эксперыментальную базу «Буракаводчая» з падпарадкаваннем навук.-вытв. аб'яднанню «Буракі» Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь, з 1.3.2001 г. РУП, з 2012 г. дзярж. прадпрыемства «Эксперыментальная база «Буракаводчая» (уключае 5 населеных пунктаў). Паводле перапісу 1970 г. ў пасёлку 371 жыхар. У 1998 г. 250 гаспадарак, 746 жыхароў, у 2001 г. 270 гаспадарак, 792 жыхары. У 2012 г. — дзіцячы сад, магазін, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сховішчы, піларама, гараж.

**УЖАНКА** (да 12.11.1966 г. — Вял. Ужанка і Малая Ужанка) — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 102 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Нясвіж—Навагрудак. 139 гаспадарак, 325 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. кн. Мікалаю Радзівілу Чорнаму зроблена даніна на 2 валокі зямлі на Ужанцы. У 1584 г. кн. Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка перадаў Ужанку ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ (18 валок зямлі) ва ўладанне езуітаў. Фундушавую грамату Радзівіла пацвердзіў сейм Рэчы Паспалітай, які вызваліў жыхароў вёскі ад дзярж. павіннасцяў і падаткаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1853 г. паводле кнігі ўспамінаў У.Сыракомлі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» у Вужанцы меўся касцёл. У лесе за вёскай сяляне здаўна рабілі ямы і печы для выпальвання вапны. Паводле паданняў у гэтым лесе хаваліся разбойнікі, якія рабавалі вандроўнікаў. У 1870 г. ў межах Гарадзейскай вол. Навагрудскага павета існавалі 2 вёскі: Вял. Ужанка, 63 душы мужчынскага полу, і Малая Ужанка, 61 душа мужчынскага полу. Побач з вёскамі знаходзіўся маёнтак Ужанка (у 1876 г. разам з фальваркам Рудаўка меў 1068 дзес. зямлі), уладанне Корбутаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Малой Ужанцы 36 двароў, 250 жыхароў, Вял. Ужанцы 35 двароў, 241 жыхар, хлебазапасны магазін. У маёнтку Ужанка ў 1897 г. 13 двароў, 28 жыхароў, каталіцкая капліца. Побач з паштовым трактам Гарадзея—Нясвіж знаходзіўся таксама фальварак Ужанка, уладанне памешчыцы Неслухоўскай, 4 пабудовы, 5 жыхароў. У 1909 г. вёскі Вялікая (39 двароў, 239 жыхароў) і Малая (48 двароў, 314 жыхароў) Ужанка; маёнтак, 10 жыхароў. У 1916 г. ў адной з вёсак працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёскі Вял. Ужанка (63 двары, 363 жыхары) і Малая Ужанка (56 двароў, 365 жыхароў); асады Ужанка 1 (5 жыхароў) і Ужанка 2 (18 жыхароў); фальварак Ужанка, 3 двары, 33 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Гарадзейскім с/с. У 1940 г. вёскі Вял. Ужанка (332 жыхары, пач. школа), Малая Ужанка (377 жыхароў); хутар Ужанка (42 жыхары) і б. маёнтак Ужанка (15 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі ці пра



вялі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. у Мінскай вобл. 12.11.1966 г. вёскі Вял. і Малая Ужанка аб'яднаны ў адну вёску Ужанка. З 21.4.1959 г. ў складзе саўгаса «Гарадзейскі», з 6.1.1964 г. ў саўгасе «Буракаводчы», з 15.4.1994 г. Эксперыментальная база «Буракаводчая», з 13.2001 г. РУП, з 2012 г. дзярж. прадпрыемства «Эксперыментальная база «Буракаводчая» (цэнтр — аграгарадок Ударны). Паводле перапісу 1959 г. ў Вял. Ужанцы 407 жыхароў, у Малой Ужанцы 320 жыхароў. У 1970 г. вёска Ужанка, 623 жыхары. У 1998 г. 167 гаспадарак, 357 жыхароў, у 2001 г. 155 гаспадарак, 344 жыхары. У 2012 г. — клуб, бка, магазін, жывёлагадоўчая ферма, зернесховішча. Каталіцкая капліца Маці Божай Вострабрамскай (18—19 ст.). Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне с.-г. навук, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі 1990 г. І.І.Козела (н. 1946 г.).

**ФАЛЬВАРКОЎЦЫ** — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 1,5 км на Пн ад Нясвіжа, 114 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

У 1870 г. вёска Фальваркаўцы (яна ж Міхайлава) Слуцкага павета Мінскай губ., 17 душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 95 жыхароў; у 1909 г. 16 двароў, 85 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 11 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. у БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў межах г. Нясвіж, з 11.12.1940 г. ў Сейлавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 13 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. З 1960 г. ў складзе эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — аграгарадок Заазер'е), 17.5.2012 далучана да ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс»). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 63 жыхары, у 1970 г. 53 жыхары. У 1998 г. 18 гаспадарак, 43 жыхары, у 2001 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў. Размешчаны (2012) Нясвіжскі філіял РУСП «Мінскае племпрадпрыемства».

**ФЭРБАЎШЧЫНА**, Фэлберкаў, Фэлберкаўшчызна, Фэрберкава — вёска ў Нясвіжскім с/с. За 2 км на Пд ад Нясвіжа, 114 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Клецк. 24 гаспадаркі, 64 жыхары (2012).

Паводле «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У.Сыракомлі сучасная вёска атрымала сваю назву ад імя ўладальніка Каспара Фальберга. У 1675 г. фальварак Фэлберкаўшчызна Навагрудскага ваяв. ВКЛ перайшоў да Радзівілаў. Згодна з інвентарамі маёнтка 1791 і 1793 гг. тут знаходзіліся дом аканома, бровар, пякарня, стайня і іншыя гасп. пабудовы. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Ліпа (Ліпава), Агароднікі, Вайнілавічы, Качановічы, Пахабаўшчына (цяпер Альбянка). У вёсках Ліпава і Пахабаўшчына меліся корчмы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1811 г. фальварак, 3 душы мужчынскага полу; у 1814 г. ў арэндзе ў Б.Навіцкага, у 1839 г. 27 дымоў. У 1883 г. фальварак Фэрберкава ў складзе маёнтка Зарэчча, уладанне К.Радзівіла. У 1897 г. маёнтак, 1 двор, 25 жыхароў (у 1878 г. 368 дзес. зямлі), у Ланскай вол. У 1909 г. 41 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г.





ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., фальварак, 3 двары, 53 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1947 г. ў Карцэвіцкім с/с. У 1940 г. фальварак, 3 двары, 54 жыхары. У снеж. 1940 г. паўн. частка б. маёнтка перададзена ў межы г. Нясвіж (разам з в. Агароднікі, 220 га зямлі). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім с/с. У 1954—68 гг. жывёланарыхтоўчая база «Фэрбаўшчына». З 1996 г. ў межах тэр. эксперыментальнай базы «Ганусава», з 28.3.2001 г. РУП «Эксперыментальная база «Ганусава» (цэнтр — аграгарадок Заазер'е), з 17.5.2012 г. на тэр. ААТ «Нясвіжскі райаграсэрвіс». Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 205 жыхароў. У 1998 г. 31 гаспадарка, 70 жыхароў, у 2001 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары.

**ХАДАТАВІЧЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 127 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 36 гаспадарак, 58 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1552—55 гг. сяло Клецкага павета Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уладанне каралевы Боны. Налічвала звыш 13 валок зямлі, з якіх на цяглай службе лічылася 6 валок 15 маргоў зямлі, а на чыншу — 5 валок 8 маргоў. У 1572 г. сяло, 3 сялянскія і 3 баярскія «службы». У 1605 г. сяло маёнтка Малева (24 валокі зямлі, 30 асад), уладанне Радзівілаў. У 1792 г. вёска, 29 сем'яў, уладанне Радзівілаў, у складзе зямель, што ўваходзілі ў маёнтак Грыбаўшчызна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1794 г. 159 жыхароў. У 1800 г. ў вёсцы 20 двароў, 110 жыхароў, у 1814 г. 15 двароў, 88 жыхароў; у 1834 г. 18 дымоў, 95 жыхароў; у 1849 г. 101 жыхар. Згодна з Устаўной граматай 1862 г. ў вёсцы 12 сял. гаспадарак, 49 душ мужчынскага полу, мелася карчма. У 1897 г. вёска, 24 двары, 164 жыхары, хлебазапасны магазін, у Ланскай вол. У 1909 г. 32 двары, 211 жыхароў; у 1912—17 гг. працавала аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 39 двароў, 277 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Нясвіжскім павеце, з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. вёска, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 31.7.1954 г. ў Казлоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1953 г. вёска ў складзе калгаса імя Шверніка (20.12.1961 г. перайменаваны ў калгас «Дружба»), з 20.12.1976 г. ў калгасе «Новае жыццё», з 2.12.1996 г. ААТ «Новае жыццё» (цэнтр — аграгарадок Аношкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 279 жыхароў, у 1970 г. 238 жыхароў. У 1998 г. 70 гаспадарак, 131 жыхар, у 2001 г. 66 гаспадарак, 128 жыхароў, магазін.

**ХВОЕВА** — вёска ў Сноўскім с/с. За 21 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 120 км ад Мінска, 10 км. ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Мінск—Баранавічы. 134 гаспадаркі, 328 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1579 г. сяло маёнтка Сноў, уладанне Сноўскіх, аддадзена ў заставу Е.Галаўні, падсудку навагрудскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай



(1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска ў Сноўскай вол., 126 душ мужчынскага полу, у 1879 г. 250 жыхароў. У 1890 г. адкрыта рухомая школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 16 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. у вёсцы 76 двароў, 458 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 79 двароў, 514 жыхароў. 30.10 (12.11).1917 г. з раз'езда Хвоева на дапамогу бальшавікам Мінска выйшаў броняпоезд на чале з членам ВРК 2-й арміі бальшавіком В.А.Пралыгіным, што рашаючым чынам паўплывала на перамогу сав. улады ў Мінску. У 1946 г. ў гонар гэтых падзей на будынку пункта прыпынку [illegible] паўстанка ўстаноўлена мемарыяльная дошка. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сноўскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 112 двароў, 681 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сноўскім с/с. У 1940 г. вёскі Хвоева і Галоўцы разам налічвалі 277 двароў, 1259 жыхароў. У 1940—41 гг. у Хвоева працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У 1949 г. створаны калгас імя Калініна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса той жа назвы (з 1951 г. цэнтр калгаса — в. Сноў), з 14.3.1994 г. калект. прадпрыемства «Агракамбінат «Сноў», з [illegible]12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 955 жыхароў, у 1970 г. 517 жыхароў. У 1998 г. 143 гаспадаркі, 284 жыхары, у 2001 г. 166 гаспадарак, 299 жыхароў. У 2012 г. — магазін, жывёлагадоўчая ферма. Вёска — радзіма бел. спартсмена (лёгкая атлетыка, кіданне молата), чэмпіёна XVIII (1964, Токіо) і сярэбранага прызёра XIX (1968, Мехіка) Алімпійскіх гульняў Р.І.Кліма (н. 25.5.1933).

**ХРЫПКАВА** — вёска ў Ланскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад Нясвіжа, 127 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 1827 г. маёнтак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 60 дзес. зямлі, уладанне Ф.А. Гутаровіча. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі ў Ланскай вол. знаходзіліся: вёска Хрыпкава (яна ж Кутляны), 2 двары, 14 жыхароў і 5 аднайменных фальваркаў — 17, 11, 10, 13, 17 жыхароў. У 1909 г. фальварак, 6 двароў, 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., ваколіца, 14 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Быхаўшчынскім с/с. У 1940 г. вёска, 18 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ланскім с/с. З 1960 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна, з 1992 г. калект. с.-г. гаспадарка «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж». Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 57 жыхароў. У 1998 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў, у 2001 г. 5 гаспарак, 7 жыхароў.

**ЦАГЕЛЬНЯ** — вёска ў Сейлавіцкім с/с. За 15 км на ПнУ ад Нясвіжа, 127 км

ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У 1876 г. маёнтак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 31 дзес. зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1897 г. выселкі, 5 двароў, 35 жыхароў, у Пацейкаўскай вол. У 1909 г. пасёлак, 7 двароў, 42 жыхары, у Целядавіцкай вол. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., засценак, 12 двароў, 66 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Юшавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 14 двароў, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на франтах. У 1949 г. утвораны калгас імя Дзімітрава. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Сталіна (у снеж. 1961 г. атрымаў назву «Зара»). З 30.1.1978 г. ў калгасе «Слава», з 30.12.1996 г. калект. с.-г. долевая гаспадарка «Слава», з 16.7.2003 г. СВК, з 30.12.2010 г. ААТ «Юшавічы» (цэнтр — аграгарадок Юшавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 121 жыхар, у 1970 г. 66 жыхароў. У 1998 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у 2001 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с.

**ЦЕРАСПОЛЛЕ** — вёска ў Сноўскім с/с. За 20 км на З ад Нясвіжа, 121 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Баранавічы. 31 гаспадарка, 102 жыхары (2012).

Паводле перапісу 1897 г. каля в. Грускова Сноўскай вол. Навагрудскага павета Мінскай губ. знаходзіўся маёнтак Цераполле (Церасполь) каля Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, 1 двор (10 будынкаў), 47 жыхароў. У маёнтк працаваў цагельны з-д. У 1909 г. маё так, 60 жыхароў, уладанне І.Т.Гартын З лютага да снеж. 1918 г. акупіраван герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны лі 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі вой скамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў склад Польшчы, у Нясвіжскім павеце Нава грудскага ваяв., фальварак, 4 двары, 6 жыхары. 25.2.1977 г. згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР на тэр. Сноўскага с/с зарэгістраван пасёлак Церасполле як новы населен пункт. З 1994 г. ў складзе калект. пра прыемства «Агракамбінат «Сноў», 2.12.2002 г. СВК «Агракамбінат «Сноў» (цэнтр — аграгарадок Сноў). У 1998 48 гаспадарак, 116 жыхароў, у 2001 г. 5 гаспадаркі, 124 жыхары. У 2012 г. дзей нічалі птушкафабрыка, магазін.

**ЦЯКАЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Ланскім с/с. За 13 км на ПдУ ад Ня віжа, 125 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы 34 гаспадаркі, 54 жыхары (2012).

У 1870 г. вёска ў Пацейкаўскай вол Слуцкага павета Мінскай губ., 56 душ мужчынскага полу. Паводле перапіс 1897 г. ў вёсцы 44 двары, 259 жыхароў кузня. У 1909 г. 43 двары, 298 жыхароў З лютага да снеж. 1918 г. акупіраван герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны лі 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі вой скамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў скла дзе Польшчы, у Нясвіжскім паве Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не з 12.10.1940 г. ў Лявонавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 54 двары, 319 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі і прапалі без вестак на франтах. У 1946 ў вёсцы працавала пач. школа. У 1950 арганізаваны калгас імя Чкалава. З



8.1.1954 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. у Дубейкаўскім, з 29.7.1971 г. зноў у Лявонавіцкім сельсаветах. З 1951 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса «1 Мая», з 23.12.1996 г. калект. долевае прадпрыемства «1 Мая», з 3.2.2004 г. ЗАТ «1 Мая» (цэнтр — в. Лявонавічы). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 270 жыхароў, у 1970 г. 264 жыхары. У 1998 г. 60 гаспадарак, 141 жыхар, у 2001 г. 64 гаспадаркі, 23 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Ланскім с/с. У 2012 г. — комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, цялятнік.

**ЧАНАВІЧЫ** — вёска ў Ланскім с/с. За 10 км на Пд ад Нясвіжа, 122 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Клецк на лініі Баранавічы—Асіповічы. 42 гаспадаркі, 67 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. сяло Навагрудскага ваяв. ВКЛ, якое паны Чанавіцкія прадалі Мікалаю Радзівілу Сіротку за 400 коп грошай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1800 г. фальварак і вёска (22 двары, 143 жыхары), уладанне Радзівілаў. У 1811 г. фальварак (уваходзілі вёскі Чанавічы, Лань, Габруны; 209 душ сялян) знаходзіўся ў арэндзе ў Збарашэўскага. У 1830 г. у фальварку меліся карчма, млын, кузня, жылы дом (пабудаваны ў 1826 г.), стайня, гумно, бровар, свіран, пуня, сельскі магазін. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Лань і Чанавічы (19 дымоў, 114 жыхары). У 1886 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 16 хлопчыкаў. У 1870 г. вёска, 89 душ мужчынскага полу, і маёнтак, уладанне Тараевіча; у Ланскай вол. Слуцкага павета. У 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 325 жыхароў; у маёнтку 4 двары, 26 жыхароў. У 1909 г. вёска, 71 двор, 419 жыхароў, і фальварак, 18 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ланскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 81 двор, 441 жыхар, і асада, 2 двары, 12 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ланскім с/с. У 1940 г. вёска, 132 двары, 587 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы забілі 2 партызан: мужа і жонку П. і М. Жукоў (у 1965 г. на іх магіле ўстаноўлены помнік). 13 вяскоўцаў загінулі ці прапалі без вестак на франтах. У вер. 1948 г. ў вёсцы створаны калгас імя Сталіна. З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 1.7.1951 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса «Ленінскі шлях», з ліст. 1982 г. ў калгасе імя Леніна, з 1996 г. калект. с.-г. гаспадарка «Лань», з 2003 г. СВК, з 2011 г. ААТ «Лань—Нясвіж». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 540 жыхароў, у 1970 г. 432 жыхары. У 1998 г. 84 гаспадаркі, 143 жыхары, у 2001 г. 83 гаспадаркі, 142 жыхары. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма.

**ЮШАВІЧЫ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Сейлавіцкім с/с. За 11 км на У ад Нясвіжа, 123 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Нясвіж—Асіповічы. 179 гаспадарак, 486 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1595 г. сяло маёнтка Затур'я Навагрудскага ваяв. ВКЛ, 32 дымы, 30 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. У 1614 г. сяло, 50 дымоў; у 1672 г. 54 дымы. У 1764 г. вёска Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1785 г. ўладальнікі выдалі Мацвею і Крысціне Куроўскім прывілей на 4 валокі зямлі ў вёсцы на ленным праве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. вёска фальварка Дыямпаль, 40 дымоў,





203 жыхары. У 1800 г. вёска, 54 двары, 271 жыхар, карчма, у 1811 г. 44 гаспадаркі, 152 душы мужчынскага полу, у 1852 г. 53 дымы, 339 жыхароў. У 1845 г. каля вёскі знаходзіўся аднайменны засценак, 7 двароў, 42 жыхары. У 1870 г. вёска ў Гавязнянскай вол., 152 душы мужчынскага полу. У 1886 г. адкрыта рухомая аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 16 хлопчыкаў. У 1888 г. фальварак Юшавічы, уладанне А.С.Куроўскага, 107 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 120 двароў, 661 жыхар, меліся хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 60 двароў, 576 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лясунскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв., вёска, 128 двароў, 671 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Юшавіцкага с/с. У 1940 г. 146 двароў, 817 жыхароў, 4 прыватныя ветраныя млыны, няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады вайны на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 землякоў, 13 вяскоўцаў былі загублены гітлераўскімі карнікамі ў 1941 г. У 1948 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Сталіна. З 1951 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса імя Сталіна (у снеж. 1961 г. перайменаваны ў калгас «Зара»). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. З 30.1.1978 г. вёска — цэнтр калгаса «Слава» (6 населеных пунктаў), з 30.12.1996 г. калект. с.-г. долевая гаспадарка «Слава», з 16.7.2003 г. СВК, з 30.12.2010 г. ААТ «Юшавічы». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 688 жыхароў, у 1970 г. 609 жыхароў. У 1998 г. 188 гаспадарак, 495 жыхароў, у 2001 г. 188 гаспадарак, 464 жыхары. У 2012 г. — Дом культуры, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, жывёлагадоўчая ферма, машынны двор, збожжаачышчальна-сушыльны комплекс. З 1.7.2013 г. ў Сейлавіцкім с/с. Каля будынка сельсавета абеліск (1969) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На могілках помнік нар. дойлідства — Мікалаеўская царква (19 ст.).

**ЯНЧЫЦЫ** — вёска ў Гарадзейскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Нясвіжа, 113 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Баранавічы—Мінск. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 1608 г. сяло фальварка Лысіца Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літ., з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1857 г. вёска маёнтка Студзёнкі, уладанне кн. Вітгенштэйна, 17 гаспадарак, 101 жыхар. У 1862 г. 14 гаспадарак; у карыстанні сялян знаходзілася 148 дзес. 288 сажняў зямлі; 3 вясковыя гаспадаркі належалі парабкам (6 чалавек). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзейскай вол., 31 двор, 172 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 30 двароў, 159 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з пач. жн. 1919 г. да сярэдзіны ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1919 г. ў БССР, з 29.7.1920 г. ў Нясвіжскім павеце. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзейскай гміне Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяв.; вёска, 34 двары, 180 жыхароў (1921 г.). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Нясвіжскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Астроўскім с/с. У 1940 г. вёска, 46 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана



...па ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы прапалі без вестак на франтах. У жн. 1950 г. 60 гаспадарак вёсак Янчыцы і Галынішчы арганізавалі калгас «Чырвоная Звязда». З 1952 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Маленкова (у жн. 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Дзяржынскага). З 8.1.1954 г. ў Мінскай вобл. 30.12.1996 г. калгас рэарганізаваны ў калект. с.-г. прадпрыемства імя Дзяржынскага, з 26.6.2003 г. СВК, з 15.2.2011 г. ААТ «Нясвіжскія Астроўкі» (цэнтр — аграгарадок Астроўкі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 190 жыхароў, у 1970 г. 121 жыхар. У 1998 г. 28 гаспадарак, 50 жыхароў, у 2001 г. 23 гаспадаркі, 51 жыхар. У 2012 г. дзейнічала жывёлагадоўчая ферма.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА:**

Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, КМФ—5, воп. 1, спр. 425/2, 564/2, 908, 910, 917, 999, 1004, 1016/2, 117а, 1241, 1243, 1244, 1643, 1645, 1654, 1974, 1975, 1976, 1979, 1967, 2068, 2077, 2235, 2236, 2247, 2420/2, 2421/1, 2666, 2667, 2668, 4668, 4669, 4670,4673/1; ф. 76, воп. 1 спр. 256, 260, 261; ф. 694, воп. 1, спр. 98, 131, 176, 246, 425; воп. 2, спр. 102–104, 770, 796, 875, 898–900, 1281, 1331, 1351, 1427, 1443, 1504, 1505, 1512, 1519, 1526–1528, 2014, 2049, 2255, 2331–2334, 2680, 2712, 2715, 2716, 2717, 2741, 2750, 2756, 2772, 2781, 2785, 2788, 2793, 2795, 2796, 2798, 2803, 2888, 3136, 3693, 3831,3851, 3854, 3857, 3860, 3868, 3869, 3871, 4035, 4038, 4078, 4079, 4692, 4696, 4724, 4727, 4733, 4957, 4958, 4998, 5001, 5025, 5050, 5058, 5370, 5379, 5432, 5528, 5652, 5743, 5862, 6583, 6584, 8099, 8177, 8379, 9158, 9183, 11 132, 11 134; воп. 4, спр. 435, 1604, 5696, 5711, 5804; воп. 7, спр. 78, 541, 981.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 1, спр. 63; воп. 5, спр. 2118, 2120, 2174, 2240, 2262; воп. 6, спр. 1640, 1642, 1918; воп. 21, спр. 1504, 1512, 1763, 1765, 1940, 1941, 1942, 2046, 2050, 2051, 2053, 2170; воп. 46, спр. 106, 159, 398, 439, 444, 488, 564; воп. 51, спр. 114, 115; ф. 60, воп. 2, спр. 140; воп. 3, спр. 63, 157, 381, 587, 589, 600; ф. 142, воп. 1, спр. 2, 7, 54, 94, 115, 301, 306, 389.
Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 664, воп. 1, спр. 6, 33; ф. 1563, воп. 1, спр. 3, 4, 8, 9, 11, 12, 13, 14, 27; воп. 2, спр. 1–5, 13, 17, 43, 45, 46, 94–96, 98, 137, 148, 149, 153, 203, 236; воп. 3, спр. 204, 236, 240; ф. 3784, воп. 1, спр. 6; ф. 2305, воп. 1 спр. 6777; фф. 2482, 2531, 2538, 2658, 2669, 2793, 2853, 2844, 2899, 2959, 3219, 3254.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (Санкт-Пецярбург), ф. 1290, воп.11, спр.1322, 1336.
Расійскі Дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г.: Пер. с фр. Ч. 1–2. 2-е изд. Санкт-Петербург, 1837.
Турчинович О.В. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. Санкт-Петербург, 1857.
Экономическое состояние городских поселений Европейской России в 1861–62 гг. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1863.
Историко-статистическое описание Минской епархии. Санкт-Петербург, 1864.
Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. Сост. И.Зеленский. Санкт-Петербург, 1864.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 7. Вильна, 1870.
Историко-статистическое описание 9 уездов Минской губернии. Минск, 1870.
Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1874.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.
Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. Ч. 2. Минск, 1878.
Памятная книжка Минской губернии на 1887 г. Минск, 1878.




Статистические сведения о Минской губернии за 1876 г. Минск,1878.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Минск, 1879.
Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств. Вильна, 1884.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1884—85 учеб. год. Вильна, 1885.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.
Памятная книжка Минской епархии на 1887 г. Минск, 1886.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1890 г. Минск, 1889.
Список землевладений Минской губернии. Минск, 1889.
Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. Санкт-Петербург, 1890.
Брянцев П.Д. Очерк древней Литвы и Западной России. Вильна, 1891.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания 1-го Литовского статута. М.,1892.
Памятная книжка Минской губернии на 1893 г. Минск, 1892.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892—93 учеб. год. Минск, 1892.
Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890—91 учеб. год. Минск, 1894.
Смородский А.П. География Минской губернии. Минск,1894.
Стукалич В.К. Белоруссия и Литва. Витебск, 1894.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3-е изд. Санкт-Петербург, 1894.
Алфавитный список дворянским родам Минской губернии... Минск, 1903.
Товаров А.В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Минск,1903.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905—06 учеб. год. Минск, 1905.
Отчет о состоянии церковных школ Минской епархии на 1907—1908 учеб. год. Минск, 1909.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.
Товаров А.В. Исторический очерк Минской губернии. Минск, 1910.
Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 г. Т. 3. Белоруссия в 1812 г. Санкт-Петербург, 1912.
Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.
Список лиц, владеющих землею в Новогрудском уезде Минской губернии. 1914.
Памятная книжка Минской губернии на 1917 г. Минск, 1916.
Грушевский А.С. Города Великого Княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину. Киев, 1918.
1905 г. в Белоруссии. Минск, 1925.
Какурин Н.Е., Меликов В.А. Война с белополяками. 1920. Минск, 1925.
Западная Белоруссия. Сб. статей. Кн. 1. Минск, 1927.
Матэрыялы да геаграфіі і статыстыкі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1928.
Алфавитный индекс населенных мест Великого Княжества Литовского. Ч. 1. Вильна, 1929.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі. Мінск, 1934.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. IX—XVIII ст. Мінск, 1936.
Гапоненко Л. Солдатские массы Западного фронта в борьбе за власть Советов (1917 г.). М., 1953.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3. Минск, 1953.
Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы. Минск, 1955.
В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте. Минск, 1957.
Великая Октябрьская Социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1. Минск, 1957.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Минск, 1960.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Минск, 1966.
Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1. 2-е изд. Минск, 1968; Ч. 2. Минск, 1967.
Победа Советской власти в Белоруссии. Минск, 1967.



Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918–1920 гг. Т. 1. Минск, 1968.
Мальдзіс А.І. Падарожжа ў XIX ст. Мінск, 1969.
Маркан Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Минск, 1971.
Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. 1. Минск, 1962; Т. 2. Минск, 1972.
В боях за Белоруссию. 2-е изд. Минск, 1974.
Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мінск, 1974.
Мальдзіс А.І. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мінск, 1974.
Мальцев А.И. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974.
Освобождение Белоруссии. 1944. 2-е изд. Минск, 1974.
Александровіч С.Х. Вольнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі. Мінск, 1975.
Антипов В.Г. Парки Белоруссии. Минск, 1975.
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Минск, 1975.
Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVIII в. Минск, 1975.
Шырка К.А. Слова пра Сыракомлю. Мінск, 1975.
Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. 2-е изд. Минск, 1977.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии. 1860–1900. Минск, 1978.
Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мінск, 1978.
Грицкевич А.П. Социальная борьба горожан Белоруссии. (XVI–XVIII вв.). Минск, 1979.
Еленковский И.И. Несвиж. Минск, 1979.
Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980.
Чантурия В.А. Архитектурные памятники Белоруссии. Минск, 1982.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 – июль 1944 гг.). Минск, 1983.
Федорук А.Т. Старинные парки Белоруссии. Минск, 1985.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1, Минск, 1985. Т. 2, Минск, 1987.
Гарады Беларусі. Мінск, 1987.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кн. 2. Мінск, 1987.
Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.
Несвиж. З мінулага // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1988. №1.
Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі. Мінск, 1988.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне. 1941–1945: энцыклапедыя. Мінск, 1990.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. Мінск,1983; Т. 2. Мінск, 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Минск, 1990.
Франциск Скорина и его время. Энциклопедический справочник. Минск, 1990.
Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мінск, 1991.
Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Пер. з пол. Мінск, 1992.
Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Минск, 1992.
Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993.
Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мінск, 1993.
Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Скарбы Нясвіжа. Мінск, 1993.
Живописная Россия. 2-е изд. Минск,1994 [рэпр. выд.: Санкт-Петербург, 1882].
Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі. Т. 2. Мінск, 1994.
Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995.
Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654–1667. Мінск, 1995.
Мельниченко И., Богодяж Н. Радзивиллы – Несвижские короли. Минск, 1997.
Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Нясвіжскага раёна. Мінск, 2001.
Князева В.М. Падарожжа па Беларусі: Гарады і гарадскія пасёлкі. Мінск, 2005.
Міцельскі А. Аб лакалізацыі Нясвіжа XI – пач. XVI ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 2006. №1.
Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Нясвіж і Радзівілы. 3-е выд., Мінск, 2007.





Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Warszawa, 1846. T. 4, Warszawa, 1886.
Słownik geografczny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskch. T. 1–15. Warszawa, 1880–1904.
Jelski A. Nieświeź Radziwiłłowski przed ćwierćwiekiem a dziś (rok 1905). Petersburg, 1908.
Rouba W. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilna, 1909.
Studnicki W. Północno-wschodnie ziemie dawnej Rzeczypospolitej Polskiey. Warszawa, 1919.
Studnicki W. Zarys statystyczno-ekonomiczny ziem północno-wschodnich. Wilno, 1922.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7, cz. 1. Warszawa, 1923.
Jakubowski J. Nieśwież // Ziemia. 1925. T. 10/12.
Remer J. Architektura monumentalna w województwie Nowogródzkim // Ziemia. 1925. T. 10/12.
Studnicki W. Ziemie wschodnie. Warsawa, 1929.
Ziemie północno-wschodnie Rzeczypospolitej. Wilno, 1933.
Beynar L. Zygmunt August na ziemiach W.K.Litew. Wilno, 1934.
Szukiewicz J. Przewodnik turystyczny po Wileńszczyźnie i Nowogródczyźnie. Wilno, 1934.
Miller A. Teatr Polski i muzyka na Litwie: Jako strażnice kultury zachodu (1745–1865). Wilno, 1936.
Zwolski B. Wileńszczyzna, Nowogródczyzna i Białostocczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1936.
Zwolski B. Wileńszczyzna, Nowogródczyzna i Białostocczyzna za J. Kazimierza. Wilno, 1936.
Taurogiński B. Nieświez. Warszawa, 1937.
Ziemie północno-wschodnie Rzezypospolitej za Sasów. Wilno, 1939.
Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.
Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI wieku. Warszawa, Poznań, 1985.
Łopalewski M. Między Niemnem a Dzwiną. Kraków, 1990.



МІНСКІ РАЁН
ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН
МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
ВОБЛАСЦЬ
ВОБЛАСЦЬ
ДЗЕНСКІ РАЁН
СТАРАДАРОЖСКІ РАЁН
МАР'ІНА ГОРКА
Свіслач
Рудзенск
Праўдзінскі
Зялёны Бор
Вялікае Поле
БІЯЛАГІЧНЫ ЗАКАЗНІК АМЯЛЬНЯНСКІ
БІЯЛАГІЧНЫ ЗАКАЗНІК МАЦЕЕЎСКІ
Маштаб 1:400 000



# ПУХАВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на У Мінскай вобл., у геагр. цэнтры Беларусі. Мяжуе з Мінскім, Чэрвенскім, Уздзенскім, Слуцкім, Старадарожскім р-намі Мінскай і Асіповіцкім р-нам Магілёўскай абласцей. Цэнтр — г. Мар'іна Горка. Пл. 2441,1 тыс. км², насельніцтва 68,3 тыс. жыхароў (2012). У раёне г. Мар'іна Горка, гар. пасёлкі Рудзенск, Свіслач, Праўдзінскі, 300 сельскіх населеных пунктаў, 13 сельсаветаў: Блонскі, Блужскі, Голацкі, Дуброўскі, Дукорскі, Навапольскі, Навасёлкаўскі, Пухавіцкі, Пярэжырскі, Рудзенскі, Свіслацкі, Турынскі, Шацкі. Сярод сельскіх населеных пунктаў найб. буйнымі з'яўляюцца: пас. Дружны, вёскі Пухавічы, Блонь, Дукора, Шацк, Талька. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Мінск—Гомель, аўтадарогі Мінск—Гомель, Мар'іна Горка—Старыя Дарогі, Пухавічы—Негарэлае, Мар'іна Горка—Смалявічы—Лагойск.

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), цэнтр — мяст. Пухавічы, з 29.7.1925 — пас. Мар'іна Горка. 20.8.1924 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Балоцкі, Блонскі, Блужскі, Дрычынскі, Кнорынскі, Навасёлкаўскі, Пудзецкаслабодскі, Сінчанскі, Слабодскі, Суцінскі, Талькаўскі, Турынскі. У 1932 г. ў раёне 100 778 жыхароў (92,9% беларусы), у 1931 г. працавалі 87 прам. прадпрыемстваў (большасць дробныя), у т.л. 2 электрастанцыі, 3 лесазаводы, 3 крухмальныя з-ды, вінзавод, 3 смалярні, 5 цагельняў, 4 шавецкія, 4 кравецкія, 2 валёначныя, 2 мэблевыя, аўчынна-шубныя арцелі, 9 паравых, 9 вадзяных, 4 нафтавых млыноў, кардонная ф-ка, 25 кузняў (усяго 1105 рабочых). З 16 383 сял. гаспадарак было кааперавана 29,2%. У 1933 г. дзейнічалі 152 калгасы, 5 саўгасаў, 2 камуны, 5 МТС; да 1940 г. створаны льнозавод, маслазавод, цагляны з-д, працавалі 128 школ, у т.л. 28 сярэдніх і няпоўных сярэдніх (20 тыс. вучняў), 100 клубаў і масавых б-к, 2 дамы культуры, раённая бальніца і інш. З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У канцы чэрв. 1941 г. раён акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія правялі на яго тэр. 5 карных аперацый («Альберт-2», «Франц», «Свята ўраджаю-2», «Віхор», «Півоня»). За час акупацыі былі спалены 75 вёсак, часткова — 65, загублены 5919 грамадзян, на прымусовыя работы ў Германію вы-

*У цэнтры г. Мар'іна Горка.*





*Геадэзічны знак у цэнтры Беларусі каля в. Антонава.*

везена 1465 чал. Супраць акупантаў на тэр. раёна дзейнічалі Мар'інагорскае маладзёжнае падполле, Пухавіцкія падп. раённыя к-ты КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я і 2-я Мінскія, 1-я Асіповіцкая, 3-я Мінская імя Будзённага, 12-я кавалерыйская імя Сталіна, «Беларусь», «Буравеснік», «За Радзіму» імя А.К.Флегантава, «Полымя», «Чырвоны Сцяг», імя Калініна, імя Кірава, імя Панамарэнкі, імя Чапаева, 208-ы полк імя Сталіна, атрады 210-ы імя Сталіна, «Мсцівец», імя Калініна, імя Сталіна. Вызвалены ў ліп. 1944 г. часцямі 1-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі ў ходзе Мінскай аперацыі 1944 г. У партыз. барацьбе і падполлі загінулі 1192 жыхары, з фронту не вярнуўся 4151 жыхар. 17.12.1956 г. да раёна далучаны Селецкі с/с Грэскага р-на, 10.1.1960 г. Голацкі, Дрычынскі, Дукорскі, Пярэжырскі, Сяргеевіцкі сельсаветы, г.п. Рудзенск скасаванага Рудзенскага р-на, 1.4.1960 г. Шацкі, 25.12.1962 г. Навапольскі сельсаветы Уздзенскага р-на.



*Герб г. Мар'іна Горка.*

Раён знаходзіцца ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Рэльеф плоскахвалісты. Пераважаюць вышыні 160—200 м над узроўнем мора, максімальная 236 м (каля в. Сяргеевічы). Пераважаюць глебы: с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя забалочаныя 33%, дзярнова-падзолістыя 31,8%, торфа-балотныя 23,8%. Пад лесам 39,9%, балотамі — 4,4% тэр. У раёне здабываюць: торф, сапрапель, пясчана-жвіровыя матэрыялы, будаўнічыя пяскі. Найб. рэкі: Свіслач з прытокамі Волма, Цітаўка, Талька; Пціч з прытокам Шаць. Азёры: Сяргееўскае, Мацярынскае. Біялагіч ныя заказнікі: рэсп. значэння Амговіцкі (на тэр. раёна – 1572,8 га), Амяльнян скі (2011,57 га), Копыш (1222,34 га), Мацеевіцкі (1802,19 га); мясц. значэн ня Быценьскі (2185 га); ландшафтны заказнік мясц. значэння Вецярэвіцкі (1535 га); гідралагічны заказнік мясц. значэння Сяргеевіцкі (1925 га). Пом нікі прыроды рэсп. значэння: хвоя кед равая еўрап. ў г. Мар'іна Горка; мясц. значэння – сядзібна-паркавы ансамбль у г. Мар'іна Горка, гісторыка-культ. лан дшафт у в. Дудзічы. Каля в. Антонава Навасёлкаўскага с/с знаходзіцца геагр цэнтр Беларусі.

У 2013 г. ў сельскай гаспадарцы ра ёна задзейнічаны 9 ААТ, 8 с.-г. філіялаў буйных прам. прадпрыемстваў, пры ватнае с.-г. ўнітарнае прадпрыемства «Дукора-Агра», дзярж. прадпрыемства «Краснагвардзейскі», 69 фермерскіх гаспадарак, ААТ «Ананічы». Сельская гаспадарка спецыялізуецца на мяса-ма лочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні збожжа, бульбы, лёну. Агульная пл. с.-г. угоддзяў 94 тыс. га (2013).

Дзейнічаюць прадпрыемствы харчо вай, першаснай апрацоўкі лёну, паліў най, каап. (хлебабулачныя і каўбасныя вырабы) прам-сці, вытв-сць цюбінгаў для метрапалітэна, вырабаў з пластмас, тэхн. масел і змазак, кардону. Дзейніча юць прадпрыемствы па вытв-сці свят латэхнікі, палімернай плёнкі, парафіну, тэхнічных масел, камбікорму, марожа нага, бульбапрадуктаў, дзіцячых цацак. У сістэме адукацыі раёна каледж, 23 ся

*Мемарыяльная дошка ў гонар Я.Коласа ў Мар'інай Горцы.*





радзія школы, гімназія, вячэрняя школа, 10 школ-садоў, дашкольны цэнтр і [illegible]0 дашкольных устаноў, дапаможная школа-інтэрнат, карэкцыйны цэнтр, 2 цэнтры творчасці дзяцей і моладзі і інш. У раёне дзейнічаюць 82 установы культуры: Пухавіцкі раённы Цэнтр культуры, 3 пасялковыя дамы культуры, [illegible]1 сельскія дамы культуры, 3 сельскія клубы, сельскі Цэнтр культуры, клуб-бібліятэка, аўтаклуб, Цэнтр. раённая б-ка, 40 б-к, 6 дзіцячых школ мастацтваў (з 1.1.2012 г. маюць статус дзярж. установы адукацыі), дзярж. установа «Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей», музей матэрыяльнай культуры «Дудуткі» паблізу вёсак Дудзічы і Пціч. Выдаецца раённая газ. «Пухавіцкія навіны». Установа аховы здароўя «Мар'інагорская цэнтральная раённая бальніца» ўключае 43 лячэбна-прафілактычныя ўстановы, у т.л. цэнтр. раённую бальніцу, 2 участковыя і 3 гар. бальніцы, бальніцу сястрынскага догляду, 3 паліклінікі, 6 урачэбных амбулаторый, [illegible]0 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 2 здраўпункты. Акрамя таго, на тэр. раёна размешчаны абл. дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі «Пухавічы», аздараўленчы цэнтр «Талька», сац. прытулак (в. Дуброўка) і псіха-неўралагічны дом-інтэрнат (в. Новы Уборак).

У раёне знаходзяцца археал. помнікі: гарадзішчы (вёскі Балачанка, Блужскі Бор, Бор, Дудзічы, Жораўка, Кавалевічы, Мацеевічы, Міжрэчча, Паддуб'е, Светлы Бор, Церабуты), курганныя могільнікі (вёскі Белькавічы, Грабень, Гайнава, Кавалевічы, Талька, Церабуты), курганы (вёскі Арэшкавічы, Блужскі Бор, Зарэчча, Кавалевічы, Турын, Шацк), селішчы (вёскі Вялікае Поле, Іенніца).

Помнікі гісторыі: брацкія магілы сав. воінаў і партызан (вёскі Блонь, Блужа, Валасач, Дукора, Навасёлкі, Падкоссе, Пухавічы, Пярэжыр, Раўнаполле, Сетча, Старынкі, Сяргеевічы, Узляны, Цітва і інш.); магілы ахвяр фашызму (вёскі Блонь, Валасач, Задашчэнне, Зацітава Слабада, Каменка, Капскія, Клятное, Міжрэчча, Прыстань, Пухавічы, Раўчак, Скрыльская Слабада, Старынкі, Талька, Узляны, Шацк). Помнікі: партызанам і падпольшчыкам (вёскі Балачанка, Клятное, Ліпнікі, Омельна, Падкоссе, Парэчча, Русаковічы, Селецк, Слабада), дукорскім партызанам (в. Дукора), землякам (вёскі Азярычына, Блонь, Блужа, Бор, Вецярэвічы 2, Гарэлец, Голацк, Дрычын, Дудзічы, Дукора, Заазер'е, Зазерка, Зацітава, Слабада, Караваева, Навасёлкі, Омельна, Пухавічы, Рыбцы, Сінча, Слабада, Турын, Узляны), спаленай в. Лужыца, на месцы загубы сав. грамадзян (в. Варшаўка).



*Пухавіцкі райвыканкам у г. Мар'іна Горка.*

Захаваліся помнікі архітэктуры: Троіцкая царква, 1826 г. (в. Блонь), Ільінская царква 19 ст. (вёскі Блонь, Дукора), сядзібы Аштарпаў-Гарцінгаў і Бонч-Асмалоўскіх (абедзве 19 ст., вёскі Дукора, Блонь).

У раёне нарадзіліся дзярж. дзеячы У.Е.Лабанок, С.А.Пілатовіч, А.Р.Чарвякоў, акадэмік АН БССР І.С.Лупіновіч, антраполаг і археолаг Г.А.Бонч-Асмалоўскі, пісьменнікі А.М.Бачыла, Т.Бондар, А.Карлюкевіч, Г.Кляўко, А.Моркаўка, М.Т.Паслядовіч, М.Чарот, нар. артыст СССР І.І.Жыновіч, нар. артыст БССР І.Б.Шаціла, кампазітар І.Лучанок, Героі Сав. Саюза А.Р.Мазанік, М.П.Чэпік.

**МАР'ІНА ГОРКА** — горад, цэнтр раёна, на р. Цітаўка. За 63 км на ПдУ ад Мінска, чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. Аўтамабільнымі да-





рогамі злучана з Мінскам, Бабруйскам, Чэрвенем, Уздой. 21,3 тыс. жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Належала Радзівілам, Бужынскім, Ратынскім, Крупскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. Штуршком для хуткага развіцця паселішча стала пракладка Лібава-Роменскай чыгункі, участак якой намаганнямі ўладальніка (з 1863 г.) маёнтка Л.С.Макава быў пракладзены каля Мар'інай Горкі (1873) і была пабудавана чыг. ст. Пухавічы. У 1876 г. паводле царскага ўказу засн. с.-г. школа, у 1880 г. мела 4 класы, з іх 3 спец. Школа рыхтавала кваліфікаваных практыкаў для заняткаў сельскай гаспадаркай (землямераў, жывёлаводаў, рамеснікаў, арандатараў і інш.). З 80 вучэбных месцаў 25% забяспечваліся за кошт казны. Мела майстэрні, фермы, сад, 150 дзес. угоддзяў, свой медпункт (фельчар), дырэктарам быў Ф.І.Губін. Навучанне доўжылася 4 гады. У 1885 г. вёска, чыг. і паштовая станцыі ў Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., дзейнічала прыходская царква. У 1897 г. чыг. станцыя — 5 двароў, 33 жыхары, крама, заезны дом; паштовая станцыя — 19 жыхароў; вёска — 24 двары, 108 жыхароў; дзярж. ферма — 122 жыхары; царква,

капліца; праводзіліся штогадовыя тар
жкі. У 1908 г. ў вёсцы 26 двароў, 194
жыхары; у фальварку — 17 жыхароў;
у 1917 г. ў вёсцы 67 двароў, 558 жы
хароў, паштова-тэлегр. аддз.; у сядзі
бе — 47 жыхароў. У 1911 г. с.-г. школа
пераўтворана ў ніжэйшае, у 1918 г. ў ся
рэдняе с.-г. вучылішча, у 1921 г. ў с.-г
тэхнікум; да 1918 г. было падрыхтавана
1048 спецыялістаў. З лютага да снеж
1918 г. вёска акупіравана войскамі кай
зераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп
1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў
БССР. З 29.7.1925 г. цэнтр Пухавіцкага
р-на; з 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1926
створана прам. арцель па перапрацоў
цы бульбы «Аб'яднаная праца»; на пач
1930-х г. працаваў саўгас пры Мар'іна
горскім с.-г. тэхнікуме. У Вял. Айч. вай
ну з 28.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш
захопнікамі, знаходзіўся варожы гарні
зон. У час акупацыі фашысты загубілі
тут 240 сав. грамадзян. У горадзе з ліп
1941 г. да студз. 1944 г. дзейнічала Ма
р'інагорскае маладзёжнае падполле (
жн. 1942 г. пад кіраўніцтвам Пухавіцка
га падп. раённага к-та КП(б)Б, кіраўнік
В.І.Варывончык, з снеж. 1942 г. Г.А.Ма
занік; 29 удзельнікаў, з іх загінулі 8 пар
тызан). Вызвалена 3.7.1944 г. ў ходзе
Мінскай наступальнай аперацыі 1944 г
З 22.7.1955 г. горад; у 1970 г. 11,3 тыс
жыхароў; у 1998 г. 23,1 тыс. жыхароў, у

*Сядзіба сельскагаспадарчага вучылішча (2-я пал. 19 ст.) у г. Мар'іна Горка.*



*Праваслаўная капліца каля чыгуначнага вакзала ў г. Мар'іна Горка.*









*Сядзібны дом Макавых (1876) у г. Мар'іна Горка.*

2007 г. 22,7 тыс. жыхароў. Прадпрыемствы металургічнай, пач. апрацоўкі лёну прам-сці. Дзейнічаюць (2012) ААТ «Пухавіцкі вопытна-эксперыментальны завод», «Пухавіцкі харчкамбінат», «Пухавіцкі камбінат хлебапрадуктаў», «Маншарчпрад», філіял «Пухавічы—Лён» ААТ «Валожынскі льнокамбінат», камунальнае вытв. даччынае ўнітарнае прадпрыемства «Мар'інагорскі завод жалезабетонных вырабаў» і інш. У Мар'інай Горцы дзейнічаюць (2013) Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей, аграрна-тэхн. каледж імя У.Е.Лабанка, гімназія, 4 сярэднія школы, школа мастацтваў, цэнтр творчасці дзяцей і моладзі «Світанак», 6 дашкольных устаноў. Функцыянуюць Пухавіцкі раённы Цэнтр культуры, 3 б-кі, бальніца, 2 паліклінікі. Выдаецца газ. «Пухавіцкія навіны». У горадзе 4 рэліг. абшчыны, у іх ліку 1 праваслаўная, 1 каталіцкая, 1 евангельскіх хрысціян-баптыстаў і 1 хрысціян веры евангельскай. Помнікі: У.І.Леніну; сав. воінам, партызанам і падпольшчыкам; у гонар 1-га Данскога танкавага корпуса; сакратару Мінскага падп. раённага к-та ЛКСМБ Л.Г.Гайдучонак; на магіле Героя Сав. Саюза Н.Ф.Токарава. Мемарыяльная дошка ў гонар воінаў Чырвонай Арміі і партызан — вызваліцеляў горада. Помнік архітэктуры — сядзібны дом (1876). Радзіма бел. вучонага С.А.Астапчыка.

**АЗЯРЫЧЫНА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 35 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 33 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 94 гаспадаркі, 247 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., былая ўласнасць Радзівілаў, потым Шэвічаў. У 1800 г. 100 двароў, 831 жыхар, капліца, 2 вадзяныя млыны. У 1885 г. ў Дудзіцкай вол. 844 жыхары, царква; у 1897 г. 204 двары, 1340 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, лаўка, піцейны дом; маёнтак — 29 жыхароў, вадзяны млын, у 1908 г. 254 двары, 1680 жыхароў, у маёнтку 20 жыхароў; млын — 10 жыхароў. У 1912 г. створана земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 285 двароў, 1832 жыхары; у маёнтку 70 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (каля 130 вучняў). З 21.8.1925 г. цэнтр Азярычынскага с/с у Самахвалавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Пухавіцкім, з 12.2.1935 г. Рудзенскім, з 6.7.1935 г. Смілавіцкім, з 11.2.1938 г. Рудзенскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Дэкада абароны», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да 4.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны дзейнічала антыфаш. падполле. З 16.7.1954 г. ў Цітвянскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім

р-не, з 31.3.1977 г. ва Узлянскім с/с. У 1960 г. пасёлак, 217 жыхароў; у 1969 г. 134 двары, 353 жыхары, цэнтр калгаса «Перамога», сярэдняя школа, клуб, б-ка, медпункт, аддз. сувязі. У 2002 г. вёска, 113 двароў, 290 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны пункт, школа-сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, млын, ашчадная каса. У 2007 г. 98 гаспадарак, 266 жыхароў; у 2010 г. 94 гаспадаркі, 253 жыхары. У 2012 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Азярычынскі» КУП «Жылкампаслугі-Свіслач», магазін, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы М.Р.Юркевіч, бел. пісьменніка П.М.Рунца.

**АНАНІЧЫ** — вёска ў Турынскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 37 гаспадарак, 71 жыхар (2012).

У 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1800 г. ў Ігуменскім павеце, уласнасць Б.Голуба, 15 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Кліноцкай вол. У 1897 г. 66 двароў, 472 жыхары; у 1908 г. 68 двароў, 460 жыхароў; у 1917 г. 78 двароў, 446 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Вызваленне», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 1-га Бел. фронту з удзелам 1-й Мінскай партыз. брыгады. З 16.7.1954 г. цэнтр Ананіцкага с/с Пухавіцкага р-на. У 1960 г. вёска, 454 жыхары; пасёлак — 12 жыхароў. У 1980-х г. ў калгасе імя А.А.Жданава; у 2002 г. 58 гаспадарак, 115 жыхароў; у 2010 г. аграгарадок, 44 гаспадаркі, 94 жыхары. У 2012 г. — на тэр. СВК «Сітнікі», магазін. З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**АНТОНАВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 25 гаспадарак, 41 жыхар (2012).

У 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць; у 1897 г. маёнтак, 21 жыхар; у 1917 г. 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны правадыр», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 187 жыхароў. У 1996 г. каля вёскі ўстаноўлены знак геагр. цэнтра Беларусі. У 2002 г. ў Навасёлкаўскім с/с, 32 двары, 60 жыхароў; у 2010 г. 27 гаспадарак, 39 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі». За 1 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца геагр. цэнтр Беларусі, адзначаны спец. знакам.

**АНТОНАВА** — вёска ў Шацкім с/с. За 35 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 87 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 19 ст. фальварак Антанаў у Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 35 жыхароў; у 1908 г. 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. фальварак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвонае Антонава», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Слабодскім с/с, 96 жыхароў. З 4.1.1964 г. ў Вецярэвіцкім с/с. У 2002 г. 13 гаспадарак, 32 жыхары; у 2010 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы», з 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**АНЯТОВА** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 37 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Ру



дзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы, 30 гаспадарак, 58 жыхароў (2012).

У 19 ст. маёнтак у Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 5 двароў, 65 жыхароў; у 1917 г. 76 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. вёска, 7 двароў, 17 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 25 гаспадарак, 42 жыхары, у саўгасе «Рудзенскі». У 2010 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Дукора». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**АРЭШКАВІЧЫ** — вёска ў Блужскім с/с. За 26 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 75 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 64 гаспадаркі, 166 жыхароў (2012).

За 1 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Кінячка, размешчаны археал. помнік — курган. Вышыня 1,8 м, дыяметр 7—8 м. Насып задзірванелы, знаходзіцца на краі поля. Арэшкавічы вядомы з 16 ст. У 1599 г. сяло, 29 дымоў, былі бабровыя гоны на р. Свіслач. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1793 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 25 двароў, 188 жыхароў, драўляная царква Пакрова Багародзіцы, карчма. У 1886 г. на базе царк.-прыходскай школы адчынена школа граматы (у 1890 г. 6 хлопчыкаў). У 1897 г. 76 двароў, 501 жыхар, царква, піцейны дом, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1908 г. 90 двароў, 572 жыхары. У 1912 г. адчынена 1-класнае земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 114 двароў, 661 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (каля 50 хлопчыкаў, 13 дзяўчынак). У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Арэшкавічы», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 271 жыхар; у 1969 г. 82 двары, 205 жыхароў, цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. У 1990 г. працавалі базавая школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, жывёлагадоўчая ферма, ашчадная каса. У 2002 г. ў вёсцы 84 гаспадаркі, 233 жыхары; у 2007 г. 77 гаспадарак, 197 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 76 гаспадарак, 189 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він», магазін і Дом культуры. Радзіма нар. артыста СССР І.І.Жыновіча.



*І.І.Жыновіч.*

**АСАВОК** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 21 км на У ад Мар'інай Горкі, 66 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

У 1885 г. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 1 двор, 12 жыхароў; засценак — 4 двары, 27 жыхароў. У 1908 г. ваколіца, 5 двароў, 33 жыхары, маёнтак, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1981 г. у Чырвонакастрычніцкім с/с, у саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. вёска, 13 гаспадарак, 33 жыхары. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 12 гаспадарак, 38 жыхароў. З 2010 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**АСАКА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 44 км на З ад Мар'інай Горкі, 30 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Рудзенск на лі-







*Царква ў в. Асака.*

ніі Мінск–Асіповічы. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць А.Агінскага (1730). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 36 двароў, 196 жыхароў, царква, карчма, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць; у 1887 г. адчынена школа граматы (15 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка). У 1897 г. 68 двароў, 413 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, вёска ў Дудзіцкай вол. У 1917 г. 73 двары, 419 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. школа 1-й ступені, 45 вучняў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 297 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 34 гаспадаркі, 48 жыхароў; у 2010 г. 10 двароў, 13 жыхароў. У 2013 г. – на тэр. СВК «Агра-Абярэг». Захаваўся помнік драўлянага нар. дойлідства – царква (1883).

**АСТРАВЫ** – вёска ў Рудзенскім с/с. За 47 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 40 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, на аўтадарозе Шацк–Смалявічы. 15 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 15 гаспадарак, 37 жыхароў; у 2010 г. 15 гаспадарак, 41 жыхар. У 2013 – на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд», з 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**БАБЫ** – вёска ў Блужскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 69 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск–Асіповічы. 22 гаспадаркі, 51 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 8 двароў, 98 жыхароў; фальварак, карчма. У ся рэдзіне 19 ст. ўласнасць В.Завадскай У 1870 г. вёска ў Пухавіцкай вол., 4? рэвізскія душы. У 1883 г. адбываліся сялянскія хваляванні. У 1897 г. вёска, 36 двароў, 220 жыхароў; маёнтак – 5 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 48 двароў, 325 жыхароў, у маёнтку 76 жыхароў; у 1917 г. ў вёсцы 57 двароў, 337 жыхароў, у маёнтку 149 жыхароў; 2 млыны, кру падзёрка, сукнавальня, цыркулярка, ла камабіль. З лютага да снеж. 1918 г. вёс ка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР У пач. 1920 г. створаны саўгас «Молат» у 1924 г. меў 547,2 дзес. ўгоддзяў, была школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. ство раны калгас «Энергія», была кузня. У Вял. Айч. вайну спалена фашыстамі Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. вёска 195 жыхароў; пасёлак – 140 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Блужскім с/с, 26 гаспа дарак, 55 жыхароў; у 2010 г. 25 гаспада рак, 62 жыхары. У 2013 г. – на тэр. с. і філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінск завод ігрыстых він».

**БАЛАЧАНКА** – вёска ў Пухавіц кім с/с. За 13 км на У ад Мар'інай Горкі 64 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Пу хавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р Балачанка (прыток р. Свіслач). 2 гаспа даркі, 2 жыхары (2012).

За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Балачанка, за 2 км ад месца ўпадзення ў р. Свіслач, у лесе, ва ўро



вішчы Дубы размешчаны археал. помнік - гарадзішча (мясц. назва — Акопы Кацярыны). Пляцоўка амаль прамавугольная, памерамі 64×35 м, выцягнута з Пн на Пд. Умацавана 3 валамі і равамі. Унутраны вал з паўн. боку вышынёй да 1 м, з паўд. — 0,5 м, сярэдні адпаведна — 1 і 2 м, вонкавы — 2 і 0,5 м. Глыбіня равоў 0,5—3,5 м. З паўд. боку прасочаны ўваход шырынёй 2 м. У 1917 г. маёнтак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адчынена школа 1-й ступені (у 1922 г. 11 вучні). У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 91 жыхары. У 1930-х г. створаны калгас імя М.В.Молатава, была кузня. У 1937 г. тут адпачываў Якуб Колас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1942 да 1943 г. ў наваколлі базіравалася партыз. брыгада «Полымя», падп. Пухавіцкія раённыя к-ты КП(б)Б і ЛКСМБ. У 1960 г. 68 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў; у 2007 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**БАЛОЧА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 24 км на У ад Мар'інай Горкі, 69 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Балачанка (прыток р. Свіслач). 7 гаспадарак, 27 жыхароў (2012).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. с. Балоша ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць («Сяло на Руси»). У пач. 18 ст. с. Балочы, у 1726 г. 13 двароў, уласнасць Б. Гуркавіцкага. У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 13 двароў, 97 жыхароў, уласнасць Сулістроўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. в. Балочча, былі фальварак, карчма, водны млын. У 1820 г. па купчай перайшла да Мікуця. У 1858 г. 109 жыхароў, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 240 жыхароў; у маёнтку 2 двары, 20 жыхароў, паравы млын. У 1908 г. 30 двароў, 209 жыхароў; у маёнтку 69 жыхароў; у 1917 г. 41 двор, 244 жыхары, у маёнтку 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адчынена школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр Балочанскага с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоная Іскра», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны вёска спалена фашыстамі. У 1960 г. вёска, 110 жыхароў. З 16.8.1973 г. сельсавет перайменаваны ў Чырвонакастрычніцкі с/с (цэнтр — в. Чырвоны Кастрычнік). У 2002 г. ў вёсцы 17 гаспадарак, 37 жыхароў; у 2007 г. 12 гаспадарак, 36 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 8 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**БАРАВАЯ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 9,5 км на У ад Мар'інай Горкі, 64,5 км ад Мінска, 10,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 5 двароў, 48 жыхароў; у 1858 г. ў Цітвянскай вол., 19 душ мужчынскага полу; у 1870 г. ў Пухавіцкай вол. У 1897 г. ваколіца, 10 двароў, 56 жыхароў; у 1917 г. 16 двароў, 84 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. ваколіца акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 13 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.

акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 43 жыхары. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у калгасе імя В.І.Чапаева. У 2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар; у 2010 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**БАРБАРОВА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 32 км на З ад Мар'інай Горкі, 84 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Смалявічы—Шацк. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1870 г. той жа воласці; у 1888 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 14 хлопчыкаў). У 1897 г. 8 двароў, 69 жыхароў; у 1917 г. 12 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. 18 двароў, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1944 г. спалена фашыстамі, загублены 10 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. пасёлак у Сяргеевіцкім с/с, 68 жыхароў; у 2002 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 9 гаспадарак, 13 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**БАСЬКІ** — вёска ў Турынскім с/с. За 15 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 60 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2012).

У 19 ст. вёска ў Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 108 жыхароў, у складзе маёнтка Любін, уласнасць Ф.Пялікшы. У 1870 г. 65 жыхароў мужчынскага полу; у 1897 г. 36 двароў, 202 жыхары; у 1917 г. 40 двароў, 250 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 28 гаспадарак, 40 жыхароў, у калгасе «Белая Русь». У 2010 г. 23 гаспадаркі, 32 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**БАХАРАВІЧЫ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 39 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 29 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 25 гаспадарак, 36 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., 17 двароў, 60 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. уласнасць Вейсенгофа. У 1870 г. ў Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета, 106 жыхароў мужчынскага полу, маёнтак. У 1888 г. ў маёнтку засн. паравы млын (у 1895 г. 3 рабочыя). У 1897 г. ў вёсцы 71 двор, 451 жыхар, хлебазапасны магазін, лаўка; маёнтак (ён жа Бахараўшчына) — 2 двары, 28 жыхароў, паравы млын, капліца на могілках. У 1908 г. ў вёсцы 74 двары, 526 жыхароў, у маёнтку — 12 жыхароў. У 1917 г. 92 двары, 529 жыхароў, у маёнтку 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (40 вучняў). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новыя Бахаравічы», кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 295 жыхароў. У 1980 г. ў саўгасе «Навапольскі». На 1.1.1981 г. вёска ў Навапольскім с/с. У 2002 г. 38 гаспадарак, 61 жыхар; у 2010 г. 28 гаспадарак, 48 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Агра-Абярэг». Радзіма бел. балетмайстра К.А.Алексютовіча.

**БЕЛАЕ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 61 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2012).

У пач. 19 ст. уласнасць Ратынскіх, у 1816 г. 11 двароў, 80 жыхароў. У ся



рэдзіне 19 ст. ў Драгічынскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.; у 1858 г. 66 жыхароў. У 1886 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 15 хлопчыкаў). У 1897 г. 44 двары, 292 жыхары, піцейны дом; сядзіба – 5 жыхароў. У 1917 г. 56 двароў, 341 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 32 гаспадаркі, 63 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 20 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**БЕЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 38,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 31,5 км ад Мінска, 15,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік. На могілках 10 курганоў вышынёй 0,7–2 м, дыяметрам 6—12 м. У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 13 двароў, 131 жыхар, шляхецкая ўласнасць, у 1816 г. уласнасць Асоўскіх. У 1870 г. вёска ў Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета; у 1897 г. 31 двор, 215 жыхароў. У 1898 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 5 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі). У 1908 г. 36 двароў, 190 жыхароў; у 1917 г. 39 двароў, 250 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. у БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас. У 1940 г. 34 двары, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Беларусь». У чэрв. 1943 г. спалена фашыстамі, загублена 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 128 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 12 гаспадарак, 29 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Агра-Абярэг».

**БЕРЛЕЖ** — вёска ў Блужскім с/с. За 16 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 70 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Сіняўка (прыток р. Свіслач). 26 гаспадарак, 42 жыхары (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць царквы. У 1800 г. 28 двароў, 200 жыхароў, карчма, млын, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць В.Завадскай. У 1897 г. 63 двары, 417 жыхароў, вёска ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1908 г. 73 двары, 435 жыхароў. У 1917 г. 90 двароў, 458 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адчынена школа 1-й ступені. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 38 вучняў, У пач. 1930-х г. створаны калгас «3-ці рашаючы», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Блужскім с/с, 40 гаспадарак, 79 жыхароў; у 2010 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**БЕРЧУКІ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 53 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Грабенка (прыток р. Пціч). 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. в. Бірчукова ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 98 жыхароў. У 1858 г. в. Бірчукі, 78 жыхароў, у Дудзіцкай вол. таго ж павета. У 1897 г. 40 двароў, 271 жыхар, хлебазапасны магазін, капліца; быў





*Сядзіба Бонч-Асмалоўскіх у в. Блонь.*

фальварак — 25 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 53 двары, 375 жыхароў; у 1917 г. 52 двары, 281 жыхар, у маёнтку — 57 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1933 г. працаваў калгас, былі кузня, сталярня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Навапольскім с/с, 160 жыхароў. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 27 гаспадарак, 46 жыхароў; у 2010 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Зазерка». З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**БЛАГАДАЦЬ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 17,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 35 км ад Мінска, 20,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 19 гаспадарак, 46 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. маёнтак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 30 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 30 гаспадарак, 66 жыхароў; у 2010 г. 24 гаспадаркі, 65 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**БЛОНЬ** — вёска (з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Блонскага с/с. За 1 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мінск—Бабруйск, на р. Цітаўка (прыток р. Свіслач). 715 гаспадарак, 1892 жыхары (2012).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1582 г. с. Балонне (Балонскае) у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1745 г. Юзафам Бокам тут створаны езуіцкая рэзідэнцыя і місія, у 1747 г. пабудаваны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. сяло ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета; у 1795 г. мястэчка Блоны. У 1800 г. мястэчка і сяло, 97 двароў, 656 жыхароў, касцёл, 2 царквы, карчма. У 1826 г. пабудавана Свята-Троіцкая царква. З 2-й пал. 19 ст. уласнасць Асоўскіх, з 1863 г. уласнасць казны. У 1869 г. адчынена нар. вучылішча (у 1892 г. 55 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі). У 1877 г. засн. крухмальны з-д. У 1886 г. ў сяле 8 двароў, 776 жыхароў, праваслаўная царква, касцёл, вадзяны млын, нар. вучылішча (65 вучняў), адбываліся 2 штогадовыя таржкі, у маёнтку, які належаў Бонч-Асмалоўскім, была б-ка, дзейнічаў народніцкі гурток на чале з А.В.Бонч-Асмалоўскім. У 1897 г. ў сяле 165 двароў, 935 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, лаўка, піцейны дом, царква, касцёл. У маёнтку 61 жыхар, крухмальны з-д, вадзяны млын. Асмалоўскія ператварылі маёнтак у цэнтр антыўрадавай, антырас. дзейнасці, дзе знаходзілі прытулак радыкальныя прыхільнікі ўзброенага змянення дзярж. строю Расіі. У 1901 г. гурток (каля 20 чал.) быў разгромлены. У 1900 г. ў нар. вучылішчы 102 хлопчыкі, 18 дзяўчынак (настаўнікі Пётр і Аляксандр Вяршынскія). У 1909 г. ў сяле 158 двароў, 1034 жыхары; у маёнтку 156 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 224 двары, 1100 жыхароў, у маёнтку 214 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны



войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (3 настаўнікі, 80 вучняў). На базе былога маёнтка быў створаны саўгас «Чырвонае Полымя», меў 2 млыны, крупадзёрку, маслабойку; у 1924 г. 436,1 дзес. зямлі, лесапільны і крухмальны з-ды, пры якім была электрастанцыя, малатарня, кормарэзка, мукамольня. З 20.8.1924 г. цэнтр Блонскага с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. працавалі саўгас «Блонь», калгас «Асаавіяхім», былі 2 кузні, 2 сталярныя і слясарныя майстэрні. З 1938 г. вёска. У канцы чэрв. 1941 да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 910 жыхароў, у пасёлку племяннога з-да «Індустрыя», 578 жыхароў. У 1970 г. 475 двароў, 1590 жыхароў, цэнтр племзавода «Індустрыя», майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, раённы музей, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадная каса, царква, 4 магазіны, прафілакторый. На 1.1.1981 г. вёска, цэнтр Блонскага с/с. У 2007 г. 733 двары, 1780 жыхароў; у 2010 г. 758 гаспадарак, 1883 жыхары. З 2010 г. аграгарадок. У 2013 г. — на тэр. РУСП «ПЗ» «Індустрыя», фельч.-акушэрскі пункт, 4 магазіны, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Радзіма доктара гіст. навук Г.А.Бонч-Асмалоўскага, ген.-маёра М.П.Кавальчука. Захаваліся помнікі архітэктуры позняга класіцызму — Троіцкая царква (1826) і сядзіба Бонч-Асмалоўскіх (2-я пал. 19 ст.). У сядзібным доме размяшчаецца Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей.

**БЛУЖА** — пасёлак у Блужскім с/с. За 10 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 64 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. маёнтак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак у Блужскім с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), 14 двароў, 75 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 68 жыхароў. У 2002 г. 6 двароў, 23 жыхары, у 2007 г. 7 двароў, 10 жыхароў; у 2010 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**БЛУЖА** — вёска ( з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Блужскага с/с. За 12 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 66 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Блужа на лініі

*Троіцкая царква ў в. Блонь.*








Мінск—Асіповічы. 195 гаспадарак, 539 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. У 1417 г. сяло, уласнасць каталіцкай царквы. У 1567 г. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. цэнтр праваслаўнага прыхода, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. ўласнасць Булгакаў. У 1869 г. адчынена нар. вучылішча; існавалі промыслы бандарны, плотніцкі, перавозны. У 1870 г. сяло, 97 жыхароў мужчынскага полу; маёнтак (ён жа Гародна). У 1886 г. ў сяле 24 двары, 224 жыхары; у нар. вучылішчы 36 хлопчыкаў, 9 дзяўчынак (настаўнік Ганна Дарафеева). У 1890 г. пабудаваны Успенская царква, будынак для школы (у 1892 г. 31 хлопчык, 7 дзяўчынак). У 1897 г. ў сяле (яно ж Падвосаў) 77 двароў, 461 жыхар, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква; у маёнтку 3 двары, 27 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 79 двароў, 558 жыхароў; маёнтак (Б.Булгака) — 75 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 97 двароў, 440 жыхароў, у маёнтку 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 54 вучні. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны кастрычнік», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны дзейнічала антыфаш. падполле. У 1970 г. 113 двароў, 325 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая». У 1990 г. машынны двор, жывёлагадоўчая ферма, сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт, вучэбны цэнтр механізатараў, ашчадная каса, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, сталовая. У 2002 г. 196 двароў, 558 жыхароў; у 2007 г. ў вёсцы 198 гаспадарак; 524 жыхары; чыг. раз'езд — 12 гаспадарак, 39 жыхароў. У 2010 г. ў вёсцы 194 гаспадаркі, 540 жыхароў, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, 3 магазіны. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він», фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну, помнік і мемарыяльная дошка ўраджэнцу вёскі Герою Сав. Саюза М.П.Чэпіку, які загінуў 29.2.1980 г. ў час баявых дзеянняў у Афганістане. Радзіма вучонага, доктара фізіка-матэматычных навук В.Р.Шапялевіча.

**БЛУЖА** — чыг. раз'езд у Блужскім с/с. За 8,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 62,5 км ад Мінска, 8,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 27 жыхароў (2012). У 1960 г. 40 жыхароў. У 2010 г. 12 гаспадарак, 32 жыхары.

**БЛУЖСКІ БОР** — вёска ў Блужскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 57 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

За 1,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, размешчаны археал. помнік — гарадзішча (жал. век). За 1,2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Гарадзішча, справа ад дарогі ў в. Талька, размешчаны археал. помнік — курган. У 19 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. 10 двароў, 75 жыхароў; у 1917 г. 22 двары, 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. ўрочышча акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г.



у Талькаўскім с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.2930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны каля вёскі дзейнічалі партыз. брыгады «Буравеснік», 2-я Мінская. У 1960 г. вёска, 49 жыхароў, у 2002 г. 2 жыхары, у калгасе імя С.М.Кірава; у 2007 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. У 2010 г. ў Блужскім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**БОР** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 46 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

У канцы 19 ст. вёска ў Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 58 двароў, 336 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У пач. 20 ст. 67 двароў, 394 жыхары; у 1917 г. 69 двароў, 395 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. у БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім, з 18.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Рудзенскім р-не Мінскай вобл., з 27.9.1938 г. ў Рудзенскім пас. Савеце. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. у Пухавіцкім р-не, у Цітвянскім с/с, 180 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 5 двароў, 7 жыхароў; у 2010 г. 3 двары, 4 жыхары. У 2013 г. — на тэр. дапаможнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Метрабуд». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**БОР** — вёска (з 2010 г. аграгарадок) у Навасёлкаўскім с/с. За 11 км на З ад Мар'інай Горкі, 62 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Цітаўка. 173 гаспадаркі, 474 жыхары (2012).

За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Падкапцы, сярод асушаных балот размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва — Акопы Кацярыны, Капец). У 1858 г. вёска ў Дрычынскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 83 рэвізскія душы. У 1870 г. ў Дукорскай вол., 91 жыхар мужчынскага полу; у 1888 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі). У 1897 г. 58 двароў, 336 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У 1908 г. 67 двароў, 394 жыхары; у 1917 г. 69 двароў, 395 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Дрычынскім с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 12.2.1935 г. Рудзенскага, з 6.7.1935 г. Смілавіцкага р-наў. З 11.2.1938 г. ў Рудзенскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Бор», былі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе, загубілі 235 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. З 20.1.1960 г. вёска ў Пухавіцкім р-не, у Навасёлкаўскім с/с, пас. Бор 1, 117 жыхароў; пас. Бор 2, 100 жыхароў. У 1970 г. в. Бор, цэнтр калгаса «Іскра», 187 гаспадарак, 704 жыхары, машынны двор, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. У 2002 г. 145 гаспадарак, 475 жыхароў; у 2007 г. 167 гаспадарак, 448 жыхароў; у 2010 г. 188 гаспадарак, 510 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Іскра надзеі», магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, аддз. сувязі.

**БОРЦЫ** — вёска ў Шацкім с/с. За 34 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 89 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай





губ., 7 двароў, 33 жыхары. У 1917 г. засценак, 9 двароў. 58 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Селецкім с/с, 62 жыхары. У 2002 г. ў калгасе «Селецкі», 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**БУДЗЁНАЎКА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 54 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**БЫЦЕНЬ** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 29 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 84 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Старыя Дарогі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 10 жыхароў; у 1917 г. засценак, 7 двароў, 45 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску ў маі 1944. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў Варашылаўскім с/с, пасёлак, 50 жыхароў; у 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 3 двары, 4 жыхары; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. — на тэр. філіяла «Омельна» вытв. РУП «Мінскі завод аўтаматычных ліній імя П.М.Машэрава», магазін.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. вёска ў Цітвянскім с/с, 164 жыхары. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 16 гаспадарак, 21 жыхар; у 2010 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 — на тэр. дапаможнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Метрабуд». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**БЯРЭЗНІКІ** — вёска ў Шацкім с/с. За 30 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 85 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2012).

У 1917 г. хутар ў Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 3 двары, у Кнорынскім, з 1939 г. ў Варашылаўскім сельсаветах. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1962 г. пасёлак у Селецкім с/с, 44 жыхары. З 4.1.1964 г. ў Вецярэвіцкім с/с. У 2002 г. вёска, 8 гаспадарак, 10 жыхароў, у калгасе «Селецкі»; у 2010 г. 7 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ВАЛАСАЧ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 40 км на З ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 7 жыхароў; у 1908 г. засценак, 29 двароў, 188 жыхароў; у 1917 г. 34 двары, 217 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас, была кузня. У 1940 г. 45 двароў, 220 жы-



ароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, загубілі 104 жыхароў. Пасля вайны аднаўлена. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 90 жыхароў. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Пасля вайны адноўлена. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ВАНЬКОЎШЧЫНА** — вёска ў Голацкім с/с. За 41 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 13 гаспадарак, 24 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. вёска ў Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 47 двароў, 354 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 18 двароў, 29 жыхароў, у саўгасе «Свіслач». У 2013 г. — магазін.

**ВАРОНІЧЫ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 66 гаспадарак, 122 жыхары (2012).

У 18 ст. вёска ў Мінскім павеце і ваяв. ВКЛ; у 1744 г. 37 двароў, 108 рэвізскіх душ мужчынскага полу; млын, карчма, царква, уласнасць С.Кернажыцкага; у 1785 г. вёска са слабадой, 32 двары, 176 жыхароў, карчма, уласнасць Янушэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 43 двары, 309 жыхароў сялян і 4 жыхары ваколічнай шляхты, уласнасць А.Шышкі; касцёл Раства Багародзіцы, вінакурня, карчма, млын на р. Пціч (2 паставы). У 19 ст. сяло ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета, цэнтр праваслаўнага прыхода. У 1838 г. пабудавана новая царква. У 1858 г. маёнтак і вёска, уласнасць Л.Янушэўскага, у маёнтку 20 жыхароў — дваровых людзей, у вёсцы 199 душ сялян; царква Міхайлаўская, пабудавана ў 1838 г. У 1886 г. 37 двароў, 367 жыхароў, царква, капліца; у 1897 г. 77 двароў, 441 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У пач. 20 ст. адчынена царк.-прыходская школа (1902); у 1908 г. 92 двары, 629 жыхароў; маёнтак — 5 жыхароў; урочышча — 3 жыхары. У 1917 г. 110 двароў, 426 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, больш за 100 вучняў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новае жыццё», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Цітвянскім с/с Пухавіцкага р-на, 443 жыхары; у 1966 г. з вёскай зліліся пас. Варонічы і с. Вароніцкая Слабада. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 104 гаспадаркі, 190 жыхароў; у 2010 г. 79 гаспадарак, 143 жыхары. У 2013 г. — на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд», магазін. З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с. Радзіма Героя Сацыялiст. Працы М.Е.Юркевіч; ген.-лейт. С.І.Шыманскага; бел. паэта Г.Я.Кляўко.



*Г.Я.Кляўко.*

**ВАРШАЎКА** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 26 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 41 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Смалявічы—Шацк. 18 гаспадарак, 54 жыхары (2012).

У канцы 19 ст. маёнтак у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета, 1 двор, 7 жыхароў; у 1908 г. фальварак, 6 жыхароў; у 1917 г. было 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. фальварак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі

Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі каля вёскі больш за 300 ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 18 гаспадарак, 37 жыхароў; у 2010 г. 20 гаспадарак, 53 жыхары. У 2013 г. — на тэр. дапаможнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**ВАСІЛЬКІ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 56 гаспадарак, 126 жыхароў (2012).

У 1911 г. пасёлак крухмальнага з-да «Цітва». З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 65 гаспадарак, 170 жыхароў, у 2007 г. 60 гаспадарак, 151 жыхар; у 2010 г. 56 гаспадарак, 135 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. дапаможнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд». Працуе магазін. З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с. Захаваліся пабудовы і рэшткі парку сядзібы Янішэўскіх «Цітва» (18—пач. 20 ст.).

*Сядзіба Янішэўскіх «Цітва» ў в. Васількі.*

**ВЕРАБ'ЁЎКА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 36,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 52,5 км ад Мінска, 14,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў (2012).

У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 38 гаспадарак, 68 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ВЕСЯЛОВА** — вёска ў Блужскім с/с. За 23 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 77 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Талька (прыток р. Свіслач). 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. фальварак у Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ўрочышча, 5 двароў, 33 жыхары; у 1917 г. засценак, 14 двароў, 101 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. вёска, 18 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 95 жыхароў; у 2002 г. 19 двароў, 24 жыхары. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 11 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ВЕНДЗЕЖ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 7 км на ПнЗ ад Мар'інай







Горкі, 55 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2012).

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць С.Быкоўскага. У канцы 19 ст. 2 двары, 18 жыхароў, мураваная капліца; у 1917 г. вёска, 6 двароў, 47 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пас. Пендзежы, 166 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 25 гаспадарак, 35 жыхароў; у 2010 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары. У 2013 г. — на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».

**ВЕЦЯРЭВІЧЫ 1** — вёска ў Шацкім с/с. За 44 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 98 км ад Мінска, 47 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 43 гаспадаркі, 77 жыхароў (2012).

У 1917 г. маёнтак у Шацкай вол. Ігуменскага павета, 16 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Шацкага, з 4.8.1927 г. Грэскага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.1.1964 г. ў Вецярэвіцкім с/с. У 1960 г. в. Вецярэвічы 1, 47 гаспадарак, 93 жыхары; у 2002 г. 50 гаспадарак, 88 жыхароў, у саўгасе «Зорка»; у 2007 г. 47 гаспадарак, 93 жыхары; у 2010 г. 42 гаспадаркі, 77 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ВЕЦЯРЭВІЧЫ** 2 — вёска (з 2013 г. аграгарадок) у Шацкім с/с. За 46 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 100 км ад Мінска, 49 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 153 гаспадаркі, 387 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. сяло, 28 дымоў, у Парэцкай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1589 г. 20 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., у 1795 г. мелася карчма. У 1800 г. ва ўласнасці Д.Радзівіла, 25 двароў, 130 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Шацкай вол., 107 душ мужчынскага полу. У 1897 г. 101 двор, 582 жыхары; хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца. У 1906 г. адчынена земскае нар. вучылішча. У 1908 г. 128 двароў, 721 жыхар; у 1917 г. 138 двароў, 793 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Шацкага р-на Мінскай акругі, з 4.8.1927 г. ў Грэскім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў раёне вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Буравеснік». У 1960 г. 278 жыхароў, з 4.1.1964 г. цэнтр Вецярэвіцкага с/с Пухавіцкага р-на. У 1970 г. вёска, цэнтр саўгаса «Зорка», 111 гаспадарак, 380 жыхароў, лясніцтва, механічныя майстэрні, дзіцячыя яслі-сад, медпункт, б-ка, сталовая, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, ашчадная каса, магазін, клуб. У 2002 г. 158 двароў, 432 жыхары; у 2007 г. 153 двары, 372 жыхары; у 2010 г. 141 гаспадарка, 405 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы», медпункт, ветэрынарны ўчастак, магазін, клуб, школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ВІТОРАЖ** – вёска ў Дуброўскім с/с. За 14 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 69 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2012).

У 19 ст. лясная вартоўня ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.; у 1897 г. ўрочышча ў Навасёлкаўскай вол., 5 двароў, 41 жыхар; у 1908 г. 3 двары, 23 жыхары. У 1917 г. ўрочышча, 6 двароў, 35 жыхароў; засценак, 35 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. хутар, 13 двароў, 54 жыхары; у 1933 г. вёска ў калгасе «Паляўнічы», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Сінчанскім с/с (з 15.6.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Амяльнянскі), 47 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 26 гаспадарак, 46 жыхароў; у 2010 г. 16 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2013 г. – на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі».

**ВІШНЕЎКА** – вёска ў Дукорскім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).



*Праваслаўная капліца ў в. Вопраўка.*

Вядома з 20 ст. У пач. 1920-х г. пасёлак, у 1926 г. 8 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Дукорскім с/с, 27 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары; у 2010 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. – на тэр. с.-г. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ВОЙРАЎКА** – вёска ў Навапольскім с/с. За 45 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 23 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 36 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, былі млын, карчма; у 1897 г. ў Дудзіцкай вол., 13 двароў, 58 жыхароў; у 1917 г. 15 двароў, 81 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 69 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с. У 2007 г. 7 двароў, 9 жыхароў, у калгасе «Навапольскі», у 2010 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. – на тэр. СВК «Агра-Абярэг».

**ВОСАВА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 6 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 61 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 2 двары, 6 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 6 двароў, 35 жыхароў, у Пухавіцкай вол. У 1908 г. 7 двароў, 43 жыхары; у 1917 г. 10 двароў, 64 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 1[illegible]



двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 63 жыхары. На 1.1.1981 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, у калгасе імя В.І.Чапаева. У 2002 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у 2010 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 23 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 38 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 15 гаспадарак, 37 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. сяло, уладчына Ваньковічаў; у 1897 г. ў Дукорскай вол. таго ж павета, 45 двароў, 261 жыхар; у 1901 г. адчынена 1-класнае нар. вучылішча; у 1917 г. 45 двароў, 311 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. На пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 88 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 12 гаспадарак, 17 жыхароў; у 2010 г. 17 гаспадарак, 42 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Дукора». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**ВЫЕМКА** — вёска ў Шацкім с/с. За 12 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 87 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць віленскіх базыльян. У 1917 г. хутар у Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета, 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. ўрочышча, 6 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 113 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с; у 2007 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2010 г. ў Вецярэвіцкім с/с, 8 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы», магазін. З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ВЫСОКАЯ СТАРЫНА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 32 км на У ад Мар'інай Горкі, 77 км ад Мінска, 35 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У 1870 г. засценак у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ваколіца, 15 двароў, 109 жыхароў, малітоўны дом. У 1908 г. 17 двароў, 126 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 20 двароў, 109 жыхароў, у Балочанскім с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 72 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с. У 2002 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 5 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ВЯЛЕНЬ** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 13 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 68 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 44 жыхары, карчма, млын, уласнасць ген.-маёра Грабе-Завішы. У 1800 г. 17 двароў, 95 жыхароў, уласнасць Ратынскага. У 1858 г. 127 жыхароў, у Ігуменскім павеце. У 1897 г. 44 двары, 255 жыхароў, у Амяльянскай вол. У 1908 г. 49 двароў, 283 жыхары; у 1917 г. 59 двароў, 313 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х





г. працавала школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Іскра», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны дзейнічалі партыз. брыгады «Беларусь» і «Буравеснік». У 1960 г. вёска ў Сінчанскім с/с (з 15.6.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Амяльнянскі), 292 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 22 гаспадаркі, 46 жыхароў; у 2010 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі».

**ВЯЛІКАЕ ПОЛЕ** — вёска ў Блужскім с/с. За 25 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 80 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). У вёсцы ніхто не жыве (2012).

За 1 км ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, размешчаны археал. помнік — селішча (II—V ст. н.э., эпоха Кіеўскай Русі). Вядома з 20 ст. У 1926 г. пасёлак, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 60 жыхароў. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ВЯЛІКІЯ ЛУКІ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 13 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 64 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 1858 г. в. Слабодка ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 105 жыхароў, уласнасць С.Клімантовіча. У 1897 г. в. Вялікая Лука, 32 двары, 192 жыхары, у Пухавіцкай вол. У 1908 г. 41 двор, 253 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адчынена школа 1-й ступені. У 1941 г. 43 двары, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. вёска спалена фашыстамі, загублены 4 жыхары. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 7[illegible] жыхары. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары; у 2010 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ВЯРКАЛЫ** — вёска ў Шацкім с/с. За 38 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 78 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1559 г. востраў у складзе маёнтка Замосце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 48 жыхароў, царква, млын, карчма, уласнасць Грынвіцкіх. У 1800 г. 4 двары, 37 жыхароў, касцёл, млын. У 1858 г. 120 жыхароў, уласнасць М.Шастоўскай. У 1884 г. адчынена школа граматы. У 1897 г. 46 двароў, 253 жыхары, хлебазапасны магазін; маёнтак — 3 двары, 33 жыхары. У 1916 г. адчынена нар. вучылішча. У 1917 г. 50 двароў, 286 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. На пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 40 вучняў). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Перамога», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Слабодскім с/с, 140 жыхароў. У 1980 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, у саўгасе «Зорка». У 2002 г. 25 гаспадарак, 53 жыхары; у 2010 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ВЯСЁЛАЕ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 17 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 33 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аў



аўтадарозе Мінск—Гомель. 15 гаспадарак, [illegible] жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 24 двары, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 21 гаспадарка, 49 жыхароў, у калгасе «Камсамолец». У 2010 г. 15 гаспадарак, 44 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**ВЯСЁЛАЕ 2** — вёска ў Дукорскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, [illegible] км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 37 гаспадарак, 83 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 28 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 40 гаспадарак, 88 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 40 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ВЯСЁЛАЯ ГОРКА** — вёска ў Турынскім с/с. За 10 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 3 гаспадаркі, 8 жыхароў, у калгасе «Сцяг камунізму».

**ВЯСЁЛЫ ГАЙ** — вёска ў Турынскім с/с. За 7,5 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 55,5 км ад Мінска, 10,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 50 жыхароў, у калгасе «Вясёлы гай», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар, у калгасе «Сцяг камунізму».

**ГАБРЫЕЛЕЎКА** — вёска ў Шацкім с/с. За 43 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 75 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Шаць (прыток р. Пціч). 317 гаспадарак, 835 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. фальварак Габрыелава Езяфова ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць царквы. У 1858 г. маёнтак у Шацкай вол., уласнасць Пятра Пуцяты. У 1897 г. 9 двароў, 72 жыхары; у 1917 г. 100 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн.





*Сядзіба Пуцятаў у в. Габрыелеўка.*

1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. працаваў саўгас «Габрыелеўка»; былі кузня, крухмальны з-д, паравы млын, слясарная і шавецкая майстэрні, цыркулярка; школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. дзейнічалі масласырзавод, цагляны з-д, сукнавальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 135 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Шацкім с/с, 320 гаспадарак, 990 жыхароў. У 2010 г. 310 гаспадарак, 846 жыхароў, размешчаны Шацкі механічны з-д, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, магазін. У 2013 г. — на тэр. СВК «Шацк», магазін, Дом культуры, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Захаваліся пабудовы сядзібы Пуцятаў 19 — пач. 20 ст.

**ГАЛЯНБЭРГ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 33 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2012).

У 1885 г. фальварак Големберг у Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 двары, 30 жыхароў; у 1908 г. 12 жыхароў; у 1917 г. 61 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ў Дукорскім с/с, 21 гаспадарка, 41 жыхар, у калгасе імя 16 партызан. У 2010 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Дукора».

**ГАРАДЗЕНЬ** — вёска ў Блужскім с/с. За 18 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 73 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У 1844 г. засценак Гарадзенка ў складзе маёнтка Дзядзілавічы, уласнасць А.Слізня, 1 двор, 6 душ; былі вінакурня, водны млын, карчма. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кай зераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да лі 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэр 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупі равана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г ў Блужскім с/с, 115 жыхароў. У 2002 г 19 гаспадарак, 24 жыхары, у калгас «1 Мая»; у 2010 г. 8 гаспадарак, 9 жы хароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філія «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод і рыстых він».

**ГАРАДОК** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 6 км на З ад Мар'інай Горкі, 59 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 6 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак, 64 жыхары. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 10 гаспадарак, 25 жыхароў; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерна птушкафабрыка».

**ГАРЭЛЕЦ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 22 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 71 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 121 гаспадарка, 322 жыхары (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. сяло, шляхецкая ўласнасць у Мінскім паве це Мінскага ваяв. У 1609 г. сяло ў Мін скіх павеце і ваяв. Пасля 2-га падзел Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Ра імперыі. У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 38 два роў, 415 жыхароў; былі карчма, 2 млы ны, царква; маёнтак кн. Д.Радзівіла, 1854 г. кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г сяло — 62 двары, 362 жыхары, хлеба пасны магазін; маёнтак — 13 жыхароў, урочышча — 7 жыхароў; у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета. У 1909 г. 76 двароў, 440 жыхароў. У 1912 г. адчынена земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 82 двары, 581 жыхар; маёнтак — 7 жыха роў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіра ваны войскамі кайзераўскай Германіі,



з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (24 вучні). З 20.8.1924 г. цэнтр Гарэлецкага с/с Шацкага, з 4.8.1927 г. Пухавіцкага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 12.2.1935 г. Рудзенскага, з 12.3.1935 г. Пухавіцкага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новы гарэлец», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. спалілі яе. 7.11.1942 г. з нагоды гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі тут адбыўся святочны парад партызан з удзелам жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Пухавіцкім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 482 жыхары. У 1970 г. 113 гаспадарак, 441 жыхар, цэнтр калгаса імя Я.Купалы. У 2002 г. 133 гаспадаркі, 357 жыхароў; былі базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, ветэрынарны ўчастак, Дом культуры, машынны двор, магазін. У 2007 г. 127 двароў, 339 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 118 гаспадарак, 306 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Іскра надзеі», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, аддз. сувязі.

**ГЛУШКА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 12 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 60 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пуховічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 34 гаспадаркі, 74 жыхары (2012).

У 1870 г. вёска ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 79 жыхароў. У 1908 г. засценак, 12 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. вёска, 20 двароў, 80 жыхароў; у 1929 г. створаны калгас «Чырвоная Глушка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 150 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 37 гаспадарак, 75 жыхароў; у 2010 г. 37 гаспадарак, 81 жыхар. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі», магазін.

**ГОЛАЦК** — вёска (з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Голацкага с/с. За 32 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 25 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля шашы Мінск—Мар'іна Горка. 206 гаспадарак, 660 жыхароў (2012).

У 18 ст. маёнтак у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Агінскіх, потым Манюшкаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. маёнтак у Дукорскай вол. Ігуменскага павета, 9 жыхароў. У 1886 г. працаваў вінакурны з-д. У 1897 г. вёска, 49 двароў, 270 жыхароў; у 1908 г. 63 двары, 437 жыхароў. З 1904 г. працавала земскае нар. вучылішча, для якога ў 1914 г. пабудаваны ўласны будынак. У 1917 г. ў вёсцы 64 двары, 466 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (60 хлопчыкаў і дзяўчынак, 2 настаўнікі). З 20.8.1924 г. цэнтр Голацкага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. Пухавіцкага, з 12.2.1935 г. Рудзенскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 434 жыхары. У 1970 г. 160 двароў, 546 жыхароў, цэнтр калгаса імя ЦК КПБ. У 2002 г. цэнтр Голацкага с/с і калгаса «Свіслач», 174 гаспадаркі, 451 жыхар, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, ветэрынарны ўчастак, б-ка, школьны музей, аддз. сувязі, ашчадная каса, Дом культуры, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, магазін.





У 2007 г. 196 гаспадарак, 559 жыхароў, сярэдняя школа, яслі-сад. У 2010 г. 206 гаспадарак, 611 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Голацк», ветэрынарны ўчастак, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі.

**ГОРКІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. хутар, 10 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Дукорскім с/с, 174 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 25 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2010 г. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1», магазін. З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ГРАДА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 4,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 56,5 км ад Мінска, 7,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча Града Баравая ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. ўрочышча — 10 жыхароў; хутар Града Доўгая — 1 двор, 9 жыхароў; хутар Града Казакова — 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 35 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 5 гаспадарак, 10 жыхароў; у 2010 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».

**ГРАДЗЕ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 41 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 17 двароў, 311 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 10 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ГРУД** — вёска ў Дукорскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У пач. 19 ст. в. Груды ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 6 двароў, 31 жыхар. У 1858 г. было 23 рэвізскія душы, вёска ў Дрычынскай вол. У 1897 г. 13 двароў, 79 жыхароў; у 1917 г. 15 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 18 двароў, 104 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Новы Груд». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 9 гаспадарак, 14 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ГРЭБЕНЬ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 30 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2012).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганы, побач з балотам размешчаны археал. помнік — курганны могільнік. У пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1567 г. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1743 г. была пабудавана царква. У 1800 г. 30 двароў, 209 жыхароў, царква Раства Багародзіцы,



карчма, вадзяны млын, сукнавальня. У 1839 г. на сродкі памешчыцы А.Лыкавай пабудавана драўляная царква. У 1858 г. сяло і маёнтак у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 153 жыхары, прыватная ўласнасць. У 1861 г. адкрыта нар. вучылішча. У канцы 19 ст. 60 двароў, 375 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын, піцейны дом, царква; маёнтак — 2 двары, 43 жыхары. У пач. 20 ст. ў сяле 54 двары, 349 жыхароў; у маёнтку 104 жыхары. У 1917 г. сяло — 202 жыхары; вёска — 77 жыхароў; маёнтак — 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Да пач. 1920 г. створана школа 1-й ступені. У 1930 г. створаны калгас «Світанне», былі кузня, стальмашня, рымарня. З 1938 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 296 жыхароў. У 1980-я г. ў саўгасе «Навапольскі». У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 41 гаспадарка, 74 жыхары, цэнтр калгаса «Навапольскі», дзейнічалі сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, ветэрынарны ўчастак, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, магазін, аддз. сувязі. У 2010 г. ў вёсцы 33 гаспадаркі, 60 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Агра-Абярэг».

**ГРЫБНОЕ** (да 1964 г. Хрэнавое) — вёска ў Шацкім с/с. За 33 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 88 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Пухавічы па лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча, 5 двароў, 23 жыхары, у Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. засценак, 9 двароў, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. в. Хрэнавое ў Селецкім с/с, 48 жыхароў. У 2002 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. У калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ДАЙНОВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 3 км на З ад Мар'інай Горкі, 55 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Цішаўка (прыток р. Свіслач). 129 гаспадарак, 291 жыхар (2012).

За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Цітаўка, насупраць в. Крыніца, размешчаны археал. помнік — курганны могільнік. У 1744 г. в. Дзейнава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, маёнтак М.Агінскай-Завішы, 35 двароў, 97 душ мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 33 двары, 232 жыхары; у 1858 г. вёска ў Навасёлкаўскай вол., 209 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. 132 двары, 732 жыхары. Частка жыхароў займалася рамяством: вырабам колаў, вупражы, саней. У 1917 г. 200 двароў, 1037 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 263 жыхары. У 2002 г. ў Навасёлкаўскім с/с, 81 гаспадарка, 193 жыхары. У 2010 г. 117 гаспадарак, 286 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».

**ДЗЯМ'ЯНАЎКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 21,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 76,5 км ад Мінска, 2,5 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 20 гаспадарак, 40 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 10 жыхароў. У 1908 г.




10 двароў, 44 жыхары; у 1917 г. 21 двор, 132 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 151 жыхар. У 2002 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 22 гаспадаркі, 43 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ДОЎГІ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Цітвянскім с/с, 105 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 10 двароў, 17 жыхароў, у саўгасе «Рудзенскі». У 2010 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**ДРУЖНЫ** — пасёлак у Свіслацкім с/с. За 27,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 42,5 км ад Мінска, 4,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8809 жыхароў (2012).

Узнік падчас будаўніцтва Мінскай ТЭЦ-5. У 1989 г. 5 тыс. жыхароў, былі сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, дзіцячая школа мастацтваў, 2 б-кі, аддз. сувязі, Дом культуры, лячэбны цэнтр. У 2002 г. пасёлак ў Свіслацкім пас. Савеце, 7689 жыхароў. У 2010 г. 8579 жыхароў. У 2013 г. — фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Свіслацкім с/с.

**ДРЫЧЫН** — вёска (з 2010 г. аграгарадок) у Дукорскім с/с. За 13 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 254 гаспадаркі, 727 жыхароў (2012).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць каталіцкай царквы. У 1684 г. вёска, 38 двароў, шляхецкая ўласнасць. У канцы 17 ст. пабудавана драўляная царква. У 1744 г. 61 двор, 185 душ мужчынскага полу, карчма, уласнасць Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 128 двароў, 786 жыхароў, царква, карчма, 2 ветракі, уласнасць Ратынскага. У 1816 г. 63 двары, каля 490 жыхароў, уласнасць Ратынскіх. У 1835 г. царква, у 1866 г. адчынена нар. вучылішча. У 1886 г. 75 двароў, 995 жыхароў, у нар. вучылішчы 59 хлопчыкаў, 5 дзяўчынак. У 1897 г. 240 двароў, 1225 жыхароў, ваўначоска з конным прывадам, школа, 3 крамы, піцейны дом, хлебазапасны магазін, адбываліся штогадовыя кірмашы (раз у год). У 1908 г. сяло, 220 двароў, 1762 жыхары; у 1917 г. 266 двароў, 1546 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, каля 80 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Дрычынскага с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 12.3.1935 г. Рудзенскага, з 6.7.1935 г. Смілавіцкага, з 11.2.1938 г. Рудзенскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Новы Дрычын», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падполле. У 1942—43 гг. акупанты расстралялі 39 ваеннапалонных і 2 партызан; вёска была часткова спалена (1943). З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не. У 1960 г. у вёсцы 130 жыхароў; раз'езд — 7 жы-



хароў. У 1971 г. 147 гаспадарак, 496 жыхароў. У 2002 г. цэнтр Дрычынскага с/с і саўгаса «Дрычынскі», 261 гаспадарка, 731 жыхар, сярэдняя школа, яслі-сад, ветэрынарны ўчастак, Дом культуры, Дом быту, аддз. сувязі, б-ка, амбулаторыя, ашчадная каса, аўтаматычная тэлеф. станцыя, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сталовая, магазін. У 2007 г. 278 гаспадарак, 752 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1», амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, яслі-сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ДУБОВАЕ** — вёска ў Шацкім с/с. За 26 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 81 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. в. Дубаў у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. лясная вартоўня, 4 жыхары, у Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 2 двары, 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кнорынскім, з 1939 г. ў Варашылаўскім сельсаветах. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 71 жыхар. З 5.5.1962 г. ў Селецкім с/с. У 2002 г. ў калгасе «Селецкі», 10 гаспадарак, 25 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 9 гаспадарак, 21жыхар. У 2013 г. — на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ДУБРОВА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 52 км на З ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 29 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак у Сяргеевіцкім с/с Шацкага, з 1927 г. да 1935 г. Пухавіцкага р-наў, 11 двароў, 54 жыхары. З 12.2.1935 г. ў Рудзенскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не; пасёлак, 83 жыхары. У 2002 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 1 двор, 2 жыхары, у калгасе «Сяргеевічы». У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 1 гаспадарка, 2 жыхары. У 2013 г. — на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ДУБРОЎКА** — вёска ў Турынскім с/с. За 10 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 47 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. хутар, 9 жыхароў У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 59 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 7 гаспадарак, 7 жыхароў, у калгасе «Белая Русь». У 2010 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**ДУБРОЎКА** — вёска (з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Дуброўскага с/с. За 10 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы па лініі Мінск—Асіповічы. 274 гаспадаркі, 813 жыхароў (2012).

У 1885 г. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. фальварак, 29 жыхароў; вартоўня — 5 жыхароў. У 1917 г. маёнтак — 42 жыхары; урочышча — 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 20 двароў, 99 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгасы «Краіна Саветаў», «Спаборнік», працавалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. вёска спалена фашыстамі, загінулі 7 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў Сінчанскім с/с вёскі Дуброўка 1 — 131 жыхар; Дуброўка 2 — 135 жыхароў (з

*Царква Святой Ганны ў в. Дудзічы.*

15.6.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Амяльнянскі). З 23.7.1984 г. цэнтр сельсавета. У 2002 г. в. Дуброўка, цэнтр Дуброўскага с/с і саўгаса «Чырванагвардзейскі», 268 двароў, 858 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, амбулаторыя, б-ка, ашчадная каса, ветэрынарны пункт, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. У 2010 г. 275 гаспадарак, 824 жыхары. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырванагвардзейскі», амбулаторыя, ветэрынарны пункт, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі.

**ДУДЗІЧЫ** — вёска (з 2010 г. аграгарадок) у Навапольскім с/с. За 41 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 92 гаспадаркі, 284 жыхары (2012).

За 0,2 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Кобань, у полі размешчаны археал. помнік — гарадзішча. У 14 ст. мястэчка ў Мінскім павеце ВКЛ, уласнасць Адахоўскіх. У 1621 г. па купчай маёнтак перайшоў ва ўласнасць Янушу Быхаўцу, пад канец 17 ст. залога ў Заранкаў-Гарбоўскіх, якія пабудавалі тут касцёл. У 1748 г. ўласнасць Аляксандры Заранкі; у 1766 г. мястэчка атрымала права на 3 штогадовыя кірмашы, 1 штотыднёвы

*Млын у музеі старадаўніх рамёстваў «Дудуткі» каля в. Дудзічы.*





таржок. У 1769 г. муж А.Заранкі Празор пабудаваў тут палац (з дрэва) з б-кай, карціннай галерэяй. У 1780 г. пабудаваны новы касцёл (на месцы былога), працавала школа. З 1785 г. ўласнасць Станіслава Ельскага, які паспрыяў развіццю тут розных рамёстваў, для чаго запрасіў з-за мяжы 20 майстроў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. мястэчка, цэнтр воласці ў Ігуменскім павеце. У 1800 г. 30 двароў, 300 жыхароў, гарбарны з-д, 3 карчмы, батанічны сад, аранжарэя. У 1839 г. касцёл перабудаваны ў праваслаўную прыходскую царкву. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1886 г. былі 55 вучняў (настаўнік Макар Гладкі). У 1897 г. 125 двароў, 602 жыхары, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, лаўка, 2 піцейныя дамы, царква, капліца, штотыднёвыя таржкі; у маёнтку 2 двары, 58 жыхароў, вадзяны млын. У 1902 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1908 г. 108 двароў, 676 жыхароў; у маёнтку 20 жыхароў, вадзяны млын. У 1917 г. ў мястэчку 15 двароў, 104 жыхары; у сяле — 106



двароў, 651 жыхар; у маёнтку 78 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (каля 70 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Дудзіцкага с/с у Самахвалавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. Пухавіцкага р-на, з 12.2.1935 г. Рудзенскага, з 6.7.1935 г. Смілавіцкага, з 11.2.1938 г. Рудзенскага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Камвуз Беларусі»; былі вадзяны млын, кузня, цыркулярка. З 1938 г. вёска. У 1940 г. 80 двароў, 258 жыхароў. У канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. спалілі вёску, загубілі 17 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. З 16.7.1954 г. ва Узлянскім с/с. У 1960 г. вёска ў Навапольскім с/с, 263 жыхары. У 1994 г. адкрыты музей матэрыяльнай культуры. У 2002 г. 97 гаспадарак, 249 жыхароў, цэнтр калгаса «Світанак». У 2007 г. 103 гаспадаркі, 290 жыхароў, сярэдняя школа, медпункт, ветэрынарны ўчастак, б-ка, аддз. сувязі, магазін, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. У 2010 г. 104 гаспадаркі, 294 жыхары. У 2013 г. — на тэр. СВК «Агра-Абярэг», магазін. Царква Святой Ганны (1990-я гг.). Радзіма кампазітара і музыканта М.К.Ельскага і гісторыка, этнографа і пісьменніка А.К.Ельскага. Побач з вёскай радавыя могілкі Ельскіх.

**ДУКАЎКА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 10 км на У ад Мар'інай Горкі, 66 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. засценак у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 29 жыхароў; у 1897 г. 15 двароў, 106 жыхароў, бытаваў бандарны промысел. У 1908 г. 14 двароў, 133 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 80 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930-х г. створаны калгас «Перамога сацыялізму», дзейнічалі кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Балочанскім с/с, 94 жыхары. У 1981 г. ў калгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. вёска ў Чырвонакастрычніцкім с/с, 15 гаспадарак, 23 жыхары. У 2010 г. ў Пухавіцкім с/с, 9 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ДУКОРА** — вёска (з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Дукорскага с/с. За 24,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 28,5 км ад Мінска, 11,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на скрыжа-



*М.К.Ельскі.*



*А.К.Ельскі.*

*Сядзіба Ашторпаў у в. Дукора.*





ванні аўтадарог Мінск—Бабруйск і Рудзенск—Смілавічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 483 гаспадаркі, 1279 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1582 г. сяло ў маёнтку Бакшты, уласнасць Завішаў у Мінскім павеце Мінскага ваяв. З 1615 г. у закладзе ў Служкаў, 84 двары сялянкунічнікаў. У 2-й пал. 17 ст. уласнасць нашчадкаў кн. Самуэля Багдановіча Агінскага. У 1667 г. мяст. Дукора, маёнтак, 170 дымоў (з вёскамі ў яго складзе), залога ў Казіміра Навацкага. З 1690 г. уласнасць Крыштафа Завішы. З 1791 г. па купчай перайшла да Ф.Ашторпа. У 18 ст. пабудаваны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. пабудавана мураваная царква, у 1845 г. другая мураваная царква Петра-Паўлаўская. У 1861 г. 64 двары, 372 жыхары; вінакурны з-д, 2 царквы, касцёл, малітоўная школа. З 1861 цэнтр воласці. У 1862 г. мястэчку дадзены правы на штотыднёвыя таргі; у 1863 г. адчынена 2-класнае нар. вучылішча (з 1865 г. з жаночай зменай); у 1877 г. — сельская бальніца. З 1874 г. маёнтак належаў Гарцінгам. У 1880-х г. воласць уключала мяст. Дукору, с. Дукорку, 10 сельскіх т-ваў, 10 грамад, 12 населеных пунктаў, 392 двары, 5850 жыхароў. У 1886 г. ў мястэчку 41 двор, 537 жыхароў, валаснае праўленне, 2 нар. вучылішчы, 2 праваслаўныя царквы, капліца, вадзяны млын, прыёмны пакой, вінзавод. У 1890 г. адчынена царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў мястэчку 193 двары, 1101 жыхар, школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква, 4 штогадовыя кірмашы, бальніца, у аднайменным маёнтку 54 жыхары, сыраварны з-д, вадзяны млын — 6 двароў, 58 жыхароў. У 1900 г. ў 2-х вучылішчах быў 131 вучань (52 дзяўчынкі). У пач. 20 ст. ў мястэчку 251 двор, 1444 жыхары; у маёнтку — 109 жыхароў, сырзавод, бытавалі ткацкі, бандарны, кавальскі, ганчарны, шорны, гарбарны, кравецкі, шавецкі промыслы, пчалярства і інш., праводзіліся штопядзельныя таржкі, быў урачэбны ўчастак. У 1917 г. ў мястэчку 243 двары, 1654 жыхары; у маёнтку 228 жыхароў; на млыне 4 двары, 19 жыхароў. З 1916 г. дзейнічала паштовае аддзяленне. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У час грамадз. вайны дзейнічалі валасны рэв. к-т і партыз. атрад на чале з А.А.Блажко. 3.5.1920 г. палякі схапілі А.А.Блажко і частку партызан і 17.5.1920 г. расстралялі 11 з іх каля в. Дукора, 30 зняволілі ў турме, дзе 5 чал. былі закатаваны. Імем 16 партызан быў названы калгас у Дукоры, брыкетны з-д у Сетчы. З 20.8.1924 г. цэнтр Дукорскага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Пухавіцкага, з 12.2.1935 г. Рудзенскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1925 г. створаны рабочы ф-т. У 1926 г. працавалі 7-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, чытальня, б-ка, драмгурток. У пач. 1930-х г. створаны саўгас «Дукора»; былі кузня, цыркулярка, майстэрня па рамонце с.-г. машын, валяльная майстэрня; у 1933 г. працавала МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Пу-



*Ільінская царква ў в. Дукора.*



хавіцкім р-не. У 1970 г. 797 гаспадарак, 2258 жыхароў, цэнтр калгаса імя 16 партызан; былі майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом быту, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячая муз. школа, амбулаторыя, ашчадная каса, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазіны. У 2002 г. вёска, цэнтр Дукорскага с/с, 571 двор, 1307 жыхароў. У 2007 г. 526 двароў, 1306 жыхароў. У 2013 г. — на тэр. СВК «Дукора», амбулаторыя, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. За 3 км на ПнУ ад вёскі ва ўрочышчы Пушча помнік на месцы расстрэлу дукорскіх партызан у 1920 г., брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г. Радзіма бел. дзярж. дзеяча А.Р.Чарвякова; пісьменніка В.С.Гарбацэвіча; актрысы Т.А.Бандарчык; мовазнаўцы М.А.Жыдовіча. Захаваліся помнікі архітэктуры класіцызму — рэшткі сядзібы Ашмарлаў (19 ст.), Ільінская царква (пач. 19 ст., да 1984 г. касцёл).

**ЕДЛІНА** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 37,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 33,5 км ад Мінска, 14,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 14 гаспадарак, 40 жыхароў (2012).

У 1858 г. фальварак у Мінскім павеце, уласнасць Ю. Адамовіча, 2 рэвізскія душы. У канцы 19 ст. фальварак Едлін у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 23 жыхары. У 1917 г. было 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. фальварак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 21 гаспадарка, 56 жыхароў. У 2010 г. 16 гаспадарак, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка», магазін. З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**ЕЛЬНІКІ** — вёска ў Шацкім с/с. За 53 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 87 км ад Мінска, 56 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 31жыхар. У 1917 г. засценак, 5 двароў, 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. 6 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 г. спалены фашыстамі. У 1960 г. пасёлак у Селецкім с/с, 17 жыхароў. У 2002 г. 2 двары, 4 жыхары, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 1 гаспадарка, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ЖОРАЎКА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 35 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 13 гаспадарак, 23 жыхары (2012).

За 250 м на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, у полі размешчаны археал. помнік — гарадзішча (жал. век, позняе сярэднявечча; мясц. назва — Акопы Кацярыны). У пач. 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. і фальварак, шляхецкая ўласнасць, 53 двары, 407 жыхароў, царква Раства Багародзіцы. У 1870 г. вёска ў Дукорскай вол., 218 жыхароў мужчынскага полу. У 1888 г. адкрыта школа граматы на базе былой царк.-прыходскай (у 1890 г. 53 хлопчыкі). У 1897 г. 140 двароў, 939 жыхароў, школа граматы, піцейны дом, капліца; у 1917 г. 170 двароў, 1095 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 100 вучняў). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 10 гаспадарак,



*А.Р.Чарвякоў.*



*Т.А.Бандарчык.*





45 жыхароў, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін. У 2010 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**ЖАРКАВА** – вёска ў Турынскім с/с. За 10 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 8 двароў, 11 жыхароў.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** – вёска ў Пярэжырскім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 32,5 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. сяльцо ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць. У 1858 г. вёска, 157 жыхароў, уласнасць Іскрыцкага. У 1870 г. 104 жыхары мужчынскага полу, у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1884 г. адчынена школа граматы. У 1897 г. в. Забалацце (яна ж Луцішча), 56 двароў, 378 жыхароў, капліца на могілках. У пач. 20 ст. 61 двор, 469 жыхароў; у 1912 г. створана нар. вучылішча. У 1917 г. вёска, 78 двароў, 442 жыхары; чыг. будка – 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1925 г. створаны цагляны з-д, у пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны транспартнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 289 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 38 двароў, 60 жыхароў; у 2010 г. 37 гаспадарак, 73 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Эксперыментальная база «Зазер'е» РУП «Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па механізацыі сельскай гаспадаркі».

**ЗАБІЧАНЫ** – вёска ў Пярэжырскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 32 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач. 56 гаспадарак, 171 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць. У 1800 г. 20 двароў, 127 жыхароў, карчма, млын на р. Свіслач, сукнавальня; шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў Пярэжырскай вол., 86 жыхароў, уласнасць Э. Ваньковіча. У 1890 г. адчынена школа граматы. У 1897 г. 31 двор, 203 жыхары; у 1917 г. 44 двары, 290 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 237 жыхароў. У 2002 г. ў Пярэжырскім с/с, 59 гаспадарак, 149 жыхароў, у калгасе «Барацьба»; у 2010 г. 58 гаспадарак, 166 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка».

**ЗАБЯРЭЗЦЫ** – вёска ў Шацкім с/с. За 40 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 75 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Шаць (прыток р. Пціч). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 1885 г. засценак у Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 двары, 37 жыхароў; у 1917 г. 2 хутары, у якіх 8 двароў, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. хутар, 17 двароў, 86 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 98 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Шацкім с/с, 3 двары, 4 жыхары, у калгасе «Шацк»; у 2010 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Шацкі».



**ЗАВОД** — вёска ў Шацкім с/с. За 33 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 86 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак у Варашылаўскім с/с, 85 жыхароў (сельсавет скасаваны 5.5.1962 г.). У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с, 16 двароў, 31 жыхар, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 14 гаспадарак, 31 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ЗАГАЙ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 5 км на З ад Мар'інай Горкі, 61 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Цітаўка (прыток р. Свіслач). 60 гаспадарак, 134 жыхары (2012).

У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 11 двароў, 78 жыхароў. У 1858 г. в. Загая ў Навасёлкаўскай вол., 83 рэвізскія душы. У канцы 19 ст. 54 двары, 321 жыхар. У 1908 г. 48 двароў, 394 жыхары; у 1917 г. 72 двары, 424 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новы Загай», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны тут размяшчаўся варожы гарнізон, які 17.5.1944 г. разгромлены партызанамі брыгады «Буравеснік». У 1960 г. ў вёсцы 339 жыхароў. У 2002 г. ў Навасёлкаўскім с/с, 69 гаспадарак, 149 жыхароў, магазін. У 2010 г. 64 гаспадаркі, 137 жыхароў. У 2013 г. на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка», магазін.

**ЗАДАШЧЭННЕ** — вёска ў Шацкім с/с. За 37 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 40 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 53 гаспадаркі, 90 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць царквы. У 1800 г. 30 двароў, 266 жыхароў, карчма, шляхецкая ўласнасць. У 1870 г. ў Шацкай вол., 258 жыхароў мужчынскага полу. У 1885 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 12 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі). У 1897 г. 128 двароў, 678 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. У 1917 г. вёскі Задашчэнне 1, 46 двароў, 236 жыхароў; Задашчэнне 2, 94 двары, 522 жыхары; Задашчэнне 3, 34 двары, 173 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёскі акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922 г. 30 вучняў). З 20.8.1924 да 16.7.1954 г. цэнтр Задашчэнскага с/с. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Свіслач». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны фашысты загубілі 300 мірных жыхароў. У 1960 г. пасёлак, 111 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Шацкім с/с, 77 гаспадарак, 145 жыхароў; у 2010 г. 58 гаспадарак, 108 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Шацк», магазін.

**ЗАЗЕР'Е** — вёска (з 2010 аграгарадок), у Голацкім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 31 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 318 гаспадарак, 905 жыхароў (2012).

Вядома з 16 ст., сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1567 г. шляхецкая ўласнасць, у 1590 г. сяло, 9 дымоў, у складзе маёнтка Гатава. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., у 19 — пач. 20 ст. сяло ў Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета. У 1800 г. 15 двароў, 116 жыхароў, царква, вінакурня. У 1855 г. царква перабудавана на сродкі памешчыка Э. Ваньковіча. У 1866 г. 39 двароў, вадзяны млын, царква. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа (у 1890 г. 46 хлопчыкаў). У 1886 г. с. За-





возеры, 57 двароў, 476 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа. У 1897 г. сяло — 101 двор, 641 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом, лаўка, царква, часоўня; маёнтак — 6 двароў, 156 жыхароў. У 1909 г. 111 двароў, 840 жыхароў, у маёнтку — 6 двароў, 156 жыхароў. У 1917 г. 131 двор, 821 жыхар; у маёнтку — 314 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 90 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Пярэжырскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Рудзенскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Барацьба», працавалі кузня, вадзяны млын з лесапілкай, майстэрня, сыраварня. З 1938 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падполле. З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не, у 1960 г. цэнтр. эксперыментальнай базы Зазер'е, 508 жыхароў. У 1971 г. 204 гаспадаркі, 684 жыхары. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, цэнтр эксперыментальнай базы «Зазер'е» Бел. н.-д. ін-та земляробства, 314 гаспадарак, 929 жыхароў, сярэдняя школа, бальніца, б-ка, Дом быту, цэнтр эксперыментальнай базы «Зазер'е» Бел. н.-д. ін-та земляробства, Дом культуры, конна-спартыўная школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. У 2007 г. 314 двароў, 901 жыхар; у 2010 г. 314 гаспадарак, 924 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Эксперыментальная база «Зазер'е», бальніца, 2 магазіны, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Голацкім с/с.

**ЗАЗЕРКА** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 233 гаспадаркі, 641 жыхар (2012).

Вядома з 20 ст. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. фашысты загубілі тут 27 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 523 жыхары; у 1971 г. 184 двары, 528 жыхароў. У 2002 г. цэнтр калгаса «Барацьбіт», 221 двор, 579 жыхароў, сярэдняя школа, ветэрынарны ўчастак, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, 8 магазінаў. У 2007 г. ў вёсцы 314 гаспадарак, 901 жыхар; у 2010 г. аграгарадок, 239 гаспадарак, 649 жыхароў. У 2013 г. на тэр. ААТ «Зазерка», Дом культуры, 8 магазінаў.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 16 км на У ад Мар'інай Горкі, 67 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 1885 г. засценак у Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 6 двароў, 23 жыхары; у 1917 г. засценак, 5 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. ў Балочанскім с/с Пухавіцкага р-на; у 1926 г. 10 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 33 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с, у саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. 2 жыхары. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 32 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 16 гаспадарак, 40 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. маёнтак у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 3 двары, 49 жыхароў. З лютага да



снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ва Узлянскім с/с, 26 гаспадарак, 54 жыхары, у калгасе «Барацьба». З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**ЗАЛОГ ПЯЦІГОДКІ** — вёска ў Блужскім с/с. За 30 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 85 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Суцёнка (прыток р. Талька) 152 гаспадаркі, 304 жыхары (2012).

У пач. 1930-х г. створаны саўгас «Залог пяцігодкі» (адсюль і назва вёскі); былі кузня, малочны з-д. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у гады вайны часткова спалена фашыстамі. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў вёсцы 645 жыхароў, у 1971 г. 191 гаспадарка, 406 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Суцінскім с/с, цэнтр саўгаса «Залог пяцігодкі», 180 гаспадарак, 384 жыхары. У 2007 г. 158 двароў, 350 жыхароў; у 2010 г. 159 гаспадарак, 332 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Суцінскі», магазін, клуб. З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 43 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2012).

У 1870 г. маёнтак у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць Ельскага. У 1897 г. 41 жыхар; у 1917 г. 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новы шлях». У 1940 г. 19 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі яе. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў вёсцы 64 жыхары; у 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, у калгасе «Навапольскі», 6 гаспадарак, 10 жыхароў; у 2010 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. тэр. СВК «Агра-Абярэг». Захаваліся рэшткі сядзібы Ельскіх (1860-я г.).

**ЗАПЯРЫННЕ** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 15 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 70 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 28 гаспадарак, 51 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска Запярын у Ігуменскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 4 двары, 31 жыхар. У 1858 г. в. Запрэнне ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 42 рэвізскія душы. У 1870 г. 46 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 ст. 29 двароў, 212 жыхароў; у пач. 20 ст. 40 двароў, 270 жыхароў, у 1917 г. 48 двароў, 287 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Сілач»; дзейнічалі ганчарны з-д, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Сінчанскім с/с (з 15.6.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Амяльнянскі), 270 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 38 гаспа-



*Сядзіба Ельскіх у в. Замосце.*

дарак, 71 жыхар; у 2010 г. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі». На магілках брацкая магіла савецкіх партызан.

**ЗАРА** — вёска ў Турынскім с/с. За 15,5 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 57,5 км ад Мінска, 12,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 75 жыхароў; у 1981 г. ў калгасе «Сцяг камунізму». У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 8 двароў, 13 жыхароў. У 2007 г. 5 двароў, 8 жыхароў; у 2010 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 на тэр. СВК «Турын».

**ЗАРАЧАНЫ** (да 1964 г. Баламутавічы) — вёска ў Навапольскім с/с. За 42,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36,5 км ад Мінска, 19,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 18 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

Да 1964 г. в. Баламутавічы. У канцы 18 ст. Баламутавічы ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 115 жыхароў, уласнасць кн. Д. Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. 122 жыхары мужчынскага полу, у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. 65 двароў, 418 жыхароў; у 1908 г. 75 двароў, 471 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 207 жыхароў, у 1981 г. ў саўгасе «Навапольскі». У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 27 гаспадарак, 39 жыхароў. У 2007 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў; у 2010 г. 16 гаспадарк, 19 жыхароў. У 2013 на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Блонскім с/с. За 2 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Цітаўка (прыток р. Свіслач). 119 гаспадарак, 299 жыхароў (2012).

За 1,5 — 2 км на ПдУ ад вёскі, ва урочышчы Курганне, на ўскраіне лесу, каля балота размешчаны археал. помнік — курган (мясц. назва — Канцы).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, была карчма. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Асоўскага. У 1897 г. вёска, 22 двары, 137 жыхароў; урочышча — 6 двароў, 33 жыхары, у 1908 г. 32 двары, 217 жыхароў, вёска ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 41 двор, 276 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1939—54 гг. цэнтр Блонскага с/с Пухавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў наваколлі дзейнічала партыз. брыгада «Полымя». У 1960 г. ў вёсцы 440 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Блонскім с/с, 128 гаспадарак, 250 жыхароў. У 2007 г. 118 гаспадарак, 239 жыхароў, у племзаводзе «Індустрыя». У 2010 г. 128 гаспадарак, 272 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя».

**ЗАФРАНЦУЗСКАЯ ГРЭБЛЯ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 19 км на У ад Мар'інай Горкі, 70 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Балачанка (прыток р. Свіслач). 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 1885 г. ваколіца ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 15 двароў, 139 жыхароў; у 1908 г. 22 двары, 124 жыхары; у 1917 г. 28 двароў, 176 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г.



ў БССР. У 1926 г. ваколіца ў Балочанскім с/с Пухавіцкага р-на, 40 двароў, 207 жыхароў. У 1940 г. вёска, 26 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 14 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў вёсцы 44 жыхары. У 2002 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с, 5 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ЗАЦІТАВА СЛАБАДА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 7 км на У ад Мар'інай Горкі, 58 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск–Бабруйск, пры ўпадзенні р. Цітаўка ў Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 150 гаспадарак, 417 жыхароў (2012).

У 19 – пач. 20 ст. вёска ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 103 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 70 двароў, 369 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 87 двароў, 529 жыхароў; у 1917 г. 104 двары, 531 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Тады ж адчынена школа 1-й ступені; у 1922 г. 2 настаўнікі, каля 70 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1933 г. працавалі калгасы «Пуцілавец» і «Кастрычнік», 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 549 жыхароў; у 1971 г. 170 гаспадарак, 511 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, цэнтр калгаса імя В.І.Чапаева, 179 гаспадарак, 517 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, б-ка, пач. школа, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 167 двароў, 493 жыхары; у 2010 г. 154 гаспадаркі, 427 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі», магазін, Дом культуры. Брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. пісьменніка, гал. рэдактара газеты «Звязда» А.В.Карлюкевіча.

**ЗАЦІШША** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 5,5 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 50,5 км ад Мінска, 8,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск–Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 1908 г. маёнтак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 4 двары, 19 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў пасёлку 136 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у 2007 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».



*А.Карлюкевіч.*

**ЗВЯЗДА** – вёска ў Блонскім с/с. За 3 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 13 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Склалася на месцы с.-г. камуны «Звязда», якая ў 1921 г. была створана на базе маёнтка Шчамысліца, мела 200 га ворыва, дзейнічалі клуб, сталовая. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені. У 1926 г. ў камуне лічыліся 68 жыхароў (пазней пераўтворана ў калгас «Звязда»). У 1935 г. камуна названа вёскай Звязда. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 203 жыхары; у 1981 г. ў племзаводзе «Індустрыя». У 2002 г. вёска ў Блонскім с/с, 22 гаспадаркі, 34 жыхары. У 2007 г. 18 гаспадарак, 24 жыхары; у 2010 г. 15 гаспадарак, 33 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя».





**ІЗБІШЧА** — вёска ў Турынскім с/с. За 11 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Лагойск. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1870 г. 18 жыхароў мужчынскага полу, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. 11 двароў, 85 жыхароў; у пач. 20 ст. 24 двары, 273 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 74 жыхары. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, у калгасе «Сцяг камунізму», 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў; у 2010 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын».

**ІЛЬІНКА** — вёска ў Шацкім с/с. За 31 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 86 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

Да 1960 г. в. Святое. У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 жыхароў. У 1917 г. 8 жыхароў З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. хутар, 2 двары, 6 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Варашылаўскім с/с, 38 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с, 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2007 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2010 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ІЛЬІЧ** — вёска ў Турынскім с/с. За 11 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 85 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у калгасе «Сцяг камунізму». У 2007 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын».

**КАВАЛЁВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 0,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 52 км ад Мінска, 1 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Узда. 97 гаспадарак, 267 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 8 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 65 жыхароў. У 1981 г. вёска ў Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 98 двароў, 228 жыхароў, магазін. У 2007 г. 102 гаспадаркі, 264 жыхары. У 2013 г. на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».

**КАВАЛЕВІЧЫ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 45 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы; на р. Кавалеўка (прыток р. Шаць). 24 гаспадаркі, 33 жыхары (2012).

На Пн ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Маяк, або Гарадзішча, размешчаны археал. помнікі — гарадзішча, 2 могільнікі, 2 курганы.

У пач. 17 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 26 двароў, 181 жыхар, уласнасць Букатага. У 1870 г.



сяло, 117 жыхароў мужчынскага полу; маёнтак, уласнасць Ліпскіх, у Шацкай вол. У 1880 г. ў маёнтку засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 7 рабочых). У 1897 г. ў сяле 56 двароў, 395 жыхароў, хлебазапасны магазін, часоўня; у маёнтку 4 двары, 59 жыхароў. У 1908 г. ў сяле 73 двары, 538 жыхароў; у маёнтку 17 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земскае нар. вучылішча, якое пазней пераўтворана ў працоўную школу 1-й ступені (у 1922 г. 20 вучняў). У 1917 г. ў сяле 90 двароў, 520 жыхароў; хутар — 13 двароў, 109 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Пуцілавец», дзейнічалі кузня, лесапільны і вапнавы з-ды, пабудаваныя ў 1933 г. У 1940 г. 110 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 73 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 303 жыхары. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 70 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 31 гаспадарка, 43 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**КАДУНОВА** — вёска ў Голацкім с/с. За 35 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 28 км ад Мінска, 27 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

У 19 ст. фальварак Кадуноў (ён жа Кадунін) у Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 98 жыхароў; у 1908 г. 18 двароў, 109 жыхароў; у 1917 г. 19 двароў, 116 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1933 г. працаваў калгас «Юны піянер», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 113 жыхароў. У 1981 г. вёска ў калгасе імя ЦК КПБ. У 2002 г. ў Голацкім с/с, 10 гаспадарак, 32 жыхары. У 2007 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар; у 2010 г. 14 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк».

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 29,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 81,5 км ад Мінска, 10,5 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у калгасе імя Кірава. З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 11 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 54,5 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Дукорскім с/с, 108 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 27 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2010 г. 17 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**КАЛІНІНА** — вёска ў Турынскім с/с. За 10,5 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 48,5 км ад Мінска, 14,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 14 гаспадарак, 30 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 18 гаспадарак, 42 жыхары, у калгасе «Сцяг камунізму».

**КАЛЯЮГІ** — вёска ў Блужскім с/с. За 16 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 71 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Талька





на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

У 1897 г. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 51 жыхар. У 1908 г. 2 двары, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. ўрочышча акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 3 двары, 12 жыхароў. У 1926 г. 11 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Талькаўскім с/с, 42 жыхары. У 1980 г. ў саўгасе «Залог Пяцігодкі»; у 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 1 гаспадарка, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**КАМЕНКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 26 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 81 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2012).

У сярэдзіне 19 ст. в. Каміенка ў Блужскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць Лісоўскага. У 1858 г. 88 рэвізскіх душ. У 1897 г. 36 двароў, 199 жыхароў, у Амяльнянскай вол. У 1917 г. 40 двароў, 199 жыхароў; фальварак — 12 жыхароў. У жн. 1917 г. адбываліся сял. хваляванні. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Новае жыццё», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 23.1.1943 г. знішчылі тут 10 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 168 жыхароў. У 2002 г. ў Суцінскім с/с, 26 гаспадарак, 38 жыхароў; у 2010 г. 21 гаспадарка, 27 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Суцінскі». З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с. Магіла ахвяр фашызму.

**КАПЕЙНАЕ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 23 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 27 гаспадарак, 53 жыхары (2012).

У 1816 г. 13 двароў, каля 100 жыхароў, уласнасць Ратынскіх. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 73 жыхары мужчынскага полу, уласнасць Ратынскага. У 1884 г. адчынена школа граматы. У 1897 г. 53 двары, 316 жыхароў, піцейны дом. У 1917 г. 63 двары, 393 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 1 настаўнік, каля 50 вучняў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Дукорскім с/с, 303 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 36 гаспадарак, 64 жыхары. У 2010 г. 29 гаспадарак, 54 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с. Брацкая магіла сав.воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КАПСКІЯ** — вёска ў Турынскім с/с. За 13 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 21 гаспадарка, 37 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 24 двары, 165 жыхароў, было нар. вучылішча. У 1908 г. 21 двор, 201 жыхар; у 1917 г. 35 двароў, 208 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1927 г. да 1939 г. цэнтр Пудзецка-Слабодскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. загубілі тут 494 жыхары. У 1960 г. ў вёсцы 192 жыхары. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 32 гаспадаркі, 64 жыхары; у 2010 г. 23 гаспа-



даркі, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с. На вясковых могілках брацкая магіла 16 сав. партызан і падпольшчыкаў, магіла 494 ахвяр фашызму.

**КАРАБОВІЧЫ** – вёска ў Дукорскім с/с. За 20 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 52 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 35 гаспадарак, 51 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць. У 1800 г. 16 двароў, 122 жыхары; у 1858 г. вёска Карабовіца ў Цітвянскай вол., уласнасць Л. Янішэўскага, 127 жыхароў. У канцы 19 ст. 49 двароў, 263 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 56 двароў, 330 жыхароў; у 1917 г. 63 двары, 309 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. створана школа 1-й ступені (у 1922 г. 60 вучняў). У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоная змена», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, у саўгасе «Дрычынскі», 54 гаспадаркі, 98 жыхароў. У 2010 г. 37 гаспадарак, 59 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**КАРАВАЕВА** – вёска ў Пярэжырскім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 37 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 64 гаспадаркі, 147 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 4 мяшчан яўрэяў, шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 68 двароў, 549 жыхароў. У 1858 г. вёска ў Дукорскай вол., 188 рэвізскіх душ. У 1880 г. адкрыта школа граматы для хлопчыкаў (у 1890 г. 33 вучні). У 1897 г. 124 двары, 924 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца. У пач. 20 ст. 142 двары, 1065 жыхароў; у 1917 г. 152 двары, 1013 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новы шлях», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны каля вёскі базіравалася партыз. брыгада «Беларусь». У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 101 гаспадарка, 197 жыхароў. У 2010 г. 77 гаспадарак, 177 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка», фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Брацкая магіла 26 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. Радзіма бел. пісьменніка М.Т.Паслядовіча; генерал-маёра А.Г.Валенды. Каля вёскі радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу.



*М.Т.Паслядовіч.*

**КАРНІЧАЎ** – вёска ў Шацкім с/с. За 35 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 90 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 11 жыхароў. У 1908 г. 3 двары, 10 жыхароў; у 1917 г. ўрочышча, 20 жыхароў; хутар, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Селецкім с/с, 34 жыхары. У 2002 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 8 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**КАШАЛІ** – вёска ў Шацкім с/с. За 38,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 85,5 км ад Мінска, 39,5 км. ад чыг. ст.



Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2012).

У 1908 г. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 60 жыхароў. У 1917 г. засценак, 30 двароў, 158 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930-я г. створаны калгас імя Ягорава, былі кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Селецкім с/с, 143 жыхары. У 2002 г. 54 гаспадаркі, 97 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 10 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.



*І.К.Хурс.*

**КЛЯТНОЕ** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 25 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 80 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Старыя Дарогі, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 28 гаспадарак, 42 жыхары (2012).

У 1800 г. вёска і фальварак у Ігуменскім павеце (Клетка), 16 двароў, 146 жыхароў, капліца, карчма, млын на р. Пціч (2 паставы), сукнавальня; уласнасць Ратынскага. У канцы 19 ст. ў Амяльнянскай вол.: вёска — 31 двор, 238 жыхароў; млын — 5 жыхароў; урочышча — 3 двары, 28 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 62 двары, 367 жыхароў; урочышча — 3 двары, 18 жыхароў; урочышча — 2 двары, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны тут размяшчаўся штаб 2-й Мінскай партыз. брыгады. У 1942—43 гг. фашысты расстралялі 23 жыхары. У 1960 г. вёска ў Варашылаўскім с/с, 271 жыхар. У 1980 г. вёска ў Амяльнянскім с/с, у калгасе імя У.І.Леніна. У 2002 і вёска ў Дуброўскім с/с, 45 гаспадарак 86 жыхароў; у 2010 г. 38 гаспадарак 57 жыхароў. У 2013 г. на тэр. філіяла «Омельна» вытв. РУП «Мінскі заво аўтаматычных ліній імя М.П.Машэра ва». Брацкая магіла ахвяр фашызму партызана, помнік у гонар 2-й Мінскаі партыз. брыгады. Радзіма віцэ-адмірала флота І.К.Хурса.

**КЛЯЦІШЫНА** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 12 км на ПдЗ ад Мар'інаі Горкі, 67 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Старыя Дарогі. 14 гаспадарак, 33 жыхары (2012).

Вядома з 19 ст. У 1816 г. 16 двароў 100 жыхароў, уласнасць Ратынскіх. У 1858 г. вёска ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 66 рэвізскіх душ. У 1870 г. 66 жыхароў; у 1897 і 47 двароў, 329 жыхароў; у 1917 г. 54 двары, 351 жыхар. З лютага да снеж. 1918 і акупіравана войскамі кайзераўскаі Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Сінчанскім с/с, 197 жыхароў (з 15.6.1972 і сельсавет перайменаваны ў Амяльнянскі). У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с 26 гаспадарак, 46 жыхароў, у саўгасе «Чырвонагвардзейскі». У 2010 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. У 2013 г. на тэр дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі». Каля вёскі радовішча торфу.

**КОЛАСАЎКА** — вёска ў Турынскім с/с. За 7,5 км на Пн ад Мар'інай Горкі 55,5 км ад Мінска, 10,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, двор, 1 жыхар.

**КРАМЯНІ** — вёска ў Турынскім с/с. За 17 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 42 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 26 гаспадарак 53 жыхары (2012).



У 2-й пал. 19 ст. в. Крамень у Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 38 двароў, 246 жыхароў; у 1917 г. 46 двароў, 287 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2.7.1944 г. 1-я Мінская партыз. брыгада пераправілася праз р. Свіслач, авалодала вёскай і ўтрымлівала яе да прыходу сав. войскаў. У 1960 г. пасёлак, 226 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 38 гаспадарак, 73 жыхары; у 2010 г. 29 гаспадарак, 59 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**КРУПКА** — вёска ў Блонскім с/с. За 5 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 49 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск—Гомель. 23 гаспадаркі, 55 жыхароў (2012).

У сярэдзіне 19 ст. в. Крупцы ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. в. Крупец у Навасёлкаўскай вол., 52 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. в. Крупка, 27 двароў, 184 жыхары, карчма. У 1908 г. 22 двары, 257 жыхароў; у 1917 г. 37 двароў, 212 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2007 г. вёска ў Блонскім с/с, 33 гаспадаркі, 79 жыхароў, у племсаўгасе «Індустрыя». У 2010 г. 19 гаспадарак, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя».

**КРЫНІЦА** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 26 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 41 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 131 гаспадарка, 365 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. хутар у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Навасёлкаўскім с/с, 98 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 35 гаспадарак, 122 жыхары, у саўгасе «Рудзенскі». У 2010 г. 131 гаспадарка, 376 жыхароў. У 2013 г. на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд», магазін. З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**КРЫСТАМПОЛЛЕ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 43 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 45 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 16 гаспадарак, 38 жыхароў (2012).

У 1858 г. в. Крысцінполь у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 80 рэвізскіх душ. У 1870 г. вёска і маёнтак памешчыка Вайсенгофа ў Дудзінскай вол. Ігуменскага павета. У канцы 19 ст. в. Крыстамполле (яна ж Крыстампольская Слабодка), 60 двароў, 332 жыхары; маёнтак — 11 жыхароў. У 1908 г. 74 двары, 405 жыхароў; фальварак — 4 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 78 двароў, 400 жыхароў, у фальварку 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930-х г. створаны калгасы «Добрая воля» і імя С.М. Будзённага, былі 2 кузні. У 1940 г. ў вёсцы 80 двароў, 437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі вёску. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 282 жыхары; у 2002 г. 36 гаспадарак, 74 жыхары. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 23 гаспадаркі, 52 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі





райаграсэрвіс», магазін. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**КУКІГА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 31 км на З ад Мар'інай Горкі, 57 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

У 1940 г. пасёлак у Сяргеевіцкім с/с Рудзенскага р-на, 10 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1942 г. спалілі пасёлак. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с Пухавіцкага р-на, 49 жыхароў. У 2002 г. 7 двароў, 13 жыхароў, у калгасе «Сяргеевічы». У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**КУЛЬТУРА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 41 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 13 гаспадарак, 32 жыхары (2012).

Вядома з 20 ст. У 1940 г. ў вёсцы 33 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. пасёлак, 104 жыхары. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 14 гаспадарак, 22 жыхары, у саўгасе «Навапольскі». У 2010 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг».

**КУПАЛЛЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 5 км на З ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Цітаўка (прыток р. Свіслач). 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 жыхароў, у 1908 г. 4 двары, 22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 35 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 7 гаспадарак, 13 жыхароў; у 2010 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. на тэр. вытворчага ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».

**КУХАРАЎКА** — вёска ў Навапольскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. Перад Вял. Айч. вайной пасёлак, 30 двароў, 123 жыхары. З канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі пасёлак, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 8 гаспадарак, 13 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ЛАДЫМЕР** — вёска ў Шацкім с/с. За 52,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 86,5 км ад Мінска, 55,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча Ладамір ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. У 1917 г. засценак, 10 двароў, 65 жыхароў; хутар, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кнорынскім, з 1939 г. ў Варашылаўскім сельсаветах. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 5.5.1962 г. вёска ў Селецкім с/с. У 1960 г. 82 жыхары; у 2002 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2013 г. на



тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ЛЕБЕДЗІНАЕ** — хутар ў Навапольскім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

**ЛЕНІНА** — вёска ў Турынскім с/с. За 10 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 48 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ў Турынскім с/с, 8 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ЛЕНІНСК** — вёска ў Блужскім с/с. За 19 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 74 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск—Гомель. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пас. Леніна ў Талькаўскім с/с, 71 жыхар. У 2002 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў, у калгасе імя С.М. Кірава. У 2010 г. в. Ленінск у Блужскім с/с, 10 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ЛЕНІНСКІ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 26 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 42 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 20 гаспадарак, 34 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ва Узлянскім с/с, 41 гаспадарка, 68 жыхароў, у калгасе «Перамога». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ЛЕШНІЦА** — вёска ў Голацкім с/с. За 40 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 28 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 35 гаспадарак, 67 жыхароў (2012).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, уніз па цячэнні р. Свіслач, на яе правым беразе, размешчаны археал. помнік — селішча. У пач. 19 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 62 двары, 587 жыхароў, царква Раства Багародзіцы, карчма, на р. Свіслач млын (4 паставы), сукнавальня. У 1842 г. памешчык, генерал-маёр Машлыкін пабудаваў тут царкву. У 1882 г. ў маёнтку засн. вінакурны з-д (у 1890 г. 6 рабочых). У 1887 г. адчынена царк.-прыходская школа (у 1890 г. 20 хлопчыкаў). У канцы 19 ст. сяло — 98 двароў, 706 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, царква, піцейны дом; маёнтак — 4 двары, 74 жыхары, вінакурны з-д; хутар — 5 двароў, 21 жыхар. У 1908 г. сяло — 888 жыхароў; маёнтак — 104 жыхары; фальварак — 31 жыхар. У 1917 г. ў сяле 130 двароў, 826 жыхароў, у маёнтку 75, ва ўрочышчы 46 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 2 настаўнікі, каля 70 вучняў). З 1938 г. вёска і пасёлак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 496 жыхароў; пасёлак — 102 жыхары. У 1968 г. пасёлак далучаны да вёскі. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 60 гаспадарак, 112 жыхароў; у 2010 г. 39 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2013 г. на тэр. РУСП «Эксперыментальная база «Зазер'е» РУП «Навуковапрактычны цэнтр НАН Беларусі па механізацыі сельскай гаспадаркі», магазін. З 1.7.2013 г. ў Голацкім с/с. Радзіма бел. паэта А.Бачылы.



*А.Бачыла.*

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 11 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).





У 1885 г. фальварак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. ўрочышча, 2 двары, 16 жыхароў; у 1908 г. 6 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. па чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. засценак у Пухавіцкім с/с і р-не, 12 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 27 жыхароў; у 1981 г. ў калгасе імя К. Маркса. У 2002 г. 44 жыхары; у 2010 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 11 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

У 1897 г. ўрочышча, 3 двары, 29 жыхароў, у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. засценак, 13 двароў, 84 жыхары; у 1917 г. 19 двароў, 103 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны тут базіраваліся Рудзенскі падп. райкам КП(б)Б і штаб партыз. брыгады «Беларусь». У 1960 г. вёска ў Гарэлецкім с/с, 153 жыхары. У 2002 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў; у 2007 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 17 гаспадарак, 35 жыхароў. Помнік у гонар Рудзенскага падп. райкама КП(б)Б і штаба партыз. брыгады «Беларусь».

**ЛІПСК** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 23 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 78 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 20 гаспадарак, 36 жыхароў (2012).

У 1827 г. маёнтак у Ігуменскім павеце, уласнасць Э. Аколава. У канцы 19 ст. вёска ў Цітвянскай вол., 12 жыхароў; у 1916 г. 2 двары, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. ў вёсцы 30 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. вёска спалена гітлераўцамі, загінулі 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. ў вёсцы 131 жыхар. У 2002 г. ў Гарэлецкім с/с, 25 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 18 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ЛУЧКІ** — вёска ў Шацкім с/с. За 36,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 89,5 км ад Мінска, 39,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

У 19 ст. засценак у Шацкай вол. Ігуменскага павета. У 1870 г. 20 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 58 жыхароў; засценак, 5 двароў, 47 жыхароў; у 1917 г. 21 двор, 108 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створаны калгас «Новыя Лучкі». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Слабодскім с/с, 50 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у калгасе «Зорка». У 2010 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ЛЮБІН** — вёска ў Блонскім с/с. За 8 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 45,5 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

У 1-й пал. 19 ст. маёнтак у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ф. Пелікпы. У 1897 г. маёнтак у Кліноцкай вол., 38 жыхароў; у 1917 г. 166 жыхароў.



З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працаваў саўгас «Любін», які ў 1924 г. меў 372 дзес. зямлі. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 44 жыхары. У пач. 1930-х г. працавалі шорная і сталярная майстэрні, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 137 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Блонскім с/с, 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у племсаўгасе «Індустрыя». У 2010 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя».

**ЛЫСОЎШЧЫНА** — вёска ў Голацкім с/с. За 41 км па ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 18 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць Прушынскіх, 44 жыхары абоега полу. У канцы 19 ст. ў вёсцы 11 двароў, 79 жыхароў; у фальварку 2 двары, 4 жыхары; у 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 78 жыхароў; у фальварку 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 86 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 6 гаспадарак, 12 жыхароў; у 2010 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк». Радзіма Героя Сав. Саюза П.І.Гучка.

**ЛЮБЯЧКА** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 16,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 61,5 км ад Мінска, 17,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка — Старыя Дарогі. 22 гаспадаркі, 50 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. в. Любячы ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 15 двароў, 99 жыхароў, шляхецкая уласнасць. У 1816 г. 10 двароў, 60 жыхароў, уласнасць Ратынскіх. У 1858 г. в. Любячка ў Амяльнянскай вол., 26 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. 36 двароў, 173 жыхары. У пач. 20 ст. 34 двары, 188 жыхароў. У 1910 г. адбыліся сял. хваляванні супраць адміністрацыі памешчыка. У 1912 г. адчынена нар. вучылішча. У 1917 г. 38 двароў, 225 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 56 вучняў). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Варашылаўскім с/с, 202 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 34 гаспадаркі, 68 жыхароў; у калгасе імя Леніна. У 2010 г. 27 гаспадарак, 55 жыхароў. У 2013 г. на тэр. філіяла «Омельна» вытворчага РУП «Мінскі завод аўтаматычных ліній імя П.М.Машэрава».



*П.І.Гучок.*

**ЛЮЦІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 20,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 73,5 км ад Мінска, 23,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

У 19 ст. в. Люцыя ў Борава-Слабодскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.; у 1858 г. 30 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска, 26 двароў, 155 жыхароў; урочышча, 9 жыхароў. У 1908 г. 34 двары, 206 жыхароў; у 1917 г. 42 двары, 217 жыхароў, у Цітвянскай вол. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоная Ніва», была кузня. У 1940 г. 35 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 48 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 150 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 11





гаспадарак, 13 жыхароў, у калгасе «Іскра». У 2010 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ЛЯВОНАВІЧЫ** — вёска ў Шацкім с/с. За 37 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 63 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Негарэлае—Пухавічы, на р. Шаць (прыток р. Пціч). 50 гаспадарак, 90 жыхароў (2012).

У 1-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце, уласнасць Т.Тызенгаўза. У 1755 г. 31 двор; у 1799 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 32 двары, 172 жыхары, капліца, маёнтак І. Аскеркі. У 1858 г. вёска ў маёнтку Пшчолкі, уласнасць Сабецкай, 46 рэвізскіх душ; вёска ў маёнтку Юзэфава, уласнасць Л. Абрампольскага, 132 жыхары. У канцы 19 ст. вёска ў Шацкай вол., 83 двары, 462 жыхары; у 1917 г. 93 двары, 425 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германії, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені; у пач. 1930-х г. створаны калгас «Энергія», дзейнічалі кузня, стальмашня, рымарня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 406 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Шацкім с/с, 70 гаспадарак, 167 жыхароў; у 2010 г. 58 гаспадарак, 100 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Шацк».

**ЛЯВОНАЎКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 26 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 81 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Талькаўскім с/с, 126 жыхароў. У 1980 г. ў калгасе імя С.М.Кірава; у 2002 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 10 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ЛЯДЦО** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 4,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 57,5 км ад Мінска, 7,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 62 гаспадаркі, 147 жыхароў (2012).

У 1816 г. 28 двароў, 160 жыхароў, уласнасць Ратынскіх. У сярэдзіне 19 ст. в. Ляўцы ў Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.; у 1858 г. 103 рэвізскія душы. У 1897 г. 68 двароў, 407 жыхароў, распаўсюджаны рамёствы па вырабе колаў, саней, вупражы. У 1917 г. 95 двароў, 439 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германії, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 90 двароў, 410 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Новае Лядцо», дзейнічалі сталярня, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 427 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 72 гаспадаркі, 155 жыхароў, пач. школа; у 2010 г. 64 гаспадаркі, 144 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра Надзеі».

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 25,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 80,5 км ад Мінска, 6,5 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-х г. У 1926 г. пасёлак, 17 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 66 жыхароў. У 1980 г. ў калгасе імя С.М. Кірава; у 2002 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 6 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 45 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Ру-



дзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Дукорскім с/с, 51 жыхар. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 6 гаспадарак, 6 жыхароў; у 2010 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**МАЛІНАЎКА** – вёска ў Навапольскім с/с. За 50,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 55,5 км ад Мінска, 27,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 11 жыхароў (2012).

У 19 ст. ўрочышча ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 9 жыхароў, у Цітвянскай вол. У 1908 г. 5 жыхароў; у 1917 г. 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак у Сяргеевіцкім с/с Шацкага р-на, 10 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Сяргеевіцкім с/с Пухавіцкага р-на, 75 жыхароў; у 2002 г. 7 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 5 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс», магазін. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**МАЛІННІКІ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. фальварак у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета, 4 жыхары. У 1908 г. 10 жыхароў; у 1917 г. 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Пярэжырскім с/с, 66 жыхароў. У 2002 г. вёска, 12 гаспадарак, 21 жыхар, у калгасе «Барацьба»; у 2010 г. 15 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка».

**МАЛОДНЁВА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

У 19 ст. фальварак у Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 жыхароў, у 1908 г. 2 двары, 26 жыхароў; у 1917 г. 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 23 двары, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 14 гаспадарак, 25 жыхароў, у калгасе імя 16 партызан. У 2010 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Дукора».

**МАР'ІНА** — пасёлак у Навасёлкаўскім с/с. За 2 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 48,5 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 237 гаспадарак, 592 жыхары (2012).

У 2010 г. пасёлак у Навасёлкаўскім с/с, 225 гаспадарак, 552 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі», Мар'інагорскі агр.-тэхнічны каледж імя У.Я. Лабанка, магазін, аддз. сувязі.

**МАРГІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 49 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. хутар у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1916 г. 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г.

ў БССР. У пач. 1920-х г. пасёлак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Дукорскім с/с, 136 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 18 гаспадарак, 30 жыхароў; у 2010 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары. У 2013 г. на тэр. с-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**МАРКАЎШЧЫНА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 6 км на У ад Мар'інай Горкі, 55 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 20 гаспадарак, 43 жыхары (2012).

У 1795 г. фальварак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 16 жыхароў. У 1805 г. засценак, 11 жыхароў. У 1858 г. вёска ў маёнтку Самуэлева Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна, 21 жыхар. У 1870 г. маёнтак, уласнасць Фрыбеса, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета. У 1897 г. 7 жыхароў; у 1908 г. 15 жыхароў; у 1917 г. 21 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. пасёлак, створаны калгас «Перамога сацыялізму». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 149 жыхароў. У 1981 г. у калгасе імя В.І. Чапаева. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 29 гаспадарак, 57 жыхароў; у 2010 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**МАСТАВАЯ** – вёска ў Дукорскім с/с. За 19,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 31,5 км ад Мінска, 13,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск–Гомель. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 52 жыхары. У пач. 1930-х г. вёска, створаны калгас, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 18 гаспадарак, 37 жыхароў, у калгасе «Камсамолец». У 2010 г. 12 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**МАТАРОВА** – вёска ў Голацкім с/с. За 34 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 19 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск–Гомель. 169 гаспадарак, 404 жыхары (2012).

У канцы 16 ст. сяло ў складзе маёнтка Гатава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1590 г. 10 дымоў, шляхецкая ўласнасць. У 1772 г. вёска і маёнтак, уласнасць І. Грушынскага, 9 двароў, 63 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 350 жыхароў, капліца, карчма. У 1858 г. вёскі ў валоданні Азямблоўскіх (187 жыхароў) і П. Шпілеўскага (121 жыхар). У 1884 г. адчынена школа граматы. У канцы 19 ст. сяло, 117 двароў, 761 жыхар; былі школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца; маёнтак, 10 жыхароў. У пач. 20 ст. ў сяле 138 гаспадарак, 963 жыхары; маёнтак, 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 151 двор, 972 жыхары; маёнтак, 2 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 2 настаўнікі, 120 вучняў). У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас «Краіна Савстаў», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 892 жыхары. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 180 гаспадарак, 419 жыхароў, у калгасе «Краіна Саветаў»; працавалі майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, базавая школа, дзіцячыя яслі-сад, медпункт, б-ка, ашчадная каса, аўтаматычная тэлеф. станцыя, клуб, 2 магазіны, аддз. сувязі.



У 2010 г. 172 гаспадаркі, 432 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк», 2 магазіны, аддз. сувязі.

**МАТАРОЎШЧЫНА** – вёска ў Голацкім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 23 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Голацкім с/с, 78 жыхароў. У 2002 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў, у калгасе «Свіслач». У 2010 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк».

**МАХОЎКА** – вёска ў Навапольскім с/с. За 34,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34,5 км ад Мінска, 11,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. фальварак Махаўшчына ў Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 жыхароў; урочышча, 11 жыхароў. У пач. 20 ст. фальварак, 12 жыхароў; урочышча, 7 жыхароў; хутар, 7 жыхароў. У 1917 г. ў фальварку 11 жыхароў, на хутары 2 двары, 11 жыхароў; леснічоўка, 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у калгасе «Перамога». У 2010 г. пасёлак, 5 гаспадарак, 5 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Азярычынкі» КУП «Жылкампаслугі – Свіслач». З 1.7.2013 г. вёска ў Навапольскім с/с.

**МАЦЕЕВІЧЫ** – вёска ў Блужскім с/с. За 32 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 87 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск–Асіповічы. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2012).

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Таль, на ўскрайку лесу, ва ўрочышчы Гарадок размешчаны археал. помнік – гарадзішча. Вядомы ў ВКЛ з канца 14 ст. У канцы 16 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У пач. 19 ст. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць шляхціца і частка Серафімаўскага францысканскага манастыра, 24 двары, 144 жыхары. Троіцкая царква, карчма, вадзяны млын на р. Мацееўка (1 пастаў). У 1858 г. побач з сялом быў маёнтак Лісоўскіх, 6 вольных людзей абоега полу. У 1885 г. адчынена школа граматы (у 1890 г. 17 хлопчыкаў). У 1897 г. ў Амяльнянскай вол., сяло, 41 двор, 238 жыхароў, маёнтак, 3 двары, 20 жыхароў. У 1902 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 5 рабочых). У 1917 г. ў сяле 50 двароў, 274 жыхары; маёнтак, 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені, у пач. 1930-х г. калгас «Мацеевічы», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Суцінскім с/с, 385 жыхароў. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 70 жыхароў; у 2010 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с. Захаваўся помнік драў-



*Праваслаўная капліца ў в. Мацеевічы.*





лянага нар. дойлідства праваслаўная капліца (канец 19 ст.).

**МАШЧАНАВА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 6,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 61,5 км ад Мінска, 7,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 15 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 55 жыхароў, уласнасць С. Макарэвіча. У 1879 г. ў Блонскім праваслаўным прыходзе Пухавіцкай вол. У 1897 г. вёска ў Пухавіцкай вол., 22 двары, 136 жыхароў; у 1908 г. 111 жыхароў; у 1917 г. 119 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 104 жыхары. У 1981 г. ў калгасе імя В.І.Чапаева. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 15 гаспадарак, 25 жыхароў; у 2010 г. 17 гаспадарак, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**МЕДЗЕНАЕ** – вёска ў Шацкім с/с. За 54 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 68 км ад Мінска, 57 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 83 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. в. Меднае ў Селецкім с/с, 104 жыхары. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**МЕЛЬНІЦА** – вёска ў Дуброўскім с/с. За 27 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 82 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Вядома ў пач. 20 ст., урочышча ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 8 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**МІЖРЭЧЧА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 17 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Волма пры яе ўпадзенні ў р. Свіслач. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Волма, за 0,1 км ад упадзення яе ў р. Свіслач размешчаны археал. помнік – гарадзішча (III – V ст. н. э.; мясц. назва – Гарадок). У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 16 двароў, 96 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць С. Клімантовіча, 122 жыхары. У 1872 г. засн. смала-



*Рэшткі каталіцкай капліцы Святога Міхаіла Арханґела ў в. Міжрэчча.*



курна-шкіпінарны з-д (у 1890 г. 2 рабочыя). У 1897 г. ў вёсцы 49 двароў, 324 жыхары; у маёнтку 29 двароў, 265 жыхароў, малітоўны дом. У 1908 г. ў вёсцы 55 двароў, 408 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа граматы; у маёнтку 9 двароў, 97 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 81 двор, 508 жыхароў, у маёнтку 7 двароў, 66 жыхароў, царк.-прыходская школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 2 настаўнікі, каля 70 вучняў). У 1933 г. дзейнічалі калгасы «Бальшавік», «Кастрычнік», смалакурны з-д (1925), кравецкая і шавецкая майстэрні, харчова-смакавая арцель, бачарна-мэблевая арцель, вадзяны млын з крупадзёркай, 2 кузні. У 1940 г. 110 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў наваколлі дзейнічалі партыз. брыгады «Полымя», 1-я Мінская. У маі 1942 г. спалена фашыстамі, загінулі 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 318 жыхароў; у 1981 г. ў калгасе імя К.Маркса У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 46 гаспадарак, 69 жыхароў; у 2010 г. 30 гаспадарак, 45 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі». Радзіма генерал-лейтэнанта Я.В.Мікульчыка. На могілках захаваліся рэшткі драўлянай капліцы Міхаіла Архангела (1800). За 6 км на ПнУ ад вёскі брацкая магіла партызан і ахвяр фашызму.

**МІЖЫЛІШЧА** — вёска ў Шацкім с/с. За 36,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 89 км ад Мінска, 37,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 36 жыхароў; у 1917 г. засценак, 11 двароў, 66 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Селецкім с/с, 65 жыхароў. У 2002 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 9 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**МІРНАЯ** (да 1964 г. Глод) — вёска ў Шацкім с/с. За 29 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 84 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

У 19 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 9 жыхароў; у 1908 г. 14 жыхароў; у 1917 г. 7 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Варашылаўскім, з 5.5.1962 г. ў Селецкім, з 4.1.1964 г. ў Вецярэвіцкім сельсаветах. У 1960 г. пасёлак, 95 жыхароў. У 2002 г. вёска, 13 гаспадарак, 20 жыхароў, у калгасе «Селецкі»; у 2010 г. 16 гаспадарак, 21 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**МІХАЙЛАВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 1 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Старыя Дарогі. 83 гаспадаркі, 194 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. хутар, 14 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 81 жыхар. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 87 гаспадарак, 218 жыхароў; у 2010 г. 89 гаспадарак, 215 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра Надзеі», магазін.





**МІХАЛОВА** – вёска ў Шацкім с/с. За 33 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 74 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

Вядома з 20 ст. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Сталінградзец», працавала кузня. У 1940 г. 17 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. вёску спалілі фашысты, загубілі 3 жыхароў. У гады вайны дзейнічалі партыз. брыгады імя М.І.Калініна, «Буравеснік», 3-я Мінская імя С.М.Будзённага. У 2002 г. вёска ў Вяцярэвіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**НАВАПОЛЛЕ** – вёска ( з 2010 г. аграгарадок), цэнтр Навапольскага с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 30 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 113 гаспадарак, 330 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1929 г. створаны калгас «Наваполле», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942 г. загубілі 9 жыхароў. З 8.7.1954 г. цэнтр Навапольскага с/с. У 1960 г. 160 жыхароў. У 2002 г. 103 гаспадаркі, 290 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, дзіцячы сад, ветэрынарны пункт, Дом культуры, магазін, аддз. сувязі. У 2010 г. 112 гаспадарак, 317 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Каля школы брацкая магіла 125 сав. партызан, якія загінулі ў баі з гітлераўцамі 7.7.1944 г.

**НАВАПОЛЛЕ** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 9 км на У ад Мар'інай Горкі, 64 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. хутар у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 15 жыхароў. У 1908 г. 9 двароў, 28 жыхароў; у 1917 г. 14 двароў, 76 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 42 жыхары. У 1981 г. ў калгасе імя В.І.Чапаева. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар; у 2010 г. 1 гаспадарка, 5 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**НАВАСАДЫ** – вёска ў Пярэжырскім с/с. За 39 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 35 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

У 2002 г. ва Узлянскім с/с, 6 гаспадарак, 11 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска (з 2010 аграгарадок), цэнтр Навасёлкаўскага с/с. За 4,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 57,5 км ад Мінска, 7,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Цітаўка (прыток р. Свіслач). 212 гаспадарак, 584 жыхары (2012).

Каля сярэдзіны 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, 34 двары, 85 жыхароў мужчынскага полу; фальварак М.Агінскай-Завішы, быў млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. двор, сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка, 66 двароў, 346 жыхароў, царква Святога Ануфрыя, карчма, млын на р. Цітаўка (3 паставы, сукнавальня). У 1814 г. пабудавана драўляная царква; у 1816 г. 47 жыхароў. У 1858 г. сяло, 75 рэвізскіх душ, фальварак В. Ратынскага – 43 жыхары абоега полу. Працавалі шпіталь для бедных, школа, распаўсюджаны рамёствы сталярнае, калёснае, рагожнае, па вырабе муз. інструментаў. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892 г. 86 хлопчыкаў



11 дзяўчынак). У 1870 г. сяло, цэнтр воласці, 225 жыхароў мужчынскага полу. У 1871 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1886 г. 54 двары, 476 жыхароў, царква, нар. вучылішча, крама, штомесячны таржок, вадзяны млын, заезны двор. У канцы 19 ст. сяло — 105 двароў, 596 жыхароў; працавалі школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 крамы, царква, капліца на могілках, 2 штогадовыя таржкі; маёнтак — 34 жыхары. У 1917 г. ў сяле 138 двароў, 669 жыхароў; у маёнтку 71 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта 7-гадовая школа (9 настаўнікаў, 120 вучняў, 1922 г.). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Авангард», былі сталярня, кузня. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1938 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падполле. У 1960 г. пас. Навасёлкі — 371 жыхар; пас. Навасёлкі 1, 144 жыхары; пас. Навасёлкі 2, 70 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 235 гаспадарак, 661 жыхар, дзейнічалі Мар'інагорскі аграрна-тэхнічны каледж, базавая школа, дзіцячыя яслі-сад, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, 3 магазіны. У 2010 г. 228 гаспадарак, 618 жыхароў. У 2013 г. на тэр. вытв. ўчастка «Пухавічы» РУСП «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка», фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, Дом культуры, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**НАСЫЦК** — вёска ў Блужскім с/с. За 17 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 71 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 110 жыхароў, побач аднайменнае ўрочышча (яно ж Спасава), 16 двароў, 107 жыхароў; фальварак Насыцк. У 1908 г. 31 двор, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (на базе ранейшай школы граматы). У 1926 г. 30 двароў, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 121 жыхар; у 2002 г. 20 гаспадарак, 29 жыхароў. З 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 11 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**НІЗОЎКА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 47 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2012).

У сярэдзіне 19 ст. в. Ніжарэчча ў Турынскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 25 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Дукорскім с/с, 140 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 39 гаспадарак, 59 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 26 гаспадарак, 38 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**НІЎКІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 9 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 47,5 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 17 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. хутар у Навасельскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 жыхароў, у 1917 г. 3 двары, 64 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. хутар акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак ў Дукорскім с/с, 106 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 25 гаспадарак, 47 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 17 гаспадарак, 37 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — вёска ў Турынскім с/с. За 10,5 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 48,5 км ад Мінска, 14,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 83 жыхары. У 1929 г. ў калгасе «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 21 гаспадарка, 31 жыхар, у калгасе «Сцяг камунізму».

**НОВЫ КУТ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак у Дукорскім с/с, 185 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 18 гаспадарак, 25 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**НОВЫ УБАРОК** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 5 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 60 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 54 гаспадаркі, 521 жыхар (2012).

У канцы 19 ст. сядзіба ў Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 8 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 2 двары, 11 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 75 гаспадарак, 558 жыхароў, у калгасе імя Леніна. У 2010 г. 62 гаспадаркі, 528 жыхароў, дзярж. ўстанова «Пухавіцкі псіханеўралагічны Дом-інтэрнат». У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі».

**ОМЕЛЬНА** — вёска (з 2013 г. аграгарадок) ў Дуброўскім с/с. За 18 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 73 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 109 гаспадарак, 232 жыхары (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1598 г. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уласнасць Радзівілаў. У 1744 г. 32 двары, 89 жыхароў мужчынскага полу. Маёнтак М. Агінскай-Завішы, быў млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, Вазнясенская царква, карчма. У 1816 г. 36 двароў, 170 жыхароў; у 1858 г. 112 рэвізскіх душ. У 1860 г. перабудавана царква. У 1867 г. 31 двор, адкрыта нар. вучылішча. У 1892 г. ў школе 32 хлопчыкі, 14 дзяўчынак. У 1885 г. 58 двароў, 372 жыхары, цэнтр воласці. У 1888 г. памешчык Ратынскі засн. тут крухмальны з-д ( у 1889 г. 4 рабочыя). У 1897 г. сяло, 92 двары, 567 жыхароў, школа, хлебазапасны магазін, лаўка, піцейны дом, царква; маёнтак — 8 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 131 двор, 684 жыхары; у маёнтку — 41 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 3 нас-



навучэнцаў, 80 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Кнорынскага, з 1939 г. Варашылаўскага сельсаветаў. У пач. 1930-х г. працаваў калгас імя Кнорына, дзейнічалі кузня, сталярня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Вял. Айч. вайну базіраваўся штаб партыз. брыгады «Буравеснік». У маі 1944 г. сяло спалена фашыстамі. У 1960 г. вёска ў Варашылаўскім с/с, 465 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 148 гаспадарак, 355 жыхароў, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, ашчадная каса, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін. У 2010 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. філіяла «Омельна» вытворчага РУП «Мінскі завод аўтаматычных ліній імя П.М.Машэрава», аграгарадок, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, магазін, клуб, аддз. сувязі. Брацкая магіла 12 партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; помнік у гонар штаба партыз. брыгады «Буравеснік».

**ПАБЕДА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 35 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 28 гаспадарак, 82 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 18 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 34 гаспадаркі, 95 жыхароў. У 2010 г. 27 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**ПАГАРЭЛЕЦ** — вёска ў Шацкім с/с. За 35 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 90 км ад Мінска, 36 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 40 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Селецкім с/с, 38 жыхароў; у 2002 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 5 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ПАГУЛЯЙКА** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 39 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 22,5 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Грэбенка (прыток р. Пціч). 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. в. Пагуляй у Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 3 двары, 19 жыхароў. У 1897 г. ў Пярэжырскай вол., вёска, 14 двароў, 96 жыхароў; хутар — 11 жыхароў. У 1908 г. вёска — 13 двароў, 116 жыхароў; урочышча — 3 двары, 46 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 143 жыхары. Была таксама в. Пагуляйка Грабенская — 4 двары, 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адчынена школа 1-й ступені (памяшканне наёмнае). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Навасёлкаўскім с/с, 114 жыхароў. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 18 гаспадарак, 30 жыхароў; у 2010 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка». З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**ПАДБОР'Е** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 30 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У 2002 г. ва Узлянскім с/с, 1 двор, 2 жыхары. З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.





**ПАДБЯРЭЖЖА** – вёска ў Турынскім с/с. За 13 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 38 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск—Гомель. 29 гаспадарак, 52 жыхары (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 жыхароў, уласнасць А. Мацкевіча. У 1870 г. маёнтак Манюшкі ў Кліноцкай вол. Ігуменскага павета; у 1897 г. 7 жыхароў; у 1917 г. 23 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 65 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 46 гаспадарак, 79 жыхароў; у 2007 г. 40 гаспадарак, 68 жыхароў; у 2010 г. 35 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с. Брацкая магіла 3 сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАДБЯРЭЖЖА** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 13 км на У ад Мар'інай Горкі, 59 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мінск—Гомель. 17 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

У 19 ст. фальварак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. фальварак той жа воласці; у 1897 г. ўрочышча, 4 двары, 27 жыхароў. У 1908 г. 5 двароў, 23 жыхары; у 1917 г. ўрочышча, 5 двароў, 17 жыхароў; маёнтак, 19 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 127 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 25 гаспадарак, 57 жыхароў, у калгасе імя В.І.Чапаева. У 2007 г. 21 гаспадарка, 46 жыхароў; у 2010 г. 18 гаспадарак, 37 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ПАДВІЛЛЕ** – вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 11 км на З ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Цітаўка. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 8 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 99 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 14 гаспадарак, 31 жыхар, у калгасе «Іскра»; у 2010 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ПАДГАЦЦЕ** – вёска ў Навапольскім с/с. За 41,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 26,5 км ад Мінска, 18,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Шчч (прыток р. Прыпяць). 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. (яна ж Маркаўшчына). У 1870 г. 11 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 13 двароў, 88 жыхароў; у 1917 г. 9 двароў, 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 61 жыхар. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 5 гаспадарак, 8 жыхароў, у калгасе «Навапольскі». У 2010 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг».

**ПАДДЗЯГЦЯРНЯ** – вёска ў Блужскім с/с. За 8,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 63,5 км ад Мінска, 9,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 26 гаспадарак, 56 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 34 двары, 213 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кай-



зераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 47 двароў, 198 жыхароў, была школа 1-й ступені (у 1922 г. 1 настаўнік, 60 вучняў). У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Чырвоны май», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. в. Паддзягцярнае ў Блужскім с/с, 303 жыхары. У 2002 г. вёска ў Блужскім с/с, 48 гаспадарак, 103 жыхары; у 2010 г. 32 гаспадаркі, 62 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він», магазін. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Р.Мазанік.

**ПАДДУБ'Е** — вёска ў Дукорскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 47 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

За 2 км на У ад вёскі, у полі размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва — Гарадок). У канцы 19 ст. ўрочышча ў Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. 12 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 3 двары, 21 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Дукорскім с/с, 108 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 17 гаспадарак, 25 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ПАДКОССЕ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 27 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 73 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2012).

Назва ад урочышча Падкоссе. У 1885 г. ваколіца ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 20 двароў, 162 жыхары. У 1908 г. ваколіца, 23 двары, 143 жыхары; у 1917 г. 36 двароў, 175 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Ленінскі шлях», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. ў наваколлі базіраваўся штаб партыз. брыгады «Полымя». У 1960 г. ў Балочанскім с/с, 171 жыхар. З 16.8.1973 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с, у 1981 г. ў саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. вёска, 33 гаспадаркі, 55 жыхароў; у 2007 г. 24 гаспадаркі, 34 жыхары. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 19 гаспадарак, 23 жыхары. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі». Брацкая магіла 65 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг., помнік у гонар партыз. брыгады «Полымя».

**ПАДЛІПКІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 13 гаспадарак, 17 жыхароў; у 2010 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Дукора».

**ПАДЛЯДДЗЕ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 45 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 28 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

У пач. 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д. Радзівіла, 7 двароў, 37 жыхароў. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна. У канцы 19 ст. ў Дудзіцкай вол.: засценак Падляддзе Аляксандрава — 4 двары, 26



*А.Р.Мазанік.*

жыхароў; Падляддзе Бакінаўскае — 4 двары, 37 жыхароў; Падляддзе Баравікі — 11 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. в. Падляддзе Аляксандрава — 5 двароў, 32 жыхары; Падляддзе Бакінаўскае — 5 двароў, 41 жыхар; Падляддзе Баравікі — 15 двароў, 103 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Праца». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 156 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 21 гаспадарка, 34 жыхары, у калгасе «Навапольскі». У 2010 г. 15 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг».


*С.Ф.Хацкевіч.*

**ПАДНЯМОНЕЦ** — вёска ў Шацкім с/с. За 32 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 87 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак ў Варашылаўскім с/с, 33 жыхары. У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с, у калгасе «Селецкі», 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ПАДСОБНАЕ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 12 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 60 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1940 г. вёска, 16 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1942 г. спалілі вёску, забілі 3 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 67 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 9 гаспадарак, 9 жыхароў, у калгасе «Пухавічы». У 2007 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў; у 2010 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ПАРЭЧЧА** — вёска ў Шацкім с/с. За 29,5 км на ПдЗ ад Мар'інай горкі, 84,5 км ад Мінска, 30,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 55 гаспадарак, 79 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. сяло, цэнтр воласці ў маёнтку Койданава ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., уласнасць Радзівілаў, было 2 пасады (усяго 30 дымоў), царква. Пасля 2-га надзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. с. Порашаў у Слуцкім павеце Мінскай губ.; 132 жыхары, царква, карчма, уласнасць лідскага абознага І.Якімовіча. У 1800 г. с. Парэчча ў Ігуменскім павеце, уласнасць кн. Д.Радзівіла, 19 двароў, 116 жыхароў. У 1840 г. пабудавана Спаса-Праабражэнская царква. З 2-й пал. 19 ст. уласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1858 г. вёска ў Парэцкай вол. Ігуменскага павета, у маёнтку Шчыткавічы, 250 жыхароў. Распаўсюджаны ткацтва, вышыўка, вязанне, пляценне, бондарства, кравецкае рамяство і інш. У 1897 г. 93 двары, 623 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом, лаўка. За 3 вярсты ад сяла былі шклозавод (1894), лесапільня, смалзавод кн. Гогенлоэ. У 1898 г. адрыта царк.-прыходская школа. У 1917 г. ў сяле 154 двары, 870 жыхароў; на шклозаводзе 31 двор, 198 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, 70 вучняў. У 1923 г. шклозавод «Прафінтэрн» (34 рабочыя). У пач. 1930-х г. створаны саўгас «Культура», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с, 80 гаспадарак, 136 жыхароў, магазін. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 62 гаспадаркі, 90 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы», фельч.-акушэрскі пункт. З 1.7.2013 г. ў Шацкім



с/с. Радзіма бел. акцёра С.Ф.Хацкевіча. На могілках 5 брацкіх магіл партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У цэнтры вёскі помнік партызанам брыгады імя М.І.Калініна.

**ПАХАР** — вёска ў Шацкім с/с. За 31 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 86 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 11 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1920-х г. урочышча. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Варашылаўскім с/с, 52 жыхары. У 2002 г. вёска ў Селецкім с/с, 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ПЕНЯКІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 20 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 48,5 км ад Мінска, 10,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. вёска ў Дукорскім с/с, 75 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 10 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2010 г. 11 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ПЕРШЫ МАЙ** — вёска ў Турынскім с/с. За 12 км на У ад Мар'інай Горкі, 50 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ў Турынскім с/с, 14 гаспадарак, 29 жыхароў.

**ПЕСТУН** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 12 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 60 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 7 гаспадарак, 5 жыхароў (2012).

У 19 ст. ваколіца ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 3 двары, 29 жыхароў. У 1908 г. 43 жыхары, у 1917 г. 56 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. па чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 74 жыхары. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 8 гаспадарак, 12 жыхароў; у калгасе імя К.Маркса. У 2007 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў; у 2010 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ПЛІТНІЦА** — вёска ў Блужскім с/с. За 9,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 64,5 км ад Мінска, 8 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 12 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. урочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 33 жыхары. У 1917 г. 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Блужскім с/с, 120 жыхароў. У 1980 г. ў калгасе «1 Мая». У 2002 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары; у 2010 г. 15 гаспадарак, 21 жыхар. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ПРАЎДЗІНСКІ** — гарадскі пасёлак. За 34 км на З ад Мар'інай Горкі, 49 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля аўтадарогі Шацк—Смалявічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 887 гаспадарак, 2293 жыхары (2012).

Склаўся ў 1966—68 гг. пры будаўніцтве торфапрадпрыемства. З 11.3.1977 г. рабочы пасёлак, з 29.12.1977 г. гар. па-

сёлак; дзейнічалі торфа-брыкетны з-д «Сяргеевіцкі», эксперыментальная база «БелНДІ паліва-праект», будаўнічая арг-цыя перасоўная механізаваная калона, ПТВ, сярэдняя школа, школа мастацтваў, дашкольная ўстанова, Палац культуры, 2 б-кі, бальніца, аптэка, ашчадная каса, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. У 2002 г. 2,8 тыс. жыхароў. У 2010 г. гар. пасёлак, цэнтр Праўдзінскага пас. Савета, 2,4 тыс. жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Палац культуры, сярэдняя школа, дашкольная ўстанова, аддз. сувязі. 1.7.2013 г. Праўдзінскі пас. Савет скасаваны.

**ПРАТАСАЎШЧЫНА** — вёска ў Шацкім с/с. За 41,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 69,5 км ад Мінска, 44,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2012).

У 19 ст. засценак ў Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 59 жыхароў; у 1917 г. 33 двары, 162 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створаны калгас «13 Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў наваколлі дзейнічалі партыз. брыгады імя М.І.Калініна, 3-я Мінская імя С.М.Будзённага, «Буравеснік». У 1960 г. вёска ў Слабодскім с/с, 75 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 17 гаспадарак, 28 жыхароў; у 2010 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с. На могілках захаваліся рэштки капліцы-пахавальні Шастоўскіх (1860-я г.).

**ПРУЦК** — вёска ў Шацкім с/с. За 36 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 76,5 км ад Мінска, 45,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У 19 ст. ўрочышча ў Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар, 5 двароў, 37 жыхароў. У 1908 г. 7 двароў, 59 жыхароў; у 1917 г. 10 двароў, 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930-я г. створаны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Слабодскім с/с, 117 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 15 гаспадарак, 18 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с. У цэнтры вёскі брацкая магіла партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПРЫСТАНЬ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 26 км на З ад Мар'інай Горкі, 55 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля

*Капліца-пахавальня Шастоўскіх у в. Пратасаўшчына.*







р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 54 двары, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 78 двароў, 471 жыхар; у 1917 г. 90 двароў, 543 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920-я г. працавала школа 1-й ступені. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная прыстань», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1942 г. спалілі вёску і загубілі 261 жыхара. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 198 жыхароў; у 2002 г. 34 гаспадаркі, 47 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 23 гаспадаркі, 30 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с. У цэнтры вёскі магіла ахвяр фашызму.

**ПЦІЧ** – вёска ў Навапольскім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 33,5 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. с.-г. арцель «Пціч». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 102 жыхары. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 4 гаспадаркі, 4 жыхары, у калгасе «Навапольскі». У 2010 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг». Побач з вёскай размешчаны музей старадаўніх рамёстваў «Дудуткі».

**ПЦІЧАНСКАЯ** (да 1964 г. Кабылічы) – вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 43 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 58 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Негарэлае–Пухавічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 45 гаспадарак, 85 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з канца 16 ст. У 1609 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У пач. 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 68 двароў, 491 жыхар, капліца, карчма. У 1816 г. 12 двароў, 80 жыхароў, уласнасць Ржавускіх. У 1858 г. ў складзе маёнтка Гарэлец, уласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна, 45 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. у Цітвянскай вол., вёска, 75 двароў, 444 жыхары; фальварак – 11 жыхароў. У 1910 г. 101 двор, 613 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 50 вучняў). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Полымя», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Гарэлецкім с/с, 70 двароў, 131 жыхар. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ПУХАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Пухавіцкага с/с. За 6 км на У ад Мар'інай Горкі, 54 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на аўтадарозе Мінск–Бабруйск, на рэках Свіслач (прыток р. Бярэзіна) і Цітаўка (прыток р. Свіслач). 813 гаспадарак, 2023 жыхары (2012).

Вядомы ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. як прыватная вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 17 ст. маёнтак Лядскіх, з 1690 г. – Наваградскага падстолія Пшарадоўскага. У 1726 г. мястэчка, 30 двароў; фальварак, уласнасць Б.Суркавіцкага. У канцы 18 ст. мястэчка ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць варшаўскага банкіра Я.Мексцера. У 1800 г. 153 двары, 704 жыхары, былі Багародзіцкая царква (драўляная), яўр. школа, лаўка, 2 штогадовыя кірмашы; вадзяны млын, уласнасць Суліструоўскіх. У 1861 г. 734 жыхары. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў

1865 г. пабудавана мураванае памяшканне. У 1886 г. 73 двары, 860 жыхароў, праваслаўная царква, нар. вучылішча (110 вучняў), 3 сінагогі, 2 піваварных з-ды, 26 дробных лавак, паром на р. Свіслач, 4 кірмашы на год, штотыднёвыя таржкі (жывёла, бандарныя вырабы, прылады працы, посуд і інш.), распаўсюджаны рамёствы: ткацтва, шавецкае, кравецкае. У 1894 г. засн. бульбянакрухмальны з-д (11 рабочых). У 1897 г. мястэчка, цэнтр воласці Ігуменскага павета Мінскай губ., 392 двары, 2714 жыхароў, хлебазапасны магазін, з-д сельцерскіх мінеральных вод, 49 лавак, 4 піцейныя дамы, 4 штогадовыя кірмашы, у маёнтку 45 жыхароў, паравы і вадзяны млыны; вёска — 129 двароў, 783 жыхары. У 1900 г. ў нар. вучылішчы 134 вучні-хлопчыкі і 31 дзяўчынка. У 1905 г. адчынена паштовае аддз. У гэтым жа годзе адбываліся рэв. хваляванні. У 1909 г. 418 вучняў, 2225 жыхароў, паштовае і тэлегр. аддзяленне; у маёнтку 44 жыхары. У 1917 г. у мястэчку 438 двароў, 3093 жыхары. У маёнтку 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавалі 3 крупадзёркі, сукнавалка, маслабойня, лясніцтва, 7-гадовая школа (12 настаўнікаў, 268 вучняў). З 17.7.1924 г. да 9.7.1925 г. цэнтр раёна Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.12.1925 г. цэнтр Пухавіцкага с/с. У 1933 г. працавалі МТС, картонная ф-ка (47 рабочых), абутковая і швейная арцелі. З 1938 г. вёска. З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. загубілі 650 грамадзян, у 1942 г. расстралялі 20 ваеннапалонных, 90 жыхароў. Вызвалены 3.7.1944 г. воінамі 15-й гв. танкавай брыгады 1-га гв. танкавага корпуса. У 1960 г. сяло, 1822 жыхары, цэнтр калгаса імя К.Маркса, у сельсавеце — 3998 жыхароў. У 2002 г. 882 гаспадаркі, 2,3 тыс. жыхароў, цэнтр калгаса «Пухавіцкі», сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, ашчадная каса, сталовая, лясніцтва, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом быту, Дом культуры, Дом адпачынку «Пухавічы», 7 магазінаў. У 2007 г. вёска, 860 гаспадарак, 2088 жыхароў; у 2010 г. аграгарадок, 854 гаспадаркі, 2126 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Пухавіцкі» УП «Пухавіцкае ЖВС», бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 7 магазінаў, кавярня. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, сав. ваеннапалонных і ахвяр фашызму, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПУШЧА** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 18 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 73 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 11 гаспадарак, 14 жыхароў, у калгасе «Чырвонагвардзейскі».

**ПЯРЭЖЫР** — вёска, цэнтр Пярэжырскага с/с. За 37 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 37,5 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 190 гаспадарак, 457 жыхароў (2012).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1567 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1776 г. 24 двары, 66 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І. Аборскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. у Ігуменскім павеце Мінскай губ. у 1800 г. была царква Мікалая Цудатворцы (згарэла ў 1812 г.), карчма. У 1842 г. пабудавана новая царква (драўляная). У 1858 г. сяло, 435 жыхароў. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892 г. 62 хлопчыкі). У 1886 г. ў сяле 100 двароў, 750 жыхароў, млын, вінакурны з-д. У 1897 г. сяло, цэнтр воласці, 119 двароў, 758 жыхароў,



хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1906 г. школа атрымала ўласнае памяшканне. Настаўнік школы А.Вайцяхоўскі за ўдзел у 1-м нелегальным з'ездзе сельскіх настаўнікаў Мінскай губ. (9.7.1906) быў пакараны звальненнем з пасады. У 1917 г. ў сяле 186 двароў, 1020 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала няпоўная сярэдняя школа (у 1922 г. 3 настаўнікі, 150 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Пярэжырскага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. Пухавіцкага р-на, з 12.2.1935 г. Рудзенскага р-на. У 1927 г. створана торфаарцель, у 1929 г. калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут больш за 30 жыхароў. З 20.1.1960 г. у Пухавіцкім р-не. У 1960 г. вёска, 84 жыхары. У 2002 г. 193 гаспадаркі, 445 жыхароў; былі сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, урачэбная амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная телеф. станцыя, ашчадная каса, Дом культуры, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі; у 2010 г. 193 гаспадаркі, 450 жыхароў. У 2013 г. магазін, сярэдняя школа, аддз. сувязі. Брацкая магіла дукарскіх партызан, расстраляных палесскімі акупантамі ў маі 1920 г., 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПЯСКІ** — вёска ў Голацкім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 22 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 33 гаспадаркі, 84 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. вёска ў Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 38 двароў, 388 жыхароў; у 1917 г. 41 двор, 298 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920-х г. працавала школа 1-й ступені. У 1933 г. створаны калгас «Чырвоная Беларусь», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да 20.1.1960 г. ў Рудзенскім р-не. У 1960 г. 174 жыхары. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 6 гаспадарак, 12 жыхароў; у 2007 г. 35 гаспадарак, 93 жыхары; у 2010 г. 36 гаспадарак, 91 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк».

**ПЯСКІ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 31 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, каля р. Ушанка (прыток р. Пціч). 8 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

У 18 ст. слабодка ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1744 г. 5 двароў, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць С.Кернажыцкага, потым Ярушэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 37 жыхароў, уласнасць А. Шышкі. У 1858 г. вёска ў маёнтках Альхова і Феліцыянава, уласнасць М. Дзілкевіча і А. Івашкевіча. У 1890 г. адкрыта школа граматы (з 1912 г. 1-класнае пар. вучылішча). У 1897 г. 35 двароў, 242 жыхары, хлебазапасны магазін, часоўня на могілках. У 1917 г. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета, 24 двары, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Навапольскім с/с, 63 жыхары. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 11 гаспадарак, 21 жыхар. У 2007 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў; у 2010 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка». З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.





**ПЯСЧАНКА** – вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 21,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 66,5 км ад Мінска, 24,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. вёска у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 34 двары, 143 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створаны калгас «Новая Пясчанка», была кузня. У 1940 г. 37 двароў, 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. У лесе каля вёскі часова базіраваўся Мінскі падп. гар. к-т КП(б) Б. У 1960 г. вёска ў Гарэлецкім с/с, 152 жыхары; у 2002 г. 27 гаспадарак, 52 жыхары. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 15 гаспадарак, 24 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі». Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**РАБІНАЎКА** – вёска ў Дукорскім с/с. За 20 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 32 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 11 гаспадарак, 24 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. засценак у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. засценак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1981 г. вёска ў калгасе «Камсамолец». У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 15 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2007 г. 13 гаспадарак, 25 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**РАЎНАПОЛЛЕ** – вёска ў Пярэжырскім с/с. За 27 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 38 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 121 гаспадарка, 270 жыхароў (2012).

У пач. 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. 18 двароў, 120 жыхароў, уласнасць Ашторпаў. У 1844 г. на сродкі памешчыка Харкевіча на могілках пабудавана Сергіеўская царква. У 1858 г. ўласнасць В. Харкевіча, 307 жыхароў. З 2-й пал. 19 ст. дзейнічала школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, часоўня. У 1904 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 153 двары, 893 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1930 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 132 гаспадаркі, 304 жыхары; у 2010 г. 126 гаспадарак, 287 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка», магазін.

**РАСПУЦЦЕ** – вёска ў Навапольскім с/с. За 45,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 58,5 км ад Мінска, 20,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

У пач. 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 7 двароў, 37 жыхароў. У 1858 г. в. Распуча у Дудзіцкай вол. У 1897 г. 36 двароў, 217 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922 г. 30 вучняў). У 1940 г. 28 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. пасёлак, 101 жыхар. У 2002 г. вёска ў Навапольскім



с/с, 7 гаспадарак, 9 жыхароў; у 2010 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг». Брацкая магіла партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**РАСТОКІ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 11 км на У ад Мар'інай Горкі, 62 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Палачанка (прыток р. Свіслач). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У пач. 20 ст. фальварак у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 жыхароў. У 1917 г. ваколіца, 7 двароў, 49 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Блонскім с/с, 38 жыхароў; у 2002 г. 4 гаспадаркі. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**РАЎЧАК** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 10 км на У ад Мар'інай Горкі, 54 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. засценак; у 1897 г. 16 двароў, 81 жыхар. У 1908 г. 8 двароў, 54 жыхары; у 1917 г. 8 двароў, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 70 жыхароў. У 1981 г. ў калгасе імя В.І.Чапаева. У 2002 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 12 гаспадарак, 22 жыхары. У 2007 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі». Магіла ахвяр фашызму.

**РЖЫШЧА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 17,5 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 70,5 км ад Мінска, 20,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Негарэлае—Пухавічы. 15 гаспадарак, 38 жыхароў (2012).

У 19 ст. ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. хутар; у 1897 г. 2 двары, 8 жыхароў. У 1908 г. засценак, 4 двары, 21 жыхар; у 1917 г. фальварак, 4 двары, 31 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. хутар, 6 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Гарэлецкім с/с, 123 жыхары, у калгасе імя Я. Купалы. У 2002 г. 21 гаспадарка, 53 жыхары; у 2007 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 18 гаспадарак, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**РОГ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 24,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 39,5 км ад Мінска, 1,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 27 гаспадарак, 47 жыхароў, ў саўгасе «Рудзенскі». У 2007 г. 31 гаспадарка, 50 жыхароў; у 2010 г. 30 гаспадарак, 48 жыхароў. У 2013 г. на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**РУДЗЕНСК** — гар. пасёлак і чыг. ст. на лініі Мінск-Асіповічы, цэнтр Рудзенскага с/с. За 22 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 37 км ад Мінска, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы. 2840 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая



*М.Чарот.*



*Я.М.Паўловіч.*

*Чыгуначная станцыя і мемарыяльная дошка ў гонар М.П.Пакроўскага ў г.п. Рудзенск.*

ўласнасць. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 125 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета. У 1873 г. пабудавана чыг. ст. на Лібава-Роменскай чыгунцы. Каля чыг. ст. Рудзенск з часам склаўся пасёлак. У 1888 г. 14 двароў; у 1897 г. 4 двары, 44 жыхары, буфет. Сумежна са станцыяй было ўрочышча Рудзенск — 7 двароў, 52 жыхары, лаўка, піцейны дом; паштовая станцыя — 4 жыхары. У 1908 г. 32 двары, 174 жыхары. Са станцыі штогод адпраўлялі каля 1 млн. пудоў грузаў. У 1-ю сусветную вайну ў жн. — вер. 1915 г. тут адбываліся хваляванні салдат Зах. фронту. У 1917 г. 62 двары, 219 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені. У 1924—31 гг. і 1935—38 гг. цэнтр сельсавета. У пач. 1930-х г. былі вадзяны і паравы млыны. У лютым — ліп. 1935 г. і з лютага 1938 г. да 1960 г. цэнтр раёна (з 27.9.1938 г. гар. пасёлак). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут звыш 400 чал. У Рудзенскім р-не дзейнічала падполле, арганізаванае даваен. 1-м сакратаром Рудзенскага райкама КП(б)Б М.П.Пакроўскім (17 груп, 75 чал.). Агульнае кіраўніцтва барацьбой з акупантамі здзяйсняў Рудзенскі падп. раённы к-т КП(б)Б на чале з Пакроўскім. Баявыя аперацыі праводзіла партыз. брыгада «Беларусь» (камандзір М.П.Пакроўскі; у 1944 г. яму прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Вызвалены 4.7.1944 г. У 1959 г. 5761 жыхар. З 20.1.1960 г. гар. пасёлак у Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. У 2000 г. пасёлак, цэнтр Рудзенскага пас. Савета, 2,8 тыс. жыхароў, хлебазавод, з-д пластмасавых вырабаў, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, дзіцячая юнацкая спартыўная школа, муз. школа, бальніца, аптэка, Дом быту, Дом культуры, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 б-кі, ашчадная каса, лясніцтва, 8-гадовая школа-інтэрнат, лазня, магазін. У 2007 г. 2925 жыхароў; у 2010 г. 2770 жыхароў. З 1.7.2013 г. цэнтр Рудзенскага с/с. У 2013 г. на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд». У Рудзенску размешчана ААТ «Рудзенск» Мін-ва прам-сці, спецыялізуецца на вытворчасці светатэхн. вырабаў. Дзейнічаюць бальніца, аптэка, б-ка імя М.Чарота, Дом культуры, дзіцячая б-ка, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, ААТ «ААБ Беларусбанк», прадпрыемствы гандлю і інш. Радзіма бел. пісьменніка Міхася Чаро-







га, пісьменніцы Т.Бондар, Героя Сац. Працы В.А.Бацэвіч, засл. артыста Беларусі Я.М.Паўловіча. Захаваўся будынак чыг. вакзала (пач. 20 ст.). Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. 3 магілы ахвяр фашызму.

**РУДЗЕНСК 2** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 35 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 40 км ад Мінска, 2 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 36 гаспадарак, 69 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Цітвянскай вол., 39 жыхароў мужчынскага полу, маёнтак Шышкі. У 1884 г. адкрыта земская школа граматы (у 1890/1891 навуч. г. 12 вучняў). У 1897 г. 37 двароў, 167 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба, 7 двароў, 40 жыхароў; фальварак, 8 двароў, 67 жыхароў; маёнтак — 36 жыхароў; урочышча — 5 жыхароў. У 1908 г. вёска, 50 двароў, 204 жыхары; маёнтак — 3 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 71 двор, 428 жыхароў; у маёнтку — 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. савеце, 48 гаспадарак, 80 жыхароў, у саўгасе «Рудзенскі». У 2007 г. 40 гаспадарак, 87 жыхароў; у 2010 г. 37 гаспадарак, 74 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Дукора». З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с.

**РУДЗІЦА** — вёска ў Шацкім с/с. За 56 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 108 км ад Мінска, 59 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 46 жыхароў; у 1917 г. 14 двароў, 81 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2000 г. вёска ў Селецкім с/с, у калгасе «Селецкі», 7 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 6 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**РУСАКОВІЧЫ** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 24 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 49 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 64 гаспадаркі, 120 жыхароў (2012).

У 19 — пач. 20 ст. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1800 г. 27 двароў, 147 жыхароў, капліца, вінакурня, карчма, млын, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 149 рэвізскіх душ; у 1897 г. вёска — 76 двароў, 506 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; маёнтак — 17 жыхароў, млын на р. Пціч (2 паставы); урочышча — 2 двары, 10 жыхароў. У 1917 г. 121 двор, 565 жыхароў; у маёнтку 54 жыхары, на млыне 3 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. гэтыя населеныя пункты акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені; у 1933 г. створаны калгас «Сталінец», была кузня. У 1940 г. 101 двор, 383 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1942 г. спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Каля вёскі базіраваліся Рудзенскі падп. раённы к-т КП(б)Б і штаб партыз. брыгады «Беларусь». У 1960 г. вёска ў Цітвянскім с/с, 357 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 101 двор, 179 жыхароў; у 2010 г. 82 гаспадаркі, 150 жыхароў. З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с. Помнік у гонар Рудзенскага падп. райкама КП(Б)Б і партыз. брыгады «Беларусь».

**РУДНЯ** — вёска ў Блужскім с/с. За 21 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 76 км





ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Талька (прыток р. Свіслач). 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 жыхароў, млын; у 1908 г. 4 двары, 20 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 3 двары, 10 жыхароў; у 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары, вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 85 жыхароў. У 2002 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у калгасе імя С.М.Кірава, у 2007 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 8 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**РЫБЦЫ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 23 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 56 гаспадарак, 131 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 2 двары, 16 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 147 жыхароў, вёска ў складзе маёнтка Зазер'е, уласнасць Э.Ваньковіча. У 1897 г. ў Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета, 47 двароў, 300 жыхароў; старожка — 6 жыхароў. У 1917 г. вёска — 56 двароў, 362 жыхары; урочышча Рыбцы 1 (5 жыхароў), Рыбцы 2 (7 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 245 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с; у 2007 г. 54 гаспадаркі, 143 жыхары; у 2010 г. 56 гаспадарак, 136 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**РЭПІШЧА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 30 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 76 км ад Мінска, 33 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

Вядома з 20 ст. Назва ўтворана ад наймення ўгоддзевага ўрочышча, дзе ўзнікла пасяленне. У 1917 г. ваколіца ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета, 34 двары, 208 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1933 г. вёска ў саўгасе «Рэпішча»; працавалі паравы млын, сталярная майстэрня, малочны з-д, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Полымя». У 2002 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с, 2 гаспадаркі, 3 жыхары. З 29.6.2006 г. ў Пухавіцкім с/с.

**САЛАЎІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 17 км на З ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1981 г. у саўгасе «Дрычынскі». У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 6 гаспадарак, 9 жыхароў; у 2007 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў; у 2010 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**СВАБОДА** — вёска ў Турынскім с/с. За 11 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 57 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

**СВЕТЛЫ БОР** — вёска ў Турынскім с/с. За 14 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі,



59 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 285 гаспадарак, 666 жыхароў (2012).

За 1 км на Пд ад вёскі, на левым беразе Свіслачы, у месцы ўпадзення ў яе р. Волма, размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва — Турынскі Гарадок). Назва ад мясцовага ўрочышча. Узнік С.Б. як пасёлак кардоннай ф-кі, засн. у 1898 г. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. 38 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. У наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада 1-я Мінская. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. пасёлак кардоннай ф-кі, 386 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 299 гаспадарак, 730 жыхароў; у 2007 г. 296 гаспадарак, 691 жыхар, працавалі кардонная ф-ка, лясніцтва, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадная каса, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. У 2010 г. 288 гаспадарак, 673 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СВІСЛАЧ** — гар. пасёлак, цэнтр Свіслацкага с/с. За 25,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 30 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна), каля воз. Мацярынскае. 4131 жыхар (2012).

Засн. у 1960-я г. як рабочы пасёлак з-да горнага воску. У 1997 г. 4,3 тыс. жыхароў; з-д горнага воску, сярэдняя школа, муз. школа, бальніца, аптэка, Дом культуры, б-ка, ашчадная каса, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. У 2002 г. пасёлак; у 2007 г. 4014 жыхароў. У 2010 г. гар. пасёлак, 4006 жыхароў. З 1.7.2013 г. цэнтр Свіслацкага с/с. Дзейнічаюць ААТ «Завод горнага воску», РУП «Эксперыментальная база «Свіслач», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк».

**СЕДЧА** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 42,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 35,5 км ад Мінска, 12,5 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 219 гаспадарак, 548 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак, 161 жыхар, чыг. станцыя — 60 жыхароў; у 1981 г. вёска, працаваў паўбрыкетны з-д. У 2002 г. вёска і чыг. прыпынак у Пярэжырскім с/с, вытв. участак торфапрадпрыемства «Сяргеевіцкае», 249 гаспадарак, 620 жыхароў, 3 магазіны. У 2007 г. 246 гаспадарак, 607 жыхароў; у 2010 г. 230 гаспадарак, 593 жыхары. У 2013 г. на тэр. РУСП «Зазер'е», фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазін.

**СЕЛЕЦК** (да 1976 г. Обчае) — вёска ў Шацкім с/с. За 42 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 85 км ад Мінска, 45 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 64 гаспадаркі, 130 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 29 двароў, 94 жыхары. У 1917 г. 36 двароў, 226 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 14.10.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай, з 9.6.1927 г. Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), цэнтр Селецкага с/с. З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. Бабруйскай вобл.; з 17.12.1956 г. ў Мінскай вобл. 4.1.1964 г. сельсавет ліквідаваны, у 1968 г. адноўлены. У 1960 г. вёска, 118 жыхароў. У 2002 г. цэнтр Селецкага с/с і калга-





са «Селецкі», 110 двароў, 274 жыхары, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадная каса, аддз. сувязі, магазін. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 74 гаспадаркі, 148 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы», фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с. Брацкая магіла партызан., помнік у гонар 3-й Мінскай партыз. брыгады імя Будзённага.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Шацкім с/с. За 29 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 84 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Вядомы з 20 ст. У 1960 г. вёска ў Варашылаўскім с/с, 170 жыхароў, з 5.5.1962 г. ў Селецкім с/с; у 1981 г. у калгасе «Селецкі». У 2002 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 9 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы», клуб. З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**СЕНАЖАТКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 1 км на З ад Мар'інай Горкі, 53 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 28 гаспадарак, 75 жыхароў (2012).

Вядомы з 20 ст. У 1960 г. пасёлак, 134 жыхары. У 1981 г. ў Мар'інагорскім саўгас-тэхнікуме. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 24 гаспадаркі, 60 жыхароў. У 2007 г. 27 двароў, 71 гаспадаркі; у 2010 г. 27 гаспадарак, 74 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**СЕТЧА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 21 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 63 гаспадаркі, 116 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. у Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 52 двары, 389 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. была царква. У 1858 г. вёска і фальварак, уласнасць Л.Янішэўскага. У 1885 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 16 хлопчыкаў). У 1897 г. 113 двароў, 712 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, у Цітвянскай вол. Ігуменскага павета. У 1907 г. адбываліся сял. хваляванні, якія былі задушаны ўзброенай паліцыяй. У 1917 г. 143 двары, 754 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, каля 100 вучняў). У 1933 г. створаны калгас «Сетча», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 202 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 92 гаспадаркі, 158 жыхароў, б-ка, магазін. У 2010 г. 41 гаспадарка, 67 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1», магазін. З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СІНІНКІ** — вёска ў Голацкім с/с. За 38 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 23 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 110 жыхароў мужчынскага полу. У 1880-х г. працавала нар. вучылішча (у 1892—93 гг. 42 хлопчыкі, 3 дзяўчынкі). У 1897 г. 46 двароў, 344 жыхары. У пач. 20 ст. 50 двароў, 480 жыхароў. У 1916 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 49 двароў, 312 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. па чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 178 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 30 двароў, 55 жы-





*Гаспадарчая пабудова ў в. Сінча.*

хароў, у калгасе «Свіслач». У 2010 г. 26 гаспадарак, 46 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк», магазін.

**СІНЧА** – вёска ў Дуброўскім с/с. За 10 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на аўтадарозе Старыя Дарогі–Мар'іна Горка. 52 гаспадаркі, 111 жыхароў (2012).

У 1-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1744 г. 15 двароў, 57 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць М.Агінскай-Завішы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 28 двароў, 180 жыхароў, была капліца. Вясной 1886 г. адбыліся сял. хваляванні супраць адміністрацыі намешчыка. У 1891 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 10 рабочых). У 1897 г. ў Амяльнянскай вол., вёска, 84 двары, 532 жыхары, 2 крамы; маёнтак – 3 двары, 38 жыхароў, вінакурны з-д. У 1903 г. адкрыта школа граматы. У 1917 г. вёска, 118 двароў, 632 жыхары; маёнтак, 195 жыхароў, 2 млыны, крупадзёрка. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля нацыяналізацыі маёнтка створаны саўгас (у 1924 г. меў 919 дзес. зямлі). У пач. 1920-х г. працавала школа 1-й ступені (у 1922 г. 2 настаўнікі, 86 вучняў). У 1933 г. ў саўгасе «Сінча», былі кузня, стальмашня, маслабойня, шорная майстэрня. З 1924 г. да 1965 г. цэнтр Сінчанскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 348 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 78 гаспадарак, 163 жыхары. У 2010 г. 60 гаспадарак, 118 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі». Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СІТНІКІ** – вёска (аграгарадок) у Турынскім с/с. За 13 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 131 гаспадарка, 417 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 32 двары, 211 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі, карчма. У 1917 г. 43 двары, 300 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1939–54 гг. цэнтр Пудзецка-Слабодскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 217 жыхароў. У 2002 г. цэнтр Ананіцкага с/с, 134 гаспадаркі, 417 жыхароў, працавалі міжгаспадарчае аб'яднанне «Ананічы», прадпрыемствы па памоле мукі і разліве спіртных напіткаў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі. У 2010 г. 136 гаспадарак, 396 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**СКОБРАЎКА** – вёска ў Блонскім с/с. За 9 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 42 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на аўтадарозе Мінск–Гомель. 61 гаспадарка, 121 жыхар (2012).





У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 187 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, капліца, карчма; у 1858 г. вёска ў Блонскай вол., 124 жыхары. У 1870 г. 132 жыхары мужчынскага полу; у 1893 г. адчынена школа граматы. У 1897 г. вёска ў Пухавіцкай вол., 84 двары, 488 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы, часоўня на могілках. У 1902 г. пабудавана царква. У 1917 г. 91 двор, 548 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 70 вучняў). У 1933 г. створаны калгас імя М.І.Калініна, былі кузня, стальмашня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны тут дзейнічаў нацысцкі канцлагер для дзяцей-донараў (1500 дзяцей). У 1960 г. ў вёсцы 359 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Блонскім с/с, 27 гаспадарак, 163 жыхары, пач. школа, магазін. У 2010 г. 68 гаспадарак, 141 жыхар. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя», магазін.

**СКРЫЛЬ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 14 км на З ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 24 гаспадаркі, 30 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. сяльцо Скрыле ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 7 мяшчан-яўрэяў, прыватная ўласнасць. У 1800 г. вёска і фальварак Скрылі, шляхецкая ўласнасць, 31 двор, 221 жыхар, 2 млыны, сукнавальня (на р. Цітаўка). У 1857 г. ўласнасць А.Янішэўскага, які пабудаваў тут царкву; у 1858 г. маёнтак і сяло, 363 жыхары, у Борава-Слабодскай вол. Ігуменскага павета. У 1885 г. адкрыта школа (у 1890 г. 16 хлопчыкаў). У 1897 г. сяло — 88 двароў, 647 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; маёнтак — 6 двароў, 51 жыхар, крухмальны з-д; урочышча — 8 жыхароў. У пач. 20 ст. 83 двары, 502 жыхары; у маёнтку — 9 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. ў сяле 100 двароў, 502 жыхары, у маёнтку 64 жыхары, нафтавы млын. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х г. створана школа 1-й ступені (у 1922 г. 35 вучняў). У 1933 г. створаны калгас «Світанак камуны», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі вёску. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. вёска, 229 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 39 гаспадарак, 74 жыхары, магазін. У 2010 г. 29 гаспадарак, 38 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**СКРЫЛЬ-СЛАБАДА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 11,5 км на З ад Мар'інай Горкі, 63,5 км ад Мінска, 14,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2012).

У 19 ст. вёска ў Цітвянскай вол. Ігуменскага павета Мінкай губ. У сярэдзіне 19 ст. пабудавана царква Іаана Прадцечы. У 1870 г. вёскі Люцэй-Слабодка і Скрыль. У 1897 г. в. Слабодка — 17 двароў, 113 жыхароў. У 1908 г. в. Слабодка-Скрыльская — 32 двары, 188 жыхароў; у 1917 г. 43 двары, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1930-х г. працаваў калгас «Залог 2-й пяцігодкі», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942 г. і 1944 г. загубілі тут больш за 140 жыхароў. У 1960 г. вёска, 169 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 28 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2010 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі». Помнік ахвярам



фашызму, брацкая магіла сав. воінаў і ахвяр фашызму.

**СЛАБАДА** – вёска ў Турынскім с/с. За 13 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 52 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 59 гаспадарак, 133 жыхары (2012).

Вядома як Пудзіцкая Слабада. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 79 двароў, 506 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын, карчма. З 1882 г. дзейнічала нар. вучылішча (у 1886 г. 52 вучні). У 1907 г. адбыліся сял. хваляванні. У 1908 г. 90 двароў, 642 жыхары; у 1917 г. 124 двары, 694 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (70 вучняў). У 1924–27 гг. цэнтр Пудзецка-Слабодскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ва ўрочышчы Крыжыкі базіраваўся партыз. атрад М.Джагарава (з 1943 г. «Камсамол») 1-й Мінскай партыз. брыгады. У 1960 г. в. Пудзецкая Слабада, 503 жыхары. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 86 гаспадарак, 186 жыхароў, магазін. У 2010 г. 80 гаспадарак, 147 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с. Помнікі: землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, партызанам атрада «Камсамол».

**СЛАБАДА** – вёска ў Шацкім с/с. За 41 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 93 км ад Мінска, 44 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 34 гаспадаркі, 57 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1858 г. 105 жыхароў; у 1870 г. 90 жыхароў мужчынскага полу. У канцы 19 ст. 58 двароў, 388 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. У 1904 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 96 двароў, 513 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Слабодскага с/с Шацкага, з 4.8.1927 г. Грэскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Пухавіцкага, з 12.2.1935 г. Грэскага, з 5.4.1935 г. Пухавіцкага р-наў; з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (64 вучні). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся Мінскі падп. гарком КП(б)Б. У 1943 г. фашысты расстралялі ў вёсцы 6 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы 452 жыхары. З 4.1.1964 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с. У 2002 г. 58 гаспадарак, 179 жыхароў; у 2010 г. 41 гаспадарка, 67 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, помнік у гонар Мінскага падп. гаркама КП(б)Б.

**СЛАБОДКА** – вёска ў Блужскім с/с. За 19,5 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 73,5 км ад Мінска, 0,5 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск–Асіповічы, каля р. Талька (прыток р. Свіслач). 31 гаспадарка, 57 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 9 двароў, 72 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Ц. Завадскай. У 1858 г. ў Блужскай вол. Ігуменскага павета, 62 жыхары. У 1897 г. вёска – 51 двор, 312 жыхароў; сядзіба – 4 двары, 30 жыхароў, у Амельнянскай вол. У пач. 20 ст. 32 двары, 148 жыхароў. У 1917 г. в. Слабодка 1, 45 двароў, 261 жыхар, засценак Слабодка 2, 5 двароў, 24 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922 г. 62 вучні). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Талькаўскім с/с, 237 жыхароў. У 2002 г.

вёска ў Блужскім с/с, 53 гаспадаркі, 99 жыхароў, у калгасе імя С.М.Кірава. У 2010 г. 39 гаспадарак, 69 жыхароў. У 2013 г. на тэр. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**СЛОПІШЧЫ** — вёска у Навапольскім с/с. За 49 км на З ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 25 жыхароў, уласнасць Ф. Букатага. У 1872 г. засн. смалакурны з-д. У 1897 г. 17 двароў, 95 жыхароў, вёска ў Шацкай вол. Ігуменскага павета. У 1908 г. было 15 двароў, 66 жыхароў; у 1917 г. 19 двароў, 135 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с Рудзенскага р-на, 25 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. спалены фашыстамі, былі загублены 6 жыхароў. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с Пухавіцкага р-на, 116 жыхароў. У 2002 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у калгасе «Сяргеевічы». У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 10 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**СМЫЧКА** — вёска ў Турынскім с/с. За 11 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 57 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**СНУСЦІК** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 35 км на У ад Мар'інай Горкі, 83 км ад Мінска, 38 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. У вёсцы ніхто не жыве (2012).

У канцы 18 ст. в. Снусціца ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 8 двароў, 60 жыхароў. У 1897 г. 12 двароў, 92 жыхары; у 1917 г. 18 двароў, 124 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1923 г. пабудаваны паравы млын з лесапілкай. У 1926 г. 23 двары, 124 жыхары. У 1933 г. створаны калгас «Ільіч»; былі паравы млын, лесапілка, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Балочанскім с/с, 120 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Чырвонакастрычніцкім с/с таго ж раёна, у саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары; у 2007 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавічы».

**СПІЧНІК** — вёска ў Дуброўскім с/с. За 15 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 70 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 31 гаспадарка, 56 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 23 двары, 164 жыхары. У пач. 20 ст. 169 двароў, 121 жыхар. У 1917 г. 25 двароў, 145 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. ўрочышча акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створаны калгас «Новы Спічнік», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў Блужскім с/с вёскі Спічнік 1, 236 жыхароў; Спічнік 2, 83 жыхары. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 48 гаспадарак, 85 жыхароў; у 2010 г. 35 гаспадарак, 53 жыхары. У 2013 г. на



тэр. дзярж. прадпрыемства «Чырвонагвардзейскі».

**СТАНІСЛАВАВА** – вёска ў Дукорскім с/с. За 15,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 45 км ад Мінска, 18,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 35 гаспадарак, 54 жыхары (2012).

У 19 ст. фальварак Станіславаў у Навасёлкаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У канцы 19 ст. ваколіца, 22 двары, 145 жыхароў. У 1917 г. вёска Станіславава, 31 двор, 218 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 44 двары, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну са канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 47 гаспадарак, 79 жыхароў. У 2010 г. 43 гаспадаркі, 83 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1», клуб. З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**СТАНКІ** – вёска ў Дукорскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. засценак у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 3 двары, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 19 двароў, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 12 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Камсамолец». У 2010 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**СТАРЫ ДВОР** – вёска ў Турынскім с/с. За 17 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 50 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

У 2-й пал. 19 ст. маёнтак у Кліноцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. маёнтак (ён жа Пудзіцк), 2 двары, 27 жыхароў. У 1917 г. 42 жыхары; урочышча – 5 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 85 жыхароў; пасёлак – 23 жыхары. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 14 гаспадарак, 24 жыхары, у калгасе «Белая Русь». У 2010 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**СТАРЫНКІ** – вёска ў Шацкім с/с. За 34 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 85 км ад Мінска, 37 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, каля аўтадарогі Негарэлае–Пухавічы, на р. Шаць (прыток р. Пціч). 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

У канцы 19 ст. вёска ў Шацкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 83 жыхары; засценак, 9 двароў, 65 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 13 двароў, 87 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1933 г. створаны калгас імя М.І. Калініна, была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 104 жыхары. У 2002 г. вёска ў Шацкім с/с, 19 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2010 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Шацк». Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў баі 30.6.1941 г.

**СУЦІН** – вёска ў Блужскім с/с. За 19 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 74 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Суцінка

(прыток р. Талька). 136 гаспадарак, 269 жыхароў (2012).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1599 г. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 19 двароў, 201 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска ў Амяльнянскай вол., уласнасць Т. Завадскай. У 1888 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 24 хлопчыкі). У 1897 г. вёска — 41 двор, 195 жыхароў, піцейны дом, былі 3 лаўкі; ваколіца — 88 двароў, 871 жыхар, 2 лаўкі. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. вёска — 51 двор, 279 жыхароў; ваколіца — 80 двароў, 604 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені (30 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Суцінскага с/с Пухавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1933 г. створаны калгас імя І.В. Сталіна, была кузня. З 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны на тэр. сельсавета дзейнічалі партыз. брыгады «Полымя», імя М.І.Калініна, «Буравеснік». У 1960 г. у вёсцы 907 жыхароў. У 2002 г. цэнтр Суцінскага с/с і калгаса «Суцінскі», 213 гаспадарак, 425 жыхароў; майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. У 2010 г. 149 гаспадарак, 309 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Суцінскі», фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, магазін, школа, дзіцячы сад. З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с. Помнік землякам, брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СЯРГЕЕВІЧЫ** — вёска (з 2010 г. аграгарадок) у Навапольскім с/с. За 43 км на З ад Мар'інай Горкі, 58 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы, каля воз. Сяргееўскае. 163 гаспадаркі, 422 жыхары (2012).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст., маёнтак Збароўскіх у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 17 ст. ўласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 22 двары, 171 жыхар; карчма, 2 млыны, Георгіеўская царква, уласнасць Ф. Букатага. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1886 г. 28 двароў, 262 жыхары, распаўсюджаны промыслы: прадзільны, ткацкі, шавецкі, кравецкі, выраб вапны. У 1897 г. сяло, 78 двароў, 440 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, царква; маёнтак — 12 жыхароў. У 1908 г. 97 двароў, 571 жыхар, царква, царк.-прыходская школа; маёнтак — 4 жыхары. У 1917 г. 115 двароў, 667 жыхароў; у маёнтку 45 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922 г. 70 вучняў). З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Сяргеевіцкага с/с Шацкага р-на Мінскай акругі. З 26.7.1930 г. у Пухавіцкім, з 12.2.1935 г. у Рудзенскім р-нах, з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У 1940 г. 140 двароў, 560 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі вёску, загубілі 42 жыхароў. Дзейнічала антыфаш. падполле, партыз. брыгада «Беларусь». Пасля вайны адноўлены. З 20.1.1960 г. вёска ў Пухавіцкім р-не, 647 жыхароў; у сельсавеце было 2119 жыхароў. У 2002 г. вёска, цэнтр калгаса «Сяргеевічы», 197 двароў, 482 жыхары, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка, ашчадная каса, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. 180 двароў, 453



жыхары. У 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 171 гаспадарка, 432 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс», магазін, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ТАВАРСКІЯ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 41 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 43 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак у Цітвянскім с/с, 172 жыхары. З 31.3.1977 г. пасёлак ва Узлянскім с/с, у калгасе «Перамога». У 2002 г. вёска, 20 гаспадарак, 31 жыхар. У 2007 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары; у 2010 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Азярычынскі» КУП «Жылкампаслугі-Свіслач». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

**ТАКАРНЯ** — вёска ў Голацкім с/с. За 36 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 29 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

У 17 ст. сяло ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 38 двароў, 208 жыхароў, царква, вінакурня, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. сядзіба — 93 жыхары; вёска — 139 жыхароў. У 1895 г. засн. млын (4 рабочыя). У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 246 жыхароў; маёнтак, 9 двароў, 92 жыхары, былі крухмальны з-д, вадзяны млын, у Пярэжырскай вол. У пач. 20 ст. вёска злілася з в. Пярэжыр. У 1917 г. ў маёнтку 147 жыхароў. Пасля рэвалюцыі 1917 г. створаны саўгас, у якім былі вадзяны млын, крупадзёрка, сукнавалка. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ўчастак Такарня, 151 жыхар. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 13 гаспадарак, 25 жыхароў, у эксперыментальнай базе «Зазер'е». У 2007 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар; у 2010 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. на тэр. РУСП «Эксперыментальная база «Зазер'е». З 1.7.2013 г. ў Голацкім с/с.

**ТАЛЬКА** — вёска ў Блужскім с/с і чыг. ст. на лініі Мінск—Асіповічы. За 19 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 73 км ад Мінска, на р. Талька (прыток р. Свіслач). 161 гаспадарка, 345 жыхароў (2012).

На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік (мясц. назвы — Турэцкія магілы, Французскія магілы). Вёска ўзнікла як чыг. станцыя падчас будаўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі (1873). У 1885 г. ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. на чыг. станцыі 4 двары, 40 жыхароў, у пасёлку 15 двароў, 69 жыхароў, крама. У 1908 г. 717 жыхароў; чыг. станцыя, 7 двароў, 61 жыхар. У 1917 г. на чыг. станцыі 7 двароў, у пасёлку 66 двароў, 326 жыхароў; лясная старожка — 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. пабудаваны паравы млын, адкрыта школа 1-й ступені, працавалі цыркулярка, кравецкая майстэрня. З 20.8.1924 г. цэнтр Талькаўскага с/с у Пухавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У 1933 г. былі млын, вытв. арцель па рамонце і шыццю аддзення і абутку «Аб'яднаная праца». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, дзейнічала антыфаш. падполле; у кастр. 1942 г. партызаны брыгад «Полымя»,

імя І.В.Сталіна ўзарвалі тут чыг. мост, праз р. Талька рух па чыгунцы быў спынены на 10 сутак. У 1960 г. сяло ў Талькаўскім с/с, 921 жыхар. У 2002 г. 213 гаспадарак, 433 жыхары, аграфірма «Верасень», лясніцтва, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, бальніца, аддз. сувязі, ашчадная каса, магазін, У 2007 г. вёска, 188 гаспадарак, 403 жыхары. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 180 гаспадарак, 382 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він», бальніца, магазін, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. 3 брацкія магілы сав. воінаў і партызан. якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму. Радзіма бел. акцёра І.Б.Шацілы, ген.-лейт. М.П.Крандо.


*І.Б.Шаціла.*

**ТРУД** — вёска ў Голацкім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 23 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска, 54 жыхары. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 4 гаспадаркі, 7 жыхароў, у калгасе «Свіслач». У 2007 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў; у 2010 г. 5 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк».


*М.П.Крандо.*

**ТУРЫН** — вёска, цэнтр Турынскага с/с. За 9 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 57 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Лагойск, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 148 гаспадарак, 392 жыхары (2012).

За 2,5 і 3 км на ПнУ ад вёскі, у лесе размешчаны археал. помнікі — 2 курганы.

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст., сяло Турано ў маёнтку Пухавічы, уласнасць падляшскага ваяводы Януша Касцевіча, затым яго ўдавы, у Свіслацкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ (1536). У 1544 г. ў складзе маёнтка Пухавічы перайшло Давойнам, потым Кішкам (да 1579 г.). У канцы 16 ст. ўласнасць кн. Яраслава Галоўчынскага ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1690 г. ўласнасць навагрудскага падстолія Пшарадоўскага. У 1747 г. па купчай перайшоў да мінскага гродскага суддзі Марціна Валадковіча (27 дымоў). У 1779 г. ўласнасць Т. Александровіча, 22 гаспадаркі, уніяцкая царква, 2 вадзяныя млыны на р. Свіслач, карчма, бровар. У 1784 г. вёска ў маёнтку Пухавічы, 122 жыхары, 17 двароў, 11 валок зямлі, 25 коней, 30 валоў, 44 галавы буйнай рагатай жывёлы. У 1790 г. уласнасць Міхаіла Агінскага, прададзены варшаўскаму банкіру Яну Мейснеру. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. двор і сяло, уласнасць Сулістроўскіх, 51 двор, 434 жыхары, цэнтр праваслаўнага прыхода, Спаса-Праабражэнская царква, карчма, 3 млыны на р. Свіслач. У 19 ст. ў частковым валоданні Эсткаў, Едкаў, Ваньковічаў, Каржанеўскіх. У 1841 г. пацярпеў ад пажару. У 1845 г. тут нарадзіўся вядомы прыродазнавец Якуб Антонавіч Наркевіч-Ёдка (1845—1905). У сярэдзіне 19 ст. Турын наведаў пісьменнік-этнограф П.М. Шпілеўскі. У 1855 г. пабудавана праваслаўная царква. У 1844 г. ў сяле 28 двароў, 246 жыхароў, прысёлак — 9 двароў; у сяле 35 коней, 50 валоў, 40 кароў, 26 вулляў. На двор сяляне мелі па 20 дзес. зямлі, цягнулі паншчыну 3 дні мужчынскія, 2 жаночыя па тыдзень. У 1858 г. цэнтр воласці Ігуменскага павета, 226 жыхароў. У 1879 г. каля 3 тыс. прыхаджан царквы. У 1886 г. ў сяле 53 двары, 487 жыхароў, нар. вучылішча (58 вучняў, настаўнік В.К. Кутасава). У 1897 г. сяло, 98 двароў, 604 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом, лаўка; маёнтак, 16 жыхароў; вёска Турын-Зарэчны, 44 двары, 294 жыхары. У 1908 г. сяло — 103 двары, 694 жыхары; в. Турын-Зарэчны — 24 двары, 164



жыхары; маёнтак — 23 жыхары, вадзяны млын, сукнавалка. У 1917 г. ў сяле 930 жыхароў; у маёнтку 39 жыхароў, вінакурны з-д. Пасля рэвалюцыі 1917 г. адкрыта школа 1-й ступені. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Турынскага с/с у Пухавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Турын», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі сяло, загубілі 18 жыхароў. Вызвалены 3.7.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту пры ўзаемадзеянні з партызанамі 1-й Мінскай партыз. брыгады. У 1960 г. пасёлак, 303 жыхары. У 2002 г. вёска, 140 двароў, 354 жыхары; цэнтр калгаса «Сцяг камунізму», школа-сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, ашчадная каса, комплексны прыёмны пункт, ветэрынарны ўчастак, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, магазін. У 2007 г. 144 гаспадаркі, 392 жыхары. У 2010 г. аграгарадок, 147 гаспадарак, 390 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры, школа-сад, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**УБОРКІ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 10 гаспадарак, 23 жыхары, у калгасе «Камсамолец». У 2007 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў; у 2010 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**УГАЛЕЦ** — вёска ў Турынскім с/с. За 16 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 62 км ад Мінска, 19 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 28 гаспадарак, 36 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. 22 двары, 191 жыхар; у сярэдзіне 19 ст. 70 двароў, 463 жыхары, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета, хлебазапасны магазін. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 90 двароў, 534 жыхары, пазней адкрыта школа 1-й ступені. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў школе 2 настаўнікі, 70 вучняў. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг», была кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, каля вёскі базіраваліся Пухавіцкі падп. раённы к-т КП(б)Б, партыз. брыгады «Полымя», 1-я Мінская. У 1960 г. пасёлак у Турынскім с/с, 393 жыхары; у 2002 г. 48 гаспадарак, 72 жыхары; у 2010 г. 36 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын». Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**УГОДЗІНА** — вёска ў Блужскім с/с. За 16 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 71 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г.





вёска ў Блужскім с/с, 79 жыхароў. У 2002 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у калгасе «1 Мая»; у 2010 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**УЗЛЯНЫ** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 45 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Ушанка (прыток р. Пціч). 116 гаспадарак, 329 жыхароў (2012).

Стараж. паселішча, былая ўласнасць віленскіх епіскапаў. У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 62 двары, 532 жыхары, мястэчка (Паляны), 15 двароў, 87 жыхароў, Пакроўская царква, карчма, шляхецкая ўласнасць. У 19 ст. сяло ў Пярэжырскай вол., уласнасць Копаця і Лапы. У 1886 г. 73 двары, 624 жыхары, праваслаўная царква; у мястэчку вінакурны з-д, яўр. малітоўная школа. У 1897 г. ў вёсцы 135 двароў, 805 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны; сяло — 76 двароў, 570 жыхароў; вёска — 75 двароў, 562 жыхары; маёнтак — 3 двары, 67 жыхароў. У 1898 г. пабудавана новая (драўляная) Пакроўская царква. У 1903 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. вёскі Узляны: 1) 75 двароў, 502 жыхары; 2) 76 двароў, 570 жыхароў; мястэчка — 105 двароў, 867 жыхароў, праваслаўная царква, сінагога, паштова-тэлегр. аддзяленне; маёнтак — 3 двары, 67 жыхароў; праводзіліся штотыднёвыя таржкі. У 1917 г. ў мястэчку 102 двары, 690 жыхароў, у сяле — 78 двароў, 438 жыхароў; у вёсцы — 103 двары, 521 жыхар; у маёнтку — 39 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 2 настаўнікі, каля 70 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр Узлянскага с/с Самахвалавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.); з 18.1.1931 г. ў Пухавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Рудзенскім, з 06.7.1935 г. ў Смілавіцкім, з 11.2.1938 г. ў Рудзенскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1933 г. працавалі калгасы імя Сталіна, імя Леніна; былі 2 млыны, 2 кузні; шавецкая майстэрня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 8.10.1941 г. загубілі 375 жыхароў. Дзейнічала антыфаш. падполле, у наваколлі партыз. брыгада «Беларусь». 4.7.1944 г. пры вызваленні раёна каля вёскі ў баі вызначыліся воіны 5-й батарэі 220-га знішчальнага супрацьтанкавага артыл. палка 48-й арміі пад камандаваннем гвардзіі капітана А.К.Леанцюка, якія з узводам прыдадзеных танкаў у ходзе 3-гадзіннага бою адбілі 6 варожых атак, знішчылі больш за 600 салдат і афіцэраў, 2 самаходна-артыл. ўстаноўкі, 4 мінаметы, 9 аўтамашын і бронетранспарцёраў, 6 кулямётаў. Г.А.Леанцюку, гвардыі сяржантам Д.Л.Чапусаву, А.Р.Чарняку, Я.Р.Курачкіну, гвардыі малодшаму сяржанту В.Ф.Токараву (пасмяротна) было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. З 8.4.1957 г. ў Навапольскім с/с; з 20.1.1960 г. ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. ў Пухавіцкім р-нах. У 1960 г. ў вёсцы 120 жыхароў. У 1970 г. 166 двароў, 447 жыхароў, цэнтр калгаса імя Куйбышава. У пач. 2000-х г. дзейнічалі базавая школа, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, ашчадная каса, ветэрынарны ўчастак, машынны двор, магазін, сталовая, 2 фермы, цэнтр саўгаса «Барацьбіт». У 2002 г. вёска, цэнтр Узлянскага с/с. У 2007 г. вёска, 143 гаспадаркі, 373 жыхары; у 2010 г. 134 гаспадаркі, 355 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Зазерка», магазін, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму, помнік на месцы бою воінаў-артылерыстаў 4.7.1944 г.

**УЛАДЗІМІРАЎКА** — вёска ў Блонскім с/с. За 0,5 км на ПнЗ ад Мар'інай



Горкі, 52 км ад Мінска, 4 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 65 гаспадарак, 151 жыхар (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. ў вёсцы 175 жыхароў. У 2002 г. ў Блонскім с/с, 64 гаспадаркі, 147 жыхароў, у племсаўгасе «Індустрыя». У 2010 г. 62 гаспадаркі, 138 жыхароў. У 2013 г. на тэр. РУСП «Племзавод «Індустрыя».

**УШАНКА** — вёска ў Пярэжырскім с/с. За 32 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 47 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

У 1897 г. фальварак у Пярэжырскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 8 жыхароў. У 1908 г. 3 двары, 31 жыхар; у 1917 г. 44 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак у Навапольскім с/с, 76 жыхароў. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 13 двароў, 25 жыхароў, у калгасе «Барацьба». У 2010 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. тэр. СВК «Зазерка». З 1.7.2013 г. ў Пярэжырскім с/с.

**ФЕЛІЦЫЯНАВА** — вёска ў Голацкім с/с. За 38 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 17 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць калежскага асэсара А.Івашкевіча. У 1858 г. 34 жыхары. У 1897 г. 4 двары, 64 жыхары, у Пярэжырскай вол. У 1917 г. 14 двароў, 86 жыхароў, вёска. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсцы 135 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 13 двароў, 21 жыхар, у калгасе «Свіслач». У 2010 г. 12 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацк», магазін.

**ФРАНЦУЗСКАЯ ГРЭБЛЯ** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 31 км на У ад Мар'інай Горкі, 76 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 19 ст. ваколіца ў Пагарэльскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак у Пухавіцкай вол., 14 двароў, 77 жыхароў; лясная старожка — 6 жыхароў. У пач. 20 ст. ваколіца, 22 двары, 124 жыхары; у 1917 г. 28 двароў, 176 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. 25 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 28 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 2002 г. вёска ў Чырванакастрычніцкім с/с, 9 гаспадарак, 18 жыхароў; у 2007 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 6 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**ХАЗЯНІНКІ** — вёска ў Голацкім с/с. За 30 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 23 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мінск—Гомель. 36 гаспадарак, 81 жыхар (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 62 жыхары, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў складзе маёнтка Голацк, уласнасць Л. Кастравіцкай, 123 жыхары. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 15 хлопчыкаў). У канцы 19 ст. ў Дукорскай вол., 43 двары, 332 жыхары, школа граматы, капліца; у 1917 г. 62 двары, 428 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Да пач. 1920-х г. створана шко-





ла 1-й ступені, у пач. 1930-х г. створаны калгас імя ЦК КП(б)Б, працавала кузня. У 1940 г. у вёсцы 80 двароў, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 18 жыхароў. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. ў вёсцы 239 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Голацкім с/с, 50 гаспадарак, 59 жыхароў. У 2010 г. 38 гаспадарак, 85 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Голацкі». Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. пісьменніка В.Ц.Мысліўца.

**ХАЦЕШАВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 11 км на З ад Мар'інай Горкі, 62 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 50 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 10 гаспадарак, 26 жыхароў, у калгасе «Іскра». У 2010 г. 7 гаспадарак, 21 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ХІДРА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 17 км на У ад Мар'інай Горкі, 62 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 53 гаспадаркі, 123 жыхары (2012).

У канцы 16 ст. маёнтак, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 29 двароў, 24 жыхары, часоўня, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 307 жыхароў, уласнасць А.Дзямідовіча. У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. 18 хлопчыкаў, 6 дзяўчынак). У 1897 г. у вёсцы 90 двароў, 519 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква; маёнтак, 11 двароў, 50 жыхароў. У 1908 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 149 двароў, 807 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. па чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. працавала школа 1-й ступені, 3 настаўнікі, 100 вучняў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Новае жыццё», былі ваўначоска, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Балочанскім с/с, 429 жыхароў. З 16.8.1973 г. у Чырвонакастрычніцкім с/с. У 2002 г. 83 гаспадаркі, 185 жыхароў, у саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2007 г. 66 гаспадарак, 150 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 58 гаспадарак, 139 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі», магазін.

**ХОЧЫН** — вёска ў Турынскім с/с. За 17 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 50 км ад Мінска, 20 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 3 двары, 19 жыхароў, уласнасць Смілавіцкага кляштара місіянераў. У канцы 19 ст. засценак у Кліноцкай вол. Ігуменскага павета, 9 двароў, 65 жыхароў. У 1908 г. вёска, 15 двароў, 83 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1929 г. створаны калгас «Новы Хочын». У 1940 г. 23 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваы ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі вёску. Пасля вайны адноўлены. У 1960 г. ў вёсцы 87 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Ананіцкім с/с, 12 двароў, 17 жыхароў, у калгасе «Белая Русь»; у 2010 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Сітнікі». З 1.7.2013 г. ў Турынскім с/с.

**ЦЕРАБЕЛЬ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 47 км на З ад Мар'інай Горкі,



41 км ад Мінска, 24 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2012).

У 17 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. н. Цярэбелка ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 25 двароў, 167 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Дудзіцкай вол. таго ж павета, 65 двароў, 397 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1908 г. 75 двароў, 491 жыхар; у 1917 г. 86 двароў, 478 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзейнічала школа 1-й ступені, 40 вучняў. У 1933 г. працаваў калгас імя К.Я. Варашылава, была кузня. У 1940 г. 65 двароў, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 30 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. вёска ў Сяргеевіцкім с/с, 210 жыхароў. У 2002 г. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў. З 2010 г. вёска ў Праўдзінскім пас. Савеце, 16 гаспадарак, 24 жыхары. У 2013 г. на тэр. філіяла «Сяргеевічы» ААТ «Пухавіцкі райаграсэрвіс». З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЦЕРАБУТЫ** — вёска ў Блужскім с/с. За 22 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 77 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

На паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Свіслач размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва — Гарадок). За 1 км на З ад вёскі, у месцы ўпадзення р. Таль у р. Свіслач, у лесе размешчаны курганны могільнік-1 (мясц. назва — Французскія магілы). За 2,5 — 3 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на правым беразе р. Свіслач размешчаны курганны могільнік-2. У канцы 18 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 4 двары, 19 жыхароў. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета, 6 двароў, 62 жыхары. У 1908 г. 136 двароў, 974 жыхары; маёнтак — 11 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Тальскаўскім с/с, 91 жыхар. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 14 гаспадарак, 23 жыхары. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ЦЕШКАВА** — вёска ў Турынскім с/с. За 5 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Лагойск. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2012).

У 1816 г. 15 двароў, 90 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. вёска і маёнтак у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 98 жыхароў, у маёнтку 19 дваровых людзей, уласнасць К. Хмялеўскага. У канцы 19 ст. ў вёсцы 35 двароў, 215 жыхароў, у маёнтку 3 жыхары, у Пухавіцкай вол. У 1917 г. вёска — 52 двары, 253 жыхары; маёнтак — 13 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта школа 1-й ступені (у 1922 г. 35 вучняў). У 1929 г. 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Турынскім с/с, 16 двароў, 29 жыхароў, у калгасе «Сцяг камунізму». У 2010 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын».




**ЦІТВА** — вёска ў Рудзенскім с/с. За 20 км на З ад Мар'інай Горкі, 49 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Шацк—Смалявічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 69 гаспадарак, 155 жыхароў (2012).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст., маёнтак, шляхецкая ўласнасць у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1767 г. мястэчка, 39 двароў, 135 жыхароў мужчынскага полу, царква, карчма; маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 69 двароў, 467 жыхароў, царква, вінакурня, млын, царква, шляхецкая ўласнасць. У 1816 г. 70 двароў, 370 жыхароў.У 1865 г. сяло, адкрыта нар. вучылішча. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло, цэнтр воласці Ігуменскага павета і праваслаўнага прыхода. У 1879 г. ў прыходзе было больш за 2 тыс. вернікаў. У 1886 г. сяло, 75 двароў, 627 жыхароў. У 1897 г. 149 двароў, 837 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 піцейныя дамы, 2 крамы, царква; у маёнтку 2 двары, 61 жыхар, крухмальны з-д. У 1905 г. адкрыта 2-класнае земскае нар. вучылішча. У 1908 г. 160 двароў, 909 жыхароў; маёнтак, 5 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 200 двароў, 942 жыхары, у маёнтку 128 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. на базе маёнтка створаны саўгас «Цітва», былі кузня, сталярня, крухмальны з-д. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адчынена няпоўная сярэдняя школа (у 1922 г. 3 настаўнікі, 140 вучняў). З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр Цітвянскага с/с у Шацкім, з 4.8.1927 г. ў Пухавіцкім р-нах Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 12.2.1935 г. ў Рудзенскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. працавалі саўгас «Цітва» і калгас «11-годдзе БССР», былі 2 кузні, стэльмашня, маслабойка, крухмальны з-д. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падполле. З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не, з 31.3.1977 г. ва Узлянскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 359 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Рудзенскім пас. Савеце, 87 двароў, 190 жыхароў, цэнтр саўгаса «Рудзенскі», базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. 82 гаспадаркі, 172 жыхары; у 2010 г. 75 гаспадарак, 163 жыхары. У 2013 г. на тэр. падсобнага с.-г. ўпраўлення «Рудзенскае» УП «Мінскметрабуд», фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 1.7.2013 г. ў Рудзенскім с/с. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. пісьменніка У.М.Хадыкі.

**ЧАРОТЫ** — вёска ў Блужскім с/с. За 29 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 84 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак у Талькаўскім с/с Пухавіцкага р-на, 17 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 82 жыхары. У 1981 г. ў калгасе імя С.М.Кірава. У 2002 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 6 гаспадарак, 7 жыхароў. З 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 7 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** — вёска ў Турынскім с/с. За 6 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 52,5 км ад Мінска, 10 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка — Лагойск. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак 15 двароў, 85 жыхароў, у Турынскім с/с Пухавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 44 жыхары. У 2002 г. вёска, 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у кал-



гасе «Сцяг камунізму». У 2010 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын».

**ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК** – вёска ў Пухавіцкім с/с. За 22 км на У ад Мар'інай Горкі, 67 км ад Мінска, 25м км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск–Асіповічы, каля р. Балачанка (прыток р. Свіслач). 90 гаспадарак, 245 жыхароў (2012).

Да 1922 г. в. Забалеўскі Двор. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак у Болецкім с/с Пухавіцкага р-на, 11 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў пасёлку 81 жыхар; з 16.8.1973 г. цэнтр Чырвонакастрычніцкага с/с і саўгаса «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. вёска, 118 двароў, 338 жыхароў, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, бальніца, б-ка, ашчадная каса, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 100 гаспадарак, 258 жыхароў. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі», Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін.

**ЧЫРВОНЫ ПАСЁЛАК** – вёска ў Блужскім с/с. За 22 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 77 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск–Асіповічы. 31 гаспадарка, 75 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. пасёлак у Суцінскім с/с, 260 жыхароў. У 2002 г. вёска, 49 двароў, 99 жыхароў, у калгасе «Суцінскі». У 2007 г. 38 двароў, 92 жыхары; у 2010 г. 33 гаспадаркі, 91 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Суцінскі». З 1.7.2013 г. ў Блужскім с/с.

**ЧЫРВОНАЯ НІВА** – вёска ў Дукорскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 36 км ад Мінска, 18 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 5 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак у Дукорскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930. З 8.7.1931 г. ў Пухавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Рудзенскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў пасёлку 19 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1980 г. вёска ў Дукорскім с/с Пухавіцкага р-на, у калгасе «Камсамолец». У 2002 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар; у 2007 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў; у 2010 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод».

**ЧЫРВОНЫ ЯР** – вёска ў Дукорскім с/с. За 20 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 44 км ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак у Дрычынскім с/с Пухавіцкага р-на. З 12.2.1935 г. ў Рудзенскім, з 6.7.1935 г. ў Смілавіцкім, з 11.2.1938 г. ў Рудзенскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1960 г. ў Пухавіцкім р-не, 47 жыхароў. У 1980 г. ў калгасе «Камсамолец». У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 6 двароў, 11 жыхароў. У 2007 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2010 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ШАБУНІ** – вёска ў Навапольскім с/с. За 45 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 27 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск–Асіповічы, на р. Пціч. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

У 19 ст. засценак у Дудзіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 95 жыхароў, царква на могілках. У 1908 г. 15 двароў, 92 жыхары; у 1917 г. 18 двароў, 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Поль-





шчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. пасёлак, 94 жыхары. У 2002 г. вёска ў Навапольскім с/с, 10 гаспадарак, 14 жыхароў, у калгасе «Навапольскі». У 2007 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў; у 2010 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Агра-Абярэг». На вясковых могілках захаваўся помнік драўлянага дойлідства — касцёл Святога Роха (1796, 1860, 1920-я г.).

**ШАЛЯГІ** — вёска ў Навапольскім с/с. За 37 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 65 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Пціч (прыток р. Прыпяць). 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1785 г. 2 двары, 23 жыхары, уласнасць Янушэўскай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 18 жыхароў, уласнасць А. Шышкі. У 1897 г. вёска ў Цітвянскай вол., 14 двароў, 146 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 26 двароў, 160 жыхароў; у 1917 г. 33 двары, 181 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. па чэрв. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ва Узлянскім с/с, 18 гаспадарак, 27 жыхароў, у калгасе «Перамога». У 2010 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Азярычынскі» КУП «Жылкампаслугі-Свіслач», магазін. З 1.7.2013 г. ў Навапольскім с/с.

*Касцёл Святога Роха ў в. Шабуні.*



**ШАЦК** — вёска (аграгарадок), цэнтр Шацкага с/с. За 31 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 61 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Негарэлае—Пухавічы, на р. Шаць (прыток р. Пціч). 285 гаспадарак, 697 жыхароў (2012).

За 4 км на У ад вёскі, у лесе размешчаны археал. помнік — курган (мясц. назва — Французская магіла). Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1523 г. сяло, цэнтр валасці, уласнасць кн. Я.Радзівіла. У 1567 г. ў Мінскім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, у 1582 г. ўласнасць кн. Галаўчанскага. У пач. 17 ст. згадваецца рэфармацкі збор фундацыі віленскага харунжага М.Краштоўскага. З 9.5.1750 г. мястэчка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 29 двароў, 142 жыхары, Ільінская царква, цагляны і чарапічны з-ды, карчма, млын, вінакурня, сукнавальня. У 1816 г. 23 двары, уласнасць Аскеркаў. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1882 г. засн. вінакурны з-д. У 1886 г. 27 двароў, 184 жыхары, нар. вучылішча, царква, вал. праўленне, вадзяны млын, бальніца, 5 крамаў, была яўр. школа. З 1888 г. адбываліся штотыднёвыя таржкі, штогадовы кірмаш. У 1892 г. ў школе 66 хлопчыкаў, 10 дзяўчынак. У 1897 г. ў мястэчку 130 двароў, 974 жыхары, царква, 2 сінагогі, нар. вучылішча, паштовае аддзяленне, 4 піцейныя дамы, 15 лавак; маёнтак — 63 жыхары, вінзавод. Побач быў маёнтак Стары Шацк — 2 двары,





*Сядзіба Пуцятаў «Стары Шацк» у в. Шацк.*

22 жыхары. У 1900 г. ў нар. вучылішчы 87 хлопчыкаў, 9 дзяўчынак (настаўнік Васіліса Плышэўская). У 1908 г. ў мястэчку 240 двароў, 2350 жыхароў, паштова-тэлегр. аддз.; маёнткі Шацк і Шацк Стары, усяго 126 жыхароў. У 1917 г. ў мястэчку 166 двароў, 1121 жыхар, у маёнтках — 138 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта няпоўная сярэдняя школа, у 1922 г. — 5 настаўнікаў. З 17.7.1924 г. цэнтр Шацкага р-на, адначасова з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шацкага, з 4.8.1927 г. да 6.7.1935 г. да 11.2.1938 г. Пухавіцкага р-наў Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 6.7.1935 г. да 11.2.1938 г. — Смілавіцкага, 12.2.—6.7.1935 г. і з 11.2.1938 г. — Рудзенскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 1935 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падполле, у наваколлі базіраваліся партыз. брыгады імя Калініна, «Буравеснік». У 1941 г. фашысты загубілі ў Шацку больш за 700 сав. грамадзян, усяго ж за час акупацыі — больш за 800 чал. З 20.1.1960 г. ва Уздзенскім, з 1.4.1960 г. ў Пухавіцкім р-нах. У 1960 г. ў вёсцы 210 жыхароў. У 1982 г. распрацаваны праект планіроўкі і забудовы вёскі, цэнтр. сядзібы саўгаса «Шацк». У 2002 г. цэнтр калгаса «Шацк», 324 гаспадаркі, 732 жыхары, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, ашчадная каса, сталовая, лясніцтва, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом быту, бальніца, 5 магазінаў. У 2007 г. 306 гаспадарак, 742 жыхары. У 2010 г. аграгарадок, 306 гаспадарак, 741 жыхар. У 2013 г. на тэр. СВК «Шацк», бальніца, 5 магазінаў, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Радзіма бел. вучонага І.С.Лупіновіча, Героя Сац. Працы Г.П.Назаравай. Захаваліся пабудовы сядзібы Пуцятаў (пач. 20 ст.). Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ШКАВІЛАЎКА** — вёска ў Турынскім с/с. За 10 км на Пн ад Мар'інай Горкі, 56 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, каля р. Свіслач (прыток р. Бярэзіна). 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2012).

У 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Кліпоцкай вол., 53 жыхары мужчынскага полу. У канцы 19 ст. 27 двароў, 176 жыхароў, у 1917 г. 31 двор, 176 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. было 48 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. пасёлак у Турынскім с/с, 240 жыхароў. У 2002 г. вёска, 38 гаспадарак, 58 жыхароў, у калгасе «Сцяг камунізму». У 2010 г. 24 гаспадаркі, 43 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Турын».



*І.С.Лупіновіч.*

**ШЭЛЕХАВА** — вёска ў Блужскім с/с. За 23 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 78 км ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У канцы 19 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 9 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча — 4 двары, 42 жыхары; засценак — 7 двароў, 30 жыхароў; хутар — 3 двары,





22 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. хутар, 18 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. ў Суцінскім с/с, 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у саўгасе «Суцінскі». У 2010 г. пас. Шэлехаў, 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Суцінскі». З 1.7.2013 г. вёска ў Блужскім с/с.

**ШЫМАНАЎ КУТ** — вёска ў Дукорскім с/с. За 36 км на З ад Мар'інай Горкі, 51 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 14 гаспадарак, 18 жыхароў, у саўгасе «Дрычынскі». У 2010 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытворчага філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод №1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ЭНЕРГІЯ** — вёска (аграгарадок) у Дукорскім с/с. За 17 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34 км ад Мінска, 16 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск—Гомель. 87 гаспадарак, 248 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дукорскім с/с, 77 гаспадарак, 276 жыхароў, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. У 2010 г. аграгарадок, 80 гаспадарак, 261 жыхар. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Светлая Ніва» РУП «Мінскі маторны завод», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб, аддз. сувязі. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЯГАДНАЕ** (да 1964 г. Апляўнёца) — вёска ў Дуброўскім с/с. За 24 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 79 км ад Мінска, 25 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). У вёсцы ніхто не жыве (2012).

Вядома ў пач. 20 ст. як урочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 13 жыхароў З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дуброўскім с/с, 1 двор, 1 жыхар, у саўгасе імя Леніна.

**ЯМНАЕ** — вёска ў Шацкім с/с. За 27 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 82 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Амяльнянскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 4 двары, 25 жыхароў. У 1917 г. засценак, 12 двароў, 84 жыхары; хутар — 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў Селецкім с/с, 79 жыхароў. У 2002 г. 6 двароў, 9 жыхароў, у калгасе «Селецкі». У 2010 г. вёска ў Вецярэвіцкім с/с, 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. У 2013 г. на тэр. СВК «Вецярэвічы». З 1.7.2013 г. ў Шацкім с/с.

**ЯНАЎКА** — вёска ў Блужскім с/с. За 25 км на ПдУ ад Мар'інай Горкі, 80 км ад Мінска, 6 км ад чыг. ст. Талька на лініі Мінск—Асіповічы. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

У 1858 г. вёска ў Цяляткаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 73 жыхары. У 1908 г. вёска, 8 двароў, 50



жыхароў; засценак, 6 двароў, 32 жыхары. У 1917 г. вёска — 8 двароў, 41 жыхар; засценак — 11 двароў, 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. вёска ў Талькаўскім с/с, 34 двары. У 2002 г. 8 двароў, 16 жыхароў. У 2010 г. вёска ў Блужскім с/с, 6 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. філіяла «Чырвоны май» ААТ «Мінскі завод ігрыстых він».

**ЯНКА КУПАЛА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад Мар'інай Горкі, 72 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941г. да пач. ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942 г. спалілі яго. У 1939—54 гг. цэнтр Гарэлецкага с/с. У 1960 г. вёска, 48 жыхароў; у 2002 г. пасёлак Гарэлецкага с/с, 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у калгасе імя Я. Купалы. У 2007 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2010 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с, 2 гаспадаркі, 2 жыхары. У 2013 г. на тэр. СВК «Іскра Надзеі».

**ЯНКОВА** — вёска ў Дукорскім с/с. За 25 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 46 км ад Мінска, 15 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

У пач. 20 ст. фальварак у Дукорскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. вёска ў Дрычынскім с/с, 16 гаспадарак, 24 жыхары, у саўгасе «Дрычынскі». У 2007 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў; у 2010 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. на тэр. с.-г. вытв. філіяла «Дрычын» КУП «Гарадскі малочны завод № 1». З 1.7.2013 г. ў Дукорскім с/с.

**ЯСНАЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с. За 2,5 км на Пд ад Мар'інай Горкі, 57,5 км ад Мінска, 3,5 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы, на аўтадарозе Мар'іна Горка—Старыя Дарогі. 22 гаспадаркі, 57 жыхароў (2012).

Вядома з 20 ст. У 1960 г. в. Яснае 1, 104 жыхары; пас. Яснае 2, 25 жыхароў; у 2002 г. в. Яснае ў Навасёлкаўскім с/с, 28 гаспадарак, 67 жыхароў, у Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме. У 2007 г. 24 гаспадаркі, 55 жыхароў; у 2010 г. 24 гаспадаркі, 55 жыхароў. У 2013 на тэр. СВК «Іскра надзеі».

**ЯСНАЎКА** — вёска ў Голацкім с/с. За 41,5 км на ПнЗ ад Мар'інай Горкі, 34,5 км ад Мінска, 12 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, на р. Свіслач (прыток р. Прыпяць). 19 гаспадарак, 38 жыхароў (2012).

У 1858 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць Іскрыцкіх, 104 жыхары. У пач. 20 ст. ўрочышча ў Пярэжырскай вол., 46 двароў, 363 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 54 двары, 332 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 225 жыхароў. У 2002 г. вёска ў Пярэжырскім с/с, 25 двароў, 48 жыхароў, у эксперыментальнай базе «Зазер'е». У 2007 г. 18 двароў, 37 жыхароў; у 2010 г. 19 гаспадарак, 37 жыхароў. У 2013 г. на тэр. РУСП «Эксперыментальная база «Зазер'е». З 1.7.2013 г. ў Голацкім с/с.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** — вёска ў Пухавіцкім с/с. За 27 км на ПнУ ад Мар'інай Горкі, 72 км ад Мінска, 30 км ад чыг. ст.





Пухавічы на лініі Мінск—Асіповічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

У канцы 19 ст. фальварак Ясная Паляна (ён жа Сушчына), 20 жыхароў, у Пухавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1916 г. маёнтак, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1940 г. 11 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія у крас. 1944 г. спалілі яе, загубілі 11 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Балоцкім с/с (з 16.8.1973 г. сельсавет перайменаваны ў Чырвонакастрычніцкі), 60 жыхароў. У 1981 г. у саўгасе «Чырвонакастрычніцкі». У 2002 г. вёска ў Чырвонакастрычніцкім с/с, 1 двор, 2 жыхары; у 2007 г. 1 двор, 1 жыхар. У 2010 г. вёска ў Пухавіцкім с/с, 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2013 г. на тэр. дзярж. прадпрыемства «Пухавіцкі».

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 1, спр. 444, 3365; воп. 5, спр. 6766; ф. 48, воп. 1, спр. 2059, 2097, 2594; ф. 60, воп. 1, спр. 1118а; ф. 93, воп. 1, спр. 808, 1816, 1875, 1931.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. КМФ — 5, воп. 1, спр. 1696, 3261; ф. 27, воп. 6, спр. 6, 99; ф. 76, воп. 1, спр. 228; ф. 295, воп. 1, спр. 54; ф. 183, воп. 2, спр. 2115; ф. 320, воп. 1, спр. 1; ф. 333, воп. 2, спр. 2139, 2141; воп. 3, спр. 5; ф. 694, воп. 4, спр. 5696; воп. 5, спр. 605, 934; ф. 1727, воп. 1, спр. 8—10, 12, 14, 28; ф. 1769, воп. 1, спр. 6; ф. 1783, воп. 1, спр. 6; ф. 1787, воп. 1, спр. 28; ф. 1816, воп. 1, спр. 5, 9.

Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 25, воп. 1, спр. 21.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 445, воп. 3, спр. 429; ф. 1276, воп. 1, спр. 565.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1306; воп. 11, спр. 1306; ф. 1350, воп. 312, спр. 89; ф. 822, воп. 12, спр. 3245.

Историко-статистическое описание Минской епархии. Санкт-Петербург, 1864.

Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1864.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 1. Вильна, 1867.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1 января 1870 года. Минск., 1874.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Памятная кгнижка Минской губернии на 1899 г. Минск. 1898.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Минск. 1905.

Ярмолович В.С. Список населённых мест Минской губернии. Минск, 1909.

Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.

Спісок населённых мест Б.С.С.Р (б. Минской губернии). Минск, 1924 .

Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Минск, 1978.

Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3. Минск. 1983—85.

Нацистская политика геноцида и выжженной земли в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.

Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1—2. Минск, 1985—87.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобласць. Кн. 2. Мінск, 1987.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мінск, 1993—2003.

Памяць. Пухавіцкі раён. Мінск, 2003.


МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
СЛУЦКІ РАЁН
ЛЮБАНСКІ РАЁН
КАПЫЛЬСКІ РАЁН
КЛЕЦКІ РАЁН
ГАНЦАВІЦКІ РАЁН
БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ
ЛУНІНЕЦКІ РАЁН
ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН
ПЕТРЫКАЎСКІ РАЁН
ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
Лічбамі пазначаны:
Сахалін
Зялены Курган
Чырвоная Даліна
Дрызгаловічы
Шахаўніца
Корчык
Падасінка
Мамыкаў
Хвалева
Лапкі
Чыжэвічы
Атрубы
Новы
Кулакі
САЛІТОРСК
Старобін
Чырвоная Слабада
Салігорскае вадасховішча
Краснаслабодскае вадасх.
Морач
Случ
Лань
Бобка
Вызенка
Вялікі канал
Паўднёвы канал
Асавецкі канал
Ламачыцкі канал
Цераблічская канава
Дзівінскі канал
вдз. Чырвонае
27°15'
27°30'
27°45'
52°30'
52°40'
52°50'







*Панарама Салігорска на фоне саляных «гор».*

коўскага (да ліст. 1941 г.), які ў пач. ліп. 1941 г. знішчыў ням.-фаш. гарнізон у Слуцку, падп. група А.Чыгіра. У 1943 г. былі створаны партыз. брыгады 101-я імя Аляксандра Неўскага, 121-я імя А.Ф.Брагіна, таксама тут дзейнічалі 12-я кавалерыйская партыз. брыгада, 64-я імя Чкалава, 258-я імя Куйбышава, 300-я імя Варашылава, 32-я імя Калініна партыз. брыгады. У раёне дзейнічалі Старобінскія падп. райкамы КП(б)Б (з 12.3.1943 г.) і ЛКСМБ (ліп.—ліст. 1941 г.; 19.3.1943 г. — 2.7.1944 г.), Чырвонаслабодскія падп. райкамы КП(б)Б і ЛКСМБ (з 10.3.1943 г.). Выдаваліся падп. газ. «Савецкі патрыёт» і «Калгаснік Чырвонаслабодчыны» (пазней «Чырвоная Зара»). На тэр. сучаснага Салігорскага р-на, якая ўваходзіла ў склад Пінскай вобл., дзейнічалі яе падп. парт. і камсамольскія органы і партыз. фарміраванні. Ва ўрочышчы Векерава каля в. Груздава Хорашаўскага с/с у 1943—44 гг. базіраваліся Пінскі абкам КП(б)Б і штаб Пінскага партыз. злучэння. Каля в. Хорастава існаваў партыз. аэрадром (1.9.1943—29.6.1944). Раён вызвалены ў канцы чэрв.—пачатку ліп. 1944 г. ў ходзе Бел. аперацыі («Баграціён»). Старобін быў вызвалены 29.6.1944 г. партызанамі 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага і атрада імя Варашылава брыгады імя Будзённага, Чырвоная Слабада — 30.6.1944 г. 19-й механізаванай брыгадай 1-га механізаванага корпуса 28-й арміі. У вызваленні раёна таксама прымалі ўдзел 48-я гв. і 139-я стралк. дывізіі, 486-ы стралк. полк, 42-я гв. танкавая дывізія, 219-я танкавая брыгада, 1966-ы знішчальны процітанкавы полк і інш. часці. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. Старобінскі р-н уваходзіў у склад Бабруйскай вобл. У сувязі са скасаваннем 8.1.1954 г. Пінскай вобл. тэр. сучаснага Салігорскага р-на, якая ўваходзіла ў яе склад, далучана да Брэсцкай вобл. У 1954 г. скасаваны Лістападавіцкі, Мазуршчынскі, Чырванавозерскі сельсаветы, Сухамільскі перайменаваны ў Навацярушскі. 8.8.1959 г. далучаны г.п. Чырвоная Слабада, Акцябрскі і Жываглодавіцкі сельсаветы скасаванага Чырвонаслабодскага р-на (астатнія сельсаветы адышлі Капыльскаму і Слуцкаму р-нам); у гэты ж дзень утвораны рабочы пас. Салігорск. 20.1.1960 г. далучаны Мілевіцкі (у крас. 1960 г. перададзены Жыткавіцкаму р-ну), Хорастаўскі, Яскавіцкі сельсаветы скасаванага Ленінскага р-на Брэсцкай вобл. 25.12.1962 г. Старобінскі р-н скасаваны, тэр. далучана да Любанскага р-на (у 1963 г. Салігорск пераўтвораны ў горад абл. падпарадкавання, Хорастаўскі с/с перададзены Лунінецкаму р-ну; у 1964 г. скасаваны Мецявіцкі с/с, утвораны Рожанскі с/с, Жываглодавіцкі с/с перайменаваны ў Першамайскі). 6.1.1965 г. ў межах былой тэр. Старобінскага р-на ўтвораны Салігорскі р-н, які ўключаў Акцябрскі,

*У цэнтры Салігорска.*









*Будынак Салігорскага райвыканкама.*

*Спартыўна-відовішчны комплекс у г. Салігорск.*

Даманавіцкі, Доўгаўскі, Зажэвіцкі, Канацэвіцкі, Краснадворскі, Новацярушскі, Першамайскі, Рожанскі, Чапялёўскі, Чыжэвіцкі, Яскавіцкі сельсаветы, Старобінскі і Чырвонаслабодскі пас. Саветы. У 1965 г. далучаны Хорастаўскі, у 1979 г. — Гаўрыльчыцкі сельсаветы Лунінецкага р-на. У 1987 г. скасаваны Новацярушскі і ўтвораны Гоцкі сельсаветы. У 2006 г. скасаваны сельсаветы: Пагостаўскі, Першамайскі, утвораны (са скасаваннем пас. Саветаў) Чырвонаслабодскі і Старобінскі, у 2010 г. — скасаваны Рожанскі, Чапялёўскі, Яскавіцкі, у 2013 г. — Гаўрыльчыцкі сельсаветы.

Па тэр. раёна праходзяць чыг. ветка Слуцк—Салігорск (ад лініі Баранавічы—Асіповічы), аўтадарогі Мінск—Мікашэвічы, Чырвоная Слабада—Бабруйск.

Раён размешчаны ў межах Прыпяцкага Палесся, паўн. частка — на Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Пераважаюць вышыні 135—150 м, найвышэйшы пункт 182 м (на ПнЗ ад в. Кастрычнік). Пад с.-г. ўгоддзямі тарфяна-балотныя, дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя глебы. Лясы займаюць 42% тэр., пераважаюць хваёвыя (сасновыя), чорнаальховыя, дубовыя, бярозавыя лясы. Пад балотамі 2% тэр. Карысныя выкапні: калійныя і каменныя солі (Старобінскае радовішча), торф, будаўнічыя пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны, суглінкі. Сярэдняя тэмпература студз. −6,1 °С, ліпеня 18,1 °С. Ападкаў выпадае 600 мм за год. Вегетацыйны перыяд 194 сутак. Найб. рэкі — Случ (з прытокам Морач) і Лань. Утвораны вадасховішчы Салігорскае (на Случы) і Чырвонаслабодскае (на Морачы). Паўд.-ўсх. ўскраіна раёна на ўчастку каля 5 км выходзіць за

*Панарама Салігорска.*

*Сучасная забудова Салігорска.*









Кінатэатр «Зорка Венера» ў г. Салігорск.



Будынак Салігорскай цэнтральнай раённай бальніцы.

ўзбярэжжа воз. Чырвонае (13-е па плошчы ў Беларусі).

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 99,4 тыс. га (47% тэр.). Асн. напрамак с.-г. вытв-сці — малочна-мясная жывёлагадоўля, вырошчваюцца збожжавыя і кармавыя культуры, грэчка, бульба. Працуюць 15 с.-г. прадпрыемстваў, у т.л. ААТ «Бальшавік-Агра», ААТ «Новапалескі», ААТ «Краснадворцы», ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс», ААТ «Гарняк», ААТ «Скаўшын», ААТ «Добрыца», с.-г. цэх «Вялічкавічы» ААТ «Беларуськалій», таксама фермерскія гаспадаркі.

Дзейнічаюць (без уліку г. Салігорск) прам. прадпрыемствы: дрэваапрацоўчы камбінат, торфабрыкетны з-д «Старобінскі», малочны з-д, ААТ «Птушкафабрыка «Салігорская», ААТ «Рыбгас «Чырвоная Слабада», лясгас, будаўнічыя і меліярацыйныя арг-цыі, а таксама 39 акцыянерных т-ваў і 25 унітарных прадпрыемстваў недзярж. формы ўласнасці, у т. л. УВП «Ніва». У сістэме гандлю працуюць 10 гандл. цэнтраў, 358 магазінаў і гандлёвых кропак, 199 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

У сістэме адукацыі раёна — 3 гімназіі, 23 сярэднія школы (у т. л. 7 навуч.-пед. комплексаў дзіцячы сад—сярэдняя школа), 6 навуч.-пед. комплексаў дзіцячы сад—базавая школа, 4 установы дадатковай адукацыі, цэнтры — сац.-пед., развівальна-карэкцыйнага навучання і рэабілітацыі, 45 дзіцячых дашкольных устаноў, Чырвонаслабодская санаторная школа-інтэрнат. Працуюць філіял БНТУ, каледжы — пед., горнахімічны, эканам., праф.-тэхн. Сістэма аховы здароўя ў раёне ўключае Салігорскую цэнтр. раённую (на 822 ложкі), гар. дзіцячую (129), Старобінскую гар. (100), Чырвонаслабодскія гар. (80) і туберкулёзную (60), Доўгаўскую ўчастковую (40) бальніцы, скура-венералагічны дыспансер (30 ложкаў), занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, 6 паліклінік, 2 дыспансеры, жаночую кансультацыю, 8 урачэбных амбулаторый, 24 фельч.-акушэрскія пункты, 23 фельч. здраўпункты. У галіне культуры працуюць 89 устаноў — Цэнтр культуры і вольнага часу Салігорскага р-на, Палац культуры г. Салігорска, раённы цэнтр рамёстваў, культ.-спарт. цэнтр, Дом культуры і вольнага часу, 2 пасялковыя і 17 сельскіх дамоў культуры, 7 сельскіх клубаў, 4 клубы-бібліятэкі, 7 клубаў сац.-культ. паслуг, аўтаклуб, Салігорскі краязнаўчы музей, муз. школа, 4 шко-




Помнік шахцёру ў г. Салігорск.







*Салігорская царква Раства Багародзіцы.*

*Салігорскі касцёл Святога Францыска.*

лы мастацтваў, у сістэме Салігорскай цэнтр. раённай б-кі дзейнічаюць 37 б-к. На тэр. раёна 123 помнікі гісторыі, археалогіі, архітэктуры. Выдаецца раённая газ. «Шахцёр», працуе УП «Салігорскі тэлевізійны канал».

**САЛІГОРСК**, горад, цэнтр Салігорскага р-на, на беразе Салігорскага вадасховішча. За 132 км на Пд ад Мінска. Насельніцтва 104 тыс. жыхароў (2012). Чыг. станцыя на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, побач з горадам праходзяць аўтадарогі Мінск—Мікашэвічы і Бабруйск—Чырвоная Слабада.

Заснаванне Салігорска звязана з адкрыццём у 1949 г. радовішчаў калійных і каменных солей і прызнаннем Старобінскага радовішча калійных солей адным з самых буйных у Еўропе. Узнікла неабходнасць іх прам. распрацоўкі і будаўніцтва з гэтай нагоды калійнага камбіната. 10.8.1958 г. на месцы в. Вішнёўка Старобінскага р-на быў закладзены шахцёрскі пасёлак пад назваю Нова-Старобінск. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР 8.8.1959 г. новаму рабочаму пасёлку было нададзена назва Салігорск. У 1959 г. насельніцтва Салігорска складала 500 чал. У 1962 г. пасёлак быў злучаны чыгункай са Слуцкам. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. У 1963—79 гг. уведзены ў эксплуатацыю 4 калійныя камбінаты. З 7.3. 1963 г. Салігорск — горад абл. падпарадкавання, з 6.1.1965 г. — цэнтр Салігорскага р-на. Інтэнсіўна расло насельніцтва Салігорска: у 1963 г. яно перавысіла 17 тысяч, у 1965 г. ў горадзе налічвалася 27 тысяч жыхароў, 1970 г. — 38,3 тысячы, у 1980 г. — 68 тысяч. Хутка развівалася гар. гаспадарка. За кароткі час Салігорск вырас у горад з рознымі прадпрыемствамі і ўстановамі асветы, культуры і быту. У горадзе працуюць РУП «Вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій», прадпрыемствы лёгкай прам-сці «Купалінка» і «Калінка», ліцейна-механічны з-д «Універсал», будаўнічы комплекс «Салігорскпрамбуд», домабудаўнічы камбінат прадпрыемства «Шахтаспецбуд». У сферы адукацыі дзейнічаюць 3 гімназіі, 11 сярэдніх, муз. мастацтваў, дзіцячая мастацкая школы, 4 ДЮСШ, станцыя юных тэхнікаў і інш., 31 дашкольная ўстанова; горнахімічны, эканам., пед. каледжы, 2 ліцэі; Палац культуры, Дом культуры, кінатэатр «Зорка Венера», 4 б-кі, 2 стадыёны, лядовы



*Чыгуначны вакзал у г. Салігорск.*





палац, 2 легкаатлетычныя манежы, 3 басейны, 2 бальніцы, 3 паліклінікі, 3 дыспансеры, станцыя хуткай дапамогі, спелеалячэбніца; Салігорскі краязнаўчы музей. Помнікі: Героям Сав. Саюза В.З. Каржу і В.І.Казлову. Помнік шахцёрам-першапраходцам — скульптурная кампазіцыя, помнік у гонар заснавання горада. Выдаецца газ. «Шахцёр».

**АБІДЗЕМЛЯ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 37 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 177 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2013).

У пач. 20 ст. засценак у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 15 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. вёска, 24 двары, 187 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і кастр.—ліст. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 146 жыхароў. На 1.1.1941 г. 40 двароў, 276 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 9 двароў і загубілі 5 жыхароў, 1 вяскоўца вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Новацярушскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 103 жыхары, у складзе саўгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в. Зажэвічы). У 1948 г. на магіле партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік.

**АВІНЫ**— вёска ў Старобінскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 153 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2013).

У пач. 20 ст. хутар у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. — 14 двароў, 77 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старобінскім с/с (з 1935 г. — у местачковым, з 1938 г. —

*Салігорская дзіцячая музычная школа.*





пас. Савеце) Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак, 16 двароў, 81 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Заветы Ільіча». На 1.1.1941 г. вёска, 44 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 161 жыхар, у складзе саўгаса «Старобінскі». У 2004 г. 25 гаспадарак, 38 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін).

**АДРУБЫ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2013).

Вядома з 17 ст. У 1627 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у складзе маёнтка Мацеявічы ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1762 г. вёска, 8 двароў, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Старобінскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 94 жыхары. У 2004 г. ў вёсцы 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**АКЦЯБР** (да 1938 г. Старчыцы) — вёска (з 2010 г. — аграгарадок), цэнтр Акцябрскага с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада, якая праходзіць праз вёску. 206 гаспадарак, 513 жыхароў (2013).

Вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1553 г. маёнтак Старчыцы ў Слуцкім княстве Навагрудскага павета. У 1566 г. с. Старчыцы, 22 службы, шляхецкая ўласнасць. У 1670 г. засн. Старчыцкі кляштар, у 1748 г. ў сяле кляштар і праваслаўная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 99 двароў, 518 жыхароў, панскі двор, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1818 г. манастыр быў скасаваны, Петрапаўлаўская царква стала прыходскай. У сяле дзейнічала драўляная Праабражэнская царква (на месцы якой у 1877 г. пабудавана царква ў імя святых Ануфрыя і Мітрафана.). У 1861 г. ў сяле 62 двары, 576 жыхароў, царква, касцёл. У 1886 г. сяло, 52 двары, 458 жыхароў, цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзілі 5 навакольных вёсак, у Вызненскай вол. Слуцкага павета. На працягу года праходзілі 3 кірмашы. Паводле перапісу 1897 г. сяло (136 двароў, 895 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, піцейны дом) і маёнтак ( 5 двароў, 37 жыхароў, вінакурны з-д). На пач. 20 ст. жыхары сяла валодалі 1186,74 дзес. зямлі. У 1903 г. адкрылася царк.-прыходская школа. У 1909 г. 150 двароў, 974 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1920 г. на базе маёнтка быў створаны саўгас «Старчыцы». З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Стар-





чыцкага с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 230 двароў, 1162 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар». У калгасе працавалі кузня, ветраны млын, у саўгасе «Старчыцы» — маслазавод, паравы млын. 27.2.1938 г. вёска перайменавана ў Акцябр, сельсавет — у Акцябрскі. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 258 двароў, 1174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 121 двор і загубілі 45 жыхароў, 17 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 50 вяскоўцаў загінулі на франтах, 7 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1076 жыхароў. У 2004 г. 216 гаспадарак, 489 жыхароў. У 2013 г. у вёсцы цэнтр ААТ «Вікторыя-Агра», базавая школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, клуб, б-ка, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк». На ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1972 г. каля сельсавета пастаўлены абеліск.

**АНАНЧЫЦЫ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 180 км ад Мінска, на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 184 гаспадаркі, 459 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 91 жыхар мужчынскага полу, уладанне Слуцкага Троіцкага манастыра, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска, казённая маёмасць. У 1870 г. вёска, 55 душ мужчынскага полу, цэнтр Ананчыцкай сельскай грамады, у Ленінскай вол. Мазырскага павета. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 1343,73 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 123 двары, 740 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная мяжа». У 1936 г. пачала працаваць электрастанцыя. На 1.1.1941 г. 184 двары, 784 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 184 двары) і загубілі 55 мірных жыхароў, 1 вяскоўца вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. У 1961 г. калгас быў узбуйнены і атрымаў імя Дзяржынскага, у Ананчыцах размясцілася цэнтр. сядзіба калгаса. З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 226 гаспадарак, 1048 жыхароў. У 2004 г. 216 гаспадарак, 577 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба ААТ «Ананчыцы», базавая школа-сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. У 1967 г. на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі у Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**АСТРОЎКІ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада, якая праходзіць каля вёскі. 72 гаспадаркі, 117 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе



Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 158 сял. душ (77 мужчынскага, 81 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 126 жыхароў, у складзе маёнтка Прусы. У 1843 г. ўласнасць кн. Л.Вітгенштэйна, арандаваў памешчык Ф.Жыбутовіч. Паводле інвентару 1843 г. 31 двор, 184 жыхары, карчма. У 1870 г. вёска, 77 душ мужчынскага полу, у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 338 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска (504,64 дзес. зямлі), цэнтр сельскай грамады. У 1909 г. 65 двароў, 450 жыхароў. У 1917 г. 79 двароў, 508 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1923 г. школу ў в. Прусы (за 3 км) наведвалі 85 вучняў з в. Астроўкі. З 20.8.1924 г. вёска ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 98 двароў, 541 жыхароў. На 1.1.1941 г. 115 двароў, 435 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 1 жыхара на прымусовыя работы ў Германію. 47 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 546 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». У 2004 г. 99 гаспадарак, 199 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы), з 2013 г. магазін.

**БАЛОТЧЫЦЫ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2013).

Вядома з 1-й пал. 19 ст. У 1844 г. вёска, цэнтр маёнтка, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 259 рэвізскіх душ мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады, побач маёнтак, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 34 двары, 207 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхары засценка валодалі 1069,77 дзес. зямлі. У 1909 г. 34 двары, 250 жыхароў. У 1917 г. 45 двароў, 267 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-па Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак, 53 двары, 250 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 52 двары, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 162 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік». У 2004 г. ў вёсцы 18 двароў, 23 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы).

**БАРАВАЯ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 51 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 34 гаспадаркі, 57 жыхароў (2013).

Вядома з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. пад назвай Баравая існавалі 2 урочышчы (у кожным па 1 двары і 8 жыхароў) і маёнтак, у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. ў маёнтку 1 двор, 20 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупірава-

на герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. вёска, 27 двароў, 176 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Рожанскім с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. 64 двары, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 10 двароў і загубілі 27 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 г. ў Чырвонаслабодскім пас. Савеце Старобінскага р-на Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 28.8.1964 г. ў Рожанскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 281 жыхар. У 2004 г. 40 гаспадарак, 85 жыхароў. З 1.4.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**БАРАНЬ ГАРА** — вёска ў Хорастаўскім с/с, за 57 км на ПдЗ ад а горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 187 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар у Ленінскай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. У 1926 г. на хутары Баранава Гара і на хутары Добрае Дрэва, што размяшчаліся побач, налічваліся 73 двары, 464 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Хорастаўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў вёсцы было 12 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 12 двароў) і загубілі 8 жыхароў, 3 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.1.1960 г. вёска ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 30.4.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 26 гаспадарак, 107 жыхароў, у складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа ( цэнтр — в. Хорастава).

**БЕЛАЕ БАЛОТА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Івацэвічы—граніца Расіі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 46 сял. душ (25 мужчынскага, 21 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 21 жыхар. У 1870 г. засценак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 29 жыхароў. У 1909 г. 5 двароў, 49 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.— ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 59 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы Шлях». У калгасе працавала кузня. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 35 жыхароў. У Вял.



Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 88 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**БРАНЧЫЦЫ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 13 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 127 км ад Мінска, каля р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 59 гаспадарак, 98 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 12 служб, шляхецкая ўласнасць у Слуцкім княстве Навагрудскага ваяв. ВКЛ. У 1628 г. ў Бранчыцах 49 дымоў сялянскіх і 4 дымы зямян, 3 млыны, фальварак з панскім дваром. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 232 сялянскія душы (187 мужчынскага, 145 жаночага полу), цэнтр маёнтка, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 87 двароў, 385 жыхароў, драўляная Георгіеўская царква, карчма, 2 млыны (у т.л. — вадзяны, на р. Саволкі, на 1 паставу), панскі двор. У 1840 г. арандатар маёнтка памешчык Бістром з удзелам прыхаджан арганізаваў узвядзенне з дрэва новага будынка Георгіеўскай царквы. У 1861 г. 48 двароў, 413 жыхароў. У 1870 г. сяло, цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзілі 2 вёскі, і маёнтак, уласнасць памешчыка Шпілеўскага, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. г. вучыліся 22 хлопчыкі. У 1886 г. 48 двароў, 456 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло (110 двароў, 723 жыхары, хлебазапасны магазін, царква) і маёнтак (5 двароў, 30 жыхароў). У 1907 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. У пач. 20 ст. жыхары сяла валодалі 945,86 дзес. зямлі. У 1909 г. ў сяле 148 двароў, 946 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1920 г. на базе маёнтка створаны саўгас «Бранчыцы». Дарэв. нар. вучылішча ператворана ў пач. школу, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным маёнтку. Школу наведвалі 104 вучні з сяла і 4 навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. сяло ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 186 двароў, 936 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму». У калгасе працавалі кузня, ветраны млын, ваўначоска. На 1.1.1941 г. вёска, 185 двароў, 627 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 9 двароў і загубілі 3 жыхароў, 12 жыхароў вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. 31 вясковец загінуў на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г.вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1967 г. ў цэнтры вёскі ў гонар землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік. У 1970 г. 686 жыхароў, цэнтр саўгаса «Случ». У 2004 г. 75 гаспадарак, 160 жыхароў, дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. З 1.3.2010 г. ў складзе Чыжэвіцкага с/с. Вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін). У 1967 г. ў цэнтры вёскі ў гонар землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік.





**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 67 гаспадарак, 122 жыхары (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. назву Бярозаўка мелі 2 хутары ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. на адным хутары 10 двароў, 49 жыхароў, на другім — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. засценак, 7 двароў, 40 жыхароў, у 1917 г. 7 двароў, 103 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. ў кастр.—ліст. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зажэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. засценак, 13 двароў, 63 жыхары. Непадалёк знаходзіўся аднайменны хутар, 4 двары, 12 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «9 Студзеня». На 1.1.1941 г. вёска, 74 двары, 355 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 65 двароў і загубілі 3 жыхароў, 4 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 21 вясковец загінуў на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 338 жыхароў, у складзе саўгаса «Перадавік». У 2004 г. 63 гаспадаркі, 120 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в. Зажэвічы), магазін.

**ВЕЙНА** — вёска ў Капацэвіцкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 169 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 75 гаспадарак, 265 жыхароў (2013).

У пач. 20 ст. хутар у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., з жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Гаўрыльчыцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.8.1979 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 2004 г. дзейнічала базавая школа. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ланькі» (цэнтр — в. Гаўрыльчыцы), магазін, царква хрысціян веры евангельскай. З 1.7.2013 г. ў Капацэвіцкім с/с.

**ВЕСКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 28 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 115 гаспадарак, 289 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 10 служб, шляхецкая ўласнасць у Слуцкім княстве. У 1667 г. вёска ў складзе маёнтка Вызна, у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 227 сял. душ (115 мужчынскага, 112 жаночага полу), у складзе маёнтка Устронь, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., у вёсцы мелася карчма. У 1800 г. 31 двор, 219 жыхароў. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 34 двары, 256 жыхароў, уласнасць ген.-маёра Г.Прушынскага. У 1858 г. ў вёсцы 123 сял. душы мужчынскага полу. У 1860 г. ўласнасць памешчыка Прушынскага. У 1861 г. ў вёсцы 123 душы мужчынскага полу. У 1870 г. вёска, цэнтр сельскай грама-



ды, у Вызненскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 557 жыхароў, хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 698,11 дзес. зямлі. У 1904 г. ў вёсцы была адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ва ўласным будынку, узведзеным да яе адкрыцця. У 1909 г. 96 двароў, 583 жыхары, у 1917 г. 108 двароў, 674 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэв. школы была створана школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. займаліся 105 вучняў і 40 вучняў з 5 навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. вёска ў Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 123 двары, 654 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пуцілавец», у якім працавалі кузня, ветраны млын. На 1.1.1941 г. 160 двароў, 1174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 7 двароў і загубілі 33 жыхароў, 19 мірных жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 57 вяскоўцаў загінулі на франтах, 10 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 761 жыхар. У 2004 г. 130 гаспадарак, 336 жыхароў, размяшчалася цэнтр. сядзіба СВК «Радавец». У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба ААТ «Веска-Агра», крама, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, бібліятэка-клуб, магазін. Для ўвекавечання памяці землякоў, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны, пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта з імёнамі загінуўшых. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза ген.-маёра А.А.Жука (31.12.1918—18.7.1983).

**ВЕТКА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 144 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань—Чырвоная Слабада. 38 гаспадарак, 104 жыхары (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г., у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. Слуцкай акругі, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў пасёлку 10 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 69 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 38 гаспадарак, 119 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).



*А.А.Жук.*

**ВІШНЁЎКА** — пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска, на р. Волка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Івацэвічы—граніца Расіі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Вішнёўка вядома з пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў пасёлку налічвалася 7 двароў, 42 жыхары. Пасялковыя дзеці наведвалі школу ў Жываглодавічах (за 3 км), у 1923/24 навуч. г. там налічвалася 9 вучняў з Вішнёўкі. На 1.1.1941 г. ў пасёлку 6 двароў, 21 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. аку-

піравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор і загубілі 1 жыхара. Тры вяскоўцы загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 14 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. пасёлак на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ВОСАВА** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 65 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 195 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 109 гаспадарак, 280 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска (Восава, яна ж Восаўская карчма), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. вёска, 22 жыхары мужчынскага полу, знаходзілася ў секвестры за казённы доўг. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Дзякавічы, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 28 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе Рогаўскай сельскай грамады, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 228,77 дзес. зямлі. У 1909 г. 33 двары, 232 жыхары, у 1917 г. 45 двароў, 292 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Князь-Возерскім (з 5.12.1931 г. Чырвонавозерскім) с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. ў Жыткавіцкім р-не Мазырскай акругі, з 25.8.1925 г. зноў у Старобінскім р-не Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 47 двароў, 282 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна». На 1.1.1941 г. 75 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. знішчылі вёску (усе 75 двароў) і загубілі 192 жыхары. 25 жыхароў акупанты вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 18 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Даманаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 70 гаспадарак, 366 жыхароў, цэнтр калгаса «Парыжская камуна». У 2004 г. 113 гаспадарак, 347 жыхароў, размяшчалася цэнтр. сядзіба СВК «Заброддзе». У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын), фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін.

**ВЯЛІКАЯ АЛЬШАНКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 84 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. засценак у складзе Старчыцкай сельскай грамады, у Вызнянскай вол.Слуцкага павета. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 13 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. ў засценку 31 двор, 187 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхары засценка валодалі 260,4 дзес. зямлі. У 1909 г. 23



двары, 159 жыхароў, у 1917 г. 30 двароў, 184 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—лiст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 166 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 14 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім раёнах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 53 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 39 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 171 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 35 гаспадарак, 69 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. на хутары 1 двор, 7 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 58 двароў, 376 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Яскавіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 88 двароў, 495 жыхароў. На 1.1.1941 г. 60 двароў, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 7 жыхароў. У лют. 1943 г. карнікі знішчылі вёску (усе 60 двароў) і загубілі 163 жыхары (вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь). 11 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 280 жыхароў, у складзе саўгаса «Новае жыццё». У 2004 г. 57 гаспадарак, 125 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Доўгаўскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Новапалескі» (цэнтр — пас. Новапалескі). У 1966 г. на ўшанаванне памяці братоў-патрыётаў Івана і Міхаіла Цубаў каля павароту ў бок вёскі з шашы Салігорск—Мікашэвічы пастаўлены помнік (скульптар І.С.Селіханаў).

**ВЯЛІКІ РОЖАН** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска, каля р. Морач (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 346 гаспадарак, 748 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1627 г. сяло ў складзе маёнтка Вызна, уласнасць Радзівілаў, у Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 56 двароў, 228 жыхароў, цэнтр маёнтка Рожан, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У сяле існавалі Узнясенская царква, карчма і вадзяны млын. У 1816 г. пабудаваны хлебазапасны магазін і карчма. Паводле рэвізіі 1833 г. ў вёсцы 249 душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1844 г. 74 двары, 546 жыхароў. Меліся праваслаўная царква, карчма (каля дарогі на Слуцк), вінакурня, саладоўня, кузня, бандарня, хлебазапасны магазін,

*Царква Ушэсця ў в. Вялікі Рожан.*



конны млын, вадзяны млын на р. Морач. У 1845 г. пабудаваны новы прыходскі храм на сродкі кн. Вітгенштэйна. У 1858 г. сяло, 221 сял. душа мужчынскага полу, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1861 г. 60 двароў, 538 жыхароў. У 1886 г. сяло, цэнтр сельскай грамады, 65 двароў, 505 жыхароў, царква, аднакласнае нар. вучылішча, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. У 1890/91 навуч. г. ў нар. вучылішчы вучыліся 45 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. 114 двароў, 814 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом. На пач. 20 ст. жыхары сяла валодалі 1877,95 дзес. зямлі. У 1909 г. 162 двары, 1064 жыхары. Побач маёнтак Рожан. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяводства. Паводле перапісу 1921 г. 223 двары, 1199 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. 410 двароў, 1640 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 14 двароў і загубілі 98 жыхароў, 19 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 78 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Ва ўрочышчы Шылава ў Вял. Айч. вайну базіраваўся Чырвонаслабодскі падп. райкам КП(б)Б і штабы партыз. брыгад 12-й кавалерыйскай імя Сталіна і 32-й імя Калініна. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 г. ў Чырвонаслабодскім пас. Савеце Старобінскага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 8.2.1964 г. вёска — цэнтр Рожанскага с/с, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 290 жыхароў. У 2004 г. 434 гаспадаркі, 1014 жыхароў. З 1.4.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), сярэдняя школа-сад, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, кафэ, пажарны аварыйна-выратавальны пост. Узнясенская царква (1985–88). У 1965 г. ў гонар Чырвонаслабодскага падп. райкама КП(б)Б і партыз. брыгад 12-й кавалерыйскай імя Сталіна і 32-й імя Калініна пастаўлены абеліск. У 1968 г. за 4 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Шылава, на магілах партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**ВЯЛІКІЯ ЗАЎШЫЦЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск–Чырвоная Слабада. 142 гаспадаркі, 323 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. Заўшыцы, сяло, 7 службаў, побач аднайменны фальварак, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 70



двароў, 455 жыхароў, драўляная царква, панскі двор, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1861 г. сяло, 88 двароў, 668 жыхароў. У 1863 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1870 г. сяло, цэнтр сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. Побач маёнтак, уласнасць памешчыка Прушынскага. У 1881 г. ўзведзены новы драўляны будынак Успенскай царквы. У 1884 г. заняткі ў нар. вучылішчы наведвалі 46 хлопчыкаў. У 1897 г. сяло (150 двароў, 866 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, нар. вучылішча, піцейны дом), маёнтак (5 двароў, 38 жыхароў) і засценак (16 двароў, 111 жыхароў). У пач. 20 ст. жыхары сяла валодалі 607 дзес. зямлі. У 1909 г. 203 двары, 1285 жыхароў. У 1910-я г. с. Заўшыцы было падзелена на 2 вёскі: Заўшыцы Вялікія і Заўшыцы Малыя. У 1917 г. ў Вялікіх Заўшыцах 122 двары, 712 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 281 двор, 1387 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Боркі». Працавалі конная крупадзёрка, ветраны млын. На 1.1.1941 г. 163 двары, 645 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 двароў і загубілі 9 жыхароў, 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 43 вяскоўцы загінулі на франтах, 4 — у партыз. барацьбе. У лютым 1943 г. ў баях супраць карнікаў побач з вёскай загінулі 2 партызаны. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 646 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога сацыялізму». З 2003 г. вёска — цэнтр. сядзіба СВК «Заўшыцы». У 2004 г. 154 гаспадаркі, 360 жыхароў. З 2007 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы). Дзейнічаюць (2013) базавая школа-сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт. Каля будынка школы ў 1975 г. на брацкай магіле партызан пастаўлены абеліск. Абапал яго 2 дошкі з імёнамі 74 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВЯЛІЧКАВІЧЫ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Капацэвіцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 173 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 474 гаспадаркі, 1215 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1589 г. сяло, уладанне зямяніна Івана Ляцкоўскага, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 90 жыхароў, у складзе маёнтка Гаўрыльчыцы, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1830 г. ўласнасць кн. Вітгенштэйна, з 1832 г. арандавана (у складзе маёнтка) І.Лычкоўскім. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 14 двароў, 131 жыхар, 2 карчмы і хлебазапасны магазін. У 1858 г. 66 рэвізскіх сял. душ мужчынскага полу. У 1870 г. вёска, цэнтр сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета, існавала праваслаўная капліца. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 281 жыхар. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 498,25 дзес. зямлі. У 1909 г. 70 двароў, 281 жыхар. У 1917 г. 54 двары, 361 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1923 г. была адкрыта пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку. З 20.8.1924 г. вёска ў Капацэвіцкім с/с Старобінскага

р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў Вялічкавічах Новых 32 двары, 205 жыхароў, у Вялічкавічах Старых 38 двароў, 205 жыхароў. Пазней вёскі зноў зліліся. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. цэнтр саўгаса «Прагрэс». У 2004 г. 451 гаспадарка, 1225 жыхароў. У 2013 г. ў аграгарадку цэнтр. сядзіба с.-г. цэха «Вялічкавічы» ААТ «Беларуськалій», сярэдняя школа, 4 магазіны, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, сталовая, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», фізкультурна-аздараўленчы комплекс, царква хрысціян веры евангельскай.

**ГАРОХАЎЦЫ** – вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск–Чырвоная Слабада. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 25 сял. душ (13 мужчынскага, 12 жаночага полу), уласнасць Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 30 двароў, 111 жыхароў. У 1870 г. засценак у складзе Старчыцкай сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 7 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 98 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхары засценка валодалі 33,74 дзес. зямлі. У 1909 г. 14 двароў, 104 жыхары, у 1917 г. 20 двароў, 115 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1923/24 навуч. г. 8 вучняў з Гарохаўцаў наведвалі школу ў Жываглодавічах. З 20.8.1924 г. засценак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 115 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 18 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 71 жыхар, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр – г.п.Чырвоная Слабада).

**ГАЎРЫЛЬЧЫЦЫ** – вёска ў Капацэвіцкім с/с, за 50 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 180 км ад Мінска, каля р. Лань (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 249 гаспадарак, 581 жыхар (2013).

Вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. ў складзе маёнтка Вызна, шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 34 двары, 294 сял. душы (151 мужчынскага, 143 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, на ўездзе ў вёску карчма, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1810 г. былі пабудаваны вінакурня, конны млын, хлебазапасны магазін. У 1833 г. маёнтак Гаўрыльчыцы, які ўключаў вёскі Гаўрыльчыцы, Вялічкавічы і Лугаў, уласнасць кн. Вітгенштэйна, з 1832 г. арандаваны памешчыкам І.Лычкоўскім. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маён-



тку налічвалася 529 сял. душ. Паводле інвентару 1844 г. ў Гаўрыльчыцах 28 двароў, 145 жыхароў, існавала карчма. У 1858 г. маёнтак, 129 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, цэнтр сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 863,66 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 121 двор, 787 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл.У склад сельсавета ўваходзілі 2 вёскі: Гаўрыльчыцы і Пясчанка. У 1940 г. ў Гаўрыльчыцах 238 двароў, 1208 жыхароў, няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Кірава (пасля ўзбуйнення гаспадаркі ў вёсцы размясцілася яе цэнтр. сядзіба). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 14.8.1979 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 2004 г. 299 гаспадарак, 687 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба ААТ «Ланьскі», урачэбная амбулаторыя, дзіцячы сад, 2 магазіны, Дом культуры, б-ка. З 2013 г. ў Капацэвіцкім с/с.

**ГАЦЬ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 144 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

У пач. 20 ст. хутар у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 1 двор, 8 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 6 двароў, 27 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 пасялкоўцы, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 13 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ГЕРАСІМАЎКА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2013)

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. ў школе ў в. Мазалі налічвалася 10 вучняў з пасёлка. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 64 жыхары. На 1.1.1941 г. 16 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г.





ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 65 жыхароў. У 2004 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ГЛЯДКІ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 26 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска, на р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 20 сял. душ (27 мужчынскага, 23 жаночага полу), мелася карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 34 жыхары. У 1870 г. засценак у Цараўскай вол. Слуцкага павета. У 1885 г. ў засценку адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. г. вучыліся 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 110 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 117 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзеці наведвалі школу ў с. Бранчыцы. З 20.8.1924 г. вёска ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 22 двары, 118 жыхароў. На 1.1.1941 г. 35 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 2 жыхароў у Германію на прымусовыя работы. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 95 жыхароў, у складзе саўгаса «Случ». У 2004 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін). Побач з вёскай аднайменны чыг. прыпынак (на ветцы Слуцк—Салігорск).

**ГОРКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска, каля р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 56 гаспадарак, 144 жыхары (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1858 г. вёска, 17 сял. душ мужчынскага полу, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Старобінскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Мазуршчынскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 70 двароў, 388 жыхароў. У 1930 г. існаваў калгас «Абарона Чырвонай мяжы». На 1.1.1941 г. 46 двароў, 291 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. ў час карнай аперацыі гітлераўцы знішчылі 7 двароў і загубілі 46 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 1950 г. ў калгасе «Іскра», з 1953 г. — «Праўда». З 16.7.1954 г. вёска ў Доўгаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 382 жыхары. У 2004 г. 78 гаспадарак, 207 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. вытв-сці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в. Жоўты Брод), магазін. У 1974 г. каля будынка клуба на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.



**ГОЦК** – вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр сельсавета, за 64 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 194 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 524 гаспадаркі, 1916 жыхароў (2013).

Гоцк вядомы з 2-й пал. 19 ст. У 1858 г. сяло ў маёнтку Чучэвічы, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. сяло, 118 душ мужчынскага полу, у Чучэвіцкай вол. Мазырскага павета. У 1886 г. 40 двароў, 321 жыхар, царква, нар. вучылішча. У 1909 г. 38 двароў, 670 жыхароў. У 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 123 двары, 755жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска – цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 190 двароў, 1200 жыхароў, пач. школа. На 1.1.1941 г. 256 двароў, 1400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. карнікі знішчылі 253 двары і загубілі 110 жыхароў. 12 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 – у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Лугскім, з 8.9.1959 г. Чучэвіцкім, з 14.1.1963 г. Хорастаўскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1969 г. 450 гаспадарак, 2310 жыхароў. У 1984 г. створаны саўгас «Гоцкі». З 11.5.1987 г. вёска – цэнтр сельсавета. У 2004 г. 637 гаспадарак, 2066 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «Гоцкі». З 2007 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа (цэнтр – в. Хорастава). У 2013 г. ў вёсцы сярэдняя школа, дзіцячы сад, 6 магазінаў, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт.

**ГРУЗДАВА** – вёска ў Хорастаўскім с/с, за 53 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 183 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей на шашы Мінск–Мікашэвічы. 55 гаспадарак, 132 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяводства. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Хорастаўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. 40 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 5 жыхароў. З 1942 г. вёска ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне. У лют. 1943 г. карнікі знішчылі 38 двароў і загубілі 38 жыхароў. У баях за вёску ў 1943 г. загінулі 8 партызан. 30.5.1944 г. непадалёк ад вёскі загінуў экіпаж самалёта Лі-2 (камандзір лейтэнант Б.І.Паўлаў), які ляцеў з Вялікай зямлі на партыз. аэрадром ва ўрочышчы Векерава, дзе ў 1943–44 гг. базіраваліся Пінскі падп. абкам КП(б)Б, штаб партыз. злучэння Пінскай вобл. Вёска вызвалена ў пач. ліп. 1944 г. 4 вяскоўцы загінулі на франтах, 2 – у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.1.1960 г. вёска ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 30.4.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 54 гаспадаркі, 273 жыхары, у складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 62 гаспадаркі, 166 жыхароў, магазін. У

2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа (цэнтр — в. Хорастава), магазін. За 2,5 км на Пд ад вёскі ва ўрочышчы Векерава помнік у гонар Пінскага падп. абкама КП(б)Б, штаба партыз. злучэння Пінскай вобл., якія базіраваліся тут у 1943—44 гг. У 1963 г. на брацкай магіле сав. партызан і лётчыкаў у Векераве пастаўлены помнік — стэла, на якой умацаваны вінт самалёта і 2 мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**ГРЫБОЎНЯ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я гг. ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў пасёлку 12 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 28 жыхароў. У 2004 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ДАМАНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 51 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 184 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 93 гаспадаркі, 206 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1677 г. сяло, 29 дымоў, уласнасць Радзівілаў, у Скавышынскай вол. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 108 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 139 душ мужчынскага полу, цэнтр Даманавіцкай сельскай грамады, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета. Побач аднайменны маёнтак, уласнасць кн. Вітгенштэйна. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 1688,81 дзес. зямлі. У 1909 г. 102 двары, 777 жыхароў. У 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 120 двароў, 827 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1919 г. была створана пач. школа, якая размяшчалася ў наёмным будынку, за наём якога сяляне плацілі 36 пудоў жыта. Школу наведвалі дзеці з 6 навакольных вёсак. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. вёска акупіравана польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Даманавіцкага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 407 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Зара Палесся». У 1935 г. сельсавет аб'ядноўваў 13 вёсак, дзейнічалі сельская бальніца, хата-чытальня. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 142 двары, 703 жыхары. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 142 двары) і загубілі 270 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі загінулі 9 партызан. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах, 6 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1961 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Дзяржынскага. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 134 гаспадаркі, 509 жыхароў. У 2004 г. 120 гаспадарак, 307 жыхароў, дзейнічалі клуб, б-ка, аддз. сувязі. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ананчыцы» (цэнтр —



в. Ананчыцы), магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1960 г. на паўн.-усх. ўскраіне вёскі на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. У 1967 г. ў цэнтры вескі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі у Вял. Айч. вайну, насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

**ДЗЕДАВІЧЫ**, Дзядовічы, пасёлак у Акцябрскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, за 143 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Дзедавічы вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1572 г. сяло ў складзе маёнтка Новы Двор, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 63 сялянскія душы ( 33 мужчынскага, 30 жаночага полу). Побач размяшчалася вёска Дзедзьва, 122 сял. душы. У абедзвюх вёсках мелася па карчме на ўездзе. Уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 41 двор, 222 жыхары. У 1870 г. вёска ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1924 г. ў школе ў в. Мазалі вучыліся 10 дзяцей з Дзедавіч. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 41 жыхар. На 1.1.1941 г. 20 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 1 мірнага жыхара. 4 пасялкоўцы загінулі на франтах. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 82 жыхары, у складзе калгаса « Чырвоная Ніва». У 2004 г. 14 двароў, 22 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. аграфірмы «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ДОБРАЯ ЛУКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 49 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 164 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 51 гаспадарка, 82 жыхары (2013).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. вёска ў складзе Рожанскай сельскай грамады, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Рожанскім с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 64 двары, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары і загубілі 11 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 г. ў Чырвонаслабодскім пас. Савеце Старобінскага р-на. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 8.2.1964 г. ў Рожанскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 310 жыхароў. У 2004 г. 65 гаспадарак, 139 жыхароў. З 1.4.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), магазін.

**ДОЎГАЕ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр сельсавета, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска, каля р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 589 гаспадарак, 1559 жыхароў (2013).


*Л.З.Муравіцкі.*

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 5 служб, шляхецкая ўласнасць, у Бярэзнікаўскай вол. ў Слуцкім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска пры р. Случ, 34 двары, 166 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 35 душ мужчынскага полу, мелася праваслаўная капліца, у складзе Мелкавіцкай сялянскай грамады, у Дзякавіцкай вол. Мозырскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 240 жыхароў, праваслаўная капліца. У 1902 г. на сродкі насельніцтва пры падтрымцы духавенства была адкрыта царк.-прыходская школа, якая атрымала ўласны будынак (спец. пабудаваны драўляны дом, крыты саломай). У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 212,5 дзес. зямлі. У 1909 г. 60 двароў, 251 жыхар. Побач з вёскай размяшчаліся 3 аднайменныя хутары. У 1917 г. ў вёсцы 38 двароў, 291 жыхар. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнай школы ў 1922 г. была створана пач. школа, у якой вучыліся дзеці з навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Доўгаўскага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 364 жыхары. На 1.1.1941 г. 84 двары, 429 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 двароў і загубілі 3 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. У Вял. Айч. вайну загінулі 67 землякоў з вёсак сельсавета. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. Мясцовы калгас у 1959 г. быў узбуйнены і перайменаваны ў «40 гадоў БССР». З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1085 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «40 гадоў БССР». У 2004 г. 574 гаспадаркі, 1678 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы размешчаны цэнтр. сядзіба ААТ «БелСлуч», перасоўная механізаваная калона № 79, ААТ «Тэхсэрвіс-Доўгае», участак Старобінскага аб'яднання камунальнай службы. Дзейнічаюць участковая бальніца, сярэдняя школа, дзіцячы сад, спартыўны комплекс, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 5 магазінаў, пажарны пост Міністэрства надзвычайных сітуацый, Дзімітраўская царква. У 1967 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Л.З.Муравіцкага (31.12.1916–30.11.1941) — лётчыка-знішчальніка, які знішчыў 12 самалётаў праціўніка, 2 з іх тараніў. Іменем героя названа вуліца ў Доўгім, яму пастаўлены помнік у Старобіне.

**ДОЎГАЕ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 122 сял. душы (61 мужчынскага, 61 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырванаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 27.02.1938 г. ў Акцябрскім с/с. У 1926 г. 8 двароў, 45 жыхароў. На 1.1.1941 г. 19



дывароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 мірных жыхароў, 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах, 1 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 83 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр – в. Мазалі).

**ДОШНАВА** – былая вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань – Чырвоная Слабада.

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 35 сял. душ (18 мужчынскага, 17 жаночага полу), уласнасць кн. Д. Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 119 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». На 1.1.1941 г. вёска, 51 двор, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары і загубілі 2 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах. З 28.8.1964 г. вёска ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 147 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. На 1.1.2007 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр – г.п.Чырвоная Слабада). 24.11.2010 г. вёска выключана з рэестру населеных пунктаў.

**ДРАЧАВА** – вёска ў Даманавіцкім с/с, за 42 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 172 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 119 гаспадарак, 360 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутары Вялікае Драчава і Малое Драчава ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У лютым–снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. школу ў в. Даманавічы (за 4 км) наведвалі 10 вучняў з хутароў. З 20.8.1924 г. хутары ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў Малым Драчаве 7 двароў, 63 жыхары, у Вялікім Драчаве 10 двароў, 59 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 18 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. ў час карнай аперацыі гітлераўцы знішчылі вёску (усе 18 двароў) і загубілі 9 жыхароў. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 1961 г. вёска ўваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 25 гаспадарак, 112 жыхароў. У 2004 г. 115 гаспадарак, 359





жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын), базавая школа-сад, магазін, урачэбная амбулаторыя, лясніцтва, участкі УП «ЖКГ-комплекс» і КУП «Салігорскваданал».

**ДУБАВА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 35 гаспадарак, 71 жыхар (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чырвонаслабодскім с/с (з 1935 г. ў местачковым, з 1938 г. ў пас. Савеце) Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. ў складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі». У 2004 г. 46 гаспадарак, 112 жыхароў, магазін. З 1.1.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), дзейнічае магазін.

**ДРЫЗГАЛОВІЧА**, і м я Д р ы з г а л о в і ч а, пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 138 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1980-я г., названы імем Ларывона Мікітавіча Дрызгаловіча (1883—1919), ураджэнца суседняй в. Жабін. Член партыі бальшавікоў з 1917 г., Ларывон Дрызгаловіч быў удзельнікам трох рэвалюцый і грамадзянскай вайны. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі штурмаваў Зімні палац, гутарыў з Леніным. Вярнуўшыся на радзіму кіраваў падполлем, арганізоўваў партыз. атрады на тэр., акупіраванай польскімі войскамі. Арыштаваны польскімі легіянерамі ў жн. 1919 г., расстраляны ў Старобіне. У Старобіне на магіле Дрызгаловіча пастаўлены помнік, яго імем названа вуліца. У 1986 г. 48 гаспадарак 137 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2004 г. 36 двароў, 92 жыхары У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ДУБЕІ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 5 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 98 гаспадарак, 145 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1582 г. мястэчка, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска 90 сял. душ (56 мужчынскага, 34 жаночага полу). уласнасць Корсака, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска 21 двор, 90 жыхароў, у складзе маёнтка Прусы, мелася карчма, уласнасць Д. Радзівіла. Паводле інвентару 1843 г. вёска 26 двароў, 159 жыхароў, мелася карчма уласнасць кн. Вітгенштэйна, арэндаваная памешчыкам Ф.Жыбутовічам. Вёска належала да праваслаўнага прыхода царквы Раства Багародзіцы ў с. Прусы У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Прусы, 80 сялянскіх душ мужчынскага полу, уласнасць князя Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 81 душа мужчынскага полу, у складзе Краснадворскай сельскай



грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1879 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. г. вучыліся 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 350 жыхароў, хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 662,25 дзес. зямлі. У 1909 г. 67 двароў, 425 жыхароў. У 1917 г. 71 двор, 402 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. на базе дарэвалюцыйнай школы была створана пач. школа, якую наведвалі і вучні з в. Іздрашава. Школа размяшчалася ў наёмнай сялянскай хаце, крытай саломай. З 20.8.1924 г. вёска ў Краснадворскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 88 двароў, 490 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударная праца», у якім працавала кузня. На 1.1.1941 г. 117 двароў, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 507 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка». У 2004 г. 100 гаспадарак, 178 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы).

**ДУБІЦА** — вёска ў Капацэвіцкім с/с, за 50 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 180 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 61 гаспадарка, 271 жыхар (2013).

Вядома з пач. 20 ст., хутар у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. калонія, 7 двароў, 35 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Гаўрыльчыцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Кірава. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.8.1979 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 2004 г. 68 гаспадарак, 279 жыхароў. З 2013 г. ў Капацэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ланьскі» (цэнтр — в. Гаўрыльчыцы), магазін, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», царква хрысціян веры евангельскай.

**ДУБОЧКІ** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 63 жыхары. У 2004 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).





Узнікла як пасёлак у 1930-я г. ў Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. вёска, 9 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара, 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 2 вяскоўцы загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах. З 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 27 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 6 двароў, 7 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ЖАБІН** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Чыжэвіцкім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 111 гаспадарак, 94 жыхары (2013)

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. Зебіна, сяло, 29 валок зямлі, у складзе маёнтка Мецявічы, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1600 г. сяло, 35 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць, у Нячаеўскай вол. Слуцкага княства. У 1682 г. сяло, 64 дымы, у складзе маёнтка Бранчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 328 сял. душ (174 мужчынскага, 154 жаночага полу), фальварак, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 58 двароў, 336 жыхароў. У 1814 г. ў вёсцы пабудаваны дом ваен. пастою, меўся хлебазапасны магазін. Паводле інвентару 1844 г. вёска, 54 двары, 235 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. Маёнтак і 1875 дзес. зямлі былі арэндаваныя памешчыкам Каўнацкім. У 1870 г. вёска, 154 душы мужчынскага полу, у складзе Чыжэвіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1879 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 16 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 115 двароў, 692 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 900,26 дзес. зямлі. У 1909 г. 125 двароў, 769 жыхароў. У 1917 г. 113 двароў, 639 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 161 двор, 715 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У калгасе працавалі кузня, ваўначоска, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 268 жыхароў. У 1971 г. на базе саўгаса «Старобінскі» арганізаваны саўгас «Гарняк», цэнтр. сядзіба новай гаспадаркі размясцілася ў Жабіне. У 2004 г. ў вёсцы 93 гаспадаркі, 258 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба ААТ «Гарняк», магазін, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, культ.-спарт. цэнтр, аддз. сувязі. Радзіма Л.М.Дрызгаловіча, камуніста, удзельніка трох рэвалюцый. На акупіраванай палякамі тэр. ён кіраваў падполлем, арганізоўваў партыз. атрады. Быў схоплены польскімі легіянерамі ў жн. 1919 г. і расстраляны ў Старобіне. На магіле Дрызгаловіча ў Старобіне пастаўлены помнік, яго імем названа вуліца ў Старобіне і пасёлак у Чыжэвіцкім с/с.

**ЖОЎТЫ БРОД** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 29 км на Пд ад горада і чыг.



ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 162 км ад Мінска, каля р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 36 гаспадарак, 76 жыхароў (2013).

Вёска вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар, 7 двароў, 53 жыхары, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. — 6 двароў, 41 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Мазуршчынскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 85 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», у які ўступілі таксама жыхары вёсак Камень і Дуброўна. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 29 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1943 г. гітлераўцы знішчылі 10 двароў і загубілі 42 жыхары. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 36 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. да калгаса «Чырвоная Дуброва» далучылі суседнія гаспадаркі, узбуйнены калгас назвалі «Іскра», у 1953 г. перайменавалі ў калгас «Праўда». З 16.7.1954 г. вёска ў Доўгаўскім с/с. З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 211 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «Праўда». У 2004 г. 50 гаспадарак, 92 жыхары. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд», магазін, клуб. У 1966 г. на магіле ахвяр фашызму, якіх знішчылі нямецка-фашысцкія захопнікі, пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. У 1967 г. каля будынка клуба на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлена стэла.

**ЗААЗЁРНЫ** — пасёлак у Зажэвіцкім с/с, за 10 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 137 км ад Мінска, каля Салігорскага вадасховішча (на р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2013). У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы).

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 72 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 200 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 25 гаспадарак, 41 жыхар (2013).

Узнікла ў 18 ст. каля прыдарожнай карчмы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. хутар у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 60 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. Заброддзе акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. хутарскія дзеці наведвалі школу ў в. Скаўшын (за 3 км). З 20.8.1924 г. хутар у Князь-Возерскім (з 5.12.1931 г. ў Чырвонавозерскім) с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі, з 25.8.1925 г. зноў Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 54 жыхары. На 1.1.1941 г. вёска, 64 двары, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. ў час карнай





аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 64 двары) і загубілі 215 жыхароў. У Заброддзі карнікі загубілі таксама 127 жыхароў в. Восава. 5 жыхароў акупанты вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 3 вяскоўцы загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Даманавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 59 гаспадарак, 275 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». У 2004 г. 38 гаспадарак, 78 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын). У 1959 г. на магіле мірных жыхароў вёскі, якіх гітлераўцы загубілі ў лют. 1943 г., пастаўлены абеліск. У 1969 г. на магіле загубленых фашыстамі жыхароў в. Восава пастаўлены абеліск.

**ЗАБРОДСКІЯ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. Вёска ў Навагрудскім, з 1791 г. ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв., уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска і маёнтак, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У склад маёнтка ўваходзіла в. Чыжоўка, якая знаходзілася за 1 вярсту ад маёнтка. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічвалася 167 сял. душ мужчынскага полу. У 1844 г. ўласнасць кн. Вітгенштэйна, маёнтак быў здадзены на 12 гадоў у арэнду памешчыку А.Акалаву. У маёнтку меліся панскі дом і гасп. пабудовы (лядоўня, вазоўня, стайня і інш.), вадзяны і конны млыны. У 1870 г. засценак у складзе Чапялёўскай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 120 жыхароў. На пач. 20 ст. жыхары засценка валодалі 107,67 дзес. зямлі. У 1909 г. ў засценку 20 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. 19 двароў, 107 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1921 г. дзеці наведвалі школу ў с. Чыжэвічы. З 20.8.1924 г. засценак у Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 100 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 31 двор 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 81 жыхар, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2004 г. 18 гаспадарак, 38 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЗАВЫХАД** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 60 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 190 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 17 гаспадарак, 34 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У 1917 г. засценак, 14 двароў, 92 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. ўрочышча акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзеці з Завыхада наведвалі школу ў в. Скаўшын (за 2 км). З 20.8.1924 г. ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 19



двароў, 126 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас « 2-гі год 2-й пяцігодкі». На 1.1.1941 г. вёска, 39 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі вёску (усе 39 двароў) і загубілі 21 жыхара, 5 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 39 гаспадарак, 254 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма». У 2004 г. 34 гаспадаркі, 60 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын).

**ЗАГЛІННАЕ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска, каля шашы Мінск—Мікашэвічы. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 2 двары, 10 жыхароў, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. існавалі 3 хутары пад назвай Загліннае: 1 двор, 11 жыхароў; 1 двор, 17 жыхароў; 1 двор, 3 жыхары. У 1917 г. яны лічыліся адным хутарам, у якім 5 двароў, 47 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. Загліннае акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Мазуршчынскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутары 14 двароў, 61 жыхар. У 1929 г. створаны калгас «Падмурак сацыялізму». На 1.1.1941 г. вёска, 35 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.2.1943 г. карнікі знішчылі вёску (усе 35 двароў) і загубілі 150 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. мясцовы калгас далучылі да калгаса «Іскра», які ў 1953 г. быў перайменаваны ў калгас «Праўда». З 16.7.1954 г. вёска ў Доўгаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 131 жыхар. У 2004 г. 18 гаспадарак, 29 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в. Жоўты Брод). У 1973 г. на магіле 70 мірных жыхароў, загубленых фаш. карнікамі, пастаўлена мемарыяльная стэла, на магіле 34 ахвяр фашызму — абеліск.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 30 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 170 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2013).

У пач. 20 ст. ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. хутар акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. ў складзе калгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2007 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы).

**ЗАЙКАВА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск





ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядома з канца 19 ст . У 1897 г. ўрочышча ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 10 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 41 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ЗАЖЭВІЧЫ** — вёска (з 2009 аграгарадок), цэнтр сельсавета, за 8 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 141 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 320 гаспадарак, 672 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. ўзгадваецца як Зажэва, сяло, 15 валок зямлі, у складзе маёнтка Пагост, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1600 г. сяло Зажэвічы, 20 валок зямлі, у Нячаеўскай вол., у Слуцкім княстве. У 1627 г . сяло ў складзе маёнтка Мецявічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 61 двор, 225 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска, 207 сялянскіх душ мужчынскага пол у складзе маёнтка Трасцянец. У 1861 адкрыта школа граматы. У 1870 г. вёс ка, 207 душ мужчынскага полу, цэнт Зажэвіцкай сельскай грамады, у Пагос таўскай вол. Слуцкага павета. У 1879 сяляне, затрыманыя пры парубцы пан скага лесу, аказалі паліцыі супраціўлен не. У 1890 г. ў школе граматы навуча ліся 30 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Па водле перапісу 1897 г. 114 двароў, 110 жыхароў, школа граматы, 2 ветраны млыны, хлебазапасны магазін, 2 крамь піцейны дом. У пач. 20 ст. вёска, 1035, дзес. зямлі. У 1905 г. для школы бы узведзены асобны будынак (дагэтул для яе наймалі памяшканне). У 1907 адбылася сутычка сялян, якіх заспел за вырубкай лесу ў памешчыка Карка зовіча, з паліцыяй. У 1909 г. 171 двор 1245 жыхароў, у 1917 г. 187 двароў, 134 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіра вана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі вой скамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе да рэвалюцыйнай школы была створан сав. школа 1-й ступені, у якой у 1922 налічвалася 299 вучняў. З 20.8.1924 вёска — цэнтр Зажэвіцкага с/с Старо бінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. д 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінска вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пе радавік». У калгасе працавалі кузня, ветраныя млыны. На 1.1.1941 г. 314 два роў, 1355 жыхароў. У Вял. Айч. вайну канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікам якія загубілі 2 жыхароў, 7 жыхароў вы везлі на прымусовыя работы ў Герма нію. 98 вяскоўцаў загінулі на франта 3 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай аб ласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 1547 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгас «Перадавік». У 2004 г. 340 гаспадара 648 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы — цэнт сядзіба ААТ «Добрыца», сярэдняя шко



ла-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, вет. участак.

**ЗАЛАЗЗЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 157 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 11 гаспадарак, 29 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. фальварак Залаззе (Заціша), у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку 4 двары, 33 жыхары. Побач аднайменнае ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку Залаззе 3 двары, 10 жыхароў, ва ўрочышчы Залаззе-Заціша — 1 двор, 7 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. школу ў в. Веска (адкрытую годам раней, за 4,5 км) наведвалі 14 вучняў з Залаззя. З 20.8.1924 г. вёска ў Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 33 жыхары. На 1.1.1941 г. 17 двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў, 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 80 жыхароў, у складзе калгаса «Пуцілавец». У 2004 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Веска-Агра» (цэнтр — в. Веска).

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 26 гаспадарак, 57 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Упершыню ўзгадваецца як Залесы. У 1566 г. сяло, 15 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 245 сял. душ (123 мужчынскага, 122 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 23 двары, 108 жыхароў. У 1870 г. Залессе, вёска ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета. У 1909 г. ў вёсцы 36 двароў, 240 жыхароў. Непадалёк ад вёскі аднайменнае ўрочышча, 3 двары, 21 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 60 двароў, 287 жыхароў. На 1.1.1941 г. 50 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 1 двор, загубілі 6 жыхароў, 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 157 жыхароў, у складзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 39 гаспадарак, 107 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЗАПЕРАХОДНАЕ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 65 км на ПдУ ад горада і





чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 195 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2013).

У пач. 1920-х гг. 2 хутары. З 20.8. 1924 г. ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 2 хутары: 3 двары, 16 жыхароў; 1 двор, 8 жыхароў. Быў арганізаваны калгас імя Кірава. На 1.1.1941 г. вёска, 19 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 37 гаспадарак, 187 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма». У 2004 г. 26 гаспадарак, 45 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын).

**ЗАСТАРЫННЕ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 33 гаспадаркі, 62 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 359 сял. душ (174 мужчынскага, 185 жаночага полу), уласнасць кн. Д. Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., мелася карчма. У 1858 г. вёска — цэнтр маёнтка, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска і маёнтак у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку Застарынне, 1 двор, 50 жыхароў, працаваў завод па вырабе кафлі. У 1909 г. ў вёсцы 33 двары, 208 жыхароў, у 1917 г. 37 двароў, 230 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. Застарынне акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 46 двароў, 241 жыхар. На 1.1.1941 г. 37 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 202 жыхары, у складзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 44 гаспадаркі, 93 жыхары, магазін. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЗАЦІШША** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 154 ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 183 сял. душы (97 мужчынскага, 86 жаночага полу), шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с (з 1935 г. местачковым, з 1938 г. пас. Савеце) Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 59 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 5 двароў,



28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ЗЯЛЁНЫ БОР** (да 1964 г. Гадзень) — вёска у Доўгаўскім с/с, за 37 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2013).

У пач. 20 ст. агульную назву Гадзень мелі 4 хутары ў Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 6 двароў, 55 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 67 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. Зялёны Бор акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.— ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 243 жыхары. На 1.1.1941 г. вёска, 50 двароў, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах, 4 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, 28.8.1964 г. перайменавана ў Зялёны Бор, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 213 жыхароў, у складзе калгаса «Новы Свет». У 2004 г. 37 гаспадарак, 85 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае).

**ЗЯЛЁНЫ КУРГАН** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. ў складзе саўгаса «Гарняк». У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ІЗДРАШАВА** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1682 г. Іздрышава, сяло ў Мінскім ваяв., чыншавыя сяляне з Іздрышава за вызначаную плату бралі зямлю ў карыстанне ў с. Жабін суседняга маёнтка Бранчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 22 двары, 130 жыхароў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Дзейнічала драўляная ўніяцкая царква Раства Багародзіцы. У 1870 г. вёска ў складзе Чапялёўскай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 135 жыхароў, праваслаўная капліца. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 124,69 дзес. зямлі. У 1909 г. 21 двор, 112 жыхароў, у 1917 г. 26 двароў, 111 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.— ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З

1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзеці з Іздрашава наведвалі пач. школу ў в. Дубеі (за 2 км). З 20.8.1924 г. вёска ў Краснадворскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 119 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка». У 2004 г. 25 гаспадарак, 39 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр – в. Краснадворцы).

**КАЛІНАЎКА** – пасёлак у Акцябрскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013)

Вядома з канца 19 ст. У 1870 г. хутар у складзе Старчыцкай сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым–снеж. 1918 г. Калінаўка акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 99 жыхароў. На 1.1.1941 г. 19 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 2004 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. «Бальшавік-Агра» (цэнтр – в.Крывічы).

**КАМЕНКА** – пасёлак у Акцябрскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 157 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. хутар у складзе Старчыцкай сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 5 двароў, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр в.Акцябр).

**КАМЕНКА** – пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 136 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я гг., у Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім



р-нах. У 1970 г. 98 жыхароў. У 2004 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**КАМЕНЬ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 30 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы,150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. фальварак у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 10 жыхароў. У 1909 г. хутар, 9 двароў, 43 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г.вёска ў Мазуршчынскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 74 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Дуброва». На 1.1.1941 г. ў вёсцы 13 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Доўгаўскім с/с. У 1957 г. калгас атрымаў новую назву — «Праўда». З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 68 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». У 2004 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в. Жоўты Брод).

**КАМЕНЬ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 1 двор, 6 жыхароў, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. маёнтак і хутар, у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. аднайменныя засценак (1 двор, 43 жыхары), хутар (1 двор, 42 жыхары), маёнтак (1 двор, 15 жыхароў). У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 у Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутарах 14 двароў, 63 жыхары. У канцы 1930-х г. хутары зліліся ў вёску. На 1.1.1941 г. 26 двароў, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1 жыхара. 4 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Новацярушскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 104 жыхары, у складзе калгаса «Перадавік». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы).

**КАМСАМОЛЕЦ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 34 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 158 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 20 двароў, 29 жыхароў (2013).

Засн. ў 1931 г. ў Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на, з 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў вёсцы было 26 двароў,





156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары і загубілі 3 жыхароў. У час акупацыі вёска з 1942 г. ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне. Тут размяшчаліся рэдакцыі падп. газет «Звязда» — органа ЦК і Мінскага падп. абкама КП(б)Б — і «Чырвоная Змена» — органа ЦК і Мінскага абкама ЛКСМБ. 8 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1970 г. 145 жыхароў, у складзе калгаса «Новы Свет». У 2004 г. 31 гаспадарка, 57 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае ). У 1975 г. па вуліцы Партызанская, на доме Г.С.Чарнюка ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар падп. газет «Звязда» і «Чырвоная змена».

**КАМСАМОЛЬСКІ** — пасёлак ў Чырвонаслабодскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань — Чырвоная Слабада. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Жывагладавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў пасёлку 8 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. На франтах загінулі 4 пасялкоўцы. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 25 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. пасёлак на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**КАПАЦЭВІЧЫ** — вёска ў Капацэвіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 163 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 48 гаспадарак, 96 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. сяло, 20 дымоў, шляхецкая ўласнасць. У 1682 г. ў вёсцы 17 дымоў, у складзе маёнтка Бранчыцы, у Слуцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска на р. Морач, 132 сял. душы (74 мужчынскага, 58 жаночага полу ), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., мелася карчма. У 1800 г. 22 двары, 152 жыхары. Паводле рэвізіі 1833 г. ў вёсцы 145 сял. душ, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна, меўся піцейны дом, на р. Морач дзейнічаў вадзяны млын. У 1834 г. пабудавана вінакурня. Паводле інвентару 1844 г. 20 двароў, 135 жыхароў. У 1850 г. вёска — цэнтр маёнтка, 134 сялянскія душы, уласнасць князя Л.П.Вітгенштэйна. У 2-й пал. 19 ст. частка вёскі ўваходзіла ў казённы маёнтак Мікульцы, другая частка належала кн. Вітгенштэйну. У 1870 г. вёска, цэнтр Капацэвіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета, мелася праваслаўная капліца. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 293 жыхары. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 545,93 дзес. зямлі. У 1909 г. 58 двароў, 374 жыхары, у 1917 г. 59 двароў, 382 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У пач. 1920-х гг. на базе маёнтка быў створаны саўгас «Капацэвічы». З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Капацэвіцкага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з



20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 79 двароў, 433 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Мянжынскага. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 126 двароў, 479 жыхароў, у сядзібе Капацэвіцкай МТС 11 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. Капацэвічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У час карнай аперацыі ў лютым 1943 г. карнікі знішчылі вёску (усе 126 двароў) і загубілі 426 жыхароў. Была знішчана і сядзіба Капацэвіцкай МТС (усе 11 двароў), там гітлераўцы загубілі 26 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана, на месцы былой сядзібы МТС у 1970-я гг. вырас пас. Новапалескі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 208 жыхароў. У 1975 г. ў складзе саўгаса «Новае Палессе». У 2004 г. 49 гаспадарак, 99 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Новапалескі» (цэнтр — пас. Новапалескі), магазін. Выканкам сельсавета размешчаны ў пас. Новапалескі. У 1975 г. на ўсх. ускраіне вёскі на магіле ахвяр фашызму насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла.

**КАРЫСЦЬ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 28 гаспадарак, 38 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. маёнтак Новая Карысць, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 4 двары, 40 жыхароў. У 1909 г. засценак, 25 двароў, 153 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 169 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Зажэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 190 жыхароў. Побач аднайменны засценак, 8 двароў, 51 жыхар. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 35 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 162 жыхары, у складзе калгаса «Трэці рашаючы». У 2004 г. 33 гаспадаркі, 47 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Рашаючы» (цэнтр — в. Старыя Цярушкі), размешчаны дом часовага пражывання.

**КАСЫНІЧЫ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 38 гаспадарак, 4 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 60 сял. душ (30 мужчынскага, 30 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Пры ўездзе ў вёску стаяла карчма. Паводле інвентару 1844 г. уласнасць кн. Вітгенштэйна, арэндавалася памешчыкам Акалавым. У 1870 г. засценак, 70 душ мужчынскага полу, у складзе Чыжэвіцкай сельскай грамады, у Цараўскай вол. Слуцкага павета. Побач маёнтак, уласнасць памешчыка Булгака. У 1899 г., калі маёнтак набыў памешчык Рэгель, 4 мая сяляне (якіх сабралася каля 100 чал.) аказалі супраціўленне паліцыі, выкліканай новым гаспадаром, каб высяліць з маёнтка сялянскія сем'і. На пач. 20 ст. жыхары засценка валодалі 31,67 дзес. зямлі. У 1909 г. 47 двароў, 600 жыхароў, у

1917 г. 99 двароў, 493 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. Касынічы акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1922 г. вясковыя дзеці наведвалі школу ў в. Прусы (за 2 км), у якой у 1923 г. налічвалася 40 вучняў з Касыніч. З 20.8.1924 г. вёска ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 115 двароў, 514 жыхароў. На 1.1.1941 г. 90 двароў, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 1 жыхара на прымусовыя работы ў Германію. 39 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 434 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік». У 2004 г. 63 гаспадаркі, 97 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Краснадворскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы), магазін.

**КАЧАВА** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 56 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 186 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2013).

У пач. 20 ст. 2 хутары — Качава і Вялікая Качава, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. школу ў Даманавічах (за 3 км) наведвалі 10 вучняў з Качава. З 20.8.1924 г. хутары ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў Качаве 8 двароў, 44 жыхары. У Вялікім Качаве 18 двароў, 140 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Качава». У канцы 1930-х г. хутары злучыліся ў адну вёску. На 1.1.1941 г. 45 двароў, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1942 г. ў Акцябрска-Любанскай партыз. зоне. Каля вёскі знаходзіўся партыз. аэрадром, на які для партызан злучэння Мінскай вобл. дастаўляліся зброя, боепрыпасы, медыкаменты і інш. У сак. 1943 г. карнікі знішчылі вёску (усе 45 двароў), сагналі ў хлеў 73 жыхароў і спалілі іх. 5 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Вёска вызвалена ў канцы чэрв. 1944 г. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 1961 г. ў калгасе імя Дзяржынскага. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 40 гаспадарак, 213 жыхароў. У 2004 г. 26 гаспадарак, 52 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ананчыцы» (цэнтр — в. Ананчыцы). У 1964 г. на месцы гібелі мірных жыхароў, якіх гітлераўцы загубілі ў сак. 1943 г., пастаўлены абеліск. За 2 км на З ад вёскі, каля дарогі на в. Доўгае, на месцы былога партыз. аэрадрома пастаўлена стэла.

**КОЛАС** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясцовай аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2013).

Вядома з 1920-х гг. З 20.8.1924 г. вёска ў Чырвонаслабодскім с/с (з 1935 г. местачковым, з 1938 г. пас. Савеце) Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 25 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны кал-



гас «Колас». На 1.1.1941 г. 40 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 4 вяскоўцы загінулі на франтах, 2 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 147 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснаслабодскі». У 2004 г. 25 гаспадарак, 43 жыхары, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр – г.п.Чырвоная Слабада).

**КОРЧЫК** – пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 57 жыхароў. У 2004 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр – в. Жабін).

**КРАСНАДВОРЦЫ** – вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр сельсавета, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 370 гаспадарак, 833 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1682 г. сяло ў Слуцкім павеце Мінскага ваяв., у той год чыншавыя сяляне з Краснадворцаў за вызначаную плату бралі зямлю ў карыстанне ў с. Жабін у маёнтку Браньчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 398 сял. душ (209 мужчынскага, 189 жаночага полу), уласнасць кн. Д. Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў сяле 82 двары, 275 жыхароў, драўляная ўніяцкая Петрапаўлаўская царква. У 1838 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Красны Радкоў, уласнасць кн. Вітгенштэйна, арэндаваныя памешчыкам В. Булгарыным. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 74 двары, 485 жыхароў. У 1858 г. фальварак, 8 душ мужчынскага полу, і вёска, 203 сял. душы мужчынскага полу, уласнасць П.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 217 душ мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1886 г. сяло, 51 двор, 532 жыхары, праваслаўныя царква і капліца, у той год адкрылася школа граматы, у якой у 1890 /91 навуч. годзе навучаліся 14 хлопчыкаў. Кожны год 6 жніўня праходзіў кірмаш. Паводле перапісу 1897 г. 128 двароў, 816 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 1460,50 дзес. зямлі. У 1909 г. 116 двароў, 957 жыхароў. У 1912 г. дзейнічала аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 157 двароў, 899 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнай школы была створана пач. школа (у 1922 г. 86 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні). З 20.8.1924 г. вёска – цэнтр Краснадворскага (Краснадворацкага) с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 196 двароў, 969 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У вёсцы працавалі сталярная майстэрня, кузня, лесапілка, маслазавод, ветраны млын, конная





крупарушка. На 1.1.1941 г. 253 двары, 835 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 4 жыхароў. 72 вяскоўцы загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. калгас узбуйніўся. Да яго далучылі суседнія калгасы «Чырвоны хлебароб», «Ударная праца», «Бальшавіцкі шлях». З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1. 1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1095 жыхароў. У 1990-я г. на сродкі салігорскіх шахцёраў і мясцовых жыхароў у цэнтры вёскі (на месцы зруйнаванага ў 1950-я гг. драўлянага храма) была пабудавана з цэглы Праабражэнская царква. У 2004 г. 365 гаспадарак, 823 жыхары. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр ААТ «Краснадворцы», сярэдняя школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі, 2 магазіны, кафетэрый, комплексны прыёмны пункт, лазня. У 1967 г. ў скверы каля Дома культуры на ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі у Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе, стэла і пліты з імёнамі загінуўшых.

**КРУШНІКІ**— вёска ў Старобінскім с/с, за 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 162 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. фальварак Крушнікі ў Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. засценак, 9 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. 9 двароў, 50 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. Крушнікі акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старобінскім с/с (з 1935 г. местачковым, з 1938 г. пас. Савеце) Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 16 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 103 жыхары, у складзе саўгаса «Зара». У 2004 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін).

**КРЫВАЛЬ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. 9 двароў, 67 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. хутар акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. вясковыя дзеці наведвалі школу ў в. Лесаўня (за 1,5 км). З 20.8.1924 г. вёска ў Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 96 жыхароў. На 1.1.1941 г. 19 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 6 жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г.



70 жыхароў, у складзе калгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы).

**КРЫВАЛЬ** — пасёлак у Зажэвіцкім с/с, за 27 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 167 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2013).

Вядомы з 1920-х г. З 20.8.1924 г. пасёлак у Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в. Зажэвічы), магазін.

**КРЫВІЧЫ** — вёска (з 2008 г. — аграгарадок) у Краснадворскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 473 гаспадаркі, 1068 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1606 г. вёска, 35 дымоў, 455 жыхароў, у Слуцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 377 сял. душ (204 мужчынскага, 173 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., на ўездзе ў вёску карчма. У 1800 г. вёска, 56 двароў, 364 жыхары, карчма. Паводле рэвізіі 1833 г. вёска ў складзе маёнтка Красны Радкоў, уласнасць кн. Вітгенштэйна. З 1838 г. была арандавана памешчыкам В.Булгарыным. Паводле інвентару 1844 г. 110 двароў, 757 жыхароў, у вёсцы меліся карчма, заезны двор, хлебазапасны магазін, кузня, млын. У 1858 г. 398 сял. душ мужчынскага полу, вёска ў складзе маёнтка Красны Радкоў, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1863 г. 36 двароў. У 1870 г. вёска, 401 душа мужчынскага полу, цэнтр Крывіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1884 г. адкрыта школа граматы, якую ў 1890/91 навуч. г. наведвалі 42 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1886 г. сяло, 98 двароў, 1018 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 234 двары, 1505 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 2825, 76 дзес. зямлі. У 1909 г. 273 двары, 1785 жыхароў. У 1917 г. 274 двары, 1749 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У час польскай акупацыі ў ваколіцах вёскі дзейнічаў партыз. атрад, арганізаваны на базе культурна-асветніцкага гуртка, створанага ў ліст. 1917 г. Атрад падтрымліваў сувязь са Слуцкім падп. к-там бальшавіцкай партыі, які кіраваў яго дзейнасцю. Адступаючы пад ударамі Чырвонай Арміі, польскія войскі ў ліп. 1920 г. спалілі вёску. З 20.8.1924 г. Крывічы ў Краснадворскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 357 двароў, 1927 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У калгасе працавалі кузня, ветраны млын, конная крупарушка, паравы млын, ваўначоска. Брыгадзір калгаса В.П.Клішэвіч за добрыя дасягненні ў сельскай гаспадарцы быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 390 двароў, 1300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы чэрв. 1944 г. ў баях за выз-





валенне вёскі ад гітлераўцаў загінулі 3 сав. воіны і 2 партызаны. На франтах загінулі 19 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. вёска ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. калгас «Бальшавік» узбуйнены, да яго далучаны суседнія калгасы — «Пралетарый», «Колас працы», імя Сталіна, «Чырвоны шлях». З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1936 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «Бальшавік». У 2004 г. 468 гаспадарак, 1063 жыхары. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр ААТ «Бальшавік-Агра», сярэдняя школа, дзіцячы сад, 4 магазіны і 2 ганд. павільёны, аддз. сувязі, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», лазня. У 1967 г. ў цэнтры вёскі на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск, абапал яго 2 стэлы з імёнамі 90 землякоў з вёсак калгаса «Бальшавік», якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе супраць акупантаў.

**КУЛАКІ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 134 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 77 гаспадаркі, 150 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 2 жыхары. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 41 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. засценак у складзе Чапялёўскай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 157 жыхароў, праваслаўная капліца. У 1909 г. 28 двароў, 148 жыхароў. У 1917 г. 31 двор, 165 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1921 г. вясковыя дзеці наведвалі школу ў Чыжэвічах. З 20.8.1924 г. вёска ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 168 жыхароў. У 1932 г. тут размясцілася Старобінская МТС, яна мела 4 трактарныя брыгады, якія абслугоўвалі 25 калгасаў раёна. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 132 двары, 626 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў 21 вясковец, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 441 жыхар, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2004 г. 67 гаспадарак, 121 жыхар, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін), навуч.-вытв. комплекс, магазін. У вёсцы нарадзіўся бел. пісьменнік, засл. работнік культуры БССР А.М.Кулакоўскі (24.12.1913—9.4.1986).

**КУЛЯШЫ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска, на р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. засценак у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1890 г. ў засценку адкрылася школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. г. вучыліся 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 100 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 107 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзеці з Куляшоў наведвалі пач. школу ў Бранчыцах. З 20.8.1924 г. вёска ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг,



з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 131 жыхар. На 1.1.1941 г. 30 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 78 жыхароў, у складзе саўгаса «Случ». У 2004 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**КУТНЕВА** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада, якая праходзіць каля вёскі. 5 гаспадарак, 18 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. вёска, 59 жыхароў мужчынскага полу, у складзе Цясоўскай сельскай грамады, у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1883 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 7 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 70 двароў, 409 жыхароў, меўся ветраны млын. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 1195, 38 дзес. зямлі. У 1909 г. засценак, 88 двароў, 425 жыхароў, у 1917 г. вёска, 87 двароў, 337 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 97 двароў, 436 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Горка». Працавала кузня. На 1.1.1941 г. 92 двары, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 26 двароў. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 143 жыхары, у складзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЛАПАЦІНА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. Ленавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. ў складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ЛЕНАВІЧЫ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 148 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. Ленавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў





Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. ў складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр — в. Акцябр).

**ЛЕСАЎНЯ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 168 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 62 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта пач. школа, за наём пад каторую звычайнай хаты сяляне плацілі 55 пудоў жыта ў год. Школу наведвалі дзеці з навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 101 жыхар. На 1.1.1941 г. 18 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 80 жыхароў. У 2004 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в. Зажэвічы).

**ЛЕЦЕНЕЦ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 18 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы, якія праходзяць каля вёскі. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. фальварак у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 14 жыхароў. У 1909 г. засценак, 12 двароў, 74 жыхары. У 1917 г. 9 двароў, 50 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старобінскім с/с (з 1935 г. мястэчковым, з 1938 г. пас. Савеце) Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 22 двары, 125 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». На 1.1.1941 г. 54 двары, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 212 жыхароў. У 2004 г. 30 гаспадарак, 42 жыхары, магазін. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін).

**ЛІПНІКІ** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 133 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 26 жыхароў (2013).

Вядомы з 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 2 фальваркі: 3 двары, 10 жыхароў, уласнасць памешчыка Амбражэвіча; 4 двары, 40 жыхароў, уласнасць кн. Гогенлоэ, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Жыхары фальваркаў мелі больш за 18 дзес. зямлі, уваходзілі ў Чапялёўскую сельскую грамаду. У 1917 г. 12 двароў, 80 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г.



Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 102 жыхары. У 2004 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЛІСТАПАДАВІЧЫ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 20 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 94 гаспадаркі, 168 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1682 г. сяло ў Навагрудскім ваяв. Чыншавыя сяляне з в. Цясова за вызначаную плату карысталіся зямлёй сяла Лістападавічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 32 двары, 107 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, побач яго ж аднайменны фальварак, у Слуцкім павеце Мінскай губ., пры вёсцы 2 вадзяныя млыны. У 1858 г. 111 рэвізскіх душ. У 1870 г. ў складзе Старобінскай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 14 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 320 жыхароў. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 951 дзес. зямлі. У 1909 г. 98 двароў. У 1913 г. адкрылася аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 98 двароў, 658 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага нар. вучылішча створана пач. школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным маёнтку. З 20.8.1924 г. цэнтр Лістападавіцкага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 93 двары, 439 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар». На 1.1.1941 г. 121 двор, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Старобінскім пас. Савеце. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 475 жыхароў, у саўгасе «Старобінскі». У 2004 г. 115 гаспадарак, 212 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін), магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**МАЗАЛІ**— вёска ў Акцябрскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 145 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясцовай аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 53 гаспадаркі, 124 жыхары (2013).

Вёска вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 41 двор, 222 жыхары, цэнтр маёнтка, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1861 г. вёска, 145 душ мужчынскага полу, і маёнтак, уласнасць памешчыка Прушынскага. У 1870 г. ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. вёска (94 двары, 630 жыхароў, хлебазапасны магазін) і маёнтак (1 двор, 45 жыхароў, цагельны завод). У 1909 г. 107 двароў, 679 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы адкрылася земская школа. У 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 121 двор, 289 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага нар. вучылішча была створана пач. школа, якая размясцілася ў былым панскім доме. У 1922 г. школу

наведвалі 180 вучняў з 4 навакольных вёсак, пры школе мелася невялікая б-ка. З 20.8.1924 г. вёска ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 155 двароў, 737 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ніва». У калгасе працавалі кузня, ветраны млын. На 1.1.1941 г. 72 двары, 302 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 6 жыхароў, 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 47 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 232 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 68 гаспадарак, 159 жыхароў, базавая школа. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба аграфірмы «Чырвоная Ніва», дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. У 1975 г. для ўвекавечання памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і партызанка), а таксама 6 дошак з імёнамі загінуўшых.


*А.К.Стампкоўская.*

**МАЗУРШЧЫНА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 26 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 148 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 70 гаспадарак, 175 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1886 г. хутар у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. на хутары 2 двары, 10 жыхароў. У 1909 г. налічвалася 16 хутароў пад назвай Мазуршчына, якія размяшчаліся паблізу адзін ад аднаго. Пазней яны былі аб'яднаны ў адзін населены пункт. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Мазуршчынскага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 51 двор, 282 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». На 1.1.1941 г. 40 двароў, 200 жыхароў, магазін, сямігадовая школа, мед. і ветэрынарны пункты. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары. 21 вясковец загінуў на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Доўгаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 342 жыхары, у складзе калгаса «Праўда». У 2004 г. 100 гаспадарак, 255 жыхароў, базавая школа. У 2013 г. ў вёсцы цэнтр. сядзіба с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в. Жоўты Брод), фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза А.К.Стампкоўскай (1921—26.6.1942).

**МАЛАЯ АЛЬШАНКА** — пасёлак ў Чырвонаслабодскім с/с, за 47 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск—Чырвоная Слабада. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 45 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. засценак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 87 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 51 жыхар, у 1917 г. 14 двароў, 93 жыхары



У лютым—снеж. 1918 г. засценак акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1923/24 навуч. г. школу ў Жываглодавічах (за 3 км) наведвалі 7 вучняў з Малой Альшанкі. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 32 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. пасёлак на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**МАЛЫ ЖАБІН** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 11 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. маёнтак Жабін, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 2 двары, 4 жыхары. У 1909 г. 17 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. Малы Жабін, вёска, 19 двароў, 91 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 125 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2003 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**МАЛЫ РОЖАН** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 38 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 156 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло, у складзе маёнтка Вызна, шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 60 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Па рэвізіі 1833 г. маёнтак, 121 сял. душа. У 1844 г. маёнтак належаў памешчыкам А. Каўнацкаму і Л Узлоўскаму, якія мелі тут 1400 дзес. зямлі. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 23 двары, 138 жыхароў. У 1850 г. 134 сялянскія душы мужчынскага полу. У 1870 г. вёска ў складзе Рожанскай сельскай грамады, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 255 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 322,36 дзес. зямлі. У 1909 г. 41 двор, 259 жыхароў. У 1917 г. 60 двароў, 335 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Чырвонаслабодскім с/с (з 1935 г. местачковым, з 1938 г. пас. Савеце) Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з





20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 56 двароў, 298 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». На 1.1.1941 г. 59 двароў, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах, 9 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 274 жыхары, у складзе саўгаса «Краснаслабодскі». У 2004 г. 49 гаспадарак, 95 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), магазін.

**МАЛЫЯ ЗАЎШЫЦЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 151 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 85 гаспадарак, 151 жыхар (2013).

Вядома з 20 ст. У 1917 г. 95 двароў, 566 жыхароў, вёска ў складзе Заўшыцкай сельскай грамады, у Вызненскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Жыхары вёскі валодалі 578,22 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Старчыцкім (з 1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Нараджэнне сацыялізму». У калгасе працавалі 2 ветраныя млыны, кузня, конная крупарушка. На 1.1.1941 г. 151 двор, 631 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3 двары і загубілі 15 жыхароў, 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 653 жыхары, у складзе калгаса «Перамога сацыялізму». У 2004 г. 110 гаспадарак, 211 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы).

**МАМЫКАЎ** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 5 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 2004 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**МАХНАВІЧЫ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 162 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 105 гаспадарак, 236 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 2 службы, шляхецкая ўласнасць у Бярэзнікаўскай вол. Слуцкага княства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 53 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 27 душ мужчынскага полу, у складзе Мелкавіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1887 г. адкрыта школа гра-



маты, у 1890 г. вучыліся 9 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 143 жыхары, праваслаўная капліца. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 262,28 дзес. зямлі. У 1909 г. 30 двароў, 239 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 12 двароў, 86 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы свет». На 1.1.1941 г. 105 двароў, 476 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. вёска на тэр., акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі. У Махнавічах дыслацыраваліся Старобінскія падп. райкамы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб 101-й партыз. брыгады імя Аляксандра Неўскага. Гітлераўцы ў час карных аперацый знішчылі 3 двары. 22 вяскоўцы загінулі на франтах, 6 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. У 1950 г. калгас узбуйніўся — да яго былі далучаны суседнія калгасы «Прагрэс» і «Камсамолец». З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 533 жыхары, цэнтр. сядзіба калгаса «Новы Свет». У 2004 г. 137 гаспадарак, 337 жыхароў, базавая школа. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае ), магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1957 г. ў гонар землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры вёскі насыпаны курган, на якім устаноўлены абеліск.У 1965 г. на месцы базіравання Старобінскага райкама КП(б)Б і штаба 101-й партыз. брыгады імя Александра Неўскага ўстаноўлена стэла. У 1967 г. на паўн.-зах. ускраіне вёскі ў памяць аб загінуўшых земляках пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны і дзяўчынкі.

**МЕЛКАВІЧЫ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 22 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 145 км ад Мінска, каля р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 31 гаспадарка, 70 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 3 службы, шляхецкая ўласнасць, у Бярэзнікаўскай вол. ў Слуцкім княстве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 139 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., у сяле мелася карчма, непадалёку размяшчаўся фальварак. У 1858 г. сяло, цэнтр маёнтка, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 50 душ мужчынскага полу, цэнтр Мелкавіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета, побач маёнтак, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 9 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 287 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін, у маёнтку 6 двароў, 27 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 813,63 дзес. зямлі. У 1909 г. 53 двары, 383 жыхары. У 1916 г. школа граматы пераўтворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 73 двары, 487 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 85 двароў, 488 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Колас». Працавала ваўначоска. На 1.1.1941 г. 105 двароў, 476 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 5 двароў. 34 вяскоўцы загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў





Салігорскім р-нах. У 1970 г. 347 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў БССР». У 2004 г. 64 гаспадаркі, 123 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае).

**МЕЦЯВІЧЫ** – вёска ў Чыжэвіцкім с/с , за 5 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 128 км ад Мінска, каля Салігорскага вадасховішча (на р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 118 гаспадарак, 200 жыхароў (2013).

Археалагічныя помнікі — 2 курганныя могільнікі, якія знаходзяцца непадалёк ад вёскі, дазваляюць сцвярджаць, што ў гэтых мясцінах людзі сяліліся яшчэ ў старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 32 валокі зямлі, цэнтр маёнтка, шляхецкая уласнасць, у Слуцкім княстве. У 1600 г. сяло — цэнтр воласці ў Слуцкім княстве, у Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. ў Слуцкім павеце Мінскай губ.У 1800 г. вёска на р. Случ, 48 двароў, 263 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 200 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр маёнтка, прыватная ўласнасць. У 1870 г. вёска ў складзе Сяльцоўскай (Сялецкай) сельскай грамады, у Пагосцкай вол. Слуцкага павета, побач маёнтак, уласнасць памешчыка Крупскага. У гэты ж год у маёнтку пачаў дзейнічаць вінакурны завод. У 1879 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 14 хлопчыкаў. У 1882 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне судоваму прыставу пры спагнанні з іх грошай на карысць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 112 двароў, 798 жыхароў, меліся 3 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца, піцейны дом, у маёнтку 83 жыхары, вінакурны з-д, ветраны млын, капліца. У пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 1056,11 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 137 двароў, 855 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 73 жыхары, у Пагосцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1913 г. на вінакурным з-дзе ў маёнтку працавалі 9 рабочых, у той год быў пастаўлены паравы рухавік магутнасцю 10 к.с. У 1917 г. ў вёсцы 158 двароў, 834 жыхары, у маёнтку 150 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. Мецявічы акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Мецявіцкага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 218 двароў, 1061 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Быт».У вёсцы працавалі ваўначоска, сталярная майстэрня, кузня. На 1.1.1941 г. 260 двароў, 1040 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 9 двароў і загубілі 10 жыхароў, 16 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 130 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. 31.3.1964 г. вёска ў Пагостаўскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 578 жыхароў, у скла-

*Салігорскае вадасховішча каля в. Мяцявічы.*





дзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 146 гаспадарак, 243 жыхары. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін), магазін, клуб сац. паслуг, б-ка. Археалагічныя помнікі: 2 курганныя могільнікі. Першы знаходзіцца на левым беразе р. Случ, за 1 км на ПнУ ад вёскі, уключае 21 насып. Належаў дрыгавічам, датуецца 12—13 ст. Непадалёк знаходзіцца 2-гі курганны могільнік, які ўключае 19 насыпаў. Таксама належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 ст. Знойдзены пацеркі, малыя скроневыя кольцы і г.д. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.

**МОРАЧ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 42 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 166 км ад Мінска, на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 91 гаспадарка, 138 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1582 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве, у Навагрудскім павеце, у сяле размяшчаўся праваслаўны манастыр. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. сяло, казённае ўладанне. У 1870 г. сяло, 83 жыхары мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады, у Ленінскай вол. Мазырскага павета. У 1886 г. 32 двары, 240 жыхароў, царква. У маі 1917 г. сяляне прагналі з сяла папа, а царкоўную зямлю падзялілі паміж сабой. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. вёска, 85 двароў, 625 жыхароў. Непадалёк ад вёскі аднайменны засценак, 21 двор, 137 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Яскавіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 171 двор, 904 жыхары, пач. школа, клуб, млын. На 1.1.1941 г. ў вёсцы было 158 двароў, 690 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 158 двароў) і загубілі 175 жыхароў. 12 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 21 вясковец загінуў на франтах, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях., у Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 177 гаспадарак, 702 жыхары, у складзе саўгаса «Новае Жыццё». У 2004 г. 99 гаспадарак, 244 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт. З 1.1.2010 г. ў Доўгаўскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Новапалескі» (цэнтр — пас. Новапалескі), клуб, дом паляўнічага.

**НАВАСЕЛЬ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 70 сял. душ (28 мужчынскага, 42 жаночага полу), уласнасць І.Солтана, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Старобінскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Мазуршчынскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 66 жыхароў. На 1.1.1941 г. 19 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопні-





камі, якія знішчылі 11 двароў і загубілі 56 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Доўгаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 56 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» — с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в. Жоўты Брод).

**НАВІНА** — вёска ў Хорастаўскім с/с, за 58 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 188 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. карчма Навіна, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ўрочышча ў Ленінскай вол. Мазырскага павета. У 1909 г. хутар, 4 двары, 23 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяводства. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Хорастаўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. 10 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Зімой 1943 г. непадалёк ад вёскі карнікі акружылі партызан В.З.Каржа, але яны прарвалі блакаднае кальцо і вырваліся з акружэння. Разам з імі пакінулі свае дамы многія вяскоўцы. Калі 15.2.1943 г. карнікі ўварваліся ў вёску, то знайшлі толькі братоў Цубаў — 75-гадовага Івана і 70-гадовага Міхаіла. Фашысты загадалі Міхаілу Самуілавічу паказаць дарогу да партызан. Той адмовіўся і быў забіты карнікамі. Тады Іван Самуілавіч, узрушаны гібеллю брата, даў згоду быць праваднікам. Ён паўтарыў подзвіг І.Сусаніна — завёў ворагаў на забалочаны бераг р. Лань, адкуль гітлераўцы не змаглі выбрацца. Раз'юшаныя фашысты пасля катаванняў расстралялі яго, але і самі былі знішчаны партызанамі. У 1966 г. каля в. Вялікі Лес на ўшанаванне памяці братоў-патрыётаў пастаўлены помнік (скульптар І.С.Селіханаў). З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. З 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1970 г. 30 гаспадарак, 136 жыхароў, у складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа (цэнтр — в. Хорастава).

**НАВІНКІ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 10 гаспадарак, 10 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. засценак у Вызнянскай вол.Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 122 жыхары. У 1909 г. 15 двароў, 149 жыхароў, у 1917 г. 22 двары, 129 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1923/24 навуч. г. школу ў Жываглодавічах (за 1 км) наведвалі 11 вучняў з Навінак. З 20.8.1924 г. засценак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 93 жыхары. На 1.1.1941 г. пасёлак, 25 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г.



ікупіравана ням.-фаш. захопнікамі, ікія знішчылі 1 двор і загубілі 2 жыхаюў. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 76 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. ў вёсцы 10 гаспадарак, 11 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**НОВАПАЛЕСКІ** — пасёлак (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Капацэвіцкага с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 346 гаспадарак, 866 жыхароў (2013).

Пасёлак заснаваны ў пач. 1970-х гг. на месцы, дзе да Вял. Айч. вайны размяшчалася сядзіба Капацэвіцкай МТС, у якой на 1.1.1941 г. было 11 двароў, 40 жыхароў. У лютым 1943 г. карнікі спалілі сядзібу і загубілі 26 жыхароў. Пасля вайны гэтае паселішча не было адноўлена. У 1969 г. пачалося асушэнне балот вакол месца былой сядзібы. Калі была асушана неабходная тэрыторыя, пачалося будаўніцтва пасёлка Новапалескі. У 1972 г. тут размясцілася цэнтр. сядзіба саўгаса «Новае Палессе». Комплексная забудова пасёлка ў 1975 г. была адзначана дыпломам І-й ступені ВДНГ СССР. У 2004 г. 335 гаспадарак, 902 жыхары. У 2013 г. ў пасёлку размешчаны цэнтр. сядзіба ААТ «Новапалескі», выканкам Капацэвіцкага с/с, дзейнічаюць сярэдняя школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», фізкультурна-аздараўленчы комплекс, цэнтр турызму і краязнаўства дзяцей і моладзі Салігорскага р-на.

**НОВАЯ ГРАМАТА** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 164 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча Грамата ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. 4 двары, 41 жыхар. У 1917 г. хутар Новая Грамата (Сухая Міля), 6 двароў, 56 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. школу ў в. Лесаўня наведвалі 10 вучняў з хутара. З 20.8.1924 г. Сухая Міля (Новая Грамата), хутар — цэнтр Сухамільскага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 14 двароў, 77 жыхароў. У 1929 г. сухамільцы ўступілі ў калгас «Квітнеючы май». На 1.1.1941 г. вёска, 15 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Новацярушскім (Новацярушкаўскім) с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 60 жыхароў, у складзе калгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в. Зажэвічы).

**НОВЫ** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 26 гаспадарак, 36 жыхароў (2013).





Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 173 жыхары. У 2004 г. 28 гаспадарак, 44 жыхары. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**НОВЫ ЛУГ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я гг. ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл.. На 1.1.1941 г. 17 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 71 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**НОВЫ РОЖАН** — вёска ў Рожанскім с/с, за 45 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска, каля Чырвонаслабодскага вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 29 гаспадарак, 36 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, у складзе маёнтка Рожан, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 69 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе Рожанскай сельскай грамады, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, в. Новы Рожан у Чучэвіцкай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 50 двароў, 297 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Рожанскім с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. На 1.1.1941 г. 87 двароў, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 12 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Жданава. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 г. ў Чырвонаслабодскім пас. Савеце Старобінскага р-на. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 8.2.1964 г. ў Рожанскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 290 жыхароў. У 2004 г. 48 гаспадарак, 70 жыхароў, магазін. З 1.4.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсэрвіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), магазін.

**НОВЫЯ ЦЯРУШКІ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы), 165 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 36 гаспадарак, 70 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. 14 двароў, 90 жыхароў, праваслаўная капліца. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. У



1922 г. школу ў в. Лесаўня (за 1 км) наведвалі 10 вучняў з Новых Цярушак. З 20.8.1924 г. вёска ў Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 125 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Квітнеючы май». У калгасе працавала кузня. На 1.1.1941 г. 34 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў, 1 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр Новацярушкаўскага (Новацярушкага) с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах Мінскай вобл. У 1970 г. 188 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 49 гаспадарак, 108 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы), магазін, фельч.-акушэрскі пункт, лясніцтва Старобінскага лясгаса.

**ПАВАРЧЫЦЫ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 155 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 127 гаспадарак, 248 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 12 служб, у Бярэзнікаўскай вол., у Слуцкім княстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1627 г. сяло ў складзе маёнтка Мецявічы ў Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад 1795 г. ўзгадваецца як Паваржыцы, вёска, 125 сялянскіх душ (62 мужчынскага, 73 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., мелася карчма. У 1800 г. 23 двары, 102 жыхары. У 1858 г. вёска і фальварак, 231 сялянская душа мужчынскага полу, уласнасць князя П.Вітгенштэйна. У 1870 г. Паварчыцы, вёска, 117 душ мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады, праваслаўная капліца, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 482 жыхары, меўся піцейны дом. На пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 826,45 дзес. зямлі. У 1902 г. адкрылася царкоўна-прыходская школа, для якой земствам быў узведзены ўласны будынак. У 1909 г. 86 двароў, 522 жыхары. У 1917 г. 96 двароў, 647 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. На базе даварэвалюцыйнай школы была створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з 4 навакольных хутароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Старобінскім с/с (з 1935 г. мястэчковым, з 1938 г. пас. Савеце) і раёне Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 134 двары, 753 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У калгасе працавала кузня. На 1.1.1941 г. ў вёсцы было 138 двароў, 552 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары і загубілі 9 жыхароў. 127 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 845 жыхароў, у складзе саўгаса «Старобінскі». У 2004 г. 165 гаспадарак, 364 жыхары. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін). У вёсцы магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**ПАГОСТ 1** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада,

якая праходзіць праз вёску. 96 гаспадарак, 185 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. У 1439 г. «двор Пагост», шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1499 г. вял. князь літоўскі Аляксандр «прысудзіў» Пагост кн. Сямёну Міхайлавічу Алелькавічу, пасля яго смерці ў 1505 г. уладанне яго старэйшага сына Юрыя. У 1566 г. сяло, 34 валокі зямлі, і маёнтак. У 1600 г. сяло, 40 валок зямлі, цэнтр Пагосцкай вол., побач фальварак і карчма, у Слуцкім княстве, у Навагрудскім ваяв. У 1612 г. уладанне Я.Радзівіла. У час казацка-сял. паўстання пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага ў вер. 1648 г. непадалёк ад Пагосту на р. Случ адбылася бітва паміж войскам Радзівілаў і атрадамі казакоў і мясц. паўстанцаў на чале з І.Сакалоўскім. Княжацкае войска перамагло, загінула каля 2 тыс. казакоў і мясц. паўстанцаў. У пач. перыяд Паўночнай вайны 1700—21 гг. у мястэчку кватаравалі ўкраінскія казакі на ўтрыманні ў мясц. насельніцтва. У 1707 г. з Пагоста было вывезена шмат правіянту для рус. войск. Шведы ўшчэнт разрабавалі Пагост. Многія жыхары мусілі пакінуць мястэчка. У 1744 г. уладанне Радзівілаў. У 1748 г. дзейнічала праваслаўная царква Іаана Прадцечы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка, на левым беразе р. Случ, у Слуцкім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 49 жыхароў, царква, касцёл, карчма, 2 млыны, 3 разы у год праводзіліся кірмашы. У маёнтку побач з мястэчкам у 1812 г. пабудаваны новы драўляны панскі дом. У 1824 г. прыхаджанамі з дапамогай губернскіх ахвяраванняў пабудавана драўляная Іаанаўская царква. У гэтым жа годзе ў маёнтку пабудавана вінакурня, у склад маёнтка Пагост уваходзілі 6 вёсак. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 1487 сял. душ. У 1844 г. мястэчка, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна, было арэндавана на 12 гадоў памешчыцай Навіцкай. Паводле інвентару 1844 г. ў маёнтку меліся вінакурня, карчма, кузніца, саладоўня, вадзяны млын на р. Случ. У 1858 г. ў маёнтку 232 сял. душы мужчынскага полу. У 1861 г. ў мястэчку 70 двароў, 493 жыхары, меліся царква, яўр. школа. У 1863 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча (у 1884 г. ў ім вучыліся 46 хлопчыкаў). У 1870 г. мястэчка, цэнтр Пагосцкай вол. Слуцкага павета. Побач аднайменны маёнтак Пагост, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1883 г. адкрылася школа граматы. У 1888 г. пабудавана драўляная Прадцечанская царква. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 120 двароў, 828 жыхароў. Тут размяшчаліся вал. праўленне, царква, малітоўны дом, сінагога, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, піцейны дом, пастаялы двор, 12 крамаў, конны млын, прыёмны пакой для хворых. Два разы на год у мястэчку праходзілі кірмашы (20 ліп. і 28 кастр.). Побач з мястэчкам, на р. Случ знаходзіўся фальварак, 3 двары, 68 жыхароў, працаваў цагельны завод. У 1902 г. ў маёнтку працаваў вінакурны завод (належаў Гальмерсіну). У 1909 г. ў мястэчку 154 двары, 793 жыхары. У 1912 г. працавала аднакласнае нар. вучылішча (у той год на сродкі насельніцтва воласці для вучылішча быў узведзены ўласны будынак). У 1913 г. на вінакурным заводзе ў маёнтку працавала 8 рабочых, у той год быў пастаўлены паравы рухавік магутнасцю 20 к.с. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада, у лютым—снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана герм. войскамі. 1.9.1918 г. была адкрыта сямігадовая школа, якая размяшчалася ва ўласным будынку. Школу наведвалі дзеці з 10 навакольных вёсак. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1919 г. ў мястэчку 147 двароў, 912 жыхароў. У жн. 1919 — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. У 1920 г. на базе маёнтка створаны саўгас «Пагост». З 20.8.1924 г. мястэчка — цэнтр Пагостаўскага (Пагосцкага) с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г.



Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 227 двароў, 958 жыхароў. Працавалі цыркулярка, кузня, вінзавод, маслазавод, нафтавы млын, кузнечная майстэрня арцелі «Чырвоны май», шавецкая майстэрня «Новы Быт», кравецкая майстэрня «Чырвоная ігла». На 1.1.1941 г. вёска, 217 двароў, 1065 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 130 двароў і загубілі 764 жыхароў, 4 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1521 жыхар, у складзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 126 гаспадарак, 246 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін), сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін, урачэбная амбулаторыя, сельскі клуб, б-ка. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза Д.С.Наруцкага (18.10.1904—4.10.1960).

**ПАГОСТ 2** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 127 км ад Мінска, на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада, якая праходзіць праз вёску. 317 гаспадарак, 634 жыхары (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. Імперыі. У 1795 г. вёска ў маёнтку Пагост, 359 сялянскіх душ, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У вёсцы існавала карчма, пабудаваная ў 1789 г. У 1800 г. 51 двор, 311 жыхароў, карчма. У 1840 г. былі пабудаваны 2 хлебазапасныя магазіны. Паводле інвентару 1844 г. 55 двароў, 373 жыхары, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у 1842 г. вёска здадзена на 12 гадоў у арэнду памешчыцы Навіцкай. У 1861 г. 284 душы мужчынскага полу. У 1862 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 20 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў складзе Пагостаўскай сельскай грамады, у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета, 115 двароў, 766 жыхароў, хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца, ветраны млын. У пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 1032,86 дзес. зямлі. У 1909 г. 136 двароў, 869 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм. войскамі, у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 210 двароў, 1021 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У калгасе працавалі кузня, ваўначоска, ветраны млын. На 1.1.1941 г. 220 двароў, 990 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 110 двароў і загубілі 2 жыхароў. 85 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў



*Д.С.Наруцкі.*



*Былы млын каля в. Пагост 2.*





Салігорскім р-нах. У 1970 г. 738 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса «Свабода». У 2004 г. 328 гаспадарак, 676 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр – в. Жабін), магазін, лазня.

**ПАДАЗЕРНАЕ** – пасёлак у Чырвонаслабодскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. в. Падазеркі, 8 двароў, 130 жыхароў; чыншавай шляхты 5 двароў, 13 жыхароў. Мелася ўніяцкая капліца, побач маёнтак, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета. У лютым—снеж. 1918 г. Падазернае акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. пасёлак, 13 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах. З 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 37 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. пасёлак на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсервіс» (цэнтр – г.п. Чырвоная Слабада).

**ПАДАСІНКА** – пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 139 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 73 жыхары. У 2004 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр – в. Жабін).

**ПАДАРОЖЖА** – пасёлак у Акцябрскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 146 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 24 гаспадаркі, 67 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я гг. у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. у Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная Ніва» (цэнтр – в. Мазалі).

**ПАПОЎЦЫ** – вёска ў Акцябрскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 153 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 28 гаспадарак, 58 жыхароў (2013).



Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1572 г. сяло, 9 служб, шляхецкая ўласнаць. У 1682 г. вёска ў складзе маёнтка Бранчыцы, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 41 двор, 222 жыхары, мелася карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. ўласнасць казны, у складзе казённага маёнтка Мікульцы. У 1870 г. вёска, цэнтр сельскай грамады, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1891 г. адкрылася царк.-прыходская школа (для якой быў узведзены асобны будынак). Паводле перапісу 1897 г. сяло, 53 двары, 405 жыхароў. Меліся царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. жыхарам сяла належалі 342,46 дзес. зямлі. У 1909 г. 76 двароў, 436 жыхароў. У 1917 г. 86 двароў, 522 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 78 двароў, 431 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча». У калгасе працавала кузня, ветраны млын. На 1.1.1941 г. 77 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 8 двароў і загубілі 10 жыхароў, 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах, 9 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 293 жыхары, у складзе калгаса «Акцябр». У 2004 г. 41 гаспадарка, 79 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр — в. Акцябр).

**ПЕРАТОК** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы, якая праходзіць побач з пасёлкам, 11 гаспадарак, 7 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 82 жыхары. У 2004 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ПЕРШАМАЙСК** (да 1964 г. Жываглодавічы) — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 196 гаспадарак, 468 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1677 г. сяло Жываглодавічы ў складзе маёнтка Вызна, у Навагрудскім ваяв., уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 470 сял. душ (230 мужчынскага, 240 жаночага полу), меліся карчма, млын, у складзе маёнтка Вызна, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 88 гаспадарак, 498 жыхароў. Паводле інвентару 1844 г. вёска, 76 двароў, 501 жыхар, мелася карчма, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна, была арандавана памешчыцай Каленчынскай. У 1870 г. 212 душ мужчынскага полу, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1884 г. адкрыта школа граматы,





у якой у першы год вучыліся 12 хлопчыкаў. У 1886 г. вёска, 62 двары, 512 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 128 двароў, 930 жыхароў, меліся 2 праваслаўныя капліцы, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом. У 1909 г. 165 двароў, 1064 жыхары. У 1912 г. школа граматы рэарганізавана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 208 двароў, 1064 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага нар. вучылішча была створана сав. пач. школа, у якой вучыліся дзеці з 6 навакольных вёсак. Школа размяшчалася ў сял. хаце, крытай саломай, за наём якой плацілі 50 пудоў жыта за год. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Жываглодавіцкага с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 241 двор, 1290 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна». У калгасе працавалі ветраны млын, кузня. На 1.1.1941 г. 182 двары, 730 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 12 двароў і загубілі 21 жыхара, 18 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 48 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. У вайну загінулі 120 жыхароў сельсавета. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не. 28.8.1964 г. вёска перайменавана ў Першамайск, сельсавет — у Першамайскі. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 722 жыхары, цэнтр калгаса « Шлях Леніна». У 2004 г. 242 гаспадаркі, 547 жыхароў, цэнтр СВК «Загайны», базавая школа. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсервіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада), магазін, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, дзіцячы сад. У 1975 г. каля Дома культуры на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі у Вял. Айч. вайну, насыпаны курган, пастаўлены абеліск, стэла і пліты з імёнамі загінуўшых. У паўд. частцы вёскі размешчаны ветраны млын — помнік нар. драўлянага дойлідства 2-й пал. 19 ст.

**ПІВАШЫ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 12км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 76 двароў, 122 жыхары (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 10 валок зямлі, у складзе маёнтка Новы Двор, у Слуцкім княстве Навагрудскага павета. У 17 ст. шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. У 1627 г. сяло ў складзе маёнтка Мецявічы, у 1682 г. вёска, 46 дымоў, у складзе маёнтка Бранчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 55 двароў, 328 жыхароў, у складзе маёнтка Бранчыцы, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 149 рэвізскіх душ мужчынскага полу, у складзе Бранчыцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе займаліся 11 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 591 жыхар, хлебазапасны магазін, 3 праваслаўныя капліцы. На пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 744,23 дзес. зямлі. У 1909 г. 98 двароў, 717 жыхароў, у 1917 г. 102 двары, 676 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з



20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 146 двароў, 622 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «XIII Кастрычнік». У калгасе працавалі кузня, хлебапякарня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 42 вяскоўцы загінулі на франтах і 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 756 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарняк» У 2004 г. 90 гаспадарак, 146 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ПІРАЧЫЦЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 133 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 171 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў складзе маёнтка Мазалі, уласнасць памешчыка Прушынскага. У 1870 г. вёска, 30 душ мужчынскага полу, у складзе Мазалёўскай сельскай грамады, у Чапліцкай вол. Слуцкага павета. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у першы год вучыліся 9 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 136 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 164,33 дзес. зямлі. У 1909 г. 20 двароў, 138 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 138 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г.вёска ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 135 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра сацыялізму». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 78 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная Ніва». У 2004 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. аграфірмы «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**ПІСАРАВІЧЫ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 73 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 203 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 25 гаспадарак, 41 жыхар (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1677 г. сяло, 14 дымоў, у складзе маёнка Дарогі, уласнасць Радзівілаў, у Скавышанскай вол. Навагрудскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 54 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. г. вёска ў складзе маёнтка Дзякавічы, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска, 42 душы мужчынскага полу, у складзе Рогаўскай сельскай грамады, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 453 дзес. зямлі. У 1909 г. 32 двары, 262 жыхары, у 1917 г. 49 двароў, 357 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Князь-Возерскім (з 5.12.1931 г. Чырванавозерскім) с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага р-на Мозырскай акругі, з 25.8.1925 г. Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг,





з 20.2.1938 г.ў Мінскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 311 жыхароў. На 1.1.1941 г. 53 двары, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Вясной 1943 г. гітлераўцы ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. знішчылі вёску (усе 53 двары) і загубілі 234 жыхароў, 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Даманавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 56 гаспадарак, 266 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». У 2004 г. 36 гаспадарак, 78 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын). У 1960 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**ПЛЯНТА** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 20 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 51 гаспадарка, 74 жыхары (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. засценак у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 78 жыхароў. У 1909 г. фальварак, 9 двароў, 46 жыхароў. У 1917 г. хутар, 10 двароў, 62 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Краснадворскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 239 жыхароў, працавала пякарня саўгаса «Ударнік». На 1.1.1941 г. вёска, 64 двары, 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 340 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». У 2004 г. 66 гаспадарак, 120 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Бальшавік-Агра» (цэнтр — в. Крывічы), магазін.

**ПРАГРЭС** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 156 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 25 гаспадарак, 50 жыхароў (2013).

Вядомы з 1930-х г. як пасёлак у Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. вёска, 47 двароў, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі , якія знішчылі 1 двор, 14 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 197 жыхароў, у складзе калгаса «Новы Свет». У 2004 г. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае), дом сац. паслуг.

**ПРУЖАНКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. маёнтак у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка Прушынскага. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 48 жыхароў. У 1909 г. маёнтак — 1 двор, 21 жыхар, і хутар — 1 двор, 8 жы-



кароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. вёска, 35 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 142 жыхары. У 2004 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. аграфірмы «Чырвоная ніва» (цэнтр — в.Мазалі).

**ПРУСІКІ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядомы з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. 2 выселкі з сяла Прусы пад назвай Прусікі, у складзе маёнтка Прусікі, казённая маёмасць у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У адным выселку налічвалася 144 рэвізскія душы мужчынскага полу, у другім — 25. Выселкі ўваходзілі ў склад Прускаўскай сельскай грамады. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. 3 пасёлкі ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. пасёлкі Прусікі 1 (12 двароў, 61 жыхар), Прусікі 2 (7 двароў, 26 жыхароў), Прусікі 3 (12 двароў, 51 жыхар). У 1940 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г.вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 33 жыхары, у складзе калгаса «Прамень камуны». У 2004 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў складзе Краснадворскага с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы).

**ПРУСЫ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 76 гаспадарак, 107 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1582 г. ўзгадваецца як сяло, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1654 г. ў сяле існавала праваслаўная царква. У 1792 г. пабудавана драўляная царква Раства Багародзіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 370 сял. душ (196 мужчынскага, 184 жаночага полу), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., царква, ветраны млын, карчма. У 1800 г. вёска, 59 двароў, 369 жыхароў, побач маёнтак, 4 жыхары. У вайну 1812 г. вёска была разрабавана французамі, царква ўшчэнт спустошана. У 1825 г. ў маёнтку пабудавалі вінакурню і конны млын. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Прусы, Дуб'е, Астроўкі і Дубіцы. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 357 сял. душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1843 г. сяло, 49 двароў, 305 жыхароў, уласнасць кн. Вітгенштэйна, маёнтак арандаваў памешчык Ф.Жабутовіч. У сяле меліся царква, хлебазапасны магазін, карчма, кузня. Побач з царквой знаходзіліся 2 сажалкі, раздзеленыя грэбляй. У 1858 г. вёска, 137 сял. душ мужчынскага полу, уласнасць кн. П. Вітгенштэйна. У 1870 г. сяло і маёнтак у Цараўскай вол. Слуц-





кага павета, сяло ў складзе Астроўкаўскай сельскай грамады. У 1886 г. сяло, 36 двароў, 350 жыхароў, царква, млын, дзейнічала нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 109 двароў, 637 жыхароў, хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца, піцейны дом. Побач з сялом знаходзіліся маёнтак і млын. У пач. 20 ст. жыхары сяла валодалі 726,18 дзес. зямлі. У 1903 г. ў сяле адкрылася земская школа. У 1909 г. 111 двароў, 832 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1920 г. на базе былой земскай была арганізавана сав. пач. школа, якую ў 1922 г. наведвалі дзеці з 4 навакольных вёсак. Знаходзілася школа ў наёмным доме — драўляным, крытым саломай. З 20.8.1924 г. сяло ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 176 двароў, 785 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец». У калгасе працавалі кузня, ветраны млын. У 1939 г. дзейнічала сямігадовая школа. На 1.1.1941 г. 195 двароў, 712 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. Прусы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі 6 двароў і загубілі 1 жыхара, 2 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 68 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г.вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 570 жыхароў, у складзе калгаса « Прамень камуны». У 2004 г. 103 гаспадаркі, 172 жыхары, дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, крама, клуб, б-ка. З 1.3.2010 г. ў Краснадворскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы). Археал. помнік — курганны могільнік (9 насыпаў) размешчаны на могілках. Раскопкі не праводзіліся.

**ПУЗІЧЫ** — вёска ў Хорастаўскім с/с, за 52 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 182 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 135 гаспадарак, 390 жыхароў (2013).

Вядомы з 1-й пал. 19 ст. У 1861 г. вёска, 82 душы мужчынскага полу, і маёнтак — уласнасць памешчыка Замойскага, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў складзе Хорастаўскай сельскай грамады, у Ленінскай вол. Мазырскага павета, побач аднайменны маёнтак. На пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 367,09 дзес. зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 53 двары, 418 жыхароў, дзейнічала Пакроўская царква, у маёнтку 2 двары, 20 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. вёска, 103 двары, 621 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г.вёска — цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 184 двары, 1046 жыхароў, меліся пач. і няпоўная сярэдняя школы, клуб, працавалі лесазавод, млын, быў арганізаваны калгас імя Варашылава, у які ўвайшла 31 гаспадарка. На 1.1.1941 г. 160 двароў, 915 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым—сак. 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 160 двароў) і загубілі 783 жыхары, 18 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16 7.1954 г. ў Хорастаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любан-



скім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 30.4.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 118 гаспадарак, 339 жыхароў, у складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 154 гаспадаркі, 470 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа (цэнтр — в. Хорастава), фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. У 1963 г. на паўд.-зах. ускраіне вёскі на магіле 5 ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. У 1966 г. пастаўлены абеліскі — каля будынка клуба на магіле 770 ахвяр фашызму, і за 0,3 км на ПдУ ад вёскі на магіле 13 мірных жыхароў вёскі, загубленых гітлераўцамі.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Капацэвіцкім с/с, за 47 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 177 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 93 гаспадаркі, 284 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. вёска, 15 двароў, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска ў Гаўрыльчыцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 121 двор, 593 жыхары, школа, маслазавод. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Кірава. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 14.8.1979 г.ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 2003 г. 101 гаспадарка, 681 жыхар. З 1.7.2013 г. ў Капацэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ланькі» (цэнтр — в. Гаўрыльчыцы), сярэдняя школа-сад, клуб сац.-культурных паслуг.

**РАВЕЦКІ ЛЕС** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 148 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 27 гаспадарак, 48 жыхароў (2013).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1905 г. хутар у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. 19 двароў, 151 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. хутар акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 22 двары, 130 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 79 двароў, 363 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 4 двары і загубілі 4 жыхароў, 25 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 239 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў БССР». У 2004 г. 36 гаспадарак, 66 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае), дом сац. паслуг.

**РАГІ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 61 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 191 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2013).

Вядомы з 1920-х г. З 20.8.1924 г. хутар у Князь-Возерскім (з 5.12.1931 г. Чырвонавозерскім) с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі, з 25.8.1925 г. зноў Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г.





Бабруйскай акруг. У 1926 г. 16 двароў, 84 жыхары. На 1.1.1941 г. вёска, 26 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі вёску (усе 26 двароў) і загубілі 5 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Даманавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 25 гаспадарак, 116 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». У 2004 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын).

**РАДКАВА** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 125 км ад Мінска. На скрыжаванні аўтадарог Мінск—Мікашэвічы і Бабруйск — Чырвоная Слабада. 45 гаспадарак, 63 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. як сяло ў Мінскім ваяв. У пісьмовых крыніцах пад 1682 г. ўпамінаецца, што чыншавыя сяляне з Радкава за вызначаную плату бралі зямлю на карыстанне ў сяле Жабін суседняга маёнтка Бранчыцы. У 1750 г. Радзівіламі ў Радкаве быў пабудаваны маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 100 сял. душ (50 мужчынскага, 50 жаночага полу), у Слуцкім павеце Мінскай губ., мелася карчма пры паштовым тракце. У 1800 г. вёска , 85 двароў, 394 жыхары, цэнтр маёнтка, уласнасць кн. Д.Радзівіла. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічвалася 74 душы мужчынскага полу. Паводле інвентару 1844 г. вотчынны маёнтак князей Вільгельма і Багуслава Радзівілаў (уключаў вёскі Радкава, Дубеі, Качанава), арэндаваны памешчыкам Н.Багрыцкім. У маёнтку налічвалася 54 сял. душы мужчынскага полу. Забудова маёнтка складалася з панскага дома і розных гасп. пабудоў (пякарні, вазоўні і інш.). Побач з маёнткам хутар, 3 двары, 30 жыхароў. У 1858 г. вёска, 12 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць Радзівілаў. У 1870 г. ў Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1894 г. ў маёнтку пачаў працаваць вінакурны завод (у 1913 г. 8 рабочых, быў пастаўлены паравы рухавік магутнасцю 12 к.с.). Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 70 жыхароў. Працаваў вінакурны завод. У 1909 г. 6 двароў, 86 жыхароў, у 1917 г. 1 двор, 94 жыхароў. Непадалёку ад маёнтка знаходзіўся хутар, 3 двары, 21 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 51 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны хлебароб». У калгасе працаваў ветраны млын, кузня. На 1.1.1941 г. 103 двары, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. вёска ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з



*Помнік шахцёру каля в. Радкава.*



6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 512 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка». У 2004 г. 66 гаспадарак, 122 жыхары, дзейнічаў магазін. З 1.3.2010 г. ў Краснадворскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы).

**РАЁЎКА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 147 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Старчыцкім (з 27.2.1938 г. Акцябрскім) с/с Чырвонаслабодскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. Раёўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 61 жыхар. У 2004 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. аграфірмы «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Мазалі).

**РАССВЕТ** (да 1964 г. Замагілле) — вёска ў Акцябрскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 54 гаспадаркі, 104 жыхары (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 180 сял. душ (93 мужчынскага, 87 жаночага полу), у Слуцкім павеце Мінскай губ., мелася карчма. У 1800 г. 43 двары, 202 жыхары, уласнасць кн. Д. Радзівіла. У 1870 г. вёска ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. На пач. 20 ст. жыхары вёскі, якая ўваходзіла ў Вескаўскую сельскую грамаду, мелі 1029,12 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрылася земская школа. У лютым—снеж. 1918 г. вёска акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнай школы была створана сав. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся дзеці з 8 навакольных вёсак. Школа размяшчалася ў наёмным памяшканні. Навучанне вялося на бел. мове. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр Замагільскага с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 230 двароў, 1162 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У калгасе працавалі кузня, конная крупарушка. На 1.1.1941 г. ў вёсцы было 170 двароў, 610 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 21 двор, загубілі 23 мірных жыхароў. 31 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 507 жыхароў, у складзе калгаса «Акцябр». У



*Саляныя адвалы. Від ад в. Радкава.*





2004 г. 83 гаспадаркі, 169 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр – в.Акцябр), магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**РАХАВІЧЫ** – вёска ў Хорастаўскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 170 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 55 гаспадарак, 118 жыхароў (2013).

Вядомы з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 9 жыхароў, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 3 двары, 27 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. калонія Рахавічы, 75 двароў, 579 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР З 12.10.1940 г. хутар у Пузіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. на хутарах Рахавічы, Вейна і Старэ, якія знаходзіліся побач, налічвалася 150 двароў, 718 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 160 двароў, 780 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 160 двароў) і загубілі 180 жыхароў, 8 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 23 жыхары загінулі на франтах, 1 – у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Хорастаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 30.4.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1969 г. 81 гаспадарка, 308 жыхароў, у складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 65 гаспадарак, 153 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа ( цэнтр – в. Хорастава), магазін, б-ка.

**РОГ** – вёска ў Даманавіцкім с/с, за 70 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 200 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына–Любань–Ветчын. 43 гаспадаркі, 67 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1677 г. сяло, 19 дымоў, уласнасць Радзівілаў, у Скавышынскай вол., у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 56 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Дзякавічы, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета, 68 рэвізскіх душ мужчынскага полу, цэнтр Рогаўскай сельскай грамады, якая ахоплівала 3 вёскі. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 675,49 дзес. зямлі. У 1909 г. 53 двары, 399 жыхароў, у 1917 г. 69 двароў, 525 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Князь-Возерскім (з 5.12.1931 г. Чырвонавозерскім) с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага р-на Мозырскай акругі, з 25.8.1925 г. зноў Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 80 двароў, 503 жыхары. На 1.1.1941 г. 109 двароў, 375 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. ў час блакады Акцябрска-Любанскай партыз. зоны гітлераўскія карнікі знішчылі вёску (усе 109 двароў) і загубілі 65 жыхароў. 40 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 – у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г.



ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Даманавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 129 гаспадарак, 421 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская камуна». У 2004 г. 75 гаспадарак, 119 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын), магазін. У 1958 г. на магіле мірных жыхароў, загубленых нацыстамі, пастаўлены абеліск.

**САВЕЦКАЯ МОРАЧ** (да 1939 г. Радацэнь) — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 152 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар Радацэнь у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 3 двары, 26 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Доўгаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 35 двароў, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 12 двароў і загубілі 1 жыхара. 23 вяскоўцы загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г.вёска ў Любанскім, з 6.1 1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 168 жыхароў, у складзе калгаса «Новы Свет». У 2004 г. 34 гаспадаркі, 63 жыхары, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «БелСлуч» (цэнтр — в. Доўгае).

**САКОВІЧЫ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 154 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 152 гаспадаркі, 364 жыхары (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 23 валокі зямлі, у складзе маёнтка Пагост, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1627 г. сяло ў складзе маёнтка Мецявічы. У 1660 г. сяло, 30 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць, у Нячаевіцкай вол. ў Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска пры воз. Саковічы, 76 сял. душ (39 мужчынскага, 37 жаночага полу), уласнасць кн. Д. Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў, 46 жыхароў. У 1858 г. вёска, цэнтр маёнтка, 31 сял. душа мужчынскага полу, уласнасць кн. П. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў складзе Старобінскай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1886 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе навучаліся 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г.: вёска — 40 двароў, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін; фальварак — 6 двароў, 39 жыхароў. У пач. 20 ст. жыхарам вёскі належалі 244,6 дзес. зямлі. У 1917 г. вёска, 45 двароў, 330 жыхароў, побач аднайменны фальварак. У лютым—снеж. 1918 г. Саковічы акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска і хутар у Лістападавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 49 двароў, 270 жыхароў, на хутары 16 двароў, 71 жыхар. На 1.1.1941 г. вёска, 80 двароў, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 жыхароў, 2 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію.

На франтах загінулі 33 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 594 жыхары, цэнтр калгаса «Зара». У 2004 г. 175 гаспадарак, 436 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін), магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**САЛАГОШЧ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 42 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 160 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 33 гаспадаркі, 103 жыхары (2013).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 11 жыхароў. У 1917 г. хутар, 1 двор, 5 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. хутар акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. дзеці з хутара наведвалі школу ў в. Веска (за 5 км), у якой у 1922 г. было 7 вучняў з Салагошча. З 20.8.1924 г. пасёлак у Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 36 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска, 13 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 68 жыхароў, у складзе калгаса «Пуцілавец». У 2004 г. 38 гаспадарак, 138 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. вытворчасці «Мазуршчына» с.-г. філіяла ААТ «Салігорскводбуд» (цэнтр — в.Жоўты Брод), бібліятэка-клуб.

**САХАЛІН** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 36 жыхароў. У 2004 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**СЕВЯРЫНЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 159 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 12 гаспадарак, 26 жыхароў (2013).

Вядомы з 19 ст . Паводле перапісу 1897 г. засценак, 18 двароў, 128 жыхароў, у складзе Старчыцкай сельскай грамады, у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. 90 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 94 жыхары. Пасялковыя дзеці наведвалі школу ў в. Замагілле (за 2 км). У 1931 г. арганізаваны калгас «Севярыны». На 1.1.1941 г. вёска, 13 двароў, 63 жыхары. У Вял.



Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 132 жыхары, у складзе калгаса «Пуцілавец». У 2004 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр — в. Акцябр).

**СІНЯК** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 155 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

Вядомы з 1920-х г. З 20.8.1924 г. пасёлак у Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 31 жыхар. На 1.1.1941 г. 8 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары і загубілі 2 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 19 жыхароў, у складзе калгаса «Акцябр». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Вікторыя-Агра» (цэнтр — в. Акцябр).

**СІЦЯНЕЦ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 154 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2013).

Вёска вядома з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 12 двароў, 82 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. засценак у складзе Павaрчыцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 74 жыхары. У пач. 20 ст. жыхары засценка мелі 91,82 дзес. зямлі. У 1909 г. 24 двары, 133 жыхары. У 1917 г. 26 двароў, 146 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Старобінскім с/с (з 1935 г. местачковым, з 1938 г. пас. Савеце) і раёне Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 149 жыхароў. У 1930 г. заснаваны калгас «1 Мая». На 1.1.1941 г. вёска, 42 двары, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 178 жыхароў, у складзе саўгаса «Старобінскі». У 2004 г. 26 гаспадарак, 37 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін).

**СКАЎШЫН** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 53 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 186 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 188 гаспадарак, 392 жыхары (2013).

Вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. Упершыню ўзгадваецца ў 1514 г. як вёска Скавышын. Тут Глеб Юр'евіч Домант

«погоней идучи за неприятелем, войско татарское за Слуцком в лесах Сковышинских побил и много людей литовских у неволю полоном забраных отгромил».У 1566 г. сяло, 7 служб, цэнтр воласці, у Слуцкім княстве. У 17 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць, цэнтр Скаўшынскай вол. ў Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. У 1677 г. сяло, 33 дымы, у складзе маёнтка Дарогі, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1815 г. вёска, 126 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мазырскім павеце Мінскай губ. Знаходзілася ў секвестры за казённы доўг. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Дзякавічы, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета, цэнтр сельскай грамады, 113 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у першы год вучыліся 16 хлопчыкаў. У пач. 20 ст. жыхары вёскі валодалі 1654,88 дзес. зямлі. У 1909 г. 102 двары, 748 жыхароў. У 1912 г. школа граматы рэарганізавана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 137 двароў, 974 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага вучылішча была створана пач. школа, у якой у 1922 г. вучыліся дзеці з 7 навакольных вёсак. З 20.8.1924 г. вёска ў Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 97 двароў, 526 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Скаўшын». У 1939 г. калгас стаў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве. На 1.1.1941 г. 205 двароў, 1010 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся штаб 37-й партыз. брыгады імя А.Я.Пархоменкі. Гітлераўцы знішчылі вёску (усе 205 двароў) і загубілі 55 жыхароў. На франтах загінулі 96 землякоў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. Калгас быў узбуйнены шляхам далучэння суседніх калгасаў імя Кірава (в. Запераходнае) і «2-гі год 2-й пяцігодкі» (в. Завыхад). Новая гаспадарка (з цэнтрам у Скаўшыне) атрымала назву «Радзіма». З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. ў вёсцы 297 двароў, 1243 жыхароў. У 2004 г. 247 двароў, 572 жыхары, цэнтр. сядзіба СВК «Скаўшын». У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын», сярэдняя школа-сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, лясніцтва. У 1965 г. ў гонар 37-й партыз. брыгады імя А.Я.Пархоменкі пастаўлена стэла. У 1967 г. на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі у Вял. Айч. вайну, у скверы пастаўлены помнік — скульптура воіна у жалобе.

**СТАРАДВОРЦЫ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 128 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2013).

Вядомы з 19 ст. У 1886 г. засценак у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 98 жыхароў. На пач. 20 ст. ў складзе Чапялёўскай сельскай грамады, жыхары мелі 87,77 дзес. зямлі. У 1909 г. 12 двароў, 63 жыхароў, у 1917 г. 12 двароў, 80 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Краснадворскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г.



ў Мінскай вобл. У 1926 г. 22 двары, 106 жыхароў. На 1.1.1941 г. вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 51 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоная зорка». У 2004 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Краснадворскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы).

**СТАРОБІН** — гарадскі пасёлак, цэнтр Старобінскага с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 144 км ад Мінска, на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Мікашэвічы. 5755 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1627 г. слабада, уласнасць князёў Радзівілаў, у Слуцкім княстве ВКЛ. У 1680 г. мястэчка на р. Случ, уласнасць Радзівілаў, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. мястэчка, 40 двароў, 238 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ., меліся 2 драўляныя царквы, 3 карчмы. У 1800 г. 40 двароў, 221 жыхар. Адзін раз на год праводзіўся кірмаш. У 1829 г. пабудаваны саляны магазін. Паводле інвентару 1846 г. 168 двароў, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. Насельніцтва мястэчка было стракатае паводле нац. складу. Большую частку складалі яўрэі (98 двароў). У 1859 г. на сродкі кн. Вітгенштэйна была пабудавана драўляная Мікалаеўская царква (у 1890 г. згарэла). У 1861 г. ў мястэчку 160 двароў, 721 жыхар, меліся царква, капліца і яўр. малітоўны дом. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1884 г. навучаліся 74 хлопчыкі. У 1870 г. мястэчка, цэнтр Старобінскай вол. Слуцкага павета і сельскай грамады, 157 сял. душ мужчынскага полу, размяшчаліся вал. праўленне, паштовая станцыя. У 1886 г. 62 двары, 496 жыхароў, меліся бровар, 2 царквы, нар. вучылішча (у 1895 г. для яго ўзведзены уласны будынак), 3 яўр. школы, 2 крамы. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 340 двароў, 2368 жыхароў, меліся вал. праўленне, паштовае аддз., хлебазапасны магазін, праваслаўная царква, 2 яўр. малітоўныя дамы, 29 крам, піцейны дом, нар. вучылішча (у 1905 г. ў ім вучыліся 219 хлопчыкаў і 30 дзяўчынак). На працягу года праходзілі таргі па нядзелях і святочных днях. У 1909 г. 280 двароў, 1773 жыхары. У 1917 г. 346 двароў, 2170 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. мястэчка акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага нар. вучылішча была створана сямігадовая школа, у якой

*Забудова вуліцы Маладзёжнай у г.п. Старобін.*

*Забудова вуліцы Савецкай у г.п. Старобін.*







*Будынак Старобінскага сельсавета.*



*Фрагмент забудовы г.п. Старобін.*

вучыліся дзеці з 10 навакольных вёсак і хутароў. З 17.7.1924 г. цэнтр Старобінскіх р-на і сельсавета (з 1935 г. мястэчковага, з 1938 г. пас. Савета) Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У 1932 г. была створана Старобінская МТС, якая размяшчалася у в. Кулакі. МТС абслугоўвала 25 калгасаў раёна, мела 4 трактарныя брыгады, якія налічвалі па 4—5 колавых і 1—2 гусенічныя трактары. У 1933 г. пачала працаваць Старобінская электрастанцыя. У 1935 г. дзейнічалі маслазавод, лесапільны завод арцелі «Звязда», паравы млын, шавецкая майстэрня «Калектывіст», кравецкая майстэрня арцелі «Чырвоны Кастрычнік», дрэваапрацоўчая майстэрня арцелі «Чырвоная праца», друкарня газеты «Калгаснік Старобіншчыны». З 21.6.1935 г. Старобін у аднаўленай Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. 3,4 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну 26.6.1941 г. мястэчка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў Старобіне і раёне загубілі 2886 чал. У чэрв. 1944 г. варожы гарнізон у Старобіне налічваў больш за 1 тыс. добра ўзброеных салдат і афіцэраў. Гарнізон быў умацаваны дзотамі, акопамі і загародамі. У ноч на 29 чэрвеня партызаны 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага выбілі праціўніка са Старобіна, вымусілі яго адступіць на ПдЗ, арганізавалі абарону і ўтрымлівалі Старобін да падыходу часцей Чырвонай Арміі, што дало магчымасць захаваць Старобін ад знішчэння і прадухіліць вываз насельніцтва і матэрыяльных каштоўнасцей у Германію. З 20.9.1944 г. Старобін у Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. 25.12.1962 г. Старобінскі р-н быў скасаваны і далучаны да Любанскага р-на. З 6.1.1965 г. Старобін у



*Гандлёвы цэнтр у г.п. Старобін.*



*Будынак Старобінскай сярэдняй школы.*



Салігорскім р-не. У 2004 г. 6 тыс. жыхароў. З 1.1.2010 г. цэнтр Старобінскага с/с. Дзейнічаюць (2013) Старобінская гар. бальніца, Дом культуры, сярэдняя школа, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк». У Старобіне размешчаны цэнтр. сядзіба ААТ «Старобінскі», раённае спажывецкае т-ва, прадпрыемства рабочага забяспячэння, раённы камбінат быт. абслугоўвання, торфабрыкетны з-д «Старобінскі», лясгас, дрэваапрацоўчы камбінат, Салігорская аўтабаза «Водбудаўтатранс», Салігорскае ўпраўленне вытв.-тэхн. камплектацыі «Палессеагракамплект», перасоўная механізаваная калона №10, дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне №166. У 1948 г. пастаўлены абеліскі – па вул. Пралетарскай на магіле 400 мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі, і па вул. Чырвонасцяжнай на магіле 400 ахвяр фашызму. На вул. Пагранічная ў 1961 г. пастаўлены помнік на магіле Героя Сав. Саюза камандзіра 101-й партыз. брыгады імя Аляксандра Неўскага Д.Ц.Гуляева (загінуў у баі 5.9.1943 г.) – скульптурны партрэт на пастаменце, і абеліск у 1967 г. – у гонар 283 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1975 г. створаны мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці 210 сав. воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна. Старобін – радзіма нар. артысткі СССР Г.К.Макаравай (27.12.1919–28.9.1993).

**СТАРЫЦА** – былы пасёлак на тэр. Чырвонаслабодскага с/с, знаходзіўся за 43 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска, на р. Вызенка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада.

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. як двор Старыца, які належаў да Капыльскага княства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У1797 г. вёска, узгадваецца як Старыца Вышкаўская, 2 сял. душы мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Вызненскай вол. Слуцкага павета. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. ў пасёлку было 9 двароў, 27 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў загінула у баях з гітлераўцамі на фронце. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-нах, з 28.8.1964 г. ў Першамайскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 25 жыхароў, у калгасе «Шлях Леніна». У 2004 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. У 2005 г. Старыца выключана з рэестра населеных пунктаў.



*Г.К.Макарава.*

**СТАРЫЯ ЦЯРУШКІ** – вёска (з 2010 г. аграгарадок) ў Зажэвіцкім с/с, за 17 км на У ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырво-

*Мікалаеўская царква ў г.п. Старобін.*



ная Слабада. 294 гаспадаркі, 627 жыхароў (2013).

Вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска, дзярж. ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1866 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1990/91 навуч. годзе навучалася 15 хлопчыкаў. У 1870 г. вёска ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета, 233 душы мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады. У 1886 г. 58 двароў, 534 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 845 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын, царква. У пач. 20 ст. жыхары вёскі мелі 1128,95 дзес. зямлі. У 1907 г. адбылася сутычка сялян з паліцыяй у час вырубкі лесу ў памешчыка Карказовіча. У 1909 г. 161 двор, 1063 жыхары. У 1912 г. школа граматы ператворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 172 двары, 1075 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага нар. вучылішча была створана аднакамплектная школа, навучанне вялося на бел. мове. Школа размяшчалася у наёмным памяшканні, у 1922 г. налічвалася 200 вучняў. З 20.8.1924 г.вёска ў Зажэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Трэці рашаючы». На 1.1.1941 г. 311 двароў, 1393 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 8 жыхароў. 83 вяскоўцы загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1699 жыхароў, цэнтр калгаса «Трэці рашаючы». У 2004 г. 324 гаспадаркі, 661 жыхар. У 2013 г. ў вёсцы — цэнтр. сядзіба ААТ «Рашаючы», базавая школа—сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. У 1977 г. каля будынка Дома культуры ў гонар землякоў, якія загінулі у Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэлы з імёнамі загінуўшых.

**СЯЛЬЦО** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска, каля Салігорскага вадасховішча (на р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань — Чырвоная Слабада. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 6 валок зямлі, у складзе маёнтка Пагост, шляхецкая ўласнасць, у Слуцкім княстве. У 1627 г. сяло ў складзе маёнтка Пагост, шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 49 двароў, 254 жыхары, меўся вадзяны млын, у складзе маёнтка Пагост, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1801 г. пабудаваны хлебазапасны магазін, у 1803 г. — карчма. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы было 36 двароў, 136 жыхароў, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1860 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 20 хлопчыкаў. У 1870 г. вёска ў Пагостаўскай вол. Слуцкага павета, цэнтр сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 608 жыхароў, меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. жыхары вёскі мелі 828,77 дзес. зямлі. У 1909 г. 103 двары, 600 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Мецявіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 134 двары, 689 жыхароў.



На 1.1.1941 г. 160 двароў, 640 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 жыхароў, 6 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 46 вяскоўцаў загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 31.3.1964 г. вёска ў Пагостаўскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1970 г. 578 жыхароў, у складзе саўгаса «Свабода». У 2004 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ТАВАРЫШЫ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 175 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 16 гаспадарак, 34 жыхары (2013).

Вядомы з 1920-х г. З 20.8.1924 г. хутар у Даманавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутары 8 двароў, 62 жыхары, 49 дзяцей з хутара наведвалі школу ў Даманавічах (за 3 км). На 1.1.1941 г. вёска, 24 двары, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі вёску (усе 24 двары) і загубілі 3 жыхароў, 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 32 гаспадаркі, 142 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У 2004 г. 23 гаспадаркі, 54 жыхары, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Ананчыцы» (цэнтр — в. Ананчыцы ).

**ТАМІЛАВА ГАРА** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 137 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань — Чырвоная Слабада. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. у Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. у Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р- нах. У 2004 г. 19 двароў, 25 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ТЫЧЫНЫ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 20 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 158 км ад Мінска, каля Салігорскага вадасховішча (на р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 131 гаспадарка, 293 жыхары (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 13 двароў, 65 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. засценак у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1890 г. была адкрыта школа граматы, у першы год вучыліся 7 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. засценак — 15 двароў, 103 жыхары, побач фальварак — 3 двары, 19 жыхароў. У 1909 г. засценак — 19 двароў, 86 жыхароў, і хутар — 3 двары, 23 жыхары. У 1917 г. засценак — 20 двароў, 112 жыхароў. Побач 2 аднайменныя хутары: 3 двары, 24 жыхары; 1 двор, 8 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З

1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Старобінскім с/с (з 1935 г. мястэчковым, з 1938 г. пас. Савеце) і раёне Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 9 двароў, 85 жыхароў. У 1930 г. быў заснаваны калгас «Чырвоная паляна». Пазней хутары зліліся з засценкам у адну вёску. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 46 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 2 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 127 жыхароў, у складзе саўгаса «Старобінскі». У 2004 г. 32 гаспадаркі, 42 жыхары. З 1.1.2010 г. ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п. Старобін).

**УСТРОНЬ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 158 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 1 гаспадарка, 7 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1800 г. маёнтак Устроня, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1833 г. маёнтак Устронь уключаў таксама вёскі Веска і Васільборкі, налічвалася 148 душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1844 г. ў маёнтку 306 сял. душ, уласнасць генерал-маёра Прушынскага. У 1870 г. маёнтак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак — 8 двароў, 42 жыхары, фальварак — 1 двор, 17 жыхароў. У 1906 г. ў маёнтку дзейнічаў вінакурны завод, у 1913 г. на ім працавалі 9 рабочых, быў пастаўлены паравы рухавік магутнасцю 12 к.с. У 1917 г. 1 двор, 123 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1921 г. на базе маёнтка быў створаны саўгас «Устронь». У 1922 г. 9 дзяцей з саўгаса наведвалі школу ў в. Замагілле (за 4 км). З 20.8.1924 г. пасёлак у Замагільскім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 58 жыхароў. На 1.1.1941 г. ў вёсцы 18 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 4 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Акцябрскім с/с. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 62 жыхары, у складзе калгаса «Акцябр». У 2004 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. прадпрыемства «Мазуршчына» (цэнтр — в. Жоўты Брод).

**ХВАЛЁВА** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 136 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 39 гаспадарак, 102 жыхары (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 75 жыхароў. У 2004 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ХОРАСТАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 54 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст.



Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, за 187 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 272 гаспадаркі, 788 жыхароў (2013).

Вядома з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, цэнтр маёнтка ў Мазырскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Галіцына. У 1806 г. маёнтак набыў памешчык Ф.Замойскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 645 сял. душ. Паводле інвентару 1844 г. сяло, 35 двароў, 198 жыхароў, уласнасць сыноў Ф.Замойскага Казіміра і Аляксандра. У 1870 г. сяло, 69 душ мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады (якая ахоплівала 4 вёскі), мелася драўляная Пакроўская царква, побач з сялом маёнтак Замойскіх, у Ленінскай вол. Мазырскага павета. На пач. 20 ст. сяло (611,13 дзес. зямлі). У 1909 г. ў сяле 61 двор, 15 жыхароў; у маёнтку 1 двор, 15 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. вёска, 130 двароў, 735 жыхароў, і фальварак, 6 двароў, 29 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 106 двароў, 675 жыхароў, пач. школа, клуб, млын, смалакурны завод, мелася тэлефонная сувязь з райцэнтрам. На 1.1.1941 г. 120 двароў, 795 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 120 двароў) і загубілі 120 жыхароў, 17 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 — у партыз. барацьбе.У баях за вызваленне вёскі загінулі 8 партызан. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25. 12. 1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-не. У 1969 г. 169 гаспадарак, 845 жыхароў, цэнтр калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 1990 г. пачала дзейнічаць праваслаўная царква. У 2004 г. 288 гаспадарак, 899 жыхароў. У 2013 г. у вёсцы — цэнтр. сядзіба ААТ імя В.З.Каржа, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, магазін, урачэбная амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк»», камбінат бытавога абслугоўвання, кафэ, б-ка. У 1963 г. на магіле партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік. У 1967 г. каля будынка клуба, на магіле 56 ахвяр фашызму, і каля будынка сельсавета, на магіле 5 ахвяр фашызму, пастаўлены абеліскі. У 1975 г. ў скверы ў гонар Героя Сав. Саюза генерал-маёра В.З.Каржа, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены помнік — скульптурны партрэт героя.



*В.З.Корж.*

**ЦЯСОВА**— вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 261 гаспадарка, 515 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 25 валок зямлі, у складзе маёнтка Пагост, у Навагрудскім ваяв. У 1682 г. сяляне (чыншавікі) за вызначаную плату бралі ў апрацоўку зямлю і ў в. Лістападавічы маёнтка Бранчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 69 двароў, 351 жыхар, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 271 жыхар мужчынскага полу, уласнасць князя Л. П. Вітгенштейна. У 1859 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучылася 35 хлопчыкаў. У





1870 г. ў вёсцы 290 мужчынскага полу. У 1886 г. 71 двор, 607 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 160 двароў, 1163 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца, піцейны дом. У пач. 20 ст. вёска (2270,87 дзес. зямлі), цэнтр сельскай грамады, у Пагостаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 207 двароў, 1351 жыхар. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. 1.2.1919 г. на базе дарэвалюцыйнай школы была створана пач. школа, якую наведвалі дзеці з навакольных вёсак і хутароў. Школа размяшчалася у наёмным памяшканні, за наём якога плацілі 25 пудоў аўса за год. Школа праіснавала да лета 1919 г. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920г. — вёска акупіравана польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. вёска ў Пагостаўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 293 двары, 1649 жыхары. У 1930 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Ясная раніца». У калгасе працавалі кузня, сталярная і шорная майстэрні. На 1.1.1941 г. 275 двароў, 1190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 2 двары і загубілі 5 жыхароў, 4 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 86 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Усяго ў сав.-фінляндскай вайне 1939—40 гг. і ў Вял. Айч. вайну загінулі 134 землякі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1381 жыхар, цэнтр калгаса імя Чкалава. У 2004 г. 317 гаспадарак, 715 жыхароў, дзейнічала базавая школа-сад. З 1.3.2010 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Рашаючы» (цэнтр — в.Старыя Цярушкі), дзіцячы сад, Дом культуры, магазін, б-ка. У 1947 г. ў цэнтры вёскі на магіле сав. воіна, які загінуў у баі з ням.-фаш. захопнікамі пры абароне вёскі ў 1941 г., пастаўлены абеліск. У 1975 г. каля клуба на ўшанаванне памяці загінуўшых землякоў устаноўлены помнік — стэла з барэльефам воіна, абапал яе дошкі з імёнамі загінуўшых.

**ЧАЛАНЕЦ**— вёска ў Хорастаўскім с/с , за 47 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 177 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 216 гаспадарак, 550 жыхароў (2013).

Вядомы з пач. 19 ст. як вёска ў складзе маёнтка Хорастава, уласнасць памешчыка М.Галіцына, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1806 г. вёску набыў памешчык Ф.Замоўскі. Паводле рэвізіі 1833 г. 98 душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1844 г. 34 двары, 194 жыхары. У 1870 г. 86 душ мужчынскага полу, вёска ў складзе Хорастаўскай сельскай грамады. На пач. 20 ст. вёска (755,92 дзес. зямлі) ў Ленінскай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У 1909 г. 85 двароў, 473 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 130 двароў, 735 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Пузіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 204 двары, 1169 жыхароў. На 1.1.1941 г. 170 двароў, 820 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы знішчылі вёску (усе 170 двароў) і загубілі 120 жыхароў, 24 жыхары вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 55 вяскоўцаў загінулі на франтах, 4 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай



вобл. З 16 7.1954 г. ў Хорастаўскім с/с. З 20.1.1960 г. вёска ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім р-не, з 14.1.1963 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 30.4.1965 г. ў Салігорскім р-не Мінскай вобл. У 1970 г. вёска ў складзе калгаса «Партызанскі край» імя В.З.Каржа. У 2004 г. 269 гаспадарак, 726 жыхароў. вытв.-майстарскі ўчастак «Чаланец» Старобінскага лясгаса. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ імя В.З.Каржа (цэнтр — в. Хорастава), магазін, б-ка. У 1967 г. пастаўлены абеліск на магіле 100 мірных жыхароў вёсак Чаланец, Дубіца і Вейна, якіх загубілі гітлераўскія карнікі 12.2.1943 г. У 1968 г. на зах. ускраіне вёскі пастаўлены абеліск на магіле 20 аднавяскоўцаў, загубленых нацыстамі. У 1979 г. на магіле 50 ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. У 1968 г. ў гонар землякоў, што загінулі у Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе, насыпаны курган, на вяршыне яго пастаўлены абеліск.

**ЧАПЯЛІ** — вёска ў Краснадворскім с/с, за 11 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 126 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 193 гаспадаркі, 387 жыхароў (2013).

Вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. Імперыі. У 1800 г. вёска (70 двароў, 423 жыхары) і фальварак, у складзе маёнтка Бранчыцы, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў вёсцы 427 сял. душ. У 1870 г. вёска (199 душ мужчынскага полу, цэнтр сельскай грамады) і аднайменны маёнтак (уласнасць памешчыкаў Каркозевічаў) у Старобінскай вол. Слуцкага павета. У 1879 г. ў маёнтку пачаў працаваць вінакурны завод (7 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 115 двароў, 785 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, праваслаўная капліца, піцейны дом; у маёнтку 6 двароў, 72 жыхары, працаваў вінакурны завод (маёнткам і заводам валодаў памешчык Булгак). На пач. 20 ст. вёска — цэнтр Чапялёўскай сельскай грамады, якая ахоплівала 10 вёсак. У 1909 г. ў вёсцы 151 двор, 909 жыхароў. У 1913 г. на вінакурным заводзе ў маёнтку, дзе працавалі 6 рабочых, быў пастаўлены паравы рухавік магутнасцю 10 к.с. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр сельсавета Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы налічвалася 220 двароў, 1063 жыхары, з 1.1.1925 г. дзейнічала пач. школа (у наёмным памяшканні). У былым маёнтку ў 1928 г. была арганізавана камуна, ператвораная ў 1929 г. ў калгас «Прамень камуны», які аб'яднаў 108 гаспадарак. У калгасе працавалі кузня, 3 ветраныя млыны. На 1.1.1941 г. 310 двароў, 1132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 126 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 1435 жыхароў, цэнтр калгаса «Прамень



*Саляныя адвалы. Від ад в. Чапялі.*





камуны». У 2004 г. 233 гаспадаркі, 473 жыхары, дзейнічала сярэдняя школа, дзіцячы сад. З 1.3.2010 г. ў складзе Краснадворскага с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Краснадворцы» (цэнтр — в. Краснадворцы), фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.У 1974 г. ў цэнтры вёскі ў гонар землякоў, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны, устаноўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам, побач стэла з імёнамі загінуўшых.

**ЧЫЖОЎКА** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 31 гаспадарка, 61 жыхар (2013).

Вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1833 г. вёска, 167 душ мужчынскага полу, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна, у складзе маёнтка Заброддзе, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Вёска была арандавана на 12 гадоў памешчыкам А.Акалавым. Паводле інвентару 1844 г. 48 двароў, 280 жыхароў, меўся вадзяны млын.

На пач. 20 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады, у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Жыхарам вёскі належалі 673,38 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах.У 1970 г. 101 жыхар, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2004 г. 22 гаспадаркі, 31 жыхар. У 2013 г. вёска ў складзе ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЧЫЖЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 1 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 132 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 167 гаспадарак, 310 жыхароў (2013).

Вядомы ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло, 40 (у 1600 г. — 65) валок зямлі, у складзе маёнтка Мецявічы, шляхецкая ўласнасць, у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Сярод царк. агароджы была пастаўлена званіца. У 1800 г. сяло, 99 двароў, 429 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795—1808 гг. на сродкі прыхажан была пабудавана драўляная Пакроўская царква. Паводле інвентару 1844 г. маёнтак Чыжэвічы, уласнасць памешчыка М.Даманскага. У складзе маёнтка 2 вёскі, 1228 дзес. зямлі. У 1859 г. адкрыта школа граматы. У 1861 г. ў сяле 71 двор, 596 жыхароў. У 1870 г. сяло, 238 душ мужчынскага полу, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1879 г. адкрыта 2-я школа граматы (у 1890/91 навуч. г. ў 1-й вучыліся 20 хлопчыкаў, у 2-й — 12). У 1886 г. сяло, 59 двароў, 570 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 158 двароў, 1051 жыхар, хлебазапасны магазін, царква, піцейны дом; цэнтр Чыжэвіцкай сельскай грамады (1384,16 дзес. зямлі). У 1909 г. 201 двор, 1226 жыхароў. У 1912 г. на базе школ граматы створана нар. вучылішча.У 1917 г. 215двароў, 1226 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнага вучылішча была створана пач. школа (у 1921 г. 215 вучняў), якая размяшчалася у нацыялізаваным доме свяшчэнніка. З 20.8.1924 г. сяло — цэнтр Чыжэвіцкага с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г.





*Пакроўская царква (пач. 19 ст.) у в. Чыжэвічы.*

Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 305 двароў, 1544 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Свабода». У калгасе працавалі кузня, ваўначоска, ветраны млын, машынна-трактарная майстэрня. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. вёска ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 966 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарняк». У 2004 г. ў вёсцы 187 гаспадарак, 342 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін), магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца помнік архітэктуры — праваслаўная Пакроўская царква — узор драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму і рэтраспектыўнарус. стылю (пач. 19 ст.). Храм дзейнічае.

**ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА**— вёска ў Даманавіцкім с/с, за 67 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 197 км ад Мінска, за 10 км на ПнЗ ад воз. Чырвонае (Князьвозера, на мяжы з Жыткавіцкім р-нам Гомельскай вобл.). Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Кучына—Любань—Ветчын. 42 гаспадаркі, 81 жыхар (2013).

Вядома з 19 ст. як сяло Князь-Возера (каля аднайменнага возера), казённая маёмасць у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1861 г. 21 двор, 218 жыхароў, у тым самым годзе пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1870 г. ў сяле 77 душ мужчынскага полу. У 1886 г. 29 двароў, 259 жыхароў, у складзе Даманавіцкай сельскай грамады, у Дзякавіцкай вол. Мазырскага павета Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 16 хлопчыкаў. У сялян былі частыя сутычкі з памешчыкам з-за межаў паміж яго ўгоддзямі і землямі сялян, 21.6.1898 г. сяляне аказалі супраціўленне аб'ездчыку і землямеру пры правядзенні імі межавання, адбылася сутычка сялян (каля 40 чалавек) з паліцыяй. У 1909 г. 90 двароў, 456 жыхароў, аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 100 двароў, 690 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. сяло, цэнтр Князь-Возерскага с/с Старобінскага р-на Слуцкай акругі, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі, з 25.8.1925 г. зноў Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай акруг. У 1926 г. 111 двароў, 527 жыхароў. 5.12.1931 г. вёска атрымала новую назву — Чырвонае Возера, сельсавет быў перайменаваны ў Чырвонавозерскі. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 80 двароў, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі вёску (усе 80 двароў) і загубілі 25 жыхароў, вывезлі 20 вяскоўцаў на прымусовыя работы у Германію. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл.





З 16.7.1954 г. вёска ў Даманавіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 115 гаспадарак, 424 жыхары. У 2004 г. 69 гаспадарак, 148 жыхароў, магазін. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Скаўшын» (цэнтр — в. Скаўшын).

**ЧЫРВОНАЯ ДАЛІНА** — пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г., у Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на, з 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 144 жыхары. У 2004 г. 26 гаспадарак, 39 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр — в. Жабін).

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** (да 1923 г. Вызна) — гарадскі пасёлак, цэнтр сельсавета, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 140 км ад Мінска, на р. Вызенка (Вызнянка, прыток р. Морач). На шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 5190 жыхароў (2013).



*Панарама г.п. Чырвоная Слабада.*

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1582 г. сяло Вызна, цэнтр маёнтка Вызна, у Слуцкім княстве Навагрудскага ваяв., уласнасць кн. Юрыя Алелькавіча. У 17 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць у Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. У 1667 г. мястэчка Вызна і аднайменны маёнтак належалі Радзівілам. У 1748 г. ў мястэчку дзейнічала праваслаўная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. мястэчка, у Слуцкім павеце Мінскай губ., 599 сял. душ, 3 карчмы, 2 млыны. Непадалёк ад мястэчка — маёнтак кн. Д.Радзівіла (панскі дом быў драўляны). У 1800 г. ў мястэчку 95 двароў, 653 жыхары, драўляная Мікалаеўская царква, вадзяны млын на адну паставу з плацінай на р. Вызнянка. Штогод у мястэчку праходзілі кірмашы. У 1818 г. пабудаваны новы панскі дом. У склад маёнтка ўваходзілі мяст. Вызна і в. Жываглодавічы. У маёнтку меліся праваслаўная часоўня, вінакурня, саладоўня, ляднік, кузня, Дом майстроў. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічвалася 1145 сял. душ. Паводле інвентару 1844 г. ў мястэчку былі вуліцы Парэцкая і Слуцкая, Базарная пл., 118 двароў, 522 жыхары. Меліся карчма, 2 хлебазапасныя магазіны, сельскае вучылішча. Бярозавы гай аддзяляў мястэчка ад маёнтка. У 1858 г. мястэчка, 310 сял. душ мужчынскага полу, побач маёнтак, уласнасць кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1859 г. 127 двароў. У 1861 г. 110 двароў, 854 жыхары, праваслаўная царква, яўр. малітоўная школа. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1884 г. вучыліся 56 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1870 г. мястэчка, 311 душ мужчынскага полу, цэнтр Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Маёнтак Вызна, што размяшчаўся непадалёку ад мястэчка, належаў кн. Вітгенштэйну. У 1878 г. згарэла Мікалаеўская царква, у 1886 г. пабудаваны новы храм. У 1886 г.





*Будынак сярэдняй шко лы ў г.п. Чырвоная Сла бада.*

ў мястэчку 94 двары, 795 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка Вызна (цэнтр воласці і сельскай грамады), 249 двароў, 1677 жыхароў, вал. праўленне, паштовая станцыя, 2 царквы, 2 сінагогі, бальніца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 8 крамаў, піцейны дом; маёнтак, 6 двароў, 68 жыхароў; пасёлак, 1 двор, 7 жыхароў; выселак, 4 двары, 25 жыхароў. У 1900 г. ў маёнтку, якім валодаў памешчык І.Іскрыцкі, быў пабудаваны вінакурны завод. У 1905 г. ў нар. вучылішчы вучыліся 180 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 1909 г. ў мястэчку 265 двароў, 1825 жыхароў; 1909,44 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1921 г. на Дваровай вул. адкрылася яўр. школа, якую наведвалі 102 вучні (школа размяшчалася ў наёмным будынку , за наём якога плацілі 50 руб. штомесяц). З 20.8.1924 г. мястэчка — цэнтр Чырвонаслабодскага р-на і сельсавета Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай акруг. У 1926 г. ў мястэчку 541 двор, 2363 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоная Слабада». З 21.6.1935 г. раён у складзе зноў утворанай Слуцкай акругі. 15.7.1935 г. Чырвонаслабодскі с/с скасаваны ў сувязі з утварэннем Чырвонаслабодскага местачковага Савета. У 1935 г. ў мястэчку працавалі маслазавод, лесазавод, паравы млын, торфазавод арцелі «Чырвоны пагранічнік», кузнечная майстэрня арцелі «Молат», кравецкая майстэрня арцелі «Зорка», шавецкая майстэрня арцелі «Прагрэс», арцель газавых вод «Новы быт», кузня, 2 ветраныя млыны, салатопка арцелі «Ударны мылавар». Па вул. Маставая размяшчалася хлебапякарня, па вул. Старобінскай — друкарня газеты «Калгаснік». З 20.8.1938 г. ў Мінскай вобл., 27.9.1938 г. мястэчка пераўтворана ў гар. пасёлак, местачковы Савет у пасялковы. На 1.1.1941 г. ў Чырвонай Слабадзе 509 двароў, 2520 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 54 двары і загубілі 750 жыхароў, 15 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 130 жыхароў пасёлка загінулі на франтах, 50 — у партыз. барацьбе. У ноч на 31.10.1942 г. партызаны атрада В.А.Васільева разграмілі ў Чырвонай Слабадзе варожы гарнізон. У баях за вызваленне Чырвонай Слабады 30.6.1944 г. загінулі 68 салдат і афіцэраў 20-га стралк. корпуса 28-й арміі і конна-механізаванай групы 1-га Бел. фронту. У гады Вял. Айч. вайны на франтах і ў партыз. барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі 225 землякоў — жыхароў пас. Савета. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. 8.8.1959 г. Чырвонаслабодскі р-н быў скасаваны, г.п. Чырвоная Слабада ўвайшоў у склад Старобінскага р-на. З 25.12.1962 г. гар. пасёлак у Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1969 г. 4,2 тыс. жыхароў, у гар. пасёлку размяшчалася цэнтр. сядзіба саўгаса «Чырвонаслабодскі» (створаны ў 1965 г., з



*Мікалаеўская царква ў г.п. Чырвоная Слабада.*

1991 г. калгас, у ліп. 2003 г. пераўтвораны ў СПК, з чэрв. 2004 г. — с.-г. філіял ААТ «Салігорскі райаграсервіс»). У 2004 г. 4,7 тыс. жыхароў. З 1.4.2010 г. цэнтр Чырвонаслабодскага с/с. Дзейнічаюць (2013) сярэдняя школа, санаторная школа-інтэрнат, спарт. школа, муз. школа, Дом дзіцячай творчасці, 2 дзіцячыя сады, Дом культуры, б-ка, Дом быту, кінатэатр, гар. бальніца, туберкулёзная бальніца, аптэка, участковая ветлячэбніца, аўтастанцыя, спажывецкае тав-ва, хлебазавод, сепаратарнае аддз. Салігорскага малочнага з-да, аддз. сувязі, лінейна-тэхн. ўчастак раённага вузла электрасувязі, участак жыллёва-камунальнай гаспадаркі, участак раённых электрасетак, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», лясніцтва, аварыйна-выратавальная часць № 3, ААТ «Рыбгас «Чырвоная Слабада», ААТ «Салігорскі райаграсервіс», перасоўная механізаваная калона №9 ААТ «Салігорскбуд», рамонтна-будаўнічы ўчастак прадпрыемства «Універсалпрамбуд», участак дарожна-будаўнічага ўпраўлення №166, ААТ «УралАЗаўтацэнтр», газаразмеркавальная станцыя, шэраг прыватных прадпрыемстваў. Дзейнічае Мікалаеўская царква. У 1956 г. ў цэнтры пасёлка на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены помнік. У 1966 г. пастаўлены абеліскі: на ўсх. ускраіне пасёлка — на магіле ахвяр фашызму, у цэнтры пасёлка — на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі у Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў.


Сядзіба 19—пач. 20 ст. ў г.п. Чырвоная Слабада.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** — вёска ў Зажэвіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 170 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Вёска ўзнікла ў пач. 20 ст. як урочышча Гнойны Рак у Пагосцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 7 двароў, 62 жыхары, у 1917 г. 5 двароў, 28 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Сухамільскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 35 жыхароў. У пасёлак ссяляліся палешукі з навакольных хутароў. У 1935 г. перайменаваны ў Чырвоны Бераг. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушкаўскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 35 жыхароў, у складзе калгаса «Усход». З 1987 г. ў Зажэвіцкім с/с. У 2004 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Добрыца» (цэнтр — в.Зажэвічы).

**ШАБУНЬКІ** — вёска ў Чыжэвіцкім с/с, за 26 км на Пн ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 130 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 5 гаспадарак, 16 жыхароў (2013).



Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1783 г. засценак у складзе маёнтка Івань, уласнасць К.Радзівіла, у Навагрудскім ваяв., 8 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1890 г. ў засценку адкрыта школа граматы, у якой у 1890/91 навуч. годзе вучыліся 8 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 91 жыхар, у Цараўскай вол. Слуцкага павета. У лютым–снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. У 1922 г. дзеці з вёскі наведвалі пач. школу ў Бранчыцах. З 20.8.1924 г. ў Чапялёўскім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 22 двары, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Случ». У 2004 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў. З 1.3.2010 г. ў Чыжэвіцкім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр – в. Жабін).

**ШАХАЎНІЦА** – пасёлак у Чыжэвіцкім с/с, за 2 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 131 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск–Мікашэвічы. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у 1930-я г., у Чыжэвіцкім с/с Старобінскага р-на. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 70 жыхароў. У 2004 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2013 г. пасёлак на тэр. ААТ «Гарняк» (цэнтр – в. Жабін).

**ШЫБІНА** – вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 40 км на З ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 155 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск – Чырвоная Слабада. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2013).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 6 жыхароў. У 1917 г. хутар, 1 двор, 25 жыхароў. У лютым–снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. – польскімі войскамі. З 20.8.1924 г. вёска ў Чырвонаслабодскім сельскім (з 1935 местачковым, з 1938 – пасялковым) Савеце Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На 1.1.1941 г. 15 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы, 1 – у партыз. барацьбе. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Мінскай вобл. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 89 жыхароў, у складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі». У 2004 г. ў вёсцы 6 двароў, 11 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсервіс» (цэнтр – г.п.Чырвоная Слабада).

**ЯБЛАНАВА** – вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк–Салігорск ад лініі Баранавічы–Асіповічы, 153 ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Любань – Чырвоная Слабада. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў (2013).





Вядома з пач. 20 ст. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г.пасёлак у Чырвонаслабодскім сельскім (з 1935 местачковым, з 1938 — пасялковым) Савеце Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 45 жыхароў. На 1.1.1941 г. 12 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Мінскай абласцях. З 8.8.1959 г. ў Старобінскім, з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 53 жыхары, у складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі». У 2004 г. ў вёсцы 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. З 1.1.2010 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсервіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ЯЗАВІНЬ** — вёска ў Старобінскім с/с, за 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 47 гаспадарак, 78 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. Паводе перапісу 1897 г. вёска, 23 двары, 153 жыхары, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., хлебазапасны магазін. У 1909 г. 32 двары, 223 жыхары, у 1917 г. 34 двары, 256 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Лістападавіцкім с/с Старобінскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 51 двор, 271 жыхар. На 1.1.1941 г. 79 двароў, 382 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 2 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі 32 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. вёска ў Новацярушскім с/с, з 25.12.1962 г ў Любанскім, з 6.1.1965 г. ў Салігорскім р-нах. У 1970 г. 394 жыхары. У 2004 г 71 гаспадарка 111 жыхароў. З 1.1.2010 г ў Старобінскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Старобінскі» (цэнтр — г.п Старобін). У 1967 г. ў гонар землякоў якія загінулі у Вял. Айч. вайну, насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

**ЯЗВІНЫ** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 150 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Бабруйск — Чырвоная Слабада. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

Вядомы з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, вёска, прыватная ўласнасць, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 25 двароў, 90 жыхароў, належала Д. Радзівілу. У 2-й пал. 19 ст. засценак у Вызнянскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. засценак (421, 24 дзес. зямлі) у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., адносілася да Старобінскай сельскай грамады. У 1909 г. ў засценку 7 двароў, 61жыхар, у 1917 г. — 11 двароў, 65 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Жываглодавіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. Слуцкай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў засценку 10 двароў, 52 жыхары. На 1.1.1941 г. тут 16 двароў, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія вывезлі 1 вяскоўца на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загіну-



лі 3 вяскоўцы. У 1970 г. 57 жыхароў. У 2004 г. ў вёсцы 8 двароў, 12 жыхароў. З 1.7.2006 г. ў Чырвонаслабодскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. с.-г. філіяла ААТ «Салігорскі райаграсервіс» (цэнтр — г.п.Чырвоная Слабада).

**ЯСКАВІЧЫ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 39 км на Пд ад горада і чыг. ст. Салігорск на ветцы Слуцк—Салігорск ад лініі Баранавічы—Асіповічы, 163 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. аўтадарозе і далей па шашы Мінск—Мікашэвічы. 159 гаспадарак, 391 жыхар (2013).

Вёска вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 21 двор, 113 жыхароў, цэнтр маёнтка, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губ. Паводле інвентару 1844 г. ў вёсцы 22 двары, 137 жыхароў, меліся вінакурня, карчма, хлебазапасны магазін, конны млын, вадзяны млын (на р. Морач). Вотчынны фальварак Яскавічы кн. Л.Вітгенштэйна быў арэндаваны на 12 гадоў памешчыкам Горскім. У 1850 г. вёска, 135 сял. душ, уласнасць кн. Л.Вітгенштейна. У 1870 г. вёска, 44 душы мужчынскага полу, у складзе Мелкавіцкай сельскай грамады, у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (35 двароў, 303 жыхары, піцейны дом) і фальварак (3 двары, 32 жыхары). У 1905 г. ў аднакласным нар. вучылішчы займаліся 37 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1909 г. 60 двароў, 473 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. і з кастр. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага павета Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 82 двары, 553 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Яскавіцкага с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 147 двароў, 805 жыхароў, працавалі маслазавод, млын, лесазавод, клуб і няпоўная сярэдняя школа. На 1.1.1941 г. 160 двароў, 690 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, пры абароне вёскі загінуў 1 сав. воін, у 1943 г. ў баі за вёску загінулі 5 партызан. Гітлераўцы знішчылі вёску (усе 160 двароў) і загубілі 305 жыхароў, 8 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі 30 вяскоўцаў, 7 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны вёска адбудавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 20.1.1960 г. ў Старобінскім р-не Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Любанскім, з 6.1. 1965 г. Салігорскім р-нах. У 1969 г. 193 гаспадаркі, 719 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса «Новае жыццё». У 2004 г. 185 гаспадарак, 500 жыхароў, сярэдняя школа. З 1.1.2010 г. ў Доўгаўскім с/с. У 2013 г. вёска на тэр. ААТ «Новапалескі» (цэнтр — пас. Новапалескі), фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін, дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. У 1954 г. каля будынка сельсавета на брацкай магіле партызан і сав. воіна ўстаноўлены абеліск. У 1948 г. на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на 2 брацкіх магілах 305 мірных жыхароў, якіх загубілі гітлераўцы, пастаўлены абеліск.





## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, 9.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 76, воп. 1, спр. 228; ф. 96, воп. 1, спр. 29, 215; ф. 146, воп. 1, спр. 1246, 1560, 1600, 1628, 1636, 1701, 1709, 1738, 1751; ф. 299, воп. 1, спр. 196; ф. 333, воп. 1, спр. 2140; ф. 694, воп. 2, спр. 2599; ф. 1727, воп. 1, спр. 15.

Дзяржаўны гістарычны архіў Расійскай Федэрацыі, ф. 1290, воп. 11, спр. 1336; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Городские поселения Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.

Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1864.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо- Западной Руси . Т. 1. Вильна, 1867.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.

Список волостей и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.

Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. Ч. 2. Минск, 1878.

Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Минск, 1880.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Список землевладений Минской губернии. Минск, 1890.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 18. Акты о копных судах. Вильна. 1891.

Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1891.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год. Минск, 1892.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.

Указатель фабрик и заводов Европейской России. Санкт-Петербург, 1894.

Документы Московского архива. Т. 1. М. , 1897.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1897 г. Вильна, 1897.

Памятная книжка Минской губернии на 1899 г. Минск. 1898.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Минск. 1905.

Ярмолович В.С. Список населённых мест Минской губернии. Минск, 1909.

Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.

Памятная книжка Минской губернии на 1917 г. Минск, 1916.

Спісок населённых мест Б.С.С.Р (б. Минской губернии). Минск, 1924 .

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 2. Мінск., 1935.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1795–1917 гг.). Т. 3. Минск, 1953.

Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. Минск, 1960.

Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 4. Минск, 1954.

Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине 18 в. М., 1974.

Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860–1900. Минск, 1978.

Белоруссия в эпоху капитализма: сб. док. Том 1–2. Минск, 1983–90.

Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1–3. Минск. 1983–85.

Нацистская политика геноцида и выжженной земли в Белоруссии, 1941–1944. Минск, 1984.

Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1– 2. Минск, 1985–87.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобласць. Кн. 2. Мінск, 1987.

Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Минск, 1993.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1– 6. Мінск, 1993–2003.

Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мінск, 2001.

Памяць. Салігорскі раён. Мінск, 2004.



# СЛУЦКІ РАЁН

Размешчаны на Пд Мінскай вобл. Цэнтр – г. Слуцк. У раёне 209 сельскіх населеных пунктаў, 14 сельсаветаў: Беліцкі, Бокшыцкі, Вясейскі, Гацукоўскі, Грэскі, Знаменскі, Ісернскі, Казловіцкі, Кіраўскі, Першамайскі, Покрашаўскі, Рачкавіцкі, Сорагскі, Сяражскі. Пл. 1,8 тыс. км². Лясы займаюць 23,6% тэр. раёна. Нас. (2012, без г. Слуцк) 33,4 тыс. чал. Жывуць беларусы (89,9%), рускія (6,4%), украінцы (1,4%), цыгане (0,3%), палякі (0,3%), прадстаўнікі інш. нацыянальнасцей (1,7%). Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Баранавічы–Асіповічы, Слуцк–Салігорск, аўтадарогі Мінск–Мікашэвічы, Івацэвічы–Старыя Дарогі, Асіповічы–Баранавічы.

Раён утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Слуцкай акругі (да 12.4.1927 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.). 20.8.1924 г. падзелены на 17 сельсаветаў: Акцябрскі, Амговіцкі, Беліцкі, Бокшыцкі, Вялікасліўскі, Дарасінскі, Івана-Агародніцкі, Ісернскі, Ленінскі, Мялешкавіцкі, Прошчыцкі (з 16.7.1954 г. Вясейскі), Сорагаўскі, Старэўскі, Сяражскі, Сярэдніцкі (з 1.10.1973 г. Знаменскі), Урэцкі (з 27.9.1938 г. Тэльманаўскі), Цараўскі (з 15.2.1935 г. Кіраўскі). 1.1.1925 створаны Лучнікоўскі с/с, 21.8.1925 – Казловіцкі с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. раён уваходзіў у Бабруйскую акругу. 8.7.1931 г. далучаны Гацукоўскі, Грэскі, Мусіцкі, Першамайскі, Палікарпаўскі, Старэўскі, Шышчыцкі сельсаветы скасаванага Грэскага р-на. 5.12.1931 г. Гацукоўскі с/с перададзены Уздзенскаму р-ну. 12.2.1935 г. Грэскі, Мусіцкі, Першамайскі, Палікарпаўскі, Старэўскі, Шышчыцкі сельсаветы перададзены Грэскаму р-ну. 5.4.1935 г. зноў далучаны Старэўскі с/с. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. раён акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут 25,6 тысячы чал., спалілі 33 вёскі, з якіх 6 (Беразінец, Гондарава, Задоўба, Лазараў Бор, Лявішча, Пераходы) не адноўлены. На тэр. раёна дзейнічалі Слуцкае антыфаш. падполле, падп. міжрайкамы і райкамы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. злучэнне Слуцкай партыз. зоны, партыз. брыгады 64-я імя Чкалава, 95-я імя Фрунзэ, 225-я імя Суворава, імя Варашылава, асобны партыз. атрад Слуцкі, партыз. групы «Багатыры» і ген.-маёра М.П.Канстанцінава. Выдаваліся падп. газеты «Патриот Родины» і «Народны мсцівец». Вызвалены ў канцы чэрв. 1941 г. войскамі 1-га Бел. фронту сумесна з партызанамі ў ходзе Мінскай аперацыі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. 16.7.1954 г. скасава-



*Урадлівая зямля Случчыны.*




*Лепшыя хлебаробы Случчыны прымаюць удзел у святкаванні раённых Дажынак.*



*Жыхары Слуцкага р-на святкуюць Масленіцу.*

ны Велікасліўскі, Івана-Агародніцкі, Лучнікаўскі, Старэўскі і Тэльманаўскі сельсаветы. 17.12.1956 г. далучаны Грэскі, Мусіцкі (з 5.2.1974 г. Маяцкі), Першамайскі, Покрашаўскі, Труханавіцкі сельсаветы скасаванага Грэскага р-на, 8.8.1959 г. — Малышэвіцкі (з 1.12.1959 г. Рачкавіцкі) с/с скасаванага Чырвонаслабодскага р-на. 10.5.1960 г. скасаваны Мялешкавіцкі, 5.5.1962 г. — Труханавіцкі сельсаветы. 25.12.1962 г. г.п. Урэчча і Дарасінскі с/с перададзены ў склад Любанскага р-на; далучаны Дараганаўскі, Дрычынскі, Дражнаўскі, Новадарожскі, Пасецкі, Палажэвіцкі, Паськавагорацкі, Старадарожскі, Шчыткавіцкі, Языльскі сельсаветы і г. Старыя Дарогі скасаванага Старадарожскага р-на, Гацукоўскі с/с Уздзенскага р-на. 6.1.1965 г. Дараганаўскі і Дрычынскі сельсаветы перададзены Асіповіцкаму р-ну. 30.7.1966 г. Дражнаўскі, Новадарожскі, Пасецкі, Палажэвіцкі, Паськавагорацкі, Старадарожскі, Шчыткавіцкі, Языльскі сельсаветы і г. Старыя Дарогі перададзены адноўленаму Старадарожскаму р-ну. 29.5.1969 г. створаны Паўстынскі с/с. У 2013 г. скасаваны Акцябрскі, Ленінскі, Маяцкі і Паўстынскі сельсаветы.

Большая частка тэр. раёна ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны, на ПнЗ — Капыльская града. Паверхня пераважна раўнінная, у асн. выш. 160—180 м. Найвышэйшы пункт 212 м (каля в. Жылін Брод). Самая буйная р. Случ з прытокамі Лакнея, Морач, Сівельга, Вясейка, Вялікая Сліва. Найб. вадаёмы — вадасховішчы каля вёсак Рудня і Боркі (пл. 3,7 і 0,7 км²). Глебы дзярнова-падзолістыя забалочаныя (34,2%), дзярновыя забалочаныя (14,7%), тарфяна-балотныя (13,6%). Карысныя выкапні: торф, мел, калійныя солі, будаўнічыя пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны і суглінкі. Сярэдняя тэмпература студз. -6,3 °С, ліп. 18 °С.

Прадпрыемствы прам-сці: харч. (сыр, віна-гарэлачныя вырабы, воцат і г.д), паліўнай (торфабрыкет), металаапрацоўчай (вогнетушыцелі, садова-агародны інвентар і г.д.), дрэваапрацоўчай, перапрацоўчай, будаўнічых матэрыялаў і інш.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 105,5 тыс. га, з іх асушаных 53,2 тыс. га. У аграпрам. комплекс раёна ўваходзяць 24



*Будынак Слуцкага раённага выканаўчага камітэта.*



с.-г. прадпрыемствы. Гаспадаркі раёна спецыялізуюцца на вытв-сці мяса, малака, збожжа, кукурузы, цукровых буракоў, шматгадовых сеяных траў, лёну, бульбы.

У сістэме адукацыі раёна: прафес. с.-г. ліцэй, медыцынскі каледж, 2 гімназіі, 28 сярэдніх школ, 5 вучэбна-пед. комплексаў сярэдняя школа—сад, 4 базавыя школы, вячэрняя школа, 38 дзіцячых дашкольных устаноў, 4 шматпрофільныя ўстановы пазашкольнага выхавання, дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, сацыяльна-пед. цэнтр.

У галіне культуры працуюць 39 клубных устаноў, 5 школ мастацтваў, 4 муз. школы, Цэнтр мастацкай творчасці, Слуцкі гар. маладзёжны цэнтр, Цэнтр рамёстваў, краязнаўчы музей з філіяламі (музей этнаграфіі і галерэя мастацтваў), 44 б-кі. 28 творчых калектываў Случчыны маюць званні «народны», «узорны» (у тым ліку 10 у сельскай мясцовасці). Выдаецца газ. «Слуцкі край».

Сістэма аховы здароўя ўключае 7 бальніц, 32 фельч.-акушэрскія пункты, 2 дзіцячыя санаторыі («Случ» і «Сонейка»).

Захаваліся помнікі архітэктуры: касцёл езуітаў у в. Замосце (17 ст.), Сямёнаўская царква ў в. Барок (19 — пач. 20 ст.), касцёл у в. Балотчыцы (пач. 20 ст.). 132 воінскія пахаванні, 26 помнікаў землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СЛУЦК** — горад, цэнтр раёна, на р. Случ і яе прытоку р. Бычок, за 105 км на Пд ад Мінска, вузел чыгунак (лініі на Баранавічы, Салігорск, Асіповічы) і аўтамабільных дарог (на Мінск, Брэст, Салігорск, Бабруйск). 61,4 тыс. жыхароў (2012).

Упершыню ўпамінаецца пад 1116 г. у «Аповесці мінулых гадоў» як г. Случеск у Тураўскім княстве. Стараж. Слуцк складаўся з умацаванага дзяцінца (крэпасці) і пасада (знешняга горада побач з дзяцінцам). Для абароны горада былі створаны штучныя равы, напоўненыя вадой. У 1145 г. Слуцкаму манастыру Святой Тройцы быў падараваны маёнтак. У 1149 г. вял. кіеўскі кн. Юрый Далгарукі перадаў горад чарнігаўскаму кн. Святаполку Ольгавічу. З 1160 г. цэнтр удзельнага княства Тураўскай зямлі. Слуцкім князем стаў унук Уладзіміра Манамаха — Уладзімір Мсціславіч. У 1162 г. супраць яго выступіў родны брат, вял. кіеўскі кн. Расціслаў Мсціславіч на чале кааліцыі князёў. Дружыны князёў асадзілі Слуцк і прымусілі Уладзіміра Мсціславіча здацца. Ён атрымаў удзел на Смаленшчыне, а Слуцк быў далучаны да Тураўскага княства. Канчаткова Слуцкае княства выдзелілася са складу Тураўскага княства ў 1190-х г. З тых часоў і да канца



*Капліца Святой Варвары ў г. Слуцк.*



*Штогадовы легкаатлетычны крос на прызы раённай газеты «Слуцкі край».*






*Слуцкая гімназія № 1.*

14 ст. ў Слуцку княжылі нашчадкі тураўскага кн. Юрыя Яраславіча з дынастыі Рурыкавічаў (у 1387 г. ўпамінаецца слуцкі кн. Юрый, апошні з гэтай дынастыі). У пач. 13 ст. Слуцкае княства трапіла ў залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства, у 1320—30-х г. увайшло ў склад ВКЛ. У 1392 г. ў Слуцку пабудавана царква Святога Міхаіла. У 1395 г. вял. кн. ВКЛ Вітаўт адабраў у Уладзіміра Альгердавіча (брата польскага караля Ягайлы і свайго стрыечнага брата) Кіеўскае княства, а ўзамен перадаў яму ў спадчыннае валоданне Слуцкае княства. Нашчадкі Уладзіміра Альгердавіча — князі Алелькавічы валодалі горадам і княствам да 1612 г. У пач. 15 ст. на месцы стараж. дзяцінца быў узведзены Верхні замак (упершыню згадваецца пад 1409 г. як умацаваная рэзідэнцыя князёў Алелькавічаў). Побач з Верхнім узнік Ніжні замак. Абодва замкі мелі няправільную форму плана з улікам рэльефу мясцовасці, былі ўмацаваны драўлянымі сценамі і вежамі, валамі і равамі, а ўзровень рэк Случа і Бычок быў падняты плацінамі. Верхні і Ніжні замкі склалі планіровачнае ядро горада. З трох бакоў, на правым беразе Случы, іх абкружала радыяльная сетка вуліц, скіраваных да замкаў. Левабярэжная паўд. частка горада была забудавана толькі ў 16 ст. Тут склалася прамавугольная планіровачная структура з буйнапамернай сеткай кварталаў, забудаваных драўлянымі дамамі. На ПнУ ад горада вышэй па цячэнні Случы знаходзілася прадмесце, што ўзнікла вакол старaж. Троіцкага манастыра. Абодва прадмесці размяшчаліся на правым беразе Случы. Вакол абкружаных валам Верхняга і Ніжняга замкаў у цэнтры размяшчаліся цэрквы і гандлёвыя рады. У 1433 г. Слуцк стаў цэнтрам выступлення феадалаў супраць вял. кн. ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча. У 1441 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб: на чырвоным фоне змяшчалася фігура конніка з шчытом і паднятым над галавой мячом у правай руцэ. У жн. 1502 г. да горада падышлі крымскія татары (6 тысяч воінаў) на чале з сынам крымскага хана Біці-Гірэем. Разрабаваўшы і знішчыўшы слуцкі пасад і яго ваколіцы,



*Случакі святкуюць Дзень горада.*



*Помнік Сафіі Слуцкай.*





*Касцёл Святога Антонія ў г. Слуцк.*

яны асадзілі замак («горад»), але ўзяць яго не здолелі. У 1503 г. крымскія татары (3 тысячы) зноў падышлі да Слуцка, але былі адкінуты за р. Прыпяць і там разгромлены. У сярэдзіне жн. 1505 г. некалькі дзясяткаў тысяч крымскіх татар асадзілі Слуцк, але сутыкнуўшыся з мужнай абаронай з боку гараджан вымушаны былі адступіць. У 1506 г. крымскія татары зноў спрабавалі авалодаць Слуцкам, але і на гэты раз няўдала. З 1507 г. горад у складзе Навагрудскага павета Навагрудскага ваяв. Слуцкае княства працягвала існаваць як буйное феад. ўладанне з уласнымі адм., судовымі і ваеннымі ўстановамі. У 1508 г. падчас паўстання кн. Міхаіла Глінскага войска мяцежнікаў двойчы падыходзіла да Слуцка, спаліла яго, але замак ўзяць не здолела. У выніку шматлікіх разбурэнняў горада і засялення яго новымі жыхарамі князі фактычна скасавалі самакіраванне. Паводле хронікі Быхаўца ў пач. 16 ст. Слуцк быў падзелены на 2 часткі: Стары горад з замкамі на правым беразе Случы і Новы горад (Зарэчча, узнікла ў 15 ст.) — на левым. У 1515 г. ўпершыню згадваецца Слуцкі Ільінскі манастыр. З 1586 г. дзейнічалі праваслаўныя брацтвы пры Праабражэнскім манастыры, з 17 ст. — Успенскае брацтва. У 1593 г. ў горадзе 1,1 тысячы двароў, каля 7 тысяч жыхароў. У час паўстання Налівайкі 1595—96 гг. Слуцк быў заняты казакамі (6—27.11.1595 г.). З 1612 г. уласнасць Радзівілаў. З 1617 г. ў горадзе дзейнічала кальвінісцкая школа (з 1624 г. гімназія). У 1635—40 гг. кн. Багуслаў Радзівіл ператварыў Слуцк у магутную



*Міхайлаўскі сабор у г. Слуцк.*



*Будынак Слуцкай музычнай школы.*


*Ветэраны святкуюць 65-годдзе Вялікай Перамогі ў г. Слуцк.*

крэпасць. Умацаванні горада ўтваралі ў плане амаль правільны круг, у паўн. частцы было 8 бастыёнаў і 3 равеліны, у паўд. — 5 бастыёнаў і 1 равелін. Уезды ў горад абаранялі 3 мураваныя брамы (Віленская, Капыльская і Астроўская) і драўляная Навамайская брама. З 1655 г. ў сістэму ўмацаванняў горада ўвайшоў замак феадала (Новы замак, або Цытадэль), які па сваёй структуры ўвасабляў заходнееўрапейскі тып фартыфікацый, займаў астраўное становішча, меў форму квадрата з 4 бастыёнамі па вуглах, дзе знаходзіліся вежы, быў абведзены ровам, злучаўся з горадам пад'ёмным мостам. На тэр. ўсіх замкаў размяшчаліся жылыя, службовыя і гасп. пабудовы: палацы, флігелі, кардэгарды, стайні, арсеналы, кузні, млыны, свірны і інш. У слуцкай крэпасці знаходзіўся моцны радзівілаўскі гарнізон (1048 чал. у 1659 г.), залічаны ў склад войска ВКЛ, але падпарадкаваны толькі князю, уладальніку горада. У склад гарнізона ўваходзілі добра ўзброеныя салдаты, конная шляхта (зямяне) і выбранцы (пехацінцы з сялян, «вольных людзей» і дробнай шляхты), якія за сваю службу надзяляліся зямлёй і пасяляліся ў 6 бліжэйшых да горада вёсках — Сярагах, Варкавічах, Лучніках, Бранавічах, Агародніках і Падзерах. У час антыфеад. вайны 1648—51 гг. у жн. 1648 г. горад вытрымаў аблогу атрада казацкага палкоўніка І.Сакалоўскага. 27.8.1652 г. Слуцк зноў атрымаў магдэбургскае права і герб «Пагоньчык». Аднак ва ўмовах вайны з Расіяй нормы гэтага права былі ўведзены часткова, а канчаткова ўсталяваны толькі 9.9.1700 г. Падчас вайны Расіі і Рэчы Паспалітай 1654—67 гг. рас. армія на чале з А.М.Трубяцкім (20 тысяч чал.) у пач. вер. 1655 г. асадзіла горад, але ўзяць не змагла. 27.9.1655 г. войска А.М.Трубяцкога разам з казакамі І.Залатарэнкі зноў падышло да Слуцка, але пасля некалькіх сутычак зняло асаду. Гетман Войска Запарожскага Б.Хмяльніцкі 7.5.1656 г. выдаў універсал, паводле якога Слуцку гарантавалася недатыкальнасць з боку казацкіх атрадаў, слуцкім купцам — вольны гандаль на Украіне. Колькасць насельніцтва Слуцка ўзрастала, часткова з-за льгот, якія даваў князь, каб жыхары не пакідалі горад і каб тут сяліліся мяшчане з іншых гарадоў. У 1667 г. ў Слуцку было 1086 дымоў і каля 6,5 тысячы жыхароў. З 1672 г. дзейнічала друкарня. У 1683 г. — каля 9 тысяч жыхароў, 16 рамесных цэхаў і 4 аб'яднанні рамеснікаў. Рамеснікі і чл. іх сямей складалі большую частку 4 насельніцтва горада. Частка жыхароў (17—19%) займалася гандлем. Падсобным, а часта і асн. заняткам гараджан была сельская гаспадарка (у Слуцку існаваў асобны «пахарскі цэх», у якім аб'ядналіся гара-

*Рэспубліканскі фестываль-кірмаш «Дажынкі-2005» у г. Слуцк.*





джане, якія займаліся выключна сельскай гаспадаркай). У час Паўн. вайны 1700—21 гг. Слуцк быў заняты ў 1705—06 гг. рас., у 1706 г. і 1708 г. шведскімі, у 1711 г. — зноў рас. войскамі. У 1707 г. ў горадзе адкрыты езуіцкі калегіум, пры якім у 1715—36 гг. дзейнічаў тэатр. У 1730—40-х г. узніклі суконная і палатняная мануфактуры. У пач. 1760-х г. уладальнік горада М.К.Радзівіл Рыбанька засн. тут мануфактуру шаўковых паясоў. У 1751—60 гг. пры двары кн. Гераніма Фларыяна Радзівіла працаваў прафес. тэатр, для якога быў пабудаваны асобны дом каля замка («камедыгауз»). Тут выступалі драматычныя акцёры, камедыянты, спевакі з Італіі і Вены, танцоры, прыдворная капэла музыкантаў. З жыхароў Слуцка набіраліся найб. здольныя юнакі і дзяўчаты для падрыхтоўкі з іх артыстаў. Таксама была створана балетная школа. У 1760 г. пасля смерці Гераніма Фларыяна Радзівіла яго брат Міхаіл Казімір, які атрымаў у спадчыну Слуцк, перавёў тэатр у г. Нясвіж. 20.3.1767 г. ў Слуцку была арганізавана канфедэрацыя (узброены саюз) кальвініцкай і праваслаўнай шляхты. Да канца 18 ст. Слуцк страціў сваё былое эканам. значэнне з-за неаднаразовых апусташэнняў у перыяд барацьбы магнацкіх груповак за ўладу. У 1785 г. — 833 дамы, 5,5 тысячы жыхароў. З 1791 г. цэнтр Случарэцкага павета Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, цэнтр павета Мінскай губ. У 1795 г. ў горадзе дзейнічалі 18 цэркваў, 4 касцёлы, млын, дрэваапрацоўчая ф-ка. У 1802 г. — 6,4 тысячы жыхароў. У вайну 1812 г. праз Слуцк адступала 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна. У ліп. 1812 г. Слуцк быў заняты французамі, адваяваны рус. войскамі ў ліст. 1812 г. У 1823 г. распрацаваны праектны план Слуцка, які прадугледжваў упарадкаванне вулічнай сеткі, зліццё горада з прадмесцямі на зах. і ўсх. ускраінах, будаўніцтва шэрагу новых мураваных дамоў. У 1840-я г. праз Слуцк прайшоў паштовы шлях Масква—Варшава, што абумовіла змены ў планіровачнай структуры горада і развіццё яго ў шыротным напрамку. Адрэзак паштовай дарогі «Варшаўкі» стаў гал. вуліцай горада (сучасная вуліца Леніна), на якой былі ўзведзены будынак дваранскага сходу, паштовая станцыя, камерцыйнае вучылішча і інш. грамадскія будынкі. Гэтая кампазіцыйная вось засталася асн. і ў сучаснай планіровачнай структуры горада. У 1865 г. — 8226 ж., 4 гарбарныя, 4 піваварныя, 3 цагляныя і 3 ганчарныя з-ды. У 1885—89 гг. у Слуцку ўзведзены мураваны Свята-Мікалаеўскі сабор. У 1897 г. — 14 349 жыхароў, 7 цэркваў, касцёл, 3 капліцы, сінагога, малітоўны



*У дзіцячым садзе № 4 у г. Слуцк.*



*Слуцкія выпускнікі 2011 г. праходзяць па цэнтральных вуліцах горада.*


*Работніца Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў «Слуцкія паясы».*

дом, гімназія, 2 вучылішчы, 2 піваварныя, 2 цагельныя, 7 гаршковых, мылаварны, 3 мінеральнай вады з-ды, тытунёвая ф-ка, паравы, конны і ветраны млыны, 12 кузняў, 9 вінаробчых прадпрыемстваў, 57 крам, бальніца і сельская лячэбніца, 2 аптэкі, 2 аптэчныя крамы, паштова-тэлеграфная кантора, конная паштовая станцыя, 5 заезных дамоў, 22 піцейныя ўстановы. У 1915 г. адкрыта чыг. лінія Асіповічы—Слуцк. 26.10.1917 г. ў горадзе ўстаноўлена Сав. ўлада. У лютым 1918 г. Слуцк заняты польскім корпусам Ю.Доўбар-Мусніцкага, затым герм. войскамі. 8.12.1918 г. Слуцк вызвалены войскамі 17-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з 27.2.1919 г. ў Літоўска-Бел. ССР. З 10.8.1919 г. да 15.7.1920 г. і з 11.10 да 29.11.1920 г. горад заняты польскімі войскамі. 24.4.1920 г. польскі ваенна-палявы суд прыгаварыў 14 слуцкіх партызан да пакарання смерцю, на наступны дзень яны былі расстраляны на Кладбішчанскай вуліцы (цяпер вуліца 14 Партызан). З ліп. 1920 зноў у БССР. У ліст. 1920 г. горад стаў цэнтрам антыбальшавіцкага паўстання. 29.11.1920 г. Слуцк заняты войскамі Чырвонай Арміі. У 1923 г. — 13 708 жыхароў. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна і акругі. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў цэнтр акругі. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1939 г. — 21 947 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 30.6.1944 г. Слуцк акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З кастр. 1941 г. ў горадзе дзейнічала антыфаш. падполле пад кіраўніцтвам Мінскага падп. абкама КП(б)Б, з сак. 1943 г. — Слуцкага міжрайкама КП(б)Б. Вызвалены часцямі 28-й арміі 1-га Бел. фронту сумесна з партызанамі ў ходзе Мінскай аперацыі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. Ужо да канца 1944 г. былі адноўлены і працавалі мукамольны з-д, электрастанцыя, лесазавод, мясакамбінат, гарбарня. У 1951 г. ўзведзены 2-павярховы Дом культуры. За 1951—55 гг. забудаваны многія кварталы жылых дамоў, узніклі новыя вуліцы. 21 снеж. 1965 г. пачаў дзейнічаць цукроварафінадны з-д. У 1960-я г. цэнтр. магістраль Слуцка (вуліца Леніна) забудоўвалася шматпавярховымі дамамі. У 1970 г. — 35,6 тысячы жыхароў. У студз. 1972 г. ўзведзены піваварны з-д. У маі 1974 г. створана абутковая ф-ка. У 1986 г. — 52 тысячы жыхароў. У 1999 г. — 63 тысячы жыхароў.

Сучасны горад налічвае больш за 280 вуліц і завулкаў (іх агульная даўжыня 90,3 км), 2 паркі. Працуюць: чыг. ст. Слуцк РУП «Магілёўскае аддзяленне Беларускай чыгункі», ААТ «Слуцкі цукроварафінадны камбінат», ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат», ААТ «Слуцкі мясакамбінат», ААТ «Слуцкі камбінат хлебапрадуктаў», ААТ «Слуц-



*Слуцкі гарадскі Дом культуры.*



кі льнозавод», УП «Слуцкі кансервавы завод», ААТ «Слуцкая мэблевая фабрыка», РУП «Завод «Эмальпосуд», РУП «Слуцкія паясы», ААТ «Слуцкая фабрыка па пашыве адзення», ААТ «Слуцкі завод пад'ёмна-транспартнага абсталявання», ААТ «Слуцкі піваварны завод», ПУП «Ямполь-Слуцк» і інш. прадпрыемствы. Дзейнічаюць медыцынскі каледж, с-г. прафес. ліцэй, 2 гімназіі, 8 сярэдніх, муз. і мастацкая школы, 22 дзіцячыя сады, краязнаўчы музей (філіялы: музей этнаграфіі і галерэя мастацтваў), гар. Дом культуры, Палац культуры моладзі, маладзёжны цэнтр, раённы цэнтр нар. творчасці, цэнтр творчасці вучняў, 5 б-к, бальніца, паліклініка, аптэкі; капліца Святой Варвары (1990-я г.), касцёл Святога Антонія Падуанскага (2000). Пры Слуцкім гар. Доме культуры дзейнічаюць народныя: тэатр драмы і камедыі імя У.Галубка (створаны ў 1952 г., званне «народны» атрымаў у 1961 г.), духавы аркестр (з 1955 г.), хор «Пачастунак» (з 1986 г.), хор ветэранаў вайны і працы (з 1988 г.), ансамбль танца «Кордэс» (з 1993 г.), клуб майстроў «Фантазія» (з 1993 г.), камерны ансамбль «Новая класіка» (з 1995 г.), а таксама ўзорны тэатр лялек і масак «БІ-БА-БО» (з 1993 г.). Пры Слуцкім гар. Палацы культуры моладзі: нар. ансамбль песні і



*У цэху Слуцкага цукроварафінаднага камбіната.*

музыкі «Случанскія святкі» (з 1996 г.), узорны ансамбль танца «Канфеці» (з 1996 г.). Пры гар. маладзёжным цэнтры — нар. тэатр танца «Дэмі гран» (з 2000 г.). Цэрквы Касьмы і Даміяна (1993), Аляксандра Неўскага (2006), Антоніеўскі касцёл (2000-я г.), капліца Святой Варвары (1990-я г.). Адм.-грамадскі і культ. цэнтр горада сфарміраваны ўздоўж вуліцы Леніна і на скрыжаванні яе з вуліцамі М.Багдановіча і Капыльскай, дзе ўтворана цэнтр. плошча. Тут размешчаны грамадскія будынкі, 3—4-павярховыя дамы з магазінамі на першых паверхах і інш. У 1960-я г. ў Слуцку былі пабудаваны 4—5-павярховыя жылыя дамы уздоўж вуліц Леніна, К.Лібкнехта, Сацыялістычнай, Гагарына. У 1970—80-я г. шматпавярховымі буйнапанэльнымі дамамі забудаваны мікрараёны па вуліцах Урыцкага, Жу-



*Спаборніцтвы скутэрыстаў у г. Слуцк.*



*Спаборніцтвы «Слуцкая лыжня-2011».*

кава, Валадарскага, Чайкоўскага, Камсамольскай, паміж вуліцамі Леніна і 14 Партызан. На ўскраінах пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. Вытв. зона размешчана ў паўд.-ўсх. і паўд.-зах. частках горада. Помнік архітэктуры — Міхайлаўскі сабор (18 ст.). У Слуцку нарадзіліся: астраном, чл.-кар. Пецярбургскай акадэміі навук В.К.Цэраскі (1849—1925), пісьменнікі, дзярж. дзеячы Беларусі Я.Дыла (1880—1973) і Ф.Г.Шантыр (1887—1920), канструктар авіяцыйных і ракетных рухавікоў, Герой Сацыялiст. Працы С.А.Косбрег (1903—65), фізік, акадэмік НАН Беларусі А.С.Рубанаў (1936—2003), доктар медыцынскіх навук, засл. ўрач Беларусі А.А.Рума (н. ў 1970).

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 3 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ і на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 148 гаспадарак, 253 жыхары (2012).

У 1795 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 28 двароў, 134 жыхары. У 1858 г. ўладанне кн. П.Вітгенштэйна. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучаліся 12 хлопчыкаў. У 1897 г. 56 двароў, 354 жыхары, капліца, магазін, школа, карчма. На базе школы граматы ў 1912 г. створана 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 67 двароў, 397 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім, з 21.8.1925 г. ў Казловіцкім сельсаветах. У 1926 г. 70 двароў, 361 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 сямей, меў 145 дзес. зямлі, 97 дзес. сенажацей. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас вайны загінулі 24 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1950 г. цэнтр калгаса «Світанне камуны», да якога далучылі калгасы «Камунар» і «Чырвоны Падзер». У 1959 г. 450 жыхароў. З 1961 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава. У 1970 г. 408 жыхароў. У 1986 г. 133 гаспадаркі, 342 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, базавая школа (11 настаўнікаў), б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы Агра». У 2013 г. — клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, філіял тэр. цэнтра сац. абслугоўвання насельніцтва Слуцкага р-на. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 У-падобна размешчаныя вуліцы, да якіх паралельна і перпендыкулярна падыходзяць другарадныя вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Дзве брацкія магілы, у якіх пахаваны 13 сав. воінаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 4 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навадворцы і далей па шашы Слуцк—Пагост 1. 78 гаспадарак, 116 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Новы Двор у Навагрудскім павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г ў. Случарэцкім павеце. У 1792 г. 24 двары, 114 жыхароў, карчма, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 91 жыхар мужчынскага полу. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у



якой навучаліся 13 хлопчыкаў. У 1897 г. в. Агароднікі 2 у Цараўскай вол., 55 двароў, 385 жыхароў, капліца, магазін. У 1908 г. 65 двароў, 477 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (з 15.2.1935 перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 345 жыхароў. У 1970 г. 242 жыхары. У 1986 г. 78 гаспадарак, 187 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Планіроўка складаецца з працяглай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на З праходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**АДАМОВА** — вёска ў Покрашаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ — штучны вадаём на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Асіповічы—Нясвіж, якая праходзіць каля вёскі. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар Адамава 1 (1 двор, 11 жыхароў), фальварак Адамава 2 (1 двор, 10 жыхароў), хутары Адамава 3 (13 жыхароў), Адамава 4 (26 жыхароў), Адамава 5 (14 жыхароў), Адамава 6 (13 жыхароў), Адамава 7 (14 жыхароў) Адамава 8 (13 жыхароў), Адамава 9 (11 жыхароў), Адамава 10 (6 жыхароў), Адамава 11 (4 жыхары). У 1908 г. хутар Адамава (10 двароў, 69 жыхароў), фальварак (1 двор, 5 жыхароў), хутар (1 двор, 6 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. засценак Адамава, 9 двароў, 47 жыхароў. У пач. 1920-х г. пачала працаваць хатачытальня. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Случ» з 17 гаспадарак, а ў 1932 г. ён аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, 371 дзес. ворыва, 300 дзес. сенажаці. У 1940 г. 52 двары, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 213 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Покрашаўскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 125 жыхароў. У 1970 г. 131 жыхар. У 1975 г. ўстаноўлены помнік ахвярам фашызму, а таксама помнік на брацкай магіле партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. 35 гаспадарак, 81 жыхар, 2 жывёлагадоўчыя фермы, лазня. Планіровачна складаецца з 2 вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**АЗЯРЦЫ** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 38 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лоша (прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць кн.





Д.Радзівіла. У 1800 г. 9 двароў, 66 жыхароў, карчма. У 1858 г. 67 жыхароў. У 1909 г. вёска (52 двары) і фальварак у Слабодска-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1926 г. 71 двор, 380 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас «Чырвоны Сцяг». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.2.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. ў Слуцкім р-нах. У 1959 г. 331 жыхар. У 1970 г. 271 жыхар. У 1986 г. 65 двароў, 136 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 1.12.2004 г. на тэр. ААТ «Крывая града». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка Е-падобная. Да гал. вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, перпендыкулярна падыходзяць 3 кароткія вуліцы. Сярод драўлянай жылой забудовы сядзібнага тыпу ўзведзены некалькі мураваных жылых дамоў. Брацкая магіла партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**АКЦЯБР** — вёска (з 2011 г. аграгарадок) у Беліцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і затым па шашы Слуцк—Баранавічы. 104 гаспадаркі, 295 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. ў Слуцкім павеце Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліс 1920 г. акупіравана войскамі Польшчь З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. 20.8.1924 г. да 1939 г. цэнтр сельсаве та. У 1926 г. 13 двароў, 68 жыхароў. 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйска акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцка акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. 1928 г. тут створаны калгас «Трактар (10 гаспадарак), які абслугоўвала Слуц кая МТС. У Вял. Айч. вайну з канц чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраван ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. д 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1950 вёска стала цэнтрам калгаса імя Чка лава. У 1959 г. пасёлак, 214 жыхароў. 1969 г. каля будынка школы пастаўлен стэла на ўшанаванне памяці землякоў якія загінулі ў Грамадзянскую 1918—2 гг., сав.-фінляндскую 1939—40 гг. і Вял Айч. войны. У 1970 г. вёска, 200 жыха роў. У 1986 г. 82 гаспадаркі, 216 жыхаро 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піла рама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнік дзіцячы сад, базавая школа (12 настаўні каў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт комплексны прыёмны пункт, АТС, адд сувязі, магазін. З 26.6.2003 г. цэнтр АА «Вітко-Агра». З 2013 г. ў Беліцкім с/ Дзейнічаюць (2013) 2 жывёлагадоўчы фермы, млын, пілярама, майстэрні п рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, база вая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрск пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, лазня Асн. вуліцы прамавугольнай вулічна сеткі маюць блізкую да мерыдыяналь най арыентацыю. Забудова пераваж на драўляная, сядзібнага тыпу. Ёсц 1—2-павярховыя мураваныя жылы дамы. Грамадскія будынкі — у цэнтр забудовы. Гасп. сектар — на З і У.

**АМГОВІЧЫ** — вёска ў Сорагскі с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чы ст. Слуцк, 100 км ад Мінска. Рэлье раўнінны, праз вёску цячэ р. Ніжня Вясейка (прыток р. Вясейка), на якой утворана сажалка, на У мяжуе з лесам



Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Старыя Дарогі. 150 гаспадарак, 402 жыхары (2012).

За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі захавалася гарадзішча мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур ранняга жал. веку. Вядома з 1439 г. як сяло маёнтка Слуцк у Слуцкім княстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1499 г. вял. кн. ВКЛ Аляксандр «прысудзіў» ва ўладанне двор Амговічы, «які да Слуцка прыслухает», кн. Алелькавічу. З 1507 г. ў Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяв. У 1566 г. цэнтр маёнтка. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 463 жыхары, драўляная царква Раства Прасвятой Багародзіцы, карчма, млын, уладанне кн. Радзівіла і М.Лягоева. У 1861 г. сяло, 69 двароў, царква (у 1864 г. ўзведзены новы будынак). Каля сяла знаходзіўся маёнтак кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. 137 двароў, 908 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, магазін, піцейны дом, крама, заезны дом; у маёнтку 40 жыхароў, у лясной канторы 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 177 двароў, 1084 жыхары, у маёнтку 59 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. вёска, цэнтр сельсавета. У 1926 г. 190 двароў, 1224 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Батрак». У 1931 г. пачаў дзейнічаць калгас «Краіна Саветаў», які абслугоўвала Слуцкая МТС, працавалі кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. старшыня калгаса М.І.Ногіч стварыў у вёсцы падп. антыфаш. групу, якая збірала зброю, распаўсюджвала лістоўкі, устанавіла сувязь з партызанамі. Восенню 1942 г. партыз. атрад імя Фрунзэ разграміў тут гітлераўскі гарнізон. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 153 сав. воіны і партызаны, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1961 г. да вёскі далучаны пас. Бор. У 1950 г. да калгаса «Краіна саветаў» далучаны калгасы імя Громава (в. Сліўкі) і «Новае жыццё» (в. Ляхава), у 1973 г. — «40 гадоў Кастрычніка» (в. Хорашава). У 1959 г. 545 жыхароў. У 1970 г. 594 жыхары. У 1986 г. 210 гаспадарак, 543 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, лясніцтва, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, лазня, 3 магазіны. У 2003 г. калгас «Краіна Саветаў» быў рэарганізаваны ў СВК «Лясны край», 1.4.2004 г. — у вытв. ўчастак філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». З 30.10.2009 г. вёска ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, лясніцтва, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», лазня, магазін. Населены пункт мае развітую планіровачную структуру, аснову якой складаюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ па абодва бакі р. Ніжняя Вясейка і звязаныя перпендыкулярнай да іх вуліцай і мостам цераз раку. Забудова сядзібнага тыпу, змешаная, двухбаковая. У паўд. частцы — адм.-грамадскі цэнтр і 2 вуліцы, забудаваныя 1-павярховымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў.

**АНУФРАВІЧЫ** — вёска ў Пакрашаўскім с/с, за 17 км на Пн ад горада





і чыг. ст. Слуцк, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск–Слуцк, якая праходзіць побач з вёскай. 62 гаспадаркі, 99 жыхароў (2012).

Вядома з 1590 г. як с. Анупрэевічы ў Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 8 валок зямлі. У 1654 г. 40 дымоў, уласнасць Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 25 двароў, 140 жыхароў, карчма, уласнасць Д.Радзівіла. У 1858 г. 110 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. сяло ў Грэскай вол., 73 двары, 420 жыхароў, царква, магазін. У 1917 г. 90 двароў, 541 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З пач. 1920-х г. працавала хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. вёска ў Грэскім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 26.2.1932 г. ў Покрашаўскім с/с. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Перамога». Працаваў вапнавы з-д (19 рабочых). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 478 жыхароў. У 1970 г. 395 жыхароў. У 1986 г. 117 гаспадарак, 287 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, магазін. У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма і магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і перасякаецца шэрагам завулкаў. Забудова сядзібная, пераважна драўляная, двухбаковая.

**АПАЛІНЫ** – вёска ў Першамайскім с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Нясвіж–Асіповічы. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як фальварак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 26 жыхароў. У 1908 г. адкрыта аднакласная школа (нар. вучылішча). У 1917 г. 19 двароў, 126 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З пач. 1920-х г. працавалі хата-чытальня і пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. З 21.10.1924 г. ў Палікараўскім с/с. У 1926 г. 30 двароў, 146 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас. У 1940 г. 38 двароў, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 31 чал. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Першамайскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 212 жыхароў. У 1986 г. 48 гаспадарак, 99 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма і магазін. Планіроўвачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар – на З, каля дарогі.

**АСТРАВОК** – вёска ў Грэскім с/с, за 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 86 км ад Мінска. Рэльеф раў-



ніны, праз вёску цячэ р. Сава (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Ляпькі і далей па шашы Мінск–Слуцк. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2012).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Грозаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. тут былі вёска і фальварак. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. 10 двароў, 62 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У канцы 1920-х г. жыхары вёскі арганізавалі калгас «Чырвоны Астравок», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 77 жыхароў. У 1961 г. да вёскі далучаны пасёлкі Навінкі, Андрэеўка, Астроўск. У 1970 г. 188 жыхароў. У 1986 г. 50 гаспадарак, 105 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. – філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Планіровачна падзяляецца на 2 часткі, размешчаныя па абодва бакі ракі. Паўн. частка мае лінейную, паўд. – Г-падобную планіроўку. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**АСТУПІШЧА** – вёска ў Сорагскім с/с, за 22 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Старыя Дарогі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Вядома з пач. 20 ст. У 1911 г. засценак Аступішча-Круглае ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. У Сорагскім с/с. У 1926 г. 16 двароў, 80 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 44 жыхары. У 1970 г. 20 жыхароў. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Сорагі-Агра» (цэнтр – в. Сорагі). Кароткая вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСТУПІШЧА** – былая вёска ў Сорагскім с/с, за 36 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Бабруйск.

Вядома з 1908 г. як засценак Аступішча 1 у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. 10 двароў, 63 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак Аступішча Малое, 13 двароў, 58 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў





калгас, які абслугоўвала Кучынская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас імя К.Лібкнехта. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 70 жыхароў. У 1970 г. 27 жыхароў. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. З 20.10.2009 г. ў Сорагскім с/с.

**БАБОВІШЧА** – вёска ў Покрашаўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Покрашава і далей па шашы Мінск–Слуцк. 8 гаспадарак, 20 жыхароў (2012).

Вядома з канца 18 ст. як в. Бабоўкі ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Грэскай вол., 10 двароў, 71 жыхар. У 1917 г. 14 двароў, 74 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Шышчыцкім с/с. У 1926 г. 16 двароў, 92 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 100 жыхароў. У 1970 г. 78 жыхароў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 57 жыхароў, свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

*Праабражэнская царква ў в. Балотчыцы.*



**БАЛОТЧЫЦЫ** – вёска ў Беліцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, у цэнтры вёскі праходзіць меліярацыйны канал (злучаны з р. Савельча), на якім зроблена дамба і ўтвораны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Мікашэвічы. 201 гаспадарка, 396 жыхароў (2012).

За 0,6 км на Пн ад вёскі знаходзяцца курган і курганны могільнік. Вядома з 1684 г. як шляхецкі маёнтак у Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1763 г. засценак у складзе маёнтка Івань, 25 двароў, уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 98 двароў, 573 жыхары, гаспадарскі драўляны дом, вадзяны і ветраны млыны, карчма, уладанне Д.Радзівіла. У 2-й пал. 19 ст. маёнтак быў уласнасцю кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Чапліцкай вол., у вёсцы 163 двары, 1063 жыхары, царква, 2 капліцы, магазін, піцейны дом; у маёнтку 80 жыхароў, касцёл. У 1906 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. вёска (178 двароў, 1181 жыхар), фальварак (1 двор) і засценак (34 двары, 250 жыхароў). У 1917 г. 222 двары, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы.



У пач. 1920-х г. былі адкрыты хата-чытальня, пач. школа, самадзейны тэатр. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Беліцкім с/с. У 1926 г. вёскі Балотчыцы (223 двары, 1115 жыхароў) і Балотчыцы Новыя (55 двароў, 274 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Новая Змена», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 95 сямей, меў 340 дзес. ворыва, 72 дзес. сенажацей. У 1934 г. ў калгасе пачаў працаваць трактар, дзейнічалі 3 млыны, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 899 жыхароў. У 1970 г. 1291 жыхар. У 1974 г. каля будынка праўлення калгаса ўстаноўлены абеліск на ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі ў Грамадз. 1918—20 гг., сав.-фінляндскую 1939—40 гг. і Вял. Айч. вайны. У 1986 г. 294 гаспадаркі, 662 жыхары, цэнтр калгаса «Праўда», 2 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, кансервава-гароднінны цэх, дзіцячы сад, базавая школа (12 настаўнікаў), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая, АТС. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін; Праабражэнская царква (пач. 21 ст.). Помнік нар. дойлідства — касцёл (пач. 20 ст.). Аснову планіровачнай структуры вёскі складаюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя шыротна, уздоўж канала. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Вуліцы аб'яднаны перпендыкулярнай дарогай, каля якой сфарміраваны адм.-грамадскі цэнтр. Новыя вуліцы забудоўваюцца мураванымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. Да асн. вуліц далучаюцца адвольна размешчаныя жылыя пасёлкі. Гасп. сектар — на Пд. За 0,2 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца радовішча глін Высокая Гара (602 тыс. $м^3$). Радзіма бел. пісьменніка А.А.Алешкі (1913—71).



*Помнік народнага дойлідства — касцёл у в. Балотчыцы.*

**БАРАВАЯ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 16 гаспадарак, 42 жыхары (2012).

Вядома з 1917 г. як хутар у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (з 1931 перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. хутар, 1 двор, 3 жыхары. У канцы 1920-х — пач. 30-х г. вёска хутка забудоўвалася. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 17 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі тут 16 двароў, загубілі 7 чал. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 85 жыхароў. У 1970 г. 74 жыхары. У 1986 г. 30 гас-

падарак, 78 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, пiларама, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 10.4.2003 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц шыротнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БАРОК** — вёска ў Знаменскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Слуцка, 3 км ад чыг. ст. Сераднякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Вужанка (прыток р. Лакцея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Баранавічы. 78 гаспадарак, 154 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. як пасёлак пры царкве ў Слуцкім павеце Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (з 1973 перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 72 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 178 жыхароў. У 1986 г. 113 гаспадарак, 251 жыхар, 2 жывёлагадоўчыя фермы, рамонтна-механічныя майстэрні, млын, пач. школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка лінейная. Ад вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзяць завулкі. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. Грамадскія будынкі — у цэнтры вёскі, гасп. сектар — на З. Помнік 63 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры — царква Сімяона Стоўпніка (1916). Радзіма бел. паэта, літаратуразнаўца і перакладчыка, доктара філалагічных навук, праф. Р.І.Ліхадзіеўскага (1911—79).


*Царква Сімяона Стоўпніка ў в. Барок.*

**БЕЛАРУСЬ** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 18 км на З ад Слуцка, 4 км ад чыг. ст. Сераднякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Капыль, якая праходзіць каля пасёлка. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-х г. У 1926 г. пасёлак у Сераднякоўскім с/с Слуцкіх р-на і акругі, 11 двароў, 64 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 49 жыхароў. У 1970 г.



43 жыхары. У 1986 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана пераважна з зах. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛАЯ ЛУЖА** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 37 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 63 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 36 гаспадарак, 60 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 50 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Грэская Буда, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1917 г. вёска ў Слабода-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета, 53 двары, 298 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1926 г. 77 двароў, 397 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 7 партызан і 1 сав. воін, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.2.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. У 1959 г. 324 жыхары. У 1970 г. 387 жыхароў. У 1986 г. 78 гаспадарак, 161 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 22.2.1991 г. ў складзе калгаса «Беларусь», з 1.7.2003 г. на тэр. СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка бессістэмная. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ пад вуглом да шашы. Шэраг кароткіх другарадных вуліц накіраваны ў розныя бакі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. Гасп. сектар — на Пн.

**БЕЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Беліцкага с/с, за 14 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Дзявіца (прыток р. Сівельга), на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дзявіца. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Навабелічы і далей па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 88 гаспадарак, 184 жыхары (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1582 г. цэнтр маёнтка, уладанне кн. Алелькавіча. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 63 двары, 278 жыхароў, фальварак, вятрак, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1844 г. 64 двары, 512 жыхароў, 88 коней, 182 валы, 95 кароў, 205 авечак, 189 свіней, уласнасць памешчыка І.М.Даманскага. У 1897 г. сяло (160 двароў, 911 жыхароў, кузня, магазін, капліца, піцейны дом), маёнтак (5 двароў, 34 жыхары). У 1902 г. адкрыта школа. У 1917 г. ў вёсцы 189 двароў, 1164 жыхары, у маёнтку 124 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. На могілках пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў жн. 1920 г. ў баях супраць палякаў. У пач. 1920-х г. былі адкрыты хата-чытальня, пач. школа, дзіцячы дом. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх раёне і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сель-





савета. У 1926 г. 230 двароў, 1173 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная перамога». У 1934 г. ў калгасе паявіўся трактар, працавалі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7.1.1944 г. байцы атрада імя 14 Слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В.П.Чкалава разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон, захапілі багатыя трафеі. У брацкай магіле на могілках пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 654 жыхары. У 1970 г. 556 жыхароў. У 1974 г. насупраць адм. будынка сельсавета ўстаноўлены помнік 139 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр саўгаса «Белічы», 130 гаспадарак, 305 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, млын, лесапільня, жывёлагадоўчыя ферма, комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа (17 настаўнікаў), клуб, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, сталовая, ветэрынарны ўчастак, магазін. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа—дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін, лазня. Планіровачная структура рэгулярная, блізкая да прамавугольнай. Асн. вуліцы сыходзяцца пад вуглом у паўн.-ўсх. частцы вёскі. На іх перакрыжаванні размешчаны адм.-грамадскі цэнтр. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На У размешчаны гасп. сектар. За 2 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца Дубоўскае радовішча глін.

**БЕЛЫ БОР** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 39 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Гацук і далей па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як фальварак у Слабода-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1926 г. вёска (22 двары, 133 жыхары) і хутар (9 двароў, 40 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Энергія». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліп. 1941 г. ў вёсцы дзейнічала падп. група. Каля вёскі з вер. 1943 г. да канца чэрв. 1944 г. дыслацыраваўся партыз. атрад імя 26-годдзя Кастрычніка 225-й брыгады імя М.В.Фрунзэ. У яго гонар у вёсцы ўстаноўлена стэла. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 102 жыхары. У 1970 г. 98 жыхароў. У 1986 г. 26 гаспадарак, 63 жыхары. З 22.2.1991 г. ў складзе калгаса «Беларусь», з 1.7.2003 г. на тэр. СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града». Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЛІЖНІЯ БАНДАРЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 9 км на ПдУ ад Слуцка і 2 км ад чыг. ст. Некрашы на лініі Слуцк—Асіповічы, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р.



Вялікая Сліва (прыток р. Случ), на З размешчаны 2 штучныя вадаёмы. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 79 гаспадарак, 104 жыхары (2012).

Вядома з 1870 г. як в. Бондары ў Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 79 жыхароў мужчынскага полу. Восенню 1888 г. вяскоўцы самавольна захапілі памешчыцкі сенакос, а 23.2.1889 г. аказалі супраціўленне ўладам пры продажы маёмасці ў залік штрафу на карысць кн. М.Гогенлоэ за самавольнае выкарыстанне сенакосу. У 1890 г. адкрыта школа граматы, на базе якой у 1900 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. У 1897 г. 42 двары, 315 жыхароў, кузня, магазін. У 1917 г. 54 двары, 405 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З пач. 1920-х г. стала працаваць пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Казловіцкім с/с. У 1926 г. 78 двароў, 479 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоная Зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 сямей, меў 223 дзес. ворыва, 340 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 37 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. Пасля вайны вёска падзялілася на Бліжнія Бондары і Дальнія Бондары. У 1959 г. 264 жыхары. У 1970 г. 256 жыхароў. У 1986 г. 77 гаспадарак, 182 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы-Агра». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ, перпендыкулярна да дарогі Дальнія Бондары—Казловічы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая.

**БОКШЫЦЫ** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Лешчанка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 66 гаспадарак, 130 жыхароў (2012).

Вядома з 1586 г. як сяло, цэнтр маёнтка ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1773 г. 25 двароў, уладанне слуцкай езуіцкай калегіі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. сяло, 30 двароў, 155 жыхароў і фальварак, уласнасць Д.Радзівіла. У 1800 г. тут пабудаваны сял. магазін «Каля двара», у 1827 г. — карчма каля дарогі Мінск—Слуцк. У 1844 г. 32 двары, 191 жыхар. У маёнтку гаспадарскі драўляны дом, 2 флігелі, свіран, вінакурня, ветраны і конны млыны. У 2-й пал. 19 ст. маёнтак належаў кн. Вітгенштэйну. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучылася 15 хлопчыкаў. У 1897 г. сяло (58 двароў, 310 жыхароў, школа, магазін, капліца), сядзіба (8 двароў, 78 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 82 двары, 451 жыхар, у засценку 10 двароў, 88 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1925—26 гг. частка вяскоўцаў ссялілася ў населеныя пункты Загор'е, Заполле, Дзесяціны, Молаткава. У 1926 г. вёска (55 двароў, 264 жыхары) і засценак (19 двароў, 81 жыхар). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай ак-





ругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «Колас». Ён меў фермы буйной рагатай жывёлы, племянной конегадоўлі, свінагадоўчую і птушкаферму, дзейнічаў вятрак, з 1930-х г. абслугоўваўся Слуцкай МТС. У 1935 г. працавалі клуб, б-ка, 2 школы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ноч на 5.12.1942 г. партызаны атрада імя Фрунзэ спалілі каля вёскі мост на шашы Мінск—Слуцк. У час вайны загінулі 28 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 244 жыхары. У 1961 г. да вёскі далучаны пас. Засценак. У 1970 г. 338 жыхароў. З 23.4.1984 г. цэнтр Бокшыцкага с/с перанесены ў в. Заполле. У 1986 г. 88 гаспадарак, 211 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, піларама, дзіцячы сад, сярэдняя школа (21 настаўнік), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, магазін, АТС. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, піларама, ветэрынарная лячэбніца. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц. Гал. вуліца арыентавана пад вострым вуглом да шашы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пд.

*Народны хор пры Бокшыцкім Доме культуры (1990).*



**БОРКІ** — вёска ў Вясейскім с/с, за 14 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мялешкі і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 13 гаспадарак, 32 жыхары (2012).

Вядома з 1795 г. як сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Слуцкай вол., 10 двароў, 79 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. 27 двароў, 123 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 сям'і, спецыялізаваўся на вырошчванні цялушак, меў 112 дзес. ворыва, 116 дзес. сенажаці. Калгас абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 2 партызаны, якія загінулі 4.6.1943 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 112 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 30 гаспадарак, 87 жыхароў. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Крывалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОРКІ** — вёска ў Грэскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на



З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Мінск. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучаліся 6 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. 6 фальваркаў, хутар, пасёлак і сядзіба Востраў-Боркі. У 1917 г. засценак Боркі (12 двароў, 73 жыхары), засценак Боркі-Востраў (58 двароў, 327 жыхароў) і 2 фальваркі Боркі-Востраў (3 двары, 19 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 40 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 20.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінец». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 4 партызаны і 1 сав. воін, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска ў Мусіцкім (у 1974 г. перайменаваны ў Маяцкі) с/с, 239 жыхароў. У 1970 г. 193 жыхары. У 1986 г. 49 гаспадарак, 109 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З крас. 2008 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, з вял. інтэрваламі паміж забудаванымі ўчасткамі вуліцы.

**БРАНАВА** — вёска ў Сяражскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 2 валокі зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. в. Бранаў, 155 жыхароў. У 1858 г. 116 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 57 двароў, 367 жыхароў, капліца, магазін. У 1917 г. 60 двароў, 396 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1926 г. 59 двароў, 297 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізавана вытв. кааператыўнае т-ва «Беларусь», а ў 1930 г. створаны калгас імя Калініна, у які ўвайшлі сяляне в. Бранава, пасёлкаў Паўлаўка і Камароўка. У калгасе працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 198 жыхароў. У 1970 г. 118 жыхароў. У 1986 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, клуб, магазін. З 31.7.2003 г. на тэр. СВК «Сярагі-Агра», які 12.2.2004 г. быў далучаны да СВК «Аграфірма «Лучнікі». Планіроўка Т-падобная. Вуліцы з крывалінейнымі трасамі шыротнай і ме-





рыдыянальнай арыентацыі забудаваны аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРАНАВІЧЫ** – вёска ў Сяражскім с/с, за 1 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст. 383 гаспадаркі, 957 жыхароў (2012).

Вядома з 1582 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, цэнтр маёнтка, уладанне Алелькавічаў. У 1600 г. маёнтак перайшоў ва ўласнасць царквы. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. У 1792 г. 58 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1860 г. адкрыты 2 школы граматы, дзе вучыліся 10 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. дзейнічалі капліца, школа граматы, магазін. У 1917 г. 152 двары, 915 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Лучнікоўскім с/с. У 1926 г. пасёлкі: Бранавічы Старыя (86 двароў, 449 жыхароў) і Бранавічы Новыя (26 двароў, 108 жыхароў). З 9.8.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Сяражскім с/с. У 1959 г. 396 жыхароў. У 1961 г. да вёскі далучаны пас. Выбранецкі, у 1966 г. – вёскі Навасельцы, Пахар, Іванаўка, Іванаўскі, пасёлкі Розы Люксембург, Спаскі, Пралетарый. У 1970 г. 1245 жыхароў. У 1986 г. 371 гаспадарка, 1013 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. З 2003 г. на тэр. СВК «Аграфірма «Лучнікі» (цэнтр – аграгарадок Лучнікі). У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, магазін, кафэ. Планіровачна складаецца з вуліц, якія ідуць у розных напрамках і злучаюцца прасёлачнымі дарогамі. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. У інтэрвалах паміж вуліцамі з жылой забудовай размешчаны гасп. сектар.

**БУДА ГРЭСКАЯ** – вёска ў Гацукоўскім с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 47 гаспадарак, 106 жыхароў (2012).

Вядома з 1854 г. як маёнтак, які перайшоў да кн. П.В.Вітгенштэйна. У 1885 г. засценак і маёнтак у Слабада-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 62 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 152 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1926 г. 25 двароў, 142 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная кветка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. У 1959 г. 277 жыхароў. У 1970 г. 265 жыхароў. У 1986 г. 70 гаспадарак,



181 жыхар, вытв. ўчастак Слуцкага тэкстыльнага аб'яднання, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, магазін. З 22.2.1991 г. ў складзе калгаса «Беларусь». З 1.7.2003 г. на тэр. СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града». У 2013 г. — магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы, гал. з якіх арыентавана мерыдыянальна, паралельна да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Грамадскі сектар — на З.

**БУСЛАЎКА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

Вядома з 1909 г. як урочышча ў Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ., 4 двары, 27 жыхароў. У 1917 г. засценак, 5 двароў, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 6 двароў, 34 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 49 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1966 г. да вёскі далучана в. Масткі. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 42 жыхары. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудавана з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЯЗВЕРХАВІЧЫ** — вёска ў Сяражскім с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ), на ПнУ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 134 гаспадаркі, 281 жыхар (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 18 валок, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. 40 валок. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 47 двароў, 270 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 204 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1860 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў, у 1916 г. на яе базе адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1880 г. пачала дзейнічаць капліца. У 1897 г. 122 двары, 755 жыхароў, магазін, школа граматы, 2 капліцы. У 1917 г. 163 двары, 983 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. пачала дзейнічаць 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх раёне і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. вёска, 168 двароў, 907 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 72 сям'і, меў 430 дзес. ворыва, 63 дзес. сенажаці. З 1931 г. яго абслугоўвала Слуцкая МТС. Дзейнічалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1954 г. калгас «Новае жыццё» далучаны да калгаса «Памяць Ільіча» (в. Селішча). З 16.7.1954 г. ў Акцябр-





скім с/с. У 1959 г. 821 жыхар. У 1970 г. 806 жыхароў. У 1986 г. 199 гаспадарак, 474 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, 2 магазіны. З 14.8.2003 г. на тэр. СВК «Аграфірма «Лучнікі». З 2012 г. ў Сяражскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка лінейная. Плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць індывідуальныя мураваныя дамы тыпу катэджаў.

**БЯЗВЕРХАВІЧЫ** — пасёлак у Сяражскім с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2012).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. У 1926 г. тут быў цагельны з-д, 1 двор, 2 жыхары, у Івана-Агароднiцкім с/с Слуцкага р-на. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. ў Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. У 1959 г. 80 жыхароў. У 1970 г. 87 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 117 жыхароў. З 14.8.2003 г. на тэр. СВК «Аграфірма «Лучнікі». З 2013 г. ў Сяражскім с/с. У 2013 г. — магазін. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, паралельна да вуліцы в. Бязверхавічы. Забудаваны пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Р.Д.Мурашкі (1902—1944).

**БЯЛЕВІЧЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 125 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 65 гаспадарак, 120 жыхароў (2012).

Вядома з 1582 г. як сяло, цэнтр маёнтка ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, уласнасць А.Алелькавіча. У 1601 г. стала цэнтрам воласці. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 105 двароў, 504 жыхары, гаспадарскі драўляны дом, Петрапаўлаўская царква, вятрак, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1844 г. 53 двары, 403 жыхары, 99 коней, 163 валы, 128 кароў, 300 авечак, 133 свінні, 16 пчаліных вулляў. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1892 г. вучылася 66 хлопчыкаў. У 1893 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1897 г. 134 двары, 850 жыхароў, царква, 2 капліцы, школа, магазін, піцейны дом; у маёнтку 75 жыхароў, кузня. У 1917 г. ў сяле 175 двароў, 1042 жыхары, у маёнтку 126 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1926 г. 212 двароў, 994 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Воля», які з 1931 г. абслугоўвала Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у 1944 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 702 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. У 1970 г. 597 жыхароў. У 1986 г. 160 гаспадарак, 313 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 14.12.2000 г. на тэр. СРУП «Саўгас «Рачкавічы» Бел.



чыгункі. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. Радзіма бел. этнографа і фальклараста А.К.Сержпутоўскага (1864—1940) і ген.-лейт. Д.Д.Зубовіча (1909—76).

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 16 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай (прыток р. Вялікая Сліва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Вясея і далей па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 61 гаспадарка, 132 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як в. Бярозава ў Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ. У 1909 г. 18 двароў, 173 жыхары. У 1917 г. 31 двор, 226 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. 44 двары, 252 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. быў створаны калгас, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 337 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. 300 жыхароў. У 1986 г. 85 гаспадарак, 179 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**ВАЛАТЫ** — вёска ў Ісернскім с/с, за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Пагост 1. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Вядома з 1850 г. як вёска ў складзе маёнтка Некрашы Слуцкага павета Мінскай губ., уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 14 двароў, 102 жыхары. У 1917 г. 20 двароў, 151 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Велікасліўскім с/с. У 1926 г. 32 двары, 171 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1932 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Чырвоны волат», які аб'ядноўваў 12 сямей, меў 72 дзес. ворыва, 80 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Казловіцкім с/с. У 1959 г. 194 жыхары. У 1970 г. 151 жыхар. У 1986 г. 40 гаспадарак, 60 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вялікая Сліва». З 2013 г. ў Ісернскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 15 км на З ад Слуцка, 5 км ад чыг. ст. Серадныкі на лініі Слуцк—Баранавічы, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).





За 1 км на У ад вёскі знаходзяцца 3 курганныя могільнікі. Вядома з 1653 г. як с. Ваньковічы ў Навагрудскіх павеце і ваяв., каля 6 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. тут дзейнічала карчма, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 3 двары, 24 жыхары і драўляны гаспадарскі дом. У 1897 г. фальварак (1 двор, 4 жыхары), хутар (1 двор, 2 жыхары) і маёнтак (21 жыхар) у Раманаўскай вол. У 1917 г. хутар (1 двор, 4 жыхары) і маёнтак (113 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1920-я г. тут пачала працаваць хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (з 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пас. Ванькоўшчызна, 19 двароў, 92 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Цяраспаль арганізавалі калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 79 жыхароў. У 1970 г. 68 жыхароў. У 1986 г. вёска, 16 гаспадарак, 41 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. – с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая, з інтэрваламі паміж сядзібамі.

**ВАРКАВІЧЫ** – вёска ў Сяражскім с/с, за 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па акружной шашы вакол Слуцка, якая праходзіць побач з вёскай. 154 гаспадаркі, 307 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 28 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 65 двароў, 270 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1852 г. 74 двары, у складзе казённага маёнтка Выбраннецкае Слуцкага павета. У 1860 г. адкрыты 2 школы граматы, у якіх навучаліся 22 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. 126 двароў, 672 жыхары, капліца, школа граматы, магазін. У 1917 г. 153 двары, 838 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. Восенню 1919 г. ў час польскай акупацыі тут дзейнічала падп. ячэйка, з жыхароў вёсак Варкавічы і Сярагі быў створаны партыз. атрад (28 чал.). У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1925–26 гг. частка жыхароў перасялілася ў в. Уланава. У 1926 г. 142 двары, 692 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Ленінскі шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 сям'і, меў 225 дзес. ворыва, 50 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працавалі 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 845 жыхароў. У 1970 г. 754 жыхары. У 1986 г. 202 гаспадаркі, 508 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, пач. школа, клуб, б-ка,



2 магазіны, лазня. З 14.8.2003 г. на тэр. СВК «Аграфірма «Лучнікі». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін, лазня. Планіроўка лінейная. Вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, разгаліноўваецца на паўн. ускраіне на кароткія вуліцы. У сярэдзіне гал. вуліца перакрыжоўваецца дарогай. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Грамадскія будынкі ў цэнтры вёскі сярод жылой забудовы. На З — гасп. сектар.

**ВАСІЛІНКІ** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 4 км ад на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На У і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 119 гаспадарак, 294 жыхары (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 23 валокі, шляхецкая ўласнасць. У 1593 г. сяло ў складзе маёнтка Абуховічы. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 59 двароў, 350 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1844 г. сяло ў складзе маёнтка Бокшыцы, дзейнічала карчма. У 1860 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучылася 12 хлопчыкаў. У 1881 г. вяскоўцы захапілі 47 дзес. памешчыцкіх сенажацей. У 1886 г. сяло ў Слуцкай вол., 86 двароў, 530 жыхароў, капліца. У 1897 г. 116 двароў, 665 жыхароў, 2 капліцы, 2 школы граматы, 2 магазіны. У 1917 г. вёскі Васілінкі 1 (93 двары, 541 жыхар) і Васілінкі 2 (82 двары, 499 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. У час акупацыі дзейнічала падп. ячэйка. З 1919 г. ў БССР. У пач. 1919 г. адкрыта 4-гадовая школа, працаваў к-т беднаты. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З пач. 1920-х г. пачала дзейнічаць хата-чытальня, у 1922 г. створана камсамольская ячэйка. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. 207 двароў, 985 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоныя Васілінкі». У 1932 г. ў вёсцы дзейнічалі 2 калгасы, якія абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 42 вяскоўцы. У брацкай магіле пахаваны 23 воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 3 партызаны 225-й брыгады імя А.В.Суворава і 200-й брыгады імя К.К.Ракасоўскага, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска (340 жыхароў) і пасёлак (240 жыхароў). У 1970 г. вёска, 507 жыхароў. У 1986 г. 166 гаспадарак, 418 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дрэваапрацоўчая майстэрня, клуб, магазін. З 2010 г. цэнтр філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчы комплекс, сталовая, лазня. Планіроўка рэгулярная, прамавугольная. Дзве асн. паралельныя вуліцы арыентаваны амаль мерыдыянальна, пад вуглом да шашы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдУ. Радзіма бел. вучонага, доктара хімічных навук, праф. В.Д.Кашавара (н. ў 1948).

**ВАСІЛЬКОВА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 28 гаспадарак, 60 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. З лютага да снеж. 1918 г.

акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 81 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. вёска, 131 жыхар. У 1970 г. 128 жыхароў. У 1986 г. 27 гаспадарак, 71 жыхар, 2 магазіны, клуб. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана шыротна, паралельна да шашы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЕЖЫ** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 90 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 157 гаспадарак, 486 жыхароў (2002).

У 1926 г. хутар у Гацукоўскім с/с Грэскага р-на Слуцкай акругі, 1 двор, 3 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. З лютага 1989 г. цэнтр РСУП «Саўгас «Слуцк». З 2006 г. аграгарадок. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, кафэ.

**ВЕРАБ'ЁВА** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 29 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пд і Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як фальварак (1 двор, 17 жыхароў), хутар (41 жыхар) і смалакурны з-д (20 жыхароў) у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. 13 двароў, 54 жыхары. У 1917 г. 26 двароў, 150 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.— ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Шышчыцкім с/с. У 1926 г. ўрочышча, 29 двароў, 118 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. 20 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 33 жыхары. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Грэскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 78 жыхароў. У 1970 г. 74 жыхары. У 1986 г. 17 гаспадарак, 37 жыхароў, лясніцтва, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. — філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі паварочвае ў цэнтры амаль пад прамым вуглом



на Пд. Забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕТКА** (да 1964 г. — Хрэнава) — вёска ў Грэскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 69 гаспадарак, 138 жыхароў (2012).

За 3 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1800 г. як с. Хрэнаў і фальварак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 30 двароў, 183 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1874 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 15 хлопчыкаў. У 1897 г. вёска (90 двароў, 491 жыхар, царква, магазін), маёнтак (33 жыхары), карчма (1 двор, 8 жыхароў) у Грозаўскай вол. У 1917 г. 108 двароў, 605 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Мусіцкім (у 1974 перайменаваны ў Маяцкі) с/с. У 1926 г. 121 двор, 528 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 20.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 сямей, меў 555 дзес. ворыва, 174 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 401 жыхар. У 1970 г. 437 жыхароў. У 1986 г. 96 гаспадарак, 234 жыхары, вытв. ўчастак Слуцкага тэкстыльнага аб'яднання, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З крас. 2008 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дом сац. паслуг; Георгіеўская царква (пач. 21 ст.). Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ. Перпендыкулярна да яе праходзяць другарадныя вуліцы і завулкі. Забудова сядзібная, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ВІШНЁЎКА** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 17 км на З ад Слуцка, 8 км ад чыг. ст. Сераднякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былой памешчыцкай зямлі перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 18 двароў, 79 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 62 жыхары. У 1970 г. 58 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 39 жыхароў. З 16.7.2003 г. пасёлак знаходзіўся на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Шыротная вуліца забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы А.Г.Хацько (1928—90).

**ВОЛАШАВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 32 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Таліца (прыток

р. Арэса). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў (2012).

Вядома з 1917 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 21 двор, 127 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. 37 двароў, 187 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 5 жыхароў, якіх забілі гітлераўцы ў 1941 г., і партызан 225-й брыгады імя А.В.Суворава, які загінуў у лютым 1944 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1970 г. 149 жыхароў. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 83 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Сорагі-Агра». Вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.



*Каталіцкая капліца ў в. Вынісцы.*

**ВЫНІСЦЫ** — вёска ў Покрашаўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 92 гаспадаркі, 157 жыхароў (2012).

Вядома з 1537 г. як с. Вынезцы ў Навагрудскім павеце і ваяв. ВКЛ. Тут было 8 заселеных і 5 пустых сял. службаў, якія вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І Стары падараваў М.Р.Барадавічну за ваенную службу. У 1684 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць. У 1775 г. с. Вынішча, 19 двароў, уласнасць Слуцкай алтарыі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1848 г. вёска, фальварак, шынок, уласнасць казны. У 1897 г. ў Грэскай вол., 73 двары, 485 жыхароў, капліца, магазін. У 1909 г. 83 двары, 594 жыхары. У 1916 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 115 двароў, 690 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыты хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. вёска, 115 двароў, 596 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 сямей, меў 174 дзес. ворыва. Дзейнічалі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г.



ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. ў Покрашаўскім с/с, 626 жыхароў. У 1970 г. 632 жыхары. У 1986 г. 154 гаспадаркі, 396 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, магазін; капліца. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якія злучаны дарогай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі — у цэнтры, гасп. сектар — на З.

**ВЯЛІКАЕ ЖУРАВА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 78 гаспадарак, 96 жыхароў (2012).

Вядома з 1870 г. як вёска і аднайменны маёнтак у Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ. У 1897 г. 34 двары, 295 жыхароў, капліца. У 1917 г. вёскі Журава 1 (26 двароў, 180 жыхароў), Журава 2 (8 двароў, 47 жыхароў) і Журава 3 (8 двароў, 65 жыхароў) у Слуцкай вол. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, затым войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Лучнікоўскім с/с. У 1926 г. вёска, 34 двары, 167 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1959 г. 189 жыхароў. У 1970 г. 266 жыхароў. У 1986 г. 82 гаспадаркі, 202 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Дзейнічаюць дом сац. паслуг, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ пад вострым вуглом да шашы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕР** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 4 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па Слуцкай акружной магістралі, якая праходзіць каля вёскі. 104 гаспадаркі, 140 жыхароў (2012).

За 0,6 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. Вядома з 1792 г. як вёска ў Случарэцкім павеце Навагрудскага ваяв. ВКЛ, 22 двары, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. в. Падзеры ў Слуцкай вол. У 1897 г. 35 двароў, 241 жыхар, капліца, школа. У 1917 г. 57 двароў, 286 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. 68 двароў, 332 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», у 1932 г. — калгас «Чырвоная Падзер», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. ў Казловіцкім с/с, 272 жыхары. У 1970 г. 387 жыхароў. У 1986 г. 103 гаспадаркі, 256 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы; капліца. Гал. вуліца шыротнай арыен-

тацыі перакрыжоўваецца пад рознымі вугламі другараднымі вуліцамі і завулкамі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**ВЯЛІКАЯ СЛІВА** — вёска ў Ісернскім с/с, за 12 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ), на якой утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк–Пагост 1, якая праходзіць праз вёску. 295 гаспадарак, 583 жыхары (2012).

За 2,5 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку. Вядома з 1566 г. як с. Сліва ў складзе маёнтка Новы Двор Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 28 валок, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 59 двароў, 423 жыхары, гаспадарскі драўляны дом, карчма. Належала кн. Д.Радзівілу і Слуцкаму манастыру. У сярэдзіне 19 ст. уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска (270 жыхароў мужчынскага полу) і аднайменны маёнтак у Цараўскай вол. У 1890 г. адкрыта школа граматы, пераўтвораная ў 1916 г. ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. ў вёсцы 148 двароў, 1101 жыхар, капліца, магазін, кузня, 2 харчэўні, у маёнтку 21 жыхар, млын. У 1917 г. ў в. Вялікая Сліва 216 двароў, 1349 жыхароў, у фальварку Сліва 4 двары, 31 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 258 двароў, 1402 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана малочная арцель «Сялянская праца», у якую ўвайшло 112 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Працаўнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 80 сямей, меў 400 дзес. ворыва, 200 дзес. сенажаці. У 1932 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Красіна. У 1933 г. гэтыя калгасы аб'ядналіся. У 1930 г. пачалі працаваць курсы трактарыстаў. У 1933 г. адкрыта ўчастковая бальніца. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Казловіцкім с/с. У 1959 г. 1334 жыхары. У 1970 г. 1206 жыхароў. У 1975 г. на тэр. школы ўстаноўлены помнік 154 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Красіна, 360 гаспадарак, 796 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа (14 настаўнікаў), клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, магазін, АТС. 16.7.2003 г. калгас імя Красіна рэарганізаваны ў ААТ «Вялікая Сліва». З 2013 г. ў Ісернскім с/с. У 2013 г. — 3 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін. Планіровачная структура падзяляецца на паўн., паўд. і ўсх. часткі з прамавугольнай сеткай вуліц. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Паўн. і паўд. часткі злучаны паміж сабой цэнтр. вуліцай (адрэзак шашы) з мостам цераз раку. Уздоўж цэнтр. вуліцы склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Новая вуліца, якая ідзе паралельна да гал., забудавана сучаснымі 1-павярховымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Узведзена таксама некалькі 2-павярховых шматкватэрных дамоў. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі. Радзіма бел. пісьменніка В.А.Санько (н. ў 1939).



**ВЯЛІКІ БЫКАЎ** – вёска ў Ісерн-скім с/с, за 24 км на Пд ад Слуцка і 9 км ад чыг. ст. Калій 3 на лініі Слуцк—Салігорск, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд вёску агінае р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Пагост 1—Чырвоная Слабада. 77 гаспадарак, 144 жыхары (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Пагост Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 16 валок, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. 23 валокі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 65 двароў, 381 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. ва ўладанні кн. К.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў Пагосцкай вол., 159 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 95 двароў, 690 жыхароў, капліца, вятрак, магазін. У 1917 г. 137 двароў, 875 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1926 г. 178 двароў, 855 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. 178 двароў, 855 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 66 сямей, меў 415 дзес. ворыва і 80 дзес. сенажаці, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 702 жыхары. У 1970 г. 624 жыхары. У 1986 г. 148 гаспадарак, 304 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, дом сац. паслуг, магазін. Аснову планіровачнай структуры складаюць 4 вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя дарогай. Забудова сядзібнага тыпу драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на ПнЗ.

**ВЯСЕЯ** – вёска (з 2006 аграгарадок), цэнтр Вясейскага с/с, за 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 465 гаспадарак, 1306 жыхароў (2012).

Вядома з 1509 г. як панскі двор Вяйсея ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, якім валодаў Міхаіл Глінскі. Пасля мяцяжу Глінскіх (1508) вял. кн. ВКЛ Жыгімонт І падараваў двор княгіні Настассі Слуцкай. У 1600 г. маёнтак, які належаў Радзівілам. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 32 двары, 264 жыхары, млын, гаспадарскі дом. У 1870 г. вёскі Вясея 1 і Вясея 2. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 13 хлопчыкаў. У



*Пакроўская царква ў в. Вясея.*







*Дзіцячы фальклорны калектыў «Вясейкі» пры школе мастацтваў у в. Вясея.*

1897 г. ў вёсцы 83 двары, 515 жыхароў, капліца, школа граматы, магазін, піцейны дом, у маёнтку 50 жыхароў. У 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. в. Вясея (Кандратовічы), 69 двароў, 492 жыхары і маёнтак, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. ў вёсцы пачаў дзейнічаць дзіцячы дом для галадаючых з Паволжа. У пач. 1920-х г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. 131 двор, 740 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створаны калгас «Зорка», у 1930 г. з былога маёнтка Вясея, хутароў Дубраўка і Ізбудзішча — калгас «КІМ». У 1931 г. пачаў працаваць калгас «Чырвоная Вясея». Абслугоўвала калгасы Слуцкая МТС, у вёсцы працавала кузня. У 1932 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, а ў 1938—39 гг. — у 10-гадовую. З 1939 цэнтр Прошчыцкага (16.7.1954 г. перайменаваны ў Вясейскі) с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28.11.1942 г. партызаны атрада імя Фрунзэ разграмілі тут гітлераўскі маёнтак, захапілі шмат жывёлы, частку якой раздалі насельніцтву. У брацкай магіле пахаваны 14 сав. воінаў 4-га кавалерыйскага корпуса, якія загінулі пры вызваленні вёскі і раёна. У 1952 г. створана Вясейская МТС. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 975 жыхароў. У 1961 г. да Вясеі далучана в. Жураўка. У 1967 г. на паўд. ускраіне вёскі ўстаноўлены помнік 150 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 1247 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Арджанікідзэ, 468 гаспадарак, 1443 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесанарыхтоўчае прадпрыемства, дрэваапрацоўчыя майстэрні, раённае аб'яднанне «Сельгасхімія», дзіцячы сад, сярэдняя школа (25 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, сталовая, АТС. 16.7.2003 г. калгас імя Арджанікідзэ рэарганізаваны ў ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — філіял ААТ «Слуцкі аграсэрвіс», жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа мастацтваў, Дом культуры (з 1975 г. дзейнічае Вясейскі нар. хор), б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», 2 магазіны, 2 сталовыя, лазня; Пакроўская царква (2006). Вёска мае рэгулярную планіровачную структуру з прамавугольнай сеткай вуліц. Асн. вуліцы ідуць паралельна да шашы, у шыротным напрамку. Забудова старых вуліц традыц., сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Каля шашы створаны адм.-грамадскі цэнтр, тут склаліся новыя вуліцы, забудаваныя сучаснымі мураванымі 1—3-павярховымі жылымі дамамі. Гасп. сектар — на Пн.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 142 гаспадаркі, 292 жыхары (2012).



Вядома з 1590 г. як сяло ў Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 38 валок. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 74 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў Грэскай вол., 48 двароў, 303 жыхары, капліца, магазін. У 1916 г. адкрыта школа. У 1917 г. 76 двароў, 489 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. 76 двароў, 416 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана малочная арцель «Новы быт», у 1929 г. — калгас «Новае Гарадзішча», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 59 вяскоўцаў. На вясковых могілках пахаваны 2 партызаны і 1 сав. воін, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. в. Гарадзішчы (349 жыхароў) і пасёлкі: Гарадзішча 1 (55 жыхароў), Гарадзішча 2 (207 жыхароў), Гарадзішча 3 (173 жыхары). У 1961 г. да вёскі далучаны пасёлкі Гарадзішча 1, Гарадзішча 2, Гарадзішча 3. У 1970 г. вёска, 803 жыхары. У 1986 г. 193 гаспадаркі, 482 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, свінагадоўчы комплекс, пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, АТС. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 — жывёлагадоўчая ферма, свінакомплекс, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, дом сац. паслуг, 2 магазіны. Планіровачная структура рэгулярная, прамавугольная. Асн. вуліцы арыентаваны з ПнЗ на ПдУ пад вострым вуглом да шашы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. Узведзена некалькі тыпавых мураваных жылых дамоў. Гасп. сектар — на Пн.

**ГАРОХАЎКА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 9 двароў, 72 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 71 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. засценак (9 двароў, 43 жыхары) і хутар (2 двары, 11 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Ясная Зорка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Вясейскім с/с, 108 жыхароў. У 1986 г. ў Бокшыцкім с/с, 23 гаспадаркі, 44 жыхары, клуб. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Планіроўка У-падобная. Дзве кароткія вуліцы забудаваны традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЦУК** — вёска (з 2007 г. аграгарадок), цэнтр Гацукоўскага с/с, за 34 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць

каля вёскі. 391 гаспадарка, 1012 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 3 двары, 27 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Грэская Буда, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў Слабода-Пырашэўскай вол. Ігуменскага павета. У 1909 г. 24 двары. У 1917 г. 29 двароў, 170 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 38 двароў, 206 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліп. 1941 г. ў вёсцы дзейнічала падп. група. Патрыёты збіралі зброю, вялі антыфаш. агітацыю, дапамагалі ў стварэнні партыз. атрада на чале з лейт. М.М.Белянковым. 5.5.1943 г. партызаны атрада імя Фрунзэ знішчылі каля вёскі 2 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.2.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. У 1959 г. 198 жыхароў. У 1970 г. 689 жыхароў. У 1986 г. цэнтр саўгаса «50 год БССР», 331 гаспадарка, 1076 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, электрападстанцыя, ветэрынарны ўчастак, торфабрыкетны з-д (узведзены ў 1965 г.), дзіцячы сад, сярэдняя школа (26 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, сталовая, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 3 магазіны, АТС. 22.2.1991 г. саўгас «50 год БССР» рэарганізаваны ў калгас «Беларусь», які 1.7.2003 г. пераўтвораны ў СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града» (цэнтр — в. Гацук). У 2013 г. — філіял ААТ «Старобінскі ТБЗ», жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа мастацтваў, Дом фальклору, б-ка, комплексны прыёмны пункт, амбулаторыя, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазіны, сталовая. Дзве старыя вуліцы з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу арыентаваны шыротна. Перпендыкулярна да іх накіраваны 2 новыя вуліцы з сучаснай 1—3-павярховай забудовай мураванымі жылымі дамамі. У паўн. частцы — адм.-грамадскі цэнтр. Тут узведзены 1—3-павярховыя мураваныя грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на У. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну У.І.Зайца (1911—80).

**ГОЛЬЧЫЧЫ** — вёска, цэнтр Першамайскага с/с, за 18 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 208 гаспадарак, 482 жыхары (2012).

За 3 км на Пн ад вёскі знаходзіцца гарадзішча 7—2 ст. да н.э. Вядома з 1537 г. як с. Гольчыцы ў складзе маёнтка Грэск Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 31 двор, 160 жыхароў, драўляная царква, карчма, уладанне Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Грэскай вол., 70 двароў, 350 жыхароў, царква, магазін. У 1917 г. ў сяле 82 двары, 533 жыхары, у маёнтку 67 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім



корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1920 г. адкрыта хата-чытальня, у 1921 г. — 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр Гольчыцкага (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. вёска (92 двары, 456 жыхароў) і хутар (7 двароў, 17 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 сямей, меў 108 дзес. ворыва, 120 дзес. сенажаці. У 1940 г. 231 двор, 804 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. група з 12 вяскоўцаў ўвайшла ў склад партыз. атрада імя Суворава. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 115 двароў, загубілі 24 жыхароў. На вясковых могілках пахавана 5 партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 137 жыхароў. У 1961 г. да Гольчыч далучаны пасёлкі Зара, Мочава, Кастрычнік, у 1966 г. — вёскі Леніна, Барок, Макавішча, пасёлкі Ніва, Дуброўка, Копань, Ляды. У 1970 г. 1099 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «Радзіма», 306 гаспадарак, 707 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, лясніцтва, малочны пункт Слуцкага масласырзавода, дзіцячы сад, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, бальніца, сталовая, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, 2 магазіны. 10.4.2003 г. калгас «Радзіма» увайшоў у склад філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс» (цэнтр — в. Гольчычы). У 2013 г. — жывёлагадоўчыя комплекс і ферма, майстэрні па ра-



*Жывёлагадоўчая ферма ў в. Гольчычы.*

монце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін. Гал. вуліца мае крывалінейную трасу і рэзка паварочвае з мерыдыянальнага напрамку на ПдЗ. Пад рознымі вугламі да яе падыходзяць другарадныя вуліцы. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. Вуліца Маладзёжная забудавана муравыанымі дамамі тыпу катэджаў. У цэнтры размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар разгрупаваны па розныя бакі ад жылой забудовы.

**ГОРКІ** — вёска ў Беліцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дзявіца (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 46 гаспадарак, 81 жыхар (2012).

За 1 км на Пн ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1795 г. як фальварак у Слуцкім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Д.Радзівіла дзейнічаў вятрак. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 6 двароў, 86 жыхароў. У 1917 г. 4 хутары (Гаховішча, Зубовіча, Перагуда, Гамарына, 72 жыхары). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Поль-





шчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. вёска, 14 двароў, 51 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоны пераменнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8.1.1943 г. партызаны атрада імя Фрунзэ здзейснілі нападзенне на паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы, захапілі шмат зброі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Беліцкім с/с, 333 жыхары. У 1970 г. 288 жыхароў. У 1986 г. 88 гаспадарак, 156 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». У 2013 г. — магазін. Планіроўка складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных вуліц, гал. з якіх мае мерыдыянальную арыентацыю. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРЭСК** — вёска (з 2009 г. аграгарадок), цэнтр Грэскага с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Сава (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Ленькі, потым па шашы Мінск—Слуцк. 717 гаспадарак, 1700 жыхароў (2012).

У цэнтры вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку. Вядома з 1510 г. як мястэчка, цэнтр воласці ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1536 г. мястэчка належала вял. княгіні ВКЛ Боне Сфорца. У 1570 г. кароль Польшчы і вял. кн. ВКЛ Жыгімонт II Аўгуст выдаў прывілей на адкрыццё ў Грэску штотыднёвага кірмашу. У 1590 г. 69 двароў, царква, млын, карчма. У ліп. 1593 г. кароль Польшчы і вял. кн. ВКЛ Жыгімонт III Ваза аддаў мястэчка ў леннае ўладанне кн. Мікалаю Крыштофу Радзівілу. У 1632 г. цэнтр маёнтка, уладанне А.Радзівіла. У 1654 г. 95 дымоў, заезны дом, карчма. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 403 жыхары, драўляная царква, карчма, млын, уладанне Д.Радзівіла. У 1847 г. ўладальнік мястэчка Л.Радзівіл пабудаваў царкву. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1864 г. вучыліся 63 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1869 г. сяляне адмовіліся плаціць за патравы радзвілаўскіх пасеваў і аказалі супраціўленне мясц. уладам. У 1897 г. мястэчка, цэнтр воласці, 283 двары, 1933 жыхары, царква, капліца, малітоўны дом, школа, прыёмны пакой для хворых, магазін, 7 крам, піцейны дом; у маёнтку 44 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыты хата-чытальня, клуб, народны тэатр, бальніца, 4-гадовая школа (у 1922 г. пераўтворана ў 7-гадовую). З 17.7.1924 г. вёска, цэнтр раёна Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. адначасова цэнтр сельсавета. У 1926 г. 422 двары, 1796 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 24.1.1929 г. да 27.9.1938 г. мястэчка. З 1928 г. працавалі кузня і ветраны млын. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1930 г. створана арцель па нарыхтоўцы ванны. У пач. 1930-х г. калгас і арцель аб'ядналіся. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім р-не. З 12.2.1935 г. зноў цэнтр раёна. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. У 1935 г. тут створана МТС, якая ў 1936 г. абслугоўвала 21 калгас. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Чырвонай Арміі ваявалі 102 вяскоўцы, 65 з іх не вярнуліся з вайны. З ліп. 1941 г. да чэрв. 1942 г. ў Грэскай бальніцы дзейнічалі падп. група (9 чал.) пад кіраўніцтвам намесніка гал. ўрача Ю.Г.Войчыка. У памяць аб



падпольшчыках у вёсцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У сак. 1942 г. партызаны Мінскага злучэння разграмілі тут гітлераўскі гарнізон. У брацкай магіле на зах. ускраіне вёскі пахаваны 50 сав. воінаў і мірныя жыхары, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 1765 жыхароў. У 1961 г. да вёскі далучаны пас. Някрасаўка. У 1966 г. адкрыта каўбасная ф-ка. У 1968 г. ўстаноўлены помнік 206 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 2228 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «Гігант», 835 гаспадарак, 2410 жыхароў, 3 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце шынатэхнікі, млын, піларама, каўбасны цэх Слуцкага мясакамбіната, камбінат надомнай працы, кандытарскі цэх, перасоўная механізаваная калона № 71, хлебапякарня, ветэрынарны ўчастак, вытв. ўчастак Слуцкага тэкстыльнага аб'яднання, швейная майстэрня, 2 дзіцячыя сады, сярэдняя (39 настаўнікаў) і муз. школы, радыёвузел, Дом культуры, дом-інтэрнат для інвалідаў і састарэлых, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, Дом быту, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 сталовыя, АТС, 5 магазінаў. 26.6.2003 г. калгас «Гігант» рэарганізаваны ў СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. — філіял падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат» (цэнтр — в. Грэск). У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ПМК-71, дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа мастацтваў, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», бальніца, аптэка, сталовая, 3 магазіны; царква Прасвятой Багародзіцы (2008). Планіровачная структура блізкая да прамавугольнай. Старыя вуліцы маюць традыц. пераважна драўляную забудову сядзібнага тыпу. Гал. вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана 2—3-павярховымі шматкватэрнымі муравамымі дамамі. Гасп. сектар — на У. Каля паўн. ускраіны вёскі знаходзіцца Грэскае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 285,3 тыс. м$^3$).

**ГУЛЯЕВА** (да 1964 г. — Каты) — вёска ў Ісернскім с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Пагост 1, якая праходзіць каля вёскі. 40 гаспадарак, 65 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска (10 двароў, 92 жыхары) і аднайменны фальварак, уласнасць Д.Радзівіла, у Слуцкім павеце Мінскай губерні. У 1850 г. 114 жыхароў. Па перапісу 1897 г. 34 двары, 244 жыхары, у Пагосцкай воласці Слуцкага павета Мінскай губерні. Побач былі маёнтак (1 двор, 9 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 6 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 42 двары, 289 жыхароў, у маёнтку 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. вёска (57 двароў, 313 жыхароў) і пасёлак (9 двароў, 10 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Перамога», які абслугоўвала Слуцкая МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З мая 1942 г. да вер. 1943 г. дзейнічала Ісернская надп. група пад кіраўніцтвам М.Д.Бялько. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 405 жыхароў. У 1964 г. вёска была перайменавана ў гонар камандзіра 101-й партыз. брыгады імя Аляксандра Неўскага, Героя Сав. Саюза Д.Ц.Гуляева (1915—43), які загінуў у баі каля суседняй в. Панічы. У 1970 г. 331 жыхароў. У 1986 г. 85 гас-





падарак, 179 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіровачна складаецца з 3 паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая.

**ГУТНІЦА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пн і З цячэ р. Ніжняя Вясейка (прыток р. Вясея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Вядома з 1917 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Стараўскім с/с. У 1926 г. 30 двароў, 132 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створана с.-г. машыннае кааператыўнае т-ва «Колас», у 1930 г. — калгас «Чырвоная Гутніца», які абслугоўвала Кучынская МТС. У 1940 г. вёска, 27 двароў, 110 жыхароў, клуб. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі з вер. 1942 г. да ліп. 1944 г. дыслацыравалася разведгрупа штаба Зах. фронту пад камандаваннем старшага палітрука М.К.Когана. У 1974 г. за 0,5 км на Пн ад вёскі ў памяць аб дзейнасці разведгрупы ўстаноўлена стэла. У вёсцы пахаваны 2 партызаны атрада імя Ф.Э.Дзяржынскага 95-й брыгады імя М.В.Фрунзэ, якія загінулі 14.3.1943 г. У крас. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Амговіцкім с/с. У 1959 г. 87 жыхароў. У 1970 г. 59 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 32 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін, сталовая. З 1.4.2004 г. на тэр. вытв. ўчастка філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка крыжападобная. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены абапал двух кароткіх узаемна перпендыкулярных вуліц.

**ДАЛЬНІЯ БАНДАРЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Слуцка і 2 км ад чыг. ст. Некрашы на лініі Слуцк—Асіповічы, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 41 гаспадарка, 65 жыхароў (2012).

Вядома з 1870 г. як в. Бондары ў Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 79 жыхароў мужчынскага полу. Восенню 1888 г. вяскоўцы самавольна захапілі памешчыцкі сенакос, а 22.2.1889 г. аказалі супраціўленне ўладам пры продажы маёмасці ў лік штрафу на карысць кн. М.Гогенлоэ за самавольнае карыстанне сенакосам. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучаліся 9 хлопчыкаў. У 1897 г. 42 двары, 315 жыхароў, кузня, магазін. У 1917 г. 54 двары, 405 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Казловіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З



20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 392 жыхары. У 1970 г. 237 жыхароў. У 1986 г. 71 гаспадарка, 137 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма клуб, магазін. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі з драўлянай двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу. Паралельна і перпендыкулярна да іх падыходзяць новыя вуліцы з муравапымі дамамі тыпу катэджаў.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пн і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 21 гаспадарка, 59 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1921 г. хутар, 5 двароў, 19 жыхароў, у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. хутар, 1 двор, 9 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 117 жыхароў. У 1966 г. да Дворышча далучана в. Падстарына. У 1970 г. 123 жыхары. У 1986 г. 28 гаспадарак, 69 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы. З 1.4.2004 г. на тэр. вытв. ўчастка філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца з крывалінейнай трасай мае блізкую да шыротнай арыентацыю. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая, няшчыльная.

**ДУБРОВА** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 18 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вужанка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1926 г. пасёлак у Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с Слуцкіх р-не і акругі, 14 двароў, 69 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 83 жыхары. У 1970 г. 64 жыхары. У 1986 г. 16 гаспадарак, 36 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЕЎЛІЧЫ** — вёска ў Беліцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 83 гаспадаркі, 164 жыхары (2012).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 38 валок, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 48 двароў, 328 жыхароў, фальварак Ванькаўшчына, карчма, уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 206 жыхароў мужчынскага полу. У 1884 г.

адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 25 хлопчыкаў. У 1897 г. 119 двароў, 745 жыхароў, царква, капліца, магазін, піцейны дом. У 1912 г. створана аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 143 двары, 860 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Акцябрскім с/с. У 1926 г. 168 двароў, 820 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана малочная арцель, у 1929 г. — калгасы «Чырвоны шлях» і «Чырвоны мякіш». У вёсцы працавалі 2 ветракі, гаспадаркі абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 500 жыхароў. У 1970 г., 483 жыхары. У 1986 г. 190 гаспадарак, 367 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, б-ка, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. ААТ «Вітко-агра». З 2013 г. ў Беліцкім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дом сац. паслуг, магазін. Планіроўка П-падобная. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Новая вуліца, якая размешчана на З, забудавана мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Гасп. сектар — на Пд. Радзіма бел. вучонага ў галіне інфекцыйных хвароб, чл.-кар. Акадэміі медыцынскіх навук СССР А.М.Філіповіча (1901—1961) і бел. паэта, засл. дзеяча культуры Беларусі Васіля Віткі (1911—1996).

**ЖЫЛІН БРОД** — вёска ў Першамайскім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пд цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Нясвіж—Асіповічы, якая праходзіць праз вёску. 61 гаспадарка, 160 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як урочышча ў Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. фальваркі Жылін Брод 1 (1 двор, 11 жыхароў) і Жылін-Брод 2 (1 двор, 11 жыхароў). У 1917 г. засценак Жылін Брод, 11 двароў, 53 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 12.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. У 1926 г. 14 двароў, 77 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. жыхары вёсак Жылін Брод і Шантароўшчына стварылі калгас «8 Сакавіка». У 1940 г. 11 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. 26.10.1942 г. партызаны атрада імя А.В.Суворава разграмілі каля вёскі атрад гітлераўскіх карнікаў і ўзялі шмат трафеяў. За 1 км на Пн ад вёскі пахаваны 22 жыхары былой в. Беразінец, якіх 23.2.1943 г. расстралялі акупанты, за 1,5 км на Пд ад вёскі ў 24 магілах пахаваны 116 жыхароў былой в. Пераходы, якіх 23.2.1943 г. загубілі гітлераўцы. За 1,5 км на Пд ад вёскі на ўшанаванне памяці землякоў з вёсак Беразінец, Жылін Брод, Задоўба, Крушнік, Палікараўка і Фадзееўка, знішчаных ням.-фаш. захопнікамі, устаноўлены помнік (1972). У цэнтры вёскі ў 13 магілах пахаваны 21 партызан 95-й брыгады імя М.В.Фрунзэ і 225-й імя А.В.Суворава, якія загінулі ў баях з акупантамі. Пасля вайны вёска адноўлена.



З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Першамайскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 119 жыхароў. У 1970 г. 132 жыхары. У 1986 г. 79 гаспадарак, 268 жыхароў, лясгас «Жылін Брод», лясніцтва, дзіцячы сад, пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, магазін, сталовая. З 1.11.1996 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». У 2013 г. – цэх перапрацоўкі драўніны Слуцкага лясгаса, лясніцтва, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка лінейная, вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, перакрыжоўвае шаша Нясвіж–Асіповічы. Забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Новая вуліца, што ідзе ўздоўж шашы, забудавана індывідуальнымі муравамымі дамамі катэджнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЬ** – вёска ў Бокшыцкім с/с, за 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Слуцк. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі сюды перасялілася частка жыхароў в. Кухты. У 1926 г. пасёлак у Бокшыцкім с/с Слуцкіх р-на і акругі, 17 двароў, 101 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўвайшлі ў склад саўгаса, на базе якога ў 1938 г. створана Забалацкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 109 жыхароў. У 1970 г. 95 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. За 1 км на Пд ад вёскі знаходзіцца Забалацкае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 4,5 млн. м$^3$).

**ЗАБЕЛЫ** – вёска ў Гацукоўскім с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жалезніца (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2012).

Вядома з 1838 г. як сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ, Успенская царква. У 1860 г. 16 двароў, 93 жыхары. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. сяло ў Грэскай вол., 35 двароў, 82 жыхары, сядзіба царк. прычта (5 двароў, 29 жыхароў). У 1917 г. ў сяле 23 двары, 123 жыхары, у маёнтку 1 двор, 4 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Шышчыцкім с/с. У 1926 г. 24 двары, 131 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Грэскім р-не. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 99 жыхароў. У 1970 г. 70 жыхароў. З 1989 г. на тэр. РСУП «Саўгас «Слуцк». З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАГОР'Е** – вёска ў Бокшыцкім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2012).

Вядома з 1909 г. як хутар, 4 двары, 28 жыхароў, у Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ. У 1917 г. 5 двароў, 27 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 50 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930–31 гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 28 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 99 жыхароў. У 1970 г. вёска, 78 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 42 жыхары. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ЗАГРАДДЗЕ** – вёска ў Казловіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Слуцка, 17 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк–Асіповічы, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Таліца), на Пн побач з вёскай праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 47 гаспадарак, 116 жыхароў (2012).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, за 1 км на З – курганны могільнік. Вядома з 1885 г. як маёнтак у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У лютым 1908 г. тут адбыліся сял. хваляванні: калі прадстаўнікі мясц. ўлады пачалі апісваць маёмасць за няўплату падаткаў, вяскоўцы закідалі іх камянямі і каламі. Паліцыя адкрыла стральбу, у выніку 3 селяніны былі забіты, 3 – паранены, 14 – арыштавана. У памяць аб гэтых падзеях у вёсцы ўстаноўлена стэла (1976). У 1909 г. вёска, 51 двор, 245 жыхароў. У 1917 г. 59 двароў, 345 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У 1919 г. працавала 4-гадовая школа. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ва Урэцкім с/с. У 1926 г. 81 двор, 420 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 сям'і, меў 267 дзес. ворыва, 160 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі пры яе вызваленні. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 26.5.1969 г. ў Паўстынскім с/с. У 1970 г. 297 жыхароў. У 1986 г. 94 гаспадаркі, 193 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. З 2003 г. на тэр. ААТ «Паўстынь». З 2013 г. ў Казловіцкім с/с. У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма, лазня, магазін. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна, перпендыкулярна да чыгункі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар – на паўд.-ўсх. ўскраіне.



**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 33 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўніны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2012).

Вядома з 1858 г. як вёска ў складзе маёнтка Буда Грэская ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 55 жыхароў, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1909 г. 14 двароў, 135 жыхароў. У 1917 г. 27 двароў, 130 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1926 г. вёска, 28 двароў, 163 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічалі падпольшчыкі-антыфашысты. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. У 1970 г. 132 жыхары. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 57 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 22.2.1991 г. ў складзе калгаса «Беларусь», з 1.7.2003 г. на тэр. СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града». Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛЯДДЗЕ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 24 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Морач (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як сяльцо ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 5 жыхароў. У 1870 г. тут быў маёнтак памешчыцы Даманскай, дзе ў 1900 г. пачаў працаваць вінакурны з-д (7 рабочых). У 1917 г. ў маёнтку 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 74 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. жыхары пасёлкаў Заляддзе і Дубкі стварылі машыннае кааператыўнае т-ва «Чырвоны араты» з цэнтрам у Заляддзі. У 1929—30 гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 54 жыхары. У 1970 г. вёска,

*Руіны сядзібы Даманскіх у в. Заляддзе.*







105 жыхароў. У 1986 г. 20 гаспадарак, 44 жыхары. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Раманава». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана пераважна з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАМОСЦЕ** – вёска ў Покрашаўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і штучным вадаёмам на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 225 гаспадарак, 556 жыхароў (2012).

За 3 км ад вёскі, на правым беразе р. Жалязніца знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку. Вядома з 1567 г. як сяло ў Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1773 г. сяло і фальварак, уласнасць слуцкай іезуіцкай калегіі, затым перайшла да казны. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 27 двароў, 203 жыхары, 2 касцёлы, гаспадарскі дом, вінакурня, карчма. У 1858 г. часткай сяла валодаў памешчык, другой — каталіцкая царква. 21.9.1895 г. вяскоўцамі быў забіты ўпраўляючы маёнтка. У 1897 г. ў сяле 67 двароў, 499 жыхароў, магазін, царква, у маёнтку 20 жыхароў, у карчме 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. 11 двароў, 658 жыхароў, земская школа. У 1917 г. 131 двор, 853 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыліся хата-чытальня, пач. школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Шышчыцкім с/с. У 1926 г. вёска, 160 двароў, 836 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 26.2.1932 г. ў Покрашэўскім с/с. З 20.11.1934 г. да 1937 г. цэнтр нац. польскага сельсавета. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 85 сямей, меў 406 дзес. ворыва, 106 дзес. сенажаці, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 6 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 942 жыхары. У 1970 г. 918 жыхароў. У 1973 г. каля будынка школы ўстаноўлены помнік 197 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік», 274 гаспадаркі, 785 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дрэваапрацоўчыя майстэрні, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, АТС, 3 магазіны. У 2013 г. — цэнтр с.-г. філіяла «Агра-Замосце» (былы калгас «Чырвоны Кастрычнік»), жывёлагадоўчы комплекс, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, школа мастацтваў, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, 2 магазіны. Помнік архітэктуры — касцёл Святой Барбары (1-я пал. 17 ст.). Насе-

*Помнік землякам у в. Замосце.*





лены пункт мае развітую нерэгулярную планіровачную структуру. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ — адрэзак дарогі, якая ідзе да шашы, утварае ў межах вёскі паварот пад прамым вуглом, дзе склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Тут пастаўлены мураваныя грамадскія будынкі. Гал. вуліцу перакрыжоўваюць другарадныя з пераважна традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Сярод забудовы ўзведзена некалькі сучасных мураваных жылых дамоў катэджнага тыпу. Гасп. сектар — на Пд. Радзіма бел. і польскага пісьменніка, публіцыста Адама Плуга (1823—1903).

**ЗАМОШША** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чырвоная Слабада—Пагост 1. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Д.Радзівіла. У 1800 г. 15 двароў, 96 жыхароў. У 1858 г. 154 жыхары, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Чапліцкай вол., 29 двароў, 185 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 34 двары, 196 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыты хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Чапліцкім (у 1954 г. перайменаваны ў Танежыцкі) с/с. У 1926 г. 41 двор, 188 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Баец», які абслугоўвала Танежыцкая МТС. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 22 вяскоўцы. З 10.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 237 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 194 жыхары. У 1986 г. 48 гаспадарак, 82 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 14.12.2001 г. на тэр. «Эксперыментальнай базы «Танежыцы». Планіроўка У-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска (з 2007 г. аграгарадок), цэнтр Бокшыцкага с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 96 км на Пд ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, праз вёску цячэ р. Лешчанка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 130 гаспадарак, 323 жыхары (2012).

Вядома з 1921 г. як хутар у Забалацкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 3 двары, 17 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 3 двары, 14 жыхароў. У 1926—27 гг. частка жыхароў в. Бокшыцы пасялілася тут. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. ў Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930—31 гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 10.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. в. Старое Заполле (90 жыхароў) і пас. Новае Заполле (180 жыхароў). У 1969 г. далучана в. Дзесяціны. У 1970 г. вёска, 394 жыхары. З 23.4.1984 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Дзяржынскага, 110 гаспадарак, 290 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС. У 2003 г. калгас імя Дзяржынскага рэарганізаваны ў СВК «Наша Ніва». З





мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін, кафэ. Гіст. планіровачная структура складаецца з 3 паралельных вуліц, арыентаваных шыротна, перпендыкулярна да шашы. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Каля шашы знаходзіцца адм.-грамадскі цэнтр. Тут вакол плошчы і сквера ўзведзены 2-павярховыя мураваныя грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на У.

**ЗНАМЯ** (да 1964 г. Старцэвічы) — вёска, цэнтр Знаменскага с/с, за 18 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Вужанка (прыток р. Лакнея). Праз вёску цячэ ручай, на якім утворана сажалка. На Пд побач з вёскай праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 201 гаспадарка, 496 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як в. Старцэвічы ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 65 двароў, 598 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У 1844 г. вёска, заезны дом, маёнтак Баславіцы, уласнасць кн. Л.Вітгенштэйна. У 1890 г. дзейнічалі 2 школы граматы. У 1897 г. 129 двароў, 782 жыхары, капліца, магазін, піцейны дом. У 1911 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 149 двароў, 870 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1920 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім с/с. У 1926 г. 151 двор, 748 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Прамень камуны», працавалі 2 ветраныя млыны. З 1939 г. цэнтр Сераднякоўскага с/с (1.10.1973 г. перайменаваны ў Знаменскі). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 830 жыхароў. У 1968 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік 153 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса «Прамень камуны», 238 гаспадарак, 590 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дзіцячы сад, сярэдняя школа (16 настаўнікаў), клуб, б-ка, бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, магазін. 16.7.2003 г. калгас «Прамень камуны» рэарганізаваны ў СВК «Знаменскі», 20.7.2008 г. — с.-г. філіял ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат» (цэнтр — в. Знамя). У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін. Аснову гіст. планіроўкі складае вуліца, арыентаваная мерыдыянальна, перпендыкулярна да чыгункі і забудаваная з двух бакоў традыц. пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Паралельна да яе ідзе дарога, уздоўж якой створаны адм.-грамадскі цэнтр. Дзве новыя вуліцы на ПнУ забудаваны сучаснымі 1-павярховымі дамамі тыпу катэджаў і 2-павярховымі на некалькі кватэр. Гасп. сектар — на З, У і Пд. Радзіма бел. вучонага ў галіне жывёлагадоўлі, доктара эканам. навук, праф., засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі К.Ф.Барысаўца (н. ў 1921), бел. пісьменніка П.А.Місько (1931—2011).

**ІВАНАЎСКІЯ АГАРОДНІКІ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 4 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувя-



зі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць праз вёску. 130 гаспадарак, 206 жыхароў (2012).

Вядома з 1783 г. як вёска ў складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 20 двароў, уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 21 двор, 110 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. в. Агароднікі 1 у Цараўскай вол., 32 двары, 217 жыхароў. У 1900 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. в. Агароднікі 1 (Іванькоўскія), 70 двароў, 339 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 82 двары, 441 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Хваля рэвалюцыі», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 50 сямей, меў 350 дзес. ворыва, 54 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 7 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1959 г. 417 жыхароў. У 1970 г. 402 жыхары. У 1986 г. 115 гаспадарак, 311 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, 3 магазіны. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якія з Пд падыходзяць перпендыкулярна да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У. Радзіма Героя Сав. Саюза Ф.П.Бруя (1907—82).

**ІВАНЬ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 40 гаспадарак, 61 жыхар (2012).

За 0,9 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку. Вядома з 1499 г. ў Слуцкім княстве як двор Івань, які вял. кн. ВКЛ Аляксандр прысудзіў ва ўладанне С.М.Алелькавічу. З 1507 г. ў Навагрудскіх павеце і ваяв. У 1566 г. сяло, цэнтр маёнтка. У 1600 г. цэнтр воласці, карчма, млын, сажалка, побач былі фальварак і гаспадарскі дом. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. У 1793 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло і фальварак, карчма, млын, уласнасць Д.Радзівіла. У 1850 г. пабудаваны цукровы з-д, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1894 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (у 1913 г. 11 рабочых). У 1897 г. сяло (159 жыхароў), маёнтак (10 жыхароў). У 1905 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1920 г. створаны саўгас «Івань», пачала дзейнічаць хата-чытальня. У 1921 г. адкрыта пач. школа. Саўгас меў у 1921 г. 255 дзес. ворыва, 79 дзес. сенажаці, з 1925 г. працавала кузня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. вёска ў Івана-Агародніцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1935 г. саўгас імя Кірава (984 га зямлі, 203 работнікі). У





Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1959 г. пасёлак, 181 жыхар. У 1970 г. вёска, 184 жыхары. У 1986 г. 39 гаспадарак, 127 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ІЗБУДЗІШЧА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 39 гаспадарак, 91 жыхар (2012).

Вядома з 1885 г. як фальварак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак, 15 двароў, 111 жыхароў. У 1917 г. ў засценку 28 двароў, 179 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 11 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. 40 двароў, 197 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. жыхары вёсак Вясея, Дубраўка і Ізбудзішча стварылі калгас «КІМ», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 сямей, меў 175 дзес. ворыва, 69 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 5 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 вёска, 250 жыхароў. У 1970 г. 228 жыхароў. У 1986 г. 65 гаспадарак, 171 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Аснову планіроўкі складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на ПнУ.

**ІСЕРНА** — вёска, цэнтр Ісернскага с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Пагост 1, якая праходзіць каля вёскі. 158 гаспадарак, 415 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Пагост Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 20 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 34 двары, 189 жыхароў, карчма, уладанне кн. Радзівіла. У 1858 г. 128 жыхароў мужчынскага полу, уладанне кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Пагосцкай вол., 67 двароў, 618 жыхароў, вятрак, магазін, фальварак (37 жыхароў). У 1911 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 112 двароў, 721 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 138 двароў, 767 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. тут створана меліярацыйнае т-ва, у 1929 г. — малочнае т-ва «Зорка», у 1930 г. — калгас «Пралетарый». У



Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З мая 1942 г. да вер. 1943 г. ў вёсцы дзейнічала антыфаш. падп. група (кіраўнік М.Д.Бялько). Патрыёты збіралі зброю, наладзілі сувязь з партызанамі, вялі разведку, здзяйснялі дыверсіі. У вер. 1943 г. група перайшла да партызан, на яе базе быў створаны атрад імя 14-ці Слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В.П.Чкалава. У памяць аб падпольшчыках у 1975 г. ў вёсцы была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На вясковых могілках пахаваны 8 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 597 жыхароў. У 1970 г. 556 жыхароў. У 1975 г. за 1,5 км на У ад вёскі, каля скрыжавання дарог Слуцк—Пагост—Ісерна ўстаноўлены помнік 137 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Мічурына, 171 гаспадарка, 463 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, бальніца, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, грамадская лазня, 2 магазіны. З 31.7.2003 г. цэнтр ААТ «Ісерна». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін. Гіст. планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Вуліца, якая размешчана на З, забудавана мураванымі 1-павярховымі катэджамі і 2-павярховымі шматкватэрнымі дамамі. Гасп. сектар — на У.

**КАВЕРЖЫЦЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 24 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2012).

Вядома ў ВКЛ з 1783 г. як засценак, уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1886 г. засценак у Чапліцкай вол. У 1897 г. ў засценку 17 двароў, 93 жыхары, у маёнтку 53 жыхары. У 1917 г. ў засценку 15 двароў, 102 жыхары, у маёнтку 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім (у 1959 г. перайменаваны ў Рачкавіцкі) с/с. У 1926 г. 27 двароў, 109 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім раёне. У 1959 г. 23 жыхары. У 1986 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ пад вуглом да шашы. Забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЖУШКІ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 28 км на З ад Слуцка, 20 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Слуцк—Баранавічы, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Морач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2012).





Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 19 двароў, 108 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў Раманаўскай вол., 41 двор, 235 жыхароў. У 1917 г. 41 двор, 202 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 47 двароў, 186 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929—30 гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 54 жыхары. У 1970 г. 144 жыхары. У 1986 г. 37 гаспадарак, 108 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Раманава». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных дарогай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска (з 2007 г. аграгарадок), цэнтр Казловіцкага с/с, за 7 км на ПдУ ад Слуцка і 4 км ад чыг. ст. Некрашы на лініі Слуцк—Асіповічы, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Праз вёску цячэ р. Слівянка, на якой утвораны 2 штучныя вадаёмы. Праз вёску праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 464 гаспадаркі, 921 жыхар (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Новы Двор Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 18 валок, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 27 двароў, 150 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 1858 г. 106 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. 18.2.1884 г. сяльчане правялі высечку памешчыцкага лесу. У гэтым жа годзе пачала дзейнічаць школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 18 хлопчыкаў. У 1897 г. 77 двароў, 511 жыхароў, капліца, кузня, магазін. У 1910 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 107 двароў, 616 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1920 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 110 двароў, 616 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная Ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 сям'і, меў 185 дзес. ворыва, 122 дзес. сенажаці, працаваў вятрак. 1.12.1934 г. агульны сход сялян прыняў рашэнне аб наданні калгасу імя С.М.Кірава. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. ў вёсцы дзейнічала падп. антыфаш. група. У час вайны на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 70 вяскоўцаў. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 44 сав. воіны, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 1074 жыхары. У 1966 г. каля аддз. сувязі ўстаноўлены помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 1193 жыхары. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Кірава, 387 гаспадарак, 1019 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, кандытарскі цэх, лесазавод, дзіцячы сад, сярэдняя школа (18 настаўнікаў), муз. школа, Дом куль-



туры, Дом адпачынку, б-ка, кінатэатр, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, 2 магазіны, сталовая. У калгасе працавалі Героі Сацыяліст. Працы: старшыня калгаса С.Д.Лямешка і механізатар І.Л.Сінягуб. 14.8.2003 г. калгас імя Кірава быў рэарганізаваны ў ААТ «Казловічы» (цэнтр — в. Казловічы). У 2013 г. — жывёлагадоўчыя комплекс і 3 фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, школа мастацтваў, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», культурна-аздараўленчы комплекс «Алімп», 2 магазіны, грамадская лазня. Пры Доме культуры з 1934 г. дзейнічае Казловіцкі нар. хор (першы кіраўнік — настаўнік А.М.Васілеўскі), у 1939 г. ён удзельнічаў у 1-й дэкадзе бел. мастацтва і л-ры ў Маскве, у 1969 г. выступаў на ВДНГ СССР, дзе быў узнагароджаны бронзавым медалём. Таксама працуе фальклорны ансамбль «Ячаўскія вячоркі» (з 1979 г.). Аснову планіровачнай структуры складае прамавугольная сетка вуліц. Чыгунка падзяляе вёску на 2 часткі. Большасць вуліц забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Цэнтр. вуліца забудавана сучаснымі мураванымі катэджамі з кватэрамі ў 2 узроўнях і шматкватэрнымі 2-павярховымі дамамі. Ва ўсх. частцы вакол вял. плошчы склаўся адм.-грамадскі цэнтр, да якога з У далучаецца паркавая зона адпачынку са стадыёнам. Гасп. сектар — па-за межамі вёскі. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы механізатара І.Л.Сінягуба (н. ў 1932).

**КАЛІНАЎКА** — пасёлак у Ісернскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе далей па шашы Слуцк—Пагост 1. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не Слуцкай акругі. З 20.8. 1924 г. ў Ісернскім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 65 жыхароў. У 1970 г. 64 жыхары. У 1986 г. 13 гаспадарак, 25 жыхароў. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». Планіроўка лінейная. Кароткая шыротная вуліца забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛІТА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 34 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вял. Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2012).

У 1897 г. вёска ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 22 двары, 126 жыхароў. У 1917 г. 33 двары, 195 жыхароў. У 1917 г. 107 двароў, 616 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. 37 двароў, 204 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 41 двор, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 36 двароў, загубілі 2 жыхароў. У ноч з 22 на 23.5.1943 г. партызаны атрада імя Фрунзэ ўзарвалі мост на шашы каля

вёскі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 158 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. лесазавода Кучына. У 1970 г. 194 жыхары. У 1986 г. 45 гаспадарак, 89 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, аддз. сувязі. З 2005 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — магазін і аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 шыротных паралельных вуліц. Адна з іх забудавана з 2 бакоў, другая толькі з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 47 гаспадарак, 73 жыхары (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., карчма. У 1858 г. ўладанне кн. Л.Радзівіла. У 1870 г. ў Грэскай вол., 66 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 21 двор, 214 жыхароў, царква. У 1897 г. 52 двары, 317 жыхароў. У 1909 г. 65 двароў, 425 жыхароў. У 1917 г. 76 жыхароў, 495 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У час сав.-польскай вайны вёска моцна пацярпела, было спалена 68 двароў. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. 83 двары, 393 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 сямей, меў 193 дзес. ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 210 жыхароў. У 1986 г. 106 гаспадарак, 214 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), клуб, комплексны прыёмны пункт, магазін. З 10.4.2003 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з вуліц розных накірункаў, размешчаных на адлегласці адна ад адной. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая.


*Царква (19 ст.) у в. Кальчыцы.*

**КАМОРА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З



20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Вясейскім с/с, 51 жыхар. У 1970 г. 46 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». Планіроўка лінейная. Кароткая шыротная вуліца забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЧАЛАВА** – пасёлак у Сяражскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. засценак, 8 двароў, 50 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1926 г. засценак, 10 двароў, 63 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 26 жыхароў. У 1970 г. 19 жыхароў. У 1986 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца, арыентаваная амаль шыротна, забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КВАСЫНІЧЫ** – вёска ў Беліцкім с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк–Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 268 гаспадарак, 741 жыхар (2012).

Вядома з 1686 г. як шляхецкі фальварак у Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1783 г. вёска (26 двароў) і засценак (4 двары) у складзе маёнтка Івань, уласнасць Д.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 36 двароў, 220 жыхароў. У 1850 г. вёска і аднайменны маёнтак. У 1882 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 12 хлопчыкаў. У крас. 1899 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам і не дазволілі паліцыі выселіць 15 жыхароў з зямлі памешчыка Рэгеля. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 63 двары, 264 жыхары, магазін. У 1917 г. ў вёсцы 366 жыхароў, у засценку 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. 77 двароў, 369 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Беліцкім с/с, 335 жыхароў. З 1970 г. ў складзе саўгаса «Белічы», 308 жыхароў. У 1986 г. жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, пач. школа, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, 3 магазіны, АТС, сталовая. З 3.4.2004 г. цэнтр ААТ «Белічы», якое ўтварылася ў выніку аб'яднання і рэарганізацыі саўгаса «Белічы» і калгаса «Праўда». У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма, дзіцячы сад, сярэдняя школа, філіял Се-





лішчанскай муз. школы, Цэнтр рамёстваў, Дом культуры, б-ка, сталовая, 3 магазіны. Планіровачная структура рэгулярная, прамавугольная. Асн. вуліцы ідуць паралельна і перпендыкулярна да шашы. Забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Каля шашы створаны адм.-грамадскі цэнтр, дзе размешчаны 2-павярховы мураваны будынак канторы саўгаса і 2—3-павярховыя мураваныя шматкватэрныя дамы. Забудова новых вуліц вядзецца мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Гасп. сектар — на Пд.

**КІРАВА** (да 1935 г. — Цараўцы) — вёска, цэнтр Кіраўскага с/с, за 7 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць), на З праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Мікашэвічы. 271 гаспадарка, 381 жыхар (2012).

Вядома з 1565 г. як сяло ў складзе маёнтка Новы Двор Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 28 валок, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 59 двароў, 340 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 1858 г. 207 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Булгака. У 1876 г. пабудавана драўляная царква Іаана Багаслова. У 1869 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. ў вёсцы 2 царквы, 2 капліцы, бальніца. У 1897 г. 117 двароў, 726 жыхароў, цэнтр воласці, царква, капліца, нар. вучылішча, піцейны дом, кузня, магазін. У 1917 г. 152 двары, 823 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта хата-чытальня, у 1922 г. — 7-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр Цараўскага (15.2.1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. 165 двароў, 849 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створаны калгас «Селянін», у 1931 г. — калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 10 сав. воінаў 4-га гв. кавалерыйскага корпуса і партызаны 64-й брыгады імя В.П.Чкалава, якія загінулі ў 1943—44 гг. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1955 г. цэнтр Кіраўскага с/с перанесены ў в. Навадворцы. У 1959 г. 815 жыхароў. У 1970 г. 688 жыхароў. З 22.9.1980 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1986 г. цэнтр калгаса «1 Мая», 226 гаспадарак, 460 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, дзіцячы санаторый «Случ». 16.7.2003 г. калгас «1 Мая» быў рэарганізаваны ў ААТ «Слуцкая Ніва» (цэнтр — в. Кірава). У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. су-



*Царква Іаана Багаслова ў в. Кірава.*



вязі, магазін, лазня, дзіцячы санаторый «Случ»; царква Іаана Багаслова (2007). Планіровачная структура нерэгулярная. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ пад вострым вуглом да чыгункі, а затым паварочвае ўздоўж берага ракі. Пад living рознымі кірункамі да яе падыходзяць завулкі. Забудова старых вуліц традыц., сядзібнага тыпу, двухбаковая, пераважна драўляная. Новая вуліца на ПнЗ забудавана сучаснымі мураванымі дамамі катэджнага тыпу. У сярэдзіне вёскі — адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на Пд. Радзіма бел. этнографа, чл.-кар. НАН Беларусі, доктара гіст. навук, праф., засл. работніка культуры Беларусі В.К.Бандарчыка (1920—2009).

**КЛЕШАВА** — вёска ў Грэскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 56 гаспадарак, 137 жыхароў (2012).

За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1689 г. як вёска ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, уладанне Радзівілаў. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 60 двароў, 389 жыхароў. У 1887 г. вяскоўцы захапілі сенакос, які належаў княгіні М.Гогенлоэ, а ў кастр. 1888 г. аказалі супраціўленне ўладам пры спагнанні страт за захоп сенакосу. Найбольш актыўныя сяляне былі арыштаваны. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 96 двароў, 601 жыхар. У 1917 г. 105 двароў, 625 жыхароў, адкрыта 4-гадовая школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Мусіцкім (у 1974 г. перайменаваны ў Маяцкі) с/с. У 1926 г. вёска, 112 двароў, 543 жыхары. З 9.6.1927 г. да 20.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.7.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвонае Клешава», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 95 сямей, меў 571 дзес. ворыва, 206 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 383 жыхары. У 1970 г. 256 жыхароў. У 1986 г. 82 гаспадаркі, 191 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, магазін. З крас. 2008 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. У 2013 г. — 3 жывёлагадоўчыя фермы. Планіроўка лінейная. Плаўна выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.А.Жука (н. ў 1947) і ген.-лейт. П.П.Корзуна (1892—1943). За 3,5 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца Клешаўскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 1,55 млн. м³).

**КЛЯПЧАНЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 3 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць), у якую на ПнУ упадае р. Лакнея. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе, потым па шашы Слуцк—Пагост 1. 261 гаспадарка, 381 жыхар (2012).

Вядома з 1783 г. як вёска ў складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, уласнасць кн. К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. ў вёсцы былі карчма і млын. У 1800 г. 21 двор, 123 жыхары. У 1858 г.

вёска ва ўласнасці кн. П.Вітгенштэйна. У школе граматы, якая дзейнічала тут, у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў. У 1897 г. ў вёсцы 51 двор, 434 жыхары, капліца, кузня, піцейны дом, у фальварку 2 двары, 12 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 82 двары, 536 жыхароў, на хутары 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. 109 двароў, 531 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Камбайн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 112 сямей, меў 406 дзес. ворыва, 171 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працавалі 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 693 жыхары. У 1970 г. 702 жыхары. У 1986 г. 217 гаспадарак, 558 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Наша Ніва». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы і комплекс, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аздараўленчы лагер «Пралеска». Планіровачная структура рэгулярная з прамавугольнай сеткай вуліц. Жылая забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. На ўсх. ускраіне вёскі на беразе р. Случ — грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на ПдЗ. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы І.П.Козела (1890—1980).

**КРАСНАЕ** — вёска ў Сорагскім с/с, за 41 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на З цячэ р. Ніжняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. засценак, 6 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Стараўскім с/с. У 1926 г. 10 двароў, 37 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Гутніца». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 58 жыхароў. У 1970 г. 45 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАЕ СЯЛО** — вёска ў Вясейскім с/с, за 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць канал, злучаны з р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 67 гаспадарак, 115 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 86 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвонае Сяло», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 сямей,



меў 136 дзес. ворыва, 125 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 207 жыхароў. У 1966 г. далучаны вёскі Манева і Малыя Амговічы. У 1970 г. 428 жыхароў. У 1986 г. 98 гаспадарак, 207 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». З 30.10.2009 г. ў Вясейскім с/с. У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы і комплекс, млын. Гіст. планіроўка складаецца з 4 вуліц, якія маюць арыентацыю, блізкую да шыротнай, з двухбаковай і аднабаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Сорагскім с/с, за 30 км на У ад Слуцка, 11 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як урочышча Круглыя ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 83 жыхары, заезны дом, крама, малітоўны дом. У 1909 г. засценак Аступішча 2 (Круглае), 32 двары, 120 жыхароў. У 1917 г. засценак Аступішча-Круглае, 37 двароў, 225 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. 41 двор, 220 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створана с.-г. машынна-кааператыўнае т-ва, у 1930 г. — калгас імя Р.Люксембург. З 1934 г. калгас абслугоўвала Кучынская МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 108 жыхароў. У 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары, жывёлагадоўчая ферма. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Сорагі-Агра». Планіроўка лінейная. Шыротная вуліца забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРУГЛЯК** — былы пасёлак у Ленінскім с/с, за 30 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 4 км ад чыг. ст. Морач на лініі Слуцк—Баранавічы, за 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Морач (прыток р. Прыпяць), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст.

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча ў Раманаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 6 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. вёска, 12 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**КРЫВАДУБАЎКА** — былая вёска ў Сяражскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 106 км ад Мінска.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 3 двары, 14 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г.

ў Мінскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1966 г. да пасёлка далучана в. Прыбытак. У 1967 г. Крывадубаўка атрымала статус вёскі. У 1986 г. 58 гаспадарак, 170 жыхароў. З 1993 г. ў межах Слуцка.

**КРЫВАЯ ГРАДА** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 35 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, з якіх пачынаецца р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2012).

Вядома з 1858 г. як вёска ў складзе маёнтка Грэская Буда Ігуменскага павета Мінскай губ., 51 жыхар, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска ў Слабода-Пырашаўскай вол. У 1909 г. 14 двароў, 139 жыхароў. У 1917 г. 20 двароў, 110 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гацукоўскім с/с. У 1925 г. створаны калгас «Вольная Беларусь». У 1926 г. 25 двароў, 126 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 5.12.1931 г. ва Уздзенскім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З пач. 1930-х г. вёска была цэнтрам брыгады калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Белая Лужа). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала антыфаш. падполле. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў ва Уздзенскім, з 25.12.1962 г. зноў у Слуцкім р-нах. У 1959 г. вёска, 126 жыхароў. У 1970 г. 106 жыхароў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 72 жыхары. З 22.2.1991 г. ў складзе калгаса «Беларусь». З 1.7.2003 г. на тэр. СВК «Агра-Залессе», з 1.12.2004 г. — ААТ «Крывая Града». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены адвольна па баках кароткіх вуліц.

**КУБЛІШЧА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 26 км на У ад Слуцка, 16 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Вядома з 1909 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 40 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 88 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ва Урэцкім с/с. У 1926 г. засценак, 20 двароў, 100 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Перадавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 сямей, меў 55 дзес. ворыва. З 23.6.1940 г. ў Тэльманаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17.6.1943 г. гітлераўцы расстралялі тут 33 мірныя жыхары. На гэтым месцы ў 1975 г. ўстаноўлена стэла. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 29.5.1969 г. ў Паўстынскім с/с. У 1970 г. вёска, 52 жыхары. У 1986 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў. З 2003 г. на тэр. СВК «Паўстынь». З 2013 г. ў Казловіцкім с/с. Планіроўка бессістэмная. Традыц.



драўляныя сял. сядзібы пастаўлены адвольна па розныя бакі 2 кароткіх вуліц.

**КУЛІКІ** – вёска ў Першамайскім с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Слуцк. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2012).

Вядома з 1591 г. як сяло ў Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1654 г. 16 двароў, уласнасць Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 23 двароў, 127 жыхароў, драўляная царква. У 1909 г. побач з вёскай былі фальваркі Кулікі 1 і Кулікі 2. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. пасёлак Кулікі 1, 12 двароў, 68 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. пасёлак, 118 жыхароў. У 1961 г. да пас. Кулікі быў далучаны пас. Астравок, такім чынам утварылася вёска. У 1970 г. 169 жыхароў. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 50 жыхароў, клуб, магазін. З 10.4.2003 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіроўка лінейная. Вуліца мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай, і забудавана пераважна з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КУХТЫ** – вёска ў Бокшыцкім с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск–Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 69 гаспадарак, 127 жыхароў (2012).

Вядома з 1773 г. як сяло ў складзе фальварка Бокшыцы Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 23 двары, уладанне Слуцкай іезуіцкай калегіі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. в. Кухта, уладанне кн. Д.Радзівіла, драўляная царква. У 1800 г. 21 двор, 171 жыхар. У 1858 г. ўласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Грэскай вол., 71 двор, 464 жыхары, капліца, магазін. У 1903 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. вёска (88 двароў, 475 жыхароў) і хутар (1 двор, 8 жыхароў). У 1917 г. 98 двароў, 607 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. адкрыты пач. школа, хата-чытальня, культ.-асв. гурток. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1925–26 гг. частка жыхароў перасялілася ў пасёлкі Забалаць і Чырвоная Горка. У 1926 г. пасёлак, 22 двары, 100 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, працаваў вятрак. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны

загінулі 33 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 163 жыхары. У 1966 г. да в. Кухты далучана в. Новае Жыцце. У 1970 г. 504 жыхары. У 1986 г. 118 гаспадарак, 295 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца з плаўна выгнутай трасай арыентавана з ПнЗ на ПдУ пад вострым вуглом да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**КУЧЫНА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Слуцка, 15 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як урочышча ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар (4 двары, 16 жыхароў) і казённая сядзіба (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. лесапільны з-д, 7 двароў, 60 жыхароў. У 1917 г. заводскі пасёлак. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 14 двароў, 45 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1934 г. тут створана Кучынская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 27.6.1941 г. каля вёскі зводны атрад 14-га механізаванага корпуса 4-й арміі пад камандаваннем палкоўніка І.В.Тутарынава вёў бой з 2 танкавымі дывізіямі гітлераўцаў і стрымаў наступленне ворага. На паўд.-зах. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 69 сав. воінаў, якія загінулі ў гэтым баі. У час акупацыі гітлераўцы разбурылі МТС. Пасля вайны яна была адбудавана і дзейнічала да 1958 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Амговіцкім с/с, 53 жыхары. У 1970 г. 28 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў, магазін. З 30.10.2009 г. зноў у Сорагскім с/с. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная.

**ЛАПАЦІЧЫ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Морач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 51 гаспадарка, 95 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 17 двароў, 77 жыхароў, уласнасць А.Радзівіла. У 1860 г. вёска поўнасцю згарэла і адноўлена на новым месцы. У 1890 г. дзейнічалі 2 школы граматы. У 1897 г. ў Раманаўскай вол., 83 двары, 507 жыхароў, капліца. У 1911 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 525 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1922 г. пачала дзейнічаць камсамольская ячэйка. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. 95 двароў, 470 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створана т-ва па апрацоўцы зямлі, у 1930 г. — калгас «Пераможца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 63 сям'і, меў 456 дзес. ворыва, 200 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да



30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 391 жыхар. У 1970 г. 367 жыхароў. У 1986 г. 85 гаспадарак, 175 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Падлессе-2003». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца з крывалінейнай трасай мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на У. Радзіма Героя Сав. Саюза А.І.Уласаўца (1901—1945) і 1-га сакратара Слуцкага пав. к-та КП(б)Б, сакратара падп. к-та КП(б)Б у 1919—20 гг. І.І.Бачко (1899—1922).

**ЛЕНІНА** (да 1921 г. — Раманава) — вёска (з 2009 г. аграгарадок) у Знаменскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Слуцка, 14 км ад чыг. ст. Цімкавічы на лініі Слуцк—Баранавічы, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Морач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 177 гаспадарак, 455 жыхароў (2012).

На паўн. ускраіне вёскі на левым беразе р. Морач, знаходзіцца гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі. Вядома з сярэдзіны 16 ст. як вёска ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ. У 1612 г. мястэчка, уладанне Я.Радзівіла. У 1638 г. 247 двароў, царква, 2 шпіталі, карчма. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 142 двары, 630 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы (Мікалая Чудатворца і Георгіеўская), касцёл, 4 карчмы. 2.7.1812 г. каля вёскі адбыўся бой часцей 2-й рас. арміі пад камандаваннем П.І.Баграціёна з французскімі войскамі. У памяць аб гэтай падзеі ў цэнтры вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак. 8.11.1812 г. тут размяшчалася штаб-кватэра рас. войск. У 1822 г. пабудавана драўляная царква. У 1866—67 гг. на сродкі сялян пабудавана памяшканне для нар. вучылішча, якое ў 1876 г. было пераўтворана ў 2-класнае (у 1901 г. ў ім навучаліся 111 хлопчыкаў). У 1897 г. мястэчка, цэнтр валасці, 239 двароў, 1552 жыхары, 2 царквы, 2 капліцы, 2 маліто́ўныя дамы, 2-класнае вучылішча, царк.-прыходская жаночая школа, 9 крам, магазін, піцейны дом. У 1917 г. 1441 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыты клуб, хата-чытальня, школа, рэарганізаваная ў 1922 г. ў 7-гадовую, а ў 1938 г. — у 10-гадовую. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 257 двароў, 1136 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. былі створаны малочная арцель, крэдытнае т-ва і калгас імя Леніна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 166 сямей, меў 740 дзес. ворыва, 210 дзес. сенажаці. Абслугоў-




*Мемарыяльны знак на месцы бою 1812 г. ў в. Леніна.*

вала калгас Слуцкая МТС. Працаваў маслазавод. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 13 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 691 жыхар. У 1970 г. вёска, 650 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса імя К.Маркса, 227 гаспадарак, 542 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, піларама, кармацэх, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа (14 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны. 16.7.2003 г. калгас імя К.Маркса быў рэарганізаваны ў ААТ «Раманава» (цэнтр — в. Леніна). З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчыя комплекс і ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. Аснову гіст. планіровачнай структуры складаюць 2 вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Іх перакрыжоўваюць другарадныя вуліцы, утвараючы блізкую да прамавугольнай планіроўку. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Паралельна да асн. праходзіць новая вуліца, забудаваная муравашмі 1-павярховымі дамамі тыпу катэджаў. Адм.-грамадскі цэнтр — у паўн. частцы вёскі. Гасп. сектар — на Пд. Радзіма бел. харавога дырыжора, кампазітара і фалькларыста У.В.Тэраўскага (1871—1938).

**ЛЕНЬКІ** — вёска ў Вясейскім с/с, за 11 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 13 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у і акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Вясейскім с/с, 64 жыхары. У 1970 г. 49 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі падыходзіць з Пд перпендыкулярна да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная.

**ЛЕНЬКІ** — вёска (з 2012 г. аграгарадок) у Покрашаўскім с/с, за 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Праз вёску працякае ручай, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць праз вёску. 180 гаспадарак, 380 жыхароў (2012).

Вядома з 1848 г. як вёска ў складзе казённага маёнтка Слуцкага павета Мінскай губ., карчма. У 1858 г. 146 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Грэскай вол., 100 двароў, 594 жыхары. У канцы 19 — пач. 20 ст. каля 60 вяскоўцаў выехалі ў Паўн. Амерыку. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 133 двары, 775 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыты хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. 130 двароў, 664 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г.



арганізаваны калгас, які ў 1941 г. аб'ядноўваў 110 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10.6.1943 г. каля вёскі на шашы група партызан знішчыла гітлераўскі дзот, яго варту, захапіла зброю і боепрыпасы. У памяць аб гэтай падзеі ў 1974 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак. На вясковых могілках у 3 брацкіх магілах пахаваны 11 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска ў Покрашэўскім с/с, 711 жыхароў. У 1970 г. 736 жыхароў. У 1984 г. ў цэнтры вёскі, каля школы, устаноўлены помнік 142 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса «Рассвет», 224 гаспадаркі, 618 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, АТС. 16.7.2003 г. калгас «Рассвет» быў рэарганізаваны ў ААТ «Рассвет-Ленькі» (цэнтр — в. Ленькі). У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін; касцёл Святой Ганны (1996). Ручай падзяляе вёску на паўн. і паўд. часткі. Некалькі старых вуліц з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу арыентаваны паралельна да ручая і з ПдЗ пад вострым вуглом падыходзяць да шашы. Па другі бок шашы склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Узведзены 1—2-павярховыя мураваныя дамы катэджнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ.

**ЛЕСУНЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 9 км на У ад Слуцка, 6 км ад чыг. ст. Некрашы на лініі Слуцк—Асіповічы, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць); на У меліярацыйныя каналы злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 74 гаспадаркі, 112 жыхароў (2012).



*Касцёл Святой Ганны ў в. Ленькі.*

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 13 двароў, 85 жыхароў, уласнасць Слуцкага Ягораўскага праваслаўнага прыхода. У 1854 г. 20 двароў, 116 рэвізскіх душ, казённая ўласнасць. У 1890 г. адкрыта школа граматы, дзе вучыліся 10 хлопчыкаў. У 1897 г. 45 двароў, 316 жыхароў, капліца, магазін. У 1901 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 21.8.1925 г. ў Казловіцкім с/с. У 1926 г. вёска (53 двары, 308 жыхароў) і хутары (24 двары, 160 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў





Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 сямей, меў 184 дзес. ворыва, 141 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны на франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 41 вясковец. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 8 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.8.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 343 жыхары. У 1970 г. 307 жыхароў. У 1986 г. 96 гаспадарак, 205 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Гал. вуліца з крывалінейнай трасай арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Ад яе адыходзяць 2 другарадныя вуліцы, якія сыходзяцца ў адну. У трохвугольніку паміж імі ўтвораны парк. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЛЕТКАЎШЧЫНА** — вёска ў Грэскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 134 гаспадаркі, 335 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як двор Латкаўшчызна ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 4 жыхары. У 1800 г. фальварак і вёска Чашуйкі (Леткаўшчызна), 14 двароў, 81 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1909 г. 3 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Мусіцкім (у 1974 г. перайменаваны ў Маяцкі) с/с. У 1926 г. вёска (55 двароў, 338 жыхароў), пасёлак (6 двароў, 33 жыхары) і хутар (1 двор, 3 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Леткаўшчына», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 сямей, меў 96 дзес. ворыва, 16 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 250 жыхароў. У 1966 г. да Леткаўшчыны далучана в. Камароўка. У 1970 г. 275 жыхароў. У 1986 г. 99 гаспадарак, 277 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 2008 г. аграгарадок. З крас. 2008 г. цэнтр філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, магазін, лазня. Гіст. планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Перпендыкулярная да яе вуліца мае аднабаковую забудову. У паўн. частцы ўзведзена шмат мураваных катэджаў з кватэрамі ў 2 узроўнях. Гасп. сектар — на Пд.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Вясейскім с/с, за 16 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярозаўка (прыток р. Галіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1917 г. засценак (11 двароў) у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам



Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 69 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. вёска, 37 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. пісьменніцы А.С.Васілевіч (н. 22.12.1922 г.).

**ЛОШЫЦА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 22 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як засценак у Слуцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 12 двароў, 95 жыхароў. У 1909 г. 14 двароў, 38 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 88 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. 21 двор, 102 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 106 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. 76 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 33 жыхары. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛУЧНІКІ** — вёска (з 2006 г. аграгарадок) у Сяражскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па Слуцкай акружной шашы. 626 гаспадарак, 1617 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 20 валок, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. ў Іваньскай вол., 35 валок. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. У 1792 г. 75 двароў, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 79 двароў, 276 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1860, 1887 і 1890 гг. адкрыты 3 школы граматы. У крас. 1866 г. сяляне Лучнікоўскага сельскага т-ва адмовіліся ад уплаты падаткаў і выканання павіннасцей на карысць казны. З 1868 г. пачалося навучанне ў нар. вучылішчы, якое ў 1912 г. стала 2-класным. У 1886 г. адкрыта



*Вуліца аграгарадка Лучнікі.*

бальніца. У 1897 г. 144 двары, 850 жыхароў, капліца, магазін, 2 піцейныя дамы. У 1917 г. 241 двор, 1426 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. Восенню 1919 г. ў час польскай акупацыі ў вёсцы была створана валасная камуністычная падп. ячэйка. У 1921 г. адкрыты хата-чытальня, самадзейны тэатр, у 1922 г. — 7-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 1.1.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 271 двор, 1280 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. у вёсцы былі створаны калгасы «Шлях Саветаў» і імя Молатава, якія абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Сяражскім с/с. У 1959 г. 1476 жыхароў. У 1970 г. 1663 жыхары. У гэтым жа годзе на паўн. ускраіне вёскі ўстаноўлены помнік 200 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», 571 гаспадарка, 1923 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, са-



*Фрагмент экспазіцыі музея СВК «Аграфірма «Лучнікі».*

кавы з-д, дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, Дом культуры, гандлёвы цэнтр, рэстаран, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, грамадская лазня. 31.7.2003 г. калгас «Ленінскі шлях» быў рэарганізаваны ў СВК «Аграфірма «Лучнікі». У 2013 г. — дзіцячы сад, сярэдняя і муз. школы, Цэнтр культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», 3 магазіны, гандл. цэнтр, грамадская лазня; Мікалаеўская царква (2004). Пры Лучнікоўскім Цэнтры культуры дзейнічаюць: нар. аркестр нар. інструментаў (з 1989 г.), нар. ансамбль песні і танца «Слуцкія паясы» (з 1990 г.), узорны драматычны тэатр «Мельпамена» (з 1994 г.), нар. маладзёжны тэатр эстрады (з 1995 г.). Аснову планіровачнай структуры складаюць 4 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ пад вострым вуглом да шашы. Іх перакрыжоўваюць другарадныя вуліцы, утвараючы сетку рамбічных кварталаў. У паўд. частцы вулічная сетка прамавугольная. Забудова старых вуліц традыц., драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. У паўд.-зах. частцы створаны адм.-грамадскі цэнтр, новыя вуліцы забудаваны мураванымі 2-павярховымі шматкватэрнымі дамамі і 1-павярховымі дамамі катэджнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.



*Мікалаеўская царква ў в. Лучнікі.*

**ЛЯДНА** — вёска (з 2009 г. аграгарадок) у Рачкавіцкім с/с, за 25 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 123 км ад Мін-



ска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк–Брэст, якая праходзіць праз вёску. 281 гаспадарка, 722 жыхары (2012).

Вядома з 16 ст. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 70 двароў, 237 жыхароў, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1875 г. адкрыта перасоўная школа граматы для хлопчыкаў. У 1897 г. ў Чапліцкай вол., 100 двароў, 694 жыхары, магазін, капліца, піцейны дом. У 1910 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 131 двор, 765 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта хата-чытальня, 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. У 1926 г. вёска, 153 двары, 700 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, які абслугоўвала Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле на ўсх. ускраіне вёскі пахаваны 44 сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні Лядна і навакольных вёсак. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 652 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 698 жыхароў. У 1986 г. 236 гаспадарак, 610 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піларама, ветэрынарны ўчастак, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа (20 настаўнікаў), клуб, б-ка, аптэка, бальніца, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, АТС. 14.12.2000 г. саўгас «Рачкавічы» рэарганізаваны ў СРУП «Саўгас «Рачкавічы» Бел. чыгункі з цэнтрам у в. Лядна. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддзяленні сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», 2 магазіны. Гіст. планіровачная структура складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія перпендыкулярна перасякае шаша. Забудова традыц., сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Паралельна да старых склалася новая вуліца з 1-павярховымі мураванымі дамамі катэджнага тыпу. Тут жа склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на ПнУ.

**ЛЯСІШЧА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 6 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Пагост 1, якая праходзіць каля вёскі. 44 гаспадаркі, 65 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як пасяленне Сухамішча ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 18 жыхароў. У 1885 г. фальварак у Цараўскай вол. У 1897 г. 8 двароў, 61 жыхар. У 1917 г. 25 двароў, 135 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. 30 двароў, 132 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 213 жыхароў. У 1970 г. 186 жыха-

роў. У 1986 г. 51 гаспадарка, 98 жыхароў, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯХАВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 51 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. хутар (8 двароў, 30 жыхароў) і засценак (10 двароў, 51 жыхар). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Ляхава». Яго асблугоўвала Кучынская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 70 жыхароў. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1986 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с.

**МАГЛЫШЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 52 гаспадаркі, 53 жыхары (2012).

Вядома з 1897 г. як фальварак Маглыцаўшчына ў Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 13 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 136 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. вёска, 25 двароў, 136 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. у вёсцы арганізаваны калгас «Дабрабыт», які аб'ядноўваў у 1932 г. 18 сямей, меў 129 дзес. ворыва, 21 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1959 г. 153 жыхары. У 1970 г. 147 жыхароў. У 1986 г. 51 гаспадарка, 109 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. гігіеніста, доктара медыцынскіх навук, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі П.В.Астапені (1901—81).

**МАЛАЯ ПАДЗЕР** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 4 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па Слуцкай акружной шашы, якая праходзіць каля вёскі. 67 гаспадарак, 163 жыхары (2012).

Вядома з 1926 г. як хутары ў Прошчыцкім с/с Слуцкіх р-на і акругі. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруй-



скай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. вёска, 339 жыхароў. У 1970 г. ў Бокшыцкім с/с, 359 жыхароў. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — фельч.-акушэрскі пункт, магазін, кафэ.

**МАЛАЯ ПАДЗЕР** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 101 км ад Мінска. Размешчана ў сутоках рэк Случ і Вясейка, рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 66 гаспадарак, 88 жыхароў (2012).

Вядома з пач. 20 ст., калі в. Падзер падзялілася на Вялікую і Малую Падзер. У 1917 г. засценак у Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ., 29 двароў, 189 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. вёска, 25 двароў, 136 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1970 г. 139 жыхароў. У 1986 г. 35 гаспадарак, 95 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы, арыентаванай пад вуглом да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ СЛІВА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Слуцка, 1 км ад чыг. ст. Некрашы на лініі Слуцк—Асіповічы, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). На Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 35 гаспадарак, 57 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., карчма. У 1800 г. 16 двароў, 76 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў вёсцы 17 двароў, 144 жыхары, у былой карчме 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. 32 двары, 185 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 21.8.1925 г. ў Казловіцкім с/с. У 1926 г. Сліўка — засценак (37 двароў, 176 жыхароў), хутар (1 двор, 5 жыхароў) і чыг. раз'езд (14 двароў, 32 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана Маласліўскае меліяратыўнае т-ва. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Сліўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 сям'і, меў 170 дзес. ворыва, 190 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны на франтах загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 152 жыхары. У 1970 г. 165 жыхароў. У 1986 г. 50 гаспадарак, 98 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 14.8.2003 г. на тэр. ААТ «Казловічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.





**МАЛОЕ ЖУРАВА** – былая вёска ў Кіраўскім с/с, за 1 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Слуцк–Брэст, якая праходзіць непадалёку ад былой вёскі.

Вядома з 1885 г. як засценак у Слуцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. вёскі Журава 2 (8 двароў, 47 жыхароў) і Журава 3 (яна ж Салдацкая Слабада, 8 двароў, 65 жыхароў). У 1917 г. в. Малое Журава 2 (47 двароў, 113 жыхароў) і хутар Журава (5 двароў, 29 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Лучнікоўскім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кіраўскім с/с. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 111 жыхароў. У 1990-х г. далучана да г. Слуцк.

**МАЛІНАЎКА** – пасёлак у Знаменскім с/с, за 15 км на З ад Слуцка, 5 км ад чыг. ст. Серадзякі на лініі Слуцк–Баранавічы, 115 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 40 гаспадарак, 107 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Серадзякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 65 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 166 жыхароў. У 1970 г. 173 жыхароў. У 1986 г. 45 гаспадарак, 123 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. З 16.7.2003 г. пасёлак знаходзіўся на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». У 2013 г. – магазін. Планіроўка П-падобная. Дзве паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да шашы, злучаны перпендыкулярнай да іх кароткай вуліцай. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на З.

**МАЛІНАЎКА** – пасёлак у Ісернскім с/с, за 22 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк–Пагост 1, якая праходзіць каля вёскі. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920 г. на землях памешчыка Расадоўскага. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 72 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 55 жыхароў. У 1970 г. 51 жыхар. У 1986 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана пераважна з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛОТКАВА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Пры-



пяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Мінск. 36 гаспадарак, 64 жыхары (2012).

Створана ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 63 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930—31 гг. сяляне ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 130 жыхароў. У 1961 г. далучаны пас. Веранеўшчына і ўтворана в. Малоткава. У 1970 г. 246 жыхароў. У 1986 г. 50 гаспадарак, 114 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца з плаўна выгнутай трасай арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ БЫКОЎ** — вёска ў Ісернскім с/с, за 25 км на Пд ад Слуцка, 8 км ад чыг. ст. Калій 3 на лініі Слуцк—Салігорск, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Пагост 1—Чырвоная Слабада. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Пагост Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 5 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 28 двароў, 173 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, млын на р. Сівельга. У 1850 г. вёска ва ўладанні кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Пагосцкай вол., 53 двары, 417 жыхароў, вятрак, капліца. У 1909 г. 66 двароў, 446 жыхароў. У 1917 г. 72 двары, 515 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. 101 двор, 501 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 сям'і, меў 220 дзес. ворыва, 29 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 345 жыхароў. У 1970 г. 357 жыхароў. У 1986 г. 70 гаспадарак, 116 жыхароў. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ паралельна да ракі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**МАЛЫШЭВІЧЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У за 2 км ад вёскі пачынаецца р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 37 гаспадарак, 65 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска (244 жыхары) і сяльцо (29 жыхароў) у Слуцкім павеце Мінскай губ., карчма. У 1810 г. на сродкі прыхаджан пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1860 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 15 хлопчыкаў. У 1861 г. 364 жыхары, царква. У кастр. і снеж. праводзіліся аднадднеўныя кірмашы. У 1897 г. ў Чапліцкай вол., 96 двароў, 578 жыхароў, царква, капліца, магазін, піцейны дом. У 1909 г. 100 двароў, 623 жыхары. У 1910 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 112 двароў, 702 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана





польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыты хата-чытальня, нар. тэатр, 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 134 двары, 637 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зара». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На зах. ускраіне вёскі ўстаноўлены помнік 206 землякам, якія загінулі ў час вайны. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 507 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 414 жыхароў. У 1986 г. 99 гаспадарак, 206 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін, клуб. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. З 14.12.2000 г. на тэр. СРУП «Саўгас «Рачкавічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Гал. вуліца мае двухбаковую, другая вуліца — аднабаковую драўляную забудову сядзібнага тыпу. Вуліцы злучаны паміж сабой дарогай. Гасп. сектар — на Пн.

**МАРОЗЫ** — вёска ў Грэскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 33 двары, 197 жыхароў. У 1917 г. 48 двароў, 254 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 191 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Усход», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 сямей, меў 130 дзес. ворыва, 48 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 132 жыхары. У 1970 г. 118 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 51 жыхар, жывёлагадоўчая ферма. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. — філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**МАШЧЫЦЫ** — вёска ў Беліцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 26 гаспадарак, 49 жыхароў (2012).

За 2 км на Пд ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1783 г. як засценак у складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павета і ваяв., уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 55 двароў, 252 жыхары. У 1862 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1891 г. навучаліся 30 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. вёскі Вял. Машчыцы (50 двароў, 313 жыхароў) і Малыя Машчыцы (38 двароў, 216 жыхароў) у Цараўскай вол. У 1909 г. в. Машчыцы Малыя (286 жыхароў) і в. Машчыцы Вялікія (348



жыхароў). У 1918 г. адкрыта 2-гадовая школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. створана камсамольская ячэйка. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. вёскі Машчыцы Вялікія (56 двароў, 307 жыхароў) і Машчыцы Малыя (46 двароў, 219 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створаны калгас «Трактар». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. У 1959 г. вёска, 355 жыхароў. У 1970 г. 245 жыхароў. У 1986 г. 64 гаспадаркі, 123 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. ААТ «Вітко-Агра». З 2013 г. ў Беліцкім с/с. У 2013 г. — магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. біяхіміка, акадэміка НАН Беларусі, паэта А.С.Вечара (1905—85).

**МАЯК** — вёска (аграгарадок) у Грэскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 130 гаспадарак, 279 жыхароў (2012).

Вядома з 1590 г. як с. Дзіндзева, у Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 7 валок зямлі. У 1654 г. 24 двары, уласнасць Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 114 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Л.Радзівіла. У 1872 г. ў в. Дзюдзева адкрыта школа граматы, якую ў 1890/91 г. наведвалі 12 хлопчыкаў. У 1909 г. в. Дзюдзева ў Грэскай вол., 77 жыхароў. У 1917 г. 82 двары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыты хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Мусіцкім с/с. У 1926 г. 90 двароў, 491 жыхар. З 9.6.1927 г. да 20.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 65 сямей, меў 261 дзес. ворыва, 140 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 239 жыхароў. У 1970 г. 145 жыхароў. У 1974 г. да Маяка далучана в. Дзюдзева. У гэтым жа годзе ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік 141 земляку, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. З 5.2.1974 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. цэнтр калгаса «Маяк», 171 гаспадарка, 401 жыхар, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дзіцячы сад, сярэдняя школа (13 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, 2 магазіны. З крас. 2008 г. цэнтр філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. У 2013 г. — 3 жывёлагадоўчыя фермы, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Да яе з двух бакоў перпендыкулярна падыходзяць 2 крывалінейныя вуліцы. Забудова ста-

рых вуліц традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Уздоўж гал. вуліцы сярод жылой забудовы ўзведзены 1—2-павярховыя мураваныя адм.-грамадскія будынкі. Дзве новыя вуліцы забудаваны індывідуальнымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Гасп. сектар разгрупаваны: на ПдУ і ПнЗ. За 2 км на Пн ад вёскі знаходзіцца Заранскае радовішча пяску (разведаныя запасы 2,86 млн. м³).

**МЕЛІТОНАВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 35 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Вядома з 1870 г. як маёнтак Меліс-тона Солтана ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 2 двары, 17 жыхароў. У 1917 г. засценак (13 двароў, 89 жыхароў) і хутар (1 двор, 10 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. хутар (4 двары, 14 жыхароў), засценак (23 двары, 111 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 93 жыхары. У 1970 г. 79 жыхароў. У 1986 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і няшчыльна забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МЕРАШЫНО** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Слуцка, 8 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць канал, злучаны з р. Бярозаўка (прыток р. Таліца). На Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 53 гаспадаркі, 138 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 72 жыхары. У 1917 г. 7 двароў, 55 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ва Урэцкім с/с. У 1926 г. засценак, 9 двароў, 47 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік 25 землякам, якія загінулі ў час вайны. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 29.5.1969 г. ў Паўстынскім с/с. У 1970 г. вёска, 321 жыхар. У 1986 г. 91 гаспадарка, 194 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 2003 г. на тэр. ААТ «Паўстынь». З 2013 г. ў Казловіцкім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўвачна складаецца з 4 вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да чыгункі. Забудова сядзібнага тыпу, няшчыльная, двухбаковая, пераважна драўляная. Гасп. сектар — на Пд.

**МІХАЙЛАЎКА** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 14 км на З ад Слуцка, 3 км ад чыг. ст. Сераднякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2012).

Вядомы з 1909 г. як фальварак у Раманаўскай вол. Слуцкага павета Мін-



скай губ., 1 двор, 17 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлкі Міхайлаўка (15 двароў, 61 жыхар) і Міхайлаўка Новая (8 двароў, 35 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створана арцель па сумеснай апрацоўцы зямлі. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 53 жыхары. У 1970 г. 58 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 24 жыхары. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІХЕЙКІ** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 2 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 147 гаспадарак, 339 жыхароў (2012).

Вядома з 1593 г. як с. Міхейкавічы ў складзе маёнтка Абуховічы Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1685 г. 27 двароў, уласнасць царквы. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 50 двароў, 154 жыхары, карчма, уласнасць Слуцкай евангелісцкай плябаніі. У 1858 г. 138 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць казны. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 10 хлопчыкаў. У 1897 г. 84 двары, 526 жыхароў, капліца, школа граматы, магазін. У 1913 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 120 двароў, 697 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. вёска, 131 двор, 660 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. і ў 1931 г. створаны 2 калгасы. У 1932 г. калгас «Чырвоныя Міхейкі» ўдзельнічаў ва Усесаюзнай с.-г. выстаўцы ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 73 вяскоўцы. Пасля вызвалення вёска была цэнтрам калгаса «Чырвоныя Міхейкі», які ў 1950 г. далучаны да калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Гарохаўка). З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1951 г. калгас «Рассвет» далучаны да калгаса «Чырвоны ўдарнік» (цэнтр — в. Прошчыцы). З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. 730 жыхароў. У 1970 г. ў Бокшыцкім с/с, 740 жыхароў. У 1986 г. 188 гаспадарак, 496 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб, комплексны прыёмны пункт, магазін. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін. Планіровачная структура прамавугольная. Асн. вуліцы арыентаваны амаль мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пд.

**МЛЫНКА** — вёска ў Беліцкім с/с, за 14 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны,




праз вёску цячэ р. Сівельга (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска (26 жыхароў, карчма) і засценак Малая Млынка (30 жыхароў) у Слуцкім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. засценкі Вялікая Млынка (40 двароў, 259 жыхароў, кузня, крама) і Малая Млынка (27 двароў, 166 жыхароў) у Цараўскай вол. У 1915 г. ў Вялікай Млынцы адкрыта школа. У 1917 г. засценкі Вялікая Млынка (46 двароў, 259 жыхароў) і Малая Млынка (34 двары, 192 жыхары). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. ў Вялікай Млынцы адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Беліцкім с/с. У 1926 г. засценкі Млынка Вялікая (55 двароў, 225 жыхароў) і Млынка Малая (41 двор, 187 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Наш шлях», пазней — калгас «Новая Млынка», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 277 жыхароў. У 1970 г. 211 жыхароў. У 1986 г. 55 гаспадарак, 102 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, якія ідуць па абодва бакі ракі і арыентаваны з ПнУ на ПдЗ пад вуглом да шашы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МУРАВІШЧЫНА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як вёска ў Слабода-Пырашаўскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. 6 двароў, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. вёска, 56 жыхароў. У 1966 г. да Муравішчыны далучана в. Немча. У 1970 г. 123 жыхары. У 1986 г. 28 гаспадарак, 79 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма.

**МУСІЧЫ** — вёска ў Грэскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 53 гаспадаркі, 110 жыхароў (2012).

Вядома з 1584 г. як двор у Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 212 жыхароў, гаспадарскі дом, 2 карчмы, вятрак, уладанне кн. Д.Радзівіла і памешчыка Вастоцкага. У 1850 г. вёска ва ўладанні кн. Л.П.Вітгенштэйна. З



1878 г. працавала школа граматы, якую наведвалі 9 хлопчыкаў. У 1897 г. ў Грозаўскай вол., 58 двароў, 342 жыхары, капліца, магазін. У 1909 г. ў вёсцы 62 двары, 359 жыхароў, у маёнтку 18 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 71 двор, 418 жыхароў, у маёнтку 28 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. ў былым памешчыцкім доме адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 74 двары, 369 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы Свет», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 42 сям'і, меў 186 дзес. ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 239 жыхароў. У 1970 г. 246 жыхароў. З 5.2.1974 г. ў Маяцкім с/с. У 1978 г. на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі ўстаноўлены помнік 109 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Леніна, 86 гаспадарак, 184 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, ветэрынарны ўчастак, піларама, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, магазін, АТС. З 2013 г. ў Грэскім с/с. Планіроўка бессістэмная. Вуліцы з крывалінейнымі трасамі ідуць у розныя бакі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на Пд.

**МЯЛЕШКІ** — вёска (аграгарадок з 2012 г.) у Вясейскім с/с, за 11 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 245 гаспадарак, 411 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскім павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 53 жыхары мужчынскага полу. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 9 хлопчыкаў. У 1897 г. в. Мялешкавічы (50 двароў, 197 жыхароў, капліца, магазін, школа) і засценак Мялешкавічы (23 двары, 164 жыхары). У 1917 г. 61 двор, 356 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. в. Мялешкавічы, 74 двары, 381 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бераг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 69 сямей, меў 262 дзес. ворыва, 160 дзес. сенажаці, працаваў млын. У 1930 г. адкрыты медыцынскі пункт, у 1934 г. пабудавана 7-гадовая школа, у 1936 г. — клуб. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 403 жыхары. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1967 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік 124 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 402 жыхары. У 1983 г. далучана в. Баравуха. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Калініна, 227 гаспадарак, 630 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма,





млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, майстэрні па апрацоўцы драўніны, кандытарскі цэх, дзіцячы сад, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 3 магазіны, АТС, сталовая. З 23.6.2003 г. цэнтр ААТ «Агра-Мялешкі», з 2011 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі і філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», сталовая, кулінарыя, 2 магазіны. Гіст. планіроўка Т-падобная, утвораная 2 узаемна перпендыкулярнымі вуліцамі з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Асн. вуліца мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай. На Пн яе працягвае кароткая вуліца (былая в. Баравуха). У цэнтры сядзібнай тэр. створаны штучны вадаём, вакол якога арганізаваны адм.-грамадскі цэнтр. Новыя вуліцы забудаваны сучаснымі мураванымі, 2-павярховымі катэджамі. Гасп. сектар — на У.

**НАБУШАВА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2012).

За 1 км на Пн ад вёскі знаходзіцца курган. Вядома з 1897 г. як засценак у Слуцкіх вол. і павеце Мінскай губ., 21 двор, 144 жыхары. У 1909 г. 31 жыхар. У 1917 г. 40 двароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. вёска, 46 двароў, 235 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 19 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. 168 жыхароў. У 1970 г. 128 жыхароў. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 72 жыхары, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВАБЕЛІЧЫ** — вёска ў Беліцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 37 гаспадарак, 76 жыхароў (2012).

Засн. ў 1922 г. на землях былога маёнтка Белічы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Беліцкім с/с. У 1926 г. пас. Белічы (Новыя), 15 двароў, 70 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створаны калгас «Нова-Белічы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1970 г. вёска, 212 жыхароў. У 1986 г. 58 гаспадарак, 115 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца арыентавана амаль меры-



дыянальна, паралельна да шашы. На Пд перпендыкулярна да гал. праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры.

**НАВАДВОРЦЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 2 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць чыгунка, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Пагост 1, якая праходзіць праз вёску. 297 гаспадарак, 575 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 21 двор, 124 жыхары, 2 ветракі. У 1858 г. 70 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 51 двор, 325 жыхароў, капліца, магазін. У 1917 г. 62 двары, 374 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. вёска, 77 двароў, 445 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. пачала дзейнічаць малочная арцель, у 1930 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 63 сям'і, меў 275 дзес. ворыва, 123 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працавалі паравы млын і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Была створана падп. антыфаш. група моладзі, якая ў снеж. 1941 г. аб'ядналася з падп. групай са Слуцка (кіраўнік А.Д.Фамін). У сак. 1943 г. падпольшчыкі пайшлі да партызан. У памяць аб іх дзейнасці ў вёсцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка (1974). З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 1955 г. да 22.9.1980 г. цэнтр Кіраўскага с/с. У 1959 г. 810 жыхароў. У 1967 г. ў вёсцы ўстаноўлены помнік 475 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 838 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «1 Мая», 296 гаспадарак, 924 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, піларама, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, 4 магазіны, сталовая, стадыён. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, базавая школа, б-ка, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, піцэрыя. Шаша падзяляе вёску на 3 часткі. Асн., сярэдняя частка мае У-падобную планіроўку. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Ісернскім с/с, за 23 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей на шашы Слуцк—Пагост 1. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Узнікла ў пач. 20 ст. ў выніку перасялення сялян з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 87 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, цэнтр якога быў у в. Ісерна. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 80 жыхароў. У 1970 г., вёска, 71 жыхар. У 1986 г. 14 гаспадарак, 31 жыхар. З 31.7.2003 г. цэнтр ААТ «Ісерна». Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.





**НАВІНКІ** – вёска ў Першамайскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Асіповічы–Нясвіж. 55 гаспадарак, 145 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. засценак Навіны ў Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. ў засценку 7 двароў, 41 жыхар, у старожцы 1 двор, 9 жыхароў. У 1917 г. вёска (14 двароў, 99 жыхароў) і хутар (2 двары, 17 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. У 1926 г. засценак, 15 двароў, 93 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 сямей, меў 121 дзес. ворыва, працавала торфапрадпрыемства. У 1940 г. 22 двары, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 85 жыхароў. У 1970 г. 112 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «Мір», 58 гаспадарак, 178 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. 1.11.1996 г. калгас «Мір» увайшоў у склад філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». У 2013 г. – жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Гіст. планіроўка Г-падобная з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне – адм.-грамадскі цэнтр і 2 новыя вуліцы, забудаваныя сучаснымі муравашымі дамамі катэджнага тыпу. Гасп. сектар – на Пн і Пд.

**НЕЖАЎКА** – вёска ў Ісернскім с/с, за 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк–Пагост 1, якая праходзіць праз вёску. 53 гаспадаркі, 117 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. ў складзе маёнтка Пагост Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 7 валок. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 8 двароў, 59 жыхароў, гаспадарскі дом, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1897 г. ў вёсцы 27 двароў, 235 жыхароў, магазін, у маёнтку 12 жыхароў, ва ўладальніцкай сядзібе 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 40 двароў, 248 жыхароў, у маёнтку 30 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 36 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 сям'і, меў 19 дзес. ворыва, 100 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 341



жыхар. У 1970 г. 279 жыхароў. У 1986 г. 77 гаспадарак, 176 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма і магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 вуліцы — адна шыротнай, другая мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Паралельна да шашы склалася новая вуліца, забудаваная сучаснымі мураванымі дамамі катэджнага тыпу. Гасп. сектар на паўн.-зах. ускраіне.

**НІВА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 46 гаспадарак, 62 жыхары (2012).

За 2 км на Пн ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1858 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 60 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Л.Радзівіла. У 1897 г. ў Грэскай вол., 41 двор, 256 жыхароў. У 1909 г. 63 двары, 361 жыхар. У 1917 г. 65 двароў, 452 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. вёска (73 двары, 395 жыхароў) і пасёлак (19 двароў, 70 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях». У 1940 г. 73 двары, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі тут 72 двары, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска (142 жыхары) і пасёлак (126 жыхароў). У 1961 г. далучана в. Чырвоны Араты, у 1966 г. — в. Бондарава. У 1970 г. вёска, 319 жыхароў. У 1986 г. 74 гаспадаркі, 148 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка У-падобная. Да гал. вуліцы шыротнай арыентацыі далучаецца на З другая вуліца. Жылая забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**НОВАЯ НІВА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Засн. ў пач. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. пас. Ніва, 10 двароў, 60 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Новая Ніва», пазней гэта назва засталася за пасёлкам. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. вёска, 136 жыхароў. У 1970 г. ў Бокшыцкім с/с, 119 жыхароў. У 1986 г. 27 гаспадарак, 51 жыхар, пач. школа, клуб. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫ ГУТКОЎ** — вёска ў Сорагскім с/с, за 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—





Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2012).

Вядома з 1897 г. як в. Гуткова 2 у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 183 жыхары. У 1909 г. ў в. Новы Гуткоў 36 двароў, 215 жыхароў, на хутары Гуткоў пад Гарою 1 двор, 9 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. 53 двары, 264 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Р.Люксембург. У пач. 1930-х г. калгас абслугоўвала Слуцкая, пасля 1934 г. — Кучынская МТС. У 1940 г. 29 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1942 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. У ноч з 22 на 23.5.1943 г. партызаны атрада імя Фрунзэ пашкодзілі каля вёскі тэлефонна-тэлеграфную лінію на працягу 0,75 км. На вясковых могілках пахаваны 4 сав. воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Амговіцкім с/с, 189 жыхароў. У 1970 г. 187 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 75 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 2003 г. на тэр. СВК «Сорагі Агра». З 30.10.2009 г. зноў у Сорагскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**НОВЫ ДВОР** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Пагост 1. 126 гаспадарак, 179 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло, цэнтр маёнтка ў Навагрудскім павеце і ваяв. ВКЛ, 29 валок. Пры маёнтку ў 1572 г. былі 4 сял. службы. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. фальварак, млын, гаспадарскі дом, уласнасць Радзівілаў. У 1850 г. тут быў маёнтак памешчыка Ю.Булгака. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 30 жыхароў. У 1917 г. 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыты хата-чытальня, 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 88 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. арганізаваны калгас «Селянін», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 сямей, меў 218 дзес. ворыва, 92 дзес. сенажаці. Гаспадарку абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 322 жыхары. У 1970 г. 285 жыхароў. У 1986 г. 97 гаспадарак, 278 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, клуб, б-ка, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, магазін. Аснову рэгулярнай блізкай да прамавугольнай планіровачнай структуры складаюць 3 вуліцы, паралельныя да ракі. Перпендыкулярна да іх ідуць яшчэ адна вуліца і завулкі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.



**НОВЫЯ РАЧКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Рачкавіцкага с/с, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Волка (прыток р. Морач), якая цячэ на ПнЗ ад вёскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей на шашы Слуцк—Брэст. 123 гаспадаркі, 239 жыхароў (2012).

Вядома з 1891 г. як маёнтак Рачкавічы ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., вінакурня (у 1895 г. ўстаноўлена паравая машына, у 1900 г. працавала 12 рабочых). У 1909 г. маёнтак, 56 жыхароў. У 1917 г. 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1919 г. ў памешчыцкім доме адкрыта школа, у 1921 г. на базе былога маёнтка створаны саўгас «Рачкавічы»; працавала хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак (30 жыхароў) і спіртзавод «Рачкавічы» (176 жыхароў). З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. цэнтр Рачкавіцкага с/с. 21.1.1969 г. населены пункт спіртзавода «Рачкавічы» атрымаў назву в. Новыя Рачкавічы. У 1970 г. вёска, 652 жыхары. У 1986 г. 173 гаспадаркі, 402 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, магазін, сталовая, АТС. У 2013 г. — віна-водачны з-д «Колас», 2 жывёлагадоўчыя фермы, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн. і паўд. часткі. Забудова традыц., сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на Пн. Радзіма бел. і польскага грамадскага дзеяча, гісторыка і мастака Б.Ф.Залескага (1819—80).

**НЯВЯЗЦЫ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 20 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Волка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца на шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 41 гаспадарка, 96 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як в. Невясцы ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уладанне кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 31 двор, 183 жыхары. У 1858 г. 75 жыхароў мужчынскага полу, памешчыцкая ўласнасць. У 1880 г. адкрыта школа граматы, якую ў 1890 г. наведвалі 14 хлопчыкаў. У 1897 г. 58 двароў, 328 жыхароў, капліца, магазін. У 1917 г. 60 двароў, 279 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. вёска, 73 двары, 325 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Магутны», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 сямей, меў 220 дзес. ворыва, 60 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 269 жыхароў. У 1966 г. далучана в. Дубкі. У 1970 г. 251 жыхар. У 1986 г. 67 гаспадарак, 182 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, магазін. З 26.6.2003 г.





на тэр. ААТ «Падлессе». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка Т-падобная. Да гал. вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца перпендыкулярна кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**ПАДЛЕССЕ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Знаменскім с/с, за 22 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 187 гаспадарак, 493 жыхары (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 31 двор, 155 жыхароў. У 1857 г. сяльчане адрамантавалі Свята-Духаўскую царкву. У 1891 г. дзейнічала школа граматы. У 1897 г. ў Раманаўскай вол., 77 двароў, 417 жыхароў, капліца, магазін. У 1917 г. 82 двары, 490 жыхароў, ветраны млын. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. 97 двароў, 494 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольнае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 сямей, меў 338 дзес. ворыва, 115 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 377 жыхароў. У 1967 г. за 2 км на ПдЗ ад вёскі ўстаноўлены помнік 108 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. вёска, 393 жыхары. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Энгельса, 158 гаспадарак, 449 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, 8-гадовая школа (14 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, магазін. 26.6.2003 г. калгас імя Энгельса быў рэарганізаваны ў СВК «Падлессе-2003», у 2010 г. — ААТ «Падлессе». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, сталовая, грамадская лазня. Гіст. планіровачную структуру вёскі складаюць 3 вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Паралельна да асн. вуліцы, на ўчастку паміж імі, створана новая вуліца з забудовай мураванымі 2-павярховымі шматкватэрнымі дамамі, а таксама індывідуальнымі дамамі тыпу катэджаў і кватэрамі ў 2 узроўнях. Побач склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на Пд.

**ПАДЛІПЦЫ** — вёска ў Сяражскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Лакнея (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 83 гаспадаркі, 139 жыхароў (2012).

За 1 км на У ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1754 г. як вёска ў Навагрудскім павеце і ваяв. ВКЛ, 6 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1793 г. 29 сямей атрымалі жыта з грамадскага магазіна. У 1795 г. вёска ва ўладанні кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 45 двароў, 260 жыхароў. У 1858 г. ва ўладанні кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. 70 двароў, 488 жыхароў, школа граматы, магазін, капліца. У 1901 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1917 г. 99 двароў, 606 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана



польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. Восенню 1919 г., у час польскай акупацыі, была створана падп. валасная камуністычная ячэйка. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1926 г. 120 двароў, 602 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Маяк 2», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 сям'і, меў 225 дзес. раллі, 50 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 511 жыхароў. У 1961 г. далучана в. Чапечкі, у 1966 г. — в. Манькава. У 1970 г. 554 жыхары. У 1986 г. 138 гаспадарак, 320 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 31.7.2003 г. на тэр. «Сярагі-Агра», які 12.2.2004 г. далучаны да СВК «Аграфірма «Лучнікі». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна, паралельна да ракі. Дзве кароткія вуліцы, размешчаныя на значнай адлегласці, злучаны з гал. прасёлкачнымі дарогамі. Забудова сядзібнага тыпу пераважна драўляная. Гасп. сектар — на У.

**ПАДЛОШЫЦА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як урочышча ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 19 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 38 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 15 двароў, 79 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 84 жыхары. У 1970 г. 51 жыхар. У 1986 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДСТАРЭВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 35 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Вядома з 1897 г. як пасёлак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 38 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 11 двароў, 55 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, у 1932 г. пачаў працаваць малочны пункт. У 1940 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну





з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 27 жыхароў. У 1970 г. 24 жыхары. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены адвольна каля прасёлачнай дарогі.

**ПАЛІКАРАЎКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 32 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 69 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Нясвіж—Асіповічы, якая праходзіць каля вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Вядома з 1909 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 18 двароў, 89 жыхароў. У 1917 г. 24 двары, 134 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім с/с. З 21.10.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 29 двароў, 139 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 38 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.2.1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 96 жыхароў, якія пахаваны ў цэнтры вёскі. Каля в. Жылін Брод установлены помнік у памяць аб забітых фашыстамі жыхарах вёсак б. Палікараўскага с/с. У час акупацыі непадалёку ад Палікараўкі базіраваўся штаб 225-й партыз. брыгады імя А.В.Суворава (камандзіры — Л.П.Стафанюк, І.В.Арастовіч, А.М.Каляда; камісары — П.І.Разувакін, І.М.Ражкоў, У.І.Заяц). Пры брыгадзе размяшчаўся Грэскі падп. раённы к-т КП(б)Б. У памяць аб іх дзейнасці за 1,5 км на ПнУ ад вёскі ўстаноўлены помнік (1965). За 0,3 км на Пн ад вёскі пахаваны 16 партызан, а за 2 км на Пд ад вёскі пахаваны 15 жыхароў в. Крушнік, якіх 23.2.1943 г. спалілі гітлераўскія карнікі. Пасля вайны вёска адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Першамайскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 144 жыхары. У 1970 г. 96 жыхароў. У 1986 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары. Планіроўка лінейная. Вуліца з ПдУ над вострым вуглом падыходзіць да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ПАНІЧЫ** (з 1939 г. да 26.4.1994 г. — Калініна) — вёска ў Ісернскім с/с, за 19 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, за 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Пагост 1. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як засценак у Слуцкім павеце Мінскай губ, 13 двароў, 68 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 1897 г. ў Пагосцкай вол., 132 жыхары. У 1917 г. 38 двароў, 254 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. вёска, 44 двары, 232 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас імя Мянжынскага. У 1940 г. 48 двароў, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы



спалілі тут 43 двары. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 4 партызаны 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага, якія загінулі 9.9.1943 г. ў баі супраць акупантаў. На паўд. ускраіне вёскі ўстаноўлена стэла (1974) на месцы гібелі Героя Сав. Саюза, камандзіра 101-й партыз. брыгады Д.Ц.Гуляева. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 158 жыхароў. У 1970 г. 104 жыхары. У 1986 г. 27 гаспадарак, 41 жыхар. З 31.7.2003 г. на тэр. ААТ «Ісерна». Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, пераважна двухбаковая.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Вясейскім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 107 гаспадарак, 259 жыхароў (2012).

Вядома з 1795 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уласнасць Слуцкага Міхайлаўскага праваслаўнага прыхода. У 1800 г. в. Мялешкавічы (яна ж Папоўцы), 9 двароў, 67 жыхароў, гаспадарскі дом, вінакурня, карчма. У 1858 г. в. Папоўцы Мікульскія (118 жыхароў мужчынскага полу) і в. Папоўцы Васкрасенскія (41 жыхар мужчынскага полу) у складзе Ягаўскага казённага ўчастка. У 1891 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. вёска, 31 двор, 198 жыхароў, капліца, школа, магазін. У 1917 г. 41 двор, 273 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. 57 двароў, 286 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 45 сямей, меў 222 дзес. ворыва, 106 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 490 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. 438 жыхароў. У 1986 г. 138 гаспадарак, 363 жыхары, магазін. З 2011 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». У 2013 г. — магазін. Планіроўка Г-падобная. Да гал. вуліцы шыротнай арыентацыі далучаецца на З другая вуліца. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы С.С.Палешчука (1918—96).

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Покрашаўскім с/с, за 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Нясвіж—Асіповічы, якая праходзіць каля вёскі. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

Вядома з 1909 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 16 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. 27 двароў, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. У 1926 г. вёска, 22 двары, 128 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-





хопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пакрашаўскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 141 жыхар. У 1970 г. 162 жыхары. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 93 жыхары, клуб, магазін. У 2013 г. — лячэбна-працоўны прафілакторый, на тэр. якога знаходзіцца царква Святога Баніфацыя (2000-я г.). Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага часу.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 32 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясейка), на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2012).

Вядома з 1909 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. засценак Паўлаўка (ён жа Лесішча), 17 двароў, 106 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. 18 двароў, 107 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, у які ўвайшлі таксама сяляне хутароў Троіцкае, Казлы, Цёмныя. Пасля 1934 г. калгас абслугоўвала Кучынская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 127 жыхароў. У 1970 г. 92 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца з крывалінейнай трасай арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая, няшчыльная.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Сяражскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2012).

За 0,2 км на ПдУ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (70 насыпаў). Вядома з 1909 г. як хутар Паўлаўка (ён жа Волатава) у Старобінскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. 2 двары, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сяражскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 72 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 130 жыхароў. У 1970 г. вёска, 87 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу, пераважна драўляная.

**ПАЎСТЫНЬ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Слуцка, 12 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 115 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, у мерыдыянальным напрамку вёску перасякае меліярацыйны канал, злучаны на паўд. ускраіне з р. Бярозаўка (прыток р. Таліца), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 184 гаспадаркі, 541 жыхароў (2012).



Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 20 двароў, 121 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 117 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Цараўскай вол., 85 двароў, 541 жыхар, кузня, магазін, піцейны дом. У 1916 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 104 двары, 696 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ва Урэцкім с/с. У 1926 г. вёска, 123 двары, 652 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. жыхары арганізавалі калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 72 сям'і, меў 272 дзес. ворыва, 275 дзес. сенажаці. З 23.6.1940 г. цэнтр Тэльманаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. ў вёсцы ўзнікла падп. антыфаш. група. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Урэцкім пасялковым Савеце. З 29.5.1969 г. цэнтр Паўстынскага с/с. У 1970 г. 608 жыхароў. У 1973 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Тэльмана, 210 гаспадарак, 540 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дрэваапрацоўчая майстэрня, дзіцячы сад, сярэдняя школа (16 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, 2 магазіны, аддз. сувязі і ашчаднага банка, грамадская лазня, стадыён. У 2003 г. калгас імя Тэльмана быў рэарганізаваны ў ААТ «Паўстынь». З 2013 г. ў Казловіцкім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дом механізатараў, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, грамадская лазня. Гал. вуліца з крывалінейнай трасай мае мерыдыянальны напрамак. Пад рознымі вугламі да яе накіраваны другарадныя вуліцы. Яшчэ 2 паралельныя паміж сабой вуліцы знаходзяцца па другі бок канала. Забудова традыц. сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. Адм.-грамадскі цэнтр — у паўд. частцы вёскі, на развілцы вуліц. Ёсць некалькі мураваных дамоў катэджнага тыпу. Гасп. сектар — на У.

**ПІЛЬНЯ** – вёска ў Першамайскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць), на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Нясвіж—Асіповічы. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 68 жыхароў. У 1970 г. 71 жыхар. У 1986 г. 16 гаспадарак, 37 жыхароў. З 1.11.1996 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца падыходзіць з ПнУ над вострым вуглом да мясц. да-

рогі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ПОКРАШАВА** — вёска, цэнтр Пакрашаўскага с/с, за 17 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 176 гаспадарак, 356 жыхароў (2012).

Вядома з 1537 г. як с. Пакаршава Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, уладанне М.Барадовіча, 13 сял. службаў. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 18 двароў, 95 жыхароў, гаспадарскі дом, капліца, вінакурня, карчма. У 1875 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д, на якім у 1913 г. працавала 7 рабочых. У 1897 г. ў сяле 41 двор, 271 жыхар, магазін, у маёнтку 52 жыхары, вінакурня. У 1917 г. ў сяле 59 двароў, 413 жыхароў, у маёнтку 111 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. — 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. вёска, 66 двароў, 386 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 26.2.1932 г. цэнтр сельсавета (да 20.11.1934 г. — нац. польскага). З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У былым маёнтку быў створаны саўгас «Покрашава», які ў 1932 г. меў 231 дзес. ворыва, 205 дзес. сенажаці, а ў 1936 г. — 910 га зямлі, 106 працаўнікоў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Пуцілавец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 сям'ю, меў 128 дзес. ворыва. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле каля вёскі пахаваны 7 воінаў 35-й механізаванай брыгады, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі (сярод іх Герой Сав. Саюза А.М.Губін). На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў канцы чэрв. 1941 г. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 998 жыхароў. У 1970 г. 829 жыхароў. У 1986 г. 239 гаспадарак, 611 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, піларама, дрэваапрацоўчыя майстэрні, воцатны цэх Слуцкага кансервавага з-да, дзіцячы сад, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ашчаднага банка, сталовая, АТС, 5 магазінаў. Сучасная вёска — цэнтр ААТ «Слуцкі воцатны завод». У 2013 г. — жывёлагадоўчы комплекс, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, грамадская лазня. Планіроўка нерэгулярная. Вуліцы арыентаваны з У пад рознымі вугламі да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на Пн.



*Воцатны завод у в. Покрашава.*

**ПРАГРЭС** (да 1964 г. — в. Ліхадзеі) — вёска ў Грэскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 89 км ад



Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Слуцк. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як фальварак Ліхадзеі ў Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. 36 жыхароў. У 1917 г. 76 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. створана камуна, якая ў 1930 г. рэарганізавана ў калгас «Прагрэс». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 72 жыхары. У 1970 г. 57 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены адвольна каля прасёлачнай дарогі.

**ПРАЦАВІЧЫ** – вёска ў Кіраўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 119 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У, Пн і З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Пагост 1. 212 гаспадарак, 349 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Пагост Навагрудсіх павета і ваяв. ВКЛ, 9 валок, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1795 г. 264 жыхары, карчма, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1850 г. 347 жыхароў. У сяле дзейнічала школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 20 хлопчыкаў. У 1897 г. 98 двароў, 642 жыхары, капліца, кузня, магазін, 2 харчэўні, маёнтак (6 двароў, 48 жыхароў). У 1910 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў сяле 144 двары, 769 жыхароў, у засценку 7 двароў, 58 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ісернскім с/с. У 1926 г. вёска (135 двароў, 634 жыхары), пасёлак (7 двароў, 25 жыхароў) і засценак (13 двароў, 60 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас, які абслугоўвала Слуцкая МТС, працавалі 2 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 588 жыхароў. У 1970 г. ў Кіраўскім с/с, 1000 жыхароў. У 1986 г. 298 гаспадарак, 638 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, вытв. ўчастак Слуцкага кансервавага з-да, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, сталовая. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». У 2013 г. – 2 жывёлагадоўчыя фермы, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Пад рознымі накірункамі да яе падыходзяць некалькі завулкаў. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна двухбаковая, драўляная. Гасп. сектар – на З.

**ПРОШЧЫЦЫ** – вёска ў Бокшыцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Мінск. 155 гаспадарак, 332 жыхары (2012).





За 1 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1566 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Маёнтак Прошчыцы, які належаў Радзівілам, у 1630 г. быў аддадзены ў заклад Слуцкай кальвінісцкай гімназіі. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. в. Вялікія Прошчыцы (62 двары, 361 жыхар, гаспадарскі дом, карчма, млын) і фальварак Малыя Прошчыцы (7 жыхароў, гаспадарскі дом). У 1858 г. 130 жыхароў мужчынскага полу. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 10 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1912 г. пачало дзейнічаць аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. вёска (89 двароў, 482 жыхары, капліца, кузня, піцейны дом, школа, магазін), маёнтак (100 жыхароў) і фальварак Вялікая Прошчыца (1 двор, 3 жыхары). У 1917 г. ў вёсцы 130 двароў, 803 жыхары, у маёнтку 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 145 двароў, 752 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 сямей, меў 329 дзес. ворыва, 159 дзес. сенажаці. У 1939 г. цэнтр Прошчыцкага с/с перанесены ў в. Вясея. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 67 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. 992 жыхары. У 1970 г. ў Бокшыцкім с/с, 948 жыхароў. У 1986 г. 225 гаспадарак, 582 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, летні аздараўленчы лагер. Планіровачная структура блізкая да радыяльна-кальцавой. Вуліцы пад рознымі вугламі сыходзяцца да дарогі, якая вядзе да моста цераз р. Случ. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**ПРЫДЗІРКІ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 30 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як урочышча ў Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. хутар Прыдзіркі 1 (6 двароў, 45 жыхароў) і хутар Прыдзіркі 2 (3 двары, 19 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. У 1926 г. пасёлак (8 двароў, 57 жыхароў) і хутар (7 двароў, 32 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 95 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 75 жыхароў. У 1986 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў, магазін. З 14.12.2000 г. на тэр.



СРУП «Саўгас «Рачкавічы». Кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, пад вострым вуглом надыходзіць да шашы, забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЯТНІЦЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

За 1 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца курган. Вядома з 1885 г. як засценак у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1897 г. засценак Пятніцы (ён жа Лаўровічы), 32 двары, 172 жыхары, капліца. У 1917 г. 31 двор, 156 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. У 1926 г. 34 двары, 135 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «Прагрэс», які абслугоўвала Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 106 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 78 жыхароў. У 1986 г. 21 гаспадарка, 29 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы размешчаны адвольна.

**РАБАК** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 27 км на З ад Слуцка, 12 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Слуцк—Асіповічы, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 53 гаспадаркі, 121 жыхар (2012).

За 0,9 км на З ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. У 2-й пал. 19 ст. тут пасяліліся 5 сем'яў з в. Сорагі, якія купілі зямлю ў памешчыка Рабацкага. У 1897 г. ўрочышча Рабак, 1 двор, 18 жыхароў, і ўрочышча Рабак 2, 1 двор, 8 жыхароў, у Цараўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1917 г. ўрочышча Рабак 1 (2 двары, 11 жыхароў), хутар Рабак 2 (40 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. вёска (76 двароў, 345 жыхароў) і хутар (7 двароў, 25 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Бор», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 сямей, меў 374 дзес. ворыва, 161 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 101 вясковец удзельнічаў у барацьбе супраць акупантаў на фронце і ў партыз. руху, 38 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1970 г. вёска ў Паўстынскім с/с, 252 жыхары. У 1986 г. 106 гаспадарак, 239 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 2003 г. на тэр. ААТ «Паўстынь». З 2013 г. ў Казловіцкім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дом сац. паслуг, магазін, грамадская лазня. Планіроўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі ідзе паралельна дарозе на в. Урэчча. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**РАДЗІЧАВА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 7 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол вёскі праходзяць мелія-





рацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 50 гаспадарак, 108 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 331 жыхар. У 1970 г. 280 жыхароў. У 1986 г. 65 гаспадарак, 201 жыхар, цэх Слуцкага вытв. металааб'яднання, дзіцячы сад, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — цэх КУП «Слуцкая ЖКГ», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, грамадская лазня. Планіроўка лінейная. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая.

**РАЧКАВІЧЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 20 гаспадарак, 43 жыхары (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 31 двор, 187 жыхароў, фальварак, гаспадарскі дом, уласнасць Д.Радзівіла. У 1858 г. 64 жыхары мужчынскага полу. У 1881 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 10 хлопчыкаў. У 1892 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д, на якім у 1913 г. працавалі 12 рабочых. У 1909 г. ў Чапліцкай вол., 34 двары, 230 жыхароў. У 1917 г. 35 двароў, 232 жыхары, адкрыта земскае нар. вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыты хата-чытальня і пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. У 1926 г. вёска, 39 двароў, 186 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 160 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1986 г. 48 гаспадарак, 101 жыхар. З 14.12.2000 г. на тэр. СРУП «Саўгас «Рачкавічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Іх перасякае мясц. дарога, якая злучае вёску з шашой. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на У.

**РЖАЎКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 20 гаспадарак, 65 жыхароў (2012).

У 1797 г. 16 жыхароў, уладанне кн. Радзівіла ў Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1865 г. засценак у Грэскай вол. У 1897 г. 23 жыхары. У 1917 г. 5 двароў, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамай-



скі) с/с. У 1926 г. хутар, 5 двароў, 27 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вер. 1943 г. ў вёсцы дыслацыраваўся партыз. атрад імя К.К.Ракасоўскага 95-й брыгады імя М.В.Фрунзэ. У памяць аб дзейнасці гэтага атрада ў цэнтры вёскі ўстаноўлена стэла (1975). З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 156 жыхароў. У 1970 г. 134 жыхары. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 74 жыхары. З 10.4.2003 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУБЕЖ** — вёска ў Сорагскім с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Слуцкім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 48 жыхароў. У 1970 г. 40 жыхароў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУДНАЎКА** — былая вёска ў Пакрашаўскім с/с.

Вядома з 1897 г. як пасёлак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 3 двары, 25 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 45 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. У 1926 г. засценак, 11 двароў, 61 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1940 г. пасёлак, 13 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 54 жыхароў. Пасля вайны Руднаўка адноўлена. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1986 г. вёска ў Пакрашаўскім с/с, 1 гаспадарка, 2 жыхары.

**РУДНЯ** — вёска ў Пакрашаўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — Руднянскае вадасховішча на р. Случ. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Нясвіж—Асіповічы. 61 гаспадарка, 139 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 15 двароў, 133 жыхары, млын, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. ў Грэскай вол., 39 двароў, 248 жыхароў. У 1909 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 61 двор, 375 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Паліка-





раўскім сельсаветах. У 1926 г. в. Рудня Старая (52 двары, 300 жыхароў) і хутары Рудня Новая (26 двароў, 160 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл.У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У 1940 г. 70 двароў, 279 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі тут 68 двароў, загубілі 25 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 70 жыхароў вёсак Адамава, Апаліны, Бабовішчы, Рудкоўка, Рудня, загубленых акупантамі. Пасля вайны Рудня адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пакрашаўскім с/с. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 377 жыхароў. У 1970 г. 394 жыхары. У 1986 г. 92 гаспадаркі, 315 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін, грамадская лазня. У 2013 г. — жывёлагадоўчы комплекс і дзіцячы санаторый. Да вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж мясц. дарогі, перпендыкулярна падыходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, аднабаковая. Гасп. сектар — на З.

**РЫЖЫЦА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 34 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Таліца (прыток р. Арэса). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

За 0,25 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку. Вядома з 1885 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. пас. Рыжыца-Загор'е (10 двароў, 64 жыхары) і сядзіба Рыжыца (3 двары, 28 жыхароў, смалакурны з-д). У 1917 г. ў засценку 16 двароў, 96 жыхароў, на хутары 1 двор, 3 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сорагскім с/с. У 1926 г. засценак (19 двароў, 100 жыхароў) і хутар (7 двароў, 32 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 121 жыхар. У 1970 г. 89 жыхароў. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Сорагі-Агра». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая, няшчыльная.

**РЭТАЎШЧЫНА** — пасёлак у Сяражскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 8 двароў, 61 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Акцябрскім с/с. У 1959 г. пасёлак, 43 жыхары. у 1970 г. вёска, 54 жыхары. У 1986 г. пасёлак, 11 гаспадарак, 29 жыхароў. З 2013 г. ў Сяражскім с/с. Планіроўка лінейная.



Кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**САХАЛІН** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 48 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 49 жыхароў. У 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 27 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка бессістэмная. Кароткая вуліца з крывалінейнай трасай забудавана з паўн.-зах. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**СВАБОДНЫ** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Вужанка (прыток р. Лакнея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 48 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 82 жыхары. У 1970 г. 66 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 27 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі, забудавана пераважна з аднаго боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 8 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 247 гаспадарак, 563 жыхары (2012).

Вядома з 1566 г. як сяло ў складзе маёнтка Івань Навагрудсіх павета і ваяв. ВКЛ, 48 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. 60 валок. У 1783 г. 59 двароў, карчма, уладанне кн. Д.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 66 двароў, 335 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. вёска (200 жыхароў мужчынскага полу) і фальварак (6 жыхароў мужчынскага полу), уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1881 г. вяскоўцы захапілі высечаны памешчыцкі лес, а ў 1882 г. самі правялі высечку, аказалі супраціўленне ўладам пры ўзыманні штрафа на карысць кн. Вітгенштэйна. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 22 хлопчыкі. У 1897 г. 134 двары, 851 жыхар, капліца, магазін, піцейны дом. У 1917 г. 156 двароў, 952 жыхары. У 1918 г. адкрыта 4-гадовая школа. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Івана-Агародніцкім с/с. У 1926 г. 191 двор, 1035 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г.





ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Шлях калектывізацыі» (з 10 сямей), да якога ў 1930 г. далучыліся яшчэ каля 40 сямей, а ў 1931 г. — каля 60 сямей. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 129 сямей. Меў 880 дзес. ворыва, 200 дзес. сенажаці. Працавалі 2 ветраныя млыны. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 2 км на Пд ад вёскі ва ўрочышчы Гараваха 28.10.1941 г. гітлераўцы расстралялі больш за 8 тысяч мірных жыхароў. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 23 сав. воіны, якія загінулі ў баях у 1941 г.; на паўд.-зах. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 86 воінаў 55-й гв. стралк. дывізіі, якія загінулі пры вызваленні вёскі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 26.5.1951 г. цэнтр Селішчанскага, з 16.7.1954 г. — Акцябрскага сельсаветаў. У 1959 г. пасёлак, 787 жыхароў. У 1970 г. вёска, 808 жыхароў. У 1986 г. цэнтр калгаса «Памяць Ільіча», 282 гаспадаркі, 763 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, ветэрынарны ўчастак, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, племянны птушкагадоўчы з-д, вучэбна-вытв. камбінат, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, сталовая, 3 магазіны. Сучасная вёска — цэнтр КСУП «Слуцкі племянны птушкагадоўчы завод». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін. Асн. вуліцы арыентаваны мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр склаўся ўздоўж шашы, дзе ўзведзены некалькі 2-павярховых шматкватэрных мураваных дамоў. Гасп. сектар — на ПнУ. Радзіма бел. дзярж. дзеяча, засл. ўрача Беларусі І.А.Інсарава (1903—83), бел. вучонага ў галіне фізіялогіі с.-г. жывёл, засл. дзеяча навукі Беларусі А.І.Новіка (1897—1984).

**СЕННІЦА** — былы пасёлак у Ленінскім с/с, за 16 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Слуцк—Брэст.

Вядомы з 1909 г. як паштовая станцыя (1 двор, 17 жыхароў) і фальварак (1 двор, 6 жыхароў) у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. У 1921 г. хутар Сенніца (1 двор, 5 жыхароў) у Чапліцкай вол. і хутар Сенніца (3 двары, 24 жыхары) у Раманаўскай вол. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 3 двары, 26 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1986 г. пасёлак, 1 гаспадарка, 4 жыхары.

**СЕРАДНЯКІ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 20 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ ручай, злучаны з р. Волка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2012).

Вядома з 1795 г. як сяло ў Слуцкім павеце Мінскай губ., уніяцкая Троіцкая царква, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1800 г. 55 двароў, 401 жыхар. З 1812 г. дзейнічаў піцейны дом. У 1844 г. вёска ў складзе маёнтка Баславіцы, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1890 г. дзейнічалі 2 школы граматы. З лютага да снеж.



1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–лістап. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр Сераднякоўскага с/с. У 1926 г. пасёлак, 32 двары, 155 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Працавала 7-гадовая школа. У 1939 г. цэнтр Сераднякоўскага с/с перанесены ў в. Старцэвічы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 254 жыхары. У 1970 г. 186 жыхароў. З 1.10.1973 г. ў Знаменскім с/с. У 1986 г. 43 гаспадаркі, 89 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіроўка лінейная. Вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі падыходзіць пад вострым вуглом да чыгункі. Паралельна да асн. ідзе кароткая вуліца. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У.

**СЛАБАДА** — вёска ў Вясейскім с/с, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Вясейка (прыток р. Случ), на Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспарныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2012).

Вядома з 1858 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 57 жыхароў мужчынскага полу. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, затым войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–лістап. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Прошчыцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 48 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вясейскім с/с. У 1959 г. вёска, 69 жыхароў. У 1970 г. 61 жыхар. У 1986 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ пад вуглом да шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, пераважна з зах. боку вуліцы.

**СЛАВІНА** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Волка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. пасёлак (9 двароў, 41 жыхар) у Малышэвіцкім с/с Чырвонаслабодскага р-на Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай акруг. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 26 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 67 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары. Планіроўка лінейная, вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАВІНСК** — вёска ў Знаменскім с/с, за 29 км на З ад Слуцка, 10 км ад чыг. ст. Морач на лініі Слуцк—Барана-





вічы, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі на мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 29 гаспадарак, 74 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 18 двароў, 76 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 99 жыхароў. У 1966 г. да Славінска далучана в. Пуцяты. У 1970 г. вёска, 116 жыхароў. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 92 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Раманава». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных пераважна з усх. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Гасп. сектар — на З. Радзіма бел. пісьменніка В.Б.Дайліды (н. ў 1930 г.).

**СЛІЎКА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2012).

Вядома з 1885 г. як фальварак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. пасёлак, 13 двароў, 94 жыхары. У 1917 г. 24 двары, 167 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак (34 двары, 171 жыхар) і пасёлак (6 двароў, 26 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 142 жыхары. У 1970 г. 71 жыхар. У 1986 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 1.4.2004 г. на тэр. вытв. ўчастка філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СОРАГІ** — вёска, цэнтр Сорагскага с/с, за 35 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Таліца (прыток р. Арэса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 196 гаспадарак, 501 жыхар (2012).

За 0,8 км і 0,4 км ад вёскі знаходзяцца 2 курганныя могільнікі. Вядома з 1795 г. як засценак Сароча ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 27 жыхароў. У 1880 г. адкрыта царква. У 1897 г. 192 двары, 954 жыхары, царква, вятрак, ваўначоска, крупадзёрка, саламарэзка. У 1917 г. ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 212 двароў, 1113 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 217 двароў, 982 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г.



створаны калгас «Чырвоная Горка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 168 сямей, меў 1030 дзес. ворыва, 430 дзес. сенажаці. Працавалі кузня, млын, крупадзёрка. У 1936 г. вёска электрыфікавана, адкрыты клуб. Абслугоўвала калгас Кучынская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 979 жыхароў. У 1966 г. ў цэнтры вёскі, каля будынка школы ўстаноўлены помнік 86 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. 823 жыхары. У 1986 г. цэнтр калгаса «3-ці Інтэрнацыянал», 279 гаспадарак, 564 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, дзіцячы сад, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, магазін. 16.7.2003 г. калгас «3-ці Інтэрнацыянал» рэарганізаваны ў СВК «Сорагі-Агра». У 2013 г. — жывёлагадоўчыя ферма і комплекс, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», магазін; Міхайлаўская царква (1991). Аснову гіст. планіроўкі складае гал. вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ, паралельна і перпендыкулярна да якой ідуць другарадныя вуліцы з традыц. драўлянай жылой забудовай сядзібнага тыпу. Паралельна да гал. размешчаны 2 новыя вуліцы. Адна з іх забудавана мураванымі 1-павярховымі дамамі тыпу катэджаў, другая — 2-павярховымі 2-кватэрнымі дамамі. На вул. Школьнай — адм.-грамадскі цэнтр.

**СТАРЫ ГУТКОЎ** — вёска ў Сорагскім с/с за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Бабруйск, якая праходзіць каля вёскі. 35 гаспадарак, 93 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як урочышча Гуткава ў Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. в. Гуткова 1, 23 двары, 154 жыхары. У 1917 г. в. Стары Гуткоў, 37 двароў, 180 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. 48 двароў, 224 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 сямей, меў 217 дзес. ворыва, 75 дзес. сенажаці. Дзейнічалі школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, клуб, б-ка. Абслугоўвала калгас Кучынская МТС. У 1940 г. 41 двор, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі тут 39 двароў, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 175 жыхароў. У 1970 г. 118 жыхароў. У 1986 г. 47 гаспадарак, 127 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, рамонтныя майстэрні, клуб, б-ка. З 2005 г. на тэр. ААТ «Вясейскі Пакроў». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчы комплекс, клуб, б-ка, грамадская лазня. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ, паварочвае перпендыкулярна да шашы. Жылая забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на З.

**СТАРЫНА** — вёска ў Грэскім с/с, за 23 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мнска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць).





Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк, якая праходзіць каля вёскі. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2012).

Вядома з 1537 г. як с. Старынь у Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ. У 1590 г. ў складзе маёнтка Грэск, 7 двароў, 12 валок зямлі, млын. У 1654 г. 21 двор, уласнасць Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1897 г. засценак у Грэскай вол., 16 двароў, 104 жыхары. У 1917 г. ў засценку 20 двароў, 123 жыхары, у маёнтку 84 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. засценак (25 двароў, 136 жыхароў) і хутар (1 двор, 7 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 121 жыхар. У 1970 г. 94 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. — філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных вуліц, якія маюць арыентацыю, блізкую да шыротнай. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, часткова аднабаковая.

**СТАРЭВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 35 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 12 двароў, 86 жыхароў. У пач. 20 ст. існавалі шкляны і лесапільны з-ды. У жн. 1905 г. баставалі рабочыя гэтых з-даў, у кастр. 1907 г. — рабочыя Старэўскага шклянога з-да купцоў Клецкіна і Файберга. Каля 100 чал спынілі працу і патрабавалі павялічыц аплату. Пасля перамоў з адміністрацыяй праз 4 дні рабочыя зноў прыступіл да працы. У 1909 г. на лесапільным і шкляным з-дах — 50 двароў, 352 жыхары, на вугальным з-дзе — 6 двароў 40 жыхароў. У 1917 г. на з-дзе Старэва 113 двароў, 662 жыхары. У 1917 г. адкрыта школа. З лютага да снеж. 1918 г акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У пач. 1920-х г. на з-дзе Старэва пачала працаваць хата-чытальня, у вёсцы — 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г цэнтр сельсавета. У 1926 г. засценак (29 двароў, 137 жыхароў) і заводскі пасёлак (60 двароў, 184 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Другая пяцігодка», які з 1934 г. абслугоўвала Кучынская МТС. У канцы 1930-х г. 4-гадовая школа пераўтворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 28 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі тут дзейнічала антыфаш. група. 23.2.1943 г гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 43 жыхары, якія пахаваны на паўн. ускраіне вёскі. Пасля вайны в. Старэва адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў



Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Амговіцкім с/с. У 1959 г. вёска, 39 жыхароў. У 1970 г. 13 жыхароў. З 1973 г. ў складзе калгаса «Краіна Саветаў». У 1986 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Радзіма бел. крытыка і літаратуразнаўца С.К.Майхровіча (1908—81).

**СТРОХАВА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вясейка (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Асіповічы—Нясвіж. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 13 двароў, 135 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска ва ўладанні памешчыка А.Сцейноўскага. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой вучыліся 10 хлопчыкаў. У 1917 г. 34 двары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. У 1926 г. вёска, 37 двароў, 217 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Гай», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 сямей, меў 87 дзес. ворыва, 172 дзес. сенажаці. У 1940 г. 20 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 7 вяскоўцаў, загубленых акупантамі. Пасля вайны Строхава адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. 268 жыхароў. У 1970 г. 245 жыхароў. У 1986 г. 58 гаспадарак, 140 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), магазін. З 1.11.1996 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**СЦЯПКОВА** — вёска ў Грэскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Нясвіж—Асіповічы. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў (2012).

Вядома з 1591 г. як сяло ў складзе маёнтка Грэск Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 99 жыхароў, капліца, гаспадарскі дом, вінакурня, цагельны з-д, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 57 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. З 1880 г. працавала школа граматы. У 1897 г. сяло (37 двароў, 112 жыхароў, магазін) і засценак (7 двароў, 54 жыхары) у Грэскай вол. У 1917 г. ў сяле 69 двароў, 416 жыхароў, у маёнтку 26 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Грэскім с/с. У 1926 г. вёска (58 двароў, 304 жыхары) і хутар (1 двор, 5 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акру-





зе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. пасёлак (314 жыхароў) і хутар (4 жыхары). У 1970 г. вёска, 255 жыхароў. У 1986 г. 55 гаспадарак, 131 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, млын, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. СВК «Грэск-Агра», з 12.6.2009 г. — філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Грэск» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма.

**СЯРАГІ** — вёска, цэнтр Сяражскага с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 240 гаспадарак, 557 жыхароў (2012).

Вядома з 1582 г. як с. Шастакі ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, уласнасць кн. Аляксандра Юр'евіча Алелькавіча. У 1600 г. с. Шастакі (яно ж Серагі) у Іванькаўскай вол., 18 валок. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. У 1792 г. 42 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 44 двары, 186 жыхароў, карчма, уласнасць Д.Радзівіла. У 1852 г. ў складзе казённага маёнтка Выбранецкае, 60 двароў, карчма. У 1890 г. ў школах граматы, якія дзейнічалі ў вёсцы, навучаліся 30 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. 107 двароў, 604 жыхары, царква, магазін. У 1911 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1917 г. 144 двары, 841 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.— ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. Восенню 1919 г. ў час польскай акупацыі дзейнічала падп. камуністычная ячэйка, быў створаны партыз. атрад у складзе 28 жыхароў вёсак Варкавічы і Сярагі. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. вёска, 160 двароў, 829 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Рухавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 88 сямей, меў 480 дзес. ворыва, 95 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працавалі 2 ветраныя млыны і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 922 жыхары. У 1966 г. ў цэнтры вёскі, каля школы, устаноўлены помнік 86 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1970 г. вёска, 832 жыхары. У 1986 г. цэнтр калгаса імя Куйбышава, 285 гаспадарак, 725 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, 2 млыны, сокавы з-д, ветэрынарны ўчастак, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, пілярама, дрэваапрацоўчыя майстэрні, дзіцячы сад, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 2 магазіны, грамадская лазня, спарт. комплекс. 31.7.2003 г. калгас імя Куйбышава рэарганізаваны ў СВК «Сярагі-Агра», які 12.2.2004 г. далучаны да СВК «Аграфірма «Лучнікі». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны; Пакроўская царква (2005). Населены пункт мае развітую рэгулярную планіровачную структуру з прамавугольнай сеткай вуліц. Гал. вуліца — цэнтральная — абмяжоўвае тэр. вёскі з ПдЗ. Паралельна і перпендыкулярна да яе ідуць некалькі вуліц з традыц. драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Дзве новыя вуліцы забудаваны сучаснымі мураванымі 1- і 2-павярховымі жылымі да-



мамі шматкватэрнымі і тыпу катэджаў. Гасп. сектар – на З. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну С.Р.Вайцаховіча (1903–77); ген.-лейт. В.В.Шахновіча (1922–83); Героя Сацыяліст. Працы С.І.Шклярэўскага (н. ў 1928).

**ТАКОВІШЧА** – вёска ў Першамайскім с/с, за 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Бабруйск. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Вядома з 1885 г. як засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. У 1909 г. засценкі Вялікія Таковішчы (9 двароў, 38 жыхароў) і Малыя Таковішчы (4 двары, 20 жыхароў). У 1917 г. Вялікія Таковішчы (12 двароў, 87 жыхароў) і Малыя Таковішчы (8 двароў, 54 жыхары). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Гольчыцкім (у 1931 г. перайменаваны ў Першамайскі) с/с. У 1926 г. вёскі: Вялікія Таковішчы (15 двароў, 78 жыхароў) і Малыя Таковішчы (9 двароў, 50 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. тут створаны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёскі: Вялікая Такоўшчына (99 жыхароў) і Малая Такоўшчына (62 жыхары), у 1966 г. яны аб'ядналіся ў адну вёску. У 1970 г. 135 жыхароў. У 1986 г. 30 гаспадарак, 59 жыхароў. З 10.4.2003 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіроўка Г-падобная. Гал. мерыдыянальна арыентаваная вуліца забудавана пераважна з зах. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАЛІЦА** – вёска ў Вясейскім с/с, за 19 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярозаўка (прыток р. Таліца), на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Бабруйск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Вядома з 1852 г. як хутар у складзе казённага маёнтка Выбранецкае Слуцкага павета Мінскай губ. У 1890 г. тут адкрылася школа граматы, у якой вучылася 6 хлопчыкаў. У 1897 г. засценак, 12 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 82 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Мялешкавіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 13 двароў, 73 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 сямей, меў 54 дзес. ворыва, 36 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 67 жыхароў. З 10.5.1960 г. ў Вясейскім с/с. У 1970 г. 48 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы адвольна пастаўлены ўздоўж 2 кароткіх вуліц, якія разыходзяцца ў розных напрамках.




**ТАНЕЖЫЦЫ** – вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Рачкавіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк–Брэст. 232 гаспадаркі, 540 жыхароў (2012).

За 1 км на У ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 112 двароў, 441 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ва ўладанні кн. П.Вітгенштэйна. У 1862 г. і 1885 г. адкрыты 2 школы граматы; у 1890 г. ў іх вучыліся 24 хлопчыкі. У 1897 г. вёска (79 двароў, 577 жыхароў, 2 капліцы, крама) і засценак (71 двор, 236 жыхароў) у Чапліцкай вол. У 1917 г. ў вёсцы 113 двароў, 679 жыхароў, у засценку 82 двары, 442 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германії. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. – 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Чапліцкім с/с. У 1926 г. засценак (103 двары, 455 жыхароў) і вёска (126 двароў, 680 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Майскі прамень». У 1931 г. пачала працаваць Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 5 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. цэнтр Танежыцкага с/с. У 1959 г. вёска, 789 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1964 г. з саўгаса «Рачкавічы» вылучаны саўгас «Танежыцы». У 1970 г. 806 жыхароў. У 1974 г. ў цэнтры вёскі, каля будынка школы ўстаноўлены помнік 197 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1986 г. цэнтр саўгаса «Танежыцы», 288 гаспадарак, 760 жыхароў, жывёлагадоўчы комплекс, млын, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесанарыхтоўчае прадпрыемства, дзіцячы сад, сярэдняя школа (16 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, АТС, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 3 магазіны, сталовая, гасцініца, грамадская лазня. 14.12.2001 г. саўгас «Танежыцы» рэарганізаваны ў КСУП «Эксперыментальная база «Танежыцы». У 2013 г. – жывёлагадоўчы комплекс, піларама, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і ААТ «ААБ Беларусбанк», 3 магазіны, сталовая. Гіст. планіроўка лінейная. Гал. вуліца з завулкамі арыентавана з ПдЗ на ПнУ пад вострым вуглом да мясц. дарогі. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. На паўн. ускраіне сфарміраваны адм.-грамадскі цэнтр. Тут жа ўзведзены 2- і 3-павярховыя шматкватэрныя дамы і катэджы. Гасп. сектар – на Пн і У. Радзіма ген.-лейт. Д.А.Гапановіча

*Пакроўская царква ў в. Сярагі.*





(1896—1952), бел. вучонага ў галіне патафізіялогіі і тэарэтычнай медыцыны А.Ю.Бранавіцкага (1914—75), бел. мовазнаўца, доктара філалагічных навук, праф. П.П.Шубы (1926—2000).

**ТАРАСАЎКА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 39 км на ПнУ ад чыг. ст. і горада Слуцк, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 6 двароў, 32 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Стараўскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 6 двароў, 32 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, створаны ў в. Гутніца. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Амговіцкім с/с, 24 жыхары. У 1970 г. 9 жыхароў. У 1986 г. пасёлак, 2 гаспадаркі, 3 жыхары. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с.

**УЛАНАВА** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2012).

Вядома з 1858 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Грэскай вол., 14 двароў, 114 жыхароў. У 1917 г. вёска (21 двор, 144 жыхары) і хутар (1 двор, 7 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1926 г. вёска (33 двары, 133 жыхары) і хутар (1 двор, 9 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Уперад», які абслугоўвала Слуцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 16 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 174 жыхары. У 1961 г. да вёскі далучаны пас. Захараўка. У 1970 г. 169 жыхароў. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 108 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Гасп. сектар — на З.

**УЛЬЯНАЎКА** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк і Нясвіж—Асіповічы, якія праходзяць каля вёскі. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Засн. ў 1920-я г. ў Грэскім с/с Грэскага р-на Мінскай акругі. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З

20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 100 жыхароў. У 1970 г. 72 жыхары. У 1986 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**УЛЬЯНАЎКА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 22 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да в. Лядна і далей па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 17 гаспадарак, 39 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. пасёлак, 11 двароў, 49 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 74 жыхары. У 1986 г. вёска, 27 гаспадарак, 60 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Раманава». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. У 2013 г. — дом сац. паслуг. Дзве кароткія вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі (адна з іх на значнай адлегласці — б. в. Маргі) забудаваны двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСТРАНЬ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Слуцк, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Мікашэвічы, якая праходзіць каля вёскі. 26 гаспадарак, 29 жыхароў (2012).

Вядома з 1858 г. як фальварак у Слуцкім павеце Мінскай губ., 7 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 17 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Цараўскім (у 1935 г. перайменаваны ў Кіраўскі) с/с. У 1926 г. засценак, 9 двароў, 43 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 144 жыхары. У 1961 г. далучана в. Новыя Маргі. У 1970 г. 163 жыхары. У 1986 г. 45 гаспадарак, 78 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Слуцкая Ніва». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, дом сац. паслуг. Планіроўка лінейная. Вуліца мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай, і забудавана пераважна з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Гасп. сектар — на У.

**УСХОД** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 18 км на З ад Слуцка, 2 км ад чыг. ст. Серадzнякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 63 жыхары. З 9.6.1927 г. да



26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 73 жыхары. У 1970 г. 59 жыхароў. У 1986 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі падыходзіць пад вострым вуглом да чыгункі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**УШАЛОВІЧЫ** — вёска ў Бокшыцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па Слуцкай акружной шашы. 30 гаспадарак, 52 жыхары (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 18 двароў, 87 жыхароў, уласнасць Радзівілаў. У 1858 г. вёска, 42 жыхары мужчынскага полу і маёнтак, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. ў Грэскай вол., 30 двароў, 181 жыхар, магазін. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 221 жыхар, у маёнтку 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Бокшыцкім с/с. У 1925—26 гг. частка жыхароў перасялілася ў пасёлкі Уланава і Захараўка. У 1926 г. вёска, 45 двароў, 240 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 сям'і, меў 305 дзес. ворыва, 75 дзес. сенажаці. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 231 жыхар. У 1970 г. 245 жыхароў. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 124 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, клуб. З мая 2009 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі «Наша Ніва» ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Радзіма бел. літаратуразнаўца і педагога, акадэміка НАН Беларусі, чл.-кар. Акадэміі пед. навук СССР, доктара філалагічных навук, праф. М.А.Лазарука (1926—2000).

**ХІНОЛАЎКА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 36 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам і цячэ ручай, злучаны з р. Вялікая Сліва (прыток р. Случ). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2012).

Вядома з 1897 г. як пасёлак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 8 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 103 жыхары. У 1917 г. 26 двароў, 136 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 29 двароў, 136 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 106 жыхароў, у 1970 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 14 гаспадарак, 16 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана амаль шыротна і забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.





**ХЛЕБНЫ КЛІН** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 14 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2012).

Вядомы з 1909 г. як урочышча ў Раманаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 1 двор, 2 жыхары. У 1917 г. хутар, 1 двор, 6 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 77 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1970 г. пасёлак, 41 жыхар. У 1986 г. 9 гаспадарак, 24 жыхары. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — у складзе с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХОРАШАВА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 31 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Вядома з 1897 г. як пасёлак у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 11 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. 20 двароў, 96 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 22 двары, 108 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. на базе зямельнага т-ва «Хорашава» быў створаны калгас «Чырвонае Хорашава», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 сям'і, меў 170 дзес. ворыва і 72 дзес. сенажаці. У 1940 г. 23 двары, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі 22 двары. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска, 103 жыхары. У 1970 г. 144 жыхары. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 51 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 1.4.2004 г. на тэр. вытв. ўчастка філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная, вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ЦАЛЕВІЧЫ** — вёска ў Беліцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 101 гаспадарка, 199 жыхароў (2012).

Вядома з 1566 г. як с. Чалевічы ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 10 служб, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Чапліцкай вол., 234 жыхары мужчынскага полу. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак кн. Вітгенштэйна.



У 1897 г. ў вёсцы 139 двароў, 871 жыхар, магазін, піцейны дом, у маёнтку 13 жыхароў. 1—9.12.1905 г. сяляне правялі самавольную высечку памешчыцкага лесу. У 1909 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 191 двор, 1116 жыхароў, у маёнтку 85 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыты хата-чытальня і 4-гадовая школа, дзейнічаў нар. тэатр. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Акцябрскім с/с. У 1926 г. вёска, 236 двароў, 1107 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1937 г. ў вёсцы дзейнічалі калгасы «Трактар» (47 сямей, 515 дзес. ворыва, 110 дзес. сенажаці) і «Чырвоныя Рэчкі» (55 сямей, 263 дзес. ворыва, 64 дзес. сенажаці), працаваў ветраны млын. Абслугоўвала калгас Слуцкая МТС. З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Акцябрскага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 855 жыхароў. У 1970 г. 735 жыхароў. У 1986 г. 190 гаспадарак, 367 жыхароў, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, магазін. З 16.7.2003 г. на тэр. ААТ «Вітко-Агра». З 2013 г. ў Беліцкім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пд.

**ЦІХАНЬ** — вёска ў Сорагскім с/с, за 33 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на З цячэ р. Ніжняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2010).

Вядома з 1909 г. як засценак Ціхонь у Горкаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. засценак (13 двароў, 67 жыхароў) і хутар (1 двор, 9 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Стараўскім с/с. У 1926 г. засценак (18 двароў, 77 жыхароў) і хутар (1 двор, 8 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Амговіцкім с/с, 108 жыхароў. У 1970 г. 38 жыхароў. У 1986 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. З 30.10.2009 г. ў Сорагскім с/с. Традыц. драўляныя сял. сядзібы адвольна пастаўлены абапал кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ЦЯРАСПАЛЬ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2012).

Вядома з 1870 г. як маёнтак у Раманаўскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ. Па перапісу 1897 г. 36 жыхароў. У 1899 г. засн. вытв-сць па вырабе крухмалу, працаваў паравы млын (у 1900 г. 5 рабочых). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. —

ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім с/с. У 1926 г. пасёлкі: Цяраспаль (22 двары, 119 жыхароў) і Цяраспаль Новы (4 двары, 13 жыхароў). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1928 г. створаны малочная арцель «Новае жыццё», потым — калгас імя Ботвіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 сямей, меў 294 дзес. ворыва, 60 дзес. сенажаці, працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. вёска ў Ленінскім с/с, 128 жыхароў. У 1970 г. 119 жыхароў. У 1986 г. 47 гаспадарак, 124 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, клуб, магазін. З 2013 г. ў Знаменскім с/с. Планіровачна скаладаецца з 2 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы А.П.Вашкевіча (1930—2001).

**ЧАЙЧЫЦЫ** — пасёлак у Рачкавіцкім с/с, за 19 км на З ад горада і чыг. ст. Слуцк, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2012).

Вядомы з 1897 г. як засценак у Чапліцкай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 11 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. 14 двароў, 82 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. У 1926 г. засценак, 15 двароў, 60 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 18 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Размешчаны млын. Кароткая вуліца блізкай да шыротнай арыентацыі забудавана з паўд. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАПЛІЦЫ** — вёска ў Рачкавіцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 71 гаспадарка, 124 жыхары (2012).

Вядома з 1788 г. як вёска ў складзе маёнтка Івань Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 40 двароў, засценак (2 двары), карчма, уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 47 двароў, 257 жыхароў, Георгіеўская царква, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1817 г. на сродкі сяльчан узведзены новы будынак царквы. У 1872 г. адкрыта нар. вучылішча, якое ў 1884 г. наведвалі 44 хлопчыкі, у 1892 г. — 62 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. сяло (95 двароў, 509 жыхароў, школа, магазін) і маёнтак (20 двароў, 142 жыхары). У гэтым жа годзе пабудавана драўляная царква Аляксандра Неўскага. У 1917 г. сяло, 156 двароў, 884 жыхары, 2 царквы, 3 карчмы, фельч. пункт, 2 кузні, 3 ветраныя млыны. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, 7-га-



довая школа, дзейнічалі б-ка, культ.-асветніцкі гурток, нар. тэатр. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 165 двароў, 831 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», які з 1931 г. абслугоўвала Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 57 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Танежыцкім с/с. У 1959 г. вёска, 623 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 538 жыхароў. У 1986 г. 145 гаспадарак, 327 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, млын, лесанарыхтоўчае прадпрыемства, клуб, магазін, грамадская лазня. З 14.12.2001 г. на тэр. КСУП «Эксперыментальная база «Танежыцы». У 2013 г. — 3 жывёлагадоўчыя фермы, магазін. Аснову планіроўкі складае вуліца з крывалінейнай трасай амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Перпендыкулярна да яе ідуць 3 кароткія вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Гасп. сектар — на У. Радзіма бел. пісьменніка і мовазнаўца М.Лобана (1911—84).

**ЧАПЛІЦЫ** — пасёлак у Рачкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чырвоная Слабада—Пагост 1. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2012).

Узнік у 19 ст. як пасёлак у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1872 г. тут адкрыта нар. вучылішча. У 1897 г. 20 двароў, 142 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 177 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Чапліцкім с/с. У 1926 г. пасёлак, 40 двароў, 203 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. жыхары пасёлкаў Чапліцы і Пятніцы стварылі калгас «Прагрэс», які з 1931 г. абслугоўвала Танежыцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Танежыцкім с/с. У 1959 г. 109 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Слуцкім р-не. З 1.12.1959 г. ў Рачкавіцкім с/с. У 1970 г. 105 жыхароў. У 1986 г. 30 гаспадарак, 64 жыхары, магазін. З 14.12.2001 г. на тэр. КСУП «Эксперыментальная база «Танежыцы». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных вуліц шыротнай арыентацыі. Адна з іх мае двухбаковую, другая — аднабаковую (з паўн. боку) драўляную забудову сядзібнага тыпу.

**ЧЫЖОЎКА** — вёска ў Беліцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Дзявіца (прыток р. Сівельга). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Мікашэвічы. 76 гаспадарак, 137 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 42 двары, 222 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 166 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна. У 1897 г. 89 двароў, 533 жыхары, капліца, кузня, магазін, харчэўня. У 1913 г. адкрыта школа. У 1917 г. 105 двароў, 699 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г.

ў Беліцкім с/с. У 1926 г. вёска, 123 двары, 646 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Вольная праца», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 739 жыхароў. У 1970 г. 585 жыхароў. У 1986 г. 146 гаспадарак, 320 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін. З 3.4.2004 г. на тэр. ААТ «Белічы». Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц шыротнай арыентацыі. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ НІВА** — пасёлак у Знаменскім с/с, за 17 км на З ад Слуцка, 2 км ад чыг. ст. Серадзякі на лініі Слуцк—Баранавічы, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Сераднякоўскім (у 1973 г. перайменаваны ў Знаменскі) с/с. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 43 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 59 жыхароў. У 1970 г. 61 жыхар. У 1986 г. 15 гаспадарак, 34 жыхары. З 16.7.2003 г. на тэр. СВК «Знаменскі», з 20.7.2008 г. — с.-г. філіяла ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Планіроўка лінейная. Вуліца мае арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай, і пад вострым вуглом падыходзіць да чыгункі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ЧЫРВОНАЯ СТАРОНКА** — вёска ў Сорагскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на З цячэ р. Сярэдняя Вясейка (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2012).

Засн. перасяленцамі з суседніх вёсак у пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Амговіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная старонка». У 1940 г. 29 двароў, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1943 г. гітлераўцы спалілі тут 24 двары, загубілі 75 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 73 жыхары. У 1970 г. 65 жыхароў. З 1974 г. ў складзе калгаса «Краіна Саветаў». У 1986 г. 13 гаспадарак, 34 жыхары, жывёлагадоўчая ферма. Планіроўка лінейная. Вуліца з крывалінейнай трасай арыентавана з ПдЗ на ПнУ і няшчыльна забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШАЛАВІЧЫ** — вёска ў Знаменскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 125 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст. 54 гаспадаркі, 97 жыхароў (2012).

Вядома з 1800 г. як вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 40 двароў, 191 жыхар, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. 136 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1897 г. 85 двароў, 494 жыхары, капліца, магазін. У 1909 г. ў Раманаўскай вол., 87 двароў, 541 жыхар. З лютага



да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Ленінскім с/с. У 1926 г. вёска, 91 двор, 453 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 сямей, меў 285 дзес. ворыва, 160 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. пасёлак, 330 жыхароў. У 1970 г. вёска, 315 жыхароў. У 1986 г. 78 гаспадарак, 183 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, млын, клуб, магазін. З 26.6.2003 г. на тэр. ААТ «Падлессе». З 2013 г. ў Знаменскім с/с. Аснову планіроўкі складае вуліца з крывалінейнай трасай, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ. Ад яе адыходзяць завулкі. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШАНТАРОЎШЧЫНА** – вёска ў Першамайскім с/с, за 34 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ р. Худра (прыток р. Вясейка). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Нясвіж–Асіповічы. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2012).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. засценак у Грэскай вол. Слуцкага павета Мінскай губ., 2 двары, 13 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. У 1926 г. 16 двароў, 77 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1931 г. створаны калгас «8 Сакавіка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі з чэрв. 1943 г. да вызвалення гэтай тэр. базіраваліся партыз. атрады імя С.М.Будзённага (у яго гонар на паўн. ускраіне вёскі ў 1975 г. ўстаноўлена стэла), імя Ф.Э.Дзяржынскага (у яго гонар за 3 км на Пн ад вёскі ў 1975 г. ўстаноўлена стэла), 95-й брыгады імя М.В.Фрунзэ. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Першамайскім с/с. З 17.12.1956 г. зноў у Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 125 жыхароў. У 1970 г. 110 жыхароў. У 1986 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 1.11.1996 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі Аграсэрвіс». Планіроўка бессістэмная. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены адвольна.

**ШВЯДЫ** – вёска ў Гацукоўскім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Асіповічы–Нясвіж, якая праходзіць каля вёскі. 25 гаспадарак, 45 жыхароў (2012).

У 1858 г. вёска ў Слуцкім павеце Мінскай губ., 21 жыхар мужчынскага полу, уласнасць кн. Л.Радзівіла. У гэтым жа годзе адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 5 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. ў Грэскай вол., 16 двароў, 128 жыхароў. У 1917 г. вёска (29 двароў, 170 жыхароў) і хутар (1 двор, 6 жыхароў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. – ліп. 1920 г. і ў кастр.–ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1923 г. адкрыта хата-чытальня.





З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Апалінскім, з 21.10.1924 г. ў Палікараўскім сельсаветах. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 сямей, меў 256 дзес. ворыва, 150 дзес. сенажаці, працавалі 2 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 225 жыхароў. У 1970 г. 185 жыхароў. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 101 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З 1989 г. на тэр. РСУП «Саўгас «Слуцк». З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. У 2013 г. — 2 жывёлагадоўчыя фермы. Планіроўка лінейная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ пад вуглом да шашы. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**ШУЛЯКІ** – вёска ў Грэскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць каналы, злучаныя з р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Слуцк. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2012).

Вядома з 1589 г. як сяло ў Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1783 г. ў складзе маёнтка Івань, уласнасць К.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 41 жыхар мужчынскага полу, уладанне кн. Вітгенштэйна. З 1872 г. працавала школа граматы, якую ў 1890 г. наведвалі 12 хлопчыкаў. У 1897 г. ў Грозаўскай вол., 77 двароў, 464 жыхары, капліца. У 1917 г. 88 двароў, 477 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Мусіцкім с/с. У 1926 г. 99 двароў, 450 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 сямей, меў 251 дзес. ворыва, 76 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. 330 жыхароў. У 1970 г. 233 жыхароў. З 5.2.1974 г. ў Маяцкім с/с. У 1986 г. 57 гаспадарак, 103 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін. З крас. 2008 г. на тэр. філіяла падсобнай сельскай гаспадаркі ААТ «Слуцкі мясакамбінат». З 2013 г. ў Грэскім с/с. Планіроўка лінейная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю. Да яе далучаюцца завулкі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ШЫШЧЫЦЫ** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 24 км на Пн ад горада і чыг. ст. Слуцк, 78 км ад Мінска, на перакрыжаванні шашэйных дарог Мінск—Слуцк і Нясвіж—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, праз вёску цячэ р. Жалязніца (прыток р. Случ). 139 гаспадарак, 353 жыхары (2012).

Вядома з 1590 г. як сяло ў складзе маёнтка Грэск Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ, 18 валок зямлі. У 1722 г. 17 двароў, уласнасць кн. М.Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 24 двары, 125 жыхароў, уласнасць Д.Радзівіла. У 1858 г. 109 жыхароў мужчынскага полу. У 1868 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. в. Шмічыцы (яна ж Шымчыцы) у Грэскай вол.,



68 двароў, 442 жыхары, царква, магазін, тытунёвая лаўка. У 1909 г. 73 двары, 450 жыхароў. У 1917 г. 97 двароў, 558 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1921 г. ў выніку пажару ў вёсцы згарэла вял. колькасць дамоў. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1924 г. — 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 31 двор, 160 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. ў Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. ў Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 сямей, меў 319 дзес. ворыва, 202 дзес. сенажаці, працаваў ветраны млын. Абслугоўвала калгас Слуцкая, з 1935 г. — Грэская МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Грэскім с/с. У 1959 г. 568 жыхароў. У 1970 г. 497 жыхароў. У 1986 г. цэнтр саўгаса «16 партз'езд», 176 гаспадарак, 442 жыхары, 2 жывёлагадоўчыя фермы, млын, радыёрамонтная станцыя, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), дзіцячы сад, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, АТС, комплексны прыёмны пункт, сталовая, аддз. сувязі, 4 магазіны. З 1989 г. на тэр. РСУП «Саўгас «Слуцк». З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, гандлёвы цэнтр, магазін, сталовая, кафэ. Аснову гіст. планіроўкі складаюць 2 паралельныя вуліцы па абодва бакі ракі, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ пад вуглом да шашэйных дарог. Забудова статаж. вуліц традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы, што склаліся каля ракі, паралельна да старых, забудаваны сучаснымі мураванымі 1-павярховымі дамамі тыпу катэджаў. Уздоўж шашы Асіповічы—Нясвіж склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на З.



*Жывёлагадоўчая ферма ў пас. Юлісіна.*

**ЮЛІСІНО** — пасёлак у Рачкавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 119 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць канал, злучаны з р. Воўка (прыток р. Морач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слуцк—Брэст, якая праходзіць каля вёскі. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2012).

Вядомы з 1897 г. як фальварак у Чапліцкай вол. Слуцкага павета, 37 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. У 1921 г. 2 двары, 21 жыхар. З 17.7.1924 г. ў Чырвонаслабодскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Малышэвіцкім с/с. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 76 жыхароў. У 1970 г. 62 жыхары. У 1986 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма. Плані-





*Народны ансамбль «Ячаўскія вячоркі».*

*Даільная зала малочнатаварнай фермы ў в. Ячава.*

роўка лінейная. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з усх. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯЎЛАДАВІЧЫ** — вёска ў Гацукоўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Слуцк, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Асіповічы—Нясвіж, якая праходзіць каля вёскі. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2012).

Вядома з 1537 г. як сяло ў Грэскай вол. Навагрудскіх павета і ваяв. ВКЛ. У 1590 г. 5 валок. У 1654 г. 11 двароў, уласнасць Радзівіла. З 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў, 77 жыхароў. У 1897 г. в. Еўладавічы (яна ж Кругліца), 9 двароў, 79 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 95 жыхароў, у маёнтку 77 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. З 17.7.1924 г. ў Грэскім р-не Слуцкай акругі. З 20.8.1924 г. ў Шышчыцкім с/с. У 1926 г. вёска (19 двароў, 91 жыхар) і пасёлак (21 двор, 104 жыхары). З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе. З 8.7.1931 г. ў Слуцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Грэскім р-нах. З 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акрузе. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Грэскім с/с. З 17.12.1956 г. ў Слуцкім р-не. У 1959 г. вёска, 94 жыхары. У 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў. З 1989 г. на тэр. РСУП «Саўгас «Слуцк». З 2013 г. ў Гацукоўскім с/с. У 2013 г. — дом сац. паслуг. Планіроўка лінейная. Кароткая вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ, забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯЧАВА** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 3 км на У ад горада і чыг. ст. Слуцк, 102 км ад Слуцка. Рэльеф раўнінны, на Пн і З цячэ р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па Слуцкай акружной шашы, якая праходзіць каля вёскі. 227 гаспадарак, 382 жыхары (2012).

Вядома з 1732 г. як с. Ячава (яно ж Плебанцы) у Навагрудскіх павеце і ваяв. ВКЛ, 11 двароў, уладанне Слуцкага касцёла. У 1791 г. ў Случарэцкім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Слуцкім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 20 двароў, 115 жыхароў, фальварак і гаспадарскі дом. У 1858 г. 101 жыхар мужчынскага полу, цэнтр казённага маёнтка. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой навучаліся 15 хлопчыкаў. У 1897 г. 86 двароў, 406 жыхароў, школа, капліца, магазін, піцейны дом. У 1900 г. адкрыта другая школа граматы. У 1917 г. ў в. Ячава-Плябанцы, 97 двароў, 591 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана



польскім корпусам Доўбар-Мусніцкага, войскамі кайзераўскай Германіі. З 1919 г. ў БССР. У жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. і ў кастр.—ліст. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня і 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Слуцкіх р-не і акрузе. З 20.8.1924 г. ў Казловіцкім с/с. У 1926 г. вёска, 109 двароў, 581 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай, з 21.6.1935 г. зноў у Слуцкай акругах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 45 сямей, меў 219 дзес. ворыва, 97 дзес. сенажаці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінуў 71 вясковец. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 15 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай вобл. У 1959 г. 804 жыхароў. У 1970 г. 747 жыхароў. У 1986 г. 215 гаспадарак, 546 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, магазін. З 14.8.2003 г. на тэр. СВК «Казловічы». У 2013 г. — жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіровачная структура прамавугольная з развітой сеткай кварталаў. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на З. Радзіма бел. хірурга, Героя Сацыяліст. Працы, засл. ўрача Беларусі У.Ю.Мірончыка (1915—90).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 2237, 2462, 2487; ф. 30, воп. 1, спр. 6071, воп. 2, спр. 6065, 6071, 6104, воп. 4, спр. 17, воп. 5, спр. 6766, воп. 9, спр. 2391; ф. 42, воп. 1, спр. 141, 208, 665, 908, 919, 988, воп. 2, спр. 665, 1147, 1149—51, 1154, 1157, 1231, 1242, 1276, 1280, 1283, 1287, 1289, 1291, 1293, 1345, 1354, 1357, 1365, 1373, 1378, 1384, 1386, 1399, 1401, 5152, 5222, 5252, 5286, 5300, 5307; ф. 338, воп. 1, спр. 322.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 360, 1694, 1767; ф. 27, воп. 3, спр. 382, воп. 5, спр. 382—84, 425, 426; ф. 42, воп. 2, спр. 1295, 1359, 5287; ф. 76, воп. 1, спр. 228; ф. 142, воп. 1, спр. 1506—08; ф. 183, воп. 1, спр. 10411, воп. 2, спр. 477; ф. 221, воп. 1, спр. 192; ф. 242, воп. 2, спр. 1977; ф. 295, воп. 1, спр. 1788; ф. 299, воп. 1, спр. 106; ф. 299, воп. 1, спр. 106; ф. 333, воп. 1, спр. 2140, воп. 2, спр. 2141, воп. 9, спр. 1173, 1197; ф. 694, воп. 1, спр. 3017, воп. 2, спр. 1599, 1603, 3017, 6338, 7381, воп. 3, спр. 1599, 1600, воп. 4, спр. 5696, воп. 7, спр. 934; ф. 1350, воп. 312, спр. 89; ф. 1727, воп. 1, спр. 12.
Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 6, воп. 1, спр. 2487; ф. 23, воп. 2, спр. 76, 86; ф. 1685, воп. 1, спр. 24, 105; ф. 1865, воп. 1, спр. 1, 25, 56, 62, 64, 105, 108, 118, 119, 123, 126; ф. 1930, воп. 1, спр. 7, 19; ф. 1931, воп. 1, спр. 531, 585; ф. 1939, воп. 1, спр. 67; ф. 1962, воп. 1, спр. 1, 3; ф. 1964, воп. 1, спр. 1; ф. 1965, воп. 1, спр. 105; ф. 1973, воп. 1, спр. 1.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 445, воп. 1, спр. 1059; ф. 1280, воп. 1, спр. 2148.
Рэспубліканскі архіў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 43, спр. 16394, 16535.
Дзяржаўны архіў старажытных актаў у Варшаве, архіў Радзівілаў, ф. 8, спр. 519; ф. 25, спр. 4523.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, 1336; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Минские губернские ведомости. 1861. № 32. Прибавление.
Зеленский И. Материалы по географии и статистике России. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1864.
Историко-статистическое описание Минской епархии. Санкт-Петербург, 1864.
Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Минск, 1870.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Минск, 1877.
Статистические сведения о церквах и причтах Минской епархии. Минск, 1880.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1884/85 учебный год. Вильна, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Санкт-Петербург, 1886.
Справочная книга и спутник по Минской губернии. Минск, 1889.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год.
Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1894.
Памятная книжка Виленского учебного округа. Вильна, 1901.
Глебов И. Историческая записка о Слуцкой гимназии. Вильна, 1903.
Историко-статистическая справочная книга Минской епархии. Минск, 1903.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Минск, 1905.
Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.
Список населенных мест Минской губернии в алфавитном порядке селений на каждой области. Минск, 1912.
Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.
Список фабрик и заводов Российской империи. Санкт-Петербург, 1914.
Памятная книжка Минской губернии на 1917 г. Минск, 1917.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Минск, 1924.
Вся Белоруссия. Справочная книга на 1925 г. Минск, 1925.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Мінск, 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мінск, 1936.
Раёны БССР. Мінск, 1936.
Белоруссия в борьбе против польских захватчиков в 1919–1920 гг. Ленинград, 1940.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–17 гг.). Минск, 1953.
Крестьянское движение в России в 1881–89 гг. М., 1960.
Крестьянское движение в России в 1861–69 гг. М., 1964.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918–20 гг. Минск, 1968.
Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Минск, 1973.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии. 1860–1900. Минск, 1978.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. Минск, 1984.
Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Минск, 1985.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Минск, 1985.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 2. Минск, 1987.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кн. 2. Мінск, 1987.
Памяць: Слуцкі раён. Кн. 1. Мінск, 2000.
Памяць: Слуцкі раён. Кн. 2. Мінск, 2001.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Мінск, 2001.
Кулагін А.М.Праваслаўныя храмы Беларусі. Мінск, 2007.
Большой белорусский энциклопедический словарь. Минск, 2012.



# СМАЛЯВІЦКІ РАЁН



*Рака Пліса.*

Размешчаны ў цэнтр. частцы Мінскай вобл. Цэнтр — г. Смалявічы. Мяжуе з Барысаўскім, Чэрвеньскім, Мінскім, Лагойскім р-намі. Пл. 1,4 тыс. км². Насельніцтва (на 1.1.2012 г.) 42,8 тыс. чал. (без г. Жодзіна); гар. 33,9%. Сярэдняя шчыльнасць 31 чал. на 1 км². Асн. насельніцтва беларусы (90,7%), жывуць таксама рускія (6,6%), украінцы (1,1%) і інш. (1,7%). На тэр. раёна знаходзіцца горад абл. падпарадкавання Жодзіна. У склад раёна ўваходзяць р.п. Зялёны Бор, 190 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 9 сельсаветаў: Азярыцкаслабодскі, Драчкаўскі, Жодзінскі, Забалоцкі, Зеленаборскі, Курганскі, Пекалінскі, Пліскі, Усяжскі. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка і аўтамагістраль Брэст—Масква; аўтадарогі на Смілавічы, Лагойск, Чэрвень і інш. На тэр. раёна знаходзіцца Нац. аэрапорт Мінск.

Утвораны 17.7.1924 г. ў Мінскай акрузе, у якой знаходзіўся да 26.7.1930 г.; 20.8.1924 г. падзелены на 11 сельсаветаў: Верхменскі, Ворацкі, Емяльянаўскі, Жажэльскі, Жодзінскі, Забалоцкі, Клянніцкі, Пліскі, Слабодскі, Смалявіцкі (24.9.1926 г. скасаваны), Юр'еўскі. 18.1.1931 г. далучаны Прылепскі с/с скасаванага Астрашыцка-Гарадоцкага р-на; 8.7.1931 г. — Драчкаўскі і Пятровіцкі сельсаветы скасаванага Смілавіцкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут 6380 чал., спалілі больш за 40 вёсак (з іх в. Карамша не адрадзілася). На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкамы КП(б)Б (13.10.1943—2.7.1944, выдаваў газ. «Смерть фашизму») і ЛКСМБ (30.11.1943—2.7.1944), Смалявіцкая падп. арг-цыя (на торфапрадпрыемстве ў Смалявічах і ў раёне), Мікалаевіцкае камсамольска-маладзёжнае падполле, партыз. брыгады «Смерць фашызму», «Дядзькі Колі», «За Савецкую Беларусь», «Чырвоны Сцяг», «Разгром», асобныя атрады «Артур», «Мясцовыя». Большая частка раёна вызвалена 2.7.1944 г. войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе Мінскай



*Краявіды Смалявіччыны.*

аперацыі 1944 г., але баі з акружанымі ням.-фаш. войскамі ў Мінскім «катле», якія ахoплівалі паўд. частку Смалявіччыны, працягваліся да 8 ліп. 25.12.1962 г. раён скасаваны; г.п. Жодзіна, р.п. Зялёны Бор, Жодзінскі с/с перададзены Барысаўскаму р-ну, Прылепскі і Юр'еўскі сельсаветы — Лагойскаму р-ну, г.п. Смалявічы, Верхменскі, Драчкаўскі, Емяльянаўскі, Забалоцкі, Курганскі, Пятровіцкі, Пліскі, Слабодскі сельсаветы — Мінскаму р-ну. 6.1.1965 г. адноўлены.

Усх. частка раёна ляжыць на Цэнтральнабярэзінскай раўніне, зах. — у межах Мінскага ўзвышша. Рэльеф узгорыста-раўнінны. Пераважаюць вышыні 170—200 м. Найвышэйшы пункт раёна — 266 м — каля в. Карпілаўка. У раёне радовішчы торфу, пясчана-жвіровага матэрыялу, будаўнічых пяскоў, сыравіна для вытв-сці цэглы. Сярэдняя тэмпература паветра ў студз. -6,9 °С, у ліп. 17,9 °С. За год выпадае 645 мм ападкаў. Вегетацыйны перыяд доўжыцца 186 сутак. Па тэр. раёна цякуць рэкі Гайна з прытокам Усяжа; Пліса, Уша, Волма. Ёсць азёры Судабле, Вялікае, Малое, Связец. Створаны вадасховішчы: Пятровіцкае, Смалявіцкае, Дубраўскае, Чарніцкае. Пад лесам 33% тэр. раёна. Найб. лясны масіў каля р.п. Зялёны Бор. Пераважаюць лясы хваёвыя, яловыя, бярозавыя, дубовыя, чорнаальховыя, трапляюцца асінавыя, шэраальховыя, штучныя насаджэнні (каля 21%) пераважна хваёвыя. Пад балотамі знаходзіцца 0,3% плошчы. Найбольшыя балоты Гайна-Бродня, Усяж, Студзёнка, Судабле. У раёне размешчаны біялагічныя заказнікі рэсп. значэння Пекалінскі і Валмянскі; заказнікі мясц. значэння — гідралагічны Гайна-Бродня, батанічныя мікразаказнікі Калюга, Каменка, Маяк, тарфянікі Падастрэўе, Радзем'е, Судабле, Чарот, якія ахоўваюцца.

*Краявіды Смалявіччыны.*



Агульная пл. с-г. угоддзяў 71,4 тыс. га, з іх 14,1 тыс. га асушаных. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мясамалочная жывёлагадоўля, свінагадоўля, авечкагадоўля, птушкагадоўля. Вырошчваюць збожжавыя і зернебабовыя культуры, бульбу; збожжавыя і бульбу на насенне. Працуюць (2012) 55 с.-г. прадпрыемстваў і арг-цый, у т.л. рэсп. даччынае УП «ЖодзінаАграПлемЭліта» Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па жывёлагадоўлі (в. Барсукі), рэсп. с.-г. даччынае УП «Шыпяны-АСК» аддз. агр. навук НАН Беларусі (в. Алесіна), СВК «Першамайскі» філіял ААТ «БелАЗ» (в. Слабада Пекалінскага с/с), раённае с.-г. УП «Пятровічы» (в. Зарэчча Драчкаўскага с/с), ААТ «Смалявіцкі райаграсэрвіс» (в. Крывая Бяроза), прыватнае с.-г. УП «Азярыцкі-Агра» (в. Слабада Азярыцкаслабодскага с/с), прыватнае вытворчае УП «Смалявічы-Сузон», замежнае прадпрыемства «Штотц Агра-Сервіс» (в. Забалоцце Забалоцкага с/с), ААТ «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка» (пас. Акцябрскі), 43 фермерскія гаспадаркі і інш. Дзейнічаюць ААТ «Белдартэхніка» (г. Смалявічы), «Смалявіцкі завод жалезабетонных вырабаў», «Торфабрыкетны завод «Усяж», «Зеленаборскае», «Чырвоны Сцяг» (пас. Чарніцкі), Мінскі абл. тэхнапарк (в. Станок-Вадзіца), ТАА «СарматТэрмаІнжынірынг», «Дарэлектрамаш» (г. Смалявічы), паркет-



ны з-д (г. Смалявічы) — філіял ААТ «Гомельдрэў», філіял №1 ТАА «Завод цеплаабменнага абсталявання» (пас. Усяж). У Жодзіне працуюць Бел. аўтамабільны з-д (БелАЗ), Смалявіцкая ДРЭС. Тут размешчаны навукова-практычныя цэнтры НАН Беларусі па земляробстве і жывёлагадоўлі. Каля в. Емяльянава знаходзіцца адзіная ў Беларусі станцыя спадарожнікавай сувязі «Тэлепорт».

У сістэме адукацыі Смалявіцкі аграрна-тэхн. прафес. ліцэй, раённая гімназія, 18 сярэдніх, 2 базавыя школы, 17 дзіцячых дашкольных устаноў, сацыяльна-пед. цэнтр (пас. Акцябрскі); 4 цэнтры — раённы дзіцячага турызму і краязнаўства, творчасці дзяцей і моладзі, эколага-біялагічны дзяцей і моладзі, карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Працуюць спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву, 2 фізкультурна-аздараўленчыя комплексы; раённая бальніца, 10 фельч.-акушэрскіх пунктаў, участковая бальніца, 8 урачэбных амбулаторый. Дзейнічаюць раённы Цэнтр рамёстваў, раённы арганізацыйна-метадычны цэнтр, гар. Дом культуры, 14 сельскіх дамоў культуры, 4 сельскія клубы, цэнтр. раённая б-ка (з гар. філіялам), 20 сельскіх б-к, 2 дзіцячыя школы мастацтваў, сельская муз. школа мастацтваў. 16 калектываў аматарскай творчасці са званнем «народны» і «ўзорны». У в. Волма санаторый «Зубраня».

У сферы гандлю і абслугоўвання дзейнічаюць 79 магазінаў, у т.л. 54 у сельскай мясцовасці; ААТ «Смалявіцкі камбінат бытавога абслугоўвання», у склад якога ўваходзяць гар. Дом быту і 17 сельскіх комплексных прыёмных пунктаў; Смалявіцкі раённы вузел электрасувязі Мінскага філіяла РУП «Белтэлекам». У раёне 19 рэліг. абшчын: 14 праваслаўнай, 1 каталіцкай, 4 пратэстанцкай канфесій.

На тэр. раёна на 21-м км аўтамагістралі Мінск—Масква ў 1969 г. ўзведзены (у 2004 г. рэканструяваны) велічны мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 1-га, 2-га, 3-га Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага франтоў — удзельнікаў Бел. аперацыі 1944 г. па вызваленні Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў — Курган Славы Сав. Арміі — вызваліцельніцы Беларусі. Помнік прыроды — парк каля в. Шыпяны. Захаваліся 4 гарадзішчы (каля вёсак Іскра, Каменка, Прылепы, Юзафова) — помнікі археалогіі. Помнікі архітэктуры: будынкі бровара



*Падчас святкавання Купалля.*



*Смалявіцкае вадасховішча.*





*Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі.*

*На ўездзе ў г. Смалявічы.*



*М.І.Патаповіч.*

пач. 20 ст. ў в. Алесіна, вадзяны млын гэтага ж перыяду ў в. Высокае, царква Іаана Багаслова сярэдзіны 19 ст. ў в. Дамашаны, Казьмадзям'янаўская царква (1875) у в. Драчкава, Георгіеўская царква (1907) у в. Забалоцце Забалоцкага с/с, Дабравешчанскі манастыр 2-й пал. 18 — 1-й пал. 19 ст. ў в. Малыя Ляды, царква Раства Багародзіцы (1904) у в. Пліса. У в. Алесіна пастаўлены камень-помнік у гонар агранамічнай школы, засн. у 19 ст. Д.Манюшкам. У пас. Ляды нарадзіўся заолаг і падарожнік К.М.Ельскі (1837—96), у в. Пятровічы — этнограф, географ Э.К.Пякарскі (1858—1934), перакладчык Я.Семяжон (1914—90), у в. Юр'ева — бел. археолаг А.М.Ляўданскі (1893—1937), у в. Кальнікі — батанік, акадэмік НАН Беларусі В.Ф.Купрэвіч (1897—1969). Пяцёра ўраджэнцаў раёна ўдастоены звання Героя Сав. Саюза: А.А.Аляхновіч (1914—79, в. Дабраводка), В.К.Зыль (1902—73, б. в. Астраўкі, цяпер у межах в. Лаўля), Я.Р.Слонскі (1896—1943, в. Юр'ева), В.А.Тумар (1919—44, в. Пеліка), В.В.Холад (н. 1936, в. Пятровічы). Поўны кавалер ордэна Славы М.І.Патаповіч (1922—85) нарадзіўся ў в. Старына.

**СМАЛЯВІЧЫ** — горад, цэнтр раёна. За 35 км на ПнУ ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна), чыг. ст. Смалявічы і прыпыначны пункт Зарэчнае на лініі Мінск—Орша, за 2 км ад шашы Мінск—Масква, аўтадарогамі звязаны з Чэрвенем, Лагойскам, Самахвалавічамі, Смілавічамі. 15,3 тыс. чал. (2011).

Упершыню згадваюцца пад назвай Смальнявічы ў 1448 г. як уласнасць крэўскага намесніка Алёхны Судзімонтавіча (Даргіевіча) у складзе ВКЛ. Да 1586 г. маёнтак (панскі дом) і сяло, у якім налічвалася 38 сямей, 40 валок зямлі, меўся млын з 2 коламі, 5 сажалак. Уладальнік Крыштоф Радзівіл выдаў ліст, па якім дазволіў сяліцца тут сваім і прышлым людзям, будаваць дамы і вызваліў іх ад павіннасцей на 16 гадоў. З 1586 г. мястэчка, цэнтр воласці ў Койданаўскім графстве, 63 двары, меліся гандлёвая плошча, царква, 2 карчмы і 5 вуліц («ад Барысава», «ад двара да горада», «ад Мінска», «на могілкі», «ад







*Помнік Святому Валянціну ў г. Смалявічы.*

*Скульптура смалакура ў г. Смалявічы.*

рынку да царквы», дзве апошнія не заселены). У 1640 г. пазначаны як г. Смалявічы (139 двароў), побач аднайменнае сяло (83 дымы) і маёнтак, які складаўся з панскага двара, двара ўрадніка і гасп. комплексу (пякарня, піўніца, турма, бровар, 2 ставы, 5 сажалак). У 1643 г. цэнтр воласці, якая налічвала 16 сёл. Ва ўладанні маёнтка знаходзілася 638,8 валокі с.-г. угоддзяў, 1500 двароў. У 1588 г. 318 двароў, належаў Мікалаю Крыштофу па мянушцы Пярун, у 1660-я г. перайшоў да арандатараў і быў падзелены на некалькі частак. У 1621 г. ў мястэчку 83 двары, у т.л. 13 мяшчанскіх дамоў, дзейнічалі карчма, стайня, меліся 4 вуліцы; у 1643 г. 138 двароў, з іх 15 мяшчанскіх. У 1643 г. ў Смалявіцкую вол. уваходзіла 16 сёл, да маёнтка Смалявічы адносілася 1500 двароў. Мястэчка і наваколле ў 1655—60 гг. было разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу



*Цэнтральная плошча і вуліца Савецкая ў г. Смалявічы.*







*Гарадскі Дом культуры ў г. Смалявічы.*



*Будынак Фонда сацыяльнай абароны ў г. Смалявічы.*

Паспалітай 1654—67 гг. 24.6.1655 г. каля сяла атрад ваяводы вял. палка акольнічага М.Хітрова нанёс паражэнне літ. атраду Я.Радзівіла. У 1665 г. ў мястэчку 100 двароў, у 1669 г. 77 двароў, у 1675 г. 74 дымы. У сяле ў 1665 г. 34 заселеныя двары, 54 двары пуставалі, дзейнічаў млын, у 1675 г. 12 двароў. У 1713 г. ў мястэчку 44 двары, ва ўласнасці жыхароў знаходзіліся 18 коней і 2 валы, у сяле 8 сял. гаспадарак апрацоўвалі 40 валок зямлі. Маёнтак належаў Казіміру Пакошу, з 1760 г. ва ўладанні нашчадкаў Караля Станіслава Радзівіла — пляменнікаў Караля Станіслава і Ераніма Вінуэкта. У 1759 г. Мікалаеўская царква, якая знаходзілася ў карыстанні уніятаў, была перабудавана, у 1755 г. да яе прыбудавана званіца (знесена ў 1909 г.). У 1781 г. ў мястэчку 5 вуліц, 74 двары, каля 450 жыхароў, у вёсцы 18 двароў, каля 140 жыхароў.



*Вуліца Сацыялістычная ў г. Смалявічы.*

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1800 г. ва ўладанні кн. Дамініка Радзівіла, 68 хрысціянскіх і 7 яўр. двароў, 737 жыхароў, драўляная уніяцкая Мікалаеўская царква, млын на р. Пліса. У 1803 г. дзейнічала карчма. У 1806 г. ў мястэчку 90 дамоў. У вайну 1812 г. Смалявічы акупіраваны французскімі войскамі і вызвалены ў ліст. часцямі арміі адмірала П.В.Чычагова. З канца 1820-х г. належалі Вітгенштэйнам, Гагенлоэ. У 1842 г. дзейнічаў шкіпінарны з-д, у пач. 1850-х г. адкрыты хлебазапасны магазін. У 1858 г. ў вёсцы 177 душ. У 1861 г. ў мястэчку 2366 жыхароў, у т.л. 995 беларусаў, 76 палякаў, 1295 яўрэяў; цэнтр сельскай грамады, якая яднала 1431 сял. душу. У воласці 16 302 жыхары, 781 двор, з іх 46 двароў беззямельных. У воласць уваходзілі Астроўская, Высакалядская, Дамашанская, Жодзінская, Забалоцкая, Пліская, Слабодская, Смалявіцкая сельскія грамады. У 1866 г. ў Смалявічах 106 двароў, вінакурны і піваварны з-ды (засн. ў 1845 г.), царква, 2 яўр. малітоўныя школы. 182 селяніны-ўласнікі і 4 вольных чал. з мястэчка ў 1870 г. ўваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду. У 1871 г. праз Смалявічы пракладзена Маскоўска-Брэсцкая чыгунка. Пабудаваная ст. Вітгенштэйнская атрымала назву ад імя ўладальніка (з 1930 г. — ст. Смалявічы). У 1878 г. 573 жыхары. У 1885 г. 56 двароў, 560 жыхароў, валаснае праўленне,







*Новабудоўля ў г. Смалявічы.*

*Прыемна адпачыць на Смалявіцкім вадасховішчы.*

вінакурны з-д, школа, царква, капліца, 24 лаўкі. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 299 двароў, 2757 жыхароў, 2 царквы, капліца, валаснoe праўленне, паштова-тэлеграфнае аддз., нар. вучылішча, конная паштовая станцыя, прыватная пач. школа, 2 хлебазапасныя магазіны, 3 смалярні, піваварны, 3 лесапільныя, вінакурны, шкіпінарны з-ды, ф-ка па вырабе драўляных шавецкіх цвікоў і калодак, 3 млыны, 8 кузняў, гута. Працавалі рамесныя майстэрні па вырабе адзення, абутку, дуг, саней, калёс, прадметаў хатняга ўжытку, 3 заезныя двары, 6 піцейных устаноў, 50 дробных крам. Сумежна з мястэчкам пры чыгунцы і р. Пліса існавалі ўрочышча Смалявічы (1 двор, 40 жыхароў, лесапільня, млын, кузня), фальварак Смалявічы (1 двор, 27 жыхароў), за 2 км ад мястэчка на чыг. ст. Вітгенштэйнская 3 двары, 27 жыхароў. У маі 1905 г., кастр. 1910 г., крас., чэрв. і жн. 1917 г. адбыліся забастоўкі рабочых і сял. хваляванні. У 1909 г. на лесапільным з-дзе і з-дзе па вырабе шавецкіх цвікоў працавала 65 рабочых. У 1907 г. адкрыта аптэка, у 1908 г. арганізавана пажарная дружына. У 1909—15 гг. дзейнічаў шклозавод «Вікторыя», на якім працавалі 10 рабочых (1910). У 1913 г. — 1288 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. ў Смалявічах 387 гаспадарак, 2366 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 307 жыхароў. Па запатрабаванні рабочых на лесапільным з-дзе і млыне З.Шымровіча, Ш.Фігельгольда, ф-цы абутковых цвікоў і калодак І.А.Ашаровіча ўведзены 8-гадзінны прац. дзень. Сав. ўлада ўстаноўлена

*Мікалаеўская царква ў г. Смалявічы.*







*Пажарныя Смалявіцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях спяшаюцца на выклік.*

*Выратавальная станцыя на Смалявіцкім вадасховішчы.*

ў ліст. 1917 г. Для патрэб больш за 100 дзяцей бежанцаў мясц. бежанскі к-т хадайнічаў аб адкрыцці пач. бежанскага вучылішча. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з 27.2.1919 г. ў Літоўска-Бел. ССР. Са жн. 1919 г. заняты польскімі войскамі і вызвалены 9.7.1920 г. 242-м Волжскім палком 27-й Омскай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі пад кіраўніцтвам С.Вастрацова. З 31.7.1920 г. ў БССР. 5.10.1920 г. створаны Смалявіцкі валасны к-т, воласць падзелена на 26 сельсаветаў: Азярыцкаслабодскі, Астроўскі, Будагоўскі, Высакалядскі, Вяліказалужскі, Градскі, Дамашанскі, Дубраўскі, Дынараўскі, Емяльянава-Кашынскі, Жажэльскі, Жодзінскі,







Забалоцкі, Загорскі, Калюжскі, Каменскі, Люткаўскі, Малазалужскі, Масцішчанскі, Мікалаеўскі, Плііскі, Прысынкаўскі, Старынскі, Чарналінскі, Чэрнікаўскі, Яловіцкі. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна, з 20.8.1924 г. да 24.9.1926 г. — цэнтр сельсавета Мінскай акругі. У 1922 г. ў б. маёнтку створаны саўгас, які ў 1926 г. атрымаў назву імя У.І.Леніна і аб'яднаў 558 гаспадарак, 3755 жыхароў. У 1923 г. адкрыта масавая б-ка, у 1924 г. сямігадовая школа з с.-г. ухілам, у 1925 г. бальніца на 25 ложкаў. Створаны ў 1930 г. калгас імя В.М.Молатава аб'ядноўваў 30 гаспадарак. З 1930 г. выходзіла газ. «Шлях калектывізацыі», з 1938 г. — «Трыбуна калгасніка». З 1931 г. выходзіла раённая газ. «Ленінскі заклік», дзейнічалі МТС і торфазавод (да 1981 г.). У пач. 1930-х г. працавалі лесапільны, смалакурны з-ды, маслазавод,





арцелі — харчовая «Прагрэс», дрэваапрацоўчая «Чырвоны бондар», шавецкая «Чырвоны кажэўнік», кравецкая «1 Мая», кавальская «Чырвоны Кастрычнік». Створана сетка ўстаноў культуры і быту: нар. дом (1921), хата-чытальня, сярэдняя і 2 сямігадовыя школы, бальніца, аптэка, б-ка. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. 6,8 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну 26.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут больш за 2 тыс. жыхароў, стварылі гета і расстралялі каля 3 тыс. асоб яўр. нацыянальнасці. На торфапрадпрыемстве дзейнічала Смалявіцкая падп. арг-цыя. Вызвалены 2.7.1944 г. часцямі 2-га гв. танкавага корпуса 11-й гв. арміі і 352-й стралк. дывізіяй 31-й арміі 3-га Бел. фронту. Пры вызваленні загінулі многія сав. воіны, якія пахаваны ў трох брацкіх магілах. У жн. 1944 г. даў першую прадукцыю смалакурны з-д. У пасляваенныя гады выходзілі газеты «Ленінскі шлях», «Ленінскі заклік» (з 1995 г. «Край смалявіцкі»). Паводле перапісу 1959 г. гар. пасёлак, 7,3 тыс. жыхароў. З 26.12.1962 г. ў Мінскім р-не. У 1966 г. 9700 жыхароў. З 7.3.1968 г. горад. У 1-й пал. 1960-х г. пабудаваны з-д жалезабетонных вырабаў, Дом быту, сярэдняя школа №2, бальніца на 215 ложкаў (1963), першыя 2-павярховыя, потым 3-павярховыя дамы. У 1976—87 гг. уведзены ў дзеянне механічны з-д, вытв. базы Міністэрства мясамалочнай прамысловасці, аб'яднанне «Райсельгасхімія», новы будынак школы №1 імя В.Ф.Купрэвіча, аўтавакзал, гасцініца, вучэбны корпус і інтэрнат СПТВ №204, аптэка, дзіцячыя сады, лазня, ветлячэбніца, кафэ, магазіны. У 1986 г. створана МПМК-228, якая аб'яднала МПК-99 і МПК-55. У 1988 г. 13 тыс. жыхароў, цэнтр саўгаса імя Леніна. 26.5.1998 г.



*Кандытарскія вырабы Смалявіцкага хлебазавода.*




*Кафэ «Азёрнае» ў г. Смалявічы.*



*Жаночая каманда па хакеі на траве «Вікторыя», г. Смалявічы.*

зацверджаны ўласны герб горада. У 2012 г. працавалі з-д жалезабетонных вырабаў, ААТ «Белдартэхніка», ТАА «СарматТэрмаІнжынірынг», «Дарэлектрамаш», харчовы прам. камбінат, паркетны з-д — філіял ААТ «Гомельдрэў», хлебазавод, малочны з-д, камбінат быт. абслугоўвання і інш. У горадзе размешчаны раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, цэнтр. раённая бальніца, паліклініка, 2 аптэкі, раённы Цэнтр рамёстваў, раённыя цэнтры — арганізацыйна-метадычны і дзіцячага турызму і краязнаўства, гар. Дом культуры, аграрна-тэхніч. прафес. ліцэй, раённая гімназія і 2 базавыя школы, спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву, цэнтры — тэхн. творчасці навучэнскай моладзі, дзіцячай творчасці, сацыяльна-пед., эколага-біялагічны дзяцей і моладзі, раённая і дзіцячая б-кі, кінатэатр «Радзіма», гасцініца «Вясна», гасцінічны комплекс «Азёрны». У 2000-я г. ўзведзены Мікалаеўская царква і капліца святога Валянціна. Выдаецца газ. «Край смалявіцкі». Радзіма астранома, заснавальніка астрабатанікі, чл.-кар. АН СССР, акадэміка АН Казахстана, ганаровага акадэміка НАН Беларусі, засл. дзеяча навук Казахстана Г.А.Ціхава (1.5.1875—25.1.1960), дзіцячай пісьменніцы, збіральніцы фальклору Алтая

*Футбольны клуб «Смалявічы СТІ».*




*М.В.Лобач — ганаровы грамадзянін г. Смалявічы.*





Г.Л.Гарф (сапр. Гарфункель), бел. дзярж. дзеяча, дыпламата П.К.Краўчанкі (н. ў 1950 г.), засл. майстраў спорту СССР У.П.Алейніка, А.У.Кошаль, М.В.Лобач.

**ЖОДЗІНА** – горад абл. падпарадкавання. За 55 км на ПнУ ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна), чыг. ст. Жодзіна і прыпыначны пункт Жодзіна-Паўднёвае на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Мінск—Масква. 62,4 тыс. жыхароў (2012).

Аб засяленні тэр. сучаснага горада ў глыбокай старажытнасці сведчаць рэшткі селішча, якое адносіцца да ранняга жал. веку, а таксама селішча ў сутоку рэк Жодзінка і Пліса, якое датуецца 12—13 і 16—17 ст. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. Незадоўга да 1643 г. рашэннем уладальніка маёнтка Смалявічы Багуслава Радзівіла на яго ўсх. ускрайку засн. мястэчка, якое атрымала назву Багуслаў Поле. З канца 18 ст. паселішча пачалі называць па р. Жодыня – Жодзіна. Паводле інвентароў 1643 г. было намерана 400 пляцаў, частка якіх раздадзена пад забудову. У 1665 г. 97 двароў, у 1669 г. 62 двары. Падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. у 1655—60 гг. разрабавана. У 1675 г. мястэчка Багуслаў Мінскага павета, 53 дымы, 2 царквы ў гонар Святога Пятра і Святой Троіцы, 5 вуліц. У дакументах 1688 г. ўпамінаецца пад назвай Жодзіна Слабада, у Барысаўскім старостве Мінскага ваяв., уласнасць Радзівілаў. У 1698 г. вядома як гарадок і мястэчка Жодзіна-Багуслаў, упамінаецца ў дзённіку сакратара аўстрыйскага пасольства Іагана Георга Корба. У 1713 г. ў маёмасці жыхароў знаходзіліся 12 коней і 17 валоў. У 1781 г. мястэчка Жодзіна, 41 двор, каля 230 жыхароў.



*Жодзінскі парк культуры і адпачынку. Памятны знак у гонар 45-годдзя БелАЗа і 40-годдзя горада.*

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 54 двары, 374 жыхары, уніяцкія цэрквы Святых Пятра і Паўла, паштовая станцыя, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. да маёнтка Глівін (з 1772 г. ва ўладанні Сцяпана Свіда) адносіліся вёскі Паджодзіна (14 двароў, 118 жыхароў) і Судабоўка (35 двароў, 286 жыхароў) на правым беразе р. Пліса, якія потым сталі часткай горада. У 1816 г.



*Удзельнікі ўзорнай студыі бальнага танца «Шарм» Смалявіцкага гарадскога Дома культуры.*




*Святкаванне Дня горада ў Смалявічах. 2012 г.*



*Міхайлаўская царква ў г. Жодзіна.*



*Царква ў гонар абраза Маці Божай «Збавіцельніца» ў г. Жодзіна.*

Жодзіна ў закладзе ў А.Ваньковіча. У 1839 г. уніяцкі Петрапаўлаўскі прыход пераведзены ў праваслаўе. У 1862 г. ў Жодзінскую сельскую грамаду ўваходзіла 156 сялян, 34 двары, у карыстанні якіх было 79 дзес. зямлі. У 1863 г. ў прыватных хатах дзейнічала нар. вучылішча (з 1901 г. ва ўласным будынку), у 1875 г. ў ім навучалася 40 вучняў, у 1892 г. 66 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1864 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква Святога Міхаіла. У 1870 г. ў складзе маёнтка Смалявічы, ва ўладанні П.Вітгенштэйна, Жодзінская сельская грамада яднала 213 сялян, з іх 143 з в. Жодзіна. У 1871 г. пракладзена чыгунка Масква—Брэст. У 1884 г. засн. лесапільны з-д, на якім дзейнічалі 2 паравыя машыны. У 1886 г. 48 гаспадарак, 470 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Смалявіцкай вол., 97 гаспадарак, 697 жыхароў, царква, нар. вучылішча, вадзяны млын, крама, карчма, кузня, на чыг. станцыі 7 двароў, 34 жыхары. У пач. 20 ст. 100 гаспадарак, 800 жыхароў. У 1905 г. ў нар. вучылішчы навучалася 106 хлопчыкаў і 23 дзяўчынкі. У 1917 г. ў сяле 126 двароў, 728 жыхароў, у жн. адкрыта паштовае аддз. пры чыг. станцыі, на якой у 1921 г. было 4 двары, 34 жыхары. З 18.2 да 6.12.1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 20.8.1919 г. да 9.7.1920 г. — польскімі войскамі, ад якіх вызвалена сіламі 50-й брыгады 16-й арміі. У 1920 г. ў б. маёнтку ротмістра Стэфана Свіда створаны калгас «Зарэчча». У 1922 г. на аснове нар. вучылішча адкрыта пач. школа, у якой навучалася 109 вучняў (у 1931 г. пераўтворана ў сямігадовую). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Смалявіцкага р-на, 168 гаспадарак, 940 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын, 23 жыхары былі заняты ў кустарных промыслах. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. сяло, 193 двары, 944 жыхары, бібліятэка-чытальня, 2 кузні. Вакол Жодзіна знаходзіліся вёскі Сухая Градзь (у 1924 г. 18 двароў, 104 жыхары), Крушыннікі (15 двароў, 91 жыхар), Кассё (на хутары 1 двор, 9 жыхароў, у засценку 12 двароў, 104 жыхары), Вугля, Зарэчча (саўгас, 71 жыхар), Судабоўка (151 двор, 1033 жыхары), якія потым увайшлі ў межы горада. У Зарэччы дзейнічалі лесапільня і маслабойня. У 1930 г. створаны калгас «Чырвонае Жодзіна»,



*Петрапаўлаўская царква ў г. Жодзіна.*





які ў 1932 г. аб'ядноўваў 74 гаспадаркі. У 1933 г. працавалі 2 млыны, маслабойня, лесапільня, сталярная майстэрня, 2 кузні, у 2-й пал. 1930-х г. дэпо вузкакалейнай чыгункі. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў Жодзіне дзейнічала антыфаш. падполле, у наваколлі партызаны брыгад «Смерць фашызму», «Разгром», «За Радзіму», імя А.К.Флегантава, «Старык», «Дзядзькі Колі», 1-й Мінскай, якія вялі рэйкавую вайну. На фронце загінулі 54 жыхары, пры вызваленні горада — многія сав. воіны, якія пахаваны ў двух брацкіх магілах. У 1950 г. даў першую прадукцыю з-д тарфянога машынабудавання. З будаўніцтвам Смалявіцкай дзярж. раённай электрастанцыі (1951) і з-да дарожных і меліярацыйных машын «Дармаш» (на базе з-да тарфянога машынабудавання) узніклі 2 пасёлкі энергетыкаў, у суседніх вёсках Зарэчча і Крушыннікі размясціліся н.-д. ін-ты земляробства і жывёлагадоўлі. З 12.1.1958 г. пасёлкі і вёскі аб'яднаны з Жодзінам у гар. пасёлак, з 7.3.1963 г. горад абл. падпарадкавання. У 1958 г. на базе з-да «Дармаш» створаны Бел. аўтамабільны з-д (БелАЗ). З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Мінскім р-нах. У 1970 г. 22,1 тыс. жыхароў. У 1973 г. адкрыўся Жодзінскі палітэхнікум. У 1975 г. пачала дзейнічаць швейна-трыкатажная ф-ка (філіял Мінскага вытворчага аб'яднання «Прагрэс»), якая ў 1994 г. атрымала статус ААТ «Світанак». У 1975 г. створаны Манумент у гонар маці-патрыёткі, у якім увасоблены драматычны лёс жыхаркі Жодзіна Н.Ф.Купрыянавай, усе 5 сыноў якой аддалі жыццё за вызваленне Радзімы. Яе малодшы сын — Герой Сав. Саюза П.І.Купрыянаў (1926—44). У 1977 г. пры школе арганізаваны музей баявой славы імя П.І.Купрыянава. У 1980 г. адкрыты дом-музей Н.Ф.Купрыянавай. У 1989 г. адноўлены прыход праваслаўнай царквы. У 1994 г. 60 тыс. жыхароў. У 1999 г. 59,3 тыс. жыхароў. У 2000 г. ў горадзе дзейнічалі 234 прадпрыемствы, з іх 18 дзяржаўных, 5 калектыўных, 8 кааператыўных форм уласнасці. У 2008 г. цэнтр Жодзінскага с/с перанесены ў в. Барсукі. У 2012 г. сярод найб. значных прадпрыемстваў — ААТ «Беларускі аўтамабільны завод», «Кавальскі завод цяжкіх штамповак» («КЗЦШ»), «Світанак», ЦЭЦ, хлебазавод, навукова-практычныя цэнтры НАН Беларусі па жывёлагадоўлі, земляробстве, політэхнічны каледж, цэнтр прафадукацыі, ліцэй, 2 гімназіі (у т.л. жаночая, з 1992 г., першая ў Беларусі), 7 сярэдніх, музычная (з 1959 г.), 4 спарт. школы, школа мастацтваў, і мастацкая, цэнтр тэхн. творчасці навучэнскай моладзі, цэнтр дзіцячай творчасці, сацыяльна-пед. цэнтр, цэнтр карэкцыйна-

*Манумент у гонар маці-патрыёткі Н.Ф.Купрыянавай у г. Жодзіна.*



*Н.Ф.Купрыянава.*



*П.І.Купрыянаў.*

*Касцёл Маці Божай Фацімскай у г. Жодзіна.*





*Вытворчы корпус ААТ «Світанак» у г. Жодзіна.*

развіваючага навучання і рэабілітацыі, школа-інтэрнат, дашкольны дзіцячы дом, 12 дашкольных устаноў, кінатэатр «Юнацтва», гар. Дом культуры, Палац культуры БелАЗа, клуб КЗЦШ, 7 б-к, гар. бальніца, станцыя хуткай дапамогі, 3 паліклінікі, прафілакторый, 11 хрысціянскіх абшчын, гар. парк культуры і адпачынку. Выходзяць газеты «Жодзінскія навіны», «Жодинские вести» і «Новости БелАЗа». Генеральны план забудовы горада распрацаваны ў 1969 г. Да 1-га тыс. і пач. 2-га тыс. н.э. адносяцца рэшткі неўмацаваных паселішчаў каля Жодзіна.

**АКЦЯБРСКІ**, Кастрычніцкі — пасёлак у Пліскім с/с, за 10 км на У ад Смалявіч, 1 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 48 км ад Мінска. 973 гаспадаркі, 2591 жыхар (2013).

Засн. пры бройлернай птушкафабрыцы «Смалявіцкая», якая створана ў 1966 г. Названы ў 1977 г. ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1988 г. 630 гаспадарак, 2 тыс. жыхароў. У 1996 г. 782 гаспадаркі, 2346 жыхароў. У 2013 г. ў пасёлку размешчаны ААТ «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка» і яе філіял — Чырванасцяжны камбікормавы з-д; сацыяльна-пед. цэнтр, Пліская сярэдняя школа, Пліская сельская муз. школа мастацтваў, Пліская б-ка, Дом культуры, б-ка, Дом быту, аддз. сувязі і філіялы ААТ «ААБ Беларусбанк», дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аптэка, лазня, сталовая, 5 магазінаў, рэстаран «Браты Грыль», фізкультурна-аздараўленчы комплекс.


*Помнік стваральнікам кар'ерных самазвалаў у г. Жодзіна.*

**АЛЕСІНА** — вёска (з 5.3.2008 г. аграгарадок), цэнтр Курганскага с/с (з 2008 г.), за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 1 км ад аўтадарогі Смалявічы—Верхмень, 54 км ад Мінска. 170 гаспадарак, 520 жыхароў (2013).

У 1858 г. двор маёнтка Шыпяны (34 жыхары), уласнасць А.Манюшкі, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ваколіца, 9 двароў, 71 жыхар, у Верхменскай вол. У маёнтку 158 жыхароў. У пач. 20 ст. каля 160 жыхароў, вінакурны з-д. У 1916 г. 49 жыхароў. У 1917 г. ва ўрочышчы Алессе 1 двор, 5 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. пасёлак у Верхменскім с/с (50 гаспадарак, 234 жыхары) Смаля-







*Апрацоўка глебы ў гаспадарцы ААТ «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».*

*На Смалявіцкай бройлернай птушкафабрыцы ў пас. Акцябрскі.*

віцкага р-на, да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1920-я г. на базе маёнтка ўзніклі пасёлак, с.-г. арцель «Новае жыццё». Паводле перапісу 1926 г. 12 двароў, дзейнічала хата-чытальня. У пач. 1930-х г. працавалі калгас «Новае жыццё» (на 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак), кузня, крухмальны і малочны з-ды. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, 2 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 2 — ад фаш. тэрору, 25 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 279 жыхароў, на хутары Алессе 18 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 5.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ў Курганскім с/с. У 1988 г. 100 гаспадарак, 264 жыхары, цэнтр саўгаса «Шыпяны». У 1996 г. 148 гаспадарак, 394 жыхары, ветэрынарны пункт, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа з музеем Я.Коласа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, ашчадная каса, сталовая, магазін, яслі-сад, амбулаторыя. На будынку школы ў 1969 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка Я.Коласу. У 2013 г. размешчаны РУП «Шыпяны-АСК», сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, кафэ «Прывал». Помнік архітэктуры — комплекс будынкаў ві-



*Нарыхтоўка кармоў у ААТ «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка».*





накурнага з-да, якія пабудаваны ў пач. 20 ст. з каменю і цэглы.

Планіровачна складаецца з 2 працяглых прамалінейных вуліц, якія перпендыкулярна падыходзяць да 2 кароткіх прамалінейных вуліц. Забудавана драўлянымі аднапавярховымі сял. сядзібамі.

**АНОШКІ** – вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 20 км на ПнЗ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 30 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 27 гаспадарак, 56 жыхароў (2013).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца пад 1595 г. як сяло Аношкавічы ў складзе маёнтка Прылепы Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў вёсцы 14 двароў, 85 жыхароў; частка вёскі належала казне (8 двароў, 60 жыхароў), другая частка – Прылепскай уніяцкай Георгіеўскай царкве (6 двароў, 25 жыхароў). У 1812 г. вядомы як сяло Аношкі, у 1815 г. ў складзе казённага маёнтка Прылепы. У 1870 г. вёскі Аношкі 1 і Аношкі 2, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ў дзвюх вёсках 24 двары, 259 жыхароў, піцейны дом. У пач. 20 ст. 48 двароў, 200 жыхароў. Асн. заняткам насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. Бытавалі промыслы: прадзенне, ткацтва, кравецтва, пляценне, рыбалоўства, збор ягад. Паводле перапісу 1917 г. ў Аношках 1 – 39 двароў, 262 жыхары, у Аношках 2 – 16 двароў, 105 жыхароў, пазней гэтыя вёскі аб'ядналіся ў адну. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 50 гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінуў 1 жыхар вёскі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Смерць фашызму». На фронце загінулі 20 вяскоўцаў, 26 – ад нацысцкага тэрору, 1 – у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 404 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.2.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1966 да 1977 г. вёска з'яўлялася цэнтрам Прылепскага с/с. У 1969 г. 69 двароў, 359 жыхароў. У 1996 г. 50 гаспадарак, 111 жыхароў.

*Урачэбная амбулаторыя ў в. Алесіна.*



**АНТАПОЛЛЕ** – вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 22 км на Пн ад Смалявіч і 23 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск–Орша, 58 км ад Мінска, на р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 21 гаспадарка, 48 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Мела некалькі назваў: Антанопаль, Антанопалле, Антопаль і Антаполле. У 1755 г. вёска ў складзе маёнтка А.Тызенгаўза. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 22 двары, 154 жыхары, фальварак; вадзяны млын, сукнавальня, «жалезны завод», уласнасць В. і С. Тышкевічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле юрыд. актаў 1812 г. вядома як с. Антанопаль. У



1870 г. в. Антопаллі і маёнтак Антопаль графа О.Тышкевіча ў Юр'еўскай вол., 52 сяляніны-ўласнікі вёскі ўваходзілі ў Сутоцкую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. вёска (22 двары, 166 жыхароў), маёнтак (10 двароў, 82 жыхары, вадзяны млын, карчма) і фальварак (2 двары, 10 жыхароў) у Юр'еўскай вол. У пач. 20 ст. вёска Антонаполле, 25 двароў, 160 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска Антопаль, 28 двароў, 217 жыхароў, працавалі вадзяны млын і кузня. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с (39 двароў, 210 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 38 двароў, 202 жыхары. У 1924 г. існаваў саўгас, у які ўваходзіла 60 чал.; у 1930 г. створаны калгас «Ураджай», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. У пач. 1930-х г. мела назву Антанопаль, працавалі вадзяны млын і кузня. У 1940 г. 52 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі вёску і загубілі 34 жыхары. На фронце загінулі 20 вяскоўцаў, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. пазначана як Антопаль, 220 жыхароў, у Юр'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 50 жыхароў, у калгасе «Парыжская Камуна»; у 1996 г. 34 гаспадаркі, 76 жыхароў.

**АРЛОВА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 16 км на Пн ад Смалявіч і чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 56 км ад Мінска, каля воз. Вялікае. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2013).

У 1870 г. засценак, 18 жыхароў мужчынскага полу, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., у Юр'еўскай сельскай грамадзе. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 85 жыхароў. У пач. 20 ст. 9 двароў, 71 жыхар. У 1924 г. 18 двароў, 78 жыхароў. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 19 двароў, 90 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.7.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе; вызвалена 2.7.1944 г. ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.2.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1982 г. ў Жодзінскім с/с. У 1988 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова» Бел. н.-д. ін-та жывёлагадоўлі. У 1996 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў.

**АРЭШНІКІ** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Смалявічы—Абчак, 30 км ад Мінска. 147 гаспадарак, 455 жыхароў (2013).

У пач. 20 ст. хутар Арэшнікі. У 1921 г. 4 двары, 56 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Забалоцкім с/с (разам з хутарамі Вада-Гара і Вадзіца — 39 гаспадарак, 247 жыхароў) Смалявіцкага р-на. Да 26.7.1930 г. ў складзе Мінскай акругі, з 25.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Вольная праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 сял. гаспадарак, працавала кузня. У 1940 г. 37 двароў, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў студз. 1942 г. спалілі вёску, загубілі 60 жыхароў. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў, 1 — у партыз. барацьбе. У 1959 г. 217 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1969 г. 59 двароў, 234 жыхары. У 1977 г. да вёскі далучана в. Вадзіца. У 1988 г. 120 гаспадарак, 360 жыхароў, цэнтр саўгаса імя М.І.Калі-





ніна. У 1996 г. 166 гаспадарак, 470 жыхароў, Дом культуры, б-ка, пач. школа, яслі-сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. У 2013 г. дзейнічалі Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік на магіле ахвяр фашызму пастаўлены ў 1967 г.

Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1971 г., дапрацаваны ў 1986 г. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, з Пд да яе падыходзяць 2 вуліцы — кароткая і працяглая. Традыц. жылая забудова драўляная аднапавярховая, мураванае будаўніцтва вядзецца ў зах. частцы вёскі.

**АСІННІК**, Асіннікі — вёска ў Жодзінскім с/с, за 11 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 50 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Вядома з 1-й пал. 20 ст. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. в. Асіннікі, 57 жыхароў, у Пліскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў, у саўгасе імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Жажэлка). У 1996 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

**АСТАШОНКІ** — вёска ў Курганскім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Раванічы, 68 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 45 жыхароў (2013).

Назва ўтворана ад прозвішча Асташонак. Вядома з 1920-х г. у Смалявіцкім р-не, да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Сталіна. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, 1 вясковец загінуў у партыз. барацьбе, 9 — на фронце. У 1959 г. 140 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. з вёскай аб'ядналіся в. Мальцы і хутар Арцімовічы. У 1988 г. 50 гаспадарак, 110 жыхароў, магазін, свінаводчая ферма, у саўгасе імя П.І.Купрыянава. У 1996 г. 45 гаспадарак, 83 жыхары.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і невял. вуліцы (былая в. Мальцы), што праходзіць на У.

**АСТРАВЫ** — вёска ў Зеленаборскім с/с, за 38 км на У ад Смалявіч і 7 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 65 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2013).

Вядомы з 1-й пал. 20 ст. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 2 жыхары з в. Астравы і 2 жыхары з в. Астраўкі. У 1988 г. вёска ў складзе торфапрадпрыемства «Смалявіцкае» (цэнтр — р.п. Зялёны Бор), 17 гаспадарак, 40 жыхароў.

**БАБІ ЛЕС**, Бабін Лес, Бабілес — вёска ў Жодзінскім с/с, за 22 км на Пн У ад Смалявіч і 17 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 56 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 53 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 89 жыхароў, уласнасць Тышкевічаў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў маёнтку Антопаль Юр'еўскай вол., 45 сялян-уласнікаў уваходзілі ў Юр'еўскую сельскую грамаду. У 1886 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Юр'еўскай вол., 25 двароў, 265 жыхароў, дзейнічалі кузня, праваслаўная царква і царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1892 г.). У пач. 20 ст. вёска Лес-Бабін, 30 двароў, 254 жыхары. У 1917 г. 35 двароў, 251 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп.



1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с (39 гаспадарак, 287 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 244 жыхары, прац. школа 1-й ступені (40 вучняў). Створаны ў 1930 г. калгас імя МОПР у 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; у вёсцы дзейнічалі падпольшчыкі; на фронце загінулі 13 вяскоўцаў, 10 — у партыз. барацьбе. 13.4.1943 г. фашысты загубілі тут 48 мірных жыхароў, якія пахаваны за 3 км на Пн ад вёскі ў брацкай магіле, на ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. пастаўлена стэла. За 7 км на Пн ад вёскі знаходзілася в. Карамша, якую ў 1942 г. гітлераўцы знішчылі разам з жыхарамі (12 двароў, 36 жыхароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». У 1965 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 262 жыхары, у Юр'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1982 г. ў Жодзінскім с/с. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 100 жыхароў, у складзе эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова», у 1996 г. 35 гаспадарак, 64 жыхары. Радзіма бел. вучонага ў галіне парашковай металургіі, засл. дзеяча навукі Беларусі Я.А.Дарашкевіча (н. ў 1935 г.).

**БАГУТА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с. За 20 км на З ад Смалявіч і 10 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, на шашы Смалявічы—Радашковічы, 32 км ад Мінска, на р. Домелька (прыток р. Усяжа). 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 42 жыхары, уласнасць казны, у Мінскім павеце Мінскай губ. З 1815 г. ў складзе казённага маёнтка Прылепы. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 26 двароў, 174 жыхары. У 1909 г. 29 двароў, 165 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 11 двароў, 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.12.1924 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкім, з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-нах Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны баец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 двары, 150 жыхароў. У 1940 г. 43 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 115 жыхароў. У наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны. Паводле перапісу 1959 г. 58 жыхароў, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.2.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 15 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.К.Арджанікідзэ; у 1996 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў.

**БАРСУКІ** — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Жодзінскага с/с (з 5.3.2008 г.). За 18 км на ПнУ ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, на шашы Мінск—Барысаў, 56 км ад Мінска. 392 гаспадаркі, 1144 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. Паводле перапісу 1917 г. хутар у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 29 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Паводле перапісу 1926 г. 7 двароў, 43 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена 2.7.1944 г. ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі. 14 жыхароў загінулі ў партыз. барацьбе, 8 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў, у Жодзінскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Ба-



*Я.А.Дарашкевіч.*





рысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 284 гаспадаркі, 958 жыхароў. У 1996 г. 340 гаспадарак, 962 жыхары. У 2013 г. размешчаны рэсп. даччынае УП «ЖодзінаАграПлемЭліта» Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па жывёлагадоўлі, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Паблізу вёскі ў 1970 г. быў выяўлены скарб манет 16—17 ст.

**БАТУРЫНКА**, Батуранка — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с. За 18 км на ПнЗ ад горада і 19 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 33 км ад Мінска, на р. Домелька (прыток р. Усяжа). 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 19 жыхароў, уласнасць казны, у Мінскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 9 двароў, 62 жыхары. У пач. 20 ст. 7 двароў, 81 жыхар. Паводле перапісу 1917 г. на хутары 1 двор, 11 жыхароў, у вёсцы 11 двароў, 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Новае поле», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 6 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 6 жыхароў вёскі загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 24 гаспадаркі, 63 жыхары, у калгасе імя У.І.Леніна; у 1996 г. 20 гаспадарак, 40 жыхароў. Каля вёскі знаходзіцца Батурынскае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу.

*Ушаноўванне перадавікоў уборачнай кампаніі ў РУП «ЖодзінаАграПлемЭліта», в. Барсукі.*



**БЕЛАЯ ЛУЖА** — вёска ў Жодзінскім с/с. За 25 км на ПнУ ад Смалявіч і 7 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 62 км ад Мінска. 45 гаспадарак, 74 жыхары (2013).

Вядома з 1917 г. як хутар Лужа-Белая, 9 двароў, 60 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. пасёлак у Жодзінскім с/с (18 двароў, 110 жыхароў) Смалявіцкага р-на, у Мінскай акрузе (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. пасёлак, 21 двор, 124 жыхары. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена 2.7.1944 г. ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі. 13 жыхароў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 84 гаспадаркі, 250 жыхароў, у складзе эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова»; у 1996 г. 90 гаспадарак, 178 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін.

**БУДА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Смалявіч і 7 км ад



чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 48 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

Знойдзеныя паблізу вёскі археал. знаходкі датуюцца 2—1-м тыс. да н.э., а рэшткі ўмацаваных паселішчаў-гарадзішчаў адносяцца да часоў ранняга жал. веку. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. У 1907 г. каля гарадзішча былі знойдзены манеты часу Жыгімонта III і Густава Адольфа. Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 70 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 11 двароў, 61 жыхар. З 20.8.1924 г. засценак у Жодзінскім с/с (14 гаспадарак, 85 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 75 жыхароў. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 жыхароў загінулі ў партыз. барацьбе, 2 — на фронце. З 12.11.1957 г. перададзена з Пліскага ў Жодзінскі с/с. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў; у 1996 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**БУДАГОВА** — вёска (з 2008 г. аграгарадок) у Жодзінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Смалявіч і 6 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, за 56 км ад Мінска, на р. Сойка (прыток р. Бродня). 270 гаспадарак, 734 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. Назва ўтворана ад мясц. ўрочышча. У 1909 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 3 двары, 16 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 2 двары, 14 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Жодзінскім с/с (19 гаспадарак, 111 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.6.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. хутар, 18 двароў, 88 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя М.В.Фрунзэ. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1942 г. амаль поўнасцю яе спалілі, загубілі 12 жыхароў. 4 жыхары загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. У 1944 г. вёска, 29 двароў, 145 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 150 гаспадарак, 530 жыхароў, цэнтр эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова» Бел. н.-д. ін-та жывёлагадоўлі. Гаспадарка яднала вёскі Арлова, Бабі Лес, Белая Лужа, Востраў, Глінішча, Замлынне, Рассошнае, Тачылішча. У 1996 г. 250 гаспадарак, 740 жыхароў. У 2013 г. дзейнічалі сярэдняя школа-сад, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі.

**БЫКАЧЫНА**, Быкачанава, Быкачана — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12. 2009 г.), за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 33 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 33 жыхары (2013).

Вядома з 1920-х гг. у Смілавіцкім р-не, з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пас. Быкачына, 136 жыхароў, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 23 гаспадаркі, 48 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай шчыльна двухбакова аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.





**БЯРОЗАВАЯ ГАРА** – вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, каля аўтадарогі Брэст–мяжа Расіі, 34 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2013).

Існуе нар. паданне, што ў час вайны са шведамі на гэтым месцы была закапана калясніца Пятра Вялікага з грашыма і рэчамі, але па друкаваных крыніцах вёска вядома з пач. 20 ст. У 1920-я г. ў Смілавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у Пятровіцкім с/с, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, якая забудавана аднабакова і няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАВІЦА** – вёска ў Жодзінскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск–Орша, 51 км ад Мінска. 49 гаспадарак, 116 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст., калі ў 1843 г. П.Л.Вітгенштэйн заснаваў тут смалярна-шкіпінарны з-д. Паводле перапісу 1897 г. хутар Бярозавіца, 3 двары, 28 жыхароў, смалярна-шкіпінарны з-д і хутар Верх-Беразавіца, 2 двары, 19 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. ўрочышча Бярозавіцы, 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. пасёлак, 17 двароў, 110 жыхароў, у вёсцы Верх-Бярозавіца 7 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. пасёлак і вёска акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Паводле перапісу 1926 г. хутар, 10 двароў, 75 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Авангард» (у 1932 г. аб'ядноўваў 60 сял. гаспадарак), працавала кузня. З 20.8.1924 г. пасёлак і хутар Верх-Бярозавіца (23 гаспадаркі, 154 жыхары) у Жодзінскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 8 – на фронце. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 140 жыхароў, эксперыментальная база «Жодзіна». У 1996 г. 66 гаспадарак, 142 жыхары, магазін.

**ВЕРХВОЗЕРА**, В е р х н я е  В о з е р а, З а в о з е р а – вёска ў Пліскім с/с, за 9 км на У ад Смалявіч, 1 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск–Орша, 45 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2013).

У 1870 г. вёска, 16 жыхароў якой уваходзілі ў Пліскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Вёска адносілася да маёнтка Смалявічы, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 6 двароў, 62 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 9 двароў, 135 жыхароў. У 1917 г. засценак, 9 двароў, 71 жыхар. Побач з засценкам знаходзіўся хутар Верх-Возера, 2 двары, 12 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Пліскім с/с (14 гаспадарак, 116 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 109 жыхароў, дзейнічалі прыватныя сталяры. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары, з 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 20 гаспадарак, 30 жыхароў, у калгасе «Дружба» (цэнтр – в. Пліса).



Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕРХМЕНЬ**, Верхменне — вёска ў Курганскім с/с, за 16 км ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 55 км ад Мінска, на р. Мень (Мена, прыток р. Чарніца). 37 гаспадарак, 72 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. сяло, 23 двары, 219 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца Святога Мікалая Чудатворца, млын, сукнавальня, уласнасць П.Ісленцьева, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1839 г. на сродкі памешчыцы Манюшка пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. У 1847 г. сяло, 18 двароў, 190 жыхароў, у складзе маёнтка Шыпяны, ва ўласнасці А.Манюшкі. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці і праваслаўнага прыхода Ігуменскага павета, 19 двароў, 250 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча (адкрыта ў 1863 г., драўляны будынак узведзены ў 1865 г.), вадзяны млын (за 3 км ад сяла). У Верхменскай сельскай грамадзе ў 1870 г. было аб'яднана 163 жыхары, з іх 146 сялян-уласнікаў і 16 грамадзян. У 1887 г. засн. мукамольна-крупяное прадпрыемства (уладальнік І.Юхневіч). У 1890-х г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1905 г. вучылася 70 хлопчыкаў і 26 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 55 двароў, 381 жыхар, валаснoе праўленне, нар. вучылішча, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, карчма, крама, піцейны дом, паравы млын. Побач з сялом знаходзілася сядзіба царк. прычту Верхмень, 17 жыхароў. У пач. 20 ст. 89 двароў, 497 жыхароў. У нар. вучылішчы 95 вучняў, у т.л. 11 дзяўчынак, быў вучнёўскі хор (1902). З 1.1.1906 г. настаўнікам вясковага вучылішча працаваў К.Міцкевіч (Я.Колас). У жн. 1906 г. ён быў звольнены з гэтай пасады як палітычна неблаганадзейны за ўдзел у 1-м нелегальным з'ездзе настаўнікаў Мінскай губ. 9.7.1906 г. ў в. Мікалаеўка Свержанскай вол. рашэннем Віленскай судовай палаты К.Міцкевіч быў прысуджаны да трох гадоў турэмнага зняволення. У трылогіі пісьменніка «На ростанях» вёска пазначана пад назвай Верхань, апісана мясц. прырода, прататыпы ўзяты з рэальных жыхароў. У памяць аб жыцці і дзейнасці Я.Коласа на будынку Верхменскай сярэдняй школы, якая ў 1969 г. перанесена ў суседнюю в. Алесіна за 1 км ад Верхмені і захавала сваю ранейшую назву, устаноўлена мемарыяльная дошка. У 1915 г. ў сяле адкрыта паштовае аддз., пры ім ашчадная каса. Паводле перапісу 1917 г. сяло, 83 двары, 475 жыхароў. У чэрв. 1917 г. тут штодзённа праходзілі сходы, на якіх выступалі «аратары, сенатары, дэпутаты» і гаварылі, што «селянін зараз свабодны і без усякіх законаў можна забіраць чужую зямлю і нікога не прызнаваць». З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Падчас грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвенцыі дзейнічаў Верхменскі валасны рэўкам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі нар. вучылішча было пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені. У 1923 г. ў ёй налічваліся 132 вучні (з іх 33 дзяўчынкі), пры школе створаны пункт па ліквідацыі непісьменнасці. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (91 гаспадарка, 448 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 94 двары, 442 жыхары, дзейнічала хата-чытальня. У школе вучылася 130 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1929 г. створаны калгас «Добрая воля», працавалі кузня, с.-г. майстэрня, хата-чытальня, б-ка, медыцынскі пункт, пазней яслі-сад. У 1940 г. 77 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопні-





камі, якія ў крас. 1943 г. спалілі 76 двароў, загубілі 2 жыхароў. У гады вайны 4 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 10 — ад фаш. тэрору, 39 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1970 г. 123 двары, 357 жыхароў, амбулаторыя. 10.2.1977 г. Верхменскі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў склад Курганскага с/с. У 1996 г. 70 гаспадарак, 113 жыхароў, магазін. Абеліск на брацкай магіле 10 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1943—44 гг., пастаўлены ў 1967 г.

Планіровачна складаецца з 2 працяглых крывалінейных вуліц, якія ў цэнтры вёскі перакрыжоўваюцца. На перакрыжаванні ўтвораны невял. сквер.

**ВІШНЯ** (да 1964 г. — Малафеевічы) — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 22 км на ПнЗ ад горада і 25 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 28 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома з 17 ст. У 1633 г. с. Малафеевічы ўваходзіла ў склад маёнтка Калодзенскі, уласнасць царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 59 жыхароў, уласнасць падпалкоўніка Ф.І.Гарадзенскага, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць памешчыцы Паповай. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 78 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол.; у 1914 г. 80 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы стварылі калгас «Чырвоны пахар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 27 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна. У 1996 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**ВОЛМА** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 35 км на ПдЗ ад горада і 20 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 21 км ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 119 гаспадарак, 297 жыхароў (2013).

Вядома з 16 ст. У 1589 г. двор Волменскі ў Мінскім павеце ВКЛ. У 1592 г. мястэчка, шляхецкая ўласнасць, уваходзіла ў склад Смалявіцкага маёнтка. Знаходзілася на шляху з Мінска ў Магілёў і хутка ператварылася ў буйны населены пункт. У 1621 г. дзейнічаў рынак (27 двароў), на супрацьлеглым усх. беразе р. Волма быў закладзены другі рынак з 15 пляцамі. У 1640 г. 84 двары, карчма, вадзяны млын, вуліцы — да в. Пятровічы, Мінская, Магілёўская, цэнтр маёнтка, ва ўласнасці Б.Радзівіл. У 1643 г. 124 двары, у карыстанні сялян знаходзілася 40 валок ворнай зямлі. У 1655—60 гг. разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг., у 1665 г. 20 жылых двароў, 80 двароў пуставала. Маёнтак Волма знаходзіўся ў закладзе ў шляхціца Кастроўскага і яго сыноў Антонія і Марціна, з 1737 г. ў маёмасці роду Радзівілаў. У склад маёнтка ў 1737 г. ўваходзілі мястэчка з 121 заселенай і 5 пустымі сядзібамі, вёскі Драчкава, Пекалін, Пятровічы, Даманцішкі, Азярыцкая Слабада. У 1758 г. 29 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 34 двары, 177 жыхароў, драўляная ўніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, карчма, вадзяны млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Пабудаваная кн. Радзівілам царква была ў 1837 г. капітальна адноўлена кн.



Вітгенштэйнам. У 1872 г. 107 двароў, 771 жыхар. Вясной 1872 г. местачкоўцы адмовіліся ўносіць выкупныя плацяжы і аказалі супраціўленне уладам. Гэта выступленне было задушана з дапамогай войск. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. навучалася 25 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 1886 г. сяло, 24 двары, 254 жыхары, нар. вучылішча, праваслаўная царква, вадзяны млын, лесапільны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 445 жыхароў, у Смалявіцкай вол. У пач. 20 ст. сяло, 87 двароў, 627 жыхароў. У рэвалюцыю 1905—07 гг. у сяле адбыліся сял. хваляванні. Аграрнае выступленне адбылося таксама 4.5.1917 г. Сельскі сход прыняў пастанову аб высяленні з вёскі памешчыка Уварава і накіраваў яе губ. камісару. Паводле перапісу 1917 г. сяло, 107 двароў, 771 жыхар. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. налічваліся 62 вучні, настаўнікам працаваў І.Пікулік. З лютага да снеж. 1918 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 153 двары, 890 жыхароў, у пач. школе 2 настаўнікі, 72 вучні (з іх 18 дзяўчынак), пры школе працавала б-ка. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 26.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, дзейнічалі вадзяны млын, сукнавальня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ходзе Мінскай наступальнай аперацыі ў наваколлі вёскі адбываліся жорсткія баі. У вёсцы знаходзіцца брацкая магіла 83 воінаў і 2 партызан; брацкая магіла 2 сав. воінаў, якія загінулі ў баях у 1944 г., 5.7.1944 г. экіпаж самалёта М.І.Кірэева і А.І.Сафонава паўтарыў подзвіг М.Ф.Гастэлы. У гонар гераічнага экіпажа ў 1965 г. ўстаноўлены помнік-стэла. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў, 3 — ад фаш. тэрору, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 660 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім раёнах, у Пятровіцкім с/с. У 1988 г. 172 гаспадаркі, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 150 гаспадарак, 400 жыхароў, лясніцтва, жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, сярэдняя школа, пры якой існаваў музей, клуб. У 2013 г. лясніцтва, магазін.

**ВОРАТ** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 55 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

У 19 ст. ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. ўрочышча. Паводле перапісу 1897 г. вёска (17 двароў, 25 жыхароў) і ваколіца (яна ж Церпяцінаўка; 6 двароў, 49 жыхароў, смаляны з-д). У 1917 г. ў вёсцы 26 двароў, 175 жыхароў, у ваколіцы 34 двары, 241 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Ворацкага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., 68 гаспадарак, 384 жыхары, у аднайменным урочышчы 1 гаспадарка, 8 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 10 вяскоўцаў. У 1954 г. цэнтр сельсавета перанесены ў в. Слабада. 12.11.1957 г. Ворацкі с/с скасаваны, вёскі Ворат 1 і Ворат 2 перададзены ў Верхменскі с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Ворат 2 — 22 жыхары, в. Ворат 3 — 47 жыхароў, на хутары Ворат 1 — 24 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 5.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. вёска ў Курганскім, з 15.8.1987 г. ў Пекалінскім сельсаветах.

У канцы 1980-х г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у калгасе «1 Мая».

Складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай шыротна і забудаванай драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**ВОСАВА** – вёска ў Жодзінскім с/с (з 18.6.2008 г.), за 9 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 42 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1803 г. засценак у складзе маёнтка Смалявічы Барысаўскага павета Мінскай губ., уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. ў Смалявіцкай вол. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Жажэльскім с/с (21 двор, 138 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1925 г. вёска, 26 гаспадарак, 143 жыхары. У 1930 г. быў створаны калгас «Чырвоны Восаў», у якім у 1932 г. налічвалася 16 гаспадарак, 200 жыхароў. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Плiскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў, у саўгасе імя Леніна. У 1996 г. 29 гаспадарак, 47 жыхароў, у Смалявіцкім райсавеце.

**ВОСАВА** – вёска ў Плiскім с/с, за 8 км на У ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск–Орша, на аўтадарозе Смалявічы–Жодзіна, 43 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Мінскай губ. У 1909 г. ў Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета, 19 двароў, 15 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 90 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. засценак і чыг. будка (разам 6 двароў, 29 жыхароў). У 1925 г. вёска, 15 двароў, 108 жыхароў, працаваў кравец, у Плiскім с/с Смалявіцкага р-на. У пач. 1930-х г. быў створаны калгас «Чырвоны барацьбіт», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 – у партыз. барацьбе, 26 – ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 4 жыхары. У 1996 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ВОСТРАЎ**, Остраў – вёска ў Жодзінскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Смалявіч і 9 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск–Орша, 55 км ад Мінска, каля р. Сойка (прыток р. Бродня). 23 гаспадаркі, 51 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 64 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1862 г. ў вёсцы 91 жыхар, 11 двароў, якія ўваходзілі ў Востраўскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 191 жыхар, вадзяны млын, капліца; урочышча, 2 двары, 10 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 32 двары, 181 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, 36 вучняў. З 24.8.1924 г. ў Жодзінскім с/с (разам з хутарам Паплавец 31 гаспадарка, 188 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 155 жыхароў; у 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Востраў», у якім у 1932 г. было 45 гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г.



вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 18 жыхароў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары, у Жодзінскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 49 гаспадарак, 140 жыхароў, вяскоўцы працавалі ў эксперыментальнай гаспадарке «Будагова». У 1996 г. 42 гаспадарцы, 62 жыхары, магазін, базавая школа.

**ВОСТРАЎ** — хутар у Пекалінскім с/с, за 9 км на ПдУ ад горада і ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 47 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

У 1885 г. маёнтак і ўрочышча ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1893 г. вёска, 13 двароў, 110 жыхароў. У 1917 г. 16 двароў, 142 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920-я г. дзейнічала школа. З 1924 г. ў Ворацкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў Верхменскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с.

**ВЫЗВАЛЕННЕ** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 19 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 57 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2013).

Засн. ў 1-й пал. 20 ст. У 1933 г. існаваў саўгас «Вызваленне» і назва вёсцы дадзена ад яго наймення. У гады Вял. Айч. вайны 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. хутар Вызваленне, 257 жыхароў, у Драчкаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с. У 1988 г. вёска, 63 гаспадаркі, 144 жыхары, у калгасе імя К.А.Ціміразева (цэнтр — в. Пекалін). У 1996 г. 63 гаспадаркі, 149 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ва Усяжскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 8 км на ПнЗ ад горада і 10 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Лагойск, 37 км ад Мінска, каля р. Усяжа (прыток р. Гайна). 12 гаспадарак, 24 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. засценак Высокія, 7 сядзіб, карчма, у складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 49 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 8 двароў, 84 жыхары, 2 вадзяныя млыны, карчма. Побач з маёнткам былі яшчэ 2 пасляліпчы: Высокае Урочышча (1 двор, 6 жыхароў, смалакурна-шкіпінарны з-д) і Шафарыя (1 двор, 9 жыхароў). У 1908 г. ў маёнтку 2 двары, 43 жыхары, ва ўрочышчы Высокае 1 — 2 двары, 10 жыхароў, ва ўрочышчы Высокае 2 — 1 двор, 5 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. ў маёнтку Высокае 1 двор, 60 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак (6 двароў, 50 жыхароў) у складзе Емяльянаўскага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай аругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. ў пасёлку 18 двароў, 102 жыхары. У 1929 г. створаны калгас «Бальшавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 сял. гаспадаркі, працавалі вадзяны

млын, кузня, сукнавальня, лесапілка. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 9 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 — у партыз. барацьбе, 2 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў, у Емяльянаўскім с/с. З 25.1.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім, з 15.8.1987 г. ў Прылепскім с/с. У 1988 г. 38 гаспадарак, 76 жыхароў, у саўгасе імя Ю.А.Гагарына. У 1996 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары. Помнік нар. архітэктуры пач. 20 ст. — драўляны двухпавярховы вадзяны млын.

**ВЫСОКАЯ ГОРКА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 40 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 21 жыхар (2013).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 12 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1917 г. хутар Горка-Высокая, 1 двор, 9 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. хутар у Емяльянаўскім с/с (разам з хутарам Пераноты 5 гаспадарак, 40 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 46 жыхароў, у Слабодскім с/с, з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1996 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ВЫСОКІЯ ЛЯДЫ**, Высокае Ляда — вёска ў Жодзінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 49 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 69 жыхароў (2013).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. в. Высокая Ляда, або Паўлінкі, 2 двары, 11 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Кн. Д.Радзівіл аддаў вёску ў заклад А.Ванькавічу. У 1870 г. ў складзе маёнтка Смалявічы, уладанне кн. Вітгенштэйна, 14 вяскоўцаў уваходзілі ў Высакалядскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. пас. Ляда-Высокае ў Смалявіцкай вол., 12 двароў, 139 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 20 двароў, 155 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. пас. Ляда-Высокае, 17 двароў, 125 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. пасёлак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1919 г. ў вёсцы адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучаліся 44 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Пліскім с/с (у вёсцы і на хутары 29 гаспадарак, 220 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 219 жыхароў; у пач. школе вучылася 66 дзяцей. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны партызан» і арцель імя Сталіна па здабычы торфу, працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 31 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар, у Жодзінскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 70 гаспадарак, 170 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Жодзіна». У 1996 г. 75 гаспадарак, 125 жыхароў, магазін. Абеліск на магіле сав. воіна, які загінуў у баі ў 1944 г.

**ВЯЛІКАЕ ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 31 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Залужжа, 6 двароў, 25 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 30 жыхароў муж-



чынскага полу, у Смалявіцкай вол. У выніку падзелу в. Залужжа ўзніклі вёскі Вялікае Залужжа і Малое Залужжа. Паводле перапісу 1897 г. ў Вялікім Залужжы 27 двароў, 186 жыхароў. У пач. 20 ст. 43 двары, 223 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 39 двароў, 260 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с (51 двор, 295 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 54 двары, 28 жыхароў. У 1930 г. быў створаны калгас «Чырвоная змена», у 1932 г. ён аб'ядноўваў 28 сял. гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 53 жыхары загінулі на франтах, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 48 гаспадарак, 90 жыхароў. У 1996 г. 37 гаспадарак, 67 жыхароў, магазін.

**ВЯЛІКІ КАМЕНЬ**, Сіні Камень — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 38 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя і створаны калгас «Другая пяцігодка». У 1988 г. 8 гаспадарак, 20 жыхароў, у саўгасе «Загор'е» (цэнтр — в. Драчкава). У 1996 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАНЧАРОЎКА** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад горада і 13 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 23 км ад Мінска. 63 гаспадаркі, 100 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 12 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 4 двары, 22 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 5 двароў, 30 жыхароў. З 20.8.1924 г. хутар у Слабодскім с/с (11 гаспадарак, 67 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 25.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У 1930 вёска, жыхары стварылі калгас «Чырвоны маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 2 — ад фаш. тэрору, 32 — на франтах. З 7.10.1950 г. ў Забалоцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 459 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 105 гаспадарак, 240 жыхароў, у калгасе імя М.І.Калініна, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 92 гаспадаркі, 192 жыхары. У 2013 г. — магазін.

Планіроўка прамавугольная, квартальная, складаецца з 3 паралельных і 3 перпендыкулярна перасякаючых іх вуліц. Гал. вуліца арыентавана шыротна. Традыц. жылая забудова пераважна драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу.

**ГЛІНІШЧА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Смалявіч і 8 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 56 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2013).

Знойдзеныя паблізу вёскі археал. знаходкі датуюцца 2—1-м тыс. да н.э. і сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 76 жыхароў. Паводле перапі-

су 1917 г. 11 двароў, 72 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. вёска, 16 двароў, 84 жыхары. З 20.8.1924 г. засценак (16 двароў, 91 жыхар) у Жодзінскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Прамень Саветаў». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 вясковец загінуў на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў, у эксперыментальнай гаспадарцы «Будагова». У 1996 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары.

**ГРАДКІ** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Смалявіч і 6 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 54 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. як засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 11 двароў, 68 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 18 двароў, 21 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана школа, у якой у 1926 г. было 58 вучняў. У гэтым годзе ў вёсцы 20 двароў, 97 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Жодзінскім с/с (30 двароў, 174 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. быў створаны калгас «Новыя Градкі». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў у партыз. барацьбе, 4 — на фронце. З 12.11.1957 г. вёска ў Жодзінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе дзярж. прадпрыемства «Жодзінскае». У 1996 г. 15 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ГРУДОК** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 25 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар, 6 двароў, 39 жыхароў, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З лютага да снеж. 1918 г. пасёлак і хутар акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прыленскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 38 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 11 гаспадарак, 30 жыхароў, у калгасе імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада). У 1996 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ГРЫВА** — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 42 км ад Мінска, на р. Вожа (прыток р. Волма). 48 гаспадарак, 101 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 23 двары, 152 жыхары, уладанне Лядскага базыльянскага кляштара, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска была ўласнасцю казны. У ліст. 1864 г. вяскоўцы зрабілі самавольную высечку памешчыцкага лесу. Паводле перапісу 1897 г. вёска пры казённым лесе Смілавіцкай вол., 40 двароў, 237 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У пач.



20 ст. 52 двары, 287 жыхароў. У 1917 г. 65 двароў, 368 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 76 двароў, 352 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Звязда». У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 27 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 384 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 110 гаспадарак, 220 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма, у складзе саўгаса «Загор'е». У 1996 г. 90 гаспадарак, 176 жыхароў.

Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, забудавана шчыльна, двухбакова аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАБРАВОДКА** — вёска ў Курганскім с/с, за 19 км на ПдУ ад горада і 18 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 55 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 50 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1847 г. ў складзе маёнтка Шыпяны, уласнасць Манюшкаў, 14 двароў, 140 жыхароў. У 1858 г. 167 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Верхменскай вол., 42 двары, 295 жыхароў. У пач. 20 ст. 53 двары, 350 жыхароў. У 1917 г. 47 двароў, 287 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыты хата-чытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, пач. школа (у 1926 г. 74 вучні, з іх 36 дзяўчынак). Паводле перапісу 1926 г. 30 двароў, 304 жыхары. Працавала хата-чытальня. У 1929 г. створаны калгас «Аб'яднанне» (у 1932 г. аб'ядноўваў 62 сял. гаспадаркі), дзейнічала кузня. З 17.7.1924 г. ў Верхменскім с/с (57 гаспадарак, 258 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 11 — ад фаш. тэрору, 8 — на фронце. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 48 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Курганы», магазін, 2 фермы. У 1996 г. 39 гаспадарак, 75 жыхароў. Радзіма Героя Сав. Саюза А.А.Аляхновіча (2.4.1914—29.12.1979).



*А.А.Аляхновіч.*

Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль мерыдыянальна, забудаванай традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАМАШАНЫ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 10 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 26 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 62 гаспадаркі, 127 жыхароў (2013).

Вядома з 16 ст. Згадваецца ў інвентары 1588 г. як с. Даманчышкі (потым Дамашаны) у Смалявіцкай вол., 5 гаспадарак дворных парабкаў і 8 сялянскіх. У 1621 г. ў Даманцішках 34 двары, 14,8 валокі зямлі; у 1643 г. 48 двароў. У 1655—60 гг. сяло разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг.; у 1665 г. 7 двароў, 38 двароў пуставала. З 1737 г. ў маёмасці роду Радзівілаў, у складзе маёнтка Волма, 9





дамоў, 14,8 валокі зямлі. У 1748 г. адбылося сял. хваляванне супраць шляхціцаў і аканома. У 1758 г. ў засценку Дамашаны 3 двары. У 1772 г. ў сяле пабудавана праваслаўная капліца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 34 двары, 168 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У вайну 1812 г. жыхары вёскі аказалі супраціўленне французскім акупантам. У 1816 г. вёска аддадзена ў заклад А.Ваньковічу. У 1870 г. 64 вяскоўцы ўваходзілі ў Дамашанскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 47 двароў, 325 жыхароў, дзейнічалі царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1890 г.) і праваслаўная царква. У пач. 20 ст. 51 двор, 400 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 56 двароў, 402 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с (65 двароў, 410 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 87 двароў, 460 жыхароў, дзейнічала школа 1-й ступені. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны баец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 28 вяскоўцаў загінулі на франтах, 4 у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 481 жыхар, у Слабодскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 113 гаспадарак, 260 жыхароў, у складзе калгаса імя Ю.А.Гагарына, цэнтр паляводчай брыгады, магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 93 гаспадаркі, 180 жыхароў. У 2013 г. размешчаны магазін. Помнік драўлянага нар. дойлідства — Іаана-Багаслоўская царква (1772). Дзейнічаюць Іаана-Багаслоўскі манастыр (1997) і царква ў гонар Ціхвінскага абраза Маці Божай (2000). Побач з вёскай знаходзіцца Дамашанскае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу.

**ДАРОЖНЫ** — пасёлак у Жодзінскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Смалявіч і 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 50 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2013).

Засн. ў 1966 г. У 1977 г. да пасёлка былі далучаны вёскі Высокія Ляды 2 і Высокія Ляды 3. Паводле перапісу 1959 г. гэтыя вёскі налічвалі адпаведна 32 і 49 жыхароў і ўваходзілі ў Пліскі с/с. 15.8.1987 г. пасёлак перададзены ў Жодзінскі с/с. У 1988 г. 68 гаспадарак, 120 жыхароў, у складзе птушафабрыкі «Смалявіцкая». У 1996 г. 45 гаспадарак, 83 жыхары.

**ДЗЯМІДАВА ЖЭСЦЬ**, Дземідоўшчына — вёска ў Пліскім с/с, за 12 км на У ад Смалявіч і 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 48 км ад Мінска, каля р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 11 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. вёска ў закладзе ў Ваньковіча. У 1870 г. ў маёмасці кн. П.Л.Вітгенштэйна ў складзе маёнтка Смалявічы Смалявіцкай вол., 4 жыхары ўваходзілі ў Высакалядскую сельскую гамаду. Паводле перапісу 1897 г. хутар пры чыг. лініі Мінск—Орша і р. Пліса, 4 двары, 41 жыхар. У пач. 20 ст. засценак Жэсць Дзямідава, 5 двароў, 38 жыхароў. У 1917 г. 1 двор, 7 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 7 двароў, 48 жыхароў. З 20.8.1924 г. засценак у Пліскім с/с (7 гаспадарак, 44 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 15.1.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. вёс-



ка, 28 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба». У 1996 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЯХАНЬ**, Дзяхані — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 26 км ад Мінска. 34 гаспадаркі, 84 жыхары (2013).

У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Пятровічы, уласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета, 26 двароў, 150 жыхароў. Побач з вёскай знаходзілася ўрочышча Дзяхань, 30 жыхароў, працаваў смалакурна-шкіпінарны з-д. У пач. 20 ст. 40 двароў, 277 жыхароў, адкрыта царк.-прыходская школа. У 1910 г. ў школе налічвалася 35 вучняў (у т.л. 5 дзяўчынак). У 1905 г. болей за 200 сялян вёскі выступілі супраць уладальніка Пятровіцкага маёнтка ген. У.А.Бекмана. Выступленне было падаўлена, 18 яго арганізатараў адпраўлены ў Ігуменскую турму. У крас. 1913 г. сяляне таксама выступілі супраць намеснчыка, правялі патрану пасеваў у маёнтку ў сувязі з абмежаваннем вяскоўцаў у выпасе жывёлы. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 48 двароў, 308 жыхароў, урочышча, 4 двары, 25 жыхароў, смалакурна-шкіпінарны з-д. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска, 63 двары, 326 жыхароў, адкрыта прац. школа 1-й ступені (44 вучні, у т.л. 15 дзяўчынак) і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная Ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 сял. гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе, 5 — ад фаш. тэрору. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 60 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы», магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 60 гаспадарак, 130 жыхароў. У 2013 г. — магазін.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль шыротна; забудавана традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРАЧКАВА**, Драчкова, Драчкаў — вёска, цэнтр Драчкаўскага с/с, за 26 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Смілавічы, каля р. Вожа (прыток р. Пліса), 40 км ад Мінска. 289 гаспадарак, 867 жыхароў (2013).

Вядома з 16 ст. Упершыню згадваецца як сяло пад 1552 г., калі ўваходзіла ў склад Смалявіцкага маёнтка ва ўладанні Мікалая Радзівіла Рудога. Была населена сялянамі-даннікамі. У 1571 г. шляхецкая ўласнасць у Мінскім павеце. У 1586 г. 38 дымоў, 2 сям'і, 45 валок зямлі. Паводле інвентару 1588 г. 41 сял. двор, у карыстанні 45 валок зямлі, 11 агароднікаў без зямлі, у маёнтку Смалявічы Смалявіцкай вол. У 1592 г. сяло Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1628—29 гг. ўпамінаецца ў «Рэвізіі маёнтку на службе вайсковай татарам нададзеных», 7 службаў даннікаў належалі татарскаму роду Цівячэвічаў. У 1621 г. 89 двароў, 40 валок зямлі. У 1640 г. 112 дымоў. У 1652 г. сяло ў складзе маёнтка Волма, уладанне Б.Радзівіла. У 1655—60 гг. разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У 1665 г. 91 двор, 84 двары пуставала. З





1737 г. маёмасць рода Радзівілаў (Ганны і яе сыноў), да гэтага часу было ў закладзе ў шляхціцаў Кастроўскіх, у 1738 г. 25 двароў; у 1758 г. 22 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 1795 г. ў Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1800 г. ў сяле 22 двары, 154 жыхары (па іншых звестках — 21 двор, 137 жыхароў), драўляная ўніяцкая Казьмадзям'янаўская царква, карчма, драўляны гаспадарскі дом са службамі, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Пятровічы, уладанне кн. П.Вітгенштэйна. У крас.–маі 1872 г. сяляне аказалі супраціўленне ў час правядзення вопісу іх свойскай жывёлы для продажу з публічных таргоў з мэтай пакрыцця нядоімак. Найб. актыўныя ўдзельнікі хвалявання былі арыштаваны. У 1887 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 27 хлопчыкаў. У маі 1895 г. вяскоўцы самавольна пасвілі сваю жывёлу ва ўладаннях памешчыка, адбыліся сутычкі з лясной аховай. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 500 жыхароў, Казьмадзям'янаўская царква, карчма. У пач. 20 ст. сяло, 82 двары, 517 жыхароў, працавала царк.-прыходская школа (у 1910 г. 30 вучняў). Паводле перапісу 1917 г. 100 двароў, 601 жыхар. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 цэнтр Драчкаўскага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 119 двароў, 644 жыхары, адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, дзейнічала прац. школа 1-й ступені (83 вучні, з іх 21 дзяўчынка). У 1929 г. створаны калгас «Новы мір», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы; У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 жыхароў загінула на франтах, 27 — ад фаш. тэрору, 2 — у партыз. барацьбе. У дзвюх брацкіх магілах пахаваны 97 сав. воінаў і партызан, памяць аб якіх у 1951 і 1965 гг. была ўшанавана скульптурай воіна і стэлай. Паводле перапісу 1959 г. 485 жыхароў, у сельсавеце 3175 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1971 г. 230 двароў, 705 жыхароў. У 1988 г. 280 гаспадарак, 700 жыхароў, цэнтр саўгаса «Зарэчча», які аб'ядноўваў 11 населеных пунктаў. У пасляваенныя гады зніклі вёскі сельсавета — Краўча (1979), Палянка (1977), Лягушкі (1977), хутары Падкрыжжа (1977), Машэннае (1967), Пабрацімаўка. У 1996 г. 320 гаспадарак, 951 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, сталовая, ашчадная каса, ветлячэбніца, амбулаторыя, аптэка, дзіцячыя яслі-сад, 3 магазіны. У 2013 г. аграгарадок, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, сталовая, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, дзіцячыя яслі-сад, 4 магазіны. Размешчана Казьмадзям'янаўская царква (пабудавана з дрэва ў 1875 г., у 1989 г. абкладзена цэглай і павялічана). Помнікам старажытнасці з'яўляецца культавы камень-валун са стараж. надпісам; згодна з паданнем, ён служыў адзнакай межаў манастырскай зямлі.

Вёска планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, да якой на Пн пад вострым вуглом падыходзяць 2 прамалінейныя вуліцы з завулкамі. Грамадскі цэнтр размешчаны ў паўд. частцы вёскі. Традыц. жылая забудова драўляная, аднапавярховая, шчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Мураванае будаўніцтва вядзецца на паўд. і паўн. ускраінах вёскі. Радзіма Героя Сац. Працы М.А.Процькі.

**ДУБНІКІ** — вёска ў Курганскім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Сма-



лявічы на лініі Мінск—Орша, 71 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

Паводле перапісу 1897 г. ваколіца, 2 двары, 21 жыхар, у Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. ўрочышча, 2 двары, 24 жыхары. У 1917 г. 2 двары, 14 жыхароў. З 1919 г. ў БССР. У 17.7.1924 г. ўрочышча ў Клянніцкім с/с (6 гаспадарак, 43 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.1.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. хутар, 6 двароў, 32 жыхары. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У 1941 г. вёска, 7 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі яе і загубілі 2 жыхароў, на фронце загінулі 4 вяскоўцы, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 46 жыхароў, у Курганскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе саўгаса імя П.І.Купрыянава.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ. Забудавана традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВІКІ** — вёска ва Усяжскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад горада і 9 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Смалявічы—Лагойск, 23 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 40 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. вёска ў закладзе ў А.Ваньковіча. У 1870 г. ў маёнтку Смалявічы кн. П.Вітгенштэйна, 9 сялян уваходзілі ў Высакалядскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 130 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета. У пач. 20 ст. засценак, 3 двары, 29 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 6 двароў, 40 жыхароў, у маёнтку 77 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар, пасёлак (26 гаспадарак, 121 жыхар) у Емяльянаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вол. У 1924 г. створаны саўгас «Дубовікі», які аб'ядноўваў 3 гаспадаркі і 9 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Прагрэс» (у 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак), дзейнічалі кузня, сталярная майстэрня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, ў партыз. барацьбе загінулі 11 жыхароў, 13 — на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім, з 15.8.1987 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 93 жыхары, у саўгасе імя Ю.А.Гагарына, жывёлагадоўчая ферма, рамонтныя майстэрні. У 1996 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў.

**ДУБРАЎКА**, Д у б р о ў к а, М а л а я Д у б р о ў к а — вёска ў Забалоцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 24 км ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1803 г. вёска, 13 двароў, 58 жыхароў, у складзе маёнтка Смалявічы Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 54 жыхароў, у Смалявіцкай вол. У пач. 20 ст. засценак, 12 двароў, 100 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 10 двароў, 79 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с (10 двароў, 80 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 13





двароў, 78 жыхароў, у 1930 г. створаны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 жыхары загінулі на франтах. З 7.10.1959 г. ў Забалоцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. З 20.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна. У 1996 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудавана драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** – вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, за 25 км ад Мінска; каля вусця р. Дуброўка пры ўпадзенні яе ў р. Усяжа, дзе створана Дубраўскае вадасховішча. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. вёска ў складзе маёнтка Гарадок Мінскага ваяв. ВКЛ, у які ўваходзіла 20 сядзіб, у т.л. 2 баярскія, 18 зямянскіх, 3 сядзібы пуставалі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1858 г. 69 душ мужчынскага полу, ва ўласнасці памешчыка М.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. Жыхары вёскі ўваходзілі ў Дубраўскую сельскую грамаду. На 1885 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 42 двары, 283 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 43 двары, 270 жыхароў, дзейнічала земскае нар. вучылішча (настаўнік М.Турыновіч). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас «Палявік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі 22 вяскоўцы, 21 – ад фаш. тэрору, 3 – у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 309 жыхароў, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. з Дубровай аб'яднана в. Верхалоўшчына. У 1988 г. 55 гаспадарак, 104 жыхары, у калгасе імя У.І.Леніна. У 1996 г. 40 гаспадарак, 47 жыхароў, магазін. Радзіма бел. пісьменнікаў І.Ц.Дуброўскага (сапр. Чарняўскі; 4.9.1906–9.12.2003) і У.М.Юрэвіча (22.7.1916–28.1.2005).

**ДУБРОВА** – вёска ў Драчкаўскім с/с, за 29 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 23 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 60 жыхароў (2013).

У 1885 г. фальварак у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ваколіца, 5 двароў, 48 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 11 двароў, 78 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. засценак, 13 двароў, 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 37 жыхароў, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Загор'е». У 1996 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна; забудавана



двухбакова традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Курганскім с/с, за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 54 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2013).

У 1960-я г. каля вёскі ва ўрочышчы Графшчына, а таксама паміж вёскамі Дуброва і Карпілаўка выяўлены археал. помнікі — курганы, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. Упершыню згадваецца ў актавай кнізе за 1582 г. як сяло Менскага павета ў складзе маёнтка Астрашыцы ва ўладанні Г.Гарнастая. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. засценак, 8 двароў, 106 жыхароў. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Шыпяны Ігуменскага павета Мінскай губ., належала памешчыку А.Манюшку, 6 мужчынскіх і 6 жаночых душ. У 1885 г. вядома ўрочышча Дуброва. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Верхменскай вол., 7 двароў, 52 жыхары. Побач з вёскай знаходзілася ваколіца, 5 двароў, 31 жыхар. У пач. 20 ст. вёска, 5 двароў, 33 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 7 двароў, 42 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Верхменскім с/с (у вёсцы 16 гаспадарак, 98 жыхароў, у пасёлку 46 гаспадарак, 220 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 54 жыхары. У вёсцы працавала кузня, у пасёлку — шавецкая і сталярная майстэрні. У 1-й пал. 20 ст. вёскі Дуброва і Старая Дуброва, якія знаходзяцца побач, былі вядомы пад адной назвай. У 1929 г. быў створаны калгас. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 3 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 30 вяскоўцаў загінула на фронце, 4 — ад фаш. тэрору, 6 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Дуброва 207 жыхароў, у в. Старая Дуброва 96 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Курганскім с/с. У 1988 г. 44 гаспадаркі, 70 жыхароў, у саўгасе «Шыпяны», магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 32 гаспадаркі, 59 жыхароў.

Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц: працяглай і кароткай, звязаных завулкамі, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЫНАРАЎКА**, Дзінараўка — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 8 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 28 км ад Мінска, каля аўтадарогі Мінск—Масква, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 36 гаспадарак, 74 жыхары (2013).

Вядома з 16 ст. Згодна з актавай кнігай 1582 г. маёнтак Мінскага павета ва ўладанні шляхціца А.Галаўні. У 1586 г. двор Дайнаровічы, уласнасць Радзівілаў. Паводле інвентароў 1588 г. пазначана як панскі двор Дайнароўка з гасп. пабудовамі, у Смалявіцкай вол. У 1655—60 гг. разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг.; у 1665 г. 9 двароў, 23 двары пуставалі; у 1675 г. 2 двары. У 1713 г. 7 двароў, якія мелі 12 валок зямлі і 4 коней, у 1781 г. 12 двароў, каля 90 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. в. Дзейнароўка, 7 двароў, 50 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1855 г. пабудавана праваслаўная капліца. У 1870 г. 57 вяскоўцаў уваходзілі ў Дамашанскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 290 жыхароў. У пач. 20 ст. 43 двары, 361 жыхар, дзейнічала нар. вучылішча (адкрыта ў 1907 г.). Паводле перапісу 1917 г. 54 двары, 368 жыхароў, нар. вучылішча. З лютага да





снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе нар. вучылішча створана прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 33 вучні, у 1926 г. 3 настаўнікі, 90 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с (61 двор, 373 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 72 двары, 382 жыхары. У пач. 1930-х г. дзейнічалі калгас «Грамада» (у 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак), вадзяны млын і кузня. У 1940 г. 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 32 жыхары; 4 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 12 — на франтах. На ўшанаванне памяці 7 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі, у 1952 г. ўстаноўлены абеліск на брацкай магіле. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў, у Слабодскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах; з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 48 гаспадарак, 130 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ю.А.Гагарына, які аб'ядноўваў 8 вёсак. У 1996 г. 52 гаспадаркі, 140 жыхароў, клуб, б-ка, сталовая, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі і ашчаднага банка, магазін, жывёлагадоўчая ферма, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі.

**ЕМЯЛЬЯНАВА**, Емельянова, Міллянова, Аміллянава, Амяльянава — вёска ва Усяжскім с/с, за 7 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 24 км ад Мінска. 40 гаспадарак, 83 жыхары (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1803 г. засценак, уласнасць казны ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Смалявіцкай вол., 20 двароў, 138 жыхароў, мелася капліца. У пач. 20 ст. ў засценку 12 двароў, 106 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 22 двары, 165 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. — цэнтр Емяльянаўскага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), 28 гаспадарак, 203 жыхары, на хутары Емяльянава-Калюга 10 двароў, 8 жыхароў; з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 30 двароў, 164 жыхары, дзейнічала прац. школа 1-й ступені (95 вучняў, з іх 23 дзяўчынкі). У 1930-х г. створаны калгас «Перамога» (у 1932 г. аб'ядноўваў 29 сял. гас-

*Станцыя спадарожнікавай сувязі «Тэлепорт» каля в. Емяльянава.*





падарак), працавалі кузня, сталярня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 34 вяскоўцы загінулі на фронце, 7 жыхароў — у партыз. барацьбе, 4 — ад фаш. тэрору; у вёсцы дзейнічала антыфаш. падполле. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. 10.2.1977 г. Емельянаўскі с/с перайменаваны ва Усяжскі, а яго цэнтр перанесены ў пас. Усяж. У 1988 г. 70 гаспадарак, 130 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі». У 1996 г. 62 гаспадаркі, 91 жыхар, б-ка, магазін, клуб, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Каля вёскі знаходзіцца адзіная ў Беларусі станцыя спадарожнікавай сувязі «Тэлепорт».

**ЖАЖЭЛКА**, Казлы — вёска ў Жодзінскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Смалявіч, 8 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 48 км ад Мінска, каля р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 104 гаспадаркі, 275 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. ў закладзе ў А.Ваньковіча. Згодна з ўстаўной граматай 1862 г. ў засценку 7 сялян, 1 двор, уладанне Л.Вітгенштэйна ў складзе маёнтка Яловіца. У 1870 г. вёска адносілася да маёнтка Смалявічы ва ўласнасці П.Вітгенштэйна, 29 сялян вёскі ўваходзілі ў Астроўскую сельскую гамаду. Паводле перапісу 1897 г. ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета, 21 двор, 147 жыхароў, працавала кузня. У 1909 г. 23 двары, 140 жыхароў. Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй адкрыта нар. вучылішча. Паводле перапісу 1917 г. 33 двары, 218 жыхароў, працавала царк.-прыходская школа. У 1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Жажэльскага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. 39 гаспадарак, 226 жыхароў. Паводле перапісу 1926 г. 38 двароў, 199 жыхароў, у пач. школе налічвалася 90 вучняў, з іх 22 дзяўчынкі. У пач. 1930-х г. існаваў калгас «Звязда» (у 1933 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі), працавалі цагляны з-д (пабудаваны ў 1930 г.) і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 3 вяскоўцы. У 1941 г. 88 двароў, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 17 вяскоўцаў, 8 — у партыз. барацьбе, 26 — ад фаш. тэрору. У гады вайны ў вёсцы дзейнічалі падпольшчыкі. З 16.7.1954 г. ў Жодзінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 221 жыхар, у Плісkім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 348 гаспадарак, 810 жыхароў, цэнтр саўгаса імя М.С.Урыцкага. У 1996 г. 115 гаспадарак, 304 жыхары. У 2013 г. — фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка, сярэдняя школа (пры ёй музей), клуб.

**ЖУРАВОК** — вёска ў Курганскім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 60 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2013).

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска, цэнтр Забалоцкага с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і 2 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 36 км ад Мінска. 257 гаспадарак, 704 жыхары (2013).

Вядома як шляхецкая ўласнасць з 16 ст. У 1586 г. сяло, 36 сямей, 40 валок зямлі, у Смалявіцкай вол. Мінскага павета Мінскага ваяв ВКЛ. У 1621 г. 73 двары, у 1643 г. 81 двор. У 1655—60 гг. разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У 1665 г. 30 двароў, 97 двароў пуставала. У 1675 г. 18 двароў, у 1713 г. 14 двароў, у выкарыстанні якіх знаходзілася 40 валок зямлі, 6 коней і 7 валоў. У 1781 г. 24 двары, 180 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Барысаўскім павеце Мінскай





губ. У 1800 г. 30 двароў, 136 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1816 г. сяло ў закладзе ў А.Ваньковіча. У 1880-х г. дзейнічала школа граматы, якая ў 1890 г. была закрыта з-за адсутнасці сродкаў на яе ўтрыманне. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета, 45 двароў, 311 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, карчма. У пач. 20 ст. вёска, 71 двор, 500 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча (адкрыта ў 1904 г.). Паводле перапісу 1917 г. 65 двароў, 404 жыхары. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут адкрыта хата-чытальня і прац. школа 1-й ступені (на 1926 г. 110 вучняў, 2 настаўнікі). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), 61 двор, 403 жыхары. У сельсавет аб'яднаны 336 гаспадарак і 2052 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Камунар», які ў 1932 г. налічваў 12 гаспадарак, працавалі кузня і млын. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1941 г. 95 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. У 1959 г. на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў баях з акупантамі ў 1941 і 1944 гг., пастаўлены помнік. На фронце загінулі 44 вяскоўцы і 15 жыхароў сельсавета, 2 вяскоўцы — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 581 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1971 г. 173 двары, 665 жыхароў, в. Зара Забалоцце (потым Забалоцце) была цэнтрам калгаса «Ленінскі шлях», які аб'ядноўваў вёскі Забалоцце, Падыгрушша, Мікалаевічы, Загор'е, Чэрнікаўшчына, Старына, Масцішча, Станок-Вадзіца. У 1988 г. 230 гаспадарак, 750 жыхароў, у складзе сельсавета знаходзілася 12 вёсак. У 1978 г. зніклі вёскі Чарніца, Дубовы Лог, Вадзіца, жыхары якіх перасяліліся ў іншыя месцы. У 1996 г. 262 гаспадаркі, 748 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, сталовая, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, сярэдняя школа, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад, 2 магазіны. У 2013 г. аграгарадок, размешчана замежнае прадпрыемства «Штоц Агра-Сервіс», дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», амбулаторыя, 2 магазіны. Помнік архітэктуры — драўляная Георгіеўская царква (1907). На мясц. могілках пахаваны Герой Сац. Працы Б.М.Голубеў.

Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1973 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Планіроўка прамавугольная, квартальная і складасцца з 3 паралельных вуліц, злучаных паміж сабой 3 кароткімі паралельнымі вуліцамі. Грамадскія пабудовы размешчаны на плошчы ў цэнтры вёскі. Забудова шчыльная, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Мураванае шматпавярховае будаўніцтва вядзецца ў цэнтры і ў паўн. частцы вёскі.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Курганскім с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 58 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска, 31 двор, 237 жыхароў, карчма, млын, шляхецкая ўласнасць, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Поцічава (Поцічэла), уладанне П. і Э. Манюшкаў. У 1870 г. 94 селяніны ўваходзілі ў Клянніцкую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета, 46 двароў, 294 жыхары, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін і ветраны млын. У пач. 20 ст. 68 двароў, 387 жыхароў. У 1909 г. адкрыта нар. вучы-



лішча (па іншых звестках — у 1912 г.). Паводле перапісу 1917 г. 55 двароў, 370 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 79 вучняў). З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. пры школе створаны пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Кляніцкім с/с (64 гаспадаркі, 374 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 70 двароў, 373 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Калгаснік Беларусі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак; працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 3 жыхары вёскі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Разгром», 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе, 14 — разам з жыхарамі в. Стрыева ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 304 жыхары, у Курганскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 70 гаспадарак, 140 жыхароў, у саўгасе імя П.І.Купрыянава. У 1996 г. 55 гаспадарак, 99 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін.

Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, забудаванай няшчыльна драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБРАДЗЕННЕ**, Забродзенне — вёска ў Жодзінскім с/с, за 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 51 км ад Мінска, каля р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2013).

У 1870 г. вёска ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 135 жыхароў. У пач. 20 ст. 25 двароў, 187 жыхароў. У 1917 г. існавалі 2 вёскі — Забрадзенне 1 (17 двароў, 113 жыхароў) і Забрадзенне 2 (13 двароў, 74 жыхары), якія пазней аб'ядналіся. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жажэлкаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. Забрадзенне 1 (9 двароў, 58 жыхароў) і Забрадзенне 2 (14 двароў, 90 жыхароў). Паводле перапісу 1926 г. Забрадзенне 1 (12 двароў, 65 жыхароў), Забрадзенне 2 (13 двароў, 83 жыхароў). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Першамайскі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 вяскоўцы загінулі ад фаш. тэрору, 4 — у партыз. барацьбе, 12 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 188 жыхароў, у Пліскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў, у саўгасе імя М.С.Урыцкага. У 1996 г. 26 гаспадарак, 36 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Курганскім с/с, за 19 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы, 56 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Бярэзіна). 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2013).

У 1847 г. засценак у складзе маёнтка Шыпяны, валоданне А.Манюшкі, 4 гаспадаркі, 50 жыхароў. У 1858 г. вёска, 34 жыхары, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета, 14 двароў, 81 жыхар, за 1 км ад вёскі ва ўрочышчы Тумель знаходзіўся вадзяны млын на р. Уша. У пач. 20 ст. 14 двароў, 163 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. побач былі





в. Заброддзе (19 двароў, 48 жыхароў) і ўрочышча Заброддзе (7 двароў, 49 жыхароў), якія пазней аб'ядналіся ў адзін населены пункт. З 17.7.1924 г. ў Верхменскім с/с (28 гаспадарак, 121 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 26 двароў, 119 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь», які аб'ядноўваў 22 двары, меў 150 га зямлі і кузню. У 1939 г. вёска пашырыла свае межы. Сюды былі сселены навакольныя хутары: Абрамоўшчына, Бакуноўшчына, Гурноўшчына, Дулебшчына (часткова), Лапцёншчына, Мінічаўшчына, Няборшчына, Ракаўшчына, Ярашэўшчына. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — ад фаш. тэрору. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 187 двароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 40 гаспадарак, 70 жыхароў, у саўгасе «Курганы». У 1996 г. 26 гаспадарак, 36 жыхароў, магазін.

Рака Уша падзяляе вёску на 2 часткі: большая, паўн.-усх., складаецца з 2 кароткіх, крывалінейных вуліц, меншая, паўд.-зах., з кароткай вуліцы. Жылая забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 33 км на ПдЗ ад горада і 27 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 37 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

Вядома з канца 19 ст. У пач. 20 ст. ўрочышча ў Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета, 1 двор, 10 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 2 двары, 17 жыхароў. З 1920-х г. у Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. хутар, 3 двары, 14 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 44 жыхары, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 5 гаспадарак, 12 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай аднабакова традыц. аднапавярховымі дамамі.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Забалоцкім с/с за 5 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 32 км ад Мінска. 58 гаспадарак, 155 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Згадваецца пад 1713 г. ў інвентары Смалявіцкага маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 33 жыхары, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Смалявіцкай вол., 22 двары, 174 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 31 двор, 227 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Забалоцкім с/с (44 гаспадаркі, 104 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 161 жыхар. У 1930-х г. дзейнічаў калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 26 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 73 гаспадаркі, 220 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях». У 1996 г. 74 гаспадаркі, 213 жыхароў, магазін.

**ЗАДВОР'Е**, Ясенне — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 29 км на ПдЗ ад горада і 35 км ад чыг



ст. Смалявічы па лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска, каля Пятровіцкага вадасховішча (на р. Волма). 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. засценак Задвор'е (ён жа Ясеннікі), 12 двароў, 61 жыхар, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1917 г. 13 двароў, 75 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 17 двароў, 85 жыхароў, у пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 51 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 10 гаспадарак, 22 жыхары, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 8 гаспадарак, 20 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**ЗАДОМЛЯ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 25 км ад Мінска, каля р. Домелька (прыток р. Усяжа). 81 гаспадарка, 221 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. У 1745 г. ў складзе маёнтка Астрашыцкі Гарадок у маёмасці скарбніка Мінскага ваяв. ВКЛ А.Мінкоўскага-Багушэвіча, 17 сял. двароў, у выкарыстанні якіх знаходзілася 30 коней, 36 валоў і 11,5 аселых і 12 пустых валок зямлі. У 1782 г. вёска, 16 сядзіб, у складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 17 двароў, 109 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 36 двароў, 232 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква. У пач. 20 ст. 10 двароў, 229 жыхароў. У 1917 г. 41 двор, 247 жыхароў, земскае нар. вучылішча (адкрыта ў 1912 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у вёсцы дзейнічала падп. група пад кіраўніцтвам П.Ф.Санковіча. На магіле закатаваных падпольшчыкаў А.І.Мрочака і С.А.Вашкевіч у 1967 г. пастаўлены абеліск. У партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы, на франтах — 22 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах У 1977 г. з Задомлей аб'ядналася в. Пастухі, якая была вядома з 19 ст. як урочышча (у 1897 г. ў ім 6 двароў, 44 жыхары; у 1917 г. вёска, 6 двароў, 46 жыхароў; у 1959 г. 61 жыхар). З 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 98 гаспадарак, 273 жыхары, у калгасе імя Г.К.Арджанікідзэ. У 1996 г. 94 гаспадаркі, 282 жыхары, базавая школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, ашчадная каса, магазін. У 2013 г. — магазін.

**ЗАКАЗІНЕЦ**, П е р ш ы   М а й, П е р в ы   М а й — вёска ў Пекалінскім с/с, за 10 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 48 км ад Мінска, на аўтадарозе Смалявічы—Чэрвень. 42 гаспадаркі, 84 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. слабада Заказінец, 3 двары, 20 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г.

вёска ў Верхменскай вол., 18 двароў, 150 жыхароў. У пач. 20 ст. 20 двароў, 204 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 19 двароў, 165 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.7.1924 г. ў Ворацкім с/с (200 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. вучылася 50 дзяцей, з іх 14 дзяўчынак. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 31 двор, 190 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 сял. гаспадаркі, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 13 — на фронце. З 12.11.1957 г. ў Верхменскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 347 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с. У 1988 г. 82 гаспадаркі, 167 жыхароў, у калгасе «1 Мая». У 1996 г. 84 гаспадаркі, 170 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 2013 г. — магазін.

Шаша падзяляе вёску на 2 часткі: большую — паўд., і меншую, паўн. Паўд. частка складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, да якой з Пд перпендыкулярна падыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Паўн. частка з кароткай прамалінейнай вуліцай, якая перпендыкулярна перасякае шашу і злучае 2 часткі вёскі. Жылая забудова аднапавярховая, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛАТАЯ ГОРКА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Смалявіч і 8 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 55 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2013).

Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Жодзінскім с/с, 22 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах Мінскай вобл. У 1988 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе эксперыментальнай базы «Жодзіна» Бел. н.-д. ін-та земляробства. У 1996 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ЗАМЛЫННЕ** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Смалявіч, 10 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 43 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 89 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 3 двары, 26 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 6 гаспадарак, 26 жыхароў. З 20.8.1924 г. хутар у Смалявіцкім с/с (11 гаспадарак, 58 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1925 г. пасёлак у Жодзінскім с/с, 11 двароў, 59 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 61 жыхар. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У 1940 г. вёска, 22 двары, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі яе і загубілі 18 жыхароў, 1 жыхар загінуў у партыз. барацьбе, 3 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў, у Жодзінскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 39 гаспадарак, 100 жыхароў, у складзе эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова». У 1996 г. 54 гаспадаркі, 130 жыхароў, магазін. У 2013 г. — магазін.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Курганскім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 70 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

У 1885 г. вёска ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. 15 гаспадарак, 103 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 55 двароў, 111 жыхароў. З лютага да



снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. ў Кляніцкім с/с (23 гаспадаркі, 146 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 100 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Новы свет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 сял. гаспадарак, працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У 1941 г. 22 двары, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 33 жыхары. У наваколлі дзейнічала партыз. брыгада «Разгром». На фронце загінулі 9 жыхароў, 3 — у партыз. барацьбе. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 12 гаспадарак, 32 жыхары, у саўгасе імя П.І.Купрыянава. У 1996 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Драчкава—Абчак, 31 км ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 336 гаспадарак, 842 жыхары (2013).

Вядома з 1920-х г. у Пятровіцкім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 124 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 150 гаспадарак, 490 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». У 1996 г. 217 гаспадарак, 736 жыхароў. У 2013 г. ў вёсцы дзейнічаюць РУП «Пятровічы», участак жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аварыйна-пажарны пост, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, амбулаторыя, 3 магазіны.

**ЗАРЭЧЧА** (да 1981 г. — Малая Пліса) — вёска ў Плiскім с/с, за 10 км на У ад Смалявіч, 1,5 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг, на аўтадарозе Смалявічы—Жодзіна, 48 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 483 гаспадаркі, 1338 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска Пліса-Малая ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета, 26 двароў, 191 жыхар. Паводле перапісу 1917 г. 24 двары, 174 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1926 г. 41 двор, 222 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Зарэчча», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1977 г. да вёскі далучаны пас. Зарэчча і в. Жураўшчына. У 1996 г. 407 гаспадарак, 1200 жыхароў, гандл. цэнтр, дзіцячыя яслі-сад.

**ЗАЯМНАЕ,** Першы Май — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 30 км на ПдЗ ад Смалявіч, 17 км ад чыг. ст. Калодзішчы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Брэст—мяжа Расіі, 28 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 63 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Заям'е, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. У 1858 г. маёнтак належаў суддзі Я.Кудмановічу. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак у Смілавіцкай вол., 1 двор, 79 жыхароў. У пач. 20 ст. маёнтак, 1 двор, 93 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. маёнтак, 1 двор, 79 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе памешчыцкага маёнтка створаны пас. Заямнае. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-нах Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле

перапісу 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 65 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 двароў, меў 200 га зямлі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 9 вяскоўцаў, 2 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны ўзніклі 2 вёскі — Заямнае 2 і Заямнае 3, якія ў 1973 г. аб'ядналіся ў адну. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсках Заямнае 1 — 66 жыхароў, Заямнае 2 — 36 жыхароў, Заямнае 3 — 108 жыхароў, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 40 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». У 1996 г. 33 гаспадаркі, 84 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін.

Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**ЗЯЛЁНЫ БОР** — рабочы пасёлак, цэнтр Зеленаборскага с/с (да 30.10. 2009 г. — пасялковага Савета), за 37 км на У ад Смалявіч, 18 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 75 км ад Мінска. 296 гаспадарак, 1237 жыхароў (2013).

Вядомы з пач. 1920-х г. як хутар Хвоя Зялёная. У 1934 г. 6 двароў, 42 жыхары, у Жодзінскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 2 жыхары. Абеліскі на брацкай магіле (устаноўлены ў 1959 г.) 2 сав. лётчыкам, якія загінулі ў паветраным баі 1941 г. і тут пахаваны, на магіле сям'і партызана Б.К.Кавецкага (9 чал.), якую расстралялі 8.11.1942 г. ням.-фаш. акупанты. У сувязі з будаўніцтвам торфапрадпрыемства «Смалявіцкае» тут узнік пасёлак, за якім 28.12.1954 г. зацверджаны статус пасёлка торфапрадпрыемства «Смалявіцкае». 21.1.1958 г. шляхам яднання пасёлкаў торфапрадпрыемства і Тарасік створаны рабочы пасёлак, цэнтр пасялковага Савета Зялёны Бор у Смалявіцкім р-не. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1965 г. далучаны пасёлак леспрамгаса. У 1988 г. 588 гаспадарак, 1800 жыхароў, у 1996 г. 1600 жыхароў, торфапрадпрыемства «Смалявіцкае», камбінат быт. абслугоўвання, бальніца, сярэдняя і муз. школы, піларама, ашчадная каса, клуб, 3 яслі-сада, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, аптэка, амбулаторыя, 2 магазіны, лясніцтва. У 2013 г. дзейнічалі ААТ «Зеленаборскае», сярэдняя школа—сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», амбулаторыя, аптэка, магазіны.

**ЗЯЛЁНЫ ЛУЖОК** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 23 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 34 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2013).

Вядома з 1920-х г. у Пятровіцкім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 121 жыхар, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. вёска, 20 гаспадарак, 50 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай аднабакова традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**ІЗБІЦКАЕ** — вёска ва Усяжскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—



Орша, 40 км ад Мінска. 43 гаспадаркі, 94 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. засценак, 6 сядзіб, у складзе маёнтка Гарадок. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 51 жыхар, уладанне графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. адна частка вёскі належала графу М.Тышкевічу, другая — памешчыку Р.Радкевічу. У 1886 г. сяло ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета, 14 двароў, 142 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 49 двароў, 334 жыхары, праваслаўная капліца. У 1910 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой вучылася 50 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. хутар Ізбіцкае (16 гаспадарак, 124 жыхары) у Емяльянаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 35 вучняў, пры школе мелася невял. б-ка. У 1925 г. адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Герой Працы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 21 вясковец загінуў на фронце, 4 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар, у Емяльянаўскім, з 15.8.1987 г. ў Прылепскім сельсаветах. У 1988 г. 70 гаспадарак, 160 жыхароў, клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма; у саўгасе імя Ю.А.Гагарына. У 1996 г. 60 гаспадарак, 146 жыхароў.

**КАВАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ва Усяжскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 17 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 37 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 46 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 64 жыхары, уласнасць падпалкоўніка Ф.І.Гарадзенскага, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. в. Кавалеўшчызна ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. У 1870 г. 25 двароў. У 1886 г. засценак, 10 двароў, 96 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. існавалі 2 вёскі: Кавалеўшчына 1 (7 двароў, 59 жыхароў), Кавалеўшчына 2 (17 двароў, 135 жыхароў). У пач. 20 ст. ў вёсках Кавалеўшчына 1 — 4 двары, 4 жыхары; Кавалеўшчына 2 — 15 двароў, 127 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 22 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 40 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе калга-

*Вуліца Цэнтральная ў р.п. Зялёны Бор.*







са «Звязда». У 1996 г. 30 гаспадарак, 89 жыхароў, магазін.

**КАЛІТА** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 27 км на ПдЗ ад Смалявіч, 17 км ад чыг. ст. Калодзішчы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Драчкава—Абчак, 23 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 88 жыхароў (2013).

У 1858 г. вёска, 85 жыхароў, у складзе маёнтка Заямнае, уладанне памешчыка Я.Кудмаповіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 10 жыхароў мужчынскага полу, у Смілавіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 191 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. сяляне выступілі супраць памешчыцы Калодкінай, 10 зачыншчыкаў выступлення былі арыштаваны. У 1909 г. 27 двароў, 160 жыхароў. У ліп. і жн. 1911 г. адбыліся сял. хваляванні, сутычкі з паліцыяй. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 37 двароў, 240 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 49 вучняў, сярод іх 15 дзяўчынак. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 43 двары, 195 жыхароў. У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас імя С.М.Будзённага (у 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях з гітлераўцамі загінулі 20 сав. воінаў, пахаваны ў брацкай магіле, на якой у 1951 г. ўстаноўлены помнік. Сярод пахаваных — Героі Сав. Саюза Г.Акпераў і Т.М.Барамзіна. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 35 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». У 1996 г. 44 гаспадаркі 111 жыхароў, магазін.

Планіровачна складаецца з карот кай прамалінейнай вуліцы з завулкамі арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудава най драўлянымі аднапавярховымі да мамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЬНІКІ** — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на ліні Мінск—Орша, 49 км ад Мінска. 21 гас падарка, 34 жыхары (2013).

Вядома з сярэдзіны 19 ст. ў Юр'еў скай вол. Барысаўскага павета Мінскаі губ. У 1858 г. вёска, 39 душ. У пач. 20 ст мела назву Кляннікі. У 1908 г. 22 два ры, 173 жыхары. У 1916 г. тут было ад крыта нар. вучылішча, пасля Кастрыч ніцкай рэвалюцыі на яго базе створан прац. школа 1-й ступені, у якой у 1918 г працаваў настаўнікам будучы прэзідэн Акадэміі навук Беларусі В.Ф.Купрэвіч у школе налічваліся 52 вучні. З люта га да снеж. 1918 г. вёска акупіраван войскамі кайзераўскай Германіі, са жн 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Поль шчы. З 1919 г. ў БССР. У 1924 г. адкры ты пункт па ліквідацыі непісьменнасц сярод дарослых. З 20.8.1924 г. вёска аднайменны засценак (разам 44 гаспа даркі, 236 жыхароў) у Жажэльскім с/ Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскаі вобл. Паводле перапісу 1926 г. в. Клян нікі, 45 двароў, 285 жыхароў. Створан калгас «Семафор», які ў 1932 г. аб'яд ноўваў 14 сял. гаспадарак. У Вял. Айч вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш захопнікамі, загінулі 26 жыхароў, 1 н фронце і 1 у партыз. барацьбе. Паводл перапісу 1959 г. в. Кальнікі, 221 жыхар у Юр'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Ба рысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 15.8.1987 г. ў Жодзінскім с/с У 1988 г. 50 гаспадарак, 120 жыхароў у саўгасе імя М.С.Урыцкага (цэнтр -



в. Жажэлка). У 1996 г. 39 гаспадарак, 65 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма. Радзіма бел. батаніка, акадэміка НАН Беларусі, чл.-кар. АН СССР, Героя Сац. Працы, засл. дзеяча навукі Беларусі В.Ф.Купрэвіча (24.1.1897–17.3.1969).

**КАЛЮГА** – вёска ў Драчкаўскім с/с, за 28 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, каля аўтадарогі Драчкава–Абчак, 50 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. хутар пры р. Гаць у Грабёнскай вол. Ігуменскага павета, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. ўрочышча, 2 двары, 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. пасёлак, 16 двароў, 93 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Пяцігодка». З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінуў 1 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 3 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 9 – на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1977 г. ў Драчкаўскім с/с. У 1988 г. 40 гаспадарак, 100 жыхароў, у саўгасе «Загор'е» (цэнтр – в. Драчкава). У 1996 г. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў.

**КАЛЮГА** – вёска ў Жодзінскім с/с (з 18.6.2008 г.), за 5 км на ПнУ ад горада і 7 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, каля аўтадарогі Мінск–Масква, 41 км ад Мінска. 52 гаспадаркі, 108 жыхароў (2013).

У 1908 г. існавалі 2 аднайменныя засценкі ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., разам 29 двароў, 260 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. тры хутары: Калюга-Емяльянава – 9 двароў, 61 жыхар; Калюга – 32 двары, 212 жыхароў; Калюга – 7 двароў, 40 жыхароў. Потым населеныя месцы аб'ядналіся ў адно. У 1920 г. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучылася 35 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. хутар у Жажэльскім с/с (разам з хутарам Навасёлкі 66 гаспадарак, 421 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. хутар Калюга, 48 двароў, 283 жыхары. У пач. 1930-х г. тут праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 26 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 – у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары, у Пліскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 7.3.1968 г. ў падпарадкаванні Смалявіцкага райсавета. У 1988 г. 79 гаспадарак, 180 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр – г. Смалявічы). У 1996 г. 77 гаспадарак, 162 жыхары, дзейнічалі клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма.



*В.Ф.Купрэвіч.*

**КАЛЮЖКІ** – вёска ў Жодзінскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск–Орша, 51 км ад Мінска. 55 гаспадарак, 103 жыхары (2013).

У 1908 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 41 жыхар. У 1916 г. вёска, 14 двароў, 96 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Жодзінскім с/с (14 двароў, 94 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у партыз. барацьбе загінулі 8 жыхароў, 27 – ад фаш. тэрору, 8 – на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах.





У 1988 г. 80 гаспадарак, 250 жыхароў, цэнтр дзярж. прадпрыемства «Жодзінскае», у склад якога ўваходзілі вёскі Градкі, Новыя Градкі і Буда. У 1996 г. 85 гаспадарак, 176 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін.

**КАМЕНКА** – вёска ва Усяжскім с/с, за 5 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 41 км ад Мінска. 46 гаспадарак, 103 жыхары (2013).

Знойдзеныя археолагамі рэшткі паселішча-гарадзішча датуюцца часам ранняга жал. веку і сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле падання, тут асілкі Каменскага замка біліся з асілкамі Юзафоўскага замка. Вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 29 жыхароў, уласнасць І.Тышкевіча, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 15 жыхароў уваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду, ва ўласнасці Вітгенштэйна, 23 селяніны-ўласнікі – у Мглянскую сельскую грамаду. У 1888 г. засн. смалакурна-шкіпінарны з-д (уладанне М.Гольдэйберг). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Смалявіцкай вол., 12 двароў, 88 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. 17 двароў, 138 жыхароў. У жн. 1917 г. ў вёсцы адбылося сял. хваляванне. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 да ліп. 1920 г. – войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. ў Емяльянаўскім с/с (Каменка 1 – 20 двароў, 190 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У в. Каменка 2 – 29 двароў, 164 жыхары. Паводле перапісу 1926 г. на месцы сучаснага пасялення існавалі 3 вёскі: Вялікая Каменка, 24 двары, 258 жыхароў; Малая Каменка, 10 двароў, 56 жыхароў; Другая Каменка, 16 двароў, 88 жыхароў, якія пазней аб'ядналіся ў адну вёску. У пач. 1930-х г. існаваў калгас «Змагар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 сял. гаспадарак, працавала кузня. У 1940 г. вёска, 49 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі яе і загубілі 27 жыхароў; 18 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Каменка 171 жыхар, у в. Малая Каменка 84 жыхары. У 1988 г. 60 гаспадарак, 120 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі» (цэнтр – в. Куркава). У 1996 г. 70 гаспадарак, 152 жыхары, магазін, сталовая, дзіцячыя яслі-сад, жывёлагадоўчая ферма.

**КЛЯННІК**, Цэнтральны Кляннік – вёска ў Курганскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Курганне—Раванічы, 26 км ад Мінска. Каля вёскі пачынаецца р. Маконь (прыток р. Уша). 100 гаспадарак, 251 жыхар (2013).

У 1870 г. былі звесткі аб існаванні каля вёскі курганнага могільніка, што сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін са старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 26 двароў, 203 жыхары, драўляная ўніяцкая Барысаглебская капліца, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 334 жыхары, у складзе маёнтка Поцічава, уласнасць П. і Э. Манюшкаў. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 5 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 82 двары, 427 жыхароў, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзілася ваколіца Кляннік-Ніз, 6 двароў, 67 жыхароў. У пач. 20 ст. 134 двары, 890 жыхароў; ва ўрочышчы 1 двор, 6 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы адкрыта нар. вучылішча, у якім вучыліся 44 хлопчыкі і 14 дзяўчынак. Паводле перапісу 1917 г. ў вёсцы 145 двароў, 960 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі нар. вучылішча пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1926 г. быў 81 вучань, у т.л. 33 дзяўчынкі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана



войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Клянніцкага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), 166 двароў, 969 жыхароў, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Полымя», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 сял. гаспадарак, працавалі сталярная майстэрня і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 4 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Разгром». 64 жыхары загінулі на фронце, 40 — ад фаш. тэрору, 12 — у партыз. барацьбе. 12.11.1957 г. Клянніцкі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў склад Курганскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Кляннік 304 жыхары, у в. Кляннік-Ніз 131 жыхар. У 1972 г. 105 двароў, 311 жыхароў. У 1987 г. да вёскі далучаны хутары Каваленкі і Сідаронкі. У 1988 г. 128 гаспадарак, 280 жыхароў, цэнтр саўгаса імя П.І.Купрыянава. У 1996 г. 129 гаспадарак, 328 жыхароў, лясніцтва, жывёлагадоўчая ферма, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі; сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, б-ка, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, пункт быт. паслуг. У 2013 г. аграгарадок, лясніцтва, сярэдняя школа, магазін, фельч.-акушэрскі, пункт быт. паслуг. Помнік на брацкай магіле сав. воінў і партызан (пастаўлены ў 1959 г.) і абеліск на брацкай магіле партызан, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. акупантамі ў 1941—44 гг. (пастаўлены ў 1945 г.). Магілы камісара партыз. атрадаў «Іскра» і «Радзіма» В.В.Калекі, партызан Д.Я.Касаткіна і Г.Ташніязава брыгады «Разгром», якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў 1944 г. Радзіма бел. вучонага ў галіне фізіялогіі раслін, чл.-кар. НАН Беларусі, доктара біял. навук, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі М.М.Ганчарыка (24.11.1899—11.4.1986) і бел. пісьменніка М.Нікановіча (15.4.1902—кастр. 1942).

Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1976 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, злучаных паміж сабой кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана драўлянымі аднапавярховымі сядзібамі і мураванымі будынкамі на паўн.-зах. і паўд. ускраінах вёскі.

**КЛЯННІК-НІЗ** — вёска ў Курганскім с/с, за 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Курганне—Раванічы, 24 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 33 жыхары (2013).

У 1897 г. ваколіца пры в. Кляннік, 6 двароў, 67 жыхароў, у Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 1924 г. ўрочышча ў Клянніцкім с/с Смалявіцкага р-на, 1 гаспадарка, 9 жыхароў. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар.

**КРУТАЯ ГАРА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Смалявіч, 8 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 46 км ад Мінска, каля р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча Гара-Крутая, 1 двор, 10 жыхароў, у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1909 г. вёска, 16 двароў, 96 жыхароў. У 1916 г. 16 двароў, 104 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. ў Жажэльскім с/с (22 гаспадаркі, 138 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да





пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 17 жыхароў загінулі на фронце, 1 — ад фаш. тэрору, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 20 гаспадарак, 40 жыхароў, у саўгасе імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Жажэлка), у Жодзінскім с/с. У 1996 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў.

**КРЫВАЯ БЯРОЗА** — вёска ва Усяжскім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 40 км ад Мінска. 286 гаспадарак, 807 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. як памешчыцкая сядзіба, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 50 жыхароў. У 1921 г. былы маёнтак, 20 двароў, 53 жыхары, у Юр'еўскай вол. З 20.8.1924 г. ў Смалявіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 пасёлак, 49 гаспадарак, 272 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 вяскоўцы загінулі на фронце, 3 — ад фаш. тэрору, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1988 г. 210 гаспадарак, 580 жыхароў, Смалявіцкае раённае аграпрам. аб'яднанне. У 1996 г. 274 гаспадаркі, 763 жыхары, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, сталовая, магазін, клуб, аддз. сувязі. У 2013 г. ААТ «Смалявіцкі райаграсэрвіс», кафэ, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, магазін.

**КРЫНІЦА** — б. вёска (з 18.6. 2008 г. ў межах г. Смалявічы), за 4 км на Пн ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Мінск—Масква, 31 км ад Мінска.

У 1870 г. вёска, 3 жыхары мужчынскага полу якой уваходзілі ў Высакалядскую сельскую грамаду; у складзе маёнтка Смалявічы, уласнасць кн. П.Вітгенштэйна, у Смалявіцкай вол Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 84 жыхары. У пач. 20 ст. засценак, 5 двароў, 3( жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 12 двароў, 91 жыхар, і аднайменны хутар, у якім у 1921 г. 2 двары, 12 жыхароў. Паводле перапісу 1926 г. засценак 18 двароў, 101 жыхар. З 20.8.1924 г. хутар у Емяльянаўскім с/с (разам з хутарам Блізніца, 102 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.) з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г арганізаваны калгас «Чырвоная Крыніца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 11 жыхароў загінулі на фронце, у баях з акупантамі ў 1944 г. загінулі 46 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле (у 1965 г устаноўлены абеліск). З 25.12.1962 г ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. ў Смалявіцкім райсавеце, 90 гаспадарак, 290 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Смалявічы). У 1996 г. 10 гаспадарак, 198 жыхароў, магазін.

**КУДРЫШЧЫНА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.) за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 32 км ад Мінска, каля Дубраўскага вадасховішча. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 1З двароў, 93 жыхары (па іншых звестках — 12 двароў, 84 жыхары), уладанне графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. в. Кудрышчызна уладанне графа М.Тышкевіча, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 112 жыхароў побач з вёскай аднайменны маёнтак, 4 двары, 21 жыхар; вадзяны млын, піцейны дом. У ліст. 1905 г. вяскоўцы правялі самавольную высечку лесу памешчыка Тышкевіча. У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 75 жыхароў, у маёнтку 24 жыхары У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 121 жыхар



у маёнтку 8 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. створаны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 9 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 31 гаспадарка, 67 жыхароў, у калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Прылепы). У 1996 г. 34 гаспадаркі, 71 жыхар, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі.

**КУЛЯШОЎКА** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 28 км на ПдЗ ад Смалявіч, 18 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, 33 км ад Мінска, каля аўтадарогі Пятровічы—Каліта. 30 гаспадарак, 54 жыхары (2013).

Вядома з 1920-х г. у Пятровіцкім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. хутар, 3 двары, 16 жыхароў. У пач. 1930-х г. пасёлак, створаны калгас «Зара Рэвалюцыі», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 130 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 36 гаспадарак, 80 жыхароў, клуб, б-ка, магазін.

Планіровачна складаецца з 2 перакрыжаваных кароткіх крываліненых вуліц, гал. з якіх — працяг дарогі Пятровічы—Каліта. Жылая забудова драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу, двухбаковая.

**КУРГАННЕ**, Курганы — вёска ў Курганскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 59 км ад Мінска, каля аўтадарогі Смалявічы—Чэрвень. 106 гаспадарак, 285 жыхароў (2013).

Знойдзеныя паблізу вёскі археал. артэфакты датуюцца 2—1-м тыс. да н.э. і сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. У 1885 г. ўрочышча Курганы, у Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ваколіца, 7 двароў, 54 жыхары. У пач. 20 ст. ўрочышча, 7 двароў, 60 жыхароў. З 17.7.1924 г. ўрочышча ў Клянніцкім с/с Смалявіцкага р-на (10 гаспадарак, 76 жыхароў) Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. вёска, 9 двароў, 56 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас «Камсамольская Воля» (цэнтр — в. Пацічова). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 6 вяскоўцаў і 17 жыхароў сельсавета, 1 — у партыз. барацьбе. З 12.11.1957 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў, у сельсавеце аб'яднаны 33 населеныя пункты. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1972 г. 75 гаспадарак, 222 жыхары. У 1977 г. з Кurганнем аб'ядналася сумежная в. Кокці (у 1959 г. вядома як хутар Кокці, 43 жыхары). У 1988 г. 120 гаспадарак, 280 жыхароў, цэнтр саўгаса «Курганы»; у сельсавеце 22 населеныя пункты. У 1996 г. 134 гаспадаркі, 372 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі і ашчаднага банка, сталовая, магазін. У 2008 г. цэнтр Курганскага с/с перанесены ў в. Алесіна. У 2013 г. — магазін.





Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1968 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ; традыц. жылая забудова драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу, трапляюцца мураваныя пабудовы.

**КУРКАВА** — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Усяжскага с/с (з 5.3. 2008 г.), за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 42 км ад Мінска, каля шашы Мінск—Барысаў. 139 гаспадарак, 423 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. Паводле перапісу 1917 г. ўрочышча, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 3 двары, 28 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 6 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 — ад фаш. тэрору, 11 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў, у Емяльянаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1996 г. цэнтр калгаса «Смалявіцкі», 131 гаспадарка, 352 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом быту, аддз. сувязі і ашчаднага банка, сталовая, магазін. У 2013 г. Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва.

**ЛАЗОВЫ КУСТ**, Лазоўка, Вялікая Лазоўка — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 20 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 33 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2013).

Вядома з 1920-х г. у Пятровіцкім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёскі Вялікая Лазоўка (45 жыхароў) і Малая Лазоўка (26 жыхароў). З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. сучасная назва, 13 гаспадарак, 24 жыхары, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна, забудаванай няшчыльна двухбакова аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАЎЛЯ** — вёска ў Пліскім с/с, за 9 км на У ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Барсукі, 47 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2013).

У пач. 1920-х г. вядома як засценак у Пліскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. 16 двароў, 102 жыхары. У 1925 г. вёска, 15 двароў, 98 жыхароў, 2 вяскоўцы былі заняты ў кустарных промыслах, у 1926 г. 17 двароў, 84 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас «Уперад» з цэнтрам у в. Пліса. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 4 вяскоўцы, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. з вёскай злілася в. Астраўкі, вядомая з канца 19 ст. У 1988 г. 68 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе птушкафабрыкі «Смалявіцкая» (цэнтр — пас. Акцябрскі). У 1996 г. 45 гаспадарак, 81 жыхар. У бы-



лой в. Астраўкі нарадзіўся Герой Сав. Саюза В.К.Зыль (20.4.1902—4.12.1973).

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПКІ** — вёска ў Пліскім с/с, за 5 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 41 км ад Мінска, на аўтадарозе Брэст—мяжа Расіі, каля р. Чарніца (прыток р. Пліса), 28 гаспадарак, 61 жыхар (2013).

Паводле перапісу 1897 г. засценак, 5 двароў, 56 жыхароў, смалярна-шкіпінарны з-д, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. 3 двары, 33 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 6 двароў, 40 жыхароў, і аднайменны хутар, 5 двароў, 36 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта пач. школа, у якой у 1926 г. вучылася 56 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. хутар у Смалявіцкім с/с (22 двары, 139 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутары 21 двор, 97 жыхароў. У 1929 г. дзейнічаў калгас «Ленінец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак, працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. У Ліпках знаходзіцца магіла сав. воіна У.Сарокіна, які памёр у ліп. 1944 г. ад ран, атрыманых пры вызваленні вёскі (устаноўлены абеліск). З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 15.8.1987 г. ў Пліскім с/с. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 120 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Смалявічы). У 1996 г. 52 гаспадаркі, 111 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

Плаініровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, забудаваных драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 11 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 25 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 50 жыхароў (2013).

Вядома з 1-й пал. 20 ст. ў Слабодскім с/с Смалявіцкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары, у Слабодскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 46 гаспадарак, 100 жыхароў, у калгасе імя Ю.А.Гагарына (цэнтр — в. Дынараўка). У 1996 г. 27 двароў, 70 жыхароў.



*В.К.Зыль.*

**ЛУЖКІ**, Лужок — вёска ў Азярыцкаслабадскім с/с, за 10 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 23 км ад Мінска. 108 гаспадарак, 342 жыхары (2013).

Вядома з 1920-х г. як хутар у Слабодскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 3 двары, 13 жыхароў. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёска Лужок, 58 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 60 гаспадарак, 200 жыхароў, у калгасе імя Ю.А.Гагарына (цэнтр — в. Дынараўка). У 1996 г. 93 гаспадаркі, 316 жыхароў.

**ЛУКАВА**, Лукова — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 33 км на Пд ад Смалявіч, 23 км ад чыг. ст. Калодзішчы на лініі Мінск—Орша,





32 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 58 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 9 жыхароў, у складзе маёнтка Пятровічы, уласнасць кн. П.Л.Вітгенштэйна. Паводле перапісу 1897 г. ў Смілавіцкай вол., 5 двароў, 43 жыхары. У 1909 г. 7 двароў, 55 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 69 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 88 жыхароў. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 7 гаспадарак, 55 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы», магазін.

Планіровачна складаецца з 2 вуліц, галоўная з якіх арыентавана мерыдыянальна; забудова драўляная, аднапавярховая, традыцыйная.

**ЛЮТКА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 9 км на ПнУ ад горада і 8 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 45 км ад Мінска, каля р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 29 гаспадарак, 64 жыхары (2013).

У 1897 г. вёска ў складзе маёнтка Смалявічы, ва ўладанні П.Л.Вітгенштэйна; 23 жыхары ўваходзілі ў Астроўскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 115 жыхароў, на аднайменным хутары 1 двор, 13 жыхароў. У пач. 20 ст. 16 двароў, 177 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча (адкрыта ў 1907 г.). Паводле перапісу 1917 г. 15 двароў, 111 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе вучылішча створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 32 хлопчыкі і дзяўчынкі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жажэльскім с/с (31 двор, 192 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 32 двары, 184 жыхары. У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас «Сталінскі набор», працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 11 жыхароў загінулі на фронце, 15 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў, у Пліскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 100 гаспадарак, 270 жыхароў, у саўгасе імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Жажэлка), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 40 гаспадарак, 80 жыхароў, магазін.

**ЛЯДЫ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 23 км на ПнЗ ад Смалявіч, 16 км ад чыг. ст. Калодзішчы на лініі Мінск—Орша, 31 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2013).

Упершыню ўпамінаецца ў юрыдычных актах у 1595 г. як сяло ў маёнтку Прылепы Мінскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 111 жыхароў, уласнасць падпалкоўніка Гарадзецкага, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1816 г. ва ўладанні графа Піюса Тышкевіча, у Барысаўскім павеце, 49 душ мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 28 двароў, 170 жыхароў. Апрача сельскай гаспадар-



кі 40 вяскоўцаў займаліся бандарным промыслам, 20 — вырабам рашотаў. У пач. 20 ст. 25 двароў, 173 жыхары. Паводле перапісу 1917 г., 28 двароў, 209 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік» (у 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску, 7 вяскоўцаў загінулі на франтах, 81 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 39 гаспадарак, 78 жыхароў, у калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Прылепы). У 1996 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў.

**ЛЯДЫ** — пасёлак у Драчкаўскім с/с, за 37 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 43 км ад Мінска, каля р. Вожа (канал Ільінка, прыток р. Волма), 18 гаспадарак, 23 жыхары (2013).

Паводле перапісу 1897 г. маёнтак у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 72 жыхары. Працаваў паравы млын. У 1909 г. 1 двор, 89 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на месцы маёнтка ўзнік пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. пасёлак, 31 двор, 142 жыхары. У 1930-я г. жыхары ўвайшлі ў калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 6 гаспадарак. У пач. 1930-х г. дзейнічаў вінакурны з-д. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 157 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 36 гаспадарак, 90 жыхароў, у саўгасе «Загор'е». У 1996 г. 34 гаспадаркі, 69 жыхароў. Радзіма заолага і падарожніка К.М.Ельскага (17.2.1837—26.11.1896).

**ЛЯДЫ** — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 37 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 45 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 68 жыхароў (2013).

Вёска вядома з сярэдзіны 19 ст. У 1858 г. 95 жыхароў мужчынскага і 93 жаночага полу. У 1870 г. валоданне Ельскіх, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 99 душ мужчынскага полу. Уваходзіла ў аднайменны маёнтак. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у 1890/91 навучальным годзе тут навучалася 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 258 жыхароў. У 1909 г. 89 двароў, 418 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 98 двароў, 485 жыхароў. У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас «Новае жыццё», сталярная майстэрня і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 476 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1996 г. 81 гаспадарка, 153 жыхары, жывёлагадоўчая ферма. У 2013 г. дзейнічаў дом сац. паслуг.

**МАГІСТРАЛЬНАЯ** (да 1969 г. — пасёлак №2) — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 20 км на З ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, 19 км ад Мінска, каля аўтадарогі





Мінск—Масква. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2013).

Засн. ў 20 ст. і атрымала назву паводле месцазнаходжання (каля магістралі). Паводле перапісу 1959 г. пасёлак №2, 91 жыхар, у Слабодскім, з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім сельсаветах Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1969 г. вёска з сучаснай назвай. У 1988 г. 34 двары, 57 жыхароў, у калгасе імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада). У 1996 г. 26 гаспадарак, 44 жыхары.

**МАЛОЕ ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска, 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2013).

У 1870 г. вёска, 45 жыхароў якой уваходзілі ў Дамашанскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 124 жыхары. У 1914 г. адкрыта нар. вучылішча. Паводле перапісу 1917 г. 20 двароў, 164 жыхары. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучалася 38 дзяцей. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. ў Емяльянаўскім с/с (33 двары, 218 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Зара Рэвалюцыі», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, мясц. жыхары змагаліся з ворагам у партыз. брыгадзе «Дзядзі Колі», 21 вясковец загінуў на франтах, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 301 жыхар, у Емяльянаўскім с/с, які 10.2.1977 г. перайменаваны ва Усяжскі, з 15.8.1987 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 60 гаспадарак, 130 жыхароў, у саўгасе імя Ю.А.Гагарына, жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1996 г. 48 гаспадарак, 81 жыхар.

**МАЛЫЯ ЛІПКІ** — вёска ў Пліскім с/с, за 5 км на У ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Брэст—мяжа Расіі, 41 км ад Мінска, на р. Чарніца (прыток р. Пліса). 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседняй в. Ліпкі пад гэтай жа назвай. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 5 двароў, 36 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Пліскім с/с Смалявіцкага р-на, разам з хутарам Беразавіца 12 гаспадарак, 79 жыхароў. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 15.1.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. Малыя Ліпкі, 50 жыхароў. З 26.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў, у калгасе «Дружба» (цэнтр — в. Пліса). У 1996 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай аднабакова, пяшчыльна драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ ЛЯДЫ**, Л я д ы — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 30 км на Пд ад Смалявіч, 26 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, 43 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 41 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. як мястэчка ў Мінскім ваяв. ВКЛ, уласнасць Сангушкаў, з 1791 г. Манюшкаў. У 1731 г. праводзіліся 2 кірмашы ў год. У 1736 г. дзейнічалі драўляная ўніяцкая царква Звеставання Найсвяцейшай Панны, пабудаваная Тэрэзай Завішай з Тышке-



вічаў, драўляны базыльянскі (уніяцкі) манастыр, пабудаваны Ігнаціем, графам на Бакштах Завішам, маршалкам ВКЛ. У 1792—94 гг. замест драўлянага храма Звеставання пабудаваны мураваны (захаваўся). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ў агульнай маёмасці суддзі С.Манюшкі і лядскага базыльянскага манастыра, 34 двары, 208 жыхароў. Дзейнічалі манастыр Звеставання, які меў мураваную Звеставання (захавалася) і драўляную Іаана Хрысціцеля царквы; мелася карчма. У 1-й пал. 19 ст. ўзведзены мураваны жылы корпус манастыра, пры якім дзейнічала павятовае 4-класнае вучылішча (1809—24), дзе вучыўся польскі гісторык А.Здановіч. Пасля скасавання царк. уніі (1839) манастыр пераўтвораны ў праваслаўны, а храм Звеставання пераасвячоны ў праваслаўны Дабравешчанскі. Пры ім дзейнічала духоўнае павятовае вучылішча (1834—48). У сярэдзіне 19 ст. штогод праводзіўся Петрапаўлаўскі кірмаш. У 1858 г. 5 сялян адносіліся да дзярж. маёмасці. У сярэдзіне 19 ст. належала Ельскім, у 1866 г. 16 двароў. У 1885 г. 13 двароў, 70 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка ў Смілавіцкай вол., 18 двароў, 79 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква і Дабравешчанскі мужчынскі манастыр, капліца, царк.-прыходская школа, карчма, некалькі дробных крам. Непадалёку ад мястэчка знаходзіліся маёнтак Ляды, 1 двор, 72 жыхары, паравы млын; ферма Ляды, 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. ў мястэчку 10 двароў, 66 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 89 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. мястэчка, 19 двароў, 82 жыхары; маёнтак, 1 двор, 109 жыхароў. У 1918 г. манастыр закрыты. У 1921 г. непадалёку ад мястэчка працаваў вінакурны з-д, 1 двор, 7 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. 2 настаўнікі вучылі каля 100 дзяцей. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. мястэчка, 19 двароў, 80 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Святлана», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 сял. гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 35 на франтах. Паводле перапісу 1959 г. мястэчка, 95 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 98 гаспадарак, у саўгасе «Загор'е» (цэнтр — в. Драчкава), сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 1994 г. аднавіў дзейнасць Дабравешчанскі манастыр. У 1996 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад горада і 9 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, 34 км ад Мінска, каля



*Дабравешчанская царква і манастырскі корпус у в. Малыя Ляды.*




р. Домелька (прыток р. Усяжа). 12 гаспадарак, 22 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, дзярж. маёмасць, 3 двары, 11 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1815 г. ўваходзіла ў маёнтак Прылепы, пажалавана на 12 гадоў, у маёмасці Агінскага. У 1858 г. 20 жыхароў мужчынскага полу. У 1870 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 20 жыхароў уваходзілі ў сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 15 двароў, 105 жыхароў. У пач. 20 ст. 21 двор, 117 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 20 двароў, 115 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя М.І.Калініна (у 1932 г. 50 чал.), працавалі піларама і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 12 вяскоўцаў загінулі на франтах і 1 у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 37 гаспадарак, 83 жыхары, у калгасе імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада), 2 фермы.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска. 48 гаспадарак, 96 жыхароў (2013).

У 1885 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 3 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 2 двары, 17 жыхароў. У 1921 г. ўрочышча, 40 двароў, 309 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучылася каля 20 дзяцей. З 20.8.1924 г. хутар у Смалявіцкім с/с (90 гаспадарак, 539 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 102 двары, 572 жыхары, працавала пач. школа. У пач. 1930-х г. дзейнічаў калгас «Ленінскі шлях» (у 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 27 вяскоўцаў загінула на фронце, 16 ад фаш. тэрору. Пры вызваленні вёска ад акупантаў загінулі 115 сав. воінаў і партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле (у 1951 г. ўстаноўлены помнік). Паводле перапісу 1959 г. 409 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 95 гаспадарак, 238 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Забалоцце). У 1996 г. 81 гаспадарка, 158 жыхароў, жывёлагадоўчая ферма, клуб, магазін, школа. У 2013 г. — магазін.

Планіроўка прамавугольная, квартальная, вёска складаецца з 3 паралельных вуліц, арыентаваных мерыдыянальна і злучаных паміж сабой 2 кароткімі паралельнымі вуліцамі. Забудова вёскі драўляная, традыцыйная.

**МГЛЁ** — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы, на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Жодзіна—Лагойск, 50 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 95 гаспадарак, 224 жыхары (2013).

Лічыцца, што пад назвай Мглінічы вёска згадваецца пад 1525 г. ў Лагожскім княстве ВКЛ. У 1782 г. в. Мгле, 31 асада, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 32 двары, 235 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, уладанне І.Тышкевіча ў Барысаўскім



павеце Мінскай губ. У 1870 г. 92 селяніны-ўласнікі і 14 вольных жыхароў, вяскоўцы ўваходзілі ў Мглянскую сельскую грамаду, якая разам з іншымі вёскамі аб'ядноўвала 178 сялян, у Юр'еўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 335 жыхароў, дзейнічалі царква і крама. У пач. 20 ст. 67 двароў, 406 жыхароў. У 1903 г. адкрыта нар. вучылішча, будынак для якога пабудаваны ў 1904 г., у 1905 г. навучалася 60 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1905 г. сяляне выступілі супраць мясц. памешчыка і разрабавалі яго маёнтак. Удзельнікі паўстання былі адпраўлены ў турму, а кіраўнік Буйвал-Кот сасланы ў Сібір. У 1917 г. 93 двары, 560 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с (96 гаспадарак, 569 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 105 двароў, 530 жыхароў, прац. школа 1-й ступені, у якой 2 настаўнікі вучылі каля 80 дзяцей, у т.л. 25 дзяўчынак. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Праца» (у 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у вёсцы дзейнічала антыфаш. падполле, у наваколлі — партыз. брыгада «Смерць фашызму», загінулі 10 вяскоўцаў, якія змагаліся ў ёй, 32 — ад нацысцкага тэрору, 32 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 418 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 120 гаспадарак, 300 жыхароў, у калгасе «Парыжская Камуна». У 1996 г. 125 гаспадарак, 271 жыхар, жывёлагадоўчая ферма, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, клуб, б-ка, магазін, пач. школа. У 2013 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Радзіма сакратара Смалявіцкага падп. райкама КП(б)Б у Вял. Айч. вайну Р.Д.Даўгалёнка (1904—81).

**МІКАЛАЕВІЧЫ** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і 2 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 31 км ад Мінска, каля вадасховішча Вялікае. 113 гаспадарак, 285 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1781 г. вёска, 10 двароў, 50 жыхароў. У 1800 г. 12 двароў, 70 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Смалявіцкай вол., 72 вяскоўцы ўваходзілі ў Забалоцкую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 258 жыхароў. У пач. 20 ст. 46 двароў, 423 жыхары. У 1917 г. 56 двароў, 321 жыхар. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1922 г. 46 вучняў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Забалоцкім с/с (74 гаспадаркі, 501 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1925 г. 75 двароў, 518 жыхароў, з якіх 9 былі заняты кустарнымі промысламі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, да чэрв. 1942 г. дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя з 14 жыхароў (кіраўнік Я.Я.Васіленка). У гонар баявой дзейнасці падпольшчыкаў у 1976 г. ўстаноўлена стэла. На фронце загінулі 27 вяскоўцаў, 14 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 593 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 140 гаспадарак, 380 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Забалоцце). У 1996 г. 148 гаспадарак, 405 жыхароў, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАДВОР'Е** – вёска ва Усяжскім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 53 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. Паводле перапісу 1917 г. хутар у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 91 жыхар. Паводле перапісу 1926 г. хутар, 19 двароў, 103 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Емяльянаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. на хутарах Навадвор'е, Паходы і Рабінікі, якія потым аб'ядналіся, налічвалася 36 гаспадарак, 218 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Зара», які ў 1932 г. налічваў 36 сял. гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 26 вяскоўцаў загінулі на фронце, 14 — ад фаш. тэрору, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 207 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1988 г. 40 гаспадарак, 90 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі» (цэнтр — в. Куркава), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 43 гаспадаркі, 78 жыхароў.

**НАПАЛКІ** – вёска ў Жодзінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 48 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 25 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 1 двор, 11 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 16 двароў, 303 жыхары. У 1914 г. адкрыта нар. вучылішча. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. было 35 вучняў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жажэльскім с/с (26 двароў, 146 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 29 двароў, 139 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя М.С.Урыцкага (у 1932 г. аб'ядноўваў 21 сял. гаспадарку), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 7 жыхароў загінулі ад фаш. тэрору, 13 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў, у Юр'еўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 15.8.1987 г. перададзена з Жодзінскага ва Усяжскі с/с. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 130 жыхароў, у саўгасе імя М.С.Урыцкага (цэнтр – в. Жажэлка). У 1996 г. 36 гаспадарак, 56 жыхароў, магазін. З 23.9.1998 г. ў Жодзінскім с/с.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** (да 1944 г. — Мельнікаў) — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы, на аўтадарозе Мінск–Масква, 28 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. пад назвай Мельнікаў. У 1917 г. хутар, 3 двары, 11 жыхароў, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1920-х г. у Слабодскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 10 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары, у Слабодскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 23.12.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 29 гаспадарак, 69 жыхароў, у калгасе імя



Ю.А.Гагарына (цэнтр — в. Дынараўка). У 1996 г. 21 гаспадарка, 42 жыхары.

**НОВЫЯ ГРАДКІ** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша. 28 гаспадарак, 60 жыхароў (2013).

У 1996 г. 11 гаспадарак, 42 жыхары.

**ПАБРАЦІМАЎКА** — хутар у Драчкаўскім с/с, за 27 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска. На хутары ніхто не жыве.

Вядомы з 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. засценак, 39 жыхароў, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у складзе маёнтка Пятровічы. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, у 1917 г. 8 двароў, 69 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 16 жыхароў.

**ПАДДУБ'Е** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 53 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 67 гаспадарак, 134 жыхары (2013).

У 1870 г. вёска ў складзе маёнтка Смалявічы, ва ўладанні кн. П.Л.Вітгенштэйна, 37 жыхароў уваходзілі ў Жодзінскую сельскую грамаду, у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1890 г. дзейнічала школа граматы, дзе навучалася 8 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 156 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 28 двароў, 174 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жодзінскім с/с (27 гаспадарак, 139 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 139 жыхароў. У 1929 г. ў калгасе «Чырвоная Зара», які аб'ядноўваў у 1932 г. 64 сял. гаспадаркі. У 1940 г. 34 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 9 вяскоўцаў, 2 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 4 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў, у Жодзінскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 60 гаспадарак, у складзе конезавода «Зарэчча» (цэнтр — г. Жодзіна), клуб, б-ка. У 1996 г. 65 гаспадарак, 112 жыхароў.

Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай адна- і двухбакова аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЛІП'Е**, Падліп'ё — вёска ў Курганскім с/с, за 23 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Чэрвень, 60 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. Слабада, 4 двары, 28 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Шыпяны, уласнасць памешчыка А.Манюшкі. У 1870 г. ў Верхменскай вол., 3 вяскоўцы ўваходзілі ў Даброўскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 111 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, (3 двары, 24 жыхары) і ўрочышча (5 двароў, 37 жыхароў). З 17.7.1924 г. ўрочышча ў Клянніцкім с/с (19 двароў, 88 жыхароў) у Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 14 двароў, 75 жыхароў. У 1930-я г. праведзена калектывізацыя. У 1941 г. 32 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 34





жыхары, 1 вясковец загінуў у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. хутар у Курганскім с/с, 70 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у саўгасе «Курганы» (цэнтр — в. Курганне). У 1996 г. 17 двароў, 27 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЫГРУШША** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 7 км на З ад горада і 4 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска. 34 гаспадаркі, 88 жыхароў (2013).

Вядома ў Мінскім павеце ВКЛ з 18 ст., калі ў 1762 г. тут была пабудавана праваслаўная капліца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 85 жыхароў (па іншых звестках — 80), уласнасць кн. Д.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Смалявіцкай вол., 13 двароў, 94 жыхары. У пач. 20 ст. засценак, 20 двароў, 117 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. вёска, 24 двары, 137 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Забалоцкім с/с (29 гаспадарак, 158 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 178 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чэлюскінец», працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 22 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 58 гаспадарак, 160 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Забалоцце), магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 54 гаспадаркі, 143 жыхары.

Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, галоўная з іх арыентавана мерыдыянальна. Жылая забудова драўляная, шчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯВАЯ** (да 1977 г. — Чорная Сцежка) — вёска ў Пліскім с/с, за 10 км на У ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 46 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 48 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. як засценак Чорная Сцежка. У 1800 г. ва ўладанні кн. Д.Радзівіла, 1 двор, 5 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ва ўладанні кн. П.Л.Вітгенштэйна, у Смалявіцкай вол, 1 вясковец уваходзіў у Высакалядскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. засценак Сцежка-Чорная, 10 двароў, 84 жыхары. У пач. 20 ст. 9 двароў, 86 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Пліскім с/с (хутар, 24 двары, 148 жыхароў) у Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 174 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас імя Ільіча (у 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 262 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 58 гаспадарак, 130 жыхароў, у калгасе «Дружба» (цэнтр — в. Пліса), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 56 гаспадарак, 112 жыхароў, б-ка, клуб, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва.



Планіровачна складаецца з кароткай крываліпейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, да яе з Пд і Пн перпендыкулярна падыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы; забудова драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯНКА** (да 2009 г. — Паддубнае; да 1964 г. — Машэннае) — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 30 км на Пд ад Смалявіч, 26 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, 40 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 70 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. вёска Мошна, 6 двароў, 39 жыхароў, у Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. Машэннае, 7 двароў, 49 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на, да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не. У 1926 г. ўрочышча. У 1930-я г. створаны калгас «Рабочы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 44 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. з вёскай злілася в. Палянка. У 1988 г. 40 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе саўгаса «Загор'е» (цэнтр — в. Драчкава).

**ПАЦІЧОВА** — вёска ў Курганскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Курганне—Равапічы, 66 км ад Мінска. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Маконь (прыток р. Уша). 38 гаспадарак, 92 жыхары (2013).

У 1858 г. маёнтак, уласнасць П. і Э. Манюшак у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Верхменскай вол., 64 жыхары. У пач. 20 ст. 1 двор, 106 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 20 двароў, 107 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. вучылася 45 дзяцей (з іх 17 дзяўчынак). З 17.7.1924 г. ў Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 34 двары, 185 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Камсамольская воля» (у 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі), працавалі кузня і сталярная. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгады «Разгром», 20 жыхароў загінулі на фронце, 13 ад фаш. тэрору, 6 у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 380 жыхароў, у Курганскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.2.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 95 гаспадарак, 200 жыхароў, у саўгасе імя П.І.Купрыянава (цэнтр — в. Кляннік), жывёлагадоўчая ферма, лясніцтва, клуб, магазін, б-ка. У 1996 г. 83 гаспадаркі, 162 жыхары. У 2013 г. — магазін.

Планіровачна складаецца з 2 працяглых вуліц, шчыльна забудаваных драўлянымі аднапавярховымі сядзібамі, ёсць сад.

**ПЕКАЛІН** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 15 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 53 км ад Мінска, на аўтадарозе Смалявічы—Смілавічы, на р. Уша (прыток р. Бярэзіна). 197 гаспадарак, 659 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 1558 г. як сяло Пакалін, частка якога належала Пятру Кадышэвічу і налічвала 5 сял. гаспадарак, 19 чал. мужчынскага полу. Потым стала ўладаннем служылых татар роду Кадышэвічаў. У 1594 г. ў Мінскім ваяв. У 1621 г. 41 двор, 15 валок зямлі. У 1628—29 гг. упамінаецца ў «Рэвізіі маёнткаў на службе вайсковай татарам нададзеных», у маёмасці Цівячэвічаў, Мінбулатовічаў, Абдуліча, Хуромжычаў. У 1643 г. 59 двароў. У 1652 г. сяло

ў складзе маёнтка Волма, ва ўладанні Б.Радзівіла. У 1655—60 гг. разрабавана падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг., у 1665 г. налічвала 10 двароў, 40 двароў пуставала. З 1737 г. ў маёмасці роду Радзівілаў, у сяле і аднайменным фальварку 7 дымоў, апрацоўвалася 15 валок зямлі. У 1758 г. засценак, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. с. Пекаліна, 5 двароў, 41 жыхар, капліца, карчма, драўляны гаспадарскі дом, ва ўладанні кн. Д.Радзівіла, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле гасп. дакументаў 1844 г. вёска ва ўласнасці Станіслава і Тэклі Пакрошынскіх. У 1885 г. побач з вёскай знаходзілася сядзіба, дзе мелася царква. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Верхменскай вол., 7 двароў, 45 жыхароў, капліца, карчма. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Пекалін (11 гаспадарак, 23 жыхары) і ваколіца Пекалін (11 гаспадарак, 78 жыхароў, меліся капліца і вадзяны млын). У пач. 20 ст. вёска, 11 гаспадарак, 76 жыхароў, маёнтак, 12 жыхароў. У 1917 г. вёска, 24 двары, 148 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 50 вучняў), пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых (1924). З 20.8.1924 г. ў складзе Ворацкага с/с (у вёсцы 39 гаспадарак, 290 жыхароў, у паселішчы 11 двароў, 64 жыхары, на хутары 1 двор, 4 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводе перапісу 1926 г. засценак, 14 двароў, 60 жыхароў; пасёлак, 12 двароў, 50 жыхароў; хутар, 5 двароў, 30 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Зорка» (у 1932 г. аб'ядноўваў 41 сял. гаспадарку). У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у баях з ворагам загінула 107 сав. байцоў і партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле. На фронце загінулі 13 вяскоўцаў і 15 жыхароў сельсавета, у партыз. барацьбе 5, ад фаш. тэрору — 25 жыхароў сельсавета. З 1957 г. ў Верхменскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. цэнтр Пекалінскага с/с. У 1988 г. цэнтр калгаса імя К.А.Ціміразева. У 1996 г. 235 гаспадарак, 684 жыхары, 2 фермы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі і ашчаднага банка, магазін. У 2008 г. цэнтр Пекалінскага с/с перанесены ў в. Слабада. У 2013 г. дзейнічалі сумеснае ТАА «БелПалімер-Цяпло», Дом культуры, базавая школа, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны. За 4 км ад вёскі знаходзіцца Нац. аэрапорт Мінск.

Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы і планіровачна складаецца з дзвюх вуліц, якія ўзаемна перасякаюцца з завулкамі. Грамадскі цэнтр размешчаны на скрыжаванні вуліц. Забудова драўляная, аднапавярховая, шчыльная. Мураванае будаўніцтва вядзецца ў цэнтры і на зах. ускраіне вёскі.

**ПЕЛІКА**, Пелека — вёска ў Курганскім с/с, за 18 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 56 км ад Мінска, на р. Мена (прыток р. Чарніца). 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2013).

Вядома ў ВКЛ з 1600 г., калі ўваходзіла ў маёнтак Волма, у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Згодна з інвентаром 1847 г. засценак. У 1858 г. ўрочышча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., 21 жыхар, у складзе маёнтка Шыпяны, уласнасць памешчыка А.Манюшкі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Верхмен-



скай вол., 6 двароў, 54 жыхары. Побач быў хутар, 1 двор, 6 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы 3 двары, 37 жыхароў; на хутары 1 двор, 8 жыхароў. У 1916 г. ў вёсцы 7 двароў, 32 жыхары; на хутары 3 двары, 28 жыхароў. З 17.7.1924 г. ўрочышча Пеліка ў Ворацкім с/с (11 двароў, 58 жыхароў) у Смалявіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 5 двароў, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 6 жыхароў загінулі на фронце, 3 — ад фаш. тэрору. 12.11.1957 г. вёска перададзена з Верхменскага ў Клянніцкі с/с, які быў перайменаваны ў Курганскі. З 1966 г. ў Верхменскім с/с, з 10.2.1977 г. зноў у Курганскім с/с. У 1988 г. 10 гаспадарак, 22 жыхары, у саўгасе «Шыпяны» (цэнтр — в. Алесіна). У 1996 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў. Радзіма Героя Сав. Саюза В.А.Тумара (2.3.1919—30.5.1944).

**ПЕЛІКА**, Пелека, Пялека — пасёлак у Плiскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Смалявіч і 10 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 50 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. аднаселле, 1 двор, 6 жыхароў, у Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. ўрочышча, 10 двароў, 70 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1921 г. 5 двароў, 30 жыхароў. З 20.12.1924 г. ў Верхменскім с/с Смалявіцкага р-на, вёска, 14 гаспадарак, 73 жыхары; да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. в. Пелекі, 382 жыхары, у Плiскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 35 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — пас. Чарніцкі). У 1996 г. 18 гаспадарак, 25 жыхароў, магазін. За 4 км ад вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік.

Планіроўка складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных вуліц, забудаваных традыц. драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРАЕЗНАЯ** (да 1969 г. — пасёлак №1) — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 18 км на З ад Смалявіч, 2 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, 17 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 50 жыхароў (2013).

Засн. ў 20 ст. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары, у Слабодскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 36 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада). У 1996 г. 27 гаспадарак, 61 жыхар.



*В.А.Тумар.*

**ПЕРАМЕЖНАЕ** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Смалявіч, 7 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 50 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2013).

Вядома з канца 19 ст. як засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 10 жыхароў. У пач. 20 ст. 1 двор, 10 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 7 двароў, 54 жыхары. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой вучыліся 43 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. хутар у Плiскім с/с (8 двароў, 61 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоны штандар» (у 1932 г. аб'ядноўваў 85 гаспадарак), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 жыхароў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. З 12.11.1957 г. ў Жодзінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. З





25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 25 гаспадарак, 80 жыхароў, у эксперыментальнай базе «Жодзіна» (цэнтр — в. Барсукі), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 26 гаспадарак, 47 жыхароў, магазін.

**ПЕРШАМАЙСКАЯ** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 30 км на ПдЗ ад Смалявіч, 20 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, 35 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1959 г. вёска Першамайск, 111 жыхароў, у Пятровіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1963 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 22 гаспадаркі, 56 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛІСА** (да 1981 г. — Вялікая Пліса) — вёска, цэнтр Пліскага с/с, за 10 км на У ад Смалявіч, 47 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). У вёсцы размешчана чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша. 140 гаспадарак, 300 жыхароў (2013).

Упершыню згадваецца ў 16 ст. У 1586 г. сяло, 41 двор, 40 валок зямлі, млын, гаспадарскі двор, у складзе маёнтка Смалявічы, уладанне Радзівіла. Па інвентарах 1588 г. 37 двароў, у Смалявіцкай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640 г. ў сяле мелася карчма. У 1621 г. 67 двароў, у 1643 г. 105 двароў. У 1655 г. 40 жылых двароў, 57 двароў пуставала. У 1670 г. працаваў млын. У 1713 г. 13 двароў, у карыстанні сялян знаходзілася 40 валок зямлі, 2 кані, 5 валоў. У 1781 г. 32 двары, каля 200 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 30 двароў, 239 жыхароў, драўляная ўніяцкая капліца (пабудавана ў 1797 г.), млын, жал. з-д, уласнасць кн. Д.Радзівіла. У 1859 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у 1886 г. школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 15 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. Згодна з устаўной граматай 1862 г. ва ўладанні кн. Л.П.Вітгенштэйна, 216 жыхароў, 40 двароў. У 1870 г. в. Пліса (180 сялян), а таксама в. Малая Пліса (37 сялян), жыхары якіх уваходзілі ў Пліскую сельскую грамаду. Разам з сялянамі в. Верх-Возера грамада налічвала 233 душы. У пач. 1870-х г. праз Плісу пракладзена чыгунка Мінск—Барысаў і засн. чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 98 двароў, 744 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква Раства Багародзіцы (захавалася), хлебазапасны магазін, кузня, крама, царк.-прыходская школа. У пач. 20 ст. с. Вялікая Пліса, 76 двароў, 632 жыхары, і в. Малая Пліса, 26 двароў, 191 жыхар. У 1905 г. адбыліся сял. хваляванні, удзельнікі якіх спалілі млын уладальніка фон Гельмерсена. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было каля 150 вучняў (з іх 63 дзяўчынкі), працавалі 2 настаўнікі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Пліскага с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. 90 двароў, 544 жыхары, у Малой Плісе 41 двор, 274 жыхары (разам з в. Жураўшчына). У 1925 г. адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, працавала хата-чытальня. Паводле перапісу 1926 г. с. Вялікая Пліса, 104 двары, 508 жыхароў. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Уперад» (у 1932 г. аб'ядноўваў 32 сял. гаспадаркі), працавалі млын і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 27.6.1941 г. ў гэтых месцах



вялі абарончыя баі з ням.-фаш. захопнікамі байцы зенітнага артыл. дывізіёна на чале з лейтэнантам С.Копцевым. На ўшанаванне подзвігу байцоў у 1975 г. на чыг. ст. Чырвоны Сцяг устаноўлена мемарыяльная дошка. У Вял. Айч. вайну тут дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная арг-цыя (кіраўнік А.С.Савіцкі), частка якой улілася ў партыз. брыгаду «Разгром». У гонар дзейнасці падпольшчыкаў у 1975 г. на будынку выканкама ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У трох брацкіх магілах пахаваны сав. воіны і партызаны, якія загінулі ў баях пры абароне і вызваленні вёскі. На фронце загінулі 52 вяскоўцы, 11 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 664 жыхары, у сельсавеце 5219 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1981 г. вёска называецца Пліса, а сельсавет з Вялікапліскага перайменаваны ў Плiскі. У 1988 г. 180 гаспадарак, 640 жыхароў, цэнтр калгаса «Дружба», ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, пры якой працаваў музей, сталовая, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны пункт быт. абслугоўвання, аптэка, муз. школа, магазін. У 1996 г. 163 гаспадаркі, 349 жыхароў. У 2013 г. — магазін. Радзіма бел. вучонага ў галіне радыёэлектронікі А.Ф.Апаровіча (н. ў 1922 г.), Героя Сац. Працы В.В.Кулінчыка.

**ПЛЮШЧАЙ** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 32 км на ПдЗ ад Смалявіч, 21 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, 36 км ад Мінска, на Пд — р. Самсонаўка (прыток р. Волма). 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома з 1930 г. ў Пятровіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 64 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 15 гаспадарак, 40 жыхароў, у саўгасе «Пятровічы». У 1996 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай аднабакова, шчыльна драўлянымі аднапавярховымі сядзібамі.

**ПРУДЗІШЧА** — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 30 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 47 км ад Мінска, каля р. Усяжа (прыток р. Гайна). 14 гаспадарак, 21 жыхар (2013).

Выяўленыя паблізу вёскі археал. знаходкі датуюцца 2—1-м тыс. да н.э. і сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вядома з 18 ст. У 1782 г. вёска, 13 асад, млын, рудня, карчма, уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. 15 двароў, 94 жыхары, драўляная ўніяцкая Пакроўская царква, вадзяны млын, уладанне І.Тышкевіча, 63 вяскоўцы ўваходзілі ў Хаценавіцкую сельскую грамаду. У 1880-х г. працавала школа граматы, якая была закрыта ў 1890 г. з-за недахопу сродкаў на яе ўтрыманне. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Юр'еўскай вол., 41 двор, 262 жыхары, царква, вадзяны млын. У пач. 20 ст. 46 двароў, 300 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Юр'еўскім с/с (55 гаспадарак, 320 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 59 двароў, 338 жыхароў. У пач. 1930-х г. быў арганізаваны калгас «Сталінец» (у 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак), працавалі млын і кузня. У 1940 г. 57 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Прудзішча акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 49 яе жыхароў. У лесе вяскоўцы абсталявалі свой лагер, дзе хаваліся ад карнікаў.

На франтах загінулі 11 жыхароў, 96 — ад фаш. тэрору, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 176 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 34 гаспадаркі, 60 жыхароў, у калгасе «Парыжская Камуна». У 1996 г. 28 гаспадарак, 41 жыхар. Радзіма бел. крытыка і драматурга Алеся Кучара (1910—96) і бел. скульптара А.І.Мятліцкага (1953—2003).

**ПРЫБОР'Е** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 52 км ад Мінска, каля р. Пліса (прыток р. Бярэзіна), 50 гаспадарак, 121 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 7 жыхароў, уладанне кн. Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Смалявіцкай вол., 15 двароў, 124 жыхары. У пач. 20 ст. 33 двары, 251 жыхар. У 1917 г. 4 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жодзінскім с/с (18 гаспадарак, 84 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 98 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоная Зара», працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 58 гаспадарак, 170 жыхароў, у складзе конезавода «Зарэчча» (цэнтр — г. Жодзіна), фельч.-акушэрскі пункт, магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 69 гаспадарак, 138 жыхароў.

*Помнік партызанам і падпольшчыкам у в. Прудзішча.*



**ПРЫЛЕПСКАЯ УСЯЖКА** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12. 2009 г.), за 14 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 36 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 17 гаспадарак, 40 жыхароў (2013).

Вядома з 19 ст. пад назвай Усяжа ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1870 г. вёска, 35 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска Усяжа-Прылепская, 18 двароў, 112 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 21 двор, 126 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска Усяжа-Прылепская, 23 двары, 167 жыхароў. З 20.7.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дабрабыт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пазначана як Прылепская Усяжка, 109 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. да вёскі далучаны сумежныя вёскі Усяжа і Пагарэльцы. У 1988 г. 42 гаспадаркі, 80 жыхароў, у калгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Прылепы). У 1996 г. 31 гаспадарка, 61 жыхар.



**ПРЫЛЕПЫ** – вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 21 км на ПнЗ ад горада і 15 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 31 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 167 гаспадарак, 476 жыхароў (2013).

Помнік археалогіі – гарадзішча ранняга жал. веку (канец 1-га тыс. да н.э. – 1-е тыс. н.э.) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Упершыню згадваецца ў 15 ст. ў Мінскім княстве (у складзе ВКЛ), калі паловай паселішча валодаў Дорка, потым Ян Завіша. Другая палова ўваходзіла ў склад Лагожскага (Лагойскага) княства і перайшла ў маёмасць жонкі кн. Васіля Шаховіча (Саламярэцкага), з 1512 г. ў маёмасці мітрапаліта Іосіфа, 10 сямей сялян. У 1595 г. цэнтр маёнтка ў Мінскім павеце, у складзе якога таксама знаходзіліся сёлы Аношкавічы, Ляды, Пагарэльцы і Раўбічы. У розныя часы маёнтак належаў князям Чартарыйскім, Яну Яцкевічу, Саламярэцкім, Завішам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. ў сяле знаходзіліся панскі дом, уніяцкая Георгіеўская царква, карчма, уладанне падпалкоўніка Ф.І.Гарадзенскага, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1858 г. сяло ва ўладанні памешчыцы П.Паповай і праваслаўнай царквы. У 1863 г. пабудавана драўляная Георгіеўская царква. У 1886 г. ў сядзібе 1 двор, 10 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 54 жыхары, праваслаўная царква, кузня, піцейная ўстанова, хлебазапасны магазін. Побач з сялом знаходзіўся маёнтак Прылепы пры р. Усяжа, 7 двароў, 39 жыхароў. У пач. 20 ст. сяло, 6 двароў, 44 жыхары, існавала крэдытнае т-ва. У 1902 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой у 1910 г. было 73 вучні. У 1917 г. ў сяле 4 двары, 22 жыхары, у маёнтку 20 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Прылепскага с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас імя І.В.Сталіна (у 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак), працавалі вадзяны млын і кузня, з 1931 г. дзейнічала сямігадовая школа. У 1940 г. 28 двароў, 135 жыхароў. У сав.-фінляндскую вайну 1939–40 гг. загінулі 1 вясковец і 2 жыхары сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 29 жыхароў. У вёсцы дзейнічала камсамольскае падполле (кіраўнік А.Бандарчык). Многія сав. воіны і партызаны загінулі ў баях супраць акупантаў каля вёскі і пахаваны ў брацкай магіле, помнік на якой устаноўлены ў 1967 г. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў, 64 – ад фаш. тэрору, 55 – у партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці 60 землякоў з населеных пунктаў калгаса імя У.І.Леніна ў вёсцы ў 1971 г. пастаўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. 108 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1976 г. цэнтр сельсавета перанесены ў в. Усяжа. У 1977 г. з Прылепамі аб'яднана в. Пагарэльцы. У 1988 г. 88 гаспадарак, 270 жыхароў, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. У 1996 г. 166 гаспадарак, 485 жыхароў, сярэдняя школа (пры ёй музей), Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, амбулаторыя, магазін. У 2013 г. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, аддз. ААТ «ААБ Беларусбанк», амбулаторыя, магазін. У вёсцы захаваліся рэшткі сядзібы 18–19 ст. Помнік археалогіі – гарадзішча і курганны могільнік.

**ПРЫСТРАМЫ** – вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск–Орша, 33 км ад Мінска. 36 гаспадарак, 96 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. ў складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскай





губ., 5 двароў, 40 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1858 г. ўласнасць графа М.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 20 двароў, 158 жыхароў. У пач. 20 ст. 21 двор, 131 жыхар. Паводле перапісу 1917 г. 26 двароў, 198 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). З 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. створаны калгас «Перамога», у якім у 1932 г. налічвалася 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 15 вяскоўцаў, 3 — ад фаш. тэрору, 4 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. З 25.12.1965 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 46 гаспадарак, 127 жыхароў, у калгасе імя У.І.Леніна, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 42 гаспадаркі, 116 жыхароў.

**ПРЫСЫНАК**, Плішчына — вёска ў Плііскім с/с (з 18.6.2008 г.), за 4 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 36 км ад Мінска. 83 гаспадаркі, 268 жыхароў (2013 г.).

Вядома з 16 ст. ў Мінскім павеце ВКЛ. У 1657 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1729 г. вёска Прысынкі і фальварак, вадзяны млын, уладанне Я.Булгарына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. 18 двароў, 131 жыхар, уладанне Р.Пуцяты і К.Завішы. У 1870 г. ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., ва ўласнасці кн. Вітгенштэйна, 22 чал. вольных сялян, жыхары ўваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 137 жыхароў. У пач. 20 ст. 19 двароў, 158 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 22 двары, 148 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. навучаліся 44 хлопчыкі і дзяўчынкі. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смалявіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. 31 двор, 194 жыхары, адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Паводле перапісу 1926 г. 37 двароў, 196 жыхароў, працавала школа (вучылася 78 дзяцей). У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвонаармеец», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У створаную ў сак. 1942 г. падп. камсамольска-маладзёжную арг-цыю (кіраўнік Л.Н.Кірыльчык) уваходзіла 20 патрыётаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула 25 землякоў, на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. пастаўлены абеліск. У вёсцы пахаваны сав. воін П.К.Курунін, які загінуў у баі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі. З 16.7.1954 г. вёска ў Смалявіцкім пасялковым, з 7.3.1968 г. ў райсавеце. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 14 гаспадарак, 390 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Смалявічы), жывёлагадоўчая ферма, пач. школа, сталовая, магазін, клуб, б-ка. У 1996 г. 95 гаспадарак, 277 жыхароў. У 2013 г. — магазін.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 30 км на Пд ад Смалявіч, 16 м ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, 35 км ад Мінска, каля Пятровіцкага вадасховішча (на р. Волма). 58 гаспадарак, 111 жыхароў (2013).

Упершыню згадваецца пад 1588 г. як сяло, якое потым было далучана да Смалявіцкага маёнтка. У 1621 г. 41 двор, 20 валок зямлі, у 1643 г. 80 двароў. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. было разрабавана ў 1655—60 гг. У 1665 г. 41 двор, 48 два-



роў пуставала. З 1737 г. ў маёмасці роду Радзівілаў, 42 дамы, 20 валок зямлі, у 1758 г. 37 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 39 двароў, 271 жыхар, карчма, вадзяны млын, сукнавальня, уладанне кн. Радзівіла. У 1858 г. 279 жыхароў, уладанне кн. П.Вітгенштэйна (з 1854 г.). 28.4.1863 г. ў лесе каля вёскі адбыўся бой атрада паўстанцаў пад кіраўніцтвам А.Д.Трусава (70 чал.) супраць урадавых войск, загінулі 30 паўстанцаў. У маі 1872 г. вяскоўцы адказаліся ўносіць выкупныя плацяжы і аказалі супраціўленне ўладам. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа (з 1907 г. нар. вучылішча), дзе ў 1890 г. навучалася 30 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, у 1910 г. 53 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1886 г. сяло ў Смілавіцкай вол., 35 двароў, 410 жыхароў, праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. сяло пры р. Волма, 117 двароў, 812 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, вадзяны млын, карчма, хлебазапасны магазін, крупадзёрка; у маёнтку 1 двор, 4 жыхары. У пач. 20 ст. 160 двароў, 1028 жыхароў. У рэвалюцыю 1905—07 гг., а таксама ў 1911 і 1913 гг. адбыліся сял. хваляванні. Паводле перапісу 1917 г. ў вёсцы 188 двароў, 1235 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі нар. вучылішча пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, для якой у 1924 г. пабудаваны спец. будынак, адкрыта хата-чытальня, дзе мелася б-ка (каля 1700 кніг на 1926 г.). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. цэнтр Пятровіцкага с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не. Паводле перапісу 1926 г. побач існавалі в. Пятровічы (255 двароў, 1403 жыхары) і аднайменнае паселішча (12 двароў, 54 жыхары), якія потым аб'ядналіся, працавалі 2 пункты па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, дзе вучылася каля 40 чал.; у пач. школе 109 дзяцей. У пач. 1930-х г. быў засн. калгас «Перамога», працавалі кузня, вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у баях з гітлераўцамі ў 1943—44 гг. загінулі 14 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле; помнік-стэла на ўшанаванне іх памяці ўстаноўлены ў 1984 г. Вызвалена вёска ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі. У гады вайны на фронце загінулі 16 вяскоўцаў і 20 жыхароў сельсавета, 7 вяскоўцаў — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 122 гаспадаркі, 297 жыхароў, цэнтр саўгаса «Пятровічы». У 1996 г. 108 гаспадарак, 210 жыхароў, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, дзіцячыя яслі-сад, сталовая, магазін. У 2013 г. дзейнічала школа. Радзіма бел. перакладчыка Я.Семяжона (1914—90) і мовазнаўца, этнографа, фальклрыста і географа, чл.-кар., ганаровага акадэміка АН СССР Э.К.Пякарскага (1858—1934), Героя Сав. Саюза В.В.Холада (н. ў 1936 г.).



*В.В.Холад.*

Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1972 г. і дапрацаваны ў 1979 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Гал. вуліца працяглая, крывалінейная, арыентаваная амаль шыротна. Зах. частка ўключае ў сябе індывідуальную забудову і складаецца з вуліцы, паралельнай галоўнай, якія злучаны кароткай прамалінейнай вуліцай. У зоне шматпавярховай жылой забудовы ёсць 2- і 3-павярховыя будынкі, але большая іх частка аднапавярховыя, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПЯЦІГОДКА** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 20 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 58 км ад Мінска. 44 гаспадаркі, 75 жыхароў (2013).




Вядома з 1930-х г. Назва ўтворана ад наймення саўгаса, які існаваў у пач. 1930-х г., у той час у вёсцы дзейнічалі кузня, стальмашня і рымарская майстэрня. Уваходзіла ў Воратаўскі с/с Смалявіцкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 9 жыхароў загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары, у Драчкаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Верхменскім с/с, які быў перайменаваны ў Пекалінскі. У 1988 г. 69 гаспадарак, 162 жыхары, у калгасе імя К.А.Ціміразева (цэнтр — в. Пекалін), жывёлагадоўчая ферма, магазін. У 1996 г. 72 гаспадаркі, 137 жыхароў.

Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай шыротна і забудаванай няшчыльна, двухбакова драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**РАБЫ СЛУП** — былая вёска (з 18.6.2008 г. ў межах г. Смалявічы) за 2 км на У ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 36 км ад Мінска.

Вядома з 1920-х г. Паводле перапісу 1926 г. хутар, 8 двароў, 29 жыхароў, у Смалявіцкім с/с Смалявіцкага р-на. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. 12 вяскоўцаў загінула ў Вял. Айч. вайну. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. ў Смалявіцкім райсавеце, 73 гаспадаркі, 220 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Смалявічы).

**РАСОШНАЕ**, Р а с о ш н а — вёска ў Жодзінскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Смалявіч, 11 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 47 км ад Мінска, на р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 22 жыхары, у маёмасці кн. Д.Радзівіла. У 1858 г. ў Жодзінскай вол., 10 душ. Паводле ўстаўной граматы 1862 г. засценак Расошна, 10 сялян, 1 двор, у Смалявіцкай вол. У 1870 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Смалявічы, належала кн. П.Л.Вітгенштэйну, 35 вяскоўцаў адносіліся да Астроўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў Смалявіцкай вол., 19 двароў, 141 жыхар. У пач. 20 ст. 26 двароў, 204 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жодзінскім с/с (39 двароў, 191 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 37 двароў, 192 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Прамень Саветаў» (у 1932 г. аб'ядноўваў 42 сял. гаспадаркі), працавалі кузня і піларама. У 1940 г. 43 двары, 191 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 43 жыхары, 12 жыхароў загінулі ў партыз. барацьбе, 9 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе эксперыментальнай вытворчай гаспадаркі «Будагова», жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары.

**РОСІНА ПАЛЯНА** — хутар у Жодзінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Смалявіч, 6 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 49 км ад Мінска, 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Вядома з пач. 20 ст. ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1917 г. пас. Паляна Росіна, 6 двароў, 35 жыхароў. З 1924 г. хутар у Пліскім с/с Смалявіцкага р-на, 5 гаспадарак, 36 жыхароў. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фрон-



це загінуў 1 жыхар. Паводле перапісу 1959 г. в. Росіна-Паляна, 21 жыхар, у Жодзінскім с/с. З 26.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1996 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**РУДАМЭЙКА**, Рудамыйка — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Смалявіч, 6 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 34 км ад Мінска, каля р. Домелька (прыток р. Усяжа). 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 50 жыхароў, уласнасць казны, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 34 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 12 двароў, 158 жыхароў. У пач. 20 ст. 22 двары, 159 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 24 двары, 143 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», у 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 46 гаспадарак, 99 жыхароў, у калгасе імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада). У 1996 г. 33 гаспадаркі, 54 жыхары.

**РУДНЯ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 13 км на ПнЗ ад горада і 14 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 36 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна). 35 гаспадарак, 57 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. ў Мінскім павеце Мінскай губ. У 1915 г. вёска, 67 жыхароў мужчынскага полу, уладанне казны, аддадзена на 12 гадоў Агінскаму. У 1886 г. ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол., 23 двары, 194 жыхары, нар. вучылішча, у якім у 1883 г. вучылася 35 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 52 двары, 352 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква, кузня, хлебазапасны магазін, вадзяны млын (захаваўся), земскае нар. вучылішча. У пач. 20 ст. 57 двароў, 278 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 55 двароў, 377 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.2.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1929 г. створаны калгас імя М.І.Калініна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 50 гаспадарак, працавалі сталярная, млын і кузня, школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінула 11 вяскоўцаў, 17 — ад фаш. тэрору, 2 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 306 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 74 гаспадаркі, 142 жыхары, у калгасе «Звязда» (цэнтр — в. Усяжа). У 1996 г. 68 гаспадарак, 128 жыхароў, сярэдняя школа, магазін, б-ка, аддз. сувязі.

**САКАЎКА** — вёска ў Пліскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 43 км ад Мінска, каля р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). 36 гаспадарак, 74 жыхары (2013).

Паводле перапісу 1897 г. хутар у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 2 двары, 16 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. пасёлак, 4 двары, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Пліскім с/с Смалявіцкага р-на, хутар, 11 двароў, 92 жыхары, да 26.7.1930 г.




ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 108 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Чырвоны Усход», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 сял. гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 13 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 179 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 68 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе птушкафабрыкі «Смалявіцкая» (цэнтр — пас. Акцябрскі), магазін. У 1996 г. 43 гаспадаркі, 92 жыхары.

Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай традыц. аднапавярховымі дамамі.

**САМСОНАЎКА** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 30 км на ПдЗ ад Смалявіч, 22 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, 34 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2013).

Вядома пасля 1960 г. У 1988 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у Пятровіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл., у складзе калгаса «Пятровічы». У 1996 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, якая забудавана аднабакова драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САРНАЦКАЕ** — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 42 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. пад назвай Сарнацк. У 1800 г. засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 15 жыхароў, уласнасць І.Тышкевіча. У 1870 г. 10 сялян-уласнікаў уваходзілі ў Мглянскую сельскую грамаду, у Юр'еўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 9 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. 7 двароў, 80 жыхароў. У 1916 г. 16 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў складзе Юр'еўскай вол. Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. створаны калгас «Ураджай», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. У 1940 г. 20 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1943 г. спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. На франтах загінулі 4 вяскоўцы, 1 — у партыз. барацьбе. У наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Смерць фашызму». Паводле перапісу 1959 г. в. Сарнацкае, 81 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна». У 1996 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў.

**САСНОВАЯ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 19 км на З ад Смалявіч, 5 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, 23 км ад Мінска. 76 гаспадарак, 194 жыхары (2013).

Вёска засн. ў 1969 г. (паводле іншых звестак у 1975 г.) у выніку аб'яднання населеных месцаў, якія раней мелі назву пасёлкі №4, 5, 6, 7. Паводле перапісу 1959 г. ў іх адпаведна налічвалася 119, 62, 77, 57 жыхароў; у Слабодскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 85 гаспадарак, 290 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.К.Арджанікідзэ (цэнтр — в. Слабада), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 77 гаспадарак, 173 жыхары, магазін. У 2013 г. — магазін.

**СІНІЯ ГОРЫ**, Сінягоры — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 45 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2013).

Вёска вядома з 1920-х г. у Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1930-х г. мела назву Сінія Горкі, быў створаны калгас «Пяцігодка», працавалі кузня, шорная і сталярная майстэрні, лесапілка. З 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім



р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 3 жыхары загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. Сінія Горы, 91 жыхар, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1977 г. ў Драчкаўскім с/с. У 1988 г. 20 гаспадарак, 40 жыхароў, у саўгасе «Загор'е» (цэнтр — в. Драчкава), дзейнічаў магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 15 гаспадарак, 38 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова драўлянымі аднапавярховымі дамамі.

**СКУРАТЫ** — вёска ў Азярыцкаслабодскім с/с, за 11 км на З ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 18 км ад Мінска, каля р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 27 гаспадарак, 55 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 38 жыхароў, уласнасць кн. Д.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. ваколіца ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета, 19 двароў, 144 жыхары. У пач. 20 ст. ўрочышча, 6 двароў, 42 жыхары; засценак, 11 двароў, 70 жыхароў. У 1916 г. 11 двароў, 95 жыхароў. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучылася 20 дзяцей. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Слабодскім с/с (17 двароў, 105 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена воінамі 2-га гв. танкавага корпуса. Падчас вайны 2 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 10 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 25.1.1963 г. ў Азярыцкаслабодскім с/с. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 90 жыхароў, у складзе калгаса імя Ю.А.Гагарына (цэнтр — в. Дынараўка), жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 44 гаспадаркі, 82 жыхары.

**СЛАБАДА**, Азярыцкая Слабада — вёска (з 2008 г. аграгарадок), цэнтр Азярыцкаслабодскага с/с, за 12 км на З ад Смалявіч, 3 км ад чыг. ст. Гарадзішча на лініі Мінск—Орша, 21 км ад Мінска, на аўтадарозе Мінск—Масква. 835 гаспадарак, 2452 жыхары (2013).

Вядома з пач. 16 ст. пад назвай Слабада Азярыцкая. У 1507 г. яе ўладальнік кн. К.І.Астрожскі пажалаваў адну валоку зямлі на карысць Смалявіцкай Мікалаеўскай царквы. У 1713 г. ў складзе маёнтка Волма, у маёмасці Ганны Радзівіл, 47 двароў, 40 валок зямлі, у Мінскім павеце. У 1758 г. 41 двор. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1870 г. в. Слабада ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., цэнтр сельскай грамады, у якую ўваходзіў 121 вясковец. Паводле перапісу 1897 г. с. Слабада-Азярыцкая, 92 двары, 598 жыхароў, царк.-прыходская школа, праваслаўная царква



*Аўтадарога Мінск—Нацыянальны аэрапорт Мінск.*

(адкрыта ў 1878 г.), кузня, карчма, крама, заезны дом. У 1898 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1909 г. 109 двароў, 665 жыхароў, адбылося сял. хваляванне. Паводле перапісу 1917 г. 142 двары, 946 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Слабодскага с/с (разам з 2 хутарамі Кардоўскае 165 гаспадарак, 1045 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.). У сельсавеце налічвалася 450 гаспадарак, 2789 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 131 двор, 725 жыхароў, прац. школа 1-й ступені (2 настаўнікі, 117 вучняў), хата-чытальня. У 1931 г. пач. школа пераўтворана ў сямігадовую. У пач. 1930-х г. працавалі калгас «Прабуджэнне» (у 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак), кузня, створаны ганчарна-цагляны з-д. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена войскамі 2-га гв. танкавага корпуса. Сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі, былі пахаваны ў брацкай магіле, на ўшанаванне іх па-


*Каля прыпыначнага пункта Слабада на лініі Мінск—Орша.*


*У цяплічным камбінаце прыватнага сельскагаспадарчага УП «Азярыцкі-Агра».*

мяці ў 1959 г. ўстаноўлены помнік. У вёсцы таксама пахаваны лейтэнан У.М.Байко і невядомы воін, памяц якіх ушанавана помнікамі. Каля вёскі знаходзіцца Курган Славы Сав. Арміі ў гонар подзвігу 1-га, 2-га, 3-га Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага франтоў, што вызвалілі Беларусь ад ням.-фаш. захопнікаў у 1944 г. (адкрыты 5.7.1969 г.). У Вял. Айч. вайну на франтах загінула 75 вяскоўцаў, у партыз. барацьбе — 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г 845 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах 23.12.1963 г. Слабодскі с/с перайменаваны ў Азярыцкаслабодскі. У 1988 г 370 гаспадарак, 1070 жыхароў, цэнтр калгаса імя Г.К.Арджанікідзэ. У 1996 г 490 гаспадарак, больш за 1500 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад урачэбная амбулаторыя, гандл. цэнтр ашчадная каса, стадыён, б-ка, Дом культуры, магазін, ветэрынарны ўчастак аддз. сувязі, кафэ. У 2013 г. сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, урачэбная амбулаторыя, гандл. цэнтр (пры ім кафэ), аддз. сувязі і ААТ «Белаграпрамбанк», стадыён, б-ка, магазін, прыватнае с.-г. УП «Азярыцкі-Агра».

Апрача драўляных пабудоў шмат 2—4-павярховых жылых дамоў, пабудаваных у пасляваенныя гады, жылы масіў з 5-павярховых дамоў (2000-я г.).

**СЛАБАДА**, Колас, Коласаўская Слабада, Слабада-Верхменская — вёска (з 2008 г. агра-



гарадок), цэнтр Пекалінскага с/с (з 5.3.2008 г.), за 6 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 44 км ад Мінска, на аўтадарозе Смалявічы—Смілавічы. 273 гаспадаркі, 891 жыхар (2013).

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1870 г. вёска ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 108 жыхароў (з іх 97 сялян-уласнікаў і 11 дваран). Уваходзіла ў маёнтак Слабада і Радкоўшчына, які належаў Манюшкам. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Слабада (яна ж Лунеўка) 14 двароў, 105 жыхароў, у маёнтку Слабада 1 двор, 22 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 21 двор, 182 жыхары, у маёнтку ў 1916 г. 52 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на месцы былога памешчыцкага маёнтка ўзнік хутар Слабада. У 1921 г. створана прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 64 вучні, у т.л. 19 дзяўчынак). У 1925 г. адкрыты пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Ворацкім с/с (39 гаспадарак, 235 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. на хутары 4 двары, 28 жыхароў. У некаторых дакументах 1920-х г. населены пункт сустракаецца пад назвай Чарніцкая Слабада. У 1929 г. створаны калгас «Колас», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 67 сял. гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1954 г. цэнтр Ворацкага с/с перанесены ў вёску, якая пасля скасавання сельсавета з 12.11.1957 г. ўваходзіла ў Верхменскі с/с. Паводле перапісу 1959 г. 391 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с. У 1988 г. 145 гаспадарак, 370 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая», дзейнічала школа (у 1973 г. — васьмігадовая). У 1996 г. 170 гаспадарак, 662 жыхары, клуб, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, магазін. У 2013 г. б-ка, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, кафэ «Гасцёўня», магазін. Радзіма Героя Сац. Працы Я.К.Скуратовіч.

Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1983 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Планіровачна складаецца з 2 працяглых крываліненйных вуліц, арыентаваных амаль шыротна і злучаных паміж сабой кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Традыц. жылая забудова аднапавярховая, шчыльная, мураванае будаўніцтва вядзецца ў зах. частцы вёскі.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 30 км на Пд ад Смалявіч, 25 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, 40 км ад Мінска. 51 гаспадарка, 133 жыхары (2013).

У 1870 г. вёска ў Смілавіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 56 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 149 жыхароў. У пач. 20 ст. 20 двароў, 124 жыхары. У 1910 г. ў царк.-прыходской школе навучалася 12 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1917 г. 28 двароў, 166 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя, жыхары працавалі ў калгасе «XVII з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі; 12 сав. воінаў загінулі ў баях і пахаваны ў брацкай магіле, помнік на якой устаноўлены ў 1984 г. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах, 3 жыхары — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г.

235 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 80 гаспадарак, 200 жыхароў, у саўгасе «Загор'е», магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 82 гаспадаркі, 182 жыхары. У 2013 г. — магазін.

**СМОЛЬНІЦА**, Смольня — вёска ў Забалоцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і 10 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 30 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 71 жыхар (2013).

Вядома з канца 19 ст. У 1885 г. засценак Смоліца ў Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 4 двары, 41 жыхар. У пач. 20 ст. засценак, 3 двары, 20 жыхароў. Тут быў знойдзены скарб сярэбраных манет. Паводле перапісу 1917 г. хутар, 43 двары, 332 жыхары. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 55 вучняў, у т.л. 16 дзяўчынак) і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар у Смалявіцкім с/с (83 гаспадаркі, 504 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. на хутары 86 двароў, 502 жыхары. Утвораны калгас «Чырвоны Сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 сял. гаспадарак, працавалі с.-г. майстэрня і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінулі ў партыз. барацьбе, 16 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 304 жыхары, у Забалоцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 60 гаспадарак, 120 жыхароў, у складзе саўгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Арэшнікі), магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 51 гаспадарка, 104 жыхары.

Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, якую перпендыкулярна перасякаюць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Жылая забудова двухбаковая, няшчыльная, аднапавярховая, сял. тыпу, трапляюцца мураваныя дамы.

**СТАНОК-ВАДЗІЦА**, Рэмзавод — вёска ў Забалоцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад горада і 3 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 32 км ад Мінска. 132 гаспадаркі, 365 жыхароў (2013).

Вядома з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар Станок у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 3 двары, 31 жыхар, смалакурнашкіпінарны з-д. У 1921 г. ўрочышча, 1 двор, 4 жыхары. З 1924 г. ў Забалоцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 25.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1924 г. існавалі некалькі населеных месцаў, якія пазней былі аб'яднаны ў адно. Ва ўрочышчы Станок 2 гаспадаркі, 16 жыхароў, у вёсцы і хатцы Вадзіца 10 гаспадарак, 55 жыхароў, на хутары Вадзіца (разам з хутарамі Арэшнікі і Высокая Гара) 39 гаспадарак, 247 жыхароў. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. в. Вадзіца, 165 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. в. Станок-Вадзіца, 98 гаспадарак, 330 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Забалоцце), дзейнічалі магазін, клуб, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 142 гаспадаркі, 485 жыхароў, рамонтны з-д, пач. школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, магазін. У 2013 г. размешчаны УП «Мінскі абласны тэхнапарк», 2 магазіны.

**СТАРАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Курганскім с/с, за 19 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Ор-



ша, 56 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

**СТАРЫНА** — вёска ў Драчкаўскім с/с, за 27 км на Пд ад Смалявіч, 28 км ад чыг. ст. Рудзенск на лініі Мінск—Асіповічы, 37 км ад Мінска, на р. Вожа (прыток р. Волма). 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2013).

У 1858 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. 28 жыхароў, у складзе маёнтка Пятровічы, уладанне кн. П.Л.Вітгенштэйна, У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 14 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 62 жыхары, у Смілавіцкай вол. У пач. 20 ст. 16 двароў, 126 жыхароў, у школе навучалася 30 вучняў (1910). Паводле перапісу 1917 г. 19 двароў, 145 жыхароў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1922 г. 45 вучняў). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Драчкаўскім с/с Смілавіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 35 двароў, 170 жыхароў. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя і створаны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 1 жыхар загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. Да вёскі былі далучаны в. Лягушкі (1968) і хутар Падкрыжжа (1977). У 1988 г. 50 гаспадарак, 80 жыхароў, у складзе саўгаса «Загор'е» (цэнтр — в. Драчкава), дзейнічалі магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 35 гаспадарак, 60 жыхароў. У 2013 г. — дом сац. паслуг.

**СТАРЫНА** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 15 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 23 км ад Мінска. 57 гаспадарак, 122 жыхары (2013).

У 1885 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар, 1 двор, 12 жыхароў. У 1917 г. хутар — 18 двароў, 116 жыхароў; вёска — 76 двароў, 375 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 1924 г. хутар Старына (80 двароў, 550 жыхароў) у Смалявіцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 104 двары, 631 жыхар, дзейнічала прац. школа 1-й ступені (80 вучняў, у т.л. 35 дзяўчынак). У пач. 1930-х г. створаны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 жыхары загінулі ў партыз. барацьбе, 22 — ад фаш. тэрору, 12 — на франтах. Паводле перапісу 1959 г. пас. Старыно, 312 жыхароў, у Забалоцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. да вёскі далучана в. Дубовы Лог. У 1988 г. 100 гаспадарак, 296 жыхароў, у складзе саўгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Арэшнікі), дзейнічалі клуб, б-ка, магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 92 гаспадаркі, 216 жыхароў. У 2013 г. — магазін.

**СТАРЫНКА** — вёска ў Курганскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 63 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2013).

Вядома з 1-й пал. 20 ст. З 1924 г. ўрочышча ў Клянніцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), 13 двароў, 86 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў засценку 9 двароў, 59 жыхароў, дзейнічала школа. У 1941 г. 11 двароў, 28 жы-

хароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску. З 12.11.1957 вёска ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 39 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, у саўгасе імя П.І.Купрыянава (цэнтр — в. Кляннік).

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ; забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТРЫЕВА** — вёска ў Курганскім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 71 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2013).

Вядома з канца 19 ст. У 1885 г. урочышча ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 53 жыхары. У пач. 20 ст. вёска, 7 двароў, 52 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 6 двароў, 46 жыхароў. З 1924 г. ў Кляніцкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 41 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўвайшлі ў створаны калгас «Новы Свет» (цэнтр — в. Замосце), які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 двароў, 73 жыхары. У 1941 г. 15 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Разгром». У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 3 жыхары. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў, побач в. Смала-Стрыева, 2 жыхары, у Курганскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса імя П.І.Купрыянава (цэнтр — в. Кляннік). У 1996 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**СТУДЗЁНКА**, Сцюдзёнка — вёска ў Курганскім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Смалявічы—Раванічы, 53 км ад Мінска. 73 гаспадаркі, 129 жыхароў (2013).

Вядома з канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. пад назвай Студзенкі ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., у вёсцы жылі 4 мешчаніны-іўдзеі. Паводле юрыд. актаў 1847 г. ў складзе маёнтка Шыпяны, які з'яўляўся ўласнасцю Манюшкаў, 35 двароў, каля 300 жыхароў. У 1858 г. 160 душ мужчынскага і жаночага полу. У 1870 г. 178 сялян-уласнікаў уваходзілі ў Студзенскую сельскую грамаду, у Верхменскай вол. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 22 хлопчыкі. У 1886 г. 38 двароў, 450 жыхароў, мелася капліца, 1 раз у год 23 жн. праводзіўся кірмаш. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 101 двор, 767 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква, карчма. У пач. 20 ст. 115 двароў, 843 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 116 двароў, 808 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 17.7.1924 г. вёска ў Верхменскім с/с (134 гаспадаркі, 771 жыхар) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 139 двароў, 793 жыхароў, дзейнічала прац. школа 1-й ступені (2 настаўнікі вучылі 90 хлопчыкаў і дзяўчынак). У пач. 1930-х г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 сял. гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена сав. войскамі ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі. У брацкай магіле пахаваны 11 воінаў 873-га знішчальнага процітанкавага артыл. палка 33-й арміі



і 2 партызаны, якія загінулі пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных Героі Сав. Саюза Ф.А.Смірноў і М.Ф.Цяплоў. На брацкай магіле ў 1984 г. устаноўлена стэла. У гады вайны на фронце загінулі 75 вяскоўцаў, 8 — ад фаш. тэрору, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 771 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. 10.2.1977 г. ў Курганскім с/с. У 1988 г. 167 гаспадарак, 330 жыхароў, у саўгасе «Шыпяны» (цэнтр — в. Алесіна), Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 158 гаспадарак, 280 жыхароў. У 2013 г. — магазін.

Планіровачна складаецца з 3 паралельных вуліц, злучаных на У вуліцай, на З — завулкамі. Жылая забудова драўляная, адна- і двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**СУТОКІ**, Сытокі — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 22 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 60 км ад Мінска, каля ўпадзення р. Цна ў р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). 46 гаспадарак, 102 жыхары (2013).

Вядома ў ВКЛ з 1527 г., у складзе б. Лагожскага княства. У актавай кнізе за 1576 г. згадваецца невял. гасп. двор (дварэц), у Мінскім павеце. У 1736 г. вёска, 15 двароў, у складзе фальварка Заазер'е, уладанне Віленскай каталіцкай капітулы. Побач знаходзіўся аднайменны засценак Сутокі, які (разам з засценкамі Вікачы, Вірывы) да 1773 г. належаў Мінскім іезуітам, 7 двароў, 33 жыхары, у карыстанні якіх было 13 валок зямлі, 18 коней. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 21 двор, 187 жыхароў, уладанне В. і С. Тышкевічаў. У 1870 г. в. Сутокі ўваходзіла ў маёнтак Антопаль, валоданне О.Тышкевіча, 71 селянін-уласнік, 13 былых вольных людзей. Двор Сутокі (12 душ) уваходзіў у маёнтак Сутокі, валоданне Н.Кербдзя. У Сутоцкай сельскай грамадзе налічвалася 208 сялян, у Юр'еўскай вол. Школа граматы, якая дзейнічала ў вёсцы, у 1890 г. была закрыта з-за недахопу сродкаў на яе ўтрыманне, але ў 1910-х г. адкрылася нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 38 двароў, 296 жыхароў, кузня, царква на могілках і хутар Сутокі (1 двор, 11 жыхароў). У пач. 20 ст. вёска, 43 двары, 275 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. вёска, 46 двароў, 316 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі нар. вучылішча пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені (у 1922 г. 56 вучняў), у 1924 г. створаны пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с (56 двароў, 376 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 59 двароў, 365 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя МОПР, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У 1940 г. 114 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у навакольных лясах базіравалася партыз. брыгада «Смерць фашызму», Смалявіцкія падп. райкамы КПБ і ЛКСМБ. Помнік у гонар дзейнасці партыз. брыгад і падп. райкамаў камуністычнай партыі і камсамола ўстаноўлены ў 1965 г. У 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. На фронце загінула 18 вяскоўцаў, 8 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 445 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 110 гаспадарак, 205 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна», магазін, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 91 гаспадарка, 173 жыхары. У 2013 г. — магазін.

**СУХІ ВОСТРАЎ**, Сухі Астравок — вёска ў Жодзінскім с/с, за 21 км





на ПнУ ад Смалявіч, 8 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 42 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча Сухі Востраў у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 47 жыхароў. У пач. 20 ст. ўрочышча Востраў-Сухі, 6 двароў, 38 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. засценак, 4 двары, 28 жыхароў. З 1924 г. хутар Астравок-Сухі ў Пліскім с/с (8 двароў, 56 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 5 двароў, 31 жыхар. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 3 жыхары. З 12.11.1957 г. ў Жодзінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 40 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 5 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Жодзіна» (цэнтр — в. Барсукі). У 1996 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў.

**СЦЕПША** — вёска ў Курганскім с/с, за 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 55 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1858 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. 10 жыхароў, у складзе маёнтка Шыпяны, уласнасць памешчыка А.Манюшкі. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча, 2 двары, 14 жыхароў, у Верхменскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 9 двароў, 66 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Верхменскім с/с (14 двароў, 73 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 80 жыхароў. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 27 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Курганы» (цэнтр — в. Курганне). У 1996 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары.

**СЦЯПАНАВА ПАСЕКА** — хутар у Пекалінскім с/с, за 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2013).

Паводле перапісу 1897 г. ваколіца, у Грабёнскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 68 жыхароў. У 1917 г. 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Варацкім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай акругі, з 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 12.11.1957 г. ў Верхменскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 21 жыхар. З 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с.

**ТАДУЛІНА** — вёска ва Усяжскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 16 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Лагойск, 36 км ад Мінска. 41 гаспадарка, 78 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1815 г. вёска, 23 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Ф.Гарадзенскага. У 1870 г. маёнтак памешчыка Гарніловіча, у Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 18 жыхароў, межавала з вёскамі Малыя Калодзезі і Вялікія Калодзезі, якія ў 1977 г. аб'ядналіся з в. Тадуліна. Вялікія Калодзезі вядомы з 1567 г. як шляхецкая ўласнасць («дварэц») і сяло ў Мінскім павеце, у 1800 г. ў вёсцы 20 двароў, 118 жыхароў, ва ўласнасці Ф.Гарадзенскага, у 1858 г. 49 душ мужчынскага полу; у 1870 г. 50 жыхароў. У 1885 г. была адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. было 16 вучняў. У 1897 г. 27 двароў, 171 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Вёска Малыя Калодзезі ў 1800 г. налічвала 6 двароў, 44 жыхары, у 1815 г. 20 душ мужчынскага полу, у 1858 г. 32 вяскоўцы ўваходзілі ў Тадулінскую сельскую грамаду. У 1885 г.



6 двароў, 62 жыхары, паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 83 жыхары. Вёска Тадуліна вядома з пач. 20 ст. Паводле перапісу 1917 г. маёнтак, 1 двор, 32 жыхары, у Малых Калодзезях 11 двароў, 78 жыхароў, у Вялікіх Калодзезях 31 двор 198 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе маёнтка створана с.-г. камуна «Авангард». З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёскі ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 23.3.1943 г. загубілі 53 жыхары, на іх брацкай магіле ў 1967 г. настаўлены абеліск. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў, 82 — ад фаш. тэрору, 11 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Тадуліна 36 жыхароў, у Вялікіх Калодзезях 232 жыхары, у Малых Калодзезях 89 жыхароў, у Прылепскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. вёскі Тадуліна, Вялікія і Малыя Калодзезі аб'яднаны. У 1988 г. 72 гаспадаркі, 190 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Усяжа), дзейнічалі магазін, пач. школа, зернесклад, жывёлагадоўчая ферма. У 1996 г. 60 гаспадарак, 144 жыхары. У 2013 г. — магазін. Каля вёскі размешчаны курганны могільнік — археал. помнік.

**ТАЧЫЛІШЧА** — вёска ў Жодзінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша), 43 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2013).

Вядома з канца 19 ст. У 1885 г. засценак у Юр'еўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча, 2 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 5 двароў, 30 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 5 дварoў, 42 жыхары. З 20.8.1924 г. засценак у Юр'еўскім с/с (5 двароў, 46 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-х г. сяляне былі аб'яднаны ў калгас імя МОПР (цэнтр — в. Бабі Лес). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, вызвалена ў выніку Мінскай наступальнай аперацыі, 3 жыхары загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 77 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1982 г. ў Жодзінскім с/с. У 1988 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў. У складзе эксперыментальнай гаспадаркі «Будагова». У 1996 г. 10 гаспадарак, 19 жыхароў.

**ТРУБІЧЫНА** — вёска ва Усяжскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 40 км ад Мінска, каля р. Усяжа (прыток р. Гайна). 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2013).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. вёска, 10 сядзіб. У складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 71 жыхар, уласнасць графа І.Тышкевіча, у Мінскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. частка вёскі належала графу М.Тышкевічу, а другая частка памешчыку Р.Радкевічу. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 112 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 39 двароў, 201 жыхар. У 1917 г. 18 двароў, 155 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёскі Трубічына 1 і Трубічына 2 у Емяльянаўскім с/с (26 двароў, 164 жыхары) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 126 жыхароў. У пач. 1930-х г. праведзена калектывізацыя, сяляне ўвайшлі ў калгас «Перамога» (цэнтр — в. Емяльянава, у 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак), працавалі кузня і сталярная майстэрня. У Вял. Айч.





вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — ад фаш. тэрору, 7 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.12.1977 ва Усяжскім с/с. У 1988 г. 56 гаспадарак, 100 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі» (цэнтр — в. Куркава). У 1996 г. 47 гаспадарак, 86 жыхароў, дзейнічала вучэбная гападарка СПТВ-204.

**ТРУБЯНОК**, Т р у б ё н а к — вёска ў Жодзінскім с/с, за 15 км на У ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 63 км ад Мінска, на р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). 33 гаспадаркі, 84 жыхары (2013).

У 1885 г. засценак у Смалявіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. ўрочышча ў Верхменскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 17 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. ўрочышча (1 двор, 5 жыхароў) і вёска, 14 двароў, 90 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Жодзінскім с/с (16 двароў, 102 жыхары) і хутар (1 двор, 6 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 22 двары, 124 жыхары. У 1929 г. вяскоўцы ўвайшлі ў калгас «Чырвоная Зара» (цэнтр — в. Паддуб'е). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 10 жыхароў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Барысаўскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 40 гаспадарак, у складзе конезавода «Зарэчча» (цэнтр — г. Жодзіна). У 1996 г. 39 гаспадарак, 69 жыхароў.

**ТУРЫ** — вёска ў Курганскім с/с, за 19 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 57 км ад Мінска, паблізу ад аўтадарогі Смалявічы—Чэрвень. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2013).

Вёска вядома з 1-й пал. 19 ст. У 1847 г. 5 двароў, 57 жыхароў. У 1858 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. 40 жыхароў, у складзе маёнтка Шыпяны, уласнасць памешчыка А.Манюшкі, У 1870 г. 22 вяскоўцы ўваходзілі ў Дуброўскую сельскую грамаду, у Верхменскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 110 жыхароў; у ваколіцы 2 двары, 11 жыхароў. У пач. 20 ст. аб'яднаны ў адзін населены пункт, 21 двор, 164 жыхары. У 1917 г. 21 двор, 172 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Верхменскім с/с (34 двары, 219 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 36 двароў, 219 жыхароў. У пач. 1930-х г. быў створаны калгас «Х з'езд Саветаў» (у 1932 г. аб'ядноўваў 7 сял. гаспадарак), дзейнічала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У 1940 г. 32 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 34 жыхары, у наваколлі вёскі дзейнічала партыз. брыгада «Разгром». На фронце загінулі 11 вяскоўцаў, 25 — ад фаш. тэрору, 9 — у партыз. барацьбе. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 29 гаспадарак, 45 жыхароў, у саўгасе «Курганы» (цэнтр — в. Курганне). У 1996 г. 23 гаспадаркі, 33 жыхары, магазін.

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль шыротна. Забудавана двухбакова аднапавярховымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**УБОРКІ** – былая вёска (з 18.6.2008 г. ў межах г. Смалявічы), за 2 км на ПнЗ ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 35 км ад Мінска.

Вядома з пач. 19 ст. У 1803 г. засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 4 двары, у складзе маёнтка Смалявічы, уласнасць казны. У 1870 г. 18 вольных сялян уваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду, ва ўласнасці П.Вітгенштэйна, у Смалявіцкай вол. У вёсцы дзейнічала школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 13 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 76 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска, 13 двароў, 119 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смалявіцкім с/с (16 двароў, 96 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 20 двароў, 101 жыхар. У пач. 1930-х г. існаваў калгас «Пяцігодка» (у 1932 г. аб'ядноўваў 11 сялян), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партыз. барацьбе. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 30 гаспадарак, 70 жыхароў, у саўгасе імя Леніна (цэнтр — г. Смалявічы). У 1996 г. 32 гаспадаркі, 79 жыхароў.

**УЗБАРОГІ** – вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 34 км на ПдЗ ад Смалявіч, 22 км ад чыг. ст. Калодзішчы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Драчкава—Абчак, 30 км ад Мінска, на р. Волма (прыток р. Свіслач). 17 гаспадарак, 47 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. засценак Узбарогі (Збарогі), 8 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Смалявіцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 356 жыхароў. У 1917 г. 9 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Смілавіцкім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 59 жыхароў. Утвораны калгас «Пралетарская Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 сял. гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 25 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Пятровічы». У 1996 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц. Дзве паралельныя вуліцы злучаны трэцяй перпендыкулярна. Забудова драўляная, шчыльная, адна- і двухбаковая.

**УЗБЯРЭЖЖА** – вёска ва Усяжскім с/с, за 7 км на Пн ад горада і 9 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 35 км ад Мінска. У вёсцы ніхто не жыве.

Вядома з 18 ст. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак, 1 двор, 17 жыхароў, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1870 г. вёска, 12 сялян-уласнікаў уваходзілі ў Мглянскую сельскую грамаду, у Юр'еўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 5 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. вёска, 9 двароў, 48 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. засценак у Емяльянаўскім с/с Смалявіцкага р-на, 10 двароў, 54 жыхары. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1930-я г. створаны калгас. У 1926 г. 10 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопні-

камі. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары, у Емяльянаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі» (цэнтр — в. Куркава).

**УСЯЖ**, Вусяж — пасёлак ва Усяжскім с/с. За 7 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 42 км ад Мінска, каля аўтадарогі Смалявічы—Лагойск. 616 гаспадарак, 1613 жыхароў (2013).

Пасёлак узнік у сувязі з будаўніцтвам торфапрадпрыемства на аднайменным тарфяным масіве ў 1930-я г. З 20.2.1938 г. ў Емяльянаўскім с/с Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. Пасля Вял. Айч. вайны торфазавод «Усяж» адноўлены. Паводле перапісу 1959 г. на торфапрадпрыемстве 1017 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1996 г. 630 гаспадарак, 1615 жыхароў, торфабрыкетны з-д і з-д сілікатных вырабаў, сярэдняя школа, 2 дзіцячыя яслі-сады, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, Дом культуры, урачэбная амбулаторыя, Дом быту, лазня, сталовая, 2 магазіны; парк і стадыён. У 2008 г. цэнтр Усяжскага с/с перанесены з пас. Усяж у в. Куркава. У 2013 г. дзейнічалі ААТ «Торфабрыкетны завод «Усяж», філіял №1 ТАА «Завод цеплаабменнага абсталявання», сярэдняя школа, 2 дзіцячыя яслі-сады, б-ка, аддз. сувязі, філіял ААТ «ААБ Беларусбанк», Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, урачэбная амбулаторыя, лазня, сталовая, магазіны. Помнік на брацкай магіле 29 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, устаноўлены ў 1959 г.

**УСЯЖА** — вёска ва Усяжскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 35 км ад Мінска, на р. Усяжа (прыток р. Гайна), на аўтадарозе Смалявічы—Лагойск. 131 гаспадарка, 378 жыхароў (2013).

У судзебных дакументах 1595 г. ўпамінаецца як сяло ў складзе маёнтка Калодзезі Мінскага павета, належала Івану Быкоўскаму. У 1782 г. ў складзе маёнтка Гарадок. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Мінскім павеце, 5 двароў, 31 жыхар, уласнасць І.Тышкевіча. У 1815 г. ў складзе маёнтка Прылепы. У 1858 г. 28 жыхароў мужчынскага полу, ва ўласнасці М.Тышкевіча. У 1886 г. сяло ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол.,



*Футбольная каманда фізкультурна-аздараўленчага комплексу пас. Усяж.*



*На торфабрыкетным заводзе «Усяж».*



!2 двары, 180 жыхароў, дзейнічала пра-васлаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. в. Казённая Усяжа, 40 дамоў, 295 жыхароў, капліца, дзейнічаў вадзяны млын. У пач. 20 ст. 52 двары, 296 жыхароў. У 1917 г. 52 двары, 295 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Прылепскім с/с Астрашыцка-Гарадоцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 18.1.1931 г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Нова-Усяжскі» (у 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі), працавалі вадзяны млын і кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. часткова спалілі вёску і загубілі 48 жыхароў, 13 жыхароў загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе, 63 — ад фаш. тэрору. Паводле перапісу 1959 г. 302 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. 10.2.1977 г. цэнтр Прылепскага с/с перанесены з в. Аношкі ў в. Усяжа. У 1988 г. 135 гаспадарак, 380 жыхароў, цэнтр калгаса «Звязда». У 1996 г. 158 гаспадарак, 490 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, лазня, магазін. У 2013 г. аграгарадок, дзейнічалі Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, магазін.

**ХАЦЕНАВА** — вёска ва Усяжскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 60 км ад Мінска, каля р. Усяжа (прыток р. Гайна). 33 гаспадаркі, 61 жыхар (2013).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 20 двароў, 154 жыхары, дзейнічаў вадзяны млын, уласнасць графа І.Тышкевіча. У 1870 г. ў Хаценаўскую сельскую грамаду ўваходзілі 64 вяскоўцы, у Юр'еўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 44 двары, 296 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, кузня, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1886 г., у 1890 г. налічвалася 14 вучняў, у 1897 г. — 28 вучняў). У пач. 20 ст. вёска, 54 двары, 313 жыхароў. У 1917 г. 56 двароў, 354 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Юр'еўскім с/с (59 двароў, 360 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1926 г. 59 двароў, 339 жыхароў. У пач. 1930-х г. быў створаны калгас «Парыжская Камуна» (у 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 177 жыхароў, помнік на магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены ў 1968 г.; дзейнічала антыфаш. падполле, у наваколлі вёскі партыз. брыгада «Смерць фашызму». На фронце загінулі 8 вяскоўцаў, 71 — ад фаш. тэрору, 6 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 210 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Лагойскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 56 гаспадарак, 128 жыхароў, цэнтр калгаса «Парыжская Камуна», магазін. У 1996 г. 46 гаспадарак, 106 жыхароў.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ** — пасёлак у Пліскім с/с, за 11 км на У ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 50 км ад Мінска, на р. Чарніца (прыток р. Пліса). 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2013).

Пасёлак засн. ў 1930-я г. ў сувязі з будаўніцтвам торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг», у Пліскім с/с Сма-

лявіцкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 33 жыхары з в. Чырвоны Сцяг. У 1952 г. шляхам аб'яднання населеных пунктаў Чарніцкі, Цэнтральны, Пеліка, торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг» створаны рабочы пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. ў пас. Цэнтральны 182 жыхары, у в. Чырвоны Сцяг 23 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — пас. Чарніцкі). У 1996 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары.

**ЧАРНІЦА** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 6 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 44 км ад Мінска, каля аўтадарогі Смалявічы—Смілавічы. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2013).

Паблізу вёскі сярод балота знаходзіцца гарадзішча, што сведчыць ад засяленні тутэйшых мясцін у старажытнасці. Існуюць звесткі, што на гары ў сярэдневякоўі была пабудавана драўляная царква. Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак у Ігуменскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 31 жыхар. У 1870 г. вёска, 55 сялян-уласнікаў уваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду, побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак ва ўласнасці Ліпніцкага, у Верхменскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 3 двары, 34 жыхары. Ва ўрочышчы пры р. Чарніца 3 двары, 26 жыхары. У 1908 г. вёска (34 двары, 268 жыхароў) і маёнтак (1 двор, 80 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 42 двары, 342 жыхары, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Ворацкім с/с Смалявіцкага р-на, 23 двары, 169 жыхароў. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 32 двары, 209 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Іскра», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 24 вяскоўцы загінулі на фронце, 8 — у партыз. барацьбе. 12.11.1957 г. перададзена ў Верхменскі с/с разам с пасёлкам торфапрадпрыемства «Чарніца». Паводле перапісу 1959 г. на торфапрадпрыемстве «Чарніца» 60 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах, з 10.2.1977 г. ў Пекалінскім с/с. У 1988 г. 37 гаспадарак, 70 жыхароў, у калгасе «1 Мая».

Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ і забудаванай шчыльна і двухбакова драўлянымі сядзібамі.

**ЧАРНІЦА** — хутар у Пекалінскім с/с, за 5 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 40 км ад Мінска, нар. Чарніца (прыток р. Пліса). 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2013).

**ЧАРНІЦКІ** — пасёлак у Плісkім с/с, за 11 км на У ад Смалявіч, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Сцяг на лініі Мінск—Орша, 50 км ад Мінска. 246 гаспадарак, 526 жыхароў (2013).

Засн. ў 1930 г. ў сувязі з будаўніцтвам торфазавода «Чырвоны Сцяг», верагодна, на месцы былога засценка Чарніцкі Востраў. У 1924 г. 6 двароў, 50 жыхароў, у Плісkім с/с Смалявіцкага р-на, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1933 г. на з-дзе працавала 449 чал. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. на торфапрадпрыемстве дзейнічала падп. антыфаш. група (кіраўнік — настаўнік мясц. школы А.П.Курэйка). 8.1.1943 г. гітлераўцы расстралялі частку падпольшчыкаў, якія былі пахаваны ў суседняй вёсцы Пліса ў брацкай магіле на могілках. У памяць аб баявой дзейнасці падпольшчыкаў на будынку Дома культуры ў 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На фронце загінулі 2 вяскоўцы, 8 — у партыз. барацьбе. Званне Героя Сав. Саюза было прысвоена ўраджэн-



цу в. Пеліка В.А.Тумару, які загінуў у 1944 г. і пахаваны ў г. Ясы (Румынія), у гонар героя ў вёсцы ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. ў пасёлку 1125 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 350 гаспадарак, 860 жыхароў, у 1996 г. 305 двароў, 713 жыхароў, торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг», сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, аддз. сувязі і ашчаднага банка, аптэка, лазня, Дом быту, сталовая, 3 магазіны. У 2013 г. — ААТ «Чырвоны Сцяг» (прадпрыемства па выпуску абсталявання для тарфяной прам-сці), клуб, б-ка, бальніца сястрынскага догляду, навуч.-пед. комплекс дзіцячы сад—школа, участак жыллёва-камунальнай гаспадаркі, 2 магазіны.

**ЧОРНЫ ЛЕС** — вёска ў Жодзінскім с/с (з 18.6.2008 г.), за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Мінск—Масква, 43 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 28 жыхароў (2013).

Вядома з пач. 19 ст. У 1803 г. засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 1 двор, 12 жыхароў, у складзе маёнтка Смалявічы, уласнасць казны. У 1870 г. ва ўласнасці Вітгенштэйна, 9 сялян былі прыпісаны да Слабодской сельскай грамады, у Смалявіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. в. Лес-Чорны, 8 двароў, 53 жыхары, дзейнічаў смалярна-шкіпінарны з-д. У пач. 20 ст. 8 двароў, 77 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. в. Лес-Чорны, 8 двароў, 51 жыхар. З 20.8.1924 г. хутар у Слабодскім с/с (3 двары, 19 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. засценак, 14 двароў, 76 жыхароў, створаны цагельны з-д «Чорны Лес». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў, у Плісім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1996 г. перададзена ў Смалявіцкі пас. Савет. У 1988 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у саўгасе імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Смалявічы), у Смалявіцкім райсавеце. У 1996 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў.

**ЧЫРВОНЫ ЛУЖОК** — вёска ў Драчкаўскім с/с (з 16.12.2009 г.), за 31 км на ПдЗ ад Смалявіч, 20 км ад чыг. ст. Міханавічы на лініі Мінск—Асіповічы, 28 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2013).

Назва ўтворана ад найменя сенакоснага ўрочышча, на месцы якога было засн. пасяленне пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1930-я г. ў Смалявіцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары, у Пятровіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1996 г. 14 гаспадарак, 27 жыхароў. Помнік на брацкай магіле 71 сав. воіна, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. акупантамі ў 1944 г., устаноўлены ў 1984 г.

Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай драўлянымі аднапавярховымі дамамі няшчыльна і двухбакова.

**ЧЭРНІКАЎШЧЫНА**, Чарніца — вёска ў Забалоцкім с/с, за 4 км на Пд ад горада і чыг. ст. Смалявічы па лініі Мінск—Орша, каля аўтадарогі Брэст—мяжа Расіі. 71 гаспадарка, 124 жыхары (2013).

Вядома з 19 ст. ў Смілавіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. в. Чарнікаўшчызна, 28 жыхароў якой уваходзілі ў Слабодскую сельскую грамаду. Побач знаходзілася в. Чарніца (16 жыхароў), якая потым аб'ядналася з в. Чарнікаўшызна, была вядома ў 1803 г. як засценак з 1 даваром у дзярж. маёмасці. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 20 двароў, 168 жыхароў, на хутары 4 двары, 45 жыхароў; у в. Чарніца 13 двароў, 131 жыхар. У





1908 г. 24 двары, 223 жыхары, у в. Чарніца 16 двароў 123 жыхары. Паводле перапісу 1917 г. 31 двор, 229 жыхароў, у в. Чарніца 19 двароў, 176 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. навучаліся 52 вучні. З 20.8.1924 г. в. Чэрнікаўшчына ў Забалоцкім с/с (33 двары, 247 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 44 двары, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 5 жыхароў загінулі ў партыз. барацьбе, 25 — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Чэрнікаўшчына 261 жыхар, у в. Чарніца 210 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1977 г. далучана суседняя в. Чарніца. У 1996 г. 94 гаспадаркі, 183 жыхары, магазін, жывёлагадоўчая ферма. Помнік археалогіі — гарадзішча.

Планіровачна складаецца з 3 кароткіх крывалінейных вуліц, размешчаных ступеньчата і злучаных паміж сабой завулкамі. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАБУНІ** — вёска ў Пекалінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 53 км ад Мінска, на р. Уша (прыток р. Бярэзіна). 25 гаспадарак, 45 жыхароў (2013).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 10 двароў, 80 жыхароў, уласнасць П.Ісленева. У 1870 г. 70 сялян-уласнікаў і 3 шляхціцы, у складзе Слабодской сельскай грамады, у Верхменскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 62 жыхары. Побач з вёскай знаходзіліся ваколіца (19 двароў, 147 жыхароў) і фальварак. Пры фальварку дзейнічалі вадзяны млын на р. Уша і ф-ка шавецкіх цвікоў. У 1917 г. ў вёсцы 29 двароў, 191 жыхар, на хутары ў 1921 г. 7 двароў, 35 жыхароў, ва ўрочышчы ў 1916 г. 13 двароў, 73 жыхары. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Ворацкім с/с Смалявіцкага р-на. У вёсцы 45 двароў, 241 жыхар, ва ўрочышчы 1 гаспадарка, 9 жыхароў, на хутары 1 гаспадарка, 8 жыхароў. Да 26.7.1930 г. ў Мінскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У 1925 г. ў вёсцы 45 двароў, 294 жыхары. У 1929 г. ўтвораны калгас «Будзёнавец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 сял. гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, падчас вызвалення ў наваколлі вёскі адбыліся жорсткія баі. На фронце загінулі 9 вяскоўцаў, 2 — у партыз. барацьбе. З 12.12.1957 г. ў Верхменскім с/с, які 10.2.1977 г. перайменаваны ў Пекалінскі. Паводле перапісу 1959 г. 215 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. У 1988 г. 53 гаспадаркі, 120 жыхароў, у калгасе імя К.А.Ціміразева. У 1996 г. 53 гаспадаркі, 92 жыхары, жывёлагадоўчая ферма, магазін.

**ШПАКОЎШЧЫНА** — вёска ва Усяжскім с/с. За 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, 39 км ад Мінска. 64 гаспадаркі, 125 жыхароў (2013).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Астрашыцка-Гарадоцкай вол. Мінскага павета, 5 двароў, 225 жыхароў; побач знаходзіўся аднайменны хутар, 1 двор, 6 жыхароў. У пач. 20 ст. 12 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 152 жыхары, на хутары 3 двары, 25 жыхароў. З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Емяльянаўскім с/с (37



дывароў, 166 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 32 двары, 182 жыхары. У 1926 г. засн. вапнавы з-д, у 1926 г. — майстэрня па вырабе гонту. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзёнага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 сял. гаспадарак, дзейнічала кузня. У 1940 г. 56 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 38 жыхароў. У наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Дзядзі Колі». 19 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — ад фаш. тэрору, 7 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 487 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 10.2.1977 г. ва Усяжскім с/с. У 1988 г. 95 гаспадарак, 200 жыхароў, у саўгасе «Смалявіцкі» (цэнтр — в. Куркава). У 1996 г. 88 гаспадарак, 160 жыхароў, магазін. Радзіма бел. актрысы Т.Р.Мархель (н. ў 1939 г.).

**ШЫПЯНЫ** — вёска ў Курганскім с/с, за 16 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск—Орша, на аўтадарозе Смалявічы—Раванічы, 55 км ад Мінска, на р. Мена (прыток р. Чарніца). 62 гаспадаркі, 170 жыхароў (2013).

Упершыню згадваецца ў 1495 г. як маёнтак, які кн. Аляксандр Казіміравіч падараваў Віленскаму каталіцкаму біскупству (у яго ўладанні знаходзіўся да 18 ст.). У 1582 г. ў Мінскім павеце ВКЛ, належаў віленскаму біскупу Ю.Радзівілу. У 1586 г. сяло. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 30 двароў, 221 жыхар, драўляная ўніяцкая Успенская капліца, драўляны гаспадарскі дом з рэгулярным садам, вінакурня, карчма, вадзяны млын. У 1800-я г. належаў ген.-лейт. П.Ісленеву, у 1858 г. ўласнасць памешчыка А.Манюшкі. У 1847 г. ў маёнтку больш за 800 жыхароў, каля 280 валоў, 180 коней, каля 200 кароў і 500 свіней, 580 авечак, 345 вулляў пчол. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Варанеўшчына, Дабраводка, Студзёнка, Туры, засценкі Дуброва, Заброддзе, Пеліка, Сцепша, фальварак Алесіна, с. Верхмень. У 1863 г. ў маёнтку адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1867 г. вучылася 40 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 1887 г. засн. смалакурны з-д. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак у Верхменскай вол., 101 жыхар, дзейнічалі карчма, нар. вучылішча, капліца. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў былым маёнтку створаны саўгас «Шыпяны», адкрыты клуб, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 45 вучняў, з іх 17 дзяўчынак), б-ка (у 1926 г. 400 кніг). З лютага да снеж. 1918 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1919 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Верхменскім с/с (139 жыхароў) Смалявіцкага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У пач. 1930-х г. працавалі цагельны з-д, кузня, лесапілка, паравы млын, стальмашня, дзіцячы сад-яслі. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 вясковец. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. расстралялі 14 мірных жыхароў (на магіле ўстаноўлены помнік). У баях з акупантамі ў 1942 г. загінулі партызаны, якія пахаваны ў брацкай магіле ў вёсцы. У партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы, 3 — на фронце. З 12.11.1957 г. ў Курганскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 302 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Мінскім, з 6.1.1965 г. ў Смалявіцкім р-нах. З 1966 г. ў Верхменскім, з 10.2.1977 г. ў Курганскім сельсаветах. У 1988 г. 84 гаспадаркі, 187 жыхароў, у складзе саўгаса «Шыпяны». У канцы 20 ст. цэнтр саўгаса перанесены ў суседнюю в. Алесіна, але назва гаспадаркі засталася ранейшая. У 1996 г. 89 гаспадарак, 239 жыхароў, жывёлага-

